АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# ЛЕКСІКАЛОГІЯ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

**Пад рэдакцыяй**
**доктара філалагічных навук**
**А. Я. Баханькова**

**МІНСК**
**«НАВУКА І ТЭХНІКА»**
**1994**

ББК 81.2 Бен-3
Л 43
УДК 808.26-3

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук В. П. Красней,
М. Н. Крыўко

**Лексікалогія** сучаснай беларускай літаратурнай
Л 43 мовы / Пад рэд. А. Я. Баханькова.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.— 463 с.

ISBN 5-343-01219-1.

Даследуюцца асноўныя паняцці лексікалогіі, прасочваюцца шляхі фарміравання слоўнікавага складу беларускай мовы на розных гістарычных этапах. Апісваюцца тэматычныя, лексіка-семантычныя групы слоў і семантычныя палі, лексіка аналізуецца па ступені стылістычнай дыферэнцыяцыі, актыўнасці і пасіўнасці.

Разлічана на філолагаў, пісьменнікаў, журналістаў, настаўнікаў.

**Л $\frac{8080260000-059}{М 316(03)-94}$ 79—93** **ББК 81.2 Бен-3**

ISBN 5-343-01219-1

# ПРАДМОВА

У кнізе зроблена спроба апісаць лексіку беларускай літаратурнай мовы як складаную зменлівую сістэму. Прасочваюцца шляхі развіцця слоўнікавага саставу ў перыяд фарміравання беларускай народнасці, а пазней нацыі, аналізуюцца формы праяўлення сістэмных адносін паміж асобнымі лексічнымі адзінкамі і цэлымі класамі слоў, характарызуецца стратыфікацыя беларускай лексікі, абумоўленая спецыфікай лексічнага значэння слоў і асаблівасцямі выкарыстання іх у мове.

У адпаведнасці з пастаўленымі задачамі манаграфія складаецца з уступу, трох частак і заключэння. Работа выканана групай навуковых супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН РБ. Аўтарамі раздзелаў з'яўляюцца:

А. Я. Баханькоў: Прадмова; Уступ: Раздзел I; Частка 1: Уступныя заўвагі; Раздзелы I—IV; Абагульненні і вывады; Частка 2: Уступныя заўвагі; Раздзелы I—II; Заключэнне;

В. П. Лемцюгова: Уступ: Раздзел II;

Г. Ф. Вештарт: Частка 3: Раздзел I;

Г. М. Прышчэпчык: Частка 3: Раздзел II, § 1—3; Раздзел III;

В. К. Шчэрбін: Частка 2: Раздзел III; Частка 3: Раздзел II, § 4.

Як ва ўсякай калектыўнай працы, асобныя раздзелы манаграфіі часам нясуць на сабе адбітак індывідуальных схільнасцей аўтараў, спецыфікі іх стылю, метадалогіі, густаў. Аднак гэта натуральная неадназначнасць у цэлым не выходзіць за межы агульнай канцэпцыі, якую раздзяляюць усе аўтары.

Матэрыялы і вывады манаграфіі могуць быць выкарыстаны пры параўнальна-тыпалагічным вывучэнні славянскіх моў, у курсах лекцый і спецсемінарах па беларускай мове на філфаках універсітэтаў і педінстытутаў, у практыцы складання вучэбных дапаможнікаў і інш.

Разлічана на філолагаў шырокага профілю, выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў, студэнтаў, журналістаў, пісьменнікаў.

Аўтары выказваюць шчырую падзяку рэцэнзентам манаграфіі: дацэнту БДУ канд. філал. навук В. П. Краснею і старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН РБ канд. філал. навук М. Н. Крыўко, якія ўважліва прачыталі рукапіс і ўнеслі многа паправак, удакладненняў і прапаноў.

# УСТУП

## Раздзел I

## ПРАДМЕТ І ЗАДАЧЫ ЛЕКСІКАЛОГІІ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

### § 1. ЛЕКСІКАЛОГІЯ ЯК РАЗДЗЕЛ МОВАЗНАЎСТВА

На сучасным этапе лінгвістычнай навукі мова разглядаецца як складанадынамічная сістэма, элементы якой заканамерна звязаны паміж сабой і знаходзяцца ў пэўных адносінах. У гэтай складанай і зменлівай сістэме вылучаюцца ў сваю чаргу адпаведна розным узроўням мовы фанетычная, марфалагічная, лексічная і сінтаксічная сістэмы (падсістэмы), якія ў сукупнасці ўтвараюць складаную структуру мовы.

Прадметам лексікалогіі з'яўляюцца лексічная сістэма, слоўнікавы састаў мовы і асобнае слова як важнейшая адзінка гэтага саставу. Тэрмін «лексікалогія» ўтворан з двух грэчаскіх слоў: lexis — слова (lexicos — слоўны) і logos — слова, вучэнне; такім чынам, лексікалогія — гэта літаральна «слова аб слове» або вучэнне аб слоўнікавым саставе мовы.

Лексікалогія адносна малады, але найбольш разгалінаваны раздзел мовазнаўства. Вылучаюць, па-першае, агульную лексікалогію, што вывучае універсальныя асаблівасці як асобных лексічных адзінак, так і слоўнікавага саставу чалавечай мовы ў цэлым, і прыватную лексікалогію, якая даследуе асаблівасці лексікі якой-небудзь канкрэтнай мовы. У лексікалогіі асобнай мовы вылучаецца таксама дзве разнавіднасці: гістарычная (або дыяхранічная) і апісальная (або сінхранічная) лексікалогія. Кожная з гэтых разнавіднасцей мае свой прадмет і свае задачы даследавання.

Гістарычная лексікалогія вывучае працэсы фарміравання, развіцця і змянення слоўнікавага саставу на працягу пэўнага гістарычнага перыяду, г. зн. у дыяхраніч-

ным плане. Асобнай галіной гістарычнай лексікалогіі з'яўляецца э т ы м а л о г і я (ад грэч. étymon — ісціна і logos — вучэнне) — лінгвістычная дысцыпліна, якая вывучае паходжанне і пачатковае значэнне слоў. Апісальная ж лексікалогія вывучае лексіку той ці іншай мовы на адным этапе яе гістарычнага развіцця, ці, як кажуць, у сінхранічным плане. Аднак апісальная лексікалогія не можа існаваць ізалявана ад лексікалогіі гістарычнай, бо мова пэўнай эпохі — гэта мова, якая жыве і развіваецца ў часе, г. зн. заключае ў сабе момант дыяхраніі. «Таму,— гаворыць А. І. Смірніцкі,— таксама і сінхранічнае вывучэнне адзінак мовы (у прыватнасці, лексічных адзінак) павінна непазбежна праводзіцца ў часе. Пры гэтым адны з'явы павінны выдзяляцца як прагрэсіруючыя, прадуктыўныя, другія — як адміраючыя, знікаючыя, трэція — як адносна стабільныя; але ўсё ж яны павінны быць так ці інакш аднесены к развіццю мовы ў часе, г. зн. к яго дыяхранічнаму аспекту»[1]. Відавочна, зразумець заканамернасці, уласцівыя слоўнікаваму саставу ў яго сучасным стане, магчыма толькі на аснове ведання яго гісторыі. Таму экскурсы ў мінулае пры сінхронным апісанні лексікі для даследчыкаў усякай мовы застаюцца непазбежнымі.

Нацыянальная мова функцыяніруе, як правіла, у дзвюх разнавіднасцях: у форме літаратурнай мовы і ў форме мясцовых дыялектаў. Таму ў практыцы вывучэння лексікі нацыянальнай мовы ўзнікае неабходнасць адрозніваць (у залежнасці ад аб'екта даследавання) лексікалогію літаратурнай мовы і дыялектную лексікалогію. Неабходнасць такога размежавання арганічна абумоўліваецца тым, што важнейшыя разнавіднасці нацыянальнай мовы — літаратурная мова і дыялекты — сінхронна суіснуюць не на ўсіх этапах яе функцыяніравання: літаратурная мова — гэта прадукт пэўнай, звычайна пазнейшай эпохі ў гісторыі нацыянальнай мовы.

Асобныя галіны лексікалогіі беларускай мовы складваліся ў розны час і развіваліся нераўнамерна. Усё XIX і пачатак XX ст. могуць быць ахарактарызаваны як перыяд зараджэння, пачатковы этап беларускай дыялектнай і гістарычнай лексікалогіі. У гэты час вядзецца збор і лексікаграфічная апрацоўка слоўнікавага саставу

---

[1] Смирницкий А. И. Лексикология английского языка. М., 1956. С. 9.

асобных народных гаворак і помнікаў старабеларускай пісьменнасці. У вывучэнні дыялектнай лексікі найбольш віднае месца займаюць працы К. Ф. Калайдовіча, П. М. Шпілеўскага, П. І. Шэйна, Е. Р. Раманава, І. І. Насовіча, Я. Ф. Карскага, С. П. Мікуцкага і інш. Лексічныя багацці старабеларускай пісьменнасці актыўна даследавалі І. І. Грыгаровіч, І. П. Навіцкі, М. І. Гарбачэўскі, І. І. Насовіч, П. У. Уладзіміраў, Я. Ф. Карскі і многія іншыя.

Яшчэ больш глыбока і ў значна шырэйшых маштабах пытанні дыялектнай і гістарычнай лексікалогіі распрацоўваюцца ў савецкі час. Вынікам гэтай мэтанакіраванай работы з'явілася выданне цэлай серыі дыялектных (абласных, краёвых) слоўнікаў і абагульняючай навуковай працы «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (Мн., 1963), а працэсы развіцця беларускай лексікі на папярэдніх этапах яе гісторыі знайшлі адлюстраванне ў шматлікіх даследаваннях (артыкулах, манаграфіях, слоўніках), буйнейшымі з якіх з'яўляюцца «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (Мн., 1970), «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст.» А. М. Булыкі (Мн., 1980), а таксама «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» і «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», выданне якіх яшчэ працягваецца.

Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы як асобная галіна пачала складвацца толькі ў савецкі час, калі адбывалася інтэнсіўнае фарміраванне новых стыляў літаратурнай мовы, функцыі якой пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пашырыліся на ўсе сферы грамадскага жыцця. Задачы адбору і нармалізацыі лексікі выклікалі неабходнасць пастаноўкі і вырашэння многіх лексічных праблем, першачарговай з якіх была выпрацоўка нацыянальных тэрміналагічных сістэм для прыродазнаўчых, фізіка-матэматычных і грамадскіх навук.

На працягу 20-х, пачатку 30-х гадоў Інбелкультам, БДУ і АН БССР было выдадзена звыш 30 тэрміналагічных слоўнікаў па розных галінах ведаў, серыя перакладных беларуска-рускіх і руска-беларускіх слоўнікаў для агульнага карыстання, вялася падрыхтоўчая работа па стварэнню тлумачальнага слоўніка і Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. І хоць у метадалагічным падыходзе да ўкладання гэтых даведнікаў былі пэўныя пралікі, выдадзеныя слоўнікі мелі для свайго часу не толькі вялікае практычнае, але і пэўнае навуковае значэнне, бо праца па іх стварэнню стымулявала распрацоўку многіх

тэарэтычных пытанняў. К пачатку 30-х гадоў лексікалогія вылучаецца як самастойны раздзел мовазнаўства ў праграмах для ВНУ рэспублікі і многія лексікалагічныя пытанні пачынаюць асвятляцца ў падручніках і вучэбных дапаможніках для вышэйшых школ.

У пасляваенныя, 50—80-я гады наглядаецца ажыўленне лексікалагічнай і лексікаграфічнай работы, прытым на новым, больш высокім навукова-тэарэтычным узроўні. Даследаванне лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў гэты час вядзецца не толькі ў сацыялінгвістычным, але і ў сістэмна-семасіялагічным аспекце. Акрэсліваецца некалькі асноўных напрамкаў работы. Вывучаюцца асобныя шырокія пласты лексікі: анамастыка (Я. М. Адамовіч, М. В. Бірыла, Л. М. Грыгор'ева, В. А. Жучкевіч, В. П. Лемцюгова, А. М. Прышчэпчык, Я. Н. Рапановіч, М. Р. Суднік, А. К. Усціновіч, І. Я. Яшкін), тэрміналогія (Л. А. Антанюк, В. Г. Захарава, А. І. Кісялеўскі, В. П. Красней, А. Л. Юрэвіч і інш.), многія прадметна-тэматычныя і лексіка-семантычныя групы слоў (Г. Ф. Вештарт, М. Н. Крыўко, А. Р. Мурашка, К. У. Скурат, П. У. Сцяцко, І. В. Шадурскі, В. К. Шчэрбін і інш.), узаемадзеянне лексікі беларускай мовы з лексікай іншых моў (У. В. Анічэнка, М. Г. Булахаў, А. М. Булыка, А. І. Жураўскі, М. І. Крукоўскі, І. С. Козыраў, І. І. Крамко, В. У. Мартынаў, А. Я. Міхневіч, А. А. Станкевіч, А. Я. Супрун, Г. А. Цыхун, Л. М. Шакун, Ф. М. Янкоўскі), развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі час (А. Я. Баханькоў, І. К. Германовіч, Л. М. Шакун, А. І. Яновіч і інш.).

Больш увагі ўдзяляецца пытанням семантычнай структуры лексічных адзінак, даследуюцца такія лексіка-семантычныя катэгорыі, як амонімы (Д. М. Карацінская, У. М. Лазоўскі, В. Д. Старычонак, П. П. Шуба), сінонімы (М. К. Клышка, М. І. Сыракваш), антонімы (З. П. Данільчык, Б. А. Плотнікаў), паронімы (С. М. Грабчыкаў, Б. Ю. Норман) і інш. Напісаны вучэбныя дапаможнікі па лексікалогіі для студэнтаў універсітэтаў і педінстытутаў.

Вялікім дасягненнем у вывучэнні лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы з'явілася лексікаграфічнае яе апісанне ў пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (Мн., 1977—1984), дзе дадзена семантычная, акцэнтуацыйная, граматычная і стылістычная характарыстыка кожнага асобнага слова.

Склаліся рэальныя ўмовы для стварэння абагульняючай працы па лексіцы сучаснай беларускай літаратурнай мовы з улікам дасягненняў беларускага мовазнаўства і агульнай лексікалогіі.

## § 2. ПРАДМЕТ, ЗАДАЧЫ, СТРУКТУРА МАНАГРАФІІ

Прадметам даследавання ў гэтай манаграфіі з'яўляецца лексічны састаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў тым стане, у якім ён знайшоў адлюстраванне ў літаратурных тэкстах 20—80-х гадоў і захоўваецца ў моўнай свядомасці сучаснага пакалення беларускага народа. Калі ж прыняць пад увагу, што значная частка слоў мае не адно, а некалькі значэнняў, то дакладней будзе сказаць: прадметам даследавання з'яўляецца лексіка-семантычная сістэма беларускай літаратурнай мовы, узровень асобных лексіка-семантычных варыянтаў.

У задачы апісальнай лексікалогіі беларускай, як і ўсякай іншай мовы, уваходзіць вырашэнне цэлага комплексу праблем, звязаных з раскрыццём дзвюх важнейшых асаблівасцей мовы — яе сацыяльнай прыроды і сістэмнай арганізацыі.

З улікам гэтых асаблівасцей у лінгвістыцы вылучаюцца два магчымыя аспекты даследавання: знешні, сацыялінгвістычны, і ўнутраны, сістэмна-семасіялагічны. Пры вывучэнні лексікі гэтыя аспекты звычайна суадносяцца з паняццямі лексікалогіі ў вузкім сэнсе слова, якая вывучае ў слоўнікавым саставе перш за ўсё тыя яго асаблівасці, якія абумоўлены фактарамі пазамоўнага, сацыяльна-гістарычнага характару, і семасіялогіі, што даследуе лексічную сістэму з пункту гледжання тых унутраных заканамернасцей, якія арганізуюць гэту сістэму [2].

І хоць выразнага размежавання праблематыкі ўласна лексікалагічнай і семасіялагічнай правесці фактычна немагчыма, паколькі развіццё лексічнай сістэмы абумоўліваецца арганічным узаемадзеяннем сацыяльных і унутрымоўных фактараў, усё ж сярод агульнага кола пытанняў можна вылучыць такія, што можна кваліфікаваць хутчэй як сацыялінгвістычныя, і такія, што ў большай меры адносяцца к аспекту сістэмна-семасіялагічнаму [3].

---

[2] Левковская К. А. Теория слова, принципы ее построения и аспекты изучения лексического материала. М., 1962. С. 25.

[3] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. М., 1989. С. 5.

Сацыялінгвістычны і сістэмна-семасіялагічны аспекты ў лексіцы могуць быць раскрыты толькі на аснове пазнання сутнасці слова як асноўнай адзінкі лексікі і мовы ў цэлым. Таму пачатковай задачай лексікалогіі з'яўляецца азначэнне (фармуліроўка) слова, вырашэнне праблемы «асобнасці» слова, г. зн. адрознення яго ад сумежных адзінак — марфемы і словазлучэння, а таксама праблемы «тоеснасці» слова, якая зводзіцца да адмежавання фанетыка-граматычных варыянтаў слова ад сінонімаў і лексіка-семантычных варыянтаў — ад амонімаў.

Слова — знакавая адзінка. Яно існуе ў адзінстве формы і значэння. Форма слова (марфема ці спалучэнне марфем) выражае той ці іншы змест, г. зн. мае лексічнае значэнне, пад якім разумеецца пэўнае адлюстраванне прадмета, з'явы, адносін у свядомасці чалавека. Толькі лексічнае значэнне дае магчымасць слову выконваць сваю асноўную, намінатыўную функцыю, і таму пры характарыстыцы слова павінны быць асветлены многія пытанні семасіялагічнага парадку, у прыватнасці такія, як сувязь значэння слова з паняццем, развіццё мнагазначнасці, выдзяленне значэнняў і іх тыпалогія, аспекты лексічнага значэння і інш. Характарыстыка слова як асноўнай адзінкі мовы і лексічнай сістэмы даецца ва ўступнай частцы манаграфіі.

У задачы ўласна лексікалогіі (лексікалогіі ў вузкім сэнсе слова) уваходзіць аналіз першапрычын узнікнення і працэсу фарміравання беларускай пісьмовай мовы і яе лексікі на стадыях складвання беларускай народнасці, а затым нацыі, апісанне шляхоў узбагачэння слоўніка за кошт уласных словаўтваральных сродкаў і лексічных запазычанняў, характарыстыка спрадвечнай, уласна беларускай, запазычанай лексікі і інш. Знешнія, сацыяльна-гістарычныя ўмовы фарміравання лексічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы разглядаюцца ў першай частцы манаграфіі.

Важнейшымі задачамі таго аспекту лексікалогіі, які прынята называць лексічнай семантыкай, з'яўляецца ўстанаўленне асноўных відаў сістэмных адносін (парадыгматычных, сінтагматычных, іерархічных, варыянтных), якія існуюць унутры розных груп лексікі. У рабоце зроблена спроба раскрыць сістэмна-семасіялагічныя адносіны ў лексіцы праз карэляцыю такіх унутрымоўных з'яў, як адназначнасць — мнагазначнасць слоў, полісе-

мія — аманімія, сінанімія — паранімія — антанімія, а таксама шляхам выдзялення і апісання класаў слоў: тэматычных, лексіка-семантычных груп і семантычных палёў. Сістэмна-семасіялагічнаму аспекту ў лексіцы прысвечана другая частка манаграфіі.

Аб'ектам апісальнай лексікалогіі з'яўляецца таксама праблема стратыфікацыі (расслаення) лексікі ў залежнасці ад спецыфікі функцыяніравання ў мове, а іменна: аналіз беларускай лексікі з пункту гледжання экспрэсіўна-стылістычнай яе дыферэнцыяцыі, сфер выкарыстання, актыўнасці ці пасіўнасці ўжывання. Гэты аспект раскрываецца ў працы ў такіх процістаўленнях слоў, як літаратурнае — нелітаратурнае (патэнцыяльнае, аказіянальнае), нейтральнае — стылістычна адзначанае (кніжнае, размоўнае, экспрэсіўнае), агульнаўжывальнае — абмежаваных сфер выкарыстання (дыялектнае, жаргоннае, тэрміналагічнае, прафесіянальнае), актыўнаўжывальнае — пасіўнаўжывальнае (устарэлае, гістарычнае, яшчэ новае) і інш. Сістэматызацыя лексікі па асаблівасцях яе функцыяніравання праведзена ў трэцяй частцы манаграфіі.

У працы не разглядаюцца ўстойлівыя (фразеалагічныя) адзінкі мовы, паколькі яны маюць істотныя адрозненні ад слова і вывучаюцца ў асобным раздзеле мовазнаўства — фразеалогіі.

Пры такой будове манаграфіі ў цэнтр даследавання лексічнай сістэмы ставіцца слова. Пры гэтым асноўная ўвага ўдзяляецца знамянальным словам, якія маюць самастойнае значэнне, г. зн. служаць назвамі прадметаў, дзеянняў, прымет, уласцівасцей і выступаюць у сказе ў якасці яго членаў. У меру неабходнасці раскрываецца і спецыфіка слоў з «аслабленым» лексічным значэннем: уласных імён, займеннікаў, службовых слоў, выклічнікаў і інш.

Даследаванне лексікі вялося па творах мастацкай, навуковай, публіцыстычнай, афіцыяльна-дзелавой літаратуры, а пласта спрадвечнай лексікі — і па помніках старабеларускай пісьменнасці. Выверка этымалогій, гісторыі, семантыкі асобных слоў вялася па аўтарытэтных лексікаграфічных даведніках — беларускіх і іншамоўных слоўніках розных тыпаў: тлумачальных, этымалагічных, гістарычных і інш.

## Раздзел II

# СЛОВА ЯК АДЗІНКА ЛЕКСІЧНАЙ СІСТЭМЫ

## § 1. ПРАБЛЕМА АЗНАЧЭННЯ СЛОВА

Паняцце аб слове як аб нечым канкрэтна сказаным інстынктыўна існуе ў свядомасці ўсіх носьбітаў мовы. У гэтым пераконваюць народныя выслоўі і прыказкі: *Слова сказаў, што тапаром адсек; З песні слова не выкінеш; Слова — не верабей: выпусціш — не зловіш.* Аднак даць навукова абгрунтаваную дэфініцыю гэтаму падсвядомаму, «данавуковаму» ўяўленню аб слове, якое склалася ў працэсе натуральнай моўнай практыкі, аказалася справай надзвычай складанай. Нягледзячы на тое што праблема слова займае не адно пакаленне лінгвістаў, да цяперашняга часу няма такога азначэння слова (а іх звыш двухсот), якое б задавальняла калі не ўсіх, то хоць бы большасць спецыялістаў.

Яшчэ на пачатковым этапе станаўлення лінгвістычнай навукі антычныя філосафы звярнулі ўвагу на двухбаковую сутнасць слова: а) фанетычнае і марфалагічнае яго афармленне; б) значэнне. Ва ўсе наступныя перыяды развіцця мовазнаўства гэтыя два аспекты складалі галоўны аб'ект даследаванняў аб слове. Але толькі ў XIX—пачатку XX ст. з'явіліся спробы вызначыць сутнасць паняцця «слова». Да слова пачалі падыходзіць як да адзінства яго гукавой і сэнсавай арганізацыі. У разуменні А. А. Патабні яно выступае як «адзінства членападзельнага гука і значэння»[1]. Пазней гэту думку развіваў П. Ф. Фартунатаў, паводле якога «асобнае слова складае той комплекс гукаў маўлення, які ў мове мае значэнне, асобнае ад іншых гукавых комплексаў, што з'яўляюцца словамі, і які пры гэтым не распадаецца на два ці некалькі асобных слоў без змен або без страты значэння хаця б якой-небудзь часткі гэтага гукавога комплексу»[2]. Погляды, выпрацаваныя мовазнаўцамі ў розны час, з некаторымі дапаўненнямі і ўдакладненнем выклаў у сваёй фармуліроўцы А. Мее: «Слова з'яўляецца вынікам спалучэння пэўнага значэння з сукупнасцю пэўных гукаў,

[1] Потебня А. А. Из записок по русской грамматике. Т. 1—2. М., 1958. С. 13.
[2] Фортунатов П. Ф. Сравнительное языкознание. М., 1902. С. 195.

прыгодных для пэўнага граматычнага выкарыстання»[3]. Па сутнасці, той жа прынцып ляжыць у аснове разумення адзінства слова Ж. Марузо, паводле якога адзінства слова, з аднаго боку, вызначаецца тым, што «сістэма артыкуляцый, якія ўтвараюць слова, дапускае яго вылучэнне або перамяшчэнне ў фразе, не перастаючы пры гэтым адпавядаць пэўнаму паняццю», з другога боку, тым, што «паміж састаўнымі элементамі слова можна назіраць пэўныя фанетычныя, марфалагічныя, сінтаксічныя і іншыя адносіны»[4].

З пашырэннем погляду на мову як на сістэму праблема азначэння слова яшчэ больш актуалізавалася. Асноўная задача заключалася ў пошуках дакладных крытэрыяў вылучэння і азначэння слова як асноўнай адзінкі мовы. Вядома звыш 70 розных крытэрыяў азначэння слова, у аснову якіх пакладзены графічныя (арфаграфічныя), фанетычныя, структурныя, граматычныя, сінтаксічныя, семантычныя, сістэмныя прынцыпы[5].

Праблема вылучэння і азначэння слова мае два аспекты: 1) праблема асобнасці слова; 2) праблема тоеснасці слова. Абодва аспекты глыбока даследаваліся А. М. Пяшкоўскім і А. І. Смірніцкім.

1. Праблема асобнасці слова заключаецца ў вызначэнні граніц слова ў тэксце, што патрабуе адрознення слова ад сумежных адзінак — марфем і словазлучэння.

Згодна з графічным (арфаграфічным) крытэрыем, слова вызначаецца як паслядоўнасць літар паміж прабеламі (словы пішуцца раздзельна, слова ад слова адзяляецца прабелам). Але гэты прынцып нельга паслядоўна правесці на практыцы. Напрыклад, французскае *pomme de terre* з'яўляецца адным словам, хаця і складаецца з трох кампанентаў, паміж якімі нельга ўставіць ніякага іншага слова. Даводзіцца задумвацца, як напісаць *начале* ці *на чале́, нажаль* ці *на жаль, назаўсёды* ці *на заўсёды, напамяць* ці *на памяць*. Ёсць выпадкі, калі няпроста адрозніць слова ад спалучэння слоў. Параўнаем: *нікім* і *ні з кім* (тут адно слова ці тры?).

Фанетычны крытэрый грунтуецца на некалькіх прыметах: адзіны націск для кожнага слова; гармонія галос-

[3] Цыт. па: Марузо Ж. Словарь лингвистических терминов. М., 1960. С. 274.
[4] Марузо Ж. Словарь лингвистических терминов. С. 274.
[5] Гак В. Г. Слово // Лингвистический энциклопедический словарь. М., 1990. С. 465.

ных; пэўныя змены гукаў; пагранічныя сігналы, якія сведчаць аб пачатку або канцы слова (для некаторых гукаў не характэрна пазіцыя ў пачатку слова, напрыклад [ы] у рускай і беларускай мовах), і інш. Аднак няяснасць граніц слова ў фанетычных адносінах застаецца. Службовым словам не заўсёды ўласцівы асобны націск; адны і тыя ж сігналы могуць абазначаць як пачатак слова, так і пачатак каранёвай марфемы ўнутры слова (*двор, дворнік, сад, садзіць*); складанае слова нярэдка, апрача асноўнага, мае і пабочны націск (*зѐмлепрахóдзец, трýбаэлѐктразвáрачны*). Слова ў фанетычным сэнсе можа не супадаць з граніцамі слова ў яго лексіка-граматычным разуменні. Напрыклад, у выпадках *на дарозе, не хадзіць* рэальна маем два словы, а фанетычна — толькі адно.

Не мелі поспеху і спробы ўвязаць вылучаныя крытэрыі ў адносінах да розных моў. У адных мовах, паводле В. У. Вінаградава [6], недастаткова пэўнымі з'яўляюцца граніцы слова, якія абазначаюцца асобнымі сігналамі (напрыклад, у рускай мове сілавым націскам і звязанымі з ім з'явамі вымаўлення, аглушэння канцавых звонкіх зычных і інш.). У другіх мовах (у прыватнасці, у нямецкай) фанетычныя граніцы слова не зусім выразныя ў параўнанні з граніцамі паміж марфемамі (г. зн. каранёвымі і граматычнымі элементамі маўлення).

У аснову марфалагічнага крытэрыю пакладзена прымета марфалагічнай аформленасці цэлага слова ў адрозненне ад часткі слова або словазлучэння, якія такой уласцівасцю не валодаюць. А. І. Смірніцкі, які спачатку выдзеліў дзве асноўныя прыметы слова — цэльнааформленасць і ідыяматычнасць, пераканаўшыся ў несупадзенні адной прыметы з другой, прыйшоў да высновы, што рашаючай з'яўляецца прымета цэльнааформленасці. Сэнсавая цэльнасць, заснаваная на ідыяматычнасці, не з'яўляецца крытэрыем размежавання простых і складаных слоў (а тым больш словазлучэнняў) [7]. Марфалагічны крытэрый больш надзейны пры вызначэнні слова як адзінкі лексічнай сістэмы, але і ён не універсальны.

Такім чынам, ні па аднаму з прыведзеных крытэрыяў немагчыма бясспрэчна вылучыць усе словы якой-

---

[6] Виноградов В. В. Русский язык: (Грамматическое учение о слове). М., 1972. С. 13.

[7] Смирницкий А. И. К вопросу о слове: Проблема отдельности слова // Вопросы теории и истории языка. М., 1952. С. 201—202.

небудзь мовы. Тым больш, што крытэрыі, прымальныя для вылучэння слоў у адных мовах, могуць быць непрымальнымі для другіх.

Сінтаксічны крытэрый самы даўні. Згодна з ім, пад словам разумеецца або найменшая частка сказа (Л. У. Шчэрба, Е. Д. Паліванаў, Л. Блумфілд), або мінімальная сінтаксічная адзінка (І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ, Э. Сэпір, Г. Якабсон). Гэты крытэрый таксама нельга лічыць універсальным. Абапіраючыся на яго, немагчыма аддзяліць службовыя словы ад марфем, якія няздольны скласці асобны сказ. Тое, што ён прымяняецца выключна на сінтагматычным узроўні, прыводзіць да вылучэння не слоў як яны ёсць, а членаў сказа, якія могуць аб'ядноўваць рад слоў.

Паводле семантычнага крытэрыю, слова — гэта ўсё, што выражае адно пэўнае паняцце (А. А. Рэфармацкі, Л. Ельмслеў), мінімальная значымая адзінка, для якой істотным аказваецца ідыяматычнасць значэння. Аднак на аснове толькі аднаго семантычнага крытэрыю немагчыма адрозніць слова (у прыватнасці, складанае) ад фразеалагічнага або тэрміналагічнага словазлучэння. Параўн.: *вецер у галаве* і *ветрагон* (пра легкадумнага чалавека), *калгас* і *калектыўная гаспадарка, юнкор* і *юны карэспандэнт.*

Як бы падводзячы вынік дыскусіі аб крытэрыях вылучэння слова, А. І. Смірніцкі [8] заключае, што ніводзін з існуючых крытэрыяў не павінен ігнаравацца, паколькі кожны з іх нясе ў сабе рацыянальнае зерне і ў чымсьці дапаўняе іншыя.

Найбольш паслядоўным і абгрунтаваным прызнаецца марфалагічны крытэрый, заснаваны на вельмі істотнай прымеце — граматычнай аформленасці. Для пераважнай часткі слоўніка гэты крытэрый з'яўляецца задавальняльным, паколькі адрозненне паміж марфемай і словам асэнсоўваецца кожным носьбітам мовы. Але і яго нельга прызнаць універсальным, бо не ўсе адзінкі, якія валодаюць сэнсавай закончанасцю, могуць мець устойлівую граматычную аформленасць (параўн.: *непрыгодны — не зусім прыгодны; ні з чым — нічым*). Не заўсёды проста адмежаваць словы ад марфем некаторых службовых слоў. Ёсць выпадкі, калі часткі складанага слова маюць

---

[8] Смирницкий А. И. К вопросу о слове: Проблема отдельности слова. С. 203.

асобнае самастойнае марфалагічнае афармленне (франц. *bonhome* 'дабрак' — мн. лік *bonshomes*), марфалагічны фармант можа афармляць словаспалучэнне (англ. *the schoolboy's book* 'кніга вучня').

2. Праблема тоеснасці слова абумоўлена здольнасцю слова відазмяняць (вар'іраваць) як сваю знешнюю форму (параўн.: *тытунь—тытун, кіпцюр—капцюр, клавіш—клавіша, рыбацкі—рыбачы*), так і семантыку (напр., *аджыць* 'адысці, пражыўшы свой век' і *аджыць* 'зрабіцца зноў жывым; ажыць'). Акрамя таго, слова мае не толькі гукавую абалонку і значэнне, яно пэўным чынам арганізавана граматычна і заўсёды ўключаецца ў сістэму той ці іншай часціны мовы. Паўназначныя словы характарызуюцца таксама ўласцівымі ім граматычнымі катэгорыямі, выражанымі адпаведнымі граматычнымі формамі. Назоўнікі, напрыклад, маюць граматычныя формы роду, ліку, склону (*раб—раба; вучань—вучні; бяроза—бярозы—бярозе—бярозай—бярозе*), дзеясловы — формы часу, асобы, ліку, ладу (*сею—сеяў—буду сеяць; сею—сееш—сее; сею—сеем; сею—сей—сеяў бы*).

Наяўнасць такіх відазмяненняў слова (фанетыка-граматычных і семантычных) заканамерна выклікае пытанне: якія з іх з'яўляюцца формамі (варыянтамі) аднаго і таго ж слова, а якія — асобнымі, самастойнымі словамі? На гэтае пытанне спецыялісты адказваюць па-рознаму. Так, П. Ф. Фартунатаў асобным словам лічыў кожную яго граматычную форму (у прыватнасці, граматычную форму ліку тыпу *воўк—ваўкі, звер—звяры*) [9]. А. І. Смірніцкі, які распрацаваў тэорыю форм слова (словаформ), наадварот, даказваў, што адрозненні ў граматычных значэннях не парушаюць тоеснасці слова [10].

Такім чынам, праблема тоеснасці слова зводзіцца да двух асноўных пытанняў: 1) як адмежаваць фанетыка-граматычныя варыянты слова ад самастойных аднакарэнных слоў (сінонімаў і паронімаў); 2) як адмежаваць лексіка-семантычныя варыянты слова ад слоў-амонімаў.

1. У фармальным (фанетыка-граматычным) аспекце большасцю лінгвістаў варыянтамі прызнаюцца такія відазмяненні аднаго і таго ж слова, якія рэгулярна ўзнаўляюцца, захоўваюць тоеснасць марфолага-словаўтваральн-

---

[9] Фортунатов П. Ф. Избранные труды. Т. 1. М., 1956. С. 156.
[10] Смирницкий А. И. Лексикология английского языка. М., 1956. С. 42.

най структуры, лексічнага і граматычнага значэння, але адрозніваюцца месцам націску, саставам фанем, вымаўленнем або формаўтваральнымі афіксамі (суфіксамі і канчаткамі).

Найбольш пашыранымі з'яўляюцца наступныя варыянты слоў: а) акцэнтныя (акцэнталагічныя) — відазмяненні слова, якія адрозніваюцца толькі націскам: *да́рма—дармá, кáмфара—камфарá, лáскавы—ласкáвы, літасцівы—літасцівы;*

б) фанетычныя (фанематычныя) — відазмяненні гукавога саставу слова, адрозненні ў саставе фанем, не звязаныя з марфалагічнымі чаргаваннямі і парадыгматычнымі зменамі слова: *аер—аір, галош—галёш, клумак—клунак, кмен—кмін, сутарга—сударга, ягня—ягнё;*

в) акцэнтна-фанематычныя — відазмяненні, абумоўленыя камбінацыяй акцэнтных і фанетычных змен: *вéрхам—вярхóм, вышай—вышэй, дóмбра—дамбрá, зáячы—заéчы, óдум—адýм, спілавáны—спілóваны, сýпраць—супрóць;*

г) арфаэпічныя —球 рознае вымаўленне слова, якое можа адлюстроўвацца і не адлюстроўвацца на пісьме: *канечне—канешне, ручнік—рушнік, яечня—яешня;*

д) граматычныя — відазмяненні слова ў складзе парадыгмы скланення, спражэння і інш.: *стол—стала—сталу; грудзі—грудзей—грудзьмі (грудзямі); пісаць—пішу—пішаш—пішам;*

е) марфалагічныя — відазмяненні, якія адрозніваюцца формамі роду: *жэлацін—жэлаціна, зал—зала, кішэнь—кішэня, манжэт—манжэта, небарак—небарака, прарэх—прарэха, перыфраз—перыфраза, разлог—разлога* і формаўтваральнымі суфіксамі: *навокал—навокала, непадалёк—непадалёку; печ—пячы, сеч—сячы—секчы; гніць—гнісці, плыць—плысці.*

Такія відазмяненні не парушаюць тоеснасці слова, у межах гэтых варыянтаў слова застаецца само сабой.

Некаторыя даследчыкі рабілі спробу вылучыць яшчэ словаўтваральныя, або лексіка-марфалагічныя, варыянты слова. Л. У. Шчэрба, напрыклад, разглядаў утварэнні тыпу *лом—ломік, сад—садзік* як формы аднаго слова, паколькі памяншальныя формы, на яго думку, уяўляюць сабой адценні асноўнага значэння. Аднак гэта думка не знаходзіць падтрымкі ў многіх сучасных лінгвістаў. Так, аўтары «Грамматики современного русского языка» (М., 1970, с. 137) падобныя ўтварэнні лічаць рознымі словамі

на той падставе, што адрозненні ў іх значэннях замацаваны матэрыяльна тым або іншым суфіксам. Неправамерна адносіць да лексіка-марфалагічных варыянтаў і такія пары слоў, як *ваўчыха—ваўчыца, заранка—зарніца, катаржнік—катаржанін, турысцкі—турыстычны, апельсінавы—апельсінны*, для якіх характэрна адрозненне ў словаўтваральных адносінах, а значыць — і парушэнне прынцыпу тоеснасці. Больш правільна разглядаць такога тыпу словаўтваральныя пары як аднакарэнныя сінонімы або паронімы.

Такім чынам, у аснову размежавання фанетыка-граматычных варыянтаў слова і асобных самастойных слоў, у прыватнасці сінонімаў і паронімаў, павінны быць пакладзены крытэрыі, па якіх адрозніваюць формаўтварэнне ад словаўтварэння, формаўтваральны афікс ад словаўтваральнага. Формаўтваральны афікс служыць для ўтварэння форм слова (словаформ) тыпу *сеч—ся-чы, завод—завод-а, завод-у, завод-ам, завод-ы, завод-аў*, словаўтваральны — для ўтварэння новых слоў тыпу *вадк-асць, бес-памылковы*.

Праблема адрознення варыянта ад самастойнага слова ўзнікае тады, калі вытворнае слова мае ў сваім саставе словаформаўтваральны афікс. Так, у слове *перапісаць* прыстаўка *пера-* змяняе лексічнае і граматычнае значэнне. У слове *акуляр-ы* канчатак *-ы* таксама змяняе лексічнае і граматычнае значэнне. У такіх выпадках прымаецца крытэрый прадметнай (рэферэнтнай) суаднесенасці слова. Калі розныя формы ўказваюць на адзін і той жа прадмет (рэферэнт), то яны ўтвараюць адно слова (з'ява формаўтварэння). Калі ж рэферэнтная аднесенасць (адносіны фанетычнага слова разам з сэнсам, сігніфікатам да прадмета, дэнатата, рэферэнта) змяняецца, даныя формы належаць да розных слоў (з'ява словаўтварэння). На гэтай падставе формы *акуляр* 'шкло ў аптычнай прыладзе' і *акуляры* 'аптычная прылада для выпраўлення недахопаў зроку' трэба лічыць асобнымі словамі, паколькі яны суадносяцца з рознымі прадметамі рэчаіснасці. Тое ж можна сказаць і пра формы *раб—раба*, бо канчатак *-а* не толькі мяняе граматычнае значэнне слова *раб* (мужчынскі род на жаночы), але і суадносіць яго з новым рэферэнтам. Падобныя выпадкі пацвярджаюць, што паміж такімі паняццямі, як словаўтварэнне, словазмяненне і формаўтварэнне, не заўсёды можна правесці выразную мяжу.

2. Семантычны аспект праблемы «тоеснасць слова» ствараецца здольнасцю слова відазмяняць (вар'іраваць) сваю семантыку, называць новыя значэнні і выступаць у розных лексіка-семантычных варыянтах. Так, гукавы комплекс *каравай* можа ўжывацца ў значэннях: 1) 'вясельны абрадавы пірог'; 2) 'вялікая булка, спечаная для якой-небудзь урачыстасці, свята'. *Усіх мы блізкіх, дарагіх У родным доме сустракаем, За стол гасцінны садзім іх, Частуем цёплым караваем* (П. Прыходзька. Цёплы каравай); *Прымуць з рук тых людзі восенню ўраджай, Выпекуць к вяселлю белы каравай* (Г. Кляўко. Вясельны каравай).

Гукавы комплекс *ложа* абазначае: 1) 'месца ў глядзельнай зале'; 2) 'драўляная частка ружжа'; 3) 'паглыбленне ў грунце; рэчышча': *У ложы паблісквалі манокль і ордэнскія крыжы генералаў* (У. Мехаў. Станцыя паблізу Тамбова); *Ляснік ляпае далонню па ложы драбавіка* (Х. Жычка. Зброю бяруць сыны); *Вось як цяпер перада мною ўстае куточак той прыгожа, Крынічкі вузенькае ложа* (Я. Колас. Новая зямля).

Праблема тут заключаецца ў тым: ці з'яўляюцца гэтыя розныя ўжыванні гукакомплексаў *каравай, ложа* значэннямі аднаго мнагазначнага слова ці рознымі словамі — амонімамі? А. А. Патабня лічыў, напрыклад, што любая новая граматычная форма і «самае нязначнае змяненне ў значэнні слова робіць яго іншым словам» [11], а Г. Пауль, наадварот, у адно слова аб'ядноўваў любыя лексічныя адзінкі з аднолькавым вымаўленнем і напісаннем [12]. Асноўным крытэрыем размежавання мнагазначнасці (полісеміі) і аманіміі з'яўляецца ўлік ступені захаванасці сувязі паміж рознымі лексічнымі значэннямі слова. У лексіка-семантычных варыянтах мнагазначнага слова ёсць агульныя і дыферэнцыяльныя прыметы, якія дазваляюць устанавіць блізкасць і ўзаемную сувязь паміж значэннямі, адно з якіх з'яўляецца асноўным, а іншыя — вытворнымі, другаснымі. Амонімы ж з'яўляюцца такімі аднолькавымі па гучанню і напісанню словамі, значэнні якіх у свядомасці сучасных носьбітаў мовы зусім не звязваюцца паміж сабой і адно з другога не выводзяцца.

---

[11] Потебня А. А. Из записок по русской грамматике. Т. 1—2. С. 15.

[12] Пауль Г. Принципы истории языка. М., 1960. С. 96.

На гэтай падставе розныя ўжыванні гукакомплексу *каравай* трэба лічыць лексіка-семантычнымі варыянтамі аднаго слова, а гукакомплексу *ложа* — асобнымі словамі, амонімамі. Паколькі змяненне семантыкі слова адбываецца вельмі павольна, адмежаваць полісемію ад аманіміі бывае няпроста [13].

Цяжкасці пры вызначэнні крытэрыяў вылучэння слова абумоўлены складанасцю, разнапланавасцю і шматаспектнасцю слова як адзінкі мовы і самой прыродай моўнай будовы. Слова—універсальная адзінка мовы, што значна ўскладняе магчымасць яго адмежавання ад іншых адзінак, ад суседніх слоў і словазлучэнняў. Слова як нейкае цэлае не заўсёды можна адрозніць ад той або іншай асэнсаванай яго часткі (марфемы, фанемы). Назіраюцца выпадкі, калі адна і тая ж адзінка выступае ў функцыі сказа, слова, марфемы, фанемы. Адна моўная адзінка можа выступаць у функцыі другой. Напрыклад, кантэкст можа быць сказам, сказ — словам. Ні адна адзінка не выступае ізалявана на фоне шырокага цэлага, не замыкаецца ў сабе, а аб'ядноўваецца па некаторых сваіх уласцівасцях з іншымі адзінкамі, пэўным чынам суадносіцца з імі. На гэтай аснове ўзнікаюць сумежныя і пераходныя з'явы з не зусім пэўнымі прыметамі.

Адсюль і такі разнабой у разуменні паняцця «слова». Большасць даследчыкаў прызнае слова як моўную рэальнасць, як асноўную цэнтральную адзінку моўнай структуры. Але нямала і тых, хто прытрымліваецца іншых (часам палярных) поглядаў. Многія лічылі, што паняцце «слова» прымяніма не да ўсіх моў (напрыклад, да аморфных, полісінтэтычных). Ш. Балі прапаноўваў замяніць паняцце «слова» паняццем «сінтаксічная малекула» (аўтаномнае сінтаксічнае ўтварэнне, якое складаецца з семантэмы і граматычных знакаў і функцыяніруе ў фразе), а А. Марцінэ — паняццем «манема» (марфема) — мінімальная значымая адзінка мовы, у межах якой не адрозніваюцца слова і марфема. У структуралісцкіх тэорыях, якія ігнаруюць паняцце «часціны мовы», слова разглядаецца як сукупнасць форм, аб'яднаных агульным значэннем.

Неаднзначнасць разумення паняцця «слова» паслужыла прычынай розных адносін і падыходаў да прабле-

---

[13] **Падрабязней аб гэтым гл.: Частка 2, раздзел II, § 1 («Амонімы»), § 6 («Энантыясемія»).**

мы азначэння слова. В. Скалічка, напрыклад, не адмаўляючыся ад паняцця «слова», лічыў непатрэбным даваць слову азначэнне. Л. У. Шчэрба і М. Н. Петэрсан немагчымасць даць азначэнне слову матывавалі тым, што ў розных мовах слова вельмі адрозніваецца па сваёй будове. Многія даследчыкі пры азначэнні слова абапіраліся на якую-небудзь адну яго прымету: падыходзілі да яго, напрыклад, як да гукавой паслядоўнасці (П. С. Кузняцоў), як да граматычна аформленай (і адпаведна вылучаемай) адзінкі (А. І. Смірніцкі), як да семантычна цэласнай адзінкі (М. В. Паноў). Нямала рабілася спроб даць азначэнне слова на падставе некалькіх прымет. Напрыклад, Н. М. Шанскі вылучыў 12 прымет: 1) фанетычная аформленасць; 2) семантычная валентнасць; 3) непранікальнасць; 4) адзіны націск; 5) лексіка-семантычная аднесенасць; 6) пастаянства гучання і значэння; 7) узнаўляльнасць; 8) цэласнасць і адзінааформленасць; 9) пераважнае ўжыванне ў спалучэннях слоў; 10) ізаляванасць; 11) намінатыўнасць; 12) фразеалагічнасць [14]. З іх ліку ён адбірае мінімум характэрных для слова прымет: фанетычная аформленасць, семантычная валентнасць, наяўнасць аднаго націску, лексіка-семантычная аднесенасць і непранікальнасць. Адсюль такая дэфініцыя слова: «слова — гэта лінгвістычная адзінка, якая мае (калі яна не без націску) у сваёй зыходнай форме адзін асноўны націск і валодае значэннем, лексіка-граматычнай аднесенасцю і непранікальнасцю» [15]. Узорам комплекснага ўсебаковага падыходу да вызначэння слова з'яўляецца азначэнне Д. М. Шмялёва: «Слова — гэта адзінка наймення, якая характарызуецца цэльнааформленасцю (фанетычнай і граматычнай) і ідыяматычнасцю» [16]. Але і такія азначэнні, заснаваныя на комплексе прымет, не з'яўляюцца вычарпальнымі.

Найбольш прымальнымі прызнаюцца азначэнні слова, у якіх слова выступае як адзінства трох яго параметраў: фанетычнага, граматычнага і семантычнага. Досыць выразна і лаканічна гэтае адзінства выражана ў фармуліроўцы В. М. Жырмунскага: «Слова ёсць найкарацейшая адзінка мовы, самастойная па свайму значэнню і

---

[14] Шанский Н. М. Лексикология современного русского языка. М., 1972. С. 11.

[15] Там жа.

[16] Шмелев Д. Н. Современный русский язык: Лексика. М., 1977. С. 53.

форме»[17]. Аднак і гэтыя параметры не з'яўляюцца універсальнымі. Як быць, напрыклад, са словамі тыпу *у лесе, не маглі б*? У першым выпадку фактычна мы маем адно фанетычнае і два граматычныя словы, у другім — адно фанетычнае і тры граматычныя. Значыць, вызначыць слова як адзінства спаяных між сабой функцыянальна суадносных фанетычных, лексіка-граматычных і семантычных яго адзнак у многіх выпадках практычна немагчыма.

Тым не менш спробы адмовіцца ад паняцця «слова» або замяніць яго іншымі адзінкамі аказаліся беспаспяховымі і таму, што ў слове ў яго сучасным лінгвістычным (тэрміналагічным) разуменні выяўляецца ўзаемаабумоўленасць розных аспектаў навукі пра мову: гукавога, сэнсавага, граматычнага.

«Слова,— заўважае В. Г. Гак,— асноўная адзінка мовы, якая для яго носьбітаў з'яўляецца псіхалінгвістычнай рэальнасцю. Носьбіты мовы спантанна, без цяжкасцей, вылучаюць словы ў маўленчым патоку і ўжываюць іх адасоблена. Цяжкасці вылучэння ў іх узнікаюць у тых жа выпадках, што і ў спецыялістаў. Хаця людзі гавораць фразамі, яны памятаюць і ведаюць мову перш за ўсё праз слова. Слова служыць сродкам замацавання ў мове і перадачы ў маўленні ведаў і вопыту людзей, таму веданне мовы звязана перш за ўсё з веданнем слоў. Спецыяльныя даследаванні пацвярджаюць, што слова вылучальна ў мовах розных сістэм, у тым ліку ў аморфных (кітайскай мове) і ў полісінтэтычных (паўночнаамерыканскія, паліяазіяцкія мовы), але пры гэтым актуалізуюцца розныя крытэрыі»[18].

Паколькі ў розных мовах словы могуць выдзяляцца не па адной, а па многіх адрознівальных адзнаках, то цяжка знайсці агульную для ўсіх моў дэфініцыю слова. Але, як лічыць В. Г. Гак[19], цалкам магчыма пры ўмове, што будуць прымацца пад увагу тры акалічнасці: 1) паміж фактамі мовы не існуе выразных размежавальных ліній (слова можа супадаць з марфемай, словазлучэнне можа ператварацца ў складанае слова і г. д.); 2) у моўнай сістэме і ў маўленчай рэалізацыі слова мае розны

---

[17] Жирмунский В. М. О границах слова // Морфологическая структура слова в языках различных типов. М.; Л., 1963. С. 7.

[18] Гак В. Г. Слово // Лингвистический энциклопедический словарь. С. 466.

[19] Там жа.

аб'ём і набор прымет (у маўленні можа змяняцца змястоўны бок слова, што часцей за ўсё выражаецца ў набыцці розных адценняў ужывання; у плане выражэння слова можа зазнаць пазіцыйныя змены — чаргаванне фанем, перамяшчэнне націску і г. д.); 3) для выдзялення і азначэння слова істотным з'яўляецца фактар сістэмнасці. Як справядліва зазначае А. І. Смірніцкі, шматграннасць асаблівасцей асобных моў не можа перашкодзіць вызначэнню слова як моўнай адзінкі наогул, бо «ў гэтай шматграннасці выдзяляюцца рысы, якія выступаюць як найбольш істотныя адзнакі слова, пры ўсіх магчымых адхіленнях ад тыповых выпадкаў» [20].

Такім чынам, слова цалкам паддаецца азначэнню як найменшая самастойная адзінка мовы, што складаецца з аднаго гука або граматычна афармленага гукавога комплексу, за якім грамадскай практыкай замацавана пэўнае значэнне і якому ўласціва ўзнаўленне ў працэсе маўлення, але без прэтэнзій на паўнату дэфініцыі [21].

## § 2. ЛЕКСІЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ СЛОВА

Слову як моўнаму знаку ўласціва не толькі гучанне (форма, план выражэння), а і значэнне (унутраны сэнс, план зместу), якія выступаюць у цесным адзінстве.

Змястоўны бок слова, які складае прадмет лексічнай семантыкі [22], з'яўляецца найбольш цяжкім для навуковага асэнсавання і азначэння, бо ў ім адбіваецца ўся складанасць мовы як грамадскай з'явы і слова як адзінкі мовы, з якой узаемадзейнічаюць моўныя элементы розных узроўняў.

Значэнне — унутраны кампанент слова, які характарызуецца двайной суаднесенасцю слова: да прадмета абазначэння і да яго абагульненага адлюстравання (г. зн. паняцця). Прычым слова звязана з прадметам не беспасрэдна, а праз паняцце, якое склалася ў свядомасці людзей аб гэтым прадмеце. Сувязь паміж словам (катэгорыя лінгвістычная) і паняццем (катэгорыя лагічная)

---

[20] Смирницкий А. И. К вопросу о слове: Проблема отдельности слова. С. 184.

[21] Сучасна українська літературна мова. Київ, 1973. С. 13.

[22] Значэнні слова, выражаныя некаранёвымі марфемамі, даследуюцца ў іншых раздзелах навукі аб мове: у фанетыцы — фанетычнае значэнне, у граматыцы — граматычныя значэнні і сродкі іх выражэння.

вельмі цесная. Пазнаючы з'явы акаляючага свету, чалавек замацоўвае за кожнай з іх пэўны гукавы комплекс, афармляючы такім чынам у словах свае ўяўленні і паняцці. Але слова набывае статус элемента мовы толькі ў тым выпадку, калі назва становіцца агульнай для моўнага калектыву, г. зн. агульна ўсвядомленай. Таму пры вывучэнні суаднесенасці слоў з прадметамі абазначэння (праз паняцце аб іх) трэба ўлічваць і фактар пазнавальна-абагульняльнай дзейнасці чалавечага мыслення.

Сутнасць паняцця як лагічнай катэгорыі вельмі дакладна вызначана ў фармуліроўцы М. І. Фамінай: «Паняцце аб прадмеце, з'яве, якасці, стане або дзейнасці — гэта свайго роду абагульненае адлюстраванне ў свядомасці людзей асноўных уяўленняў аб уласцівасцях рэальнага свету, пазнаваемага ў працэсе грамадска-працоўнай дзейнасці»[23].

У паняцці адлюстроўваюцца не ўсе якасці і прыметы, уласцівыя таму ці іншаму прадмету або дзеянню, а толькі самыя агульныя, найбольш істотныя, паводле якіх можна адрозніць адзін прадмет ад другога. Напрыклад, для таго каб скласці ўяўленне аб класе птушак, дастаткова ўясніць, што размова ідзе пра разнавіднасць наземных пазваночных з крыламі, з дзвюма нагамі. Гэта якраз і ёсць той мінімум найбольш істотных прымет, паводле якіх клас птушак адрозніваецца ад класа іншых пазваночных. Усе астатнія прыметы з'яўляюцца менш істотнымі.

Паняцце аб прадметах і з'явах можа мяняцца ў выніку пазнавальна-абагульняльнай дзейнасці чалавека, што прыводзіць да змен сэнсавага зместу слова або да з'яўлення новых значэнняў слова. Напрыклад, спачатку слова *космас* абазначала ўвесь сусвет у цэлым, у тым ліку нашу Зямлю, сонечную сістэму, нашу і ўсе астатнія галактыкі. З развіццём касманаўтыкі пад космасам сталі разумець толькі частку сусвету, суседнюю з Зямлёй (выключаючы Зямлю). Слова *рэвалюцыя* як філасофскі тэрмін раскрывае найбольш істотныя ўласцівасці з'явы: «Рэвалюцыя — перарыў паступовасці, дыялектычны, скачкападобны пераход колькасных змен у якасныя змены ў працэсе развіцця». Паводле гэтай дэфініцыі рэвалюцыя ўключае ў сябе ўсе працэсы, што адбываюцца ў

[23] Фомина М. И. Современный русский язык: Лексикология. М., 1990. С. 27.

прыродзе і грамадстве. Слоўнікі ж падаюць толькі частку гэтых працэсаў: 1) 'карэнны пераварот у жыцці грамадства, які заключаецца ў насільным звяржэнні старога грамадскага ладу і ўстанаўленні новага'; 2) 'карэнны пераварот, карэнныя змены ў якой-н. галіне (навуцы, тэхніцы, мастацтве, якія прыводзяць да аднаўлення, удасканалення чаго-н.)'. Вось чаму пры вызначэнні паняційнай суаднесенасці большасць лінгвістаў размяжоўвае, з аднаго боку, навуковае паняцце, што ўзнікла ў выніку глыбокага вывучэння сутнасці з'явы і грунтуецца на істотных яе адзнаках, а з другога боку, абагульненні, якія звязаны з паўсядзённай практыкай і фіксуюцца ў лексічным значэнні слова як яго прадметна-паняційнае ядро. Пры дапамозе паняццяў адбываецца больш глыбокае пазнанне рэчаіснасці шляхам выдзялення і даследавання істотных яе бакоў. Пазнанне ўдакладняе старыя вынікі і фарміруе новыя.

Аднак у мове ёсць словы (выклічнікі, злучнікі, часціцы, прыназоўнікі, часткова займеннікі, прыслоўі займеннікавага паходжання і інш.), якія не называюць паняццяў, не звязаны з імі непасрэдна. У гэтых слоў значэнне выступае толькі ў кантэксце пры суаднесенасці з намінатыўнымі словамі. Гэтым словам (у граматыцы іх называюць службовымі) таксама ўласціва лексічнае значэнне, але на першым плане ў іх граматычная функцыя (выражэнне пачуццяў, адносін да рэчаіснасці, указанне на сувязь паміж паўназначнымі словамі і інш.).

Такім чынам, аснову лексічнага значэння слова фарміруе паняцце (прадметна-паняційны змест). Але асэнсаванне лексічнага значэння слова толькі праз прадметна-паняційную аднесенасць не дае адказу на пытанні, звязаныя з семантыкай слова. Напрыклад, чаму адна і тая ж з'ява рэчаіснасці можа называцца рознымі словамі: *аснова—падстава—глеба—грунт—база—падмурак—фундамент; настаць—прыйсці—надысці—наступіць?* Або чаму адзін гукавы комплекс можа называць блізкія або зусім розныя з'явы рэчаіснасці, паняцці? Так, слова *згода* мае чатыры значэнні: 1) 'станоўчы адказ, дазвол на што-н.'; 2) 'узаемная дамоўленасць, дагавор'; 3) 'супадзенне думак; аднадушша'; 4) 'мірныя, сяброўскія адносіны'. У слове *кароткі* вылучаецца шэсць значэнняў: 1) 'невялікі па даўжыні'; 2) 'непрацяглы па часе'; 3) 'выражаны сцісла; нешматслоўны; лаканічны'; 4) 'рашучы, хуткі, суровы'; 5) 'які вымаўляецца адрывіста (пра

гукі'); 6) 'які характарызуецца кароткай формай канчатка або адсутнасцю яго'. «Калі б структура слова,— пісаў В. У. Вінаградаў,— была толькі двухбаковай, складалася толькі з гуку і значэння, то ў мове для кожнага паняцця і ўяўлення, для ўсялякага новага адцення ў думках і пачуццях павінны былі б існаваць або ўзнікаць асаблівыя, асобныя словы» [24].

Значыць, лексічнае значэнне слова складаецца не толькі з прадметна-паняційнай аднесенасці гукавога комплексу, а з цэлага раду іншых як пазамоўных, так і ўнутрымоўных фактараў, засяроджаных у слове. У прыватнасці, як граматычна аформленая адзінка слова валодае комплексам граматычных значэнняў. Напрыклад, слова *глеба* мае значэнні: 1. Верхні пласт зямлі. 2. Апора, аснова. Гэтаму ж слову ўласціва і значэнне прадметнасці (на аснове яго яно ўключаецца ў клас слоў *вада, дрэва, шлях* і д. п.), значэнне жаночага роду (на аснове яго яно ўключаецца ў клас слоў *зямля, кніга, дарога* і д. п.), значэнне адзіночнага ліку (на аснове яго яно ўключаецца ў клас слоў *міска, лыжка, стол* і д. п.) і інш.

Значыць, слова як адзінка лексічнага ўзроўню прадстаўлена сістэмай уласцівых яму лексічных значэнняў. Сістэма ўласцівых слову граматычных форм і граматычных значэнняў характарызуе яго як адзінку граматыкі. Паводле А. І. Смірніцкага [25], лексічнае значэнне ў слове — гэта яго асноўны прадметны змест, граматычнае значэнне звязваецца з фармальным бокам, з граматычнай аформленасцю слова.

Лексічнае і граматычнае значэнні ў слове складаюць непарушнае адзінства, але і ў многім адрозніваюцца. У самым агульным плане гэтыя адрозненні зводзяцца да наступнага.

1. Лексічнае значэнне — гэта асноўнае прадметнае ў слове, унутраны змест слова, граматычнае значэнне — гэта фармальны бок слова, які забяспечвае здольнасць слова ўступаць у адносіны з іншымі словамі па законах граматыкі канкрэтнай мовы.

2. Лексічнае значэнне — гэта значэнне лексічных адзінак, граматычнае — значэнне не саміх слоў, а іх граматычных форм.

---

[24] Виноградов В. В. Русский язык. М., 1972. С. 16.

[25] Смирницкий А. И. Лексическое и грамматическое в слове // Вопросы грамматического в слове. М., 1955. С. 15.

3. Лексічнае значэнне ўласціва аднаму канкрэтнаму слову і асобным кампанентам сінанімічнага раду (пры іх наяўнасці), граматычнае значэнне — цэламу класу слоў (напрыклад, значэнне адушаўлёнасці-неадушаўлёнасці могуць мець усе назоўнікі, значэнне прошлага часу — усе дзеясловы).

4. Лексічнае значэнне названа ў слове і ўласціва ўсім яго формам, граматычнае — не названа ў слове і ўласціва часцей за ўсё адной з форм (зрэдку некалькім або ўсім).

5. Лексічнае значэнне выражаецца каранёвай марфемай, граматычнае — некаранёвымі марфемамі (канчаткамі, прыстаўкамі, суфіксамі, націскам і г. д.). Напрыклад, у назоўніка *лыжы* граматычнае значэнне множнага ліку выражаецца канчаткам, у дзеяслова *зрабіць* значэнне закончанага трывання афармляецца прыстаўкай, суфікс *-ейш-* прыметніка *цудоўнейшы* ўтварае вышэйшую ступень, пры дапамозе націску ўтвараюцца многія суадносныя пары дзеясловаў па трыванню *(наліць—наліваць)*, у назоўнікаў *чалавек—людзі* граматычнае значэнне ліку выражаецца суплетыўнымі формамі. Лексічнае і граматычнае значэнні цесна звязаны паміж сабой.

Такім чынам, лексічнае значэнне слова абумоўлена, з аднаго боку, адносінамі да пазамоўнай рэчаіснасці, з другога — сістэмнымі сувязямі з іншымі словамі (месцам слова ў моўнай структуры).

Агульна прызнанае палажэнне аб адзінстве лексічнага і граматычнага значэнняў у слове складае метадалагічную аснову вывучэння лексічнага значэння слова. Гэтым зроблены значны ўклад у тэорыю лексічнага значэння слова. Тым не менш праблема лексічнага значэння слова ўсё яшчэ існуе, нягледзячы на ўсё большую цікавасць да яе як з боку лінгвістыкі, так і з боку прадстаўнікоў сумежных з ёю навук (псіхалінгвістыкі, сацыялінгвістыкі, логікі, агульнай семіётыкі і інш.).

З часу выдзялення семасіялогіі як самастойнай лінгвістычнай навукі (першая палова XX ст.) па праблеме «значэнне слова» апублікавана шмат прац, у якіх значэнне слова аналізуецца ў самых розных аспектах, з самых розных метадалагічных пазіцый [26].

---

[26] Звегинцев В. А. Семасиология. М., 1957; Арнольд И. В. Проблема закономерности семантических изменений в истории западноевропейских семасиологических теорий / Учен. зап. Ин-та им. Герцена. Т. 154. Л., 1958; Яго ж. Семантическая структура в современ-

Па меры вывучэння сістэмнасці ў мове наогул (у лексіцы ў тым ліку) азначэнне лексічнага значэння слова ўсё больш ставіцца ў залежнасць ад лексічнай сістэмы мовы, ад яго граматычнага ладу і спецыфікі той часціны мовы, да якой пэўнае слова належыць. Паводле азначэння В. У. Вінаградава, лексічным значэннем слова з'яўляецца яго «прадметна-рэчыўны змест, які аформлены па законах граматыкі дадзенай мовы і з'яўляецца элементам агульнай семантычнай сістэмы слоўніка гэтай мовы»[27]. З гэтых жа метадалагічных пазіцый інтэрпрэтуюць значэнне слова Н. Н. Амосава, І. В. Арнольд, В. А. Звягінцаў, В. М. Нікіцін, А. І. Смірніцкі, Д. М. Шмялёў і інш. Інтэрпрэтацыі лексічнага значэння вар'іруюцца ў залежнасці ад таго, якому з фактараў аддаецца перавага — логіка-прадметнаму зместу, граматычнаму ладу мовы, суадносным сэнсавым сувязям у лексіка-семантычнай сістэме або парадыгматычным адносінам.

У савецкім мовазнаўстве, у прыватнасці ў працах В. С. Ахманавай, С. Г. Беражана, В. Г. Гака, М. І. Комлева, Л. А. Лісічэнкі, А. А. Уфімцавай, Д. М. Шмялёва і інш., семантычная структура слова разглядаецца як складанае цэлае, у якім можна вычленіць розныя па сваёй прыродзе кампаненты. У сучасных семасіялагічных працах тэрмін «паняцце» выкарыстоўваецца рэдка. Замест яго прынята ўжываць тэрмін «сігніфікат», а замест слова «прадмет» — «дэнатат».

Большасць даследчыкаў прытрымліваецца думкі, што лексічнае значэнне слова ўяўляе сабой дыялектычнае адзінства дэнататыўных, сігніфікатыўных, структурных і прагматычных кампанентаў.

Дэнататыўны (прадметны) кампанент вызначаецца адносінамі формы слова да дэнатата (факта рэальнай рэчаіснасці, які яна абазначае). Дэнататыўнае значэнне ўяўляе сабой канкрэтную частку зместу лексічнага значэння, звязаную з рэальным існаваннем прадмета і пачуццёвым уяўленнем аб ім. Дэнататыўнае значэнне ўласціва як словам, якія абазначаюць канкрэтныя, адзіныя ў сваім родзе прадметы і з'явы аб'ектыўнай рэчаіснасці

---

ном английском языке и методика ее исследования. Л., 1966; А. А. Уфимцева. Лексическое значение: Принцип семасиологического описания лексики. Л., 1986; Плотников Б. А. Основы семасиологии. Мн., 1984.

[27] Виноградов В. В. Основные типы лексических значений слова // ВЯ. 1953. № 5. С. 10.

*(неба, месяц, суткі, сусвет, усход)*, так і ўсёй сукупнасці, цэламу класу падобных яму прадметаў *(дрэва, гара, стол, калодзеж)*.

Сігніфікатыўны (паняційны) кампанент вызначаецца адносінамі слоў (славесных знакаў) да сігніфікатаў (абазначаемых імі паняццяў, уяўленняў). Сігніфікатыўны кампанент лексічнага значэння слова ў параўнанні з дэнататыўным уяўляе сабой абстрактную частку зместу значэння, якая адлюстроўвае розныя віды і ступені абстракцыі ўнутраных, найбольш істотных прымет дадзенага аб'екта. Сігніфікатыўны і дэнататыўны кампаненты (г. зн. абстрактнае і канкрэтнае ў значэнні слоў) разглядаюцца як узаемазвязаныя і не супрацьпастаўляюцца. Існуюць розныя думкі наконт таго, ці варта размяжоўваць гэтыя два кампаненты. Напрыклад, А. А. Уфімцава [28] выдзяленне сігніфікатыўнага і дэнататыўнага кампанентаў разглядае як неабходную ўмову размежавання, з аднаго боку, адлюстравання прадмета, з другога боку, яго ўласцівасцей і характарыстык. І. А. Сцярнін [29], наадварот, адстойвае правамернасць аб'яднання прадметнага і паняційнага кампанентаў слова ў адзін кампанент (дэнатат) на той падставе, што паміж гэтымі кампанентамі ў некаторых пластах лексікі (асабліва абстрактнай) немагчыма правесці чоткую мяжу.

Паняційны аспект семантыкі слова разглядаецца таксама ў логіцы, філасофіі, псіхалогіі.

Структурны кампанент лексічнага значэння слова ўяўляе сабой сукупнасць адносін слова да іншых лексічных адзінак: а) на парадыгматычнай восі (дыферэнцыяльнае значэнне або значымасць); б) на сінтагматычнай восі (сінтаксічнае значэнне або валентнасць).

Прагматычны кампанент лексічнага значэння слова характарызуе слова праз адносіны да яго зместу людзей, якія размаўляюць на дадзенай мове. Змест аднаго і таго ж слова можа ўспрымацца носьбітамі мовы па-рознаму, у залежнасці ад ступені адукацыі, узросту, светапогляду чалавека і г. д.

У прагматычнае значэнне ўваходзіць таксама канатацыйны кампанент лексічнага значэння, які ўключае ацэначныя і эмацыянальна-экспрэсіўныя элементы зна-

---

[28] Уфимцева А. А. Значение слова... С. 94—95.

[29] Стернин И. А. Проблемы анализа структуры значения слова. Воронеж, 1979. С. 10.

чэння. У адрозненне ад дэнататыўнага і сігніфікатыўнага кампанентаў, якія складаюць ядро лексічнага значэння слова, структурны і прагматычны кампаненты размяшчаюцца на перыферыі.

Зыходзячы з разумення лексічнага значэння слова як складанай і шматаспектнай катэгорыі, што займае цэнтральнае месца ў лексічнай сістэме мовы, А. А. Уфімцава прапануе наступную яго сінтэзаваную фармуліроўку: «...Лексічнае значэнне паўназначнага слова ўяўляе сабой ідэальную сутнасць, якая адлюстроўвае рэальныя рэчы, з'явы і іх сувязі ў прадметным свеце, а таксама панятцці і ўяўленні кваліфікатыўных (ацэначных) этычных і псіхічных сфер носьбітаў мовы»[30].

Разгледжаныя прыметы і састаўныя элементы лексічнага значэння слова даюць самае агульнае ўяўленне аб яго сутнасці. Больш поўна і больш глыбока прырода і сутнасць лексічнага значэння будзе раскрыта ў працэсе вывучэння лексіка-семантычнай сістэмы беларускай мовы, пры аналізе асобных лексічных груп, тыпаў залежнасці паміж словамі, пры вызначэнні сэнсавых адценняў асобнага слова.

## § 3. МНАГАЗНАЧНАСЦЬ СЛОЎ

У кожнай мове, у тым ліку і беларускай, ёсць нямала слоў, якія маюць толькі адно лексічнае значэнне: *грубка* — 'невялікая пакаёвая печ, звычайна для абагрэву'; *дудар* — 'музыкант, які іграе на дудзе'; *жак* — 'рыбалоўная прылада: нерат з двума крыламі'; *кадаўб* — 'драўляная пасудзіна, выдзеўбаная з суцэльнага кавалка драўніны'. У лексікалогіі такія словы прынята называць адназначнымі, або монасемантычнымі і монасемічнымі (ад грэч. *monos* — адзін і *sēmantikos* — азначальны), а ўласцівасць мець адно значэнне — адназначнасцю, або монасеміяй.

Адназначныя словы процідастаўляюцца словам мнагазначным, або полісемантычным і полісемічным (ад грэч. *poly* — многа і *sēma* — знак). Так, слова *дарога* ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» мае 5 значэнняў: 1. Прыстасаваная для язды і хадзьбы паласа зямлі, якая злучае асобныя пункты мясцовасці. 2. Працягласць шляху, адлегласць, якую патрэбна прайсці,

[30] Уфимцева А. А. Лексическое значение: Принцип семасиологического описания лексики. С. 16.

праехаць і пад. 3. Месца для праходу, праезду. 4. Падарожжа, паход, паездка. 5. Напрамак руху.

Здольнасць аднаго слова адначасова, сінхранічна ўжывацца ў розных значэннях прынята называць мнагазначнасцю, або полісеміяй.

Праблема мнагазначнасці слова была і застаецца прадметам асаблівай увагі лінгвістаў. У поглядах на мнагазначнасць слова, на характар сувязей паміж асобнымі значэннямі ў яго структуры няма адзінства. Частка даследчыкаў (у айчынным мовазнаўстве А. А. Патабня і Л. У. Шчэрба) цалкам адмаўляе магчымасць існавання ў мове полісеміі і ўсе выпадкі называння розных прадметаў і з'яў адным і тым жа гукавым комплексам адносіць да аманіміі. Некаторыя з даследчыкаў (напрыклад, Р. А. Якабсон) прызнаюць полісемію, але ўсе значэнні мнагазначнага слова аб'ядноўваюць адным «агульным значэннем».

Большасць сучасных айчынных мовазнаўцаў (В. С. Ахманава, В. У. Вінаградаў, С. П. Сухоцін, А. А. Уфімцава, Д. М. Шмялёў і інш.) разглядае мнагазначнасць як рэальную з'яву (адным словам можа перадавацца некалькі звязаных паміж сабою значэнняў). З пашырэннем сістэмнага падыходу да мовы ў сучаснай семантыцы «асобныя значэнні» ці «лексіка-фразеалагічныя формы» мнагазначнага слова ўсё часцей называюцца «лексіка-семантычнымі варыянтамі» (ЛСВ) (А. І. Смірніцкі, М. В. Нікіцін, А. А. Уфімцава, І. А. Сцярнін, У. А. Звягінцаў і інш.).

Мнагазначнасць слова адлюстроўвае парадыгматычныя сувязі толькі некалькіх значэнняў (ЛСВ), якія належаць да моўнай структуры. Гэта значыць, што сістэма мнагазначнага слова ахоплівае не ўсе існуючыя значэнні (ЛСВ) слова, а толькі агульнапрынятыя, трывала замацаваныя ў моўнай практыцы. Значэнні, якія ўжываюцца ў не ўласцівых таму ці іншаму слову семантычных сувязях, як правіла, не выдзяляюцца ў слоўніках на той падставе, што яны не з'яўляюцца прыналежнасцю моўнай структуры. Напрыклад, у спалучэннях слоў *піла святло імгла, зямля пяе, раніца цвярозая* (Р. Барадулін) словы *піць, спяваць, цвярозы* ўжыты ў пераносных, сітуацыйных значэннях. Гэтыя значэнні звязаны з асноўнымі значэннямі названых слоў не агульнымі элементамі сэнсу, а толькі семантычна неістотнымі для асобных значэнняў (так званымі асацыятыўнымі) прыметамі.

Полісемантычнае слова не з'яўляецца простай сукупнасцю намінатыўных адзінак з семантычна звязанымі значэннямі. Усе яго значэнні (ЛСВ) знаходзяцца ў пэўных сувязях і ўяўляюць сабой мікрасістэму з чоткай арганізацыяй складаных частак. Семантычная сувязь паміж значэннямі асноўваецца на тым, што ў значэннях выяўляюцца агульныя семантычныя элементы, што дае падставу лічыць іх значэннямі аднаго і таго ж слова ў адрозненне ад значэнняў слоў-амонімаў.

Значэнні мнагазначных слоў могуць знаходзіцца не ў аднолькавых адносінах адно з другім. У адных словах яны звязаны агульным семантычным стрыжнем, у другіх — нагадваюць ланцуг паслядоўна звязаных значэнняў, у якіх агульная сэнсавая частка выяўляецца толькі паміж двума сумежнымі значэннямі.

У полісемантычным слове адно са значэнняў успрымаецца як асноўнае, апорнае. Напрыклад, слова *кніжны* слоўнікі фіксуюць у наступных значэннях: 1) 'звязаны з кнігай'; 2) 'прызначаны для кніг'; 3) 'пачэрпнуты з кніг'; 4) 'характэрны для пісьмовага літаратурнага тэксту'. Усе гэтыя значэнні маюць агульную семантычную аснову 'які мае якія-небудзь адносіны да кнігі'. Яно і з'яўляецца першасным, прамым намінатыўным значэннем, на базе якога ўзніклі ўсе астатнія значэнні, і складае яго ўнутраную форму (паводле А. А. Патабні, «знак знака») [31]. Усе іншыя (прыватныя) ЛСВ, якія таксама выконваюць намінатыўную функцыю ў моўнай сістэме, але скіраваны не непасрэдна на прадмет, а ўсведамляюцца праз прамое намінатыўнае значэнне і паходзяць ад яго, называюцца другаснымі.

Пры прамым ужыванні слова называе замацаваны за ім у сістэме дэнатат (І. А. Сцярнін), пры пераносным — выкарыстоўваюцца толькі некаторыя адзнакі дэнатата. Для прамога ўжывання значэння характэрна ўстойлівасць, рэгулярнасць узнаўлення, для пераноснага — аказіянальнасць.

Прыватным выпадкам пераносу значэння з'яўляецца метафара і метанімія.

Метафарычныя пераносы найменаванняў адбываюцца па падабенству знешніх адзнак, формы прадметаў, ко-

---

[31] А. А. Патабня даводзіў, што слова складаецца з трох кампанентаў: гукавога комплексу, значэння і ўнутранай формы. Гл.: Потебня А. А. Из записок по русской грамматике. Т. 1—2. С. 17.

леру, функцый і інш. Напрыклад, пераноснае значэнне слова *дзюба* ('тонкі востры канец чаго-н.') узнікла па агульнасці формы, пераносныя значэнні слоў *люстра* ('аб тым, што з'яўляецца адлюстраваннем якіх-н. з'яў, працэсаў і пад.') і *магніт* ('тое, што прыцягвае, вабіць да сябе') — па агульнасці функцый.

Ёсць выпадкі, калі метафарычны перанос адбываецца адначасова паводле якіх-н. дзвюх прымет. Напрыклад, пераноснае значэнне слова *крыло* ('плоская паверхня самалёта, якая падтрымлівае яго ў паветры') развілося ў выніку падабенства па знешняму выгляду з крылом птушкі і па падабенству функцыі (служыць падтрымкай у паветры).

Метанімія — перанясенне найменавання па сумежнасці з'яў (прасторавай, часавай, лагічнай і інш.). Напрыклад, *лён* ('расліна', 'валакно гэтай расліны', 'тканіна з гэтага валакна'), *жніво* ('дзеянне, звязанае з уборкай збожжа', 'час, пара ўборкі ўраджаю'), *шкло* ('цвёрды, празрысты матэрыял', 'вырабы з гэтага матэрыялу').

Сінекдаха — замена назвы цэлага назвай асобнай яго часткі або наадварот (*галава* ў значэнні адзінкі падліку жывёлы). Нярэдка сінекдаха разглядаецца як від метаніміі. Выдзяляецца дзве разнавіднасці сінекдахі: 1) называнне замест цэлага часткі, якая ў пэўнай сітуацыі мае сэнс цэлага: *Моцна вучоны чалавек. Кніжкі друкуе свае, студэнтам лекцыі чытае ... Гэта, брат, г а л а в а!* (К. Крапіва); *Букрэй быў вядомы ў батальёне, як адважная, смелая камбінатарская г а л а в а, І яму ахвотна даручылі правесці разведку польскага тылу* (Я. Колас); 2) ужыванне аднаго ліку замест другога: *У маі 1945 года н е м е ц быў канчаткова разгромлены, народы святкавалі доўгачаканую перамогу.*

У выяўленні і канкрэтызацыі значэнняў мнагазначнага слова галоўную ролю адыгрывае кантэкст. Звычайна пад кантэкстам падразумяваецца славеснае, моўнае акружэнне. Разам з тым у паняцце «кантэкст» уключаюцца і пазамоўныя фактары, у прыватнасці сітуацыя, у якой адбываецца маўленне. У адпаведнасці з гэтым прынята выдзяляць дзве асноўныя разнавіднасці кантэксту: сітуацыйны і лінгвістычны.

Сітуацыйны кантэкст характарызуецца тым, што выдзяленне патрэбнага значэння абумоўліваецца як значэннем суседніх слоў, так і ўсімі граматычнымі адносінамі ў канкрэтным маўленчым адрэзку. Такім чынам,

лінгвістычны кантэкст — з'ява не чыста лексічная, а лексіка-граматычная.

Канкрэтнае значэнне мнагазначнага слова часцей за ўсё вызначаецца яго лексічнай спалучальнасцю з іншымі словамі: *мармуровыя калоны палаца культуры, тракгарная калона, калона салдат, калоны дэманстрантаў; ступіць крок уперад, страявы крок, зрабіць няправільны крок у жыцці, новы крок у асваенні космасу, за два крокі нічога не відаць.* У некаторых спалучэннях значэнні мнагазначных слоў выступаюць як фразеалагічна звязаныя: *пятая калона, крок за крокам.*

У радзе выпадкаў для ўдакладнення таго, у якім значэнні ўжыта тое ці іншае слова, неабходны больш шырокі кантэкст або сітуацыя.

Выдзяленне патрэбнага значэння вызначаецца не толькі лексічнай спалучальнасцю і словаўтваральнымі асаблівасцямі, але і ўсімі граматычнымі адносінамі ў канкрэтным маўленчым адрэзку. Параўнаем дзеяслоўнае кіраванне: *варушыць* каго-н. або што-н.— *варушыць* чым, *галасаваць* што — *галасаваць* за каго-н. або за што-н.

Колькасць ЛСВ слова не з'яўляецца пастаяннай. У працэсе развіцця мовы могуць узнікнуць новыя і страчвацца старыя значэнні. Напрыклад, слова *цэнтрыфуга* спачатку азначала 'сепаратар, заснаваны на дзеянні адцэнтрабежнай сілы'. З развіццём касмічных даследаванняў яно набыло яшчэ адно значэнне — 'апарат для трэніроўкі касманаўтаў, пабудаваны па прынцыпу цэнтрыфугі'. А слова *тормаз* 'прылада для запавольвання руху, спынення транспарту і інш.' у працэсе ўжывання ў сферах дзейнасці набыло значэнне 'тое, што затрымлівае што-н., не дае развівацца, рухацца наперад; перашкода, затрымка'.

Новыя значэнні слова набывае ў працэсе функцыяніравання і толькі затым становіцца элементам лексічнай сістэмы. Знешне слоўнікавы склад мовы змяняецца мала заметна, паколькі проста старая форма напаўняецца новым зместам. Устойлівасць слоўнікавага складу забяспечваецца за кошт таго, што прамое намінатыўнае значэнне, якое з'яўляецца базавым для ўтварэння новых значэнняў, досыць устойлівае. Расшырэнне значэння слова адбываецца ў тых выпадках, калі ў новым ужыванні слова ахоплівае большае кола паняццяў (уяўленняў), г. зн. можа быць ужыта як спосаб называння шырэй, чым

раней[32]. Слова *кола*, напрыклад, спачатку абазначала 'суцэльны або са спіцамі круг, што круціцца на восі і забяспечвае рух сродкаў перамяшчэння (калёс, аўтамашыны і пад.)', а цяпер у беларускай мове мае яшчэ 7 значэнняў: 'дэталь механізма або машыны ў выглядзе круга для перадачы або рэгулявання руху'; 'пра ўсё, што мае форму круга або кальца'; 'тое, што акружае, замыкаецца вакол чаго-н.'; '*перан.* Пералік, аб'ём чаго-н.'; '*перан.* Галіна, сфера якой-н. дзейнасці'; '*перан.* Група людзей, аб'яднаных якімі-н. сувязямі'; '(*звыч. мн. колы*), *перан.* Грамадскія, прафесіянальныя групоўкі людзей'. Кожнае з вытворных значэнняў больш шырокае ў параўнанні з першасным, прамым, значэннем.

Звужэнне значэння слова адбываецца за кошт абмежавання кола з'яў, якое яно абазначае. Напрыклад, слова *городище* ў старабеларускай мове мела 2 значэнні: 1) 'умацаванае пасяленне, гарадок'; 2) 'месца, дзе захаваліся рэшткі старажытнага пасялення'. У сучаснай беларускай мове яно ўжываецца толькі ў другім значэнні. Першае значэнне, найбольш старажытнае, засведчанае летапісамі з XI ст., ужо страчана.

Семантычная структура мнагазначнага слова — гэта не замкнёная ў сабе сістэма, а сістэма, цесна звязаная з іншымі тыпамі мікрасістэм у лексічным складзе — аманімічнымі і сінанімічнымі групамі, антанімічнымі парамі. Характар сувязі мнагазначнага слова з іншымі семантычнымі групамі разглядаецца ніжэй.

## § 4. ТЫПЫ ЛЕКСІЧНЫХ ЗНАЧЭННЯЎ

У сувязі з прызнаннем мнагазначнасці слова (існавання слова ў розных семантычных варыянтах) узнікае пытанне аб класіфікацыі (упарадкаванні) тыпаў лексічных значэнняў (ЛСВ) мнагазначнага слова.

В. У. Вінаградаў, які адным з першых у айчынным мовазнаўстве звярнуўся да гэтага пытання, выдзяляе 4 тыпы лексічных значэнняў слоў: 1) прамыя, намінатыўныя; 2) фразеалагічна звязаныя; 3) функцыянальна-сінтаксічна абмежаваныя; 4) канструктыўна абумоўленыя[33].

---

[32] Булаховський Л. А. Нариси з загального мовознавства. Київ, 1955. С. 58.

[33] Виноградов В. В. Основные типы лексических значений слова // ВЯ. 1953. № 5. С. 12.

У аснову выдзялення тыпаў лексічных значэнняў могуць быць пакладзены розныя прыметы. Па характару суаднесенасці з рэчаіснасцю адрозніваюцца значэнні прамое // непрамое (ці пераноснае), па ступені матываванасці — вытворнае // невытворнае, па спосабу кантэкстуальнай сувязі — свабоднае // несвабоднае, па характару выконваемых функцый — намінатыўныя // экспрэсіўна-сінанімічныя, па граматычнай арганізаванасці — граматычна не абумоўленыя // граматычна абумоўленыя і інш.[34]

Асноўным (цэнтральным) тыпам лексічнага значэння з'яўляецца п р а м о е намінатыўнае значэнне — значэнне, якое непасрэдна (прама) накіравана на прадметы, з'явы, дзеянні і якасці аб'ектыўнай рэчаіснасці і адлюстроўвае іх грамадскае разуменне. Пры дапамозе прамога намінатыўнага значэння не толькі вызначаюцца, але і называюцца паняцці. Пры прамым ужыванні слова называе замацаваны за ім у сістэме дэнатат (клас ідэнтычных прадметаў) (І. А. Сцярнін).

П е р а н о с н а е (прыватнае) значэнне з'яўляецца ў выніку пераносу прамога (асноўнага) абазначэння прадмета на новы прадмет. Прыватнымі выпадкамі пераносу значэння з'яўляецца метафара, метанімія, сінекдаха.

Па ступені матываванасці, як вышэй адзначалася, выдзяляюцца н е в ы т в о р н а е (нематываванае, першаснае) і в ы т в о р н а е (матываванае першым, зыходным значэннем, якое з'яўляецца другасным) значэнні. Параўнаем, напрыклад, словы *хлеб, рука, хлебны, ручны, ручнік.* З іх першыя два адносяцца да нематываваных, а тры наступныя — да матываваных, вытворных. Вытворныя словы, паводле Д. М. Шмялёва, маюць «звязанае» ў дэрывацыйных адносінах значэнне, само ж зыходнае слова адносна свабоднае.

Кожнае з вытворных намінатыўных значэнняў слова па функцыі, выкарыстанню або паводле іншых адзнак заўсёды звязана з першасным. У прыватнасці, два або больш намінатыўных значэнняў могуць перадавацца адным словам. Адно з такіх значэнняў з'яўляецца асноўным, а іншыя — вытворныя. Вытворныя намінатыўныя значэнні, як і асноўныя, выяўляюць вялікую стойкасць, забяспечваючы гэтым магчымасць паўней і шырэй ад-

[34] Фомина М. И. Современный русский язык: Лексикология. С. 36; Попова З. Д. Общее языкознание. Воронеж, 1987.

люстроўваць моўнымі спосабамі пазнаную чалавекам рэчаіснасць.

Пры наяўнасці шырокай лексічнай спалучальнасці значэнні называюцца свабоднымі. Напр.: *дарога вузкая, шырокая, доўгая, кароткая, блізкая, далёкая* і інш. Свабодныя намінатыўныя значэнні служаць асновай усяго семантычнага ладу мовы.

Пры наяўнасці абмежаванай лексічнай спалучальнасці значэнні называюцца несвабоднымі. Лексічна несвабодныя значэнні слоў падзяляюцца на дзве групы: фразеалагічна звязаныя і сінтаксічна абумоўленыя (з разнавіднасцю канструктыўна абумоўленых).

Фразеалагічна звязанае значэнне рэалізуецца толькі ва ўмовах пэўных словазлучэнняў дадзенага слова з вузка абмежаваным, устойлівым колам лексічных адзінак, г. зн. у так званых фразеалагічных словазлучэннях. Агульнапрадметнае ядро ў гэтых словазлучэннях не выступае так рэльефна, як у свабодным значэнні. Так, у слова *чорны* значэнне 'звязаны з горам, няшчасцем' выяўляецца толькі пры ўмове яго спалучэння з назоўнікам *дзень;* у слова *наламаць* значэнне 'нарабіць памылак пры выкананні чаго-н.' рэалізуецца толькі ў спалучэнні з назоўнікам *дроў.*

Граніцы фразеалагічна звязаных значэнняў вельмі вузкія: кола слоў, у спалучэнні з якімі праяўляюцца гэтыя значэнні, невялікае, нярэдка зводзіцца да аднаго слова (слова *гаручыя* выкарыстоўваецца толькі са словам *слёзы*).

Сінтаксічна абумоўленае значэнне — гэта такое пераноснае значэнне, якое праяўляецца толькі ў слове пры выкананні незвычайнай для яго функцыі ў сказе (В. У. Вінаградаў, паўторымся, назваў такія значэнні слоў «функцыянальна-сінтаксічна абумоўленымі»). Так, прамое значэнне слова *ліс* 'драпежная млекакормячая жывёліна сямейства сабачых з вострай мордай і доўгім пушыстым хвастом' рэалізуецца ў тым выпадку, калі слова выступае ў ролі дзейніка і дапаўнення. Напр.: *Як толькі яны ўзышлі на ўзлесак, адзін з хлапчукоў выпудзіў даўгахвостага ліса* (Ул. Шахавец). Пераноснае значэнне слова 'хітры, ліслівы чалавек' (разм.) развілося ў слова ў працэсе яго выкарыстання ў яўна не характэрнай для назоўніка функцыі — выказніка. Гэтае значэнне і з'яўляецца сінтаксічна абумоўленым. Напр.: *Ты стары ліс і хады ўсе ведаеш не горш за свайго пана, але параду*

Тыпы лексічных значэнняў

| Адзінка, пакладзеная ў аснову выдзялення лексічнага значэння | | | |
| --- | --- | --- | --- |
| 1. Суаднесенасць з рэальнасцю | Прамыя | Пераносныя | З патухлай вобразнасцю; З жывой вобразнасцю |
| 2. Ступень матываванасці (паходжанне) | Невытворныя (першасныя) | Вытворныя (другасныя) | |
| 3. Лексічная спалучальнасць | Свабодныя | Несвабодныя | Фразеалагічна звязаныя; Сінтаксічна абумоўленыя → Канструктыўна абмежаваныя |
| 4. Выконваемыя функцыі | Намінатыўныя | Экспрэсіўна-сінанімічныя | |

*маю паслухай* (А. Пальчэўскі). У развіцці і зацвярджэнні падобных значэнняў вельмі істотную ролю адыгрывае кантэкст, які і абумоўлівае рэалізацыя патэнцыяльных семантычных магчымасцей слова.

Разнавіднасцю сінтаксічна абумоўленых значэнняў з'яўляюцца канструктыўна абмежаваныя значэнні. Да іх адносяцца такія, якія рэалізуюцца толькі ва ўмовах пэўнай сінтаксічнай канструкцыі, г. зн. у спалучэнні з іншымі словамі, колькасць і склад якіх могуць быць нічым не абмежаваныя.

Па характару выконваемых функцый могуць быць выдзелены два віды лексічных значэнняў слова: уласна намінатыўныя і экспрэсіўна-сінанімічныя.

Намінатыўныя — такія значэнні, якія выкарыстоўваюцца перш за ўсё для называння прадметаў, з'яў, дзеянняў і да т. п. У семантычнай структуры слоў, што валодаюць падобным значэннем, як правіла, не адлюстраваны дадатковыя прыметы (напрыклад, ацэначныя). Аднак у працэсе далейшага ўжывання гэтыя прыметы могуць з'явіцца. Намінатыўным будзе значэнне слоў *ганарыцца, рухацца, ежа, расплата* і інш. Кожнае з іх непасрэдна суадносіцца з паняццем, называе яго.

Экспрэсіўна-сінанімічным называецца такое значэнне, у якім асноўным з'яўляецца канататыўная (эмацыянальна-ацэначная) прымета.

Розныя тыпы лексічных значэнняў слова М. І. Фаміна[35] наглядна паказала на пададзенай вышэй схеме.

---

[35] Фомина М. И. Современный русский язык: Лексикология. С. 44.

# Частка 1
# ФАРМІРАВАННЕ СЛОЎНІКАВАГА САСТАВУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## Уступныя заўвагі:
## Гісторыка-этымалагічная характарыстыка беларускай лексікі

Лексічная сістэма сучаснай беларускай літаратурнай мовы ахоплівае цяпер многія сотні тысяч слоў, розных як па часу ўзнікнення, так і па паходжанню. Фарміраванне яе, як і самой беларускай мовы, непарыўна звязана з гісторыяй народа: адпаведна таму, як адбывалася фарміраванне народа на стадыях рода, племені, народнасці і нацыі, ішло развіццё і беларускай мовы ад родавых і племянных моў праз мову народнасці да мовы нацыі. Гэту складаную гісторыю народа мова адлюстравала ў сваім слоўнікавым складзе.

Уласная гісторыя беларускай мовы пачынаецца з XIII—XIV стст., калі старажытнаруская дзяржава Кіеўская Русь распалася на асобныя землі і княствы, а на месцы адзінай старажытнарускай народнасці ў новых гістарычных умовах пачалі фарміравацца тры асобныя ўсходнеславянскія народнасці — руская, беларуская, украінская і адпаведна мовы гэтых народнасцей. Усходнеславянскія мовы ўнаследавалі са старажытнарускай мовы асноўны слоўнікавы фонд, што выпрацаваўся яшчэ ў перыяды індаеўрапейскага, агульнаславянскага і агульнаўсходнеславянскага моўных адзінстваў. Гэты фонд з'явіўся базай для фарміравання лексічных сістэм усходнеславянскіх моў пры выхадзе кожнай з іх на самастойны шлях развіцця.

Развіццё лексікі — гэта двухбаковы абнаўленчы працэс: паступовае «старэнне» і знікненне адных слоў і бесперапыннае папаўненне мовы неабходнымі намінатыўнымі сродкамі для абазначэння новых прадметаў, з'яў, паняццяў. Утварэнне новых слоў адбываецца рознымі

спосабамі: шляхам афіксацыі, аснова- і словаскладання, змянення семантыкі традыцыйных слоў, канверсіі і абрэвіяцыі, шляхам запазычвання або калькавання іншамоўных слоў і інш.

Пэўнае ўяўленне аб лексічных багаццях сучасных нацыянальных літаратурных моў можна атрымаць па вялікіх акадэмічных тлумачальных слоўніках. «Словарь современного русского литературного языка» (т. 1—17, 1948—1965) змяшчае, напрыклад, 120480 слоў, «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—1984) — 105056 слоў і фразеалагізмаў, «Словник української мови» (т. 1—11, 1970—1980) — звыш 134 тыс. Аднак адлюстраванне лексікі ў слоўніках не з'яўляецца поўным, паколькі асобныя катэгорыі нават агульнаўжывальных слоў свядома ў слоўнікі не ўключаюцца. Лічыцца, напрыклад, што лексіка рускай літаратурнай мовы без спецыяльных тэрміналогій (лексіка ў вузкім сэнсе) ахоплівае прыблізна 300000 слоў, а з уключэннем тэрміналогій прыродазнаўчых, грамадскіх і тэхнічных навук, усіх галін прамысловасці, сельскай гаспадаркі, транспарту, сувязі, гандлю, сферы абслугоўвання і інш. (лексіка ў шырокім сэнсе) «змяшчае менш чым 1 млн. слоў, але яўна больш за 300000» [1]. Гэта ж можна сказаць і пра лексіку беларускай мовы.

Калі разглядаць беларускую лексіку па часу ўзнікнення асобных слоў і цэлых груп, то ў яе складзе ўмоўна можна вылучыць тры асноўныя гістарычныя пласты:

1) спрадвечную лексіку — самы стары лексічны фонд, атрыманы праз старажытнарускую мову з папярэдніх эпох;

2) лексіку перыяду беларускай народнасці (XIV—XVIII стст.);

3) лексіку перыяду беларускай нацыі (XIX—XX стст.).

Пры разглядзе ж лексікі з пункту гледжання яе паходжання ў кожным з названых пластоў побач са словамі, што з'явіліся ў выніку арыгінальнага словаўтварэння, выяўляюцца словы, якія ўзыходзяць да адпаведных іншамоўных прататыпаў, г. зн. словы іншамоўнага паходжання. У залежнасці ад часу і крыніцы запазычвання іншамоўныя словы прайшлі розную ступень адаптацыі ў беларускай мове. Адны з іх аказаліся поўнасцю

---

[1] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980. С. 54.

асвоенымі і цяпер як іншамоўныя словы зусім не ўспрымаюцца, другія ў большай ці меншай меры яшчэ захоўваюць прыметы мовы-крыніцы і гэтым вылучаюцца сярод астатніх слоў. Неабходныя агаворкі наконт гэтага будуць рабіцца пры характарыстыцы кожнага з названых пластоў лексікі.

## Раздзел I

# СПРАДВЕЧНАЯ ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## § 1. ІНДАЕЎРАПЕЙСКІ ПЛАСТ ЛЕКСІКІ

Індаеўрапейскія словы (індаеўрапеізмы) — гэта самыя старажытныя карэнныя словы, што былі ўнаследаваны праз агульнаславянскую і старажытнарускую мовы з індаеўрапейскай мовы-асновы і складаюць цяпер ядро беларускай лексікі. Індаеўрапейская прамова — гэта гіпатэтычная мова індаеўрапейцаў, рэканструяваная параўнальна-гістарычным метадам. Як узнікла індаеўрапейская моўная роднасць, якія канкрэтныя гістарычныя падзеі адпавядалі яе паяўленню і ранняму яе развіццю, застаецца невядомым. Наконт гэтага выказваюцца толькі больш або менш верагодныя здагадкі. Шукаемай, а не даставернай велічынёй з'яўляюцца тэрыторыя («прарадзіма»), на якой фарміравалася старажытная індаеўрапейская мова, і час узнікнення індаеўрапейскай моўнай супольнасці. Розныя ўскосныя меркаванні (прамых сведчанняў няма) дазваляюць думаць, гаворыць Ф. П. Філін, што самая старажытная індаеўрапейская мова складвалася ў стэпавых і лесастэпавых абласцях паміж Волгай і Дунаем [1]. Выказаны і іншыя гіпотэзы.

Перыяд распаду ўяўнага індаеўрапейскага адзінства ўстанаўліваецца больш верагодна. З улікам таго, што ўжо ў III тысячагоддзі да н. э. існавалі асобныя індаеўрапейскія мовы, лакалізаваныя на аддаленых адна ад другой тэрыторыях (Індыя, Іран, Сярэдняя Азія, Турцыя, паўднёварускія стэпы і інш.), і што для такога рассялення і развіцця новаўтварэнняў у кожнай мове патрабаваўся значны час, выказваецца меркаванне, што распад інда-

[1] Филин Ф. П. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. Л., 1972. С. 6.

еўрапейскага моўнага адзінства адбыўся не пазней IV тысячагоддзя да н. э. У выніку гэтага распаду ўтварыліся індыйская, іранская, балтыйская, германская, раманская, кельцкая, італійская, славянская і іншыя групы моў, роднасных паміж сабой у рознай ступені.

У перыяд распаду індаеўрапейскай прамовы людзі жылі плямёнамі, займаліся збіральніцтвам, паляваннем, рыбнай лоўляй, пераходзілі да земляробства і жывёлагадоўлі, пачыналі развіваць рамёствы, у іх паяўляецца выяўленчае мастацтва: малюнкі жывёл, скульптуры з косці, рагоў, каменя, гліны. У працэсе практычнай дзейнасці ў людзей гэтай эпохі была накоплена пэўная сістэма ведаў аб навакольным свеце, прыродзе і аб сабе.

Такі ўзровень матэрыяльнай і духоўнай культуры носьбітаў індаеўрапейскай прамовы ў пэўнай меры і адлюстроўваюць тыя словы, што дайшлі да нас праз агульнаславянскую і старажытнарускую мовы. Сярод індаеўрапеізмаў можна вылучыць тэматычныя групы слоў, што абазначаюць:

— тэрміны роднасці, сваяцтва і іншых адносін паміж людзьмі: *брат, госць, дзевер, дзед, друг, зяць, люд, маці, свякроў, сын, сястра;*

— назвы частак чалавечага цела і цела жывёліны: *бровы, вока, вуха, вымя, грудзі, грыва, зоб, зуб, калена, каса* (валасы), *кроў, мозг, нос;*

— назвы раслін і іх частак: *бяроза, вярба, віка, гарох, дуб, зерне, іва, кара, клён, лён, луб, мох, салома, семя;*

— найменні жывёл і іншых жывых істот: *алень, аса, блыха, бабёр, воўк, вуж, выдра, дрозд, жаба, жуpавель, звер, каза, карова, мыш;*

— назвы прадметаў і з'яў прыроды: *агонь, балота, бераг, бор, вецер, вугаль, вада, гара, град, дым, мора, неба, раса, снег, холад;*

— часавыя паняцці: *век, вечар, дзень, зіма, ноч;*

— назвы жылля, пабудоў і іх частак, назвы гаспадарчых прылад, прадуктаў харчавання: *вароты, вугал, горад, дзвёры, дом, двор; вось, жорны, кола; мёд, мяса, соль;*

— некаторыя абстрактныя паняцці: *бог, бяда, вера, верх, дзіва, дух, імя, крык, мена;*

— прыметы і якасці: *босы, востры, крывы, новы, прамы, сівы, стары, сухі, сыры;*

— назвы дзеянняў, вытворчых працэсаў, стану: *біць, браць, брысці, брыць, будзіць, везці, віць, гарэць, гніць, даіць, дзець, дзяліць, драць, драмаць, дуць, есці, жраць,*

*жыць, зваць, ісці, калоць, капаць, кіпець, легчы, лізаць, мясіць, пісаць, піць, плакаць, плесці, плыць, пляваць, сесці, сячы, цадзіць, чуць.*

Індаеўрапеізмамі ў беларускай мове з'яўляюцца некаторыя словы іншых часцін мовы: лічэбнікі — *два, тры, сто;* займеннікі — *вы, сам, ты;* прыназоўнікі — *аб, па, пры, пра, у;* злучнікі — *а, ды;* часціцы, выклічнікі — *а, жа, не, чуць* і інш.

Пераважная большасць індаеўрапеізмаў — гэта аднакарэнныя, невытворныя словы; яны маюць адпаведнікі ва ўсіх індаеўрапейскіх мовах або ў асобных іх групах. Напр.:

бел. **дзень,** укр. *день,* руск. *день,* польск. *dzień,* чэшск. *den,* балг. *ден,* ст.-рус. і стар.-слав. *дьнь* з прасл. *dьnь,* якое паходзіць з індаеўрап. **din-*; параўн.: літ. *dienà,* латыш. *diena,* ст.-пруск. *deinam,* ст.-інд. *dinam* 'дзень', алб. *ditë,* лац. *dies* 'дзень', ст.-ірланд. *denus* 'прамежак часу', гоцк. *teins* 'дзень';

бел. **дом,** укр. *дім,* руск. *дом,* балг. *домът,* серба-харв. *дом,* польск. *dom,* чэшск. *dům,* ст.-рус. і стар.-слав. *домъ,* што ўзыходзяць да прасл. *domъ* 'дом', **'жыллё'** і маюць адпаведнікі ў ст.-інд. *damos* 'дом', авесц. *dam-,* грэч. *δομος,* арам. *tun,* лац. *domus.*

У сучаснай беларускай мове выяўлен значны пласт балта-славянскай лексікі, які склаўся ў эпоху фарміравання праславянскай мовы на заходнебалтыйскім арэале. У гэты перыяд (канец II тысячагоддзя да н. э.—першыя стагоддзі н. э.) паявілася многа лексічных навацый, агульных для балтаў і славян, невядомых у іншых індаеўрапейскіх мовах. Сярод такіх наватвораў назвы прадметаў быту *(далато, жорны, ігла, кола, шчыт),* частак цела *(вус, галава, дзясна, лона, нага, ногаць, рука, чэрап, язва, язык),* асобныя назвы жывёл, рыб, птушак *(кляча, конь, куніца, асяцёр, салавей),* раслін *(авёс, боб, проса),* з'яў прыроды *(восень, лёд),* абстрактных паняццяў і якасцей *(чарада, вон, пусты),* некаторыя займеннікі *(мой, твой, свой)* і інш. Параўн.: бел. **далато** (<прасл. *dolbto*) — ст.-пруск. *dalptan* (<*dalbtan); **шчыт** (<прасл. *ščitъ*) — ст.-пруск. *staytan,* літ. *skiêtas,* латыш. *skiets;* **салавей** (<прасл. *solvьj*) — ст.-пруск. *salowis;* **чарада** (<прасл. *čerda*) — ст.-пруск. *kerdan* (він. скл. адз. ліку), літ. **ker-da;* **пусты** (<прасл. *pustъ*) — ст.-пруск. *pausto* 'дзікая' (пра кошку); **лінь** (<прасл. *linъ*) — ст.-пруск. *linis,* літ.

*lynas,* латыш. *linis;* **цесць** (<прасл. *tьstь*) — ст.-пруск. *tisties* і інш.[2] Па часу ўзнікнення гэты пласт лексікі з'яўляецца прамежкавым паміж агульнаіндаеўрапейскім і ўласна агульнаславянскім пластамі.

## § 2. АГУЛЬНАСЛАВЯНСКІ (ПРАСЛАВЯНСКІ) ПЛАСТ ЛЕКСІКІ

Гэты пласт у беларускай мове складаюць словы, якія былі ўнаследаваны старажытнарускай мовай з мовы славянскіх плямён, што вылучыліся з агульнаіндаеўрапейскага этнічнага адзінства прыблізна ў II тысячагоддзі да н. э.

Па праблеме глотагенезу славян цяпер маецца некалькі версій. Прывядзём толькі адну з іх, якая атрымлівае ўсё большае прызнанне: «Пачынаючы з XI ст. да н. э. на заходнебалтыйскім арэале фарміруецца славянскі моўны масіў. Уласна праславянскі складваецца паміж Одрай і Віслай у VI ст. да н. э. У пачатку н. э. масіў пашыраецца па Прыпяці ў басейн Дняпра, а ў VI ст.— за Одру і на Балканы»[3]. Можна меркаваць, што ў якасці адзінага сродку зносін агульнаславянская мова выкарыстоўвалася да пачатку н. э., а пазней, да VI—VII стст., яе адзінства было парушана з прычыны рассялення славянскіх плямён па шырокай тэрыторыі ад Віслы да сярэдняга цячэння Дняпра, ад Балкан да Балтыйскага мора.

Развіццё лексікі ў агульнаславянскі перыяд адбывалася па некалькіх лініях. Праславянская мова захавала значную долю індаеўрапейскіх слоў рознай тэматыкі і розных лексіка-граматычных класаў, падвергшы іх толькі нязначным фанетыка-марфалагічным і семантычным зменам, напр.:

— прасл. **bratr** 'брат' (сучаснае чэшск. таксама *bratr*) працягвае агульнаіндаеўрапейскую форму **bhrâter;* параўн.: ст.-інд. *bhrā́ta,* ст.-перс. *bhrā́ta,* лац. *fāter,* ст.-в.-ням. *bruoder,* пруск. *brote,* літ. *brolis* 'брат', латыш. *bralis* 'брат' і інш.;

— прасл. **zverъ** 'звер' адпавядае індаеўрапейскаму **ghver;* параўн.: грэч. θηρ 'драпежнік', 'жывёліна', лац. *ferus* 'дзікі', літ. *žveris,* латыш. *swiris* 'звер', ст.-пруск. *swiris* (він. скл. мн.) 'звер';

---

[2] Мартынов В. В. Праславянский язык и его место в западнобалтийском диалектном континууме // Докл. на X Междунар. съезде славистов. Мн., 1988.

[3] Там жа. С. 47.

— прасл. **malъ** 'малы' мае адпаведнікі ў іншых індаеўрапейскіх мовах: англ. *small* 'малы', лац. *malus* 'дрэнны', 'паганы', грэч. μηεογ 'малая худая авечка';

— прасл. ***pekt** 'пячы' адпавядае ст.-інд. *paktis*, грэч. πεφις і інш.

Індаеўрапейскую праформу ў агульнаславянскай мове захоўвалі некаторыя займеннікі *(jazъ, ty, tъ, kъto, čьto)*, лічэбнікі *(dъva, trьje, četyre)*, прыназоўнікі *(vъ, sъ, kъ, do)*, злучнікі і часціцы *(а, нъ, не, ни)* і інш.

Разам з тым агульнаславянская мова за шматвяковую гісторыю ў значнай меры відазмяніла індаеўрапейскі лексічны фонд, развіўшы на аснове архаічнага караняслова новыя мадэлі ўтварэння слоў пры дапамозе афіксаў, шляхам асноваскладання, чаргавання гукаў, пераасэнсавання ранейшых значэнняў і інш.

Сярод наватвораў агульнаславянскага перыяду больш за ўсё назоўнікаў, якія ўтварыліся пры дапамозе такіх прадуктыўных для свайго часу суфіксаў, як *-д*(а) (<-ьда), *-ец*(<-ьць), *-ін*(а), *-іц*(а), *-j*(а), *-к*(а) (<-ька), *-ок*(<-ъкъ), *-н, -р*(<-ръ), *-т, -тва, -т*(о), *-ц*(о) (<-ьце) і інш., напр.: *праўда* (утворана пры дапамозе суфікса *-ьда* (суч. *-да*) ад прыметніка *правыи* 'такі, якім павінен быць'); *шавец* (утворана з дапамогай суфікса *-ьць*(>ец) ад дзеяслова *шити*); *даліна* (утворана ад *долъ* 'ніз', 'яма' пры дапамозе суфікса *-ина*); *пшаніца (пьшено+ица); дань (дати+нь); дар (дати+ръ); яйцо* (утворана пры дапамозе суфікса *-ьце*(>цо) ад *jaje* 'яйцо', што ўзыходзіць да індаеўрапейскага **aje*, развіўшага пачатковы *j*) і інш.

Прыметнікі ўтвараліся ад іменных асноў пры дапамозе суфіксаў *-к-(-ък-), -л-, -н-, -р-, -т-, -х-* і інш.: *вузкі, высокі, глыбокі; белы, кіслы, светлы; важны, годны, гнусны, цёмны; хітры; жоўты; глухі.* Утварэнне новых дзеясловаў адбывалася пераважна ад іменных асноў і гукапераймальных слоў пры дапамозе суфіксаў *-а-, -і-, -е-, -ну-* і інфінітыўнага суфікса *-ти* (бел. *-ць*): *чытаць, гагатаць, шлёпаць, кляпаць; гладзіць, мысліць, тварыць, гаварыць; гавець, храпець; кіснуць, пухнуць* і інш. Некаторыя новыя словы, што прыйшлі ў беларускую мову са старажытнарускай, былі ўтвораны ў агульнаславянскі перыяд прэфіксальна-суфіксальным спосабам *(даканаць, абуць, адвяргаць, зняць, узяць)*, шляхам асноваскладання *(ваявода, гасподзь, дзвесце, мядзведзь, чалавек)*, безафікснага спосабу ўтварэння назоўнікаў ад дзеяслоўных асноў цераз перагаласоўку *(сад, плыт, рад, рой)* і інш.

У беларускай, як і ў іншых славянскіх мовах, можна адзначыць і асобныя семантычныя неалагізмы, якія склаліся яшчэ ў перыяд агульнаславянскага моўнага адзінства. Так, праславянскае *berg у значэнні 'бераг' з'яўляецца семантычным наватворам, паколькі адпаведнае індаеўрапейскае слова (параўн. ст.-в.-ням. Berg) абазначае 'гара', «вышыня'. Праславянскае ščir 'шчыры', 'сапраўдны' таксама з'яўляецца наватворам праславянскай мовы, паколькі ў іншых індаеўрапейскіх мовах гэта слова мае другое значэнне, параўн.: гоцк. sceirs 'ясны', 'яўны', ст.-ісл. shirr 'чысты', 'ясны' і інш.

Акрамя ўласных агульнаславянскіх наватвораў у лексічны склад сучасных славянскіх моў перайшла і пэўная колькасць агульнаславянскіх запазычанняў з іншых індаеўрапейскіх і неіндаеўрапейскіх моў. Значная доля іх прыпадае на германскія мовы, што можа быць вытлумачана працягласцю непасрэдных кантактаў паміж праславянамі і германцамі. Сярод такіх запазычанняў можна назваць: *bljudo* 'міска' з гоцк. *bjudan; stьklo* 'шкло' з гоцк. *stikls* ('кілішак'), *kъnędzь* 'князь' са ст.-в.-ням. *kuning, myto* 'мыта' са ст.-в.-ням. *muta, pъlug* 'плуг' са ст.-в.-ням. *pfluog, karl* 'кароль' ад уласнага імя франкскага караля Карла Вялікага, *šelm* 'шалом', параўн.: гоцк. *hilms*, ст.-в.-ням. *hëlm* і інш.

Прыкладамі запазычанняў, якія трапілі ў праславянскую мову пры пасрэдніцтве іншых моў, могуць служыць: *kotьl* 'кацёл' з гоцк. *katils*, якое ў сваю чаргу з'яўляецца запазычаннем з лац. мовы, дзе *catinus* мае значэнне 'міска', 'чашка'; *osьlъ* 'асёл' з гоцк. мовы, дзе *asilus* узыходзіць к лац. *asinus; vino* 'віно' з'яўляецца агульнаславянскім запазычаннем праз германскае пасрэдніцтва з лацінскай мовы, дзе *vinum* разглядаецца як старое сярэдземнаморскае слова, этымалагічна звязанае са словамі *віць, ветка; satьrъ* 'шацёр' — агульнаславянскае запазычанне з цюркскіх моў, дзе гэта слова ўзыходзіць к перс. *čatr* 'шырма', 'шацёр' і інш.

Этымалогія асобных агульнаславянскіх слоў да цяперашняга часу застаецца да канца не раскрытай. Некалькі версій выказана, напрыклад, адносна паходжання слова *хмель*. Адны лічаць, што яно пранікла ў агульнаславянскую мову з усходу, другія ўзводзяць яго да адпаведных слоў з германскіх моў (параўн.: ст.-в.-ням. *homele*, ст.-сканд. *humli* і г. д.).

Праславянскія запазычанні як з індаеўрапейскіх, так

і неіндаеўрапейскіх моў паступова асвойваліся, станавіліся цэнтрам новых словаўтваральных гнёзд і ў сучасных славянскіх мовах як запазычанні не ўспрымаюцца. Слова *сабака*, напрыклад, якое, па меркаванню адных этымолагаў, з'яўляецца даўнім запазычаннем з мовы скіфаў (авесц. *spaka*, медзійск. *spaka*), а на думку другіх, узыходзіць да цюркскага *köbök*, у сучаснай беларускай мове з'яўляецца асновай для шырокага словаўтваральнага гнязда (**сабака** — *сабачы, сабачка, сабачаня, сабачнік, сабачына, насабачыцца*) і ўспрымаецца як спрадвечна беларускае слова.

Неалагізмы праславянскай эпохі адлюстравалі змены ў матэрыяльным і духоўным жыцці славян, развіццё іх грамадскай свядомасці. У тэматычным плане яны размеркаваліся нераўнамерна. Найбольшая іх колькасць прыпадае на тэматычныя групы канкрэтнай лексікі і меншая — на групы абстрактнай лексікі.

Значна папоўніліся новымі словамі тэматычныя групы, звязаныя з раслінным светам *(бор, дрэва, лес, рабіна, сасна, чаромха, ягада, ясень)*, з культурнымі раслінамі *(гарох, мак, пшаніца, ячмень)*, з назвамі жывёл *(баран, бык, варона, вол, змяя, акунь, камар, жук, мядзведзь, птах)*, з працэсамі і прыладамі працы *(барана, браць, біць, берагчы, вілы, каваць, мятла, сячы, ткаць, човен, тапор, сякера)*, з назвамі пабудоў і іх частак *(двор, сені, абора* (хлеў для кароў)), з назвамі страў і прадуктаў харчавання *(масла, мука, пірог, каша, кісель, сала, смятана, сыр, цеста, піва, мяса)*, з назвамі з'яў прыроды *(сонца, бура, віхор, іскра, даліна, востраў, ралля, паток, струмень)*. З праславянскай мовы былі ўнаследаваны многія тэрміны роднасці і сваяцтва *(айчым, баба, нявеста, нявестка, сват, сваяк, мачаха, унук, сястра)*, словы для абазначэння частак чалавечага цела *(гартань, губа, жоўць, рот, сцягно, сэрца, чало, цела, шыя)*, назвы дзеянняў, часавых паняццяў, прымет *(брысці, нюхаць, прасці; вясна, вечар, зіма; вялікі, вясёлы, злы, ласкавы, нямы, буйны, бліжні* і інш.).

Праз старажытнарускую мову беларуская ўнаследавала ад агульнаславянскай рад слоў для выражэння абстрактных паняццяў са сферы духоўнага жыцця чалавека і яго пачуццяў *(вера, воля, гнеў, жаласць, любоў, мудрасць, мысль, нянавісць, памяць, радасць, розум, слава, страх, чэсць)*, са сферы вераванняў і рэлігіі *(бес, блуд, віна, грэх, зло, кара, месць, праўда, рай)*, жыццядзей-

насці людзей (*быт, канец, старасць, смерць, труд*) і інш.[4]

Да цяперашняга часу дыскусійным застаецца пытанне аб колькасным складзе праславянскай лексікі. Гэты склад, на думку Ф. П. Філіна, можа быць устаноўлен толькі ў выніку самага ўважлівага параўнальна-гістарычнага вывучэння лексікі ўсіх славянскіх моў і дыялектаў. Каменціруючы вынікі назірання даследчыкаў праславянскай мовы (Т. Лера-Сплавінскага, які лічыў, што ў польскай мове захавалася звыш 1700 слоў, унаследаваных ад агульнаславянскай эпохі, А. М. Трубачова, які выявіў у этымалагічным слоўніку Фасмера 3191 слова), Ф. П. Філін робіць вывад: «Слоўнікавы састаў агульнаславянскай мовы, разумеецца, быў вельмі бедны ў параўнанні з лексікай любой сучаснай славянскай мовы, але ўсё ж слоў у ёй безумоўна больш чатырох тысяч»[5]. З некалькі іншага выпадку Ф. П. Філін удакладняе гэту сваю думку: «Пасля публікацыі выпускаў «Этымалагічнага слоўніка славянскіх моў» А. М. Трубачова і «Праславянскага слоўніка» (Slownik prasłowiański) пад рэдакцыяй Ф. Слаўскага мы атрымалі магчымасць даследаваць удзельную вагу агульнаславянскай і дыялектнай лексікі праславянскай эпохі. Выявілася, што слоў агульнаславянскага пашырэння ў праславянскай мове к часу яе распаду мелася менш, чым дыялектызмаў»[6]. Гэтыя дыялектызмы і склалі пазней спецыфіку асобных груп славянскіх моў (усходнеславянскай, заходнеславянскай і паўднёваславянскай).

## § 3. СТАРАЖЫТНАРУСКІ (АГУЛЬНАУСХОДНЕСЛАВЯНСКІ) ПЛАСТ ЛЕКСІКІ

Гэта словы, якія пасля распаду агульнаславянскага моўнага адзінства ў працэсе фарміравання старажытнарускай народнасці паяўляліся толькі ў мове ўсходніх славян — продкаў сучасных рускіх, украінцаў і беларусаў. Такіх слоў няма ў іншых славянскіх мовах.

Фарміраванне і функцыяніраванне старажытнарускай

---

[4] Булыка А. М. Старажытнаруская лексіка як аснова старабеларускай лексічнай сістэмы // Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970. С. 11.

[5] Филин Ф. П. Образование языка восточных славян. М.; Л., 1962. С. 111.

[6] Филин Ф. П. Истоки и судьбы русского литературного языка. М., 1981. С. 292.

мовы прыпадае на VIII—XIV стст. У гэты час адбываюцца значныя зрухі ў сацыяльна-эканамічным і грамадска-культурным жыцці ўсходніх славян: родава-племянны ўклад іх жыцця перарастае ў стадыю феадальных адносін; на аснове ранейшых племянных груп і саюзаў складваецца адзіная феадальная дзяржава Кіеўская Русь, засноўваюцца новыя гарады, развіваюцца ўсё новыя рамёствы і промыслы, пашыраюцца гандлёвыя і культурныя сувязі з суседнімі народамі. Гістарычнай падзеяй у жыцці ўсходніх славян з'явілася прыняцце ў канцы X ст. хрысціянства і пашырэнне пісьменнасці на Русі. Усё гэта садзейнічала ўзвышэнню матэрыяльнай і духоўнай культуры ўсходніх славян, узбагачэнню іх мовы новымі словамі і паняццямі.

Лексічныя наватворы старажытнарускага перыяду папоўнілі ўсе традыцыйныя тэматычныя пласты агульнаславянскай лексікі, паклалі пачатак некаторым новым прадметна-тэматычным групам слоў. Сярод гэтых новых слоў назвы і тэрміны:

— роднасці і сваяцтва: *бацька, дзядзька, падчарыца (падчарка), пляменнік;*

— асоб па характару паводзін, роду дзейнасці, месцу жыхарства: *балагур, бондар, весялун, знахар, мельнік, селянін, ябеднік;*

— жывёл, птушак: *белка, гадзюка, галка, жаваранак, зяблік, кошка, каршун, курапатка, кажан, мошка, снягір, селязень;*

— раслін, пладоў, ягад, грыбоў і пад.: *асака, грэчка, грузд, куст, малачай, перац, почка, часнок;*

— прадметаў быту, інструментаў, прадуктаў вытворчасці і пад.: *аброць, аглобля, багор, вяроўка, дзяруга, жгут, кадка, карзіна, каромысла, кастыль, качарга, катушка, клубок, латок, лыжка, мяшок, парашок, пояс, самавар, сарочка, скрыпка, чаравік;*

— абстрактных паняццяў, у тым ліку прымет і якасцей, дзеянняў і працэсаў, адзінак уліку, адрэзкаў часу і інш.: *давер'е, льгота, марока, клічка, пацеха; белакуры, бойкі, дзяшовы, дрымучы, зоркі, едкі, карычневы, каравы, курносы, куцы, махнаты, рабы, удалы, харошы; балавацць, бурліць, віляць, гуляць, дабрэць, ёрзаць, журчаць, калупаць, калыхаць, канючыць, кіпяціць, курлыкаць, маніць, ракатаць, чахнуць; адзінаццаць, дванаццаць, дваццаць, дзевяноста, дзевятнаццаць, пятнаццаць, семнаццаць, сорак, трыццаць; сягоння, пасля, цяпер* і інш.

У старажытнарускай дзяржаве склалася шырокая грамадска-палітычная тэрміналогія, якая выразна адлюстравала іерархію тагачаснага класавага грамадства.

З IX ст. паяўляецца слова *русь*, якое «ў перыяд старажытнакіеўскай Русі ... мела дваякае значэнне: агульную назву старажытнарускай народнасці і тэрыторыі і назву ўласна кіеўскай вобласці»[7]. Пазней слова *русь* набыло іншыя значэнні, у тым ліку — 'Руская дзяржава'. Вытворныя ад яго словы *русич, русинъ, руски* абазначалі прадстаўнікоў усходніх славян. У гэты час паяўляюцца назвы асобных частак дзяржавы: *волость, князство, уделъ*.

Паняцце дзяржавы як аб'яднання пэўных тэрыторый пад адзінай уладай абазначалася словамі *земля, князство, держава*. Вярхоўная ўлада ў дзяржаве належала князю, імя якога звычайна суправаджалася эпітэтамі *великий, славный, стольный* і інш.

Кіраўніцтва дзяржавай князь ажыццяўляў з дапамогай *дружыны*, якая складалася з войска і прыбліжаных людзей. Для называння старэйшых дружыннікаў розных рангаў выкарыстоўваліся тэрміны *княжии муж, бояринъ, вельможа, дворянинъ, воевода*. У значэнні 'малодшы дружыннік' ужываліся словы *отрокъ, гридь*, у значэнні 'храбры воін' — словы *витязь, кмет;* нарманскія воіны называліся *вікінгамі*.

Кіраўніцтва на месцах ажыццяўлялі *намеснікі, пасаднікі, удзельнікі* (кіраўнікі ўдзелаў) і інш. Для вырашэння важных пытанняў князь склікаў блізкіх людзей на нараду — *савет*, удзельнікі якога называліся *саветнікамі*. Асабліва важныя дзяржаўныя рашэнні прымаліся на народных сходах, якія здаўна вядомы ў славян пад назвай *вече*.

Прадстаўнікі ніжэйшага саслоўя называліся словамі *людинъ, людъ;* сялян, дробных землеўладальнікаў вышэйшыя слаі грамадства называлі *смердамі*. Назвамі залежных, паднявольных людзей служылі словы *роб* (ст.-слав. *раб*), *робыня* (*рабыня*), *холопъ;* у значэнні 'слуга', 'прыслуга' ўжываліся словы *челядникъ, челядь* і інш.

Значна папоўніліся пласты ваеннай, юрыдычнай, гандлёвай лексікі (*зелье* 'порах', *стягъ* 'баявое знамя', *сабля, пращча, осада, сеча, рать, острог* 'крэпасць', *по-*

---

[7] Филин Ф. П. Образование языка восточных славян. С. 292.

*лонъ, законъ, тать* 'злодзей', *тяжа, истьць, видок* 'сведка'; *посолъ, грамота, ярлыкъ; търгъ, торжекъ, гостьба, продавьница* 'гандлёвая лаўка', *мытникъ)* і інш.

Сярод неалагізмаў старажытнарускай мовы многа прэфіксальных, суфіксальных і суфіксальна-прэфіксальных утварэнняў: *знахарь, (знаха+арь), дарма* (з *дар+ма*), *кадка* (з *кадь+ка*), *клубок (клуб+ок), манити* (з *мана+ити*), *скрипка* (ад *скрипа+ка*); *обрътъ (объ+ротъ); падъчѣрица (па—дъчѣр—-ица)*, складаных слоў (*самоваръ, девяносто, сегодня, правописание* (калька з грэч. *orthographia*)) і інш.

Узбагачэнне лексікі старажытнарускай мовы адбывалася і за кошт семантычных неалагізмаў. Адны з агульнаславянскіх слоў у мове ўсходніх славян звузілі сваю семантыку, другія пашырылі, трэція, страціўшы сваё пачатковае значэнне, пачалі абазначаць зусім новы прадмет або новае паняцце. У агульнаславянскі перыяд слова *людъ*, напрыклад, мела значэнне 'народ', 'усякія людзі', а ў старажытнарускай мове, звузіўшы сваю семантыку, пачало ўжывацца толькі ў дачыненні да людзей ніжэйшага саслоўя, «прасталюдзінаў». Назоўнік *галава* з першапачатковым значэннем 'частка цела чалавека або жывёлы' ў мове XI—XIV стст. развіў тэрміналагічнае значэнне 'забіты', якое было характэрна для дакументальна-юрыдычных тэкстаў, і пераноснае значэнне 'кіраўнік', 'правадыр'. Агульнаславянскае слова *обручь* у старажытнарускай мове страціла сваё пачатковае значэнне 'бранзалет' і пачало абазначаць 'вобад для бочак'.

Найбольш значнае месца сярод запазычанняў старажытнарускай мовы займаюць словы стараславянскага паходжання. Стараславянская (царкоўнаславянская) мова пашырылася сярод усходніх славян пасля прыняцця ў 988 г. на Русі хрысціянства. Як мова кніжнай культуры, яна аказала значны ўплыў на мову ўсходніх славян і працяглы час, побач з народнай мовай, была важнай крыніцай фарміравання літаратурнай мовы. «Узаемадзеянне паміж старажытнарускай і царкоўнаславянскай мовамі,— пісаў Л. П. Якубінскі,— палягчалася тым, што царкоўнаславянская мова хоць і была мовай іншаземнай, завезенай у Кіеўскую дзяржаву звонку, але разам з тым была мовай блізка падобнай да старажытнарускай, блізкароднаснай ёй. Яна была, такім чынам, мовай чужой, але не зусім чужой. Гэтым тлу-

ма"ыцца тая акалічнасць, што ў старажытнарускую мову пранікалі не толькі асобныя царкоўнаславянскія словы, але і граматычныя формы» [8].

Сярод старaславянізмаў вылучаюцца тры асноўныя групы слоў. Найбольшую праслойку складаюць словы кніжнага характару, што абазначаюць абстрактныя паняцці (*благо, вражда, доблесть, добродѣтель, досада, сласть, соблазнъ, совѣсть, грядущее*), тэрміны хрысціянскай рэлігіі (*агнець, благовоние, грѣхопадение, изувѣръ, искушение, истуканъ, исповедание, ковчегъ, кощунство, лжепророкъ, настоятель, насущный* (хлеб), *подобострастие, праздьникъ, соборъ, черноризець*), тэрміны навукі, культуры, асветы (*вселенная, ижица, изрѣчение, искусство, истина, звѣздозорьць, поприще, тожьдѣство, художьникъ* і інш.).

Другую групу складаюць стылістычна нейтральныя старaславянізмы, не афарбаваныя адценнямі ні кніжнасці, ні ўстарэласці, напр.: *близнѣцы, власть, воздухъ, востокъ, вредный, время, главьный, зъдание, иногда, младѣнець, настоящий, ненавидѣть, общий, овощи, одѣжда, облако, область, пространство, пещѣра, разве, среда* (дзень тыдня), *совѣтъ, трѣзвый, югъ, храбрый* і інш.

У трэцюю групу аб'ядноўваюцца так званыя стылістычныя старaславянізмы — словы, да якіх у старажытнарускай мове меліся ўжо свае адпаведнікі. Гэта перш за ўсё многія словы з няпоўнагалоснымі формамі (*брегъ, власть, врагъ, врата, вредъ, глава, здравый, краткий, нравъ, оградить, пленъ, стражъ, хранить*), словы са спалучэннямі *жд, щ* на месцы агульнаславянскіх *dj, tj* (*вождь, жажда, мощь, надежда, нужда, свѣща, тысяща*), словы з пачатковым *е* (*единъ, елень, езеро*), якія ў старажытнарускай мове мелі іншае фанетычнае афармленне: *берегъ, волость, ворогъ, ворота, вередъ, голова, здоровый, короткий, норовъ, огородить, полонъ, сторожъ, хоронить; вожъ, жажа, мочь, надежа, нужа, свѣча, тысяча; один, олень, озеро*. У многіх выпадках стылістычная дыферэнцыяцыя паступова перарасла ў семантычныя адрозненні, параўн.: *глава—голова, страна—сторона, храм—хоромы* і інш.

Старажытнаруская мова значна ўзбагацілася лексічнымі запазычаннямі і з неславянскіх моў. Самую знач-

[8] Якубинский Л. П. История древнерусского языка. М., 1953. С. 273.

ную групу сярод іх складаюць грэцызмы. Ужо ў IX ст. словы з грэчаскай мовы пачалі пранікаць да ўсходніх славян вусным шляхам у працэсе непасрэдных гандлёвых, гаспадарчых і іншых зносін рускіх з Візантыяй і грэчаскімі калоніямі на ўзбярэжжы Чорнага мора. З вуснаў былі засвоены некаторыя словы, што служылі назвамі бытавых прадметаў, матэрыялаў, раслін, жывёл і пад. (*агатъ, кровать, аксамитъ, амфора, аспидъ, китъ, оладья, парусъ, мраморъ, свёкла, скамья, тетрадь, теремъ, топазъ, хрусталь* і інш.).

Пасля прыняцця Руссю хрысціянства пасрэднікамі ў перадачы грэцызмаў служылі старaславянскія тэксты, перакладзеныя з грэчаскай мовы, і грэчаская арыгінальная канфесіяльная і свецкая літаратура, якая прывозілася на рускія землі для папулярызацыі візантыйскай культуры і рэлігіі. Сярод грэцызмаў кніжнага паходжання пераважную большасць складалі тэрміны рэлігійнага і навуковага ўжывання: *адъ, амвонъ, ангелъ, антихристъ, апостолъ, аминъ, акафистъ,ароматъ, архимандритъ, библия, диаволъ, еретикъ, епископъ, евангелие, идолъ, клиросъ, кадило, митрополитъ, мнихъ, игуменъ, литургия, псалтыръ, триодь; академия, алфавитъ, астрология, астрономия, грамота, грамматика, история, калиграфъ, лексиконъ, талантъ, трагикъ, философия, фита, хартия, хронографъ* і інш.

Грэчаскімі запазычаннямі ў старажытнарускай мове былі таксама назвы месяцаў, дзён тыдня, словы некаторых іншых тэматычных груп (*енуаръ, февруаръ, мартъ, априль, май, июний, июлий, сентябрь, ноябрь, декабрь, субота, канунъ*), многія ўласныя імёны (*Андрей, Елена, Василий, Мария*), назвы народаў (*греки, евреи*) і інш.

Адносна нязначнае месца ў старажытнарускай мове займалі прамыя ці апасродкаваныя запазычанні з лацінскай мовы (*алтарь, баня, калика* 'паломнік', *капуста*), германскіх моў (*цъсарь, царь, постъ, бархатъ, пудъ*), скандынаўскіх (*варяг, ворвань, гридь, кнутъ, тиунъ* 'слуга', *сельдь, якорь;* імёны *Игорь, Ольга, Олегъ, Глебъ, Свенельдъ*), фінскіх (*тундра, сёмга, сигъ*), літоўскай (*деготь, ковш, пакля, стирта* і інш.).

Значны пласт у лексіцы старажытнарускай мовы складаюць запазычанні з цюркскіх моў. Гэта тлумачыцца даўнімі сувязямі ўсходніх славян з рознымі цюркскамоўнымі плямёнамі: печанегамі, полаўцамі, татарамі,

хазарамі і інш. Асобныя словы цюркскага паходжання (*евшанъ, жемчугъ, каганъ, коврига, кощей* 'раб', *кумызъ, салтанъ, толмачъ, харлугъ, чага* 'нявольніца', *яруга* 'яр') былі адзначаны ўжо ў такіх ранніх помніках старажытнарускай пісьменнасці, як «Аповесць мінулых гадоў» і «Слова аб палку Ігаравым», «Аповесць аб Варлааме і Іасафе» і інш. Прыток цюркізмаў павялічваецца ў XIII—XIV стст. пасля ўварвання татара-мангольскіх орд у межы старажытнарускай дзяржавы і рассялення татар у асяроддзі ўсходніх славян. Запазычанні гэтага часу вельмі разнастайныя ў семантычных адносінах. Сярод іх назвы бытавых прадметаў, будынкаў, адзення і абутку (*армякъ, арканъ, бадья, балаганъ, башлыкъ, башмакъ, бешметъ, войлокъ, вьюкъ, казанъ, карандашъ, кафтанъ, кирпичь, колпакъ, лабазъ, лачуга, очагъ, сарай, сарафанъ, торба, халатъ, чуланъ*); з'яў прыроды, раслін, жывёл, птушак (*баклажанъ, барсукъ, беркутъ, буранъ, камышъ, ковыль, курганъ, саранча*); назвы мер, грашовых адзінак (*аршинъ, алтынъ, деньга*); тэрміны са сферы гандлёвай, гаспадарчай і ваеннай дзейнасці (*алмазъ, базаръ, барышъ, кабакъ, казна, тамга* (адкуль сучаснае *таможня*), *отара, табунъ; колчанъ, караулъ*); словы і тэрміны, што абазначалі паняцці ў галіне грамадскіх адносін, прававога становішча людзей і інш. (*атаманъ, баскакъ, басурманъ, богатырь, ватага, мурза, орда, ярлыкъ* 'жалаваная грамата') і інш.

Далейшы лёс запазычанняў старажытнарускага перыяду быў неаднолькавы. Пераважная большасць з іх без істотных змен была ўнаследавана сучаснымі ўсходнеславянскімі мовамі, асобныя забыліся і выйшлі з ужытку (*вира* 'штраф за забойства', *чага* 'нявольніца'), некаторыя перайшлі ў разрад гістарызмаў (*гридь, кметъ, смердъ, тиунъ*) або ўсходнеславянскіх дыялектызмаў. Вядома, напрыклад, што запазычанне *лачуга* (татарск. *алачык* 'халупа', 'хаціна') у старажытнарускі перыяд было засвоена толькі ва ўсходнім арэале і не было вядома ў паўднёва-заходнім дыялектным масіве, у выніку чаго сучасныя беларуская і ўкраінская мовы гэтага слова ў спадчыну не атрымалі. Старажытнарускае *лошадь*, утворанае пры дапамозе суфікса *-адь* (<-ъдь) ад запазычанага з цюркскіх моў *лоша*, таксама атрымала ў мінулым пашырэнне на тэрыторыі сучаснай рускай мовы. Паўднёва-заходняй пісьменнасці яно было не ўласціва, таму яго няма і ў сучасных беларускай і ўкраінскай мо-

вах. Форма *лашак* у гэтых мовах, відаць, з'яўляецца пазнейшым запазычаннем з рускай мовы.

Лексічнымі дыялектызмамі ў старажытнарускай мове з'яўляліся многія спрадвечна славянскія словы самай разнастайнай тэматыкі. Сярод іх даследчыкі называюць такія тэрытарыяльна абмежаваныя ўжо ў старажытнарускай мове словы, як *багно* 'дрыгва', 'балота' (паўдн.-зах.), *пуща* 'густы дрымучы лес' (паўдн.-зах.), *глей* 'гліна', 'іл' (паўдн.-зах.), *полонина* 'горная раўніна', 'горная паша' (укр.-гуцульск.), *пожьня* 'луг', 'сенажаць' (паўн.-усх.), *берковьскъ* 'мера вагі каля 10 пудоў' (паўн.-зах.), *бредьникъ* 'брэдзень' (паўн. і паўн.-зах.), *вѣхътъ* 'анучка', 'вяхотка' (пераважна паўдн.-зах.), *грэбля* 'насып', 'плаціна' (паўдн.-зах.), *лазня* 'лазня' (паўдн.-зах.), *порьшни* 'скураныя лапці' (паўн.-усх., сярэднеруск.), *рагоза* 'што-н. калючае, рагатае' (паўн.-зах.), *жадати* 'хацець', 'жадаць' (паўдн.-зах.), *лагодити* 'рабіць прыемнае, патураць' (паўдн.-зах.), *смага* 'смага' (паўдн.-зах.) і інш. [9]

Зыходзячы з таго, што падобныя лексічныя дыялектызмы ў сваёй большасці абазначаюць з'явы, не звязаныя з мясцовымі асаблівасцямі прыроды, гаспадаркі і пад., Ф. П. Філін называе іх канструктыўнымі, або структурнымі: яны абумоўлены не прамым уздзеяннем на мову знешніх фактараў, а асаблівасцямі ўнутрымоўнага развіцця, рознымі спосабамі называння адных і тых жа з'яў, рознымі ўяўленнямі аб гэтых агульных для ўсіх з'явах. «Наяўнасць структурных лексічных дыялектызмаў у старажытнарускай мове,— робіць вывад аўтар,— абвяргае панаваўшыя раней наіўныя ўяўленні аб маналітнасці старажытнарускай мовы і амаль поўнай адсутнасці ў ёй дыялектных разыходжанняў, асабліва тых, што ідуць яшчэ ад праславянскай эпохі» [10]. Гэты вывад, распачаўшы даследаваць праславянскі лексічны фонд, поўнасцю падтрымлівае А. М. Трубачоў: «У цэлым ужо цяпер можна разлічваць, што семантычнае абследаванне матэрыялу слоўніка ўсходнеславянскіх моў дасць 200—300 праславянскіх лексічных дыялектызмаў,

---

[9] Филин Ф. П. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. С. 519—603.
[10] Там жа. С. 605.

характэрных галоўным чынам толькі для гэтых моў»[11].

Лексічныя дыялектызмы ў перыяд фарміравання асобных усходнеславянскіх моў з'яўляліся адной з важнейшых крыніц, на аснове якіх выпрацоўваліся спецыфічныя асаблівасці кожнай асобна ўзятай мовы.

## Раздзел II

# ЛЕКСІКА ПЕРЫЯДУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАСЦІ

### § 1. ФАРМІРАВАННЕ СТАРАБЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Мова беларускай народнасці (XIV—XVIII стст.) існавала ў дзвюх разнавіднасцях: вуснай, народна-гутарковай, і кніжнай, літаратурна-пісьмовай. Вусная, народна-гутарковая, мова склалася на базе тэрытарыяльных дыялектаў тых заходнерускіх зямель, якія ў XIII—XIV стст. аказаліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. На ёй народ размаўляў, складаў песні, паданні, казкі, прыказкі, загадкі.

Літаратурна-пісьмовая мова фарміравалася на аснове старажытнарускай пісьмовай мовы па меры пранікнення ў яе беларускіх фанетыка-граматычных і лексічных асаблівасцей, што выпрацоўваліся ў працэсе фарміравання беларускай народнасці. Гэта літаратурна-пісьмовая мова называлася тагачаснымі дзеячамі рускай і толькі пазней пачала называцца старабеларускай для адрознення яе ад новай, сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

У Вялікім княстве Літоўскім старабеларуская літаратурная мова была заканадаўча замацавана Статутамі 1566 і 1588 гг. у якасці афіцыяльнай мовы дзяржавы: «А писаръ земьский маеть по руську литэрами и словы русьскими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншимъ езыком и словы». Тут яна выкарыстоўвалася ў дзяржаўнай, дыпламатычнай і прыватнай перапісцы, у канцылярыях гарадскіх, земскіх і замкавых судоў, у

[11] Трубачев О. Н. О составе праславянского словаря: Проблемы и задачи // Славянское языкознание. V Междунар. съезд славистов. Докл. сов. делегации (София, сентябрь 1963 г.). М., 1963. С. 185.

гарадскіх управах і магістратах. На ёй пісаліся важныя юрыдычныя дакументы (статуты, судзебнікі, дагаворы), творы свецкай літаратуры (летапісы, гістарычныя хронікі, перакладныя рыцарскія аповесці і раманы, мастацкія, публіцыстычныя, мемуарныя творы і інш.). Шырока карысталіся старабеларускай мовай у рэлігійна-палемічнай, гамілетычнай, агіяграфічнай літаратуры і ў царкоўным заканадаўстве.

Развіццё старабеларускай пісьмовай мовы ў межах адзначанага перыяду было нераўнамерным. К сярэдзіне XVI ст. яна максімальна расшырыла свае грамадскія функцыі і дасягнула найбольшай стабілізацыі фанетычнай, граматычнай і лексічнай сістэм. Аднак ужо з канца XVI ст., з прычыны палітычнага падпарадкавання Вялікага княства Літоўскага Рэчы Паспалітай (па Люблінскай уніі 1569 г.), умовы для далейшага развіцця старабеларускай мовы пагаршаюцца, пачынаецца выцясненне яе польскай мовай з усіх жанраў пісьменнасці. У 1696 г. на Варшаўскім сейме было прынята афіцыяльнае рашэнне: «Писар повинен по-польску, а не по-руску писать». Беларуская літаратурна-пісьмовая мова прыйшла ў поўны заняпад. На працягу XVIII ст. беларускі народ карыстаецца толькі вусна-гутарковай мовай, на аснове якой у XIX ст. пачынае фарміравацца новая літаратурная мова беларускай буржуазнай нацыі.

Значэнне старабеларускай эпохі для нас вялікае. З яе дайшло многа пісьмовых помнікаў афіцыяльна-дзелавога, свецкага і царкоўна-рэлігійнага характару, важнейшымі сярод якіх з'яўляюцца кнігі Літоўскай метрыкі, Літоўскія статуты (1529, 1566, 1588 гг.), выданні Ф. Скарыны, Катэхізіс Сымона Буднага, Евангелле Васіля Цяпінскага, Летапіс Аўраамкі, Баркулабаўскі летапіс і інш. Гэтыя і іншыя творы ў сваёй сукупнасці даюць магчымасць прасачыць, як у зменлівых гістарычных умовах фарміравалася беларуская народнасць і старабеларуская літаратурная мова.

## § 2. АДАПТАЦЫЯ СПРАДВЕЧНАЙ ЛЕКСІКІ СРОДКАМІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Галоўнымі лініямі, па якіх ішло фарміраванне лексікі старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы, былі наступныя:

1. Перааформленне спрадвечнага лексічнага фонду

па фанетычных законах народна-гутарковай беларускай мовы, адлюстраванне ў пісьмовых творах такіх яе асаблівасцей, як:

— зацвярдзенне шыпячых і *р* (*выжывати, вчыняти, жыто, врадъ, крывда, тры*);

— паяўленне прыстаўных *а, і* перад санорнымі *р, л, м* пры збегу зычных (*аржаный, илжывый, ильвица, иржа*) і пратэтычных *в, г* перад націскнымі *о, у* (*возеро, вужъ, гусеница*);

— пераход *в, л* у *ў* (кароткае) у пэўных пазіцыях (з-за адсутнасці спецыяльнага знака «ў» перадавалася праз «в»: *довгий, довг*);

— чаргаванне складоў *ро, ло, ле* з *ры, лы, лі* ў становішчы паміж зычнымі, калі ў іх *о, е* паходзяць са старажытных *ъ, ь* (*блескъ — блищети, глотка — глытати, громъ — грымети, кровъ — крыви*);

— зацвярдзенне губных на канцы слоў (*семъ, голубъ, сыпъ, церковъ, кровъ*);

— падаўжэнне зычных у інтэрвакальным становішчы (*безвиннѣ, беззаконне, въспоминанне*);

— гукі *ы, і* на месцы ранейшых *ъ, ь* перад *j* (*сокрыи, излии, жывыи, злыи*);

— аканне (*даканаець, манисто, золатарев*);

— дзеканне і цеканне (*дзюравый, дзюбали, дзякло*) і інш.

2. Вызваленне ад стараславянскіх моўных элементаў (фанетычных, граматычных, словаўтваральных) і замена іх усходнеславянскімі і ўласна беларускімі адпаведнікамі, у прыватнасці:

— няпоўнагалосных форм поўнагалоснымі: *вороговати* (*враждовати*), *головный* (*главный*), *поздоровити* (*поздравити*), *солодкий* (*сладкий*), *серодъ* (*срѣди*), *голосъ* (*гласъ*);

— спалучэння *жд* (з *dj*) літарай *ж*: *межа* (*между*), *одежа* (*одежда*), *сажа* (*сажда*);

— спалучэння *шт* (у старажытнарускіх помніках *щ*) літарай *ч*: *ночь* (*нощь*), *печь* (*пещь*), *мочь* (*мощь*);

— стараславянскіх прэфіксаў *из-* (*ис-*), *воз-* (*вос-*), *низ-* (*нис-*) адпаведна ўсходнеславянскімі (агульнаславянскімі) прыстаўкамі *вы-, уз-* (*ус-*), *з-*: *выбрати* (*избрати*), *выкоренити* (*искоренити*), *выяснити* (*изъяснити*), *узростъ* (*возрастъ*), *усходъ* (*восходъ*), *звергати* (*низвергати*), *зведати* (*изведати*);

— суфіксаў *-ущ-, -ющ-, -ащ-, -ящ-* суфіксамі *-уч-,*

-юч-, -ач-, -яч-: *блудячий* (*блудящий*), *верючий* (*верующий*), *лежачи* (*лежащий*), *просячи* (*просящий*) і інш.

3. Утварэнне спецыфічна беларускіх слоў ад спрадвечных і запазычаных асноў рознымі спосабамі:

а) пры дапамозе суфіксаў, напр., *-к-*: *(а)болонка* (*болонь*), *бичовка* 'вяроўка', *биралка* 'бочачка', *виоска* (*весь*), *волосянка* 'тканіна з валасоў', *волотовка* 'магільны курган волата', *ворожка* 'варажба', *гунька* (*гуня*), *забавка* (*забава*), *овечка* (*овьца*), *оладка* (*оладья*), *пустка* (*пустошь*), *сварка* (*сварь*), *хустка* (*хуста*), *частка* (*часть*), *шубка* (*шуба*); *-никъ*: *бляховникъ* 'бляхар', *бунтовникъ* 'бунтар', *военникъ, воевникъ, воиникъ* 'воин', *возовикъ, возникъ* 'вазавы конь', *ворожебникъ* 'варажбит', *гневникъ* 'гняўлівы чалавек', *городникъ* 'будаўнік', *гостебникъ* 'госць', *крывдникъ* (*кривдитель*), *деланникъ* (*делатель*), *миловникъ* 'любоўнік', *милосникъ* 'дабрадзей', *судникъ* 'пасудник', *стодолникъ* 'канюшы' і інш.; *-ецъ, -икъ, -инъ, -ичъ*: *братанецъ* (*братанъ*), *боровикъ* 'баравік', *войтовичъ* 'сын войта', *выбранецъ* (*избранникъ*), *гадунецъ* 'гадаванец', *жатецъ* (*жатель*), *поганецъ* (*поганинъ*), *посланецъ* (*посланникъ*) і інш.; *-ость*: *голодость* 'голад', *горкость* 'гарката', *далекость* 'дальнасць' і інш.

б) пры дапамозе прыставак: *за-*: *забогатети* (*разбогатети*), *загинути* (*погинути*), *задивитися* (*удивитися*), *зачути* (*почути*), *забойство* (*убийство*), *застарелый* (*устарелый*); *повы-*: *повыворачити* (выврѣщи), *повыдавати* (*выдати*), *повыкидати* (*выкинути*), *повыкупати* (*выкупити*), *повыщипати* (*выщипать*);

в) шляхам асноваскладання: *девошлюбъ* 'сват', *добродей, доморобленый* 'самаробны', *звышписаный, стародавний, старожитность, штодень* і інш.;

г) шляхам субстантывацыі: *бобровничий, возный, войский, подконюший, подловчий, подскарбий* (назвы пасад і роду заняткаў); *воротное, вижовное, гребельное, мостовое, помильное, постожное* (віды платы, збораў) і інш. Падобныя словаўтваральныя працэсы на аналагічным матэрыяле маглі адбывацца і ў суседніх мовах — рускай, украінскай, польскай.

4. Тэндэнцыя да змены незразумелых лексічных архаізмаў, стараславянізмаў і неасвоеных запазычанняў агульнавядомымі ўсходнеславянскімі і ўласна беларускімі словамі. Хоць і не ў аднолькавай меры, гэта тэн-

дэнцыя прасочваецца ў помніках старабеларускай пісьменнасці ўсіх жанрава-стылявых разнавіднасцей. Вынікі такой замены выразна выступаюць нават у тэкстах рэлігійнай літаратуры, найбольш кансерватыўнай па форме і менш падатлівай да змянення. Прыкладам могуць служыць біблейскія пераклады Скарыны, які царкоўнаславянскія формы і словы часта замяняў моўнымі сродкамі, найбольш характэрнымі для тагачаснай беларускай мовы. Так, напрыклад, паралельна са словам *азъ* ён ужываў займеннік *я*, побач з *зело — вельми, зрети — глядети, глаголъ — слово, время — час, речи — говорити, прежде — ранеи, иныи — иншый, каждый — кожный, разумъ — розумъ, сердце — серце, убежати — утекати, единъ — одинъ, имети — мети, звати — кликати, лучше — лепи, колесо — коло, красныи — пригожии* і інш.[1]

Практыку Скарыны па збліжэнню царкоўнаславянскіх тэкстаў з жывой беларускай мовай працягвалі і яшчэ больш паглыблялі яго паслядоўнікі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. Аснову лексічнага саставу Катэхізіса Буднага склалі спрадвечна беларускія словы і шматлікія наватворы, што толькі пачыналі замацоўвацца ў літаратурным ужытку: *бавити, бачити, вабити, вживати, взоръ, втекати, второкъ, выховати, докуле, допомочи, згинути, злочинца, карати, краина, кривда, кривдити, лепший, личьба, мова, мовити, надея, нарокомъ, насеньне, наставникъ, покуль, помста, невзгода, откинути, отказъ, перший, пособити, прикрый, пристойный, понѣдѣлокъ, пытанне, пятница, размова, роспачь, справа, середа, субота, треба, трѣска, утратили, ховати, четвѣръ* і інш. Калі ж аўтару даводзілася ў цытатах выкарыстоўваць царкоўнаславянізмы і незразумелыя запазычанні, то ён адразу ж тлумачыў іх беларускімі адпаведнікамі, напр.: *агньцом или бараном; брашно или корменіе; вотще або напрасно; гасло или вызнанне; драбы или людзі служебные; елеомъ или маслом; ерее или жрецы; естество або прироженіе; зелье або лекарство; мзды або заплаты; обрусъ або скатерть; плоть або тело; татьми се есть злодьями*[2].

Найбольш поўнае праяўленне гэта тэндэнцыя атры-

---

[1] Анічэнка У. В. Слоўнік мовы Скарыны. Т. 1. Мн., 1977. С. 5.
[2] Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967. С. 196—199.

мала ў жанрах мастацкай, гістарычнай і дзелавой пісьменнасці. Для лексікі гэтых жанрава-стылявых разнавіднасцей характэрна і фанетыка-марфалагічная аформленасць слоў па законах тагачаснай беларускай мовы і тэматычная разнастайнасць, абумоўленая неаднароднасцю саміх помнікаў.

Паказальнымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца помнікі дзелавой пісьменнасці, у прыватнасці такія юрыдычныя кодэксы, як Статуты 1566 і 1588 гг. і блізкі да іх Трыбунал 1581 г. Паколькі важнейшая функцыя гэтых кодэксаў заключалася ў тым, каб вызначыць самыя разнастайныя правілы адносін паміж людзьмі ў грамадскім, гаспадарчым і асабістым жыцці, то ў іх знайшлі адлюстраванне важнейшыя лексіка-семантычныя групы слоў, сярод якіх:

— грамадска-палітычныя і юрыдычныя тэрміны, што сабазначалі людзей па іх роду дзейнасці, прафесіі, сацыяльнаму становішчу, роднасных адносінах, назвы розных судовых інстанцый, дзелавых папер і інш.: *борωшникъ, бортникъ, бурмистръ, войский, возный, вр■дник, гайдȣкъ, гетманъ, городничий, коморникъ, лавникъ, лесничий, наместникъ, печатникъ, поветникъ, подсудокъ, стольникъ, шл■хтичъ, чел■дникъ* і г. д.;

— назвы падаткаў і плацяжоў, якія выражаліся звычайна субстантываванымі прыметнікамі ў форме ніякага роду: *вижовное, гребельное, мостовое, ωглядное, поколодное, помилное, потуремное, торговое;*

— назвы культурных раслін, плады якіх маглі быць прадметам гандлю ці абмену: *бобъ, горохъ, гречыха, ечмень, жыто, капуста, конопли, ленъ, морковъ, ωвьсъ, пастернакъ, просо, пшеница, редька, репа, свекла, сочивица, цыбуля, чоснокъ, ■рица;*

— назвы свойскіх жывёл і дзікіх звяроў, якія мелі пэўнае гаспадарчае значэнне: *конь, трет■къ, жеребецъ, волъ, корова ■ловица, тел■ сеголетнее, кнорозъ, свинья, подсвинокъ, баранъ, скопецъ, ■гне, гȣсь, петȣхъ, селезень; зȣбръ, лось, ωлень, лан■, вепръ, сарна, рысь, собаль, кѵна;*

— назвы прадметаў гаспадарчага ўжытку, інструментаў, прылад працы: *возъ, дуга, коса, лейца, колеса, сани, седло, серпъ, ȣзда, шле■, хомутъ; гебель, долото, пила, сверло, спусть, топоръ, скглют;*

— назвы дзеянняў, працэсаў, якія з юрыдычнага пункту гледжання ў пэўных сітуацыях маглі мець той

ці іншы вынік: *баченье, бранье, вчыненье, выведанье, захованье, зраненье, наеханье, обиранье, ображенье, соченье, переховыванье, позванье, покаранье, порученье, пригнанье, примноженье, робенье, седенье, стрелянье, схованье, увезенье, утеканье, учиненье, тягненье, хоженье* і інш.[3] Для помнікаў іншых жанрава-стылістычных разнавіднасцей тэматычная накіраванасць лексікі была некалькі інакшай.

5. Змяненне семантыкі, звужэнне або пашырэнне значэння некаторых слоў, унаследаваных са старажытнарускай мовы. Глыбіня гэтых змяненняў для розных лексічных адзінак была неаднолькавая: ад нязначных зрухаў у адных словах да ўзнікнення аманіміі на аснове другіх слоў. Слова *мечникъ*, напрыклад, у старажытнарускай мове мела значэнне 'княжацкі дружыннік', 'збраяносец', а ў старабеларускай пачало абазначаць рамесніка, што займаўся вырабам мячоў. Аналагічныя змены адбыліся ў семантыцы назоўніка *стрельникъ*, якім у старажытнарускі перыяд называлі таго, хто страляе, а ў беларускай мове XIV—XVIII стст.— майстра па вырабу стрэл для лука.

Прыкладам слоў, што звузілі сваю семантыку, можа служыць другі кампанент сінанімічнай пары *кудзеля — кужаль*. У адрозненне ад рускай і ўкраінскай моў, дзе гэтыя аднакарэнныя словы захавалі шырокае значэнне 'усякае валакно лёну, канапель, прыгатаванае для прадзення', у старабеларускай мове іх семантыка дыферэнцыравалася: пры нязменнасці семантыкі кампанента *кудзеля* слова *кужаль* звузіла сваё значэнне і пачало абазначаць толькі 'адборнае, старанна ачэсанае ільняное валакно', а таксама 'ніткі і палатно з гэтага валакна'. Гэта процівапастаўленне семантыкі слоў *кудзеля — кужаль* захоўваецца і ў сучаснай беларускай літаратурнай мове, што выразна праглядваецца ў такіх, напрыклад, сказах: *Сядзелі за прасніцамі жанкі, прадучы кужаль і кудзелю* (А. Васілевіч. Шляхі-дарогі); *— А я сказала свайму: не сей у панядзелак... Не паслухаў. Ну і вырас лянок... Толькі адна кудзеля і будзе. Адкуль той кужаль* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка).

Семантыка многіх слоў пашырылася. Так назоўнік

---

[3] Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. С. 249.

*каморникъ* побач з пачатковым значэннем 'бяздомны, беззямельны чалавек' набыў значэнне 'землямер', якое захавалася да цяперашняга часу. Слова *статокъ* побач з ранейшым значэннем 'маёмасць', 'спадчына' ў старабеларускай мове набыло новае значэнне 'стада жывёлы', 'увогуле жывёла', напр.: *статками на весне сами господари свое збоже травили* (Баркулабаўскі летапіс. С. 164); *статъку в него волы два, быкъ летошний, телушка третелетъняя* (АВК, XXXVI, 263, 1582). Гэта значэнне слова *статокъ* з'яўляецца асноўным у сучаснай беларускай мове.

Значны пласт старабеларускай лексікі адчуў больш глыбокія семантычныя змены, у выніку чаго на аснове аднаго слова развіліся аманімічныя пары і групы слоў. Па-першае, амонімы паяўляліся ў выніку распаду полісеміі, г. зн. выпадзення аднаго з прамежкавых лексіка-семантычных варыянтаў са структуры слова і адрыву якога-небудзь значэння ад асноўнага семантычнага ядра. Такім шляхам узнікалі амонімы *гасцінец*[1] 'шырокая бойкая дарога' — *гасцінец*[2] 'падарунак госця ці блізкага чалавека'; *лаўка*[1] 'прадмет мэблі для сядзення' — *лаўка*[2] 'невялікі магазін' і інш.

Па-другое, амонімы ўзнікалі на аснове метафарычнага пераносу назвы з аднаго прадмета (дэнатата) на другі і паступовай страты ў далейшым асацыятыўнай сувязі паміж гэтымі прадметамі (дэнататамі). Аманімія па дэнатату ўзнікла, можна думаць, у парах *баба*[1] 'старая жанчына' — *баба*[2] 'прылада для забівання свай у зямлю'; *баран*[1] 'самец авечкі' — *баран*[2] 'двухручны рубанак для габлявання і інш.

Аманімія па дэнатату ўзнікала на аснове і метанімічнага пераносу назвы. Слова *прудъ*, напрыклад, у старажытнарускі перыяд мела значэнні 'быстры паток'; 'плаціна, запруда на рацэ'; 'разліў запруджанай ракі'. У старабеларускай мове яно набыло яшчэ значэнне 'млын на плаціне, запрудзе'. З такім значэннем слова *прудъ* было пашырана на ўсіх паўночна-ўсходніх землях Беларусі, на Смаленшчыне, Пскоўшчыне. Як самастойнае слова з гэтым значэннем пазней яго змяшчаюць у сваіх слоўніках У. І. Даль, І. І. Насовіч, У. М. Дабравольскі, Г. Ф. Юрчанка. Зафіксавана яно ў беларускім фальклоры: *Узяў парабак мяшкоў наклаў, запрог мядзведзя і павёз у пруд. А ў тым пруду не давалі чэрці малоць* (Казкі і легенды роднага краю. Мн., 1960.

С. 180). Жывым застаецца яно і ў сучасных беларускіх гаворках.

Яшчэ ў старабеларускай мове на аснове слова *прудъ* развілося шырокае словаўтваральнае гняздо: *прудъ — прудокъ — прудникъ* ('мельнік'), *прудище* ('месца, дзе стаяў пруд'), *прудовый* (камень), *прудницкий* (клявец). Гэтыя вытворныя асновы ў сваю чаргу з'явіліся базай для ўтварэння прозвішч *Пруднік, Пруднікаў,* назваў паселішч *Пруд, Прудок, Прудніківі, Прудзішча* і інш. Відаць, гукавыя комплексы *прудъ* у значэнні 'разліў запруджанай ракі' і *прудъ* у значэнні 'млын' успрымаліся як самастойныя, семантычна не звязаныя між сабой словы, г. зн. былі амонімамі. Разрыву асацыятыўных сувязей паміж імі садзейнічала тое, што слова *прудъ* у першым з гэтых значэнняў пад уплывам польскай мовы рана пачало выцясняцца словамі *стаў, ставок, сажалка,* а ў другім значэнні — словам *млын.* Қ часу поўнага заняпаду старабеларускай пісьменнасці гэты працэс выцяснення ў цэлым закончыўся, і аманімія гукавога комплекса *прудъ* распалася. Пра гэта можа сведчыць урывак з песні, прыведзены І. І. Насовічам у «Словаре...» пад словам *млынокъ: Куплю тобѣ хатку, еще сѣножатку, и ставокъ и млынокъ.* Словы *ставокъ* і *млынокъ* ужыты тут адпаведна аманімічным значэнням слова *прудъ.*

Такім чынам, адны семантычныя інавацыі перыяду старабеларускай пісьменнасці стала ўвайшлі ў лексіка-семантычную сістэму сучаснай беларускай літаратурнай мовы, другія, пад уплывам новых унутрымоўных і сацыяльных фактараў, зусім выпалі з яе, трэція захаваліся толькі ў народных гаворках.

### § 3. ЗАПАЗЫЧВАННЕ ІНШАМОЎНЫХ СЛОЎ

Запазычанні старабеларускай мовы вельмі разнастайныя як па тэматыцы, так і па свайму паходжанню. Пераважную большасць іх складаюць лексічныя адзінкі, што пранікалі ў старабеларускія пісьмовыя помнікі з заходніх славянскіх і неславянскіх моў — польскай, чэшскай, лацінскай, нямецкай, грэчаскай, італьянскай і інш. Меншай колькасцю прадстаўлены запазычанні з цюркскіх і балтыйскіх моў. Такія колькасныя суадносіны ў межах іншамоўнага лексічнага матэрыялу склалі-

ся пад уплывам многіх фактараў гістарычнага, эканамічнага і культурнага характару.

Па-першае, прытоку вялікай колькасці іншамоўных слоў у беларускую мову з Захаду спрыяла само геаграфічнае становішча Беларусі. Вялікае княства Літоўскае і Рэч Паспалітая, у склад якіх з XIV ст. папераменна ўваходзілі беларускія землі, непасрэдна гранічылі з многімі краінамі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Гэта садзейнічала ўстанаўленню цесных гаспадарчых, гандлёвых і культурных узаемаадносін з гэтымі краінамі, а разам з тым і свабоднаму пранікненню іншамоўных слоў у старабеларускую мову.

Сярод іншых фактараў трэба назваць пашырэнне ў Беларусі ідэй Рэфармацыі і пратэстантызму, у сувязі з чым на беларускую мову быў ажыццёўлены пераклад многіх рэлігійных тэкстаў заходняга паходжання. Такія пераклады, як правіла, суправаджаліся ўвядзеннем у беларускую мову іншамоўных слоў.

Значны ўплыў на ўзбагачэнне лексічнага саставу старабеларускай мовы аказала развіццё ў XVI—XVII стст. асветы на Беларусі. Праграмамі тагачасных школ прадугледжвалася вывучэнне царкоўнаславянскай, лацінскай, грэчаскай, беларускай і польскай моў. А выкладанне такіх прадметаў, як граматыка, рыторыка, піітыка, дыялектыка, садзейнічала ўзбагачэнню мовы навучэнцаў іншамоўнымі словамі, што пазней не магло не адбіцца на беларускай пісьменнасці [4].

Па этымалагічнай прымеце сярод запазычанняў старабеларускай мовы можна вылучыць наступныя важнейшыя пласты лексікі: паланізмы, лацінізмы, германізмы, грэцызмы, цюркізмы, літуанізмы, царкоўнаславянізмы.

1. Паланізмы. З самага пачатку свайго фарміравання на працягу амаль чатырох стагоддзяў старабеларуская мова ўступала ў непасрэдныя кантакты з польскай мовай. Першыя лексічныя паланізмы пачалі паяўляцца ў старабеларускіх пісьмовых помніках ужо ў канцы XIV ст., калі пасля заключэння Крэўскай уніі 1385 г. пачынаюць узмацняцца дзяржаўныя і культурныя сувязі паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім. Прыкладам самых ранніх паланізмаў у старабеларускай мове могуць служыць словы *властный* 'уласны', *жадный*

---

[4] Падрабязней аб гэтым гл.: Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970. С. 84—87.

'ніякі', *кгвалтъ, крамный, моцъ, панъ, панство, скарбъ, скарга, фалшывый* і інш., ужытыя ў грамаце князя Аляксандра-Вітаўта, выдадзенай літоўскім яўрэям у 1388 г.

Прыток польскай лексікі ў старабеларускую мову зрабіўся асабліва інтэнсіўным пасля Люблінскай уніі 1569 г., у выніку якой Вялікае княства Літоўскае разам з беларускімі землямі аказалася ў складзе Рэчы Паспалітай. У XVII ст. паланізмы пашыраюцца на ўсе жанрава-стылявыя разнавіднасці старабеларускай мовы.

З вялікага мноства польскіх слоў, што праніклі ў помнікі старабеларускай пісьменнасці, засвоена беларускай мовай была адносна невялікая колькасць. Гэта пераважна раннія запазычанні XIV—XVI стст., якія выконвалі намінатыўную функцыю, абазначаючы новыя прадметы і паняцці, невядомыя раней для беларусаў. Сярод асвоеных запазычанняў з польскай мовы словы ўсіх лексіка-граматычных класаў і самай разнастайнай тэматыкі. Гэта назвы:

— прадметаў быту, прылад працы і прадуктаў вытворчасці: *банка, бирка, бохонъ, виделецъ, гарнецъ, кломля* 'рыбалоўная прылада', *клумокъ, ковадло, ляска* 'жазло', *оборъ* 'рыбалоўная прылада', 'абарэц', *похва* 'ножны', *парплица, пасъ* 'рэмень', *постронокъ, рыдэль, швайка, шпилька;*

— адзення і абутку: *курта, пантофля, футро, хуста, чапка* 'шапка', *шата* 'плашч', 'верхняе адзенне';

— пабудоў і іх частак: *брама, блона* 'шыба', *лиштва, млынъ, поренчь, рыштованье, склепъ, турма, тынкъ;*

— жывёл і птушак: *боцянъ, быдло, кернозъ* 'кнораз', *малпа, подцялокъ* 'падцёлак', *птахъ, шпакъ;*

— асоб па іх роду дзейнасці, становішчу ў грамадстве, асаблівасцях характару, паводзін і інш.: *арендаръ* 'арандатар', *блазень, блюзнерца* 'богазневажальнік', *вязень, дедичь* 'спадчыннік па дзеду', *дозорца, егомость, езуить, жебракъ, ксендзъ, кушнеръ, мещанинъ, мураль* 'муляр', *панъ, плебанъ* 'каталіцкі прыходскі святар', *полковникъ, цыруликъ;*

— грамадска-палітычных і юрыдычных паняццяў: *гербъ, листъ* 'грамата', *поветъ, привелей, сеймъ, чиншъ;*

— абстрактных і навуковых паняццяў: *блескъ, ганьба, дефектъ, ексцесъ, едность, здрада, истота, кантыка, моцъ, пыха, рахуба, сенсъ, скарбъ, скарга, скруха, табліца;*

— прымет, якасцей, уласцівасцей: *блакитный, вель-*

*можный, вечистый, вильготный, власный, драпежный, заядлый, звыклый, крэвный, латвый, наглый, недолужный, опентаный, певный, пильный, плесниывый, пытлованый, рыхлый, хцівый, хондогий;*

— дзеянняў, працэсаў, стану: *администровати, апелевати, арештовати, будовати, виншовати, втелятися, выстарчити, гамовати, дбати, декляровати, диспутовати, мадыктовати, касовати, квапитися, квитнути, кохати, мадыктовати, мордовати, мусити,ierковати, ошукати, пицолевати, мордовати, мусити, мерковати, ошукати, пицоловати, рабовати, ратовати, рисовати, смаровати* 'шмараваць', *тревати* 'працягвацца', 'трываць', *хибити, цытовати, шановати, шарпати, шукати;*

— прымет дзеяння або якасці: *гурмомъ, зненацка, дощенту, стале* і інш.

Значная частка польскіх слоў, асабліва пазнейшых запазычанняў, фанетыка-марфалагічных і словаўтваральных дублетаў да беларускіх слоў, не была засвоена жывымі народнымі гаворкамі і пасля заняпаду старой пісьменнасці з беларускай мовы выпала. Сярод такіх незасвоеных паланізмаў няпоўнагалосныя формы слоў (тыпу *влока, длото, здрове, млеко, слодкий*); утварэнні з суфіксамі: *-ца (вадца, выдавца, выкладца, давца, забавца, заступца, лакомца, наступца, отдавца, подводца, розлівца, указца, хвалца); -иско (багниско, дивовиско, збориско, кочовиско, огниско, паствиско, седлиско); -изна (готовизна, дедизна, капщизна, материзна, потребизна, пустовизна); -чикъ*, адпаведнага ўсходнеславянскім *-ецъ, -анинъ, -янин (асирийчикъ, вавилончикъ, египчикъ, македончикъ, палестинчикъ)*, паланізмы з неазначальнай часцінкай *-колвекъ (будьколвекъ, гдеколвекъ, илеколвекъ, колкоколвекъ, откульколвекъ, хтоколвекъ, чийколвекъ, якийколвекъ)*, лексічныя дублеты да ўсходнеславянскіх і ўласнабеларускіх адпаведнікаў (*бранецъ* 'палонны', *велерибъ* 'кіт', *гасло* 'пароль', 'дэвіз', *захвіценне* 'захапленне', *каламаръ* 'чарнільніца', *наметъ* 'шацёр', *цорка* 'дачка', *вспанялый* 'пышны', *вшетечный* 'распусны', *обцый* 'чужы', *повшехный* 'усеагульны', *статечный* 'паважны'; *бадати* 'вывучаць', *втручатися* 'умешвацца', *кновати* 'хітраваць', *шкалевати* 'зневажаць'; *барзо* 'вельмі', *доперо* 'толькі', *речивисте* 'сапраўды', *теразъ* 'цяпер', *тэжъ* 'таксама' і інш.

Інтэнсіўна развіваючыся ва ўзаемадзеянні з суседнімі мовамі, польская мова на працягу XVI—XVII стст. з'яўлялася перадатчыцай у беларускую мову многіх

еўрапеізмаў як тэрміналагічнага, так і бытавога характару. Як лічаць даследчыкі, праз польскае пасрэдніцтва ў беларускую мову праніклі некаторыя словы з нямецкай (*балька, бляха, кубел, стадола*); чэшскай (*капліца, каптуръ, костелъ, можджеръ, пушка* 'гармата'); венгерскай (*бекеша, гайдукъ, гусаръ, киверъ* 'ваенны галаўны ўбор', *кучма, магерка, палашъ, шеренгъ*, 'шарэнга'); італьянскай (*игрестъ, балясъ* 'балюстрада', *кавалеръ, карета, галера, марципанъ, палацъ, почта, протестъ, шпалеръ*); французскай (*банкетъ, ботъ, ваканция* 'вакансія', *визытъ, дракгунъ, жестъ, кардонъ, кирисъ* 'кіраса', *маршъ, корнетъ, мушкетъ, парфума, пателя* 'патэльня', *пистолетъ, резонъ, реплика, фатыкга* 'клопаты') моў.

1. Лацінізмы. З'ўляючыся працяглы час дзяржаўнай мовай многіх краін Еўропы, лацінская мова ў перыяд сярэдневякоўя зрабілася міжнароднай мовай навукі, школы, філасофіі, дыпламатыі. У выніку гэтага лексічныя багацці лацінскай мовы былі глыбока засвоены раманскімі, германскімі, заходнеславянскімі мовамі. З гэтых моў, пераважна праз польскую, лацінізмы ў XVI—XVII стст. шырокім патокам пранікалі і ў старабеларускую мову. Пэўная колькасць іх, лічаць даследчыкі, магла быць засвоена і непасрэдна з лацінскай мовы, паколькі на ёй у тагачаснай Беларусі пісаліся дзяржаўныя акты, друкаваліся трактаты, вялося богаслужэнне ў каталіцкай царкве. Лацінскую мову добра ведалі і пісалі на ёй беларускія асветнікі Ф. Скарына, С. Будны, В. Цяпінскі, М. Гусоўскі і інш.

Характэрную асаблівасць лацінізмаў старабеларускай мовы складала тое, што ў пераважнай большасці яны мелі кніжна-тэрміналагічны характар і адносна нямногія з іх з'яўляліся назвамі канкрэтных прадметаў і рэалій. Сярод іх умоўна можна вылучыць некалькі семантыка-стылістычных разрадаў:

— назвы абстрактных паняццяў, разумовых працэсаў, псіхалагічнага стану і інш.: *амбиция, апробация, апсурдъ, афектъ, гармония, гоноръ, гуморъ, диспутация* 'дыспут', *ексцесъ, инстинктъ, импетъ, интересъ, кграция, калкуляция, канонизация, колеръ, консистенция, композиция, лимитация, мета, натура, потенция, прокгресъ, процесъ, рация, секретъ, сентенция, темпераментъ, форумъ;*

— тэрміны навукі, культуры, асветы: *алфабетъ,*

*вершъ, градусъ, дефиниция, елементъ, екзаменъ, калцеданъ, канцеръ, карта, квадратъ, комедия, коммонтарий, крышталь, лекция, литера, макгнетъ, макгнесъ* 'магніт', *матерня, мистерия, нация, нота* (муз.), *орнаментъ, планета, плюсъ, политика, пропорция, рация, рецептъ, субстанция, текстъ, трактатъ, форма;*

— грамадска-палітычныя, юрыдычныя, царкоўна-рэлігійныя тэрміны, што адлюстроўвалі палітычную структуру грамадства, важнейшыя грамадскія мерапрыемствы, прававыя і маральныя традыцыі: *администрацыя, аренда, апеляция, акция, аргументъ, вотум* 'голас', *декларация, декретъ, дирекция, дисциплина, експедиция* 'паход', *индульгенция, инквизыция, инстанция, инструкция, канцелярыя, колекгиум* 'іезуіцкая школа', *комерция, комисия, контрактъ, кооперация, конституция, нота* (дыпл.), *ординария, пактъ, парафия, провинция, протекция, публика, ревизия, резыденция, реликвия* 'святыя мошчы', *реликгия, реквизиция, реляция, секта, сесия, статутъ, титулъ, уния, экзекуция;*

— тэрміны, характэрныя для дзелавой пісьменнасці: *автентикъ*, 'арыгінал', *актъ* 'дакумент', *аннотация* 'заўвага', 'прыпіска', *аркушъ* 'ліст паперы', *атрамент* 'чарніла', *дата, документ, екземпляръ, инвентаръ, календаръ, квитанция* 'распіска', *квота* 'сума грошай', *копия, оригиналъ, паркгаментъ, пунктъ* 'раздзел дакумента', *рата* 'частка плацяжу', *сума, такса, терминъ.*

Вялікую тэматычную групу складалі лацінізмы, што абазначалі назвы асоб па службоваму і сацыяльнаму становішчу, роду дзейнасці, светапогляду, па прыналежнасці да розных грамадска-палітычных плыней і інш.: *аббатиеса, авторъ, администраторъ, аиентъ* 'агент', *академикъ, арбиторъ, асесоръ* 'засядацель', *бакаларъ* 'настаўнік', *еретикъ, деканъ* 'старшы святар', *делегатъ, депутатъ, директоръ, диссидентъ, докторъ* 'доктар', 'настаўнік багаслоўя', *императоръ, инспекторъ* 'наглядчык', *капелянъ* 'ксёндз, які загадваў капліцай пры касцёле', *кардиналъ, колега, комисаръ* 'ураднік са спецыяльнымі абавязкамі', *кондидатъ, консулъ, нотарий* 'пісар', *ораторъ, параситъ* 'дармаед', *патронъ, пелкгримъ* 'пілігрым', *персона, професоръ, резыдентъ* 'сенатар', *риторъ, секретаръ, сенаторъ, студентъ, тиранъ, фундаторъ* і інш.

У асобную групу можна аб'яднаць нешматлікія лацінізмы з канкрэтным значэннем, якія абазначалі прадметы і рэчы бытавога выкарыстання (*кварта, келихъ,*

*комната, компасъ, карта, цымбалы, цыркль, шкатулка)*, некаторыя віды адзення і ўпрыгожанняў (*велюмъ, гуня, диаментъ, диадема, капелюшъ, кошуля*), назвы раслін (*буракъ, лилия, олива, пальма, пастернакъ, рута, цыбуля*), жывёл (*байволъ* 'буйвал', *делфинъ, мулъ, пеликанъ)* і інш.

Акрамя назоўнікаў, помнікі старабеларускай пісьменнасці зафіксавалі вялікую колькасць дзеясловаў лацінскага паходжання (*апробовати, ветовати* 'накладваць вета', *контрактовати, короновати, лимитовати, протестовати, триумфовати, формировати*), прыметнікаў (*аномальный, актуальный, виртуальный, мизерный, моральный, окцедентальный* 'заходні', *ориентальный* 'усходні', *реальный*), некаторыя прыслоўі (*автентыце* 'перакапаўча', *раптам* і інш.).

Значная частка пералічаных лацінізмаў была засвоена народнымі гаворкамі і праз іх трапіла ў новую беларускую мову, астатнія пасля заняпаду старабеларускай пісьменнасці былі забыты і вярнуліся ў беларускую мову толькі ў наш час, але ўжо праз рускую мову.

3. Германізмы. Словы з германскіх моў маглі пранікаць у старабеларускую мову шляхам прамога запазычання, праз пасрэдніцтва польскай мовы і з мовы ідыш беларуска-літоўскага варыянта[5]. Непасрэднае запазычванне адбывалася на працягу ўсёй гісторыі старабеларускай мовы ў працэсе гандлёвых сувязей і цесных кантактаў беларускага насельніцтва з нямецкімі каланістамі, спецыялістамі ў галіне рамеснай і іншай гаспадарчай дзейнасці. Аднак найбольшая частка германізмаў пранікла ў старабеларускую мову з польскай мовы, якая пачала іх запазычваць яшчэ ў XIII ст. Роля мовы ідыш у пашырэнні германізмаў у беларускай мове была адносна нязначнай, паколькі ў зносінах з мясцовым насельніцтвам яўрэі (гандляры, рамеснікі) карысталіся, як правіла, беларускай моваЙ.

У прынцыпе ж вывучэнне ўплыву яўрэйскай мовы на беларускую натыкаецца на рад цяжкасцей. Прычына ў тым, што яўрэйская мова, будучы па свайму складу пераважна нямецкай, уключала таксама многа славянскіх і старажытнаяўрэйскіх слоў. Наяўнасць у стара-

---

[5] Чертко И. И. Лексика немецкого происхождения в старобелорусском языке: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1967. С. 7.

беларускай мове слоў, агульных для нямецкай і яўрэйскай моў (напр., *гандель, кахля, лотръ, рахунокъ*), не дазваляе з упэўненасцю сказаць, адкуль прыйшлі гэтыя словы. Зусім дапушчальным лічаць даследчыкі, што яны прыйшлі ў беларускую мову не з нямецкай, а з яўрэйскай. Ва ўсякім разе, наяўнасць гэтых слоў у яўрэйскай мове спрыяла замацаванню іх у беларускай мове.

Непасрэднымі запазычаннямі з яўрэйскай мовы трэба лічыць толькі словы, якія ў ёй з'яўляюцца семіцкімі: *балаголъ, бохур* 'франт', 'малады яўрэй', *кагалъ, маца, месияшъ* 'месія', *пэйсы, рабинъ, талмутъ, хала, хайрус, хевра, цымус, шабасъ* і інш.

Сферамі дзейнасці, у якіх адбываліся кантакты беларускага насельніцтва з нямецкім, была абумоўлена тэматычная накіраванасць германізмаў у старабеларускай мове. Асноўны пласт запазычанняў з германскіх моў складала бытавая і вытворча-гаспадарчая лексіка, звязаная з абазначэннем:

— прадметаў быту, мэблі, пасуды, прылад працы і пад.: *арфа, барда* 'від сякеры', *блокъ* 'пад'ёмнае прыстасаванне', *ванна, варстатъ, галябарда, гебель, друшлякъ, жакъ* 'рыбалоўная прылада', *зедель, кельня, крижъ, куфель, кубелъ, крукъ, крига* 'рыбалоўная прылада', *кнотъ, лейцы, ланцухъ (ланцугъ), лихтаръ, лямпа, муништукъ, обцуги, риштунокъ, талеръ* 'талерка', *труна, шафа, цвекъ, цеберъ, цукгли, штофъ*;

— рэчываў, матэрыялаў і вырабаў з іх: *баволна, бляха, болтъ, букса, бурштынъ, гонтъ, дротъ, кафель, клямар, крэйда, паперъ, пляcтръ, фарба, цегла, цына* 'волава', *шина, штаба*;

— розных відаў адзення і яго частак, тканін, упрыгожанняў і іншых прадметаў туалету: *абшлягъ, бархатъ, гарусь, едвабъ*, 'шоўк', *замшъ (замешъ), колдра, панцоха, шлягъ* 'шляк', 'аблямоўка', *фалда, фартухъ (хвартухъ), шнуръ*;

— прадуктаў харчавання, напіткаў, зёлак: *скиба, трунокъ* 'напітак', *шмалецъ, шпикъ* 'косны мозг', *цытваръ* і інш.;

— пабудоў, іх частак і дэталей: *балька, броваръ, брукъ, буда, гамеръ* 'кузня', *гута, дахъ, кгмахъ (гмахъ), кганокъ (ганокъ), кухня, лата, мурлатъ* 'бэлька', *рама, стадола, цехъ, шахта, шиба, шопа, шпиталь, штандаръ* 'драўляная апора пад зрубам', *шула*.

Значнае месца сярод запазычанняў з германскіх моў

займала сацыяльна-эканамічная лексіка — словы і тэрміны, што абазначалі:

— назвы асоб па іх сацыяльнаму становішчу ў грамадстве, пасадзе, роду дзейнасці, роднасных адносінах, светапогляду і інш.: *атеистъ, бенкартъ, бурмистръ, вахмистръ* 'ахоўнік', *войтъ, гетманъ, генералъ, гарбаръ* 'кушнер', *грабаръ* 'землякоп', *канцлеръ, катъ, комендантъ* 'судовы выканавец', *лотръ* 'бандыт', *офицеръ, ратманъ* 'член магістрата', *рымаръ, ротмистръ, рыцаръ, слесаръ, стелмахъ* 'калеснік', *фурманъ (хурманъ), швакгеръ, шляхта;*

— назвы мерапрыемстваў, прадметаў і паняццяў, мер вагі, грашовых адзінак і пад., звязаных з развіццём гандлю: *вага, гандель, кермашъ, кипа, коштъ, крама, рахунокъ, решта, рынокъ, румъ* 'месца пагрузкі', *стосъ, фунтъ, цаль, центнаръ, шали, шелегъ, ярмаркъ;*

— вайсковыя прадметы, паняцці, дзеянні: *варта* 'каравул', *вахта* 'ахова', *куля, кгранатъ, панцыръ, пляцъ* 'поле бою', *рота, шротъ, штурмъ, штыхъ;*

— асобныя паняцці з розных іншых сфер грамадскага жыцця: *ратуша, турма, фольварокъ, хуторъ, шпиталь* і інш.

Абстрактная лексіка прадстаўлена такімі словамі, як *арестъ (арештъ), бликъ, бунтъ* 'бунт', 'натоўп', *гартъ, друкъ, жартъ, кгвалтъ (гвалтъ), пляга* 'няшчасце', *лиосъ* 'лёс', 'жэрабя', *рада, смакъ, фальш, штука* 'хітрасць', *шанцъ* 'шанс', *шкода* і адпаведнымі дзеясловамі тыпу *гартовати, друковати, смаковати, шанцовати* і інш.

Асноўная маса германізмаў пранікала ў беларускую мову вусным шляхам, у працэсе непасрэдных кантактаў, і таму спачатку яны засвойваліся народнымі гаворкамі. Пасля заняпаду старабеларускай пісьменнасці гутарковая мова захавала іх і пазней перадала новай беларускай літаратурнай мове, дзе яны ўспрымаюцца цяпер як зусім асвоеныя, уласна беларускія словы.

4. Грэцызмы. Гэта адзін з найбольш даўніх пластоў лексічных запазычанняў у беларускай мове. Шырокае пранікненне грэцызмаў ва ўсходнеславянскія мовы пачалося яшчэ ў старажытнарускі перыяд, калі ўсходнія славяне мелі непасрэдныя кантакты з Візантыяй і прычарнаморскімі грэчаскімі калоніямі, а таксама пасля прыняцця на Русі хрысціянства.

Значная частка грэцызмаў рэлігійнага, навукова-кніжнага і бытавога характару са старажытнарускіх

крыніц пранікла ў старабеларускую пісьменнасць, дзе адбывалася іх далейшае асваенне. Шырока ўводзячы ў свае тэксты грэчаскія словы, старабеларускія кніжнікі адчувалі, што для мясцовага чытача яны застануцца незразумелымі. Таму новыя словы, як правіла, уводзіліся ў тэксты тлумачэннямі на народнай мове. Такі падыход да выкарыстання грэцызмаў, заўважае А. І. Жураўскі, наглядаецца ўжо ў Ф. Скарыны. У прадмове да Біблii, пералічваючы грэчаскія назвы навук, ён дае ім разгорнутае тлумачэнне на тагачаснай беларускай мове: *граматыка* («по руски говорячы грамоту, еже добре чести и мовити учить»), *логика* («она же учить з доводом рознити правду и кривду»), *риторика* («еже есть красномовность»). У выданнях XVII—XVIII стст. гэты спосаб увядзення ў тэксты запазычанняў выкарыстоўваўся яшчэ шырэй: *катехизисъ*, альбо вызнанне веры (1600), *диоптра*, альбо зерцало (1612), *гистория*, альбо правдивое выписание (1637), *лексиконъ*, сиречь словесникъ (1722) і інш.[6]

Побач з асваеннем грэчаскіх лексічных запазычанняў старажытнарускага перыяду слоўнікавы састаў старабеларускай мовы папаўняўся і новымі грэцызмамі. Аднак, паколькі непасрэдныя кантакты беларусаў з грэкамі ў гэты час былі абмежаванымі, важнейшымі каналамі пранікнення новых грэцызмаў у беларускую мову былі пераклады навуковай і рэлігійнай грэчаскай літаратуры, а таксама вывучэнне грэчаскай мовы ў беларускіх брацкіх школах. Пэўная колькасць грэцызмаў трапіла ў старабеларускую мову з заходнееўрапейскіх моў праз польскую і з цюркскіх — праз рускую. Гэтым тлумачыцца наяўнасць розных фанетычных і словаўтваральных варыянтаў аднаго і таго ж слова ў розных пісьмовых тэкстах, параўн.: грэч. τυραγγος > руск. *тиранъ* > ст.-бел. *тиранъ* і польск. *tyran* > ст.-бел. *тыранъ*.

Грэцызмы — гэта ў пераважнай большасці тэрміны розных галін навукі і культуры: *альфа, аллигория, архетипъ, астрономия, библиотека, геометрия, гебраизм, гимнъ, гимнасия, гистория, диалектика, диалектъ, диалокгъ, догма, епиграмма, етимонъ, комета, космосъ, лексиконъ, муза, омекга, ортокграфия, парадигма, педагогъ, периодъ, риторика, сфера, траедия, хаосъ, хронология, школа.*

---

[6] Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. С. 124—125.

Сярод іншых грэцызмаў рэлігійныя тэрміны (*апокрыфъ, герезыя, католикъ, катехисисъ, папа* 'глава рымска-каталіцкай царквы', *парафия, синодъ, схизма, теология*), грамадска-палітычныя (*ареопагъ, гимнъ, деспотъ* 'валадар', *економия* 'каралеўскі маёнтак', *сатрапъ, тиранъ*), медыцынскія (*апоплексия, аптека, балсам, гермофродитъ, меланколия, подакгра*). Адносна нямногія грэцызмы абазначалі назвы жывёл і раслін (*гидра, иппотамъ, кардымония, кминъ, крокодилъ, хамелеонъ*), прыродных з'яў і рэчываў (*алмазъ, алябастръ, аметистъ, дыяментъ, нафта, олифа, сандалъ, сахаръ, шмарагдъ*), бытавых прадметаў і паняццяў (*катарга* 'вёсельная лодка', *коминъ, реçина* 'рызіна', *сикль* 'мера вагі', *цытра* і інш.).

Асобныя з гэтых грэчаскіх слоў былі засвоены народнымі гаворкамі, а з іх пераняты і новай беларускай літаратурнай мовай. Іншыя ж былі пазней запазычаны паўторна з рускай і іншых моў.

5. Ц ю р к і з м ы. У лексіцы старабеларускай мовы вылучаюцца два храналагічна розныя пласты цюркізмаў: запазычанні перыяду агульнаславянскага і старажытнарускага адзінства (*алмазъ, алтынъ, атаманъ, курганъ, мурза, саранча, тамга, туманъ, шатеръ*) і цюркскія запазычанні перыяду самастойнай гісторыі беларускай мовы.

Пласт ранніх запазычанняў з цюркскіх моў у помніках старабеларускай пісьменнасці аказаўся значна меншым, чым у старарускай мове. Абумоўлена гэта было тым, па-першае, што насельніцтва беларускіх зямель не адчула татара-мангольскага прыгнёту, а значыць, і прамога ўздзеяння цюркскіх моў на беларускую; па-другое, у перыяд фарміравання беларускай народнасці ў складзе Вялікага княства Літоўскага многія з ранніх цюркскіх запазычанняў тут былі выцеснены сінанімічнымі словамі з заходнееўрапейскіх моў альбо заменены мясцовымі адпаведнікамі. Параўн., напрыклад, руск. *ямщик* — бел. *фурман, возчык* і далей адпаведна: *войлок — лямец, деньги — грошы, жесть — бляха, изюм — разынкі, казна — скарб, кайма — шляк, кабак — шынок, камыш — чарот, караул — варта, кирпич — цэгла, лачуга — халупа, чердак — гара, чулок — панчоха, чулан — каморка* і інш.

Значна большы пласт складаюць цюркізмы, што непасрэдна або пры пасрэдніцтве суседніх славянскіх моў

пранiклi ў мову беларускай народнасцi на працягу XIV—XVII стст. Пачынаючы з часоў Гедымiна (1316—1341), узмацняюцца непасрэдныя кантакты гандлёва-эканамiчнага i ваеннага характару памiж Вялiкiм княствам Лiтоўскiм i цюркскiмi народамi, што насялялi прычарнаморскiя стэпы. Лiтоўскiя князi вялi дыпламатычную перапiску з крымскiмi ханамi, запрашалi татар на службу ў свае войска, мелi ад iх падтрымку ў войнах з Польшчай i Лiвонскiм ордэнам. На Беларусi i ў Лiтве паяўляюцца астраўкi татарскiх паселiшч з дабравольных перасяленцаў, палонных, рамеснага i гандлёвага люду, якi ўступаў у непасрэдныя моўныя сувязi з мясцовым насельнiцтвам. Усё гэта садзейнiчала пранiкненню цюркiзмаў у жывую беларускую мову, а з яе i ў пiсьмовыя помнiкi.

Частка ўласна цюркiзмаў i цюркскiх запазычанняў з iншых моў прыйшла ў старабеларускую пiсьменнасць з суседнiх моў: рускай (*кабала, китайка* 'род шаўковай тканiны', *калека, каблук, кочевати, нагайка, юхтъ*), польскай (*кишеня, мечеть, ермякъ* (*ормякъ*) 'армяк', *палашъ, таборъ, гайдукъ*), украiнскай (*гайда, кавунъ, козакъ, чабанъ, чумакъ* i iнш.). Разам з тым трэба агаварыцца, што дакладна вызначыць шлях пранiкнення кожнага слова цюркскага паходжання ў беларускую мову цяпер яшчэ немагчыма. Многiя iншамоўныя словы, што зусiм дапушчальна, маглi пранiкаць у беларускую мову адначасова па некалькiх каналах.

У адрозненне ад лацiнiзмаў, грэцызмаў i паланiзмаў, пераважную большасць якiх складалi словы з тэрмiналагiчным i абстрактным значэннем, цюркiзмы ў асноўнай сваёй масе — словы з канкрэтным значэннем. Сярод iх назвы:

— асоб па сацыяльнаму становiшчу, роду дзейнасцi, духоўных i фiзiчных асаблiвасцях: *атаманъ, баскакъ, баша* 'паша', *бекгъ* 'бек', *бусурмянинъ, богатыръ* 'асiлак', *есаул, калека, казакъ* (*козакъ*), *мурза, султанъ* (*солтанъ*), *толмачъ* 'перакладчык', *чабанъ, яничаръ* 'янычар', *ямщикъ*;

— бытавых прадметаў, воiнскiх даспехаў, вiдаў халоднай зброi i пад.: *баклага, бунчукъ, кантаръ* 'вiд аброцi', *кгинчалъ* 'кiнжал', *кайданы, кистень* (*кестень*), *ковчанъ, кончукъ* 'казацкая плётка', *кончеръ* 'меч з вузкiм клiнком', *нагайка, палашъ, сагайдакъ* (*саадакъ, сайдакъ*), *сурма* 'баявая труба', *торба, торокъ* 'шаўковы

шнур', *тютюнъ, уюкъ (вьюкъ), шишакъ* 'шлем', *чапракъ* 'пакрыццё сядла';

— тканін, розных відаў адзення, абутку, упрыгожанняў: *бачмагъ* 'чаравік', *епанча, ермякъ (ормякъ), кабатъ, камка* 'шаўковая ўзорыстая тканіна', *карандашъ, кафтанъ, кишеня, килимъ, китайка* 'шаўковая тканіна', *коберацъ (коверецъ), колпакъ, кунтушъ, кутасъ, сафъян, чоботъ, чулокъ, юхтъ (юфтъ);*

— назвы адзінак меры, вагі і іншых гандлёва-эканамічных паняццяў: *аршинъ, барышъ, деньги, кабала, калита, могорить* 'магарыч', *таволга* 'прылада для вымярэння', *тамга* 'гандлёвая пошліна', *таваръ, черга, ясакъ* 'даніна ад іншародцаў';

— будынкаў, іх частак, будаўнічых матэрыялаў: *амбаръ, кабакъ, мечеть, чуланъ, шатеръ, юртъ;*

— жывёл, насякомых: *бахматъ* 'нізкаpraslы конь', *беркутъ, болобанъ* 'парода сокала', *бугай, кабанъ, саранча, тараканъ;*

— колераў і масцей жывёлы: *алый, буланый, бурый, карий, каурый, чалый* і інш.

Сярод цюркізмаў, засведчаных у помніках старабеларускай пісьменнасці, вылучаецца група экзатызмаў — слоў, што абазначалі спецыфічна ўсходнія прадметы і паняцці са сферы быту, рэлігійных вераванняў і інш.: *алкоранъ, аллахъ, байрам* 'магаметанскае свята', *гяуръ* 'няверны', *корованъ, молла* 'мула', *мектэбэ* 'школа', *улусъ* 'татарскае сяло', *ярлыкъ* 'ханская грамата' і інш.

Падобна запазычанням з іншых моў цюркізмы толькі часткова былі засвоены жывымі народнымі гаворкамі і новай беларускай літаратурнай мовай, многія ж былі пазней запазычаны паўторна.

6. Л і т у а н і з м ы. Як ужо гаварылася, фарміраванне праславянскай мовы адбывалася ў канцы II тысячагоддзя да н. э. на заходнебалтыйскім арэале. З таго часу балтыйскія плямёны былі бліжэйшымі суседзямі продкаў беларусаў. Узаемаадносіны паміж літоўскім і беларускім насельніцтвам яшчэ больш паглыбіліся, калі ў XIII—XIV стст. беларускія землі аказаліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Гэты гістарычны факт абумовіў своеасаблівы характар узаемадзеяння паміж беларускай і літоўскай мовамі. Паколькі літоўцы ў той час яшчэ не мелі сваёй пісьменнасці, беларуская (заходнеруская) мова зрабілася афіцыяльнай дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага. Ёй карысталася і

літоўскае насельніцтва, асабліва вышэйшыя слаі грамадства. У выніку гэтага літоўская мова адчула больш глыбокі ўплыў з боку беларускай, чым беларуская з боку літоўскай.

Па сведчанню даследчыкаў старабеларускай пісьменнасці, колькасць літуанізмаў, больш-менш пашыраных у старабеларускіх помніках, не перавышае 40 слоў[7]. Сярод іх зусім няма слоў з абстрактным значэннем, гэта пераважна намінатыўныя адзінкі, што абазначаюць прадметы і паняцці гаспадарча-бытавога характару, а іменна назвы:

— пабудоў і іх частак: *евня, клуня, орудъ* 'засек', *пуня, свирень;*

— прылад працы, прадметаў і прадуктаў вытворчасці: *атоса, деготь, ендова* 'вялікая міска', *крушня* 'куча камення', *куль, пакуле* 'пакулле', *скирта (стирта), склютъ* 'цяслярская сякера', *торпина* 'тарпа' і інш.;

— сельскагаспадарчых і прыродных паняццяў: *дирванъ, ройстро* 'балоцістае месца', *жвиръ;*

— асоб па прафесіі, сацыяльнаму становішчу: *дойлидъ, клебанъ, ройтникъ* 'даглядчык коней';

— некаторых сацыяльна-эканамічных паняццяў: *дякло (дзякло)* 'падатак зернем', *бонда* 'маёмасць, грошы, атрыманыя ў падзяку' і інш.

Многія літуанізмы, засвоеныя беларускімі народнымі гаворкамі, у помніках старабеларускай пісьменнасці не знайшлі адлюстравання, аднак пазней праз творы мастацкай літаратуры яны трапілі ў новую літаратурную мову і зрабіліся агульнапрынятымі (напрыклад, *гірса, венцер, груца, жлукта, клыпаць, крупеня, кумпяк, мянташка, лоўж, рэзгіны, слівень, твань, шашок* і інш.). Літоўскі элемент прасочваецца і ў сучаснай беларускай айканіміі, антрапаніміі, гідраніміі.

7. Стараславянізмы (царкоўнаславянізмы). У ранніх помніках старабеларускай пісьменнасці стараславянізмы, атрыманыя ў спадчыну са старажытнарускай мовы, па традыцыі выкарыстоўваліся яшчэ досыць шырока. Гэты пласт складалі такія словы кніжна-рэлігійнага зместу, як *агнецъ, адъ, бдение, бесъ, блаженство, брань, бремя, власть, вопль, востокъ, восходъ, врагъ, всуе, градъ, длань, злато, нощь, облечися,*

---

[7] Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. С. 146.

*предати, пламень, рабъ, разумъ, страсть, хула, чрево, юноша* і інш.

У XVI ст. пад уплывам ідэй Рэфармацыі сфера выкарыстання царкоўнаславянскай мовы паступова звужаецца, помнікі канфесіяльнай літаратуры перакладаюцца на беларускую мову, на ёй жа пішуцца і арыгінальныя творы. Перакладчыкі і аўтары гэтых твораў (Ф. Скарына, С. Будны, В. Цяпінскі і інш.) імкнуліся замяніць незразумелыя стараславянскія словы і формы агульнаўжывальнымі для таго часу беларускімі адпаведнікамі, у выніку чаго стараславянскі лексічны элемент нават у помніках рэлігійнай літаратуры аказаўся амаль поўнасцю выцесненым. Спробы праваслаўнага духавенства ў XVII ст. ажывіць царкоўнаславянскую мову як адзін са сродкаў барацьбы супроць каталіцызму не далі жаданых вынікаў: гэта мова заставалася чужой для простага чытача і не магла аказаць прыметнага ўплыву на жывую беларускую мову. Вынікам гэтых працэсаў з'явілася тое, што ў новую беларускую літаратурную мову трапілі толькі тыя нешматлікія стараславянскія словы і словаўтваральныя марфемы, што былі засвоены народнымі гаворкамі. Лічыцца, што сваім вытокам стараславянскую мову маюць такія беларускія словы літаратурнага ўжытку, як *акаянны, блага, благаславенне, благаславенны, благаславіць, благі, блажэнны, вобласць, воблака, вочы, вяшчаць, глава, дзесяціна, дрэва, дзясніца, ерась, жупел, злак, кратны, лік* 'аблічча', *падчарыца, прад, прадаць, праславуты, прашча, продак, раб, скрыжалі, трэба, уладыка, храм, храбры, цвярдыня, чало, член, шлем, юны.*

Адны з гэтых стараславянізмаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове выкарыстоўваюцца як стылістычна нейтральныя намінатыўныя адзінкі і не маюць уласна беларускіх адпаведнікаў (*вочы, вобласць, воблака, дрэва, храбры, член*), другія — як стылістычныя кампаненты да агульнаўжывальных беларускіх слоў (*чало — лоб, скрыжалі — закон, дзясніца — правая рука*).

## Раздзел III

# ЛЕКСІКА ПЕРЫЯДУ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ: ДАКАСТРЫЧНІЦКІ ПЕРЫЯД

## § 1. ФАРМІРАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ І ЯЕ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ Ў XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

Беларуская народнасць, якая к XVIII ст. склалася ў межах Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, у далейшым развівалася ў буржуазную нацыю, а мова народнасці ў нацыянальную мову. Гэты двухбаковы працэс працякаў марудна і заняў звыш сотні гадоў, з канца XVIII ст. аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Вызначалася гэта многімі гістарычнымі прычынамі.

З ліку ўмоў, неабходных для фарміравання ўсякай нацыі, у XIX — пачатку XX ст. спрыяльнымі для беларусаў былі толькі дзве: народ жыў на кампактнай тэрыторыі і гаварыў на адзінай беларускай мове. Але ён не меў сваёй дзяржаўнасці і ўласнай нацыянальнай буржуазіі, якая магла б стварыць адзіны ўнутраны рынак, кансалідаваць эканамічнае і культурнае жыццё краю і гэтым садзейнічаць фарміраванню беларускай нацыі і замацаванню яе мовы ў літаратуры.

Далучэнне ў канцы XVIII ст. беларускіх зямель да Расіі аказала ў цэлым дабратворны ўплыў на эканамічнае і культурнае развіццё Беларусі. Яна пачала ўцягвацца ў сферу капіталістычных адносін у рамках агульнарасійскага эканамічнага рынку, засвойваць лепшыя здабыткі перадавой рускай культуры, пазбаўляцца ад прымусовай паланізацыі і акаталічвання краю.

І ўсё ж уз'яднанне з Расіяй не вызваліла беларускі народ ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, не прывяло да стварэння хоць бы якой-небудзь беларускай аўтаноміі. За сферы ўплыву на беларускіх землях паміж Расіяй і Польшчай вялася бесперапынная барацьба, кульмінацыйнымі пунктамі якой з'явіліся польска-шляхецкія паўстанні 1794, 1830—1831, 1863 гг. Пра тое, каб даць беларускаму народу права на самавызначэнне, не думалі ні рускі царызм, ні правячыя колы Польшчы.

У XIX ст. яшчэ больш ускладнілася моўная сітуацыя, і становішча беларускай мовы к лепшаму не змянілася. Хоць дзяржаўнай мовай на Беларусі зрабілася

руская мова, на працягу амаль усяго стагоддзя тут паранейшаму выкарыстоўвалася і польская мова, на якой гаварыла мясцовая знаць, вялося справаводства, школьнае выкладанне і богаслужэнне ў касцёлах.

Паралельнае выкарыстанне рускай і польскай моў з'яўлялася адной з асноўных прычын, якія перашкаджалі замацаванню беларускай мовы ў пісьменнасці. Ідэолагі як рускага вялікадзяржаўнага шавінізму, так і польскага сепаратызму адмаўлялі беларускаму народу ў праве на развіццё сваёй мовы і стварэнне на ёй літаратуры, лічачы беларускую мову толькі мясцовым дыялектам, непрыгодным для літаратурнай апрацоўкі. «Беларуская вусная народная мова ніколі не будзе мовай літаратурнай, пісьмовай і кніжнай; немагчыма, не ў сілах стварыць яе цяпер з уласных элементаў і пад уласным імем... Селянін, калі возьмецца за пяро і будзе пісаць, ён з той мінуты будзе пісаць не па-беларуску, а па-руску» [1],— гаварыў у свой час рускі гісторык літаратуры, збіральнік беларускага фальклору П. А. Бяссонаў, выражаючы погляд афіцыяльных колаў на беларускую мову. Падобных пазіцый трымаліся і польскія «абаронцы» беларускай мовы: «Гэта акамянелая гаворка ў сваім амаль старажытным выглядзе, чыста народная, не адшліфаваная і не ўзбагачаная культурнай працай уласнага духу і думкі, заціснутая ў рамкі штодзённага побыту, не можа цяпер і ў далейшым перадаць поўную сілу і прыгажосць мастацкага вобраза» [2].

Такая ацэнка літаратурных магчымасцей беларускай мовы аслабляла творчую ініцыятыву той часткі інтэлігенцыі, якая спрабавала пісаць свае творы па-беларуску, параджала нявер'е ў здольнасці беларускай мовы развіцца ў мову літаратурную. Для прыкладу можна прыпомніць, што нават Ян Чачот, паэт і актыўны збіральнік беларускага фальклору, заклікаючы вывучаць крывіцкі дыялект, рабіў у той жа час агаворку, што «трэба сумнявацца, каб сам ён стаў пісьмовым і развіваўся самастойна» [3].

Не было стымулу для развіцця беларускага друкаванага слова ў XIX ст. ні з боку простага народа, які ў большасці сваёй быў непісьменны, ні з боку мясцовай

---

[1] Бессонов П. Белорусские песни. М., 1871. С. XIX—XX.
[2] Tygodnik ilustrowany. 1887. N 261.
[3] Czeczot Jan. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny. Wilno, 1846. C. XXXIII.

інтэлігенцыі, якая аддавала перавагу мастацкім творам, напісаным па-руску ці па-польску. Творчыя сілы, здольныя весці работу па стварэнню сваёй літаратуры і замацаванню беларускай мовы ў пісьменнасці, складваліся паступова ў працэсе ўзмацнення нацыянальна-вызваленчага руху і росту самасвядомасці беларускага народа. Пастаянную падтрымку гэтым сілам аказвалі прагрэсіўныя дзеячы рускага, украінскага, польскага народаў.

Такім чынам, паўкаланіяльнае становішча Беларусі ў складзе Расійскай імперыі, адсутнасць уласнай дзяржаўнасці, забарона беларускага друкаванага слова, эканамічная адсталасць, нізкі ўзровень развіцця прамысловасці і слабасць буржуазіі, неаднародная па свайму нацыянальнаму саставу,— усё гэта прытармажвала і замаруджвала працэс фарміравання беларускай буржуазнай нацыі і яе літаратурнай мовы ў XIX — пачатку XX ст.

Прамысловая і фінансавая буржуазія, якая выступала кіраўніком нацыянальных рухаў на Захадзе, не магла выканаць такой ролі ў Беларусі, бо, часткова спаланізаваная, часткова зрусіфікаваная, яна была мала звязана з нацыянальнымі інтарэсамі беларускага народа. Гэтай буржуазіі быў непатрэбен асобны беларускі нацыянальны рынак, бо адна яе частка імкнулася да ўтварэння агульнага рынку ў межах Рускай, другая — у межах Польскай дзяржавы. Гэта буржуазія карысталася адпаведна рускай або польскай мовай і таму не толькі не садзейнічала развіццю беларускай мовы і замацаванню яе ў літаратуры, але прымала ўсе магчымыя меры, каб перашкодзіць гэтаму працэсу.

У пачатку беларускага нацыянальнага руху, сацыяльную аснову якога складалі шырокія масы працоўных, ролю арганізатара і ідэйнага кіраўніка ўзяла на сябе дробная і сярэдняя нацыянальная буржуазія, а таксама дэмакратычна настроеная інтэлігенцыя. Неабходнасць кіраваць нацыянальным рухам прывяла да стварэння першай у Беларусі палітычнай партыі — Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Гэта была дробнабуржуазная партыя леванародніцкага напрамку, якая ў рэвалюцыі 1905—1907 гг. хісталася паміж рэвалюцыйна-дэмакратычнымі і ліберальна-буржуазнымі пазіцыямі. Не зразумеўшы гістарычнай ролі рабочага класа ў рэвалюцыі, Грамада ў перыяд новага рэвалюцыйнага

пад'ёму не змагла прыцягнуць пад свае нацыяналістычныя сцягі шырокія народныя масы і ў 1917 г. распалася, не вырашыўшы самых кардынальных задач беларускага нацыянальнага руху[4].

Падзеі грамадска-палітычнага жыцця ўплывалі на развіццё новай беларускай пісьменнасці і самі знаходзілі ў ёй сваё адлюстраванне. Таму ў гісторыі беларускай літаратуры і літаратурнай мовы дакастрычніцкага перыяду заметна вылучаецца некалькі храналагічных этапаў: 20—40, 50—60, 80—90-я гады XIX ст., пачатак XX ст.

На першым этапе мастацкая свядомасць беларускага народа выяўлялася пераважна ў фальклоры, паколькі ўмовы для літаратурнай апрацоўкі жывой народнай мовы толькі пачыналі складвацца. З гэтага часу да нас дайшло толькі некалькі невялікіх вершаў, звязаных з асобай аўтара: «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» П. Багрыма, «Скажы, вяльможны пане» І. Легатовіча, «Там, блізка Пінска» Ф. Савіча. У асноўным жа літаратура гэтага перыяду заставалася ананімнай і рукапіснай. Самымі значнымі па аб'ёму і ідэйна-мастацкіх вартасцях у гэты час з'яўляліся парадыйна-сатырычныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Лічыцца, што першая з іх напісана неўзабаве пасля Айчыннай вайны 1812 г., другая ў 1837 ці 1842 г., у друк трапілі адпаведна толькі ў 1890 і ў 1889 гг. З'яўленне гэтых паэм, гістарычных і наватарскіх, пацвердзіла паступальны рух культурнага жыцця на Беларусі, якое набывала новыя якасці пад уплывам культуры рускага і ўкраінскага народаў.

З пачатку 40-х гадоў літаратурная творчасць у Беларусі некалькі ажыўляецца. У гэты час працавалі беларуска-польскія паэты Ян Чачот, які надрукаваў 28 беларускіх вершаў у зборніку 1844 г., Ян Баршчэўскі (апублікаваў два вершы ў 1843 г. і ўрывак паэмы «Рабункі мужыкоў» у 1844 г.), А. Рыпінскі, А. Плуг і інш. Усе яны пачыналі сваю літаратурную дзейнасць са збірання, апрацоўкі і друкавання вусных народных твораў, потым ад выкарыстання іх матываў у польскамоўных сваіх творах пераходзілі да арыгінальнай творчасці на беларускай мове.

На 50—60-я гады прыпадае росквіт творчай дзей-

[4] БелСЭ. Т. 2. С. 230—231.

насці В. Дуніна-Марцінкевіча, самага буйнога прадстаўніка новай беларускай літаратуры на раннім этапе яе развіцця. Ужо ў першай сваёй камедыі «Сялянка», напісанай у 1846 г. на польскай мове, ён аддае даніну павагі і беларускай мове ў дыялогах персанажаў, што выступалі ад імя беларускіх сялян. Пазней ён напісаў па-беларуску вершаваныя аповесці «Вечарпоўнасцю ніцы» (1855), «Гапон» (1855), «Купала» (1856), «Шчароўскія дажынкі» (1857), «Верш Навума Прыгаворкі» (1857), п'есу «Пінская шляхта» (1866, надрукавана ў 1918 г.), камедыю «Залёты» (1870, надрукавана ў 1923 г.), «Быліцы, расказы Навума» (надрукаваны ў 1946 г.), баладу «Травіца брат-сястрыца» (надрукавана ў 1945 г.). У 1859 г. пераклаў на беларускую мову дзве першыя часткі паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча з'явілася новым этапам у развіцці беларускай літаратуры і літаратурнай мовы.

Абвастрэнне класавых супярэчнасцей, ідэалагічнай і палітычнай барацьбы напярэдадні адмены прыгоннага права і паўстання 1863—1864 гг. абумовіла паяўленне ў беларускай літаратуры публіцыстычнага жанру. Публіцыстычныя творы ў форме вершаў, вершаваных апавяданняў і гутарак зыходзілі з двух антаганістычных станаў: з боку царскіх улад і з асяроддзя працоўнікаў самаўладства.

Публікацыі «афіцыяльнага» напрамку прадстаўлены кнігамі «Бяседа старога вольніка з новымі пра іхняе дзела» (1861), «Апавяданне на беларускім дыялекце» (1863), а таксама вершамі «Прамова Старавойта да сялян аб свабодзе (для народнага чытання)», «Прамова Старавойта (для чытання маім землякам)» (1862) і інш. Прапаганда ў гэтых творах была накіравана супроць тых, хто крытыкаваў рэформу 1861 г., заклікаў сялян да паўстання, вёў палітыку акаталічвання і апалячвання беларусаў.

Побач з гэтай агітацыйнай літаратурай пачатку 60-х гадоў на беларускай мове паяўляецца многа выданняў, накіраваных супроць каланіяльнай палітыкі царызму, сацыяльнага прыгнёту і русіфікацыі. Гэтыя кнігі, газеты, рукапісныя творы выражалі ідэалогію пераважна польскіх нацыяналістычных колаў і спаланізаванай шляхты, якія марылі аднавіць Польшчу ў межах 1772 г. Найбольш значнымі з гэтых выданняў былі кніга «Гу-

тарка старога дзеда» (1861) і газета «Гутарка старога суседа», чатыры нумары якой выйшлі ў 1861—1862 гг. у Беластоку. У абодвух творах рэзка крытыкуюцца парадкі ў Расійскай імперыі, гучыць заклік да ўзброенага паўстання супроць царызму.

Самым радыкальным з усіх беларускіх, польскіх і літоўскіх агітацыйных выданняў, што выходзілі напярэдадні і ў час паўстання 1863 года, была газета «Мужыцкая праўда», сем нумароў якой выдаў К. Каліноўскі са сваімі паплечнікамі ў 1861—1863 гг. Газета з'явілася трыбунай для кіраўнікоў паўстання, якія ўмела раскрывалі селяніну сутнасць аграрнай рэформы, выступалі супраць непасільных падаткаў, прыгнёту і рэкруцкіх набораў, заклікалі падтрымаць польскае паўстанне.

Жорсткая расправа з удзельнікамі паўстання 1863 г., сярод якіх аказаліся і буйнейшыя тагачасныя беларускія пісьменнікі, адмоўна адбілася на далейшым развіцці беларускай літаратуры, на выданні беларускіх кніг. Цыркулярам 1867 г. забаранялася друкаванне беларускіх кніг лацінскім шрыфтам. Спробы друкаваць іх кірыліцай поспеху не мелі. Творы, напісаныя ў 60—70-х гадах, доўгі час заставаліся рукапіснымі. Так, п'еса В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта», напісаная ў 1866 г., была надрукавана толькі ў 1918 г., а «Залёты» (1870) — у 1923 г. і г. д.

Новае ажыўленне беларускай літаратуры наступае ў 80—90-х гадах з актывізацыяй грамадска-палітычнага жыцця ў Расіі. На гэты перыяд прыпадае творчасць другога буйнога пісьменніка XIX ст.— Ф. Багушэвіча. Беларускія творы ўмеранага і буржуазна-ліберальнага напрамку паяўляюцца на старонках мясцовага перыядычнага друку і асобнымі выданнямі: ананімная паэма «Тарас на Парнасе» (Віцебск, 1896, 1898, 1904 і інш.), «Энеіда навыварат» (Смаленск, 1890), «Вязанка» Янкі Лучыны (СПб., 1903); тут жа выдае свае дыдактычныя творы А. Ельскі: «Сынок» (1895), «Скарэй у Томск» (1896), «Слова аб праклятай гарэлцы» (1900). У Віцебску выходзяць кніжкі А. Пшчолкі: «Нарысы з жыцця беларускай вёскі» (1899), «Янкава скарга» (1900), «Беларускія апавяданні» (1901), М. Косіч «На перасяленне» (Чарнігаў, 1903) і інш.

Паяўляюцца пераклады з рускай і польскай моў: «Сігнал» Ус. Гаршына (Масква, 1891), «Пераклад некаторых баек Крылова на беларускі дыялект» (Чарні-

гаў, 1903), «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча (Львоў, 1892), «Янка-музыкант» Г. Сянкевіча (Кракаў, 1904) і інш.

Арыгінальныя беларускія творы, кнігі, перакладныя брашуры рэвалюцыйна-дэмакратычнага зместу выдаюцца нелегальна за межамі Беларусі: «Дудка беларуская» (Кракаў, 1891, 1896), «Смык беларускі» (Познань, 1894) Ф. Багушэвіча, нарыс С. Падалінскага «Пра багацтва ды беднасць» (Жэнева, 1881), ананімная гутарка «Дзядзька Антон» (Вільня, 1892), «Як зрабіць, каб людзям стала добра жыць на свеце?» (Лондан, 1903) і інш.

У канцы XIX ст. паяўляюцца капітальныя працы па фалькларыстыцы Е. Раманава, П. Шэйна, М. В. Доўнар-Запольскага; некаторыя даследаванні па этнаграфіі, фальклору і гісторыі Беларусі друкуюцца ў рускіх і польскіх выданнях.

У пачатку XX ст. пад уплывам рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гг. паслабляецца цэнзурны нагляд у кнігавыдавецкай справе, ствараюцца ўмовы для з'яўлення беларускіх легальных друкаваных органаў. Беларуская Сацыялістычная Грамада арганізуе выпуск на беларускай мове адозваў, лістовак, брашур, у 1906 г. па яе ініцыятыве пачынае выходзіць першая легальная беларуская газета «Наша доля», затым «Наша ніва», у якой друкуюцца творы беларускай мастацкай літаратуры, змяшчаюцца публіцыстычныя, навукова-папулярныя артыкулы, матэрыялы інфармацыйнага характару і інш. Арганізуецца рад беларускіх кнігавыдавецтваў: «Загляне сонца і ў наша аконца», «Наша хата», «Беларускае выдавецкае таварыства», «Палачанін», выдавецтва А. Грыневіча ў Пецярбургу, выдаюцца часопісы «Саха», «Лучынка», «Беларускі каляндар» (1910—1915) — самае шматтыражнае з беларускіх выданняў, альманах «Маладая Беларусь» і інш. За перыяд з 1901 па 1917 г. гэтымі выдавецтвамі было надрукавана 245 кніг на беларускай мове, у той час як за ўсё XIX ст. выйшла толькі 75 кніг[5].

З гэтых лічбаў відаць, што ў перыяд нацыянальна-вызваленчага руху беларуская літаратура, асабліва мастацкая, зрабіла значны крок у сваім развіцці. Яна адыграла важную ролю ў абуджэнні нацыянальнай свя-

---

[5] Александровіч С. Х. Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971. С. 163.

домасці беларусаў, садзейнічала фарміраванню беларускай нацыі і яе літаратурнай мовы.

## § 2. АСАБЛІВАСЦІ ФАРМІРАВАННЯ ЛЕКСІКІ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ Ў XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

У адрозненне ад большасці ранніх нацыянальных літаратурных моў, што фарміраваліся на аснове папярэдніх кніжных традыцый і вельмі асцярожна збліжаліся з народнымі дыялектамі, новая беларуская літаратура XIX ст. узнікла і развівалася на базе жывых народных гаворак, паколькі яна не магла непасрэдна абаперціся на традыцыі старабеларускай пісьменнасці, якія к гэтаму часу ў значнай ступені былі забыты. Жывым для будучых часоў з гэтай пісьменнасці захавалася толькі тое, што было засвоена народнымі гаворкамі.

Важным перадатчыкам моўна-выяўленчых сродкаў, назапашаных народам са старабеларускай літаратуры, з'явілася і вусная народная творчасць, якая, акумулюючы літаратурныя дасягненні розных эпох, набывае наддыялектны характар, а таму захоўвае «словы і звароты, звычайна неўласцівыя гутарковай мове»[6].

К часу станаўлення новай беларускай літаратуры лексіка народных гаворак па свайму саставу была генетычна неаднародная. Аснову яе складаў пласт агульнаўжывальных спрадвечных і ўласна беларускіх слоў рознай стылістычнай адзначанасці (нейтральных, народнапаэтычных, размоўна-грубых). Пэўнае месца ў ёй займалі прафесіяналізмы, вузкамясцовыя словы (дыялектызмы), запазычанні з іншых моў, неаднастайныя па ступені асвоенасці ў розных гаворках. Функцыяніруючы ва ўмовах афіцыяльнага руска-польскага двухмоўя, беларускія народныя гаворкі працягвалі актыўна папаўняць свой слоўнікавы састаў іншамоўнымі лексічнымі элементамі на працягу ўсяго XIX і пачатку XX ст. Гэта ў свой час тонка падмеціў яшчэ Ян Чачот, вывучаючы крывіцкі дыялект і яго паэзію: «Мяркуючы па 400 з лішнім песнях, сабраных над Нёманам, і 557 — над Дзвіной, пра ўплыў польскай, рускай і ўкраінскай моў на крывіцкую, можна было б сказаць, што гэты ўплыў большы на наднёманскі дыялект, чым на наддзвінскі. І сапраўды, наддзвінскі край не мае пастаяннага квата-

[6] Дегтярева Т. А. Становление норм литературного языка. М., 1963. С. 14—15.

равання войск, і ён больш аддалены ад Мазоўша і Украіны, чым наднёманскі. У Навагрудскім павеце хлопцы з ахвотай пераймаюць рускія песні ад салдат, і ад гэтых песень ужо грымяць палі, як, напрыклад, у Шчорсах, калі едуць на начлег з коньмі, а часам можна пачуць іх з вуснаў жанчын у час жніва або адгукаюцца ў спяванні дваровых парабчанак, якія часам прыносяць у вёску польскую песню, па-свойму перапрацаваную»[7].

Узбагачэнне народных гаворак новымі словамі ішло і пад непасрэдным уплывам сацыяльных змен, што адбываліся ў жыцці грамадства: новыя словы засвойваліся народам разам з паяўленнем новых рэалій.

Асваенне гэтых лексічных багаццяў народных гаворак і было асноўным напрамкам у развіцці слоўнікавага саставу новай беларускай літаратурнай мовы на працягу ўсяго дакастрычніцкага перыяду. Пераважнае выкарыстанне таго ці іншага пласта народнай лексікі абумоўлівалася жанрам, ідэйна-тэматычнай накіраванасцю і часам напісання твора, літаратурнымі здольнасцямі і светапоглядам аўтара, сувяззю яго з пэўнай мясцовай гаворкай.

Даўно і справядліва адзначана, што новая беларуская літаратура бярэ свае вытокі з вуснай народнай творчасці. Таму для твораў, што паяўляліся пад уплывам фальклорных канонаў, характэрна шырокае выкарыстанне паўтораў, параўнанняў, сталых эпітэтаў, народна-паэтычных слоў, знешняй прыметай якіх з'яўляюцца суфіксы суб'ектыўнай ацэнкі. Прыкладамі такіх першых твораў могуць служыць ананімныя вершы: «Чалом, чалом, ацец-татулька», надрукаваны ў 1843 г. у рускім часопісе «Маяк», «Ой, вясніца-вясна», запісаны П. В. Шэйнам, верш Яна Баршчэўскага «Ах, чым жа твая, дзеванька, галоўка занята», вершы Яна Чачота, «Песні» Ф. Багушэвіча і інш. Вось прыклад адной з такіх песень Ф. Багушэвіча:

Люлі, сынок, люлі, люлі!
Усе курачкі паснулі,
Ой, паснулі і курчаткі
Пад скрыдэлкам сваей маткі.
*(Калыханка)*

Узорам прамога наследавання матывам народнай паэзіі з'яўляюцца творы М. Багдановіча з цыкла «Вер-

---

[7] Czeczet Jan. Piosnki wieśniacze z nad Nemna i Dzwiny. С. XXXII.

шы беларускага складу», у чым можна пераканацца, унікнуўшы ў мелодыку і лексічны склад верша «Бяседная»:

А чалом, чалом, мае госцейкі,
Сабірайцеся на бяседачку,
На бяседачку ў хату новую,
У хату новую — сасновую,
Ды за столікі кляновыя,
За абрусікі бялёвыя,—
Ой, бялёвыя-саматканыя,
У ўзоры вышываныя.
*(Зб. тв. Т. 2. С. 248).*

У творах, тэматычна звязаных з жыццём вёскі, бытам і працай селяніна, яго светапоглядам, імкненнем да лепшай долі, аснову слоўніка складае лексіка агульнага ўжытку, перш за ўсё бытавая, вытворчая, сацыяльна-эканамічная, грамадска-палітычная, паняцці са сферы духоўнага жыцця, напр.: *Вясна гола перапала — Ані солі, ані круп; І скаціне корму мала І самому ані ў зуб. Хоць халодна, хоць галодна, Холад, голад ніпачом. Эх! Каб толькі нам свабодна! На свабодзе аджывём* (Вясна гола перапала).

Непасрэдную сувязь мовы літаратурных твораў XIX ст. з мовай народна-дыялектнай найбольш выразна можна прасачыць на творчасці буйнейшага пісьменніка таго часу Ф. Багушэвіча. Лексічны састаў яго твораў адносна невялікі — усяго тры з палавінай тысячы слоў, але генетычна разнастайны. Абсалютную большасць гэтых слоў складае беларуская лексіка агульнанароднага ўжытку, астатняя частка — гэта мясцовыя словы (лакалізмы, або дыялектызмы), паланізмы, русізмы, імёны, прозвішчы, геаграфічныя назвы[8].

Паколькі ў XIX ст. унармаванай літаратурнай мовы яшчэ не было, пісьменнікі Беларусі стваралі свае творы на народнай мове з усімі яе мясцовымі адрозненнямі. Наяўнасць у творах Багушэвіча значнай колькасці дыялектызмаў абумоўлена тым, што Ашмяншчына, радзіма пісьменніка, знаходзіцца на ўскраіне Беларусі, дзе сутыкаюцца асноўныя паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты, кожны з якіх пакінуў свой след на мясцовай гаворцы.

---

[8] Морозов В. И. Особенности языка произведений Франтишка Богушевича: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1971. С. 23. (Адсюль узяты многія прыклады.)

У творах Ф. Багушэвіча адзначаны розныя віды дыялектызмаў: л е к с і ч н ы я (*басавацъ* 'імчацца', *гілёс* 'гіз', *зажон* 'пухліна', *казельчык* 'конік', *немарасць* 'непрыемнасць'); с е м а н т ы ч н ы я (*вожжы* 'вяроўка для ўвязвання воза', *дбаць* 'слухацца, паважаць', *калі* 'раптам', *прутка* 'хутка, жвава'); с л о в а ў т в а р а л ь н ы я (*зводзень* 'зводнік', *запрабабаваць* 'папрабабаваць', *збяліць* 'забяліць', *сонка* 'сонейка', *сяродак* 'сярэдзіна'); м а р ф а л а г і ч н ы я (*гоне,* 'гоніць', *дзярэць* 'дзярэ', *людзём* 'людзям', *меж вушоў* 'між вушэй'); а к ц э н т а л а г і ч н ы я (*абма́цкам,* 'во́бмацкам', *замаро́зкі* 'за́маразкі', *свіро́н,* 'сві́ран') і інш. Напр.: *А ляціць, як віхар гоне* (Бог ня роўна дзеле); *Пайшоў пад свірон — узяць бы касу* (Сведка).

Наяўнасць значнай колькасці паланізмаў у творах Ф. Багушэвіча В. І. Марозаў тлумачыць тым, што носьбіты ашмянскіх гаворак, размешчаных на захадзе Беларусі, былі акаталічаны і апалячаны ў большай меры, чым жыхары цэнтральных ці ўсходніх раёнаў[9]. Паланізмы ў творах Ф. Багушэвіча таксама самыя разнастайныя: л е к с і ч н ы я (*зімны* 'халодны', *калейка* 'чарга', *загарак* 'гадзіннік', *крэс* 'канец, край', *дзісь* 'сягоння', *ацаліць* 'зберагчы', *прытыка* 'папрок'); с е м а н т ы ч н ы я (*склеп* 'магазін', *застава* 'заклад'); с л о в а ў т в а р а л ь н ы я (*прашкода* 'перашкода', *азнака* 'адзнака', *умысне* 'наўмысна', *прыпадак* 'выпадак', *слабшы* 'слабейшы', *сукня* 'сукенка', *падвозца* 'падвозчык'); ф а н е т ы ч н ы я (*буг* 'бог', *вяра* 'вера', *лэб* 'лоб', *паўстане* 'паўстанне'); а к ц э н т а л а г і ч н ы я (*мо́так* 'мато́к', *сіро́та* 'сірата́', *ад міло́сці* 'ад міласці') і інш.: *А як матка прыйдзе ў госці, Ой, то будзе ёй радо́сці* (Калыханка).

Паланізмы з твораў Ф. Багушэвіча заўсёды маюць фанетычныя, марфалагічныя і семантычныя адпаведнікі ў ашмянскай і суседніх гаворках. Значыць, польскія словы спачатку замацоўваліся ў беларускіх гаворках, дзе за дзесяткі і сотні гадоў набывалі мясцовыя асаблівасці. Гэта і дае падставу даследчыку рабіць вывад, што Ф. Багушэвіч браў паланізмы не непасрэдна з польскай мовы, а з жывых мясцовых гаворак[10].

---

[9] Морозов В. И. Особенности языка произведений Франтишка Богушевича: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. С. 24.

[10] Там жа. С. 9—10.

«Мясцовага» паходжання і нешматлікія русізмы ў творах Ф. Багушэвіча: *зашчыціць* 'абараніць', *наказанне* 'пакаранне', *страбіць* 'зніішчыць', *дзярэўня* 'вёска', *перарыў* 'перапынак', *прадсядацель* 'старшыня', *ступай* 'ідзі', *водка* 'гарэлка', *вонь* 'смурод', *бумага* 'папера', *шчот* 'лік' і інш.: *Прадсядацель сказаў: «Пяць мінут перарыў»* (У судзе). *Ступай да дзярэўні* (Скацінная апека). Пра тое, што словы гэтыя ўзяты паэтам не прама з рускай мовы, а з роднай гаворкі, можа сведчыць не толькі фанетыка-марфалагічнае іх афармленне, але і значнае пашырэнне такіх «русізмаў» на іншых беларускіх тэрыторыях. З роднай гаворкі ўзяў Багушэвіч адзінкавыя літуанізмы *(ройста)*, украінізмы *(капялюх, крапка)*, гебраізмы *(рабін, капут)* і інш.

Адзначаныя пласты лексікі ў творах Ф. Багушэвіча арганічна звязаны адзінай моўнай свядомасцю пісьменніка і складаюць яго ўласны ідыялект.

Аналагічны малюнак лексікі твораў другога значнага пісьменніка XIX ст. стварае С. М. Грабчыкаў: «Слоўнік твораў В. І. Дуніна-Марцінкевіча арганічна, неразрыўна звязан з жывой народна-дыялектнай мовай таго часу і ў першую чаргу з мовай сялян»[11]. Як і ў творах Багушэвіча, аснову слоўнікавага саставу мовы Дуніна-Марцінкевіча складае агульнанародная лексіка розных сфер ужывання. Беларуска-польскі жаргон дробнай шляхты і канцылярская русіфікаваная мова мясцовых царскіх чыноўнікаў выкарыстоўвалася пісьменнікам пераважна як стылістычны сродак характарыстыкі прадстаўнікоў гэтых груп: — *Пусть выпустят вперод* (словы станавога прыстава Кручкова з камедыі «Пінская шляхта»); — *Што ж, мужык прывык цярпець; А калі мае балець, Засней ад свайго мацара, Як ад гада камісара* (словы Навума з оперы «Сялянка»).

Аднак паланізмы і русізмы не такія ўжо рэдкія і ў мове самога аўтара. Побач з многімі беларускімі словамі аўтар паралельна выкарыстоўвае і рускія: *але — но, адурэць — аглупець, гадзіна — час, вяселле — свадзьба, зрабіць — здзелаць, гарэлка — водка, качка —*

---

[11] Грабчиков С. М. Словарь языка В. И. Дунина-Марцинкевича и важнейшие особенности лексики писателя: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1968. С. 14. (Адсюль узяты многія прыклады.)

*утка, лаяць — браніць, няма — нет, сказаць — молвіць, частаваць — угашчаць.* Рускія словы, мала характэрныя для беларускіх гаворак, у такіх парах сустракаюцца адносна рэдка, але наглядаецца і адваротная з'ява — выпадкі, калі варыянт, характэрны для рускай мовы і беларускіх гаворак, ужываецца часцей, чым другі кампанент пары, звычайна паланізм: *дзела* (69 ужыванняў) — *справа* (23), *жалаба* (5) — *скарга* (1), *красны* (43) — *чырвоны* (10), *польза* (5) — *карысць* (1), *прыказ* (11) — *загад* (2), *маладзёж* (8) — *моладзь* (1) і інш.

Маюцца, нарэшце, выпадкі, калі для абазначэння той ці іншай рэаліі ўжываецца слова, агульнае для рускай мовы і блізкай аўтару беларускай гаворкі, пры адсутнасці ў тэкстах адпаведнага слова, якое замацавалася ў якасці нормы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: *вална* (хваля) — 2, *вясціма* (вядома) — 2, *луч* (прамень) — 7, *паняць* (зразумець) — 1, *свет* (святло) — 4, *ураг* (вораг) — 10, *уласць* (улада) — 2 і інш.

Сярод беларуска-польскіх дублетаў адзначаюцца і такія, як *кніжка* (6) — *ксёнжка* (3), *нябесны* (7) — *нябёскі* (1), *родны* (33) — *радзоны* (6), *ралля* (5) — *роля* (3), *святы* (36) — *свенты* (1), *старана* (12) — *строна* (1), *фурман* (2) — *хварысь* (1), *шчасліва* (6) — *шчасліве* (1), *ясна* (7) — *ясне* (2) і інш. Асобныя польскія словы не маюць беларускіх адпаведнікаў у творах Дуніна-Марцінкевіча: *амэн* (1), *гжэчна* (1), *гмінны* (2), *загарак* (1), *круляванне* (1), *паншчызна* (1), *прэпона* (1), *рахаванне* (1), *тэстамент* (1), *ядыны* (7) і інш. Як відаць, польскі лексічны элемент у творах пісьменніка быў даволі значны. Гэта тлумачыцца тым, што польская мова была яго блізкай, другой роднай мовай, і тварыў ён у асяроддзі, арыентаваным на польскую мову і культуру.

Заметнае месца ў мове пісьменніка займаюць і дыялектызмы, вузкамясцовыя варыянты да агульнаўжывальных слоў: *тут* (191) — *тутка* (7) — *тутачка* (3) — *тутака* (1) — *тутацька* (1); *гэтакі* (18) — *гэткі* (11), *няма* (23) — *нямашака* (6) — *нямаш* (3) і інш. Сярод ізаляваных дыялектызмаў, ужытых пісьменнікам, сустрэліся: *валей* 'лепей', *мэрам* 'быццам', *прытнём* 'наскокам', 'быстра', *суздром* 'поўнасцю', *угрунь* ('быстра і ўсе разам') і інш.

Нарэшце, сустракаюцца сінанімічныя рады, у якіх

арганічна спалучаюцца словы з генетычна розных пластоў лексікі народных гаворак — агульнабеларускія, рускія, польскія, вузкадыялектныя: *бацькаўшчына* (2) — *радзіма* (1) — *айчызна* (1); *папера* (6) — *бумага* (10) — *папер* (1); *скаціна* (3) — *скацінка* (14) — *быдла* (6) — *гавяда* (1) — *тавар* (2) — *худоба* (1) — *худобка* (2) і інш. Такія рады сведчаць, што пры адсутнасці ў XIX ст. якога-небудзь узору літаратурнай апрацоўкі беларускай мовы пісьменнікі свабодна выкарыстоўвалі ўсе даступныя ім лексічныя багацці сваіх гаворак.

Непасрэдная сувязь з роднай гаворкай аўтара характэрна для творчасці ўсіх пісьменнікаў XIX ст. У першых ананімных паэмах «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», напрыклад, выразна адлюстраваны лексічныя і граматычныя асаблівасці паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак, у творах Янкі Лучыны — мінскіх, Марыі Косіч — гомельскіх, Ф. Тапчэўскага — полацкіх і г. д. Гэта і дало падставу даследчыкам зрабіць вывад, што хоць «беларуская пісьменнасць да пачатку XX ст. прайшла вялікі шлях, літаратурная мова ў XIX ст. усё ж не склалася»[12].

Новым, больш выніковым этапам у развіцці беларускай літаратурнай мовы і яе слоўніка з'явіўся пачатак XX ст., які характарызаваўся пад'ёмам беларускага нацыянальнага руху, пашырэннем беларускага кнігадрукавання, усведамленнем дзеячамі беларускага адраджэння неабходнасці ў выпрацоўцы адзінай літаратурнай мовы. У гэты час значна папаўняюцца пласты бытавой, размоўнай, сацыяльна-эканамічнай, грамадска-палітычнай, навуковай і спецыяльнай лексікі. Узбагачэнне слоўнікавага складу адбываецца ўсімі магчымымі для маладой літаратурнай мовы спосабамі і шляхамі.

Па-першае, працягвалася далейшае асваенне лексічных багаццяў народных гаворак, якое ішло праз творы шматлікіх пісьменнікаў, што групаваліся вакол «Нашай нівы» і іншых выдавецтваў, а таксама праз матэрыялы-допісы соцень карэспандэнтаў у гэтыя выдавецтвы з розных куткоў Беларусі. Пісьменнікі ўводзілі ў літаратурны абыходак не толькі агульнанародныя і дыялектныя словы, але і індывідуальна-аўтарскія неалагізмы,

---

[12] Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968. С. 110.

многія з якіх зрабіліся шырокаўжывальнымі і ўключаны ў сучасныя слоўнікі. Слова *надзем'е*, напрыклад, утворанае Я. Коласам (відаць, па мадэлі польскага *podziemie*) і ўжытае спачатку ў паэме «Сымон-музыка», а пазней паўтoранае дзесятак разоў у іншых творах, было перанята іншымі пісьменнікамі і, як празрыстае па семантыцы, зрабілася к цяперашняму часу узуальным: *І пойдзень, і вечар, і ззянне дзянніцы, Прасторы надзем'я, ружовыя далі,— У моманце кожным сустрэчнае хвалі Пакінуў мне вобраз твой след бліскавіцы* (Я. Колас. Сымон-музыка); *У прасторах надзем'я замільгалі вольныя птушкі* (Я. Колас. На ростанях); *Стракозка сталёвыя лопасці У надзем'е ўкручвае лоўка* (М. Калачынскі. Паясы); *У яго* [Коласа] *нават і слова знайшлося для абазначэння надземнай прасторы — надзем'е* (А. Каўрус. З крыніц народнай мовы).

Па-другое, імкненне дзеячаў нацыянальнага руху да адраджэння беларускай культуры на аснове «прыроднай мовы народа», паглыбленне працэсу ўзаемадзеяння беларускай мовы з суседнімі мовамі прывяло да ажыўлення амаль невядомага раней для беларускай мовы спосабу ўтварэння новых слоў, якім з'яўляецца калькаванне. Часцей за ўсё калькаваліся рускія словы, радзей — польскія і ўкраінскія: *безумоўны* (безусловный), *выразнік* (выразитель), *канчатак* (окончание), *рэчыўны* (rzeczowy), *побыт* (побут). Сярод ка́лек і паўка́лек многа складаных слоў: *аднаверац, аднаўладства, адначасова, бульбакапалка, ваеннапалонны, высокапаважаны, дабратворны, мэтазгодны, нованароджаны, працаздольны, прыродавед, разнаколерны, самаабарона, сенакоска, самапачуццё, усясветны* і інш.

Па тэматычнай накіраванасці калькі і паўкалькі вельмі разнастайныя, але ў пераважнай большасці — гэта кніжныя словы і тэрміны са сферы грамадска-палітычнага жыцця, навукі, тэхнікі, вытворчасці. У працэсе функцыяніравання асобныя няўдалыя калькі і паўкалькі змянілі свой пачатковы марфалагічны склад, набыўшы значэнне, больш адэкватнае арыгіналу. Напрыклад, калька *злучыны* была заменена на *злучэнне*, *светагляд* на *светапогляд*, *творства* на *творчасць* і г. д.

Трэцяй важнай крыніцай папаўнення слоўнікавага саставу з'явілася прамое запазычванне неабходных намінатыўных сродкаў з суседніх моў. Найбольш значны ўплыў на маладую беларускую літаратурную мову ака-

звала блізкароднасная руская мова; адкуль браліся пераважна кніжныя словы, якія не мелі адпаведнікаў у беларускіх гаворках або цяжка паддаваліся калькаванню. Сярод такіх запазычанняў словы самай разнастайнай семантыкі і розных лексіка-граматычных класаў: *абажур, аб'ём, абшчына, адстаўка, апавясціць, аружжа, архіў, атчот, вучылішча, вучэбнік, гасударства, грузчык, дакладчык, кровапраліцце, маскарад, метад, наследственнасць, нігілізм, падрадчык, параход, правіцельства, прыказчык, раўнапраўе, самааналіз, самалёт, сіяніст, сацыял-дэмакрат, сорт, удзельны, украпленне, умацаванне, фрукт, шчатаводства, эвалюцыя, юнкер, юхт, яўка, яўны* і інш.

Пра маштабнасць і глыбіню гэтага ўплыву ў пачатку XX ст. можа сведчыць хоць бы той факт, што запазычваліся часта не асобныя словы, а цэлыя групы слоў, утвораных па адной словаўтваральнай мадэлі, напр.: *абвініцель, вучыцель, збавіцель, дзвігацель, заваявацель, настаяцель, папячыцель, прадсядацель, следавацель, чытацель* і інш. Тое ж можна сказаць і пра дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу, якія запазычваліся толькі з заменай суфіксаў *-ущ-*, *-ющ-* на *-уч-*, *-юч-*: *будучы* (час), *ваеннаслужачы, галадаючы, глаўнакамандуючы, маючый, непрамакаючый, пішучы, прымаючы, узрастаючы, упраўляючый* і інш.

Значным у пачатку XX ст. быў уплыў і польскай мовы. Паланізмы ў беларускую літаратурную мову па-ранейшаму пранікалі з народных гаворак, з перакладных і арыгінальных твораў тых пісьменнікаў, што былі выхаваны на польскіх культурных традыцыях; многія словы свядома браліся з польскай мовы дзеячамі адраджэння для называння новых рэалій і паняццяў: *адмова, выданне, выдаткі, высілкі, еднасць, кватэра, мэбля, мэта, натаваць, тлустасць, ягомасць*. З польскай, як і з рускай, мовы праніклі цэлыя рады слоў, утвораных па адной мадэлі, напр.: *друкарня, капальня, кнігарня, майстэрня, малатарня, сячкарня* і інш.

Праз рускую і польскую мовы пранікалі не толькі ўласна русізмы і паланізмы, але і словы інтэрнацыянальнага паходжання, якія ў далейшым паслужылі асновай для выпрацоўкі грамадска-палітычнай, навуковай, тэхнічнай і іншых тэрміналогій: *агітацыя, антаганізм, дэпутат, ідэалогія, крытыка, лідэр, міністр, нацыя, парлямент, партія, прэзідэнт, прэзідыум, тэрор; анатомія,*

*антрапалогія, астраномія, батаніка, геалогія, метэаралогія, мінералогія, педагогіка, хімія; белетрыстыка, драма, паэзія, публіцыстыка, раманс, рандо, санет, трагедыя, трыялет* і г. д.

Пэўная колькасць слоў была запазычана і з украінскай літаратурнай мовы, якая пачала фарміравацца значна раней за беларускую і паспела выпрацаваць многія новыя сродкі намінацыі на ўласнай моўнай аснове. Сярод неалагізмаў украінскай мовы, якія былі запазычаны беларускай мовай у пачатку XX ст., можна назваць такія, відаць, словы, як *асобнасць, грамадзянін, гурток, дзеяч, змест, зносіны, кабзар, нагода, нізка, павeрх, падробка, пастанова, пісьменнік, прыкмета, чытач, хлебароб, школяр; дасланы, нагадаць, надаслаць; напярэдадні* і іншыя.

Пранікненню гэтых слоў у беларускую мову садзейнічалі імкненне дзеячаў беларускага адраджэння выкарыстаць украінскі вопыт моўнага будаўніцтва ў перыяд пад'ёму нацыянальнага руху, а таксама творы беларускіх пісьменнікаў (Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, А. Цёткі, С. Палуяна), якія былі цесна звязаны з украінскай культурай, рабілі пераклады з украінскай мовы і нават пісалі па-ўкраінску. Паказальнай у гэтых адносінах з'яўляецца дзейнасць М. Багдановіча. Ён упершыню шырока выкарыстоўвае названыя вышэй і многія іншыя ўкраінізмы, пра што гавораць наступныя прыклады з яго твораў: *Прыглядаючыся да навейшай беларускай пісьменнасці, можна лёгка п р ы к м е ц і ц ь адно цікавае і карыснае з'явішча — яе аднакалёрны слой, што зліўся з сотняў п і с ь м е н н і к а ў, наследнікаў Багушэвіча* (Глыбы і слаі); *Што да Багдановіча, то і ў ім н е п р ы к м е т н а шпаркага развіцця, хоць а с о б н а с ц і яго таленту выступаюць ужо даволі ясна. Гэта паэт-маляр. Слабы як лірык, ён усю сваю ўвагу звяртае на вобразнасць зместу вершаў* (Глыбы і слаі); *Толькі народ, усімі думамі, усім рухам жыцця свайго прыкуты да х л е б а р о б с т в а, мог апісываць бітву ў такіх словах* (Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XVI сталецця); *«Беларус скрыцен, недаверчыў, нелюдзім!» — так кажуць пра нашых х л е б а р о б а ў расійцы і палякі* (Не жаласці, а праўды); *У кастрычніку скончыў я пераклад, замоўлены п. Багацкім, і н а д а с л а ў у Кіеў* (У рэдакцыю «Нашай нівы»); *М. Багдановіч таксама дбаў аб развіцці верша і даў колькі*

*«н а н і з а к» іх* [цыклаў], *новых або па тэмах, або па форме* (За тры гады); *«Да вагітнай», «Праклящце вагітнай»* (Назвы вершаў М. Багдановіча); *Будзь ласка, надашліце мне трэці аркуш маёй кніжкі* (Супрацоўніку рэдакцыі «Нашай нівы») і інш.

Большая частка гэтых украінізмаў *(грамадзянін, дзеяч, чытач, пісьменнік, змест, землядробства, хлебароб* і інш.) замацавалася ў беларускай літаратурнай мове ў намінатыўнай функцыі, некаторыя з іх працягваюць спарадычна ўжывацца (пераважна ў творах некаторых пісьменнікаў) як дублеты да агульнапрынятых беларускіх слоў *(нагода, нагадаць, нізка (нанізка), даслаць (надаслаць), прыкмета)*, трэція *(вагітная* 'цяжарная', *будзь ласка)* у беларускай мове не замацаваліся. Пранікненне і замацаванне асобных украінізмаў у беларускую мову было працяглым і супярэчлівым, што можна прасачыць на прыкладзе слоў *землеробства, хлебаробства.* Яшчэ ў 1927 г. В. Ластоўскі выступаў супраць гэтых слоў, прапануючы замест іх архаізм «ратайства», засведчаны ў помніках старабеларускай пісьменнасці: «Калі пачалося адраджэнне новачаснай беларускай пісьменнасці, слова гэтае не адразу было знойдзена. Яго нашаніўцы яшчэ не ведалі,— абгрунтоўваў сваю пазіцыю В. Ластоўскі.— Пры нястачы ўласнага слова былі ў нашу пісьменнасць уведзены выкаваныя на Урале не саўсім лёгічныя наватворы *землеробства* (зямлю рабіць) і *хлебаробства* (хлеб рабіць). Першае з іх ёсць пунктуальны пераклад з расейскага «земледелие», другое — украінскі наватвор, пабудаваны такжа паводле таго ж расійскага першатвору.

«Земляроб» і «хлебароб», як словы штучныя і лёгічнай цэласнасцю з нашай зямельнай тэрміналёгіяй не звязаныя, павінны быць заступлены ўласным словам — «ратайства» (Узвышша. 1927. № 5. С. 198). Відаць, толькі глыбокая архаізаванасць формы слова *ратайства* не дазволіла яму выцесніць празрыстыя па форме і семантыцы словы *землеробства, хлебаробства, хлебароб.*

Значнае папаўненне беларускай лексікі з розных крыніц і за кароткі час прывяло да ўзнікнення мнагачленных сінанімічных радоў, парадзіла небывалую дублетнасць: *артызм — штукарства, выдавец — выдаўца, ахота — ахвота — паляванне — мыслоўства, асвета — прасвета — прасвяшчэнне — абразаванне* і г. д. Гэты факт сведчыў не столькі пра багацце лексікі, колькі пра

яе «рыхласць» і неўнармаванасць. Аб'ектыўных умоў для нармалізацыі яшчэ не было.

Некаторае пашырэнне сацыяльных функцый беларускай літаратурнай мовы і папаўненне яе слоўніка зусім не азначала, што яна зрабілася здабыткам усёй нацыі, якая яшчэ фарміравалася. «Абмежаваная галоўным чынам стылямі мастацкай літаратуры, часткова публіцыстыкі,— падмячае Л. М. Шакун,— беларуская літаратурная мова пачатку XX ст. не валодала многімі з тых шматлікіх і разнастайных сродкаў літаратурнага выражэння, якія неабходны для перадачы розных па характару і зместу думак, звязаных з развіццём і ўскладненнем грамадска-палітычных адносін, навукі, тэхнікі, культуры»[13].

Сфарміраваўшыся на аснове народна-гутарковай моўнай стыхіі, беларуская літаратурная мова ў пачатку XX ст. ужо мела вялікі запас бытавой лексікі, але ў адрозненне ад моў з даўняй пісьмовай традыцыяй не змагла выпрацаваць спецыяльнай тэрміналогіі па розных галінах ведаў і лексікі кніжнай, бо ў гэтых сферах яна амаль не выкарыстоўвалася. Словы-тэрміны, што пачалі пранікаць з навукова-папулярных выданняў і перакладных твораў у нашаніўскі перыяд, былі даволі разнастайныя па зместу і «не ўтваралі яшчэ цэласнай сістэмы, хоць бы і самай элементарнай»[14].

Абагульняючую характарыстыку стану беларускай літаратурнай мовы і яе лексікі ў пачатку XX ст. дае адзін з удзельнікаў беларускага нацыянальнага руху той пары: «У беларуса ёсць народная і літаратурная мова. Першая багата напластаваннямі пераважна велікарускай (усход) і польскай (захад) моў. Другая, не скрыю, значна штучная і з цяжкасцю ўспрымаецца масамі, яна — прадукт нядаўняга паходжання, яна толькі нараджаецца, яе дзіцячыя сілы мы адчуваем на кожным слове, на кожным радку. Народная мова служыць адлюстраваннем народнага духу, яго натуральна-гістарычных дараванняў і багаццяў, але яна не дае філасофіі, навукі, мастацтва, тэхнічных ведаў, у якіх такую вялікую патрэбу мае нацыя. Літаратурная мова — слабая,

---

[13] Шакун Л. М. Нарысы гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1960. С. 181.

[14] Красней В. П. З гісторыі фарміравання беларускай граматычнай тэрміналогіі // Беларуская лексікалогія і этымалогія. Мн., 1968. С. 90.

яна не мае масавага чытача, і таксама яна не дае навукі і тэхнічных ведаў, таму што гэтым не займалася. Яе прыгожае пісьменства пакуль што змешчана ў вершах, але яна не дала яшчэ выдатных літаратараў, гісторыкаў, раманістаў, драматургаў, якія б аказалі ўплыў на наступныя пакаленні і адлюстраваліся ў будучым развіцці беларускай культуры. Вось трагізм беларускай мовы»[15].

Як відаць, за кароткі нашаніўскі перыяд, калі беларускі нацыянальна-вызваленчы рух праяўляўся з найбольшай інтэнсіўнасцю, ні беларуская буржуазная нацыя, ні яе літаратурная мова не паспелі скласціся ў сваёй поўнай, класічнай форме. Інакш кажучы, напярэдадні рэвалюцыі беларуская нацыя знаходзілася яшчэ ў стадыі свайго фарміравання, а яе літаратурная мова, сацыяльна і функцыянальна абмежаваная, была недастаткова развітая, каб абслугоўваць усе патрэбы грамадства. Гэта абмежаванасць і недастатковая развітасць найбольш яскрава праяўлялася ў галіне лексікі.

## Раздзел IV

# ЛЕКСІКА ПЕРЫЯДУ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ: САВЕЦКІ ПЕРЫЯД

### Уступныя заўвагі: Асноўныя тэндэнцыі развіцця, крыніцы і шляхі ўзбагачэння літаратурнай лексікі

Набыўшы статус дзяржаўнай, беларуская літаратурная мова ў паслярэвалюцыйны перыяд пашырыла свае функцыі на ўсе сферы грамадскага жыцця — зрабілася мовай справаводства, навукі, асветы, культуры, палітычнай і мастацкай літаратуры, мовай сродкаў масавай інфармацыі. Адпаведна расшырылася і яе сацыяльная база. У працэсе беларусізацыі школ, каранізацыі дзяржаўных устаноў, пашырэння асветы, навукі і культуры яна паступова становіцца здабыткам шырокіх народных мас.

Пашырэнне грамадскіх функцый і сацыяльнай базы

[15] Канчер Е. С. Мысли о белорусском языке // Дзянніца. 1918. № 39.

4*

беларускай літаратурнай мовы выклікала змены ў структуры самой мовы, асабліва ў галіне лексікі. Адметнай асаблівасцю развіцця беларускага слоўніка ў гэты час была паскоранасць. Парушэнне эвалюцыйнага ходу моўных змяненняў выклікалася супярэчнасцю паміж рэальнымі магчымасцямі лексікі, набытымі ў дарэвалюцыйны час, і раптоўным павелічэннем патрэбнасцей у сродках намінацыі са змяненнем ролі літаратурнай мовы ў грамадстве. Каб зрабіцца універсальным сродкам масавай камунікацыі, здольным абслугоўваць усе сферы дзейнасці народа, беларуская літаратурная мова павінна была адразу ж, у спешным парадку адлюстраваць усе здабыткі агульначалавечай культуры, знайсці сродкі для слоўнага выражэння тых ідэй, з'яў і паняццяў, якія ў іншыя мовы пранікалі на працягу цэлых стагоддзяў. Гэта паскоранасць найбольш выразна праявілася ў папаўненні слоўнікавага складу абстрактнай, кніжнай і тэрміналагічнай лексікай, якой беларуская літаратурная мова да рэвалюцыі не паспела і не магла ўзбагаціцца.

Вялікія патрэбы ў сродках намінацыі на працягу савецкага перыяду задавальняліся з самых разнастайных крыніц і ўсімі магчымымі спосабамі, важнейшымі з якіх былі: 1) далейшае асваенне лексічных багаццяў народна-дыялектнай мовы; 2) выкарыстанне словаўтваральных і семантычных неалагізмаў; 3) ажыўленне ўстарэлых слоў; 4) запазычванне неабходных лексічных адзінак з іншых моў.

Роля кожнай з гэтых крыніц узбагачэння беларускай лексікі ў розныя перыяды заметна змянялася, што можна будзе заўважыць з далейшай характарыстыкі кожнай з іх.

## § 1. РОЛЯ НАРОДНЫХ ГАВОРАК ВА УЗБАГАЧЭННІ ЛЕКСІКІ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

### *Стымулы да вывучэння народна-дыялектнай лексікі ў савецкі час*

Хоць у дарэвалюцыйны час беларуская літаратурная мова вырастала непасрэдна з народных гаворак і ў значнай меры асвоіла іх лексічныя багацці, усё ж слоў-

нік народна-гутарковай мовы і ў савецкі час заставаўся адной з асноўных крыніц папаўнення лексічных багаццяў літаратурнай мовы. Ён быў не толькі «пастаўшчыком» гатовых слоў, але і асновай для словаўтваральных і семантычных неалагізмаў, базай для тэрміналогіі [1].

Арыентацыя на поўнае выкарыстанне ўнутраных рэсурсаў народных гаворак была ўзята пры вызначэнні асноўных шляхоў развіцця беларускай літаратурнай мовы з першых гадоў Савецкай улады. «Асноўнае запатрабаванне, якое ў нас ставіцца пры апрацаванні беларускай літаратурнай мовы,— гаварыў С. Некрашэвіч на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі ў 1926 г.,— гэта блізкасць яе да мовы народнай. Нашым ідэалам з'яўляецца адзінства літаратурнай і народнай мовы, і мы спадзяёмся, што гэтага адзінства дасягнем» [2].

Арыентацыю на народна-дыялектную мову пры выпрацоўцы літаратурных норм можна вытлумачыць імкненнем даць народу мову, блізкую і зразумелую. Рэвалюцыя абудзіла да актыўнага грамадскага жыцця шырокія народныя масы, дзейнасць якіх павінна была ажыццяўляцца праз дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі. Улічвалася, што найбольш поўна і карысна народная ініцыятыва можа праявіцца толькі пры ўмове, калі гэтыя ўстановы і арганізацыі загавораць моваю мас.

Хоць ідэя «адзінства літаратурнай і народнай мовы» аказалася нерэальнай, ілюзорнай, бо далейшае развіццё літаратурнай мовы пайшло па шляху паступовага аддалення ад народна-дыялектнай асновы, працэс узаемадзеяння паміж абедзвюма гэтымі разнавіднасцямі нацыянальнай мовы не спыняецца да цяперашняга часу. Найбольш выніковымі ў рабоце па вывучэнню дыялектнай лексікі былі 20-я гады і перыяд з канца 40-х гадоў да цяперашняга часу.

Сярод мноства моўных праблем, якія ў 20-я гады патрабавалі неадкладнага вырашэння, на першае месца высоўвалася задача выпрацоўкі навуковай тэрміналогіі

---

[1] Шакун Л. М. К вопросу о взаимодействии белорусского литературного языка и диалектов в советскую эпоху // Проблемы истории и диалектологии славянских языков. М., 1971. С. 310.

[2] Некрашэвіч С. М. Сучасны стан вывучэння беларускай мовы // Працы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мн., 1927. С. 50.

і ўкладанне слоўніка жывой беларускай мовы, што праектаваўся як тлумачальны слоўнік акадэмічнага тыпу, які павінен ахапіць усе найбольш вядомыя беларускія словы незалежна ад сферы іх ужывання. Былі вызначаны два спосабы збору народнага слоўнага матэрыялу: пры дапамозе спецыяльнай праграмы-інструкцыі і шляхам укладання мясцовых краёвых слоўнікаў. Матэрыялы, сабраныя ў адпаведнасці з інструкцыяй, адсылаліся Камісіі па ўкладанню слоўніка жывой беларускай мовы і ўліваліся ў картатэку, якая к 1930 г. налічвала каля 300000 картак-слоў. У 1927 г. быў выдадзен «Віцебскі краёвы слоўнік» М. Каспяровіча, у 1929 г. «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны» М. Шатэрніка, кожны з якіх ахопліваў больш як 9000 слоў, а падрыхтаваны ў той час «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» на 20000 слоў быў завершан І. Бялькевічам у 1959 г. і выдадзен у 1970 г.

Важным сродкам выяўлення лексічных багаццяў народна-дыялектнай мовы з'явілася прэса і мастацкая літаратура 20-х гадоў. Масавы прыход у літаратуру і навуку носьбітаў розных дыялектаў, работа ў дзяржаўных маштабах па арганізацыі мясцовага друку (выдавецтваў раённых і абласных газет, філіялаў пісьменніцкіх арганізацый, краязнаўчых гурткоў і таварыстваў) садзейнічалі шырокаму пранікненню ў літаратуру «мясцовых» слоў і замацаванню іх у моўнай практыцы.

Як відаць, 20-я гады — гэта перыяд шырокай работы, планамернай і стыхійнай, па вывучэнню лексічных багаццяў народных гаворак, работы, якая аказала вялікі ўплыў на фарміраванне слоўніка літаратурнай мовы.

Перыяд з канца 40-х гадоў і да цяперашняга часу характарызуецца новым уздымам шырокай і планамернай работы ва ўсесаюзным маштабе па навуковаму даследаванню народна-дыялектнай мовы і яе лексікі ў прыватнасці. Важнейшым вынікам гэтай работы ў рэспубліцы з'явіўся Дыялекталагічны атлас беларускай мовы, выдадзены Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР у 1963 г. З 338 карт, змешчаных у Атласе, звыш 100 прысвечаны пытанням лексікі. Матэрыялы Атласа паслужылі надзейнай крыніцай для адбору народнай лексікі ў пяцітомны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» і ўдакладнення сэнсавай і стылістычнай характарыстыкі многіх слоў.

Паралельна са зборам і картаграфаваннем дыялект-

ных матэрыялаў для Атласа ў пасляваенныя гады праводзілася значная работа ў галіне манаграфічнага вывучэння беларускіх народных гаворак. Многія даследаванні былі аформлены ў якасці кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, а дадаткі да іх выдадзены ў форме дыялектных слоўнікаў. Вялікую работу па збору народна-дыялектнай лексікі правялі навуковыя супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства, выкладчыкі і студэнты ВНУ, якія складалі падборкі слоў са сваіх гаворак і змяшчалі іх у перыядычных лексікаграфічных зборніках. У апошні час Інстытутам мовазнаўства АН Беларусі вядзецца работа па ўкладанню «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак», першы том якога ўжо выйшаў з друку.

Такім чынам, за пасляваенныя гады была глыбока прааналізавана народна-дыялектная лексіка, з якой патрэбна было адабраць для літаратурнай мовы ўсё найбольш неабходнае і каштоўнае і пазбавіцца ад прыватнага і выпадковага.

### *Формы ўзаемадзеяння лексікі літаратурнай мовы са слоўнікавым складам народных гаворак*

Стылявы сінкрэтызм беларускай літаратурнай мовы, унаследаваны з дарэвалюцыйных часоў, і раптоўнае прыцягненне ў сферу шырокага ўжытку народна-дыялектнай лексікі абумовілі складанае і нераўнамернае на розных этапах узаемадзеянне паміж рознымі пластамі нацыянальнай лексікі. Важнейшымі з форм гэтага ўзаемадзеяння, праз якія адбывалася ўзбагачэнне лексікі літаратурнай мовы з мовы народна-дыялектнай, былі тры: 1. Спецыялізацыя значэнняў народна-дыялектных слоў пры выпрацоўцы тэрміналагічных сістэм. 2. Стварэнне на аснове народна-дыялектных слоў семантычных неалагізмаў тэрміналагічнага значэння. 3. Узбагачэнне літаратурнай лексікі выяўленча-стылістычнымі сродкамі з пераразмеркаваннем функцый паміж членамі сінанімічных радоў.

1. У якасці метадалагічнага прынцыпу пры выпрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі ў пачатку 20-х гадоў было прынята палажэнне, што ў аснову яе павінны быць пакладзены словы жывой народнай мовы. Калі ж неабходных тэрмінаў у народнай мове няма, то

ўтвараць неалагізмы або браць гатовыя іншамоўныя словы і надаваць ім тэрміналагічнае значэнне. Хоць гэты прынцып пры выпрацоўцы тэрміналагічных сістэм вытрымліваўся ў асноўным паслядоўна, колькасць слоў з народнага лексікону, якія траплялі ў розныя галіновыя тэрміналогіі, была неаднолькавай. Вышэйшай яна аказалася там, дзе досыць развітай была беларуская народная тэрміналогія (у батаніцы, заалогіі, сельскай гаспадарцы), і адносна нязначнай у тых сферах, дзе народная тэрміналогія не магла развіцца (у геалогіі, мінералогіі, крышталаграфіі, бухгалтэрыі і інш.).

Напрыклад, у шостым выпуску БНТ (Батаніка агульная і спецыяльная. Мн., 1924) народна-дыялектныя словы сярод іншых лексічных пластоў займаюць каля 50%: *авёс, агаткі, агрэст, агурок, ажына, асака, асіна, асот, боб, браткі, бульба, бурак, быльнік, бяроза, варанец, васілёк, верас, віка, вішня, вяз, вярба, гарбуз, гарлянка, гарох, грэчка, дзівасіл, дзяцеліна, драсён, дуб, елка, журавіны, жывакост, жыта, званкі, зубройка, ігруша, каліна, капуста, крапіва, кроп, крушына, крываўнік, кіяхі, кукаль, купалка, лён, ліпа, лопух, ляшчына, мак, макрыца, маліна, морква, мята, мяшанец, падбел, палын, піжма, пухойка, пырнік, рабіна, рэпа, суніцы, табака, трыпутнік, хрэн, цыбуля, чабор, чарніцы, чарэмха, часнок, шчавель, шыпшына, юргіня, ячмень* і інш.

У пятым жа выпуску БНТ (Геалогія, мінералогія, крышталаграфія. Мн., 1924) народна-дыялектная лексіка не складае і 10%: *выгін* (антикліналь), *выдма* (бархан, дюна), *гак* (песчаная коса), *жарства* (дресва), *жвір* (гравий), *іржа* (ржавчина), *мялізна* (отмель), *нацёк* (сталактит), *прарэз* (профиль), *паверх* (ярус), *райчак* (овраг), *роў* (балка), *ходня* (штольня) і інш.

Прыведзеныя тут спісы слоў паказваюць, што для пачатковага этапа выпрацоўкі тэрміналагічных сістэм была характэрна тэндэнцыя тэрміналагізаваць не толькі агульнанародныя, але тэрытарыяльна абмежаваныя і нават вузкадыялектныя словы. Аднак гэта тэндэнцыя не магла атрымаць пашырэння, бо тэрміналогія, створаная на такой метадалагічнай аснове, не адпавядала запатрабаванням навукі, была незразумелай для школы і народа, супярэчыла агульнаму напрамку развіцця літаратурнай мовы. Таму практыка выкарыстання тэрытарыяльна абмежаванай і вузкадыялектнай лексікі ў значэнні тэрмінаў ужо к канцу 20-х гадоў выявіла сваю

нежыццёвасць. Пачынаецца адваротны працэс — замена дыялектных слоў і штучных утварэнняў тэрмінамі інтэрнацыянальнага або рускага паходжання. Для прыкладу, у «Слоўніку матэматычнай тэрміналогіі» (1927) ужо заменены змешчаныя ў першым выпуску «Элементарнай матэматыкі» (1922) словы *абвод, валец, вогнішча, развіненне, стажок, струна* і інш. адпаведна на *перыметр, цыліндр, фокус, разгортка, конус, хорда.*

Падобнае «ачышчэнне» праводзілася і ў іншых тэрміналогіях: у батанічнай *зельнік* быў заменен на *гербарый, кіяхі* — на *кукурузу, мяшанец* — на *гібрыд;* у анатамічнай *цяглiца* — на *мышцу,* у хімічнай *дзындра* — на *акаліну,* у грамадазнаўчай *галота* — на *паўперызм, рада* на *савет* і інш.

У сучасных галіновых тэрміналогіях замацаваліся галоўным чынам словы агульнанародныя, вядомыя літаратурнай мове яшчэ на этапе іх тэрміналагізацыі; з ліку ж вузкадыялектных і тэрытарыяльна абмежаваных у якасці тэрмінаў працягваюць ужывацца асобныя мясцовыя прафесіянальныя назвы, мясцовыя элементы традыцыйных тэрміналагічных сістэм (сельскагаспадарчай, рыбалоўнай, жывёлагадоўчай і інш.).

Тэрміналагізацыя агульнанародных, тэрытарыяльна абмежаваных і вузкадыялектных слоў — гэта не механічнае перанясенне іх са сферы агульнага ўжывання ў сферу вузкаспецыяльнага ўжывання, а сэнсавае іх пераафармленне, узбагачэнне і ўдакладненне іх зместу. У словах народна-дыялектнай і вузкаспецыяльнай сферы азначаемае і азначаючае супадаюць. Адрозніваюцца яны не аб'ёмам паняцця, а аб'ёмам зместу, тыпам значэння. У агульнанароднай мове слова мае, па тэрміналогіі А. А. Патабні, «бліжэйшае, або фармальнае» значэнне (народнае, прыблізнае, не заўсёды выразнае), а ў мове навукі — «далейшае» значэнне, суадноснае са змястоўным, лагічным паняццем.

Адрозненні ў змесце «бліжэйшых» і «далейшых» значэнняў, а роўным чынам фармальных і змястоўных паняццяў (пры аднолькавасці іх аб'ёму) выразна заўважаюцца пры супастаўленні азначэння слоў у тлумачальных лінгвістычных слоўніках і энцыклапедычных даведніках. Тлумачальныя слоўнікі даюць самыя мінімальныя звесткі аб прадмеце, з'яве ў межах фармальнага паняцця (кароткая дэфініцыя, сінонім, таўталагічны выраз), прызначэнне ж энцыклапедычных слоў-

нікаў — раскрыць змястоўнае паняцце аб прадмеце так, як яно ўспрымаецца сучаснай навукай, аднак для гэтага патрэбна ўжо не слова-сінонім ці сказ, а цэлы рад сказаў, шырокі, тэматычны звязаны кантэкст. Параўн.: *абвінавачанне* — «прызнанне каго-н. вінаватым у чым-н.» [3] і «працэсуальная дзейнасць упаўнаважаных законам органаў ці асоб, якая заключаецца ў тым, каб выкрыць злачынства і даказаць суду віну абвінавачанага. Кожны злачынец павінен атрымаць справядлівую кару, а невінаваты не можа быць пакараны. Абвінавачанне можа быць дзяржаўнае (орган яго — пракуратура), грамадскае, якое падтрымліваецца прадстаўніком грамадскай арганізацыі працоўных, і абвінавачанне, якое ажыццяўляецца пацярпеўшым па некаторых справах (паклёп, абраза і інш.) ...У СССР абвінавачанне ажыццяўляецца ў адпаведнасці з прынцыпамі сацыялістычнай законнасці» [4].

Як відаць, замацаванне за агульнаўжывальным словам змястоўнага паняцця істотна змяняе яго функцыю, пераводзіць «бліжэйшае» значэнне ў «далейшае». Разгорнуты слоўны тэкст адлюстроўвае глыбінныя працэсы пазнання і дасягненні навуковай думкі, у той час як «бліжэйшае» значэнне ахоплівае самыя агульныя прыметы паняцця.

2. Другі шлях тэрміналагізацыі народна-дыялектных слоў — пераасэнсаванне іх значэння на аснове падабенства аднаго прадмета або з'явы з іншымі. Сутнасць пераасэнсавання заключаецца ў тым, што адна з інтэгральных або дыферэнцыяльных прымет, якія ўваходзяць у лексічнае значэнне слова, пачынае выкарыстоўвацца ў якасці канцэптуальнага ядра для слова-тэрміна. У новым тэрміне гэта прымета ўдакладняецца, канкрэтызуецца, звужаецца або расшыраецца ў залежнасці ад зместу і аб'ёму навуковага паняцця. Вынікам такога пераасэнсавання можа з'явіцца ўтварэнне семантычнага неалагізма — амоніма або (пераважна на пачатковай стадыі пераасэнсавання) новага лексіка-семантычнага варыянта тэрміналагічнага характару [5]. Прыкладаў такога пераасэнсавання ў працэсе выпрацоўкі галіновых тэрміналогій адзначаецца нямала. Такім шляхам былі

---

[3] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1977. С. 39.

[4] БелСЭ. Т. 1. С. 17.

[5] Даниленко В. П. Русская терминология: Опыт лингвистического описания. М., 1977. С. 24, 25.

створаны, напрыклад, многія лінгвістычныя тэрміны.

**Лад.** У значэнні граматычнага тэрміна слова не магло быць запазычана ні з рускай, ні з украінскай, ні з польскай моў; там гэта паняцце прыпісана адпаведна словам *наклонение, спосіб, tryb*. Не адзначана яно ў такім значэнні і ў дарэвалюцыйных тэкстах. Упершыню яго ўводзіць у беларускую лінгвістычную тэрміналогію Б. Тарашкевіч. Шлях тэрміналагізацыі — пераасэнсаванне агульнаўжывальнага слова *лад,* аснову семантыкі якога складае агульная ідэя 'спосаб, сістэма арганізацыі чаго-н.': *дзяржаўны лад, лад жыцця, лады гармоніка.* Гэта агульная ідэя і была ўзята ў якасці паняційнага ядра для граматычнага тэрміна, які яшчэ ў XIX ст. абазначаў «спосаб выражэння дзеяння дзеясловамі»[6], а іменна: з'яўляецца дзеянне рэальным, нерэальным, магчымым, пажаданым, абавязковым і інш.

У працэсе фарміравання навуковага паняцця і мадэліравання яго дэфініцыі адбылося «пераразмеркаванне ролей» паміж інтэгральнымі і дыферэнцыяльнымі семамі, у выніку чаго вядучай становіцца сема, якая выражае адносіны дзеяння да рэчаіснасці. Гэта прывяло да з'яўлення новага слова са спецыялізаваным значэннем, семантычнага неалагізма.

Часцей пераасэнсаванне значэнняў народна-дыялектных слоў прыводзіла да паяўлення новых лексіка-семантычных варыянтаў тэрміналагічнага характару; параўн. народныя і тэрміналагічныя значэнні ў словах *гук, дужка, далучэнне, зычны, корань, кропка, націск* і інш.

3. Мэтанакіраваны збор народнай лексікі для слоўніка жывой народнай мовы і выпрацоўкі тэрміналагічных сістэм, пашырэнне цэнтральнай і мясцовай прэсы, бурнае развіццё мастацкай літаратуры пры адсутнасці норм словаўжывання зрабілі магчымым пранікненне ў літаратурна-пісьмовыя тэксты, па сутнасці, любога слова — як агульнаўжывальнага, так тэрытарыяльна абмежаванага і вузкадыялектнага. Стыхійнае ўвядзенне дыялектызмаў з роднай гаворкі ў літаратурныя тэксты ў большай ці меншай ступені было характэрна для ўсіх пісьменнікаў. Паказальнай у гэтых адносінах з'яўляецца мова Ц. Гартнага, які ў рамане «Сокі цаліны» без усякіх абмежаванняў выкарыстоўваў са сваёй гаворкі дыя-

---

[6] Даль В. И. Толковый словарь живого великорусского языка. Т. 2. М., 1979. С. 425.

лектызмы тыпу *абламзаць, ашыгаць, балхвіць, бухоны, вагкасць, выжануць, гулёшчы, гарды, жваласць, іначасць, кнея, кратайка, лісціць, ласне, муля, мэрам, налпам, найда, нагальнарупны, нырпаліца, нядушлы, нялапы, пастаца, перацюк, пілявы, пітнічок, пяроймы, рыжсайлук, сопуха, спугны, схямліць, трапунак, труплявы, тувальня, уталопіцца, уталопаць, упіліцца, упойна, швыдка, шкрабан* і інш.

Аналіз тэкстаў розных стыляў і жанраў паказвае, што тэрытарыяльна абмежаваныя і вузкадыялектныя словы падобна агульнаўжывальным выконвалі, як правіла, інфармацыйную, намінатыўную функцыю і не неслі стылістычнай, эмацыянальнай нагрузкі. Так, для абазначэння некалькіх снапоў збожжа, састаўленых пэўным чынам на полі для прасушвання, раўнапраўна выкарыстоўваліся словы *бабка, мэндлік, мэтлік, копка*: *Прыйдзі пад вечар ты на поле І палюбуйся ім, саколе! Ў якія роўныя шнурочкі цяпер пакладзены снапочкі! І як прыгожа слаўны бабкі! Якія ладныя іх шапкі!* (Я. Колас. Новая зямля); *У Кастуся не паспелі звезці ў гумно ўсё жыта, і на полі асталося некалькі мэндлікаў* (З. Бядуля. Злодзей); *Дзе-нідзе вытыркалі шапкі мэтлікаў* (К. Крапіва. Пальчык); *На полі ветла, самавіта У рад стаялі копкі жыта* (Я. Колас. Новая зямля). У нейтральным, назыўным значэнні ўжываліся члены многіх іншых сінанімічных радоў: *певень — пятух — пявун, кнігаўка — каня — кніга, жывёла — скаціна — гавяда — быдла* і інш.

Слабая дыферэнцыраванасць агульнаўжывальных і мясцовых слоў на працягу 20-х гадоў знайшла яркае адлюстраванне ў тагачасных перакладных слоўніках, якія ў рэестравай і выхадной частках без усякага абмежавання побач з агульнаўжывальнымі словамі змяшчалі і дыялектызмы: *аблам — мех, шуба, аблупежыць — ободрать, облупить дерево, абручкаванне — кольцевание, аблуднік — шалопай, абчмарыць — высечь до крови розгой, абэржа — махина, адношта — только что, атора — мелкая солома, атруйваць — отравлять* і пад. (М. Байкоў, С. Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік. Мн., 1927).

Падобнае становішча наглядалася і ў слоўніках навуковай тэрміналогіі, якія для перакладу рускіх слоў побач змяшчалі як агульнаўжывальныя, так і вузкадыялектныя словы або толькі вузкадыялектныя: *ва-*

*лялыцик — валюшнік, желудок — кіндзюк, страўнік; картофель — бульба, картопля; хвоя — ігліца, шыльнік* і інш. (БНТ-19).

Пранікненне ў пісьмовыя тэксты вялікай колькасці мясцовых слоў узбагаціла сінаніміку літаратурнай мовы, асабліва ў сферы бытавой, канкрэтнай лексікі. Узніклі двухчленныя, трохчленныя і мнагачленныя сінанімічныя рады, у якіх аб'ядналіся агульнаўжывальныя, тэрытарыяльна абмежаваныя і вузкадыялектныя словы, а ў многіх выпадках — і толькі вузкалакальныя.

Гэта мела не толькі станоўчае значэнне (інтэнсіўна ўзбагачалася лексіка літаратурнай мовы), але і адмоўнае, паколькі параджаўся сінкрэтызм, расхістваліся нормы літаратурнага словаўжывання.

## *Пытанні нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы*

Стабілізацыя эканамічнага і культурнага жыцця ў рэспубліцы, усё ўзрастаючая роля літаратурнай мовы ў жыцці грамадства патрабавалі выпрацоўкі, уніфікацыі і кадыфікацыі граматычных і лексічных норм, абавязковых для ўсіх носьбітаў мовы. У другой палавіне 20-х гадоў пачынае востра ставіцца пытанне аб павышэнні культуры літаратурнай мовы і барацьбе з «правінцыяналізмамі» і «паветызмамі», як тады называліся вузкамясцовыя словы [7].

Ужо тады рабіліся спробы тэарэтычна асэнсаваць і сфармуляваць рацыянальныя прынцыпы адбору дыялектызмаў для выкарыстання ў літаратурнай мове. У. Дубоўка, напрыклад, рэкамендаваў ужываць у літаратурнай мове кожнае слова жывой народнай мовы, якое распаўсюджана на ўсёй беларускай тэрыторыі, а таксама словы, якіх хоць і няма ў цэнтральных дыялектах, але якія вядомы на астатняй беларускай этнічнай тэрыторыі. Што ж датычыцца мясцовых слоў, то іх, на думку У. Дубоўкі, мэтазгодна ўводзіць тады, калі яны могуць выразіць паняцце, на якое няма адпаведнага слова ў літаратурнай мове, або ўзбагаціць гэта паняцце новым адценнем [8].

---

[7] Культура мовы // Узвышша. 1927. № 5. С. 194—195.

[8] Дубоўка Ул. Пра нашу літаратурную мову // Узвышша. 1927. № 2. С. 167—181.

Работа, распачатая па прапагандзе культуры літаратурнай мовы (дыскусіі на старонках перыядычнага друку, аналіз мовы асобных пісьменнікаў, навуковыя даследаванні, лексікаграфічныя выданні і інш.), абуджала ў аўтараў пачуццё адказнасці за мову твораў, выступленняў, публікацый. Пачалася пераацэнка раней накопленага матэрыялу, паступовая стылістычная дыферэнцыяцыя лексікі. Адбываюцца значныя зрухі ў межах сінанімічных радоў і цэлых пластоў лексікі. Калі гаварыць аб іх у агульных рысах, то можна вылучыць два процілеглыя працэсы. У адных радах перамяшчэнне кампанентаў ішло ў напрамку ніжэйшых стылістычных пластоў (пераход у пасіўны фонд, архаізацыя, выпадзенне); у другіх, наадварот, рух адбываўся ад ніжэйшых пластоў да вышэйшых (актывізацыя ўжывання, страта стылістычнай афарбаванасці, нейтралізацыя).

У сінанімічных радах, што складаліся з двух або некалькіх слоў, аднолькава пашыраных на ўсёй беларускай тэрыторыі або на значнай яе частцы, у літаратурнай мове замацаваліся, як правіла, усе члены рада без заметнай стылістычнай дыферэнцыяцыі, напр.: *асець — ёўня, апрыкраць — апрацівець — апастылець — абрыднуць, лодка — човен, тапор — сякера, пожня — сенажаць, калашына — штаніна, старац — жабрак* і інш.: *Сокат птушак замёр, Як бы поўнач была, Адно стукне тапор Ды зазвоніць піла* (Я. Купала. Зімой у лесе); *У вёсцы наперабой стукалі сякеры, шоргала прадоўжная піла* (І. Шамякін. У добры час).

У працэсе моўнай практыкі былі выцеснены агульнаўжывальнымі адпаведнікамі вузкадыялектныя беларускія словы і няўдалыя наватворы, што выкарыстоўваліся ў 20-х гадах як тэрміны або намінатыўныя адзінкі бытавога характару: *гелда* (біржа), *базыкала* (балбатун), *даматур* (дамасед), *павук* (паўлін), *зюкаць* (гаварыць), *тумар* (багацей), *мутэрка* (чайка), *рагаза* (беспарадак), *растаропіца* (бездарожжа) і інш. Падобныя мясцовыя словы выкарыстоўваюцца ў творах мастацкай літаратуры і цяпер, але пры наяўнасці больш-менш выпрацаваных норм словаўжывання выконваюць яны ўжо не намінатыўную, а экспрэсіўна-ацэначную функцыю.

У сінанімічных радах, што складаліся са слоў уласна беларускіх і агульнаславянскіх (усходнеславянскіх), звычайна страчваліся словы, якія супадалі з рускімі або нагадвалі іх: *атрымаць — палучыць, бульба — кар-*

*тофля, вёска — дзярэўня, галіна — ветка, гадзіннік — часы, гаспадар — хазяін, гной — навоз, даткнуцца — датронуцца, зусім — саўсім, зорка — звязда, качка — вутка, колькі — сколькі, коўдра — адзіяла, крыніца — ключ, люстэрка — зеркала, настольнік — скацерць, паляванне — ахота, паветра — воздух, певень — пятух, пісьменнік — пісацель, прас — уцюг, страха — крыша, сустрэць — устрэціць, трэба — нада (надабе), улада — уласць, хваля — вална, хмара — туча, цвік — гвозд, цэгла — кірпіч* і інш.

Выцясненне з літаратурнага ўжытку слоў гэтай катэгорыі не заўсёды дыктавалася патрэбамі моўнай практыкі, паколькі многія з гэтых слоў ужываюцца на значнай, а часам і на большай частцы беларускай тэрыторыі. Абумоўлена яно было ярка выражанымі на Беларусі пурыстычнымі тэндэнцыямі, якія ў катэгарычнай форме сфармуляваў С. Некрашэвіч — старшыня Камісіі па ўкладанню слоўніка жывой беларускай мовы: «У той час як у рускі слоўнік заносяцца ўсе словы, якія можна пачуць ад рускага чалавека на тэрыторыі РСФСР,— у беларускі слоўнік могуць уносіцца толькі беларускія словы, г. зн. або беларускія словы, агульназразумелыя для ўсёй беларускай тэрыторыі, як, напр., *рука, дзякаваць*, або характэрныя для якой-небудзь асобнай беларускай мясцовасці, як, напр., *лоўж, подкур, скрыль;* іншыя ж словы, хоць бы яны і чутны былі на нашай тэрыторыі ад беларусаў, нават ад людзей вясковых і непісьменных, але паколькі такія словы не з'яўляюцца беларускімі, яны не павінны мець у нашым слоўніку месца» [9].

Такі падыход да ацэнкі лексікі, у нейкай меры псіхалагічна апраўданы для свайго часу, таіў пагрозу для будучыні беларускай мовы. Наяўнасць у Беларусі розных тыпаў білінгвізму, нізкі ўзровень лексікалагічных даследаванняў у 20-я гады, паскоранасць развіцця літаратурнай мовы пры адсутнасці ўстойлівых лексічных норм адкрывалі шырокія магчымасці для залічэння ў разрад русізмаў, украінізмаў і паланізмаў не толькі тых слоў, што сапраўды імі з'яўляліся, але і лексічных адзінак агульнаславянскага і ўсходнеславянскага паходжання, якімі спрадвечна карысталіся беларусы. Так,

[9] Некрашэвіч С. Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы // Полымя. 1925. № 5. С. 174.

сам С. Некрашэвіч адносіў да русізмаў словы *нагружаны, адкос, задорны* і пад., выпісаныя ім з часопіса «Полымя» (1925, № 3): *падводы, нагружаныя круглякамі;* *пад адкос дарогі* (Т. Гушча. Пракурор); *напеў задорны* (А. Гурло). Заўважым, што ўсе гэтыя словы ў цяперашні час замацаваліся ў якасці літаратурнай нормы.

Боязь зрабіцца аб'ектам крытыкі або быць залічанымі ў разрад непісьменных прымушала літаратараў пазбягаць многіх спрадвечных, агульнаўжывальных беларускіх слоў і замяняць дыялектызмамі або запазычаннямі толькі таму, што па гукавому абліччу яны супадалі з рускімі. Слова *дзешава*, напрыклад, замянялася на *танна*, *кусок* на *кавал, кавалак, поезд* на *цягнік, сорт* на *гатунак, скоры* на *хуткі* і інш. Пры гэтым не прымалася пад увагу, што падобныя заменнікі, будучы чужымі для народа, займалі ў сістэме мовы адасобленае месца, не мелі лексічнага гнязда, у той час як спрадвечна беларускія словы парадзілі багатыя словаўтваральныя гнёзды. Параўн.: *кус — кусок, кусаць, кусочак, кускавы, кусацца, кусачкі, кусачы, закусіць, укусіць, перакусіць, закуска* пры адасобленых *кавал, кавалак*.

Практыка адштурхоўвання ад слоў, агульных для беларускай, рускай і ўкраінскай моў, замены іх няўдалымі наватворамі, вузкімі дыялектызмамі або запазычаннямі збядняла беларускую лексіку, парушала яе сістэмнасць, адрывала літаратурную мову ад народа. Ужо ў 30—40-я гады і асабліва ў пасляваенны час глыбокія знаўцы народнай мовы, майстры мастацкага слова пачынаюць рашуча ўзнімаць голас у абарону тых беларускіх (агульнаславянскіх, усходнеславянскіх) слоў, якія пад уплывам пурыстычных ідэй былі пазбаўлены статусу літаратурнай нормы, кваліфікаваны як русізмы і адсунуты на задні план. Агульную думку, якая пачынала ў гэты час пранікаць у свядомасць літаратурнай грамадскасці, дужа трапна выказаў вядомы беларускі пісьменнік Я. Скрыган: «Мне шкода некаторых слоў. Здаецца, мы вінаваты перад імі, як перад людзьмі, якіх незаслужана пакрыўдзілі» [10]. Прычыну сваёй заклапочанасці ён раскрывае на многіх прыкладах з жыцця беларускіх слоў.

Паказаўшы, што слова *атрымліваць* (і вытворныя ад яго *атрымлівацца, атрымоўвацца*) не заўсёды ўжываецца ў сваім значэнні, Я. Скрыган удакладняе: «... а ці не ста-

---

[10] Скрыган Я. Блізкія сэрцу думкі // Полымя. 1967. № 9. С. 252.

ла яно на месца народнага слова «палучаць» з усімі яго вытворнымі «палучацца» і «палучаецца»? Сапраўды, як бы яго не абыходзілі, а народ скрозь карыстаўся і карыстаецца ім. «Трэба палучыць грошы», «Схаджу палучу пісьмо». «Нешта гэта ў мяне не палучаецца», «Ці вялікая ў цябе палучка?» Усюды яно стаіць нармальна, адчувае сябе ўпэўнена. На тое, што гэта карэннае беларускае слова, паказваюць яго шматлікія суседзі, утвораныя на адным і тым жа корані: *улучыць, далучыць, залучыць, налучыць, прылучыць, злучыць, падлучыць, адлучыць*... На якой жа падставе слова «палучыць» выкінута з гэтай сям'і? Магчыма, яго, нарэшце, пара прызнаць і карыстацца ім у літаратуры, бо народная мова ўсё роўна яго не адцураецца» [11].

Падтрымліваючы думку Я. Скрыгана аб наданні спрадвечна беларускім словам статусу літаратурных, яшчэ больш шырока выказвае свой погляд па гэтаму пытанню У. Юрэвіч: «Можна толькі дадаць, што права быць літаратурнымі ў беларускай мове маюць, мабыць, не менш пашыраныя ў народзе словы: «чуць» (прыслоўе), «ждаць», «відзець» і іншыя. Даўно настаў час з дапамогай лінгвістаў высветліць, што ў беларускай мове лічыць дыялектызмамі, архаізмамі, і што нармальнай з'явай» [12].

І лінгвісты многае высветлілі. Так, у артыкуле «Аб працы Я. Коласа над мовай рамана «На ростанях» Ф. М. Янкоўскі паказаў, што такія словы, як *трудна, трудны, натрудзіўшы* (рукі), *быстра, крэпка, скарэй* і інш., за выкарыстанне якіх крытыкі папракалі Я. Коласа, з'яўляюцца па паходжанню агульнаславянскімі, г. зн. у аднолькавай меры як рускімі, так і беларускімі, і ўкраінскімі, а таму маюць права на літаратурны ўжытак [13]. Ад выкарыстання гэтых слоў Я. Колас не адмовіўся і пазней, калі рыхтаваў да выдання збор сваіх твораў. Успамінаючы гэты час, М. Лужанін гаворыць: «Было дамоўлена пісаць: *громка, быстра, трудна* («Лыка не аддам»); *вачамі, дзвярамі* і г. д. (замест «вачыма»)... *поезд, надвор'е* (калі добрае — *пагода*)... *непрыкметны* (без «к»)...» [14]

У абарону права на ўжыванне агульнаславянскай і агульнаўсходнеславянскай лексікі неаднаразова высту-

---

[11] Скрыган Я. Думкі аб мове // Літ. і мастацтва. 1957. 20, 23 лют.
[12] Юрэвіч У. Слова і вобраз. Мн., 1961. С. 37.
[13] Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1961. № 1. С. 110—111.
[14] Лужанін М. Колас расказвае пра сябе. Мн., 1964. С. 222.

паў народны пісьменнік Беларусі акадэмік К. Крапіва і іншыя вучоныя. Звяртаючыся да работнікаў выдавецтваў, якія імкнуцца крэмзаць аўтарскі рукапіс без належных на гэта падстаў, К. Крапіва настойліва раіў ім: «Не «ўзнімайце» рукі на паўнапраўныя, законна ўжытыя аўтарам словы, не навязвайце яму сілком «нагоды», «вытарам словы» і архаічнага «дойліда» замест сучаснага архітэктара. Не цягніце яго сілком на «цягнік» калі яму больш падабаецца поезд»[15].

Усведамленне правамернасці ўжывання ў беларускай літаратурнай мове слоў агульнаславянскага і агульнаўсходнеславянскага паходжання цяпер паступова ўзрастае. Улічваючы гэта і апіраючыся на багатыя матэрыялы фундаментальнай картатэкі Аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі ўкладальнікі «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» ўключылі ў яго рэестр як паўнапраўныя наступныя словы: *адведаць, адведваць, адведкі, адроддзе, гадаць, дзела, дзяржаць, дуць* (параўн.: *паддувала, раздуць*), *жваць, ждаць, жыдкі, жыліцца, заметны, заявіцца (паявіцца, явіцца), крэпкі, малец, прыбор, родам, семя, труд, трудна, трудзіцца, юркі* і многія іншыя, што ў перыяд адраджэння лічыліся русізмамі і ў слоўнікі не дапускаліся.

Перамяшчэнне ад ніжэйшых стылістычных пластоў лексікі да вышэйшых адбывалася не толькі праз аднаўленне ў правах слоў, агульных для ўсходнеславянскіх моў. Кніжны і нейтральны пласты беларускай літаратурнай лексікі папоўніліся значнай колькасцю народна-дыялектных слоў, якія да рэвалюцыі ўжываліся на абмежаванай тэрыторыі і мелі зніжаную стылістычную афарбоўку. Зрухі адбыліся ў многіх сінанімічных радах са сферы бытавой лексікі: *асецы—ёўня, пуня—адрына, стажарня—адонак, калодзеж—студня, пала—крысо, настольнік—абрус* і інш. Узвышэнне маркіраваных дублетаў у гэтых радах да становішча нейтральных слоў было выклікана многімі прычынамі сацыяльнага характару, галоўным чынам такімі, як пашырэнне кола носьбітаў літаратурнай мовы і павелічэнне колькасці беларускіх друкаваных выданняў, у тым ліку перыферыйных, праз якія гэтыя словы засвойваліся шырокімі народнымі масамі.

---

[15] Крапіва К. Ці будзем мы ездзіць на левым баку? // Звязда. 1979. 14 чэрв.

Аналіз форм узаемадзеяння літаратурнай лексікі са слоўнікавым складам народных гаворак наводзіць яшчэ на адно пытанне: якой колькасцю народна-дыялектных слоў узбагацілася за савецкі перыяд лексіка літаратурнай мовы? Пытанне гэта зусім правамернае, але, на жаль, амаль невырашальнае. Беларуская лексікаграфія не стварыла поўнага слоўніка ні перадрэвалюцыйнай пары, ні паслярэвалюцыйных гадоў, якія маглі б з'явіцца асновай, адпраўным пунктам для адліку новых слоў. Рукапіс найбольш поўнага (каля 200 тыс. слоў) дарэвалюцыйнага беларуска-польска-рускага слоўніка Язэпа Цхінскага загінуў, а слоўнікі першых гадоў Савецкай улады былі настолькі кароткімі, складзенымі на скорую руку для практычных мэт, што не маглі нават прыблізна адлюстраваць тагачасны стан беларускай літаратурнай лексікі.

Рэальныя магчымасці для выяўлення новых слоў у нейкай меры з'явіліся толькі пасля выхаду ў пасляваенны час адносна поўных Руска-беларускага (1953) і Беларуска-рускага (1962) і найбольш поўнага пяцітомнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (1977—1984).

У другім томе Тлумачальнага слоўніка налічваецца каля 3 тысяч лексічных адзінак, што не былі зафіксаваны ў папярэдніх перакладных слоўніках. Значыць, у пяці тамах Тлумачальнага слоўніка такіх адзінак, можна думаць, набярэцца каля 15 тыс. Калі дапусціць, што папаўненне лексічнага складу такімі тэмпамі адбывалася і на працягу 20—40-х гадоў, то можна сказаць (з вялікай доляй прыблізнасці), што слоўнікавы склад беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд папоўніўся на 30 тысяч новых адзінак. Рэальна ж гэта лічба можа быць павялічана, бо ў Тлумачальны слоўнік свядома не ўключаліся некаторыя катэгорыі слоў (абрэвіятуры, некаторыя прыслоўі і інш.).

З трох тысяч новых лексічных адзінак, адзначаных у другім томе Тлумачальнага слоўніка, каля 40% народна-дыялектных. Тут, праўда, трэба агаварыцца, што сярод іх ёсць значная колькасць і такіх, што ўжо выкарыстоўваліся ў літаратурных тэкстах, але не трапілі ў Руска-беларускі і Беларуска-рускі слоўнікі, бо складаліся яны ў той час, калі фундаментальнай картатэкі яшчэ не было. Так, словы *гасціцца, гнусавы, груканіна, заарацца, закасіцца, заблудзіцца, забрытаць, загойкаць, заплюснуць,*

*заранка, калеснік, каршэнь, карабаціцца, стацца* і многія іншыя, не адзначаныя ў перакладных слоўніках, здаўна выкарыстоўваліся ў літаратурных тэкстах, напр.: *Да навукі ён не браўся, Закасіўся, загараўся* (Ф. Багушэвіч. Дурны мужык, як варона); *Хай бы скарэй стала, што стацца ўжо мусіць* (Ф. Багушэвіч. Думка);— *Ну, як жа вам, панічок, гасцілася?— пытала бабка Лабановіча* (Я. Колас. На ростанях) і інш.

Нават калі не прымаць пад увагу гэтай катэгорыі слоў, то і тады народна-дыялектная лексіка будзе складаць не менш як трэцюю частку ўсіх неалагізмаў. А гэта значыць, што народныя гаворкі да цяперашняга часу застаюцца адной з важнейшых крыніц папаўнення лексічнага складу літаратурнай мовы.

## § 2. СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫЯ НЕАЛАГІЗМЫ САВЕЦКАГА ЧАСУ

### *Паняцце словаўтваральнага неалагізма*

Адрозніваюць два асноўныя тыпы словаўтваральных неалагізмаў: словы з нематываваным лексічным значэннем (т. зв. «нечаканыя», «выдуманыя словы», «штучныя ўтварэнні») і словы з матываваным лексічным значэннем (утвораныя па пэўных словаўтваральных мадэлях з наяўнага моўнага матэрыялу).

Нечаканыя словы, штучныя ўтварэнні — з'ява крайне рэдкая. «Выдуманыя словы ў розных мовах вылічваюцца літаральна адзінкамі,— піша Р. А. Будагаў.— *Газ, кодак, фелібр* — гэтымі словамі амаль што вычэрпваецца спісак штучна створаных слоў ва ўсіх індаеўрапейскіх мовах. Калі ж прыняць пад увагу, што адвольнасць нават і гэтых трох-чатырох слоў можа быць узята пад сумненне (слова *газ*, у прыватнасці, звязваецца з фламандскім *geest* — «дух», г. зн. «бязважкая субстанцыя», па даўнейшых уяўленнях), то выявіцца, што выдуманых слоў у рэальнасці амаль зусім не існуе» [16].

Утварэннем штучных слоў займаюцца звычайна фантасты, паэты, лінгвісты для эксперыментальных мэт, але такія словы, як правіла, фактамі мовы не становяцца. У беларускай мове савецкага часу такіх стыхійных утварэнняў, якія б зрабіліся агульнаўжывальнымі словамі,

---

[16] Будагов Р. А. Введение в науку о языке. М., 1958. С. 79.

адзначыць не ўдаецца, хоць спробы выдумваць новыя словы рабіліся часта. У мастацкіх творах 20-х гадоў, у прыватнасці ў вершах В. Ластоўскага, можна было сустрэць такія ўтварэнні, як *жокаць* (выпарэнні), *крокаць* (дрыгва), *кон, канодны* (лёс, звязаны з лёсам), *снець* (блішчэць), *стод* (статуй), *ручэць* (цячы) і інш. Нямала штучных слоў было створана ў працэсе выпрацоўкі навуковых тэрміналогій: *зачур* (талісман), *бандзера* (флюгер), *прывён* (веранда), *шувакс* (вакса), *шпанка* (мерынос) і інш. Ні адно з іх не замацавалася ў беларускай мове. «З тэарэтычнага пункту гледжання, такіх слоў не павінна быць. Адзінкі якога-небудзь узроўню моўнай сістэмы складаюцца з адзінак ніжэйшага, папярэдняга ўзроўню. «Церазузроўневыя» кампаненты ў адносінах да данай адзінкі ў напрамку да ніжэйшых засвойваюцца на чарговым узроўні, перш чым быць выкарыстанымі на даным узроўні» [17].

Важнейшым сродкам папаўнення лексічнага складу мовы застаюцца неалагізмы з матываваным лексічным значэннем, г. зн. словы, утвораныя на базе другога слова (або слоў) пры дапамозе спецыяльных сродкаў, напрыклад афіксаў: **сад** — *садз-ік*, **чытаць**—*пра-чытаць*, **дзень**—*надзён-н-ы*, **шэсць тамоў** — *шасц-і-том-н-ы*. Лексічнае значэнне такіх неалагізмаў выводзіцца са значэння карэннага слова і словаўтваральных элементаў.

Паяўленне матываваных неалагізмаў ішло па дзвюх асноўных лініях: 1) утварэння новых слоў з уласнага матэрыялу па ўласных словаўтваральных мадэлях без уплыву іншамоўных слоў, г. зн. уласна беларусізмаў; 2) утварэння новых слоў з уласнага матэрыялу па ўзору слоў іншамоўных, г. зн. калек і паўкалек.

Разгледзім кожную з гэтых груп словаўтваральных неалагізмаў асобна.

### *Уласна беларускія словаўтваральныя неалагізмы*

Да гэтай групы трэба аднесці словы, утвораныя з уласнага матэрыялу па ўласных словаўтваральных мадэлях, г. зн. па аналогіі. У залежнасці ад таго, якое мес-

[17] Котелова Н. З. Первый опыт лексикографического описания русских неологизмов // Новые слова и словари новых слов. Л., 1978. С. 18.

ца займае кожны з гэтых неалагізмаў у лексічнай сістэме беларускай мовы, сярод іх можна вылучыць некалькі груп.

1. Неалагізмы, якія ўтвораны ад каранёвага беларускага слова і складаюць з ім адно гняздо. Утварэнне іх у нейкай меры магло быць стымулявана адпаведнымі па сэнсу рускімі, польскімі ці ўкраінскімі словамі, аднак яны не з'яўляюцца ні запазычаннямі, ні калькамі гэтых іншамоўных слоў, і таму іх трэба лічыць уласна беларусізмамі. Так, спрадвечна беларускае слова *спадчына* да рэвалюцыі ўжывалася ў адным значэнні 'маёмасць, якая засталася пасля смерці каго-небудзь і перайшла ва ўласнасць другога': *Цяпер няма назад адходу! Скідай з дарогі перашкоду, Ні перад чым не запыняйся І з гэтай спадчынай сквітайся, Што засталася ад бацькоў — Зямелькі некалькі шматкоў* (Я. Колас. Новая зямля); *У Ніны быў самавар — не свой, нечая спадчына па кватэры* (М. Лобан. Гарадок Устронь).

У савецкі час слова *спадчына* не толькі пашырыла сваю семантыку (набыло новае значэнне 'з'явы культуры, быту, якія засталіся ад папярэдніх дзеячаў, ад папярэдніх часоў'), але і з'явілася асновай для некалькіх словаўтваральных неалагізмаў. Самым блізкім з іх з'яўляецца прыметнік *спадчынны*. Можна дапусціць, што асобныя ўжыванні яго адносяцца яшчэ к дарэвалюцыйнаму часу, аднак канчатковае замацаванне ў літаратурнай мове і развіццё ўсёй сістэмы яго значэнняў прыпадае ўжо на савецкі перыяд: *Мы адраджалі гаспадарку на трох... дзесяцінах спадчыннай зямлі* (В. Таўлай. Аб сабе); *Спадчыннай асновай з'яўляецца клетка, якая развіваецца, ператвараецца ў арганізм* (Пытанні мічурынскай біялогіі).

У працэсе фарміравання спецыяльных тэрміналогій узнікла неабходнасць у стварэнні тэрміна, адпаведнага па значэнню руск. *наследственность*, польск. *dziedziczność*, укр. *спадковість*. Ад слова *спадчына* быў утваран неалагізм *спадчыннасць* са спецыяльнымі біялагічным і юрыдычным значэннямі: *Спадчыннасць ёсць уласцівасць жывога цела патрабаваць пэўных умоў для свайго жыцця, свайго развіцця і пэўным чынам рэагаваць на тыя або іншыя ўмовы* (Пытанні мічурынскай біялогіі); *Уласнік гэтага пляца, паспеўшы зацвердзіцца ў правах спадчыннасці, падаў на ўласніка завода ў суд* (К. Чорны. Трыццаты год).

З такімі ж значэннямі, біялагічным і юрыдычным, ад слова *спадчына* былі ўтвораны *спадчыннік, спадчынніца: У прыродзе спадчыннік і спадчына — адзін і той жа аб'ект: спадчына — гэта самі спадчыннікі або іх часткі* (Пытанні мічурынскай біялогіі); *Андрэй стаў адзіным памочнікам у бацькі і спадчыннікам пакрыўленай хаціны* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

Пра навізну тэрміна *спадчыннік* можа сведчыць тое, што раней, а потым і паралельна з ім ужываліся іншамоўныя адпаведнікі: руск. *наследник,* укр. *спадкаемец,* польск. *дзедзіц (дзедзіч): І скардзіўся на ўсё, на ўсіх крывіўся: Наследнік ёсць, а спадчыны няма* (П. Панчанка. Бацька); *Пан Выбіцкі са скрухайківае галавою: «Мужычок, зусім мужычок. І гэта сын загоршчынскага князя. Спадкаемца амаль дваццаці дзевяці тысяч сем'яў, калі прыйдзе час. Дурны звычай!»* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім);— *Ты і так ужо за гэты час дзедзічам зрабіўся. От зараз мне да цябе за парабка прыйдзецца ісці* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

Да гэтай групы ўласна беларусізмаў трэба аднесці і назоўнік *практыкаванне,* утвораны з рознымі значэннямі ад дзеясловаў *практыкаваць, практыкавацца.* У рускай мове яму адпавядае слова *упражнение,* у польскай — *ćwiczenie,* ва ўкраінскай — *вправление, вправа.* Адну з першых фіксацый слова *практыкаванне* знаходзім у «Практычным расейска-беларускім слоўніку» М. Байкова і М. Гарэцкага (1924). Адзначым, што Б. Тарашкевіч у першых выданнях сваёй «Беларускай граматыкі для школ» замест сучаснага граматычнага значэння слова *практыкаванне* ўжывае яшчэ тэрмін *задачка.* Пазней слова *практыкаванне* адзначаецца ва ўсіх слоўніках і тэкстах рознай стылёвай накіраванасці: *Для практыкавання ў вызначэнні часоў дзеяслова вучні пад кіраўніцтвам настаўніка па строфах чытаюць верш «У лесе» (практыкаванне 135)* (М. Самцэвіч. Метадычныя ўказанні да ўрокаў беларускай мовы ў III—IV класах з рускай мовай навучання); *Там у яго* [Лабановіча] *былі гіры і штанга, і ён прыступіў да гімнастычных практыкаванняў, а потым заняўся туалетам* (Я. Колас. На ростанях).

Падобным чынам узнікалі неалагізмы і ў іншых словаўтваральных гнёздах: *страва—страўнік, страваввод, стравааванне; гарлач — гарлачык, гарлачыкавыя* (абодва дэрываты ў тэрміналагічным значэнні), *чыгунка — чыгуначнік, чыгуначны.*

Да гэтай групы адносяцца і абстрактныя назоўнікі на *-асць, -осць*, утвораныя па прадуктыўнай словаўтваральнай мадэлі пераважна ад якасных прыметнікаў: *барвовасць, будучнасць, малавернасць, першаснасць, снежнасць, сцюдзёнасць* і інш.

2. Другую групу складаюць уласна беларусізмы, якія, раз узнікшы, самі сталі родапачынальнікамі новага гнязда слоў. Прыкладам такіх новаўтварэнняў можа служыць слова *навучэнец*. Узнікненне яго было выклікана неабходнасцю даць найменне для таго, хто навучаецца ў сярэдняй спецыяльнай навучальнай установе (тэхнікуме, вучылішчы, акрамя ваеннага вучылішча, дзе навучэнец называецца курсантам), каб падкрэсліць яго асобае, спецыфічнае становішча ў параўнанні з вучнем сярэдняй агульнаадукацыйнай школы і студэнтам вышэйшай навучальнай установы. У такім значэнні слова *навучэнец* канчаткова і замацавалася ў беларускай мове. Параўн.: *Маладзечанскі палітэхнікум аб'яўляе прыём навучэнцаў на 1979/80 навучальны год* (Звязда. 19.V 1979); *Калі я сустракаю цяпер навучэнцаў школ ФЗН і тэхнічных вучылішчаў, міжволі згадваю нашу прафтэхшколу* (Э. Агняцвет. Пяцьдзесят чатыры дарогі), але: *Надзя і Сярожа — вучні старэйшых класаў, дапамагаюць па гаспадарцы і глядзяць за малодшымі, дашкольнікамі* (Звязда. 26.V 1979). Ужыванне слова *навучэнец* у значэнні 'вучань', 'студэнт', 'курсант' трэба лічыць няправільным, напр.: *У перыяд летніх канікул навучэнцы старэйшых класаў працуюць у паляводчых брыгадах* (А. Гурскі. Рашэнні XXI з'езда КПСС у дзеянні).

У рускай мове спецыяльнага слова для называння таго, хто вучыцца ў спецыяльнай сярэдняй навучальнай установе, няма. Навучэнец гэтай установы, як і вучань агульнаадукацыйнай школы, абазначаецца словам *учащийся: Белорусское государственное хореографическое училище объявляет прием учащихся на 1979/80 учебный год* (Вечерний Минск, 29.III 1979) і *Средняя школа № 23 г. Минска... объявляет прием учащихся в 9-й класс* (Вечерний Минск. 21.V 1979). Няма такога слова ва ўкраінскай і польскай мовах. Значыць, слова *навучэнец* не магло быць ні запазычана, ні скалькавана ні з адной з блізкароднасных моў. Гэта ўласна беларусізм.

Утваран ён па існуючай мадэлі: аснова дзеяслова + +суфікс *-энец(-анец)*, які служыць для ўтварэння назваў асоб па роду дзейнасці або па ўласцівых для іх пры-

метах, напр.: *апалчэнец, ашуканец, вылучэнец, самазванец* і інш. Цяпер яно мае ўжо свае дэрываты: *навучэнка, навучэнскі, навучэнства: Трэба ўзмацніць атэістычнае выхаванне навучэнскай моладзі* (Звязда. 12.VIII 1960) і інш.

Да гэтай жа групы ўласна беларусізмаў трэба аднесці, відаць, і слова *саматужнік*, утворанае па мадэлі «прыметнік+агентыўны суфікс». У рускай мове адпаведнае паняцце абазначаецца словам *кустарь*, у польскай — *chałupnik*, ва ўкраінскай — *халупнік* (са значэннем 'беззямельны селянін').

Першае ўжыванне слова *саматужнік* адзначана намі ў 10-м выпуску БНТ, у «Тэрміналогіі права» (1926). З таго часу яно як у прамым, так і ў пераносным значэнні становіцца нормай беларускай літаратурнай мовы: *Карчма Шчыгельчыка стала прыпынкам найбольш сялян, а таксама местачковых саматужнікаў — цесляроў, муляроў і іншых* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах); *Змітрок Бядуля нарадзіўся 23 красавіка, 1886 года ў сям'і местачковага саматужніка* (М. Клімковіч. Літаратурна-крытычныя артыкулы).

Слова *саматужнік* адразу паслужыла асновай для ўтварэння такіх неалагізмаў, як *саматужніцкі, саматужніцтва, саматужнічаць:— Эксперыментальная база патрэбна, і во як!— ён* [начальнік цэха] *чыркнуў сабе па шыі.— І наогул я стварыў бы яе адну... Каб база была базай, а не саматужніцкай установай* (У. Карпаў. Вясенніе ліўні); *Ён выступаў супраць саматужніцтва, меладраматызму* (Маладосць. 1958. № 1. С. 145);— *Навошта саматужнічаць, калі ў нас цяпер падмога ёсць* (Я. Васілёнак. Вячэрняя размова).

3. Да асобнай катэгорыі могуць быць аднесены ўласна беларусізмы, якія аб'ядноўваюцца ў тэматычныя групы. Прыкладам адной з такіх груп могуць паслужыць назвы лексіка-граматычных разрадаў слоў. У першым выданні «Беларускай граматыкі для школ» (1918) Б. Тарашкевіч, напрыклад, выкарыстоўвае наступныя тэрміны для іх абазначэння: *імя, прымета, чысло, займя, дзеяслоў, прыслоўе, прыймя, злуч, кліч.* Як відаць, толькі два з гэтых тэрмінаў (дзеяслоў, прыслоўе) захаваліся нязменна да нашага часу. У 5-м выданні гэтай граматыкі тэрмін *імя* быў заменены на *прадметнік* (відавочна, калька з польск. *rzeczownik*), *прымета* — на *прыметнік* (магчыма, па аналогіі з польск. *przymiotnik,* укр. *прикмет-*

*нік*), *чысло* — на *лічэбнік, займя* — на *займеннік, злуч* — на *злучнік, кліч* — на *клічнік*, уведзен рускі тэрмін *прадлог* для абазначэння *прыназоўніка*. Пазней тэрмін *прадметнік* быў заменены на *назоўнік* (ад слова *назова*, якое шырока бытавала ў розных тэрміналогіях 20-х гадоў), *прадлог* у сувязі з гэтым быў заменен на *прыназоўнік*, *клічнік* — на *выклічнік* (каб пазбегнуць аманіміі форм: *клічнік* [1] — знак прыпынку, *клічнік* [2] — назва часціны мовы), былі ўведзены тэрміны для абазначэння аддзеяслоўных форм — *дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе* (калькі з украінскіх адпаведнікаў) і запазычана рускае слова *часціцы*. Такім чынам, у тэматычнай групе «Лексіка-граматычныя разрады слоў» уласна беларускімі з'яўляецца цэлы рад тэрмінаў: *назоўнік, прыметнік, лічэбнік, прыназоўнік, злучнік, выклічнік*, утвораных ад беларускіх каранёў пры дапамозе суфікса *-нік*. Астатняя частка тэрмінаў гэтай групы — калькі або запазычанні з іншых моў.

У асобную тэматычную групу могуць быць аб'яднаны, напрыклад, і неалагізмы-тапонімы, утвораныя для абазначэння новых гарадоў і іншых геаграфічных аб'ектаў, што з'явіліся ў працэсе перабудовы народнай гаспадаркі, яе калектывізацыі і індустрыялізацыі: *Асінторф, Белаазёрск, Наваполацк, Новалукомль, Салігорск, Светлагорск* і інш. Сюды ж адносяцца і наватворы, якія замянілі асобныя немілагучныя даўнейшыя назвы гарадоў і вёсак: *Акцябрскі* (г. п.), *Верхнядзвінск, Дзяржынск, Слаўгарад, Чэрвень* адпаведна замест *Рудобелка, Дрыса, Койданава, Прапойск, Ігумен.*

Сярод уласна беларускіх неалагізмаў адзначаюцца словы, утвораныя лексіка-семантычным спосабам (*трыванне, лад* (дзеяслова), шляхам афіксацыі (*навучэнец, дапаможнік*), асноваскладання (*Новалукомль*), субстантывацыі (*бульбяная, зборная*), *абрэвіяцыі* (*БСГ, Інбелкульт*) і інш.

### *Калькі ў беларускай мове савецкага часу*

**Узбагачэнне слоўнікавага саставу беларускай літаратурнай мовы адбывалася не толькі на аснове ўнутраных рэзерваў, але і за кошт лексічных сродкаў суседніх моў, з якімі яна ўступала ў кантакты. У найбольш цесную сувязь лексічная сістэма беларускай мовы ўступала ў савецкі час з рускай лексічнай сістэмай. Ролю тут адыграў**

цэлы рад фактараў: міжнародны аўтарытэт рускай мовы, рост моўных кантактаў на аснове багатых сродкаў інфармацыі, пашырэнне актыўнага масавага беларуска-рускага двухмоўя, перакладаў з рускай мовы на беларускую і інш. У перыяды актыўнага кантактавання моў ва ўзаемадзеянне ўступаюць не асобныя элементы, а ўся сістэма мовы, і лексічная ў асаблівасці. Таму ў беларускай мове савецкага часу мы маем самыя разнастайныя формы масавага праяўлення такіх кантактаў: уласна запазычанні, калькі, паўкалькі, апісальны пераклад.

Уласна запазычанні, як заўважана лексіколагамі, паяўляюцца звычайна тады, калі ў іншамоўным слове немагчыма вызначыць марфалагічную структуру, г. зн. яго матываванасць, або пры падзельнасці і наяўнасці матывіроўкі немагчыма ўзнавіць сваімі сродкамі структуру слова і яго значэнне.

Пры выяўленні члянімасці і матывіроўкі чужога слова, а разам з тым пры наяўнасці ў абедзвюх кантактуючых мовах адэкватных словаўтваральных мадэлей паяўляюцца, як правіла, копіі з іншамоўнага слова — словы-калькі. У выпадку адсутнасці адэкватных словаўтваральных мадэлей для ўзнаўлення іншамоўнага слова ў мове-рэцэптары паяўляецца т. зв. «апісальны пераклад»[18] (напр.: руск. *общественник* — бел. *грамадскі работнік, завхоз* — *загадчык гаспадаркі, зампред* — *намеснік старшыні*).

З многіх азначэнняў, дадзеных кальцы ў спецыяльнай літаратуры рознымі аўтарамі, найбольш дакладным уяўляецца тое, што вынікае з разумення калькавання як словаўтваральнага акта: «Словаўтваральная калька — гэта слова, якое ўзнікла ў працэсе словаўтваральнага акта, заснаванага на выкарыстанні матываванасці калькуемага аб'екта, і захоўвае значэнне (сучаснае або толькі этымалагічнае) гэтага аб'екта»[19].

Словаўтваральнае калькаванне нельга атаясамліваць з лексічным запазычваннем, бо гэта зусім розныя з'явы. З'яўляючыся словаўтварэннем, словаўтваральнае калькаванне перадае матываванасць свайму выніку — словаўтваральнай кальцы. Лексічнае ж запазычванне — гэта

---

[18] Пядусова Г. М. Заимствование как процесс взаимодействия двух языковых систем: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Л., 1971. С. 22—23.

[19] Ефремов Л. П. Основы теории лексического калькирования. Алма-Ата, 1974. С. 65.

нематывіруючы спосаб утварэння новых слоў. Словаўтваральнае калькаванне ў дачыненні да свайго аб'екта (іншамоўнага слова) з'яўляецца перакладам, яно не можа і не павінна разглядацца як лексічнае запазычанне, таму што пераклад слова датычыцца толькі яго ўнутранага боку (плана зместу) і не азначае запазычвання самога слова [20].

Традыцыйны падзел калек на словаўтваральныя, семантычныя і фразеалагічныя прымаецца цяпер не ўсімі спецыялістамі. У апошні час заўважаецца тэндэнцыя да звужэння паняцця калькі, да абмежавання яго відам толькі «словаўтваральнай калькі». Класіфікацыя словаўтваральных калек праводзіцца цяпер звычайна на супастаўленні структуры і матывавансці калек са структурай і матывавансцю калькуемага аб'екта. На аснове гэтага вылучаюцца чатыры асноўныя тыпы словаўтваральных калек: 1) структурна адпаведныя паўтараючыя матывавансць калькуемага аб'екта; 2) структурна адпаведныя вар'іруючыя матывавансць калькуемага аб'екта; 3) структурна неадпаведныя паўтараючыя матывавансць калькуемага аб'екта; 4) структурна неадпаведныя вар'іруючыя матывавансць калькуемага аб'екта.

1. Структурна адпаведныя паўтараючыя матывавансць калькуемага аб'екта.

Да структурна адпаведных належаць калькі, якія поўнасцю супадаюць з калькуемым аб'ектам па спосабу ўтварэння, па колькасці і парадку размяшчэння словаўтваральных адзінак. Да калек, паўтараючых матывавансць калькуемага аб'екта, трэба адносіць толькі тыя, што захавалі ў сабе вобраз або прымету, якія пакладзены ў аснову калькуемага аб'екта. Структурна адпаведнымі паўтараючымі матывавансць калькуемага аб'екта з'яўляюцца, напрыклад, калькі *аднаасобнік* (единоличник), *шматкроп'е* (многоточие), *пратлушчваць* (прожиривать), бо ўсе яны ўтвораны тымі ж спосабамі, што і адпаведныя калькуемыя аб'екты, маюць аднолькавую колькасць і аднолькавы парадак словаўтваральных адзінак, захавалі ў сабе тыя ж вобразы і прыметы, што ляглі ў аснову калькуемых аб'ектаў.

Сярод усіх калек гэты тып у беларускай мове савецкага часу з'яўляецца самым пашыраным. Абумоўлена гэ-

---

[20] Ефремов Л. П. Основы теории лексического калькирования. Алма-Ата, 1974.

та, відаць, тым, што словаўтваральная структура слоў блізкароднасных моў і іх матываванасць супадаюць значна часцей, чым адпаведных слоў моў няроднасных. Калькі гэтага тыпу адзначаюцца пераважна сярод назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў:

— *аглядальнік* (обозреватель), *вапнаваць* (известковать), *грамадазнаўства* (обществоведение), *гноераскідальнік* (навозоразбрасыватель), *другаснасць* (вторичность), *заклік* (призыв), *залік* (зачет), *засцерагальнік* (предохранитель), *збожжанарыхтоўка* (хлебозаготовка), *звышдзяржава* (сверхгосударство), *знішчальнік* (истребитель), *красамоўства* (красноречие), *наглядчык* (надсмотрщик), *падпальшчык* (поджигатель), *паскаральнік* (ускоритель), *першаснасць* (первичность), *пераўтварэнне* (преобразование), *попыт* (спрос), *працаўладкаванне* (трудоустройство), *разгалінаванне* (разветвление), *сузор'е* (созвездие), *саўдзельнік* (соучастник), *светабудова* (мироздание), *спрамяняльнік* (излучатель), *тушыцель* (гасіцель), *узбуйненне* (укрупнение), *харчпадатак* (продналог), *цемрашал* (мракобес) і інш.;

— *агульнакарысны* (общеполезный), *адцягнены* (отвлеченный), *безудзельны* (безучастный), *бездакорны* (безупречный), *безгаспадарны* (бесхозяйный), *звышгукавы* (сверхзвуковой), *звышнатуральны* (сверхъестественный), *несугучны* (несозвучный), *працаздольны* (трудоспособный), *перадкастрычніцкі* (предоктябрьский), *прыватнагаспадарчы* (частнохозяйственный), *складаназалежны* (сложноподчиненный), *складаназлучаны* (сложносочиненный), *усюдыісны* (вездесущий), *чырванасцяжны* (краснознаменный) і інш.;

— *асэнсаваць* (осмыслить), *перабольшваць* (преувеличивать), *пераўтварыць* (преобразовать), *пратэрмінаваць* (просрочить), *распрасаваць* (разутюжить), *старшынстваваць* (председательствовать), *суіснаваць* (сосуществовать), *супадпарадкаваць* (соподчинить), *узбуйняць* (укрупнять) і інш.

Выбарачна ўзятыя тут прыклады паказваюць, што калькі гэтага тыпу вельмі шматлікія; яны пранізваюць усе стылістычныя пласты лексічнай сістэмы: навукова-кніжны, нейтральны, размоўны. Магчыма, гэта акалічнасць і прывяла першых даследчыкаў да вываду, што калькі — гэта словы і выразы, якія з'яўляюцца дакладнымі знімкамі (копіямі) з іншамоўных слоў, атрыманымі шляхам перакладу кожнай значымай часткі іншамоўнага

слова адпаведнай значымай часткай роднай мовы. Аднак толькі гэтым тыпам калькі не вычэрпваюцца.

2. Структурна адпаведныя вар'іруючыя матыванасць калькуемага аб'екта.

Калькі гэтага тыпу, застаючыся аналагічнымі калькам першага тыпу ў адносінах структуры, адрозніваюцца ад іх тым, што не паўтараюць, а вар'іруюць, відазмяняюць у той ці іншай меры матыванасць калькуемага аб'екта. Неабходнасць у такім відазмяненні ўзнікае перш за ўсё тады, калі ў мове, на якую калькуецца іншамоўнае слова, няма структурнага элемента, адэкватнага таму, які ляжыць у аснове семантыкі калькуемага аб'екта. Стымулам для вар'іравання матыванасці бывае часам і абмежаванасць спалучальнасці паміж структурнымі элементамі, ненатуральнасць гучання калькі і інш. У такіх выпадках перакладчык вымушан шукаць новыя сродкі, якія хоць бы прыблізна, у агульных рысах маглі перадаць сутнасць з'явы ці паняцця, абазначаных іншамоўным словам. Крыніцай для пошуку такіх сродкаў звычайна аказваюцца лексічныя адзінкі, што выражаюць паняцці, звязаныя апасродкаванымі, асацыятыўнымі сувязямі з паняццем, абазначаным калькуемым аб'ектам. Калькі, створаныя на аснове гэтых лексічных адзінак, як правіла, дакладна перадаюць сэнс адпаведных іншамоўных слоў, аднак у іх інакшай, відазмененай аказваецца матыванасць, бо ў аснову калькі кладзецца новы вобраз, новая прымета. Прыкладаў такога калькавання ў беларускай мове савецкай пары можна прывесці нямала.

Працэс з'яўлення калькі, вар'іруючай матыванасць арыгінала, паспрабуем прасачыць на перакладзе рускіх слоў *выдвиженец, выдвижение, выдвиженчество* на беларускую мову. Гэтыя словы паявіліся ў сярэдзіне 20-х гадоў, якія вызначаліся бурнымі падзеямі ў жыцці нашай краіны. Узнікла неабходнасць паставіць на кіруючую работу ў дзяржаўным апараце рабочых і сялян-земляробаў. Па-руску гэты працэс называўся «выдвижение», а людзі, якія прыйшлі на працу ва ўстановы, называліся «выдвиженцами».

«Я ў той час працаваў перакладчыкам у газеце «Савецкая Беларусь,— успамінае В. Ляшэвіч.— Аднойчы сакратар рэдакцыі даў мне перакласці артыкул аб «выдвиженчестве». Як перакласці словы «выдвижение», «выдвиженец», «выдвиженчество», не ведаў ні я, ні хто другі ў рэдакцыі. Часам мы ў такіх выпадках ужывалі апі-

сальныя звароты накшталт: «той, каго высунулі, бо нядобра гучэла «высуванец». Я прапанаваў ужываць словы «вылучэнец», «вылучэнне», «вылучэнства» [21].

Да сярэдзіны 20-х гадоў рускія словы *выдвигать, выдвинуть* перакладаліся адназначна — *высоўваць, высунуць,* таму, калі б рабіць механічны памарфемны пераклад рускіх неалагізмаў, сапраўды можна было б атрымаць калькі *высуванец, высуванне, высуванства.* Украінскія перакладчыкі спыніліся на гэтай пачатковай ступені калькавання, і словы *висуванець, висуванка, висуванне* і інш. замацаваліся ва ўкраінскай мове ў якасці нормы. Для беларускіх жа работнікаў прэсы такія формы здаліся немілагучнымі («нядобра гучэлі»), і яны, працягваючы пошук, пайшлі далей.

У беларускай мове сярэдзіны 20-х гадоў шырока ўжываліся словы *вылучаць, вылучыць,* якія мелі значэнне 'выбраўшы з агульнай масы, аддзяліць, выдзеліць', напр.: *Начальнік вылучыў двух чырвонаармейцаў у сяло па фурманку* (Я. Колас. Дрыгва); *Цяпер трэба было вылучыць з усяго ўбачанага і пачутага галоўнае і перадаць яго таварышу Ігнату* (Б. Мікуліч. Выбранае). Відавочна, што гэта значэнне асацыіравалася ў перакладчыка з адным са значэнняў рускага слова *выдвинуть,* а іменна: 'выделив кого-либо среди других, предложить для более ответственной работы, деятельности', паколькі ў аснове гэтых значэнняў ляжыць агульная для іх прымета (сема) — 'выдзяленне прыватнага з агульнага'. Пасля ўзнікнення такой асацыяцыі перакладчыку ўжо няцяжка было перадаць на беларускую мову рускія *выдвиженец, выдвижение, выдвиженчество* калькамі *вылучэнец, вылучэнне, вылучэнства.* Пад уплывам значэння гэтых калек і дзеяслоў *вылучыць* замацаваў новае значэнне. Такім чынам, захаваўшы структурную адпаведнасць, калькі *вылучэнец, вылучэнне, вылучэнства* відазмянілі матываванасць рускіх арыгіналаў (параўн.: *высуванец — вылучэнец* і інш.).

З гэтага разгляду можна заўважыць розніцу паміж калькамі першага тыпу, якія, па сутнасці, з'яўляюцца вынікам прамога памарфемнага перакладу калькуемага аб'екта, і калькамі другога тыпу, якія ўзнікаюць у выніку творчай дзейнасці перакладчыка і таму не паўта-

---

[21] Ляшэвіч В. Да гісторыі слова «вылучэнец» // Полымя. 1966. № 2. С. 190.

раюць, а відазмяняюць, вар'іруюць матываванасць арыгінала. Такія калькі правамерна было б назваць **т в о р ч ы м і  к а л ь к а м і**. Назіраючы частыя выпадкі, калі перакладчык, імкнучыся як найдакладней перадаць сэнс арыгінала, вымушан адступаць ад формы твора, В. К. Традзьякоўскі некалі тонка заўважыў, што «перакладчык ад тварца толькі імем розніцца».

Адной з праблем, звязаных з творчым калькаваннем, з'яўляецца адшуканне крытэрыяў для адрознення вар'іруючага калькавання ад паўтараючага, з аднаго боку, і ад простага лексічнага перакладу — з другога. Такія крытэрыі пакуль што не вызначаны, але кожны, хто свядома валодае мовай, можа адчуць, што вар'іраванне матываванасці пачынаецца ўжо тады, калі ў аснову калькі кладзецца новае слова, хай сабе і сінанімічнае таму, што ляжыць у аснове арыгінала, бо абсалютных сінонімаў не так ужо і многа. Думаецца, можна сказаць, што ў бел. *абагавіць* — кальцы з руск. *обожествить* матываванасць вар'іравана, паколькі словы *бог* і *божество* не адэкватныя паміж сабой ні па семантыцы, ні па спалучальнасці, ні па стылістычнай адзначанасці. Крайнім выпадкам вар'іравання трэба лічыць тую ступень, на якой яшчэ можна прасачыць уплыў структуры арыгінала на структуру калькі і ўстанавіць хоць апасродкаваную сувязь паміж семантыкай калькі і калькуемага аб'екта. Відаць, не будзе памылкі, калі сказаць, што руск.-бел. *укараніць* у значэнні 'прымусіць устанавіцца, цвёрда ўвайсці ў штонебудзь' з'яўляецца структурна адпаведнай вар'іруючай матываванасць (творчай) калькай са старажытнарускага *внедрить*.

Ступень сэнсавай адпаведнасці калькі сэнсу арыгінала знаходзіцца ў прамой залежнасці ад празрыстасці словаўтваральнай структуры апошняга, г. зн. ад яго матываванасці. Чым больш празрыстая словаўтваральная структура і матываванасць калькуемага аб'екта, тым больш дакладную кальку можна ад яго ўтварыць. Найбольшую цяжкасць складае калькаванне на беларускую мову стараславянізмаў, паколькі словаўтваральная структура іх не заўсёды празрыстая і для іх часта адсутнічаюць дакладныя адпаведнікі. З гэтай прычыны вар'іруючыя калькі са стараславянізмаў у пераважнай большасці маюць адносную дакладнасць, параўн.: *вожделение — пажадлівасць, насущный — надзённы, измождение — змардаванасць* і інш.

Паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца працэс калькавання стараславянізмаў *воплотить, воплощать, воплощение.* У 20-х гадах яны перакладаліся на беларускую мову словамі *уцелавіць, уцелаўляць, уцелаўленне* (параўн. укр. *втелять,* польск. *wcielac*). Аднак стылістычная неадпаведнасць руск. (стараслав.) слова *плоть,* якое лягло ў аснову калькуемага аб'екта, і бел. *цела,* якое з'явілася асновай для калькі, выклікала адчуванне недасканаласці перакладу, бо *плоть* у прамым значэнні мае адценне ўстарэласці, у пераносным — кніжнасці, а *цела* — ва ўсіх значэннях слова нейтральнае. Гэта штурхала на пошукі больш дакладных адпаведнікаў. У пачатку 30-х гадоў пачынаюць ужывацца формы *ўцелясніць, уцелясняць, уцелясненне:— Ёсць такая катэгорыя добрых людзей, паважаных інтэлігентаў. Паглядзець на іх звонку, паслухаць іх — чыстае ў ц е л я с н е н н е дабра і справядлівасці* (П. Галавач. Праз гады). Аднак і гэта форма не прыжылася. Была створана калька *ўвасобіць (увасабляць, увасабленне)* і, магчыма, на падставе асацыятыўных сувязей слова *воплотить* з сінонімам *олицетворить* (параўн.: *плоть — лицо — асоба).* Бел. калька *увасобіць* з'яўляецца структурна адпаведнай руск.-ст.-слав. *воплотить,* але значна вар'іруе яго матываванасць.

Калькі з вар'іруючай матываванасцю калькуемага аб'екта не такія шматлікія, як калькі першага тыпу, аднак іх досыць многа. Вар'іраванне матываванасці калькуемага аб'екта можна бачыць, напрыклад, у кальках: *адлюстроўваць* (отражать), *аднавіць* (восстановить), *ажыццявіць* (осуществить), *беспрытульны* (беспризорный), *дапасаваць* (согласовать), *ніцаваць* (лицевать), *прымеркаваць* (приурочить), *сілкаванне (техн.* питание), *укараніць* (внедрить) і інш. Вар'іруючае, творчае калькаванне застаецца і цяпер адным з прадуктыўных спосабаў папаўнення лексічнага саставу беларускай мовы.

3. С т р у к т у р н а н е а д п а в е д н ы я п а ў т а р а ю ч ы я м а т ы в а в а н а с ц ь к а л ь к у е м а г а а б'е к т а.

Пры перакладзе з блізкароднасных моў калькі гэтага тыпу ўтвараюцца адносна нячаста. Адзначаецца некалькі відаў несупадзення структуры калькі са структурай калькуемага аб'екта пры паўтарэнні матываванасці апошняга:

а) пры ўтварэнні калькі не выкарыстоўваецца якая-

небудзь адзінка словаўтваральнай структуры калькуемага аб'екта або дабаўляецца новая словаўтваральная адзінка, параўн.: *суайчыннік — соотечественник* (не выкарыстан суфікс *-ен-*), *апытанне — опрос* (дабаўлен суфікс *-анн-*), *напаўдзікі — полудикий* (дабаўлена прыстаўка *на-*), *ускосны — косвенный* (дабаўлена прыстаўка *ус-*, не выкарыстан суфікс *-ен-*) і інш.;

б) калька афармляецца інакшым спосабам словаўтварэння, чым калькуемы аб'ект: *збраяроб — оружейник* (асноваскладанне і афіксацыя);

в) у кальцы і калькуемым аб'екце не супадае парадак размяшчэння словаўтваральных адзінак: *домакіраўнік — управдом, відавочна — очевидно;*

г) словам перакладаецца іншамоўнае словазлучэнне: *самаўзважнік* (БНТ-16) — *автоматические весы* і інш.

4. Структурна неадпаведныя вар'іруючыя матываванасць калькуемага аб'екта.

Гэта найменш пашыраны тып калек, прадстаўлены толькі асобнымі прыкладамі. Разгледзім адзін з іх: *правадзейны — действительный* (член академии). Тут ні словаўтваральная структура, ні матываванасць калькі не супадаюць са структурай і матываванасцю арыгінала.

Калька *правадзейны* з'явілася ў беларускай мове не адразу, спачатку выкарыстоўваўся прамы пераклад у форме *сапраўдны: Супрацоўнікі Інбелкульту падзяляюцца на ганаровых і сапраўдных членаў, навуковых супрацоўнікаў і членаў-карэспандэнтаў* (Адраджэнне. 1922. Сш. 1. С. 279). Толькі пазней у выніку глыбокага асэнсавання семантыкі слова *действительный* ('имеющий право действовать, творить самостоятельно') некім была створана структурна неадпаведная вар'іруючая калька *правадзейны* таксама са значэннем 'які мае права дзейнічаць, тварыць самастойна': *З чытаннем лекцый у вёсцы Падгай выступіць правадзейны член Акадэміі навук БССР Т. Н. Годнеў* (Беларусь. 1949. № 3. С. 30). Сярод іншых прыкладаў калек гэтага тыпу можна назваць: *рудзяк* (БНТ-16) — *бурый железняк, скажонаформнасць* (БНТ-16) — *апоморфизм, словазнавец* (БНТ-15) — *лексиколог* і некаторыя іншыя.

У адзінкавых выпадках сустракаюцца калькі рознага тыпу з польскай (*сусвет — wszechświat*), украінскай (*натхняць — надихувати*); калькі са спалучэння словаўтваральных элементаў рускай і ўкраінскай моў: *перакладчык* — руск. *переводчик*, укр. *перекладач;* рускай і

польскай: *веравызнанне*—руск. *вероисповедание*, польск. *wyznanie*, польскай і ўкраінскай: *спаборніцтва* — укр. *споборник*, польск. *uspolzawodnictwo*.

Не ўсе калькі, нават «правільна» ўтвораныя, замацаваліся ў беларускай мове савецкай пары. Гэта перш за ўсё тыя, што былі зняты непасрэдна са слоў няблізкароднасных моў — нямецкай, англійскай, французскай і інш. Была зроблена, напрыклад, спроба скалькаваць прама на беларускую мову нямецкае слова *штрэйкбрэхер: Streik — стачка, brechen — ламаць*, у выніку чаго з'явілася калька *стачкалом: Мабілізавалі штрэйкбрэхераў, якіх пад аховай паліцэйскіх і прывезлі на завод. Але рабочыя, а іх было некалькі тысяч, дружна праганялі стачкаломаў* (М. Лынькоў. За акіянам). У якасці нормы яно не замацавалася, уступіла месца запазычанню *штрэйкбрэхер*. Не былі прыняты мовай і многія іншыя калькі, утвораныя непасрэдна ад іншамоўных слоў, ужо запазычаных блізкароднаснымі мовамі без перакладу, напр.: *агнялёт — фейерверк, аднагучнік — омоним* (БНТ-15), *воднік — гидрат* (БНТ-16), *іскрак — колчедан* (БНТ-18), *прадстаўка — префикс* (БНТ-15) і інш.

Асноўнай прычынай, якая перашкаджала замацаванню такіх «правільных» калек з іншамоўных слоў, была білінгвальнасць беларускага насельніцтва, асноўнае месца ў якой належала беларуска-рускаму двухмоўю. Беларускае насельніцтва лёгка ўспрымала іншамоўныя словы, засвоеныя блізкароднаснымі мовамі — рускай, польскай, украінскай, але рэдка і з цяжкасцю авалодвала штучнымі ўтварэннямі і калькамі з іншамоўных слоў, новымі і непрывычнымі як для беларускай, так і для блізкароднасных славянскіх моў.

### *Паўкалькі ў беларускай мове савецкага часу*

У вызначэнні аб'ёму паняцця «паўкалька» назіраюцца значныя разыходжанні. Па словах М. М. Шанскага, паўкалькі — гэта словы, якія складаюцца часткова са свайго ўласнага матэрыялу, а часткова з матэрыялу іншамоўнага слова і па словаўтваральнай структуры дакладна адпавядаюць аналагічным словам мовы-крыніцы [22]. Пры такім азначэнні паўкалек да іх можна аднесці

[22] Шанский Н. М. Лексикология современного русского языка. М., 1972. С. 110—111.

як складаныя, так і простыя словы. Беларускія лінгвісты паўкалькамі (няпоўнымі калькамі) таксама лічаць словы, якія маюць у сваім складзе элементы іншамоўных слоў або «калі да запазычанага ці агульнага кораня дадаюцца ўласныя афіксы» [23].

Згодна з другім пунктам гледжання, дабаўленне ўласных афіксаў да чужога або агульнага кораня не выражае сутнасці калькавання: «Абавязковай умовай калькавання з'яўляецца пераклад словаўтваральнай асновы калькуемага аб'екта, г. зн. у канчатковым выніку таго іншамоўнага слова, ад якога быў утворан аб'ект калькавання (гэта і ёсць выбар утваральнай асновы для фарміравання словаўтваральнай калькі). Аб перакладзе ж дэрывацыйных афіксаў даводзіцца гаварыць толькі ўскосным чынам, паколькі іх «пераклад» адбываецца толькі ў выніку калькаўтварэння. Перакладаючы словаўтваральную аснову іншамоўнага вытворнага слова, калькуючая мова не займаецца спецыяльна перакладам афіксальнай часткі калькуемага аб'екта, а ўтварае слова ад выбранай утваральнай асновы ў адпаведнасці з яе спалучальнасцю з дэрывацыйнымі афіксамі (або з другімі асновамі)» [24].

Такое разуменне працэсу калькавання дало падставу аўтару гэтай канцэпцыі выкінуць з ліку паўкалек іншамоўныя словы, афармленыя суфіксамі роднай мовы. Думаецца, што гэты вывад лагічна апраўдан. У такім выпадку трэба прызнаць, што іншамоўныя словы з калькаваным суфіксам складаюць асобную катэгорыю слоў, якая займае прамежкавае, пераходнае становішча паміж запазычаннямі і паўкалькамі, а сам працэс утварэння падобных слоў выступае як «падвядзенне запазычвання пад словаўтварэнне» [25]. Гэта катэгорыя слоў досыць мнагалікая: *вяшчун—вещатель, дэсантаваць—десантировать, загатоўшчык—заготовитель, знамянальны—знаменательный, камбайнаванне—комбайнирование, мсцівец—мститель, па-ленінску—по-ленински, прадстаўнік—представитель, тэрмічны—термический, фінансаваць—финансировать* і інш. Падмена іншамоўных суфіксаў уласнымі носіць, як правіла, сістэмны, рэгулярны характар, г. зн. што ў аналагічных выпадках іншамоўныя су-

---

[23] Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. С. 41.

[24] Ефремов Л. П. Основы теории лексического калькирования. С. 46.

[25] Там жа. С. 120.

фіксы замяняюцца аднымі і тымі ж беларускімі, адэкватнымі па значэнню, але celrознымі па форме. Суфікс *-(а)тель*, напрыклад, часта замяняецца беларускімі *-(а)льнік, -ец, -нік: заверитель—завяральнік, накопитель* (техн.) — *накапляльнік, соискатель — саіскальнік; мститель — мсцівец, работодатель — работадавец; представитель—прадстаўнік* і інш.

З ліку паўкалек павінны быць выключаны, відаць, і словы з агульнай для мовы-крыніцы і мовы-рэцэптара словаўтваральнай асновай і рознымі афіксамі тыпу *абвадняльны—обводнительный, абагравальны—обогревательный, ацяпляльны—отеплительный,* паколькі такія словы маглі ўзнікнуць у кожнай мове самастойна.

Калі прызнаць, што запазычаныя словы з калькаваным суфіксам складаюць асобную катэгорыю слоў, якая займае прамежкавае становішча паміж запазычаннямі і паўкалькамі, а словы з агульнай асновай і калькаваным афіксам з'яўляюцца ўласна беларускімі ўтварэннямі, то да паўкалек тады будуць адносіцца толькі складаныя словы, адна аснова якіх перакладаецца, а другая запазычваецца. Такое разуменне паўкалькі можна знайсці ў многіх даследчыкаў: «Побач з поўнымі калькамі,— гаворыць Л. А. Булахоўскі,— у мовах, значна радзей, сустракаюцца паўкалькі к складаным словам *(composito)* мовы-крыніцы. Паўкалькі прадстаўляюць сабой напалавіну захаванне, напалавіну пераклад іншамоўных слоў на мову перакладу» [26]. Л. П. Яфрэмаў таксама лічыць, што зыходным матэрыялам для лексічных паўкалек могуць быць складаныя і складанаскарочаныя словы, а таксама словазлучэнні. Лексічная паўкалька павінна складацца не менш чым з дзвюх асноў, адна з якіх, як і пры поўным словаўтваральным калькаванні, служыць для ажыццяўлення перакладу, другая ж звычайна наследуецца ад адпаведнага іншамоўнага слова [27], напр.: *ветродвигатель—ветрарухавік, всеобщий—усеагульны, облисполком—аблвыканком, лесхоз—лясгас, СУ* (строительное управление) — БУ (будаўнічае ўпраўленне), *альфа-излучение—альфа-выпрамяненне* і інш.

Паўкалькі ўзнікаюць шляхам спалучэння самых розных відаў словаўтваральных асноў: назоўнік+назоўнік:

[26] Булаховский Л. А. Введение в языкознание. Т. 2. М., 1953. С. 127.

[27] Ефремов Л. П. Основы теории лексического калькирования. С. 121.

*абажуратрымальнік—абажуродержатель, абараназдольнасць—обороноспособность, авіяпадарожжа—авиапутешествие, агароднінасушылка—овощесушилка, ашчадкаса—сберкасса, аптэкакіраўніцтва—аптекоуправление, ахвярапрынашэнне—жертвоприношение; бавоўнапрадзенне—хлопкопрядение, буракапагрузчык—свеклопогрузчик, бульбасаджалка—картофелесажалка, бульбасховішча—картофелехранилище; вагонабудаванне—вагоностроение, вершатворства—стихотворство, вільгацямер—влагомер, воўнапрадзенне—шерстопрядение, вярблюдагадоўля—верблюдоводство; газасховішча—газохранилище, гноепагрузчык—навозопогрузчик, горадабудаўнік—градостроитель, грузаатрымальнік—грузополучатель, гукарад—звукоряд; дабрадзейнасць—добродетель, домабудаўнік — домостроитель, домакіраўнік — управдом, дрэваапрацоўка—деревообработка; збожжаздача—хлебосдача, звышзадача—сверхзадача, землекарыстанне—землепользование, золаташукальнік — золотоискатель; конегадоўля—коневодство, кормаздрабняльнік—кормоизмельчитель; лесанарыхтоўка—лесозаготовка, ландшафтазнаўства—ландшафтоведение, ледасховішча—ледохранилище, лёдаўтварэнне—ледообразование; маторабудаванне—моторостроение, металаапрацоўка—металлообработка, мінашукальнік—миноискатель; народаўладдзе—народовластие, насеннесушылка—семеносушилка; прыборабудаванне—приборостроение, птушкаферма—птицеферма; раслінавод—растениевод, рыбасаўгас—рыбосовхоз; словазлучэнне—словосочетание, снегазатрыманне—снегозадержание; трактарабудаванне—тракторостроение, тэатразнаўства—театроведение; уладалюбства—властолюбие; хата-чытальня—изба-читальня* і інш.;

назоўнік + прыметнік: *буракаўборачны—свёклоуборочный, веерападобны—веерообразный, лесаахоўны—лесозащитный, марозаўстойлівы—морозостойкий;*

назоўнік + дзеяслоў: *злоўжываць—злоупотреблять, пыласосіць—пылесосить;*

назоўнік + прыслоўе: *спіралепадобна—спиралеобразно* і інш.

Аналагічную спалучальнасць з рознымі словаўтваральнымі асновамі, падобна назоўніку, выяўляюць іншыя самастойныя часціны мовы — прыметнік, займеннік, лічэбнік, прыслоўе: *агульнанародны, старажытнарускі, усходнеславянскі; самаадукацыя, своеасаблівы, усебакова; пяцігодка, сямігадовы, трохмесячны; звышзадача, мнага-*

*планавы, працідзейнічаць, звышурочна* і пад. Калі ж яшчэ прыняць пад увагу, што асновай для ўзнікнення паўкалек з'яўляюцца таксама абрэвіятуры рускай мовы тыпу *облисполком (аблвыканком), НОТ* (НАП) і інш., то з'явіцца падстава для вываду: паўкалькі — гэта не абмежаваная, як лічыць Л. А. Булахоўскі, а вельмі шырокая катэгорыя слоў, якая колькасна мала ўступае поўным калькам.

Для пацвярджэння возьмем адзін прыклад: з дапамогай адной займеннікавай асновы *сама* ў беларускай мове створана з рускіх словаўтваральных узораў больш за 30 паўкалек толькі ў спалучэнні з назоўнікавай асновай: *самаабарона—самозащита, самаадданасць—самоотверженность, самаадмаўленне—самоотрицание, самаадукацыя — самообразование, самаадчуванне—самочувствие, саманазіранне—самонаблюдение, саманарыхтоўка—самозаготовка, самарух—самодвижение, самаспаленне—самосожжение, самазаспакаенне—самоуспокоение, самаўзбраенне—самовооружение, самаўпэўненасць—самоуверенность, самаўхіленне—самоустранение* і інш. Калі ж улічыць магчымасць займенніка *сама* свабодна спалучацца з іншымі асновамі — прыметнікавымі *(самаўладны—самовластный)*, дзеяслоўнымі *(самаўхіляцца—самоустраняться)*, прыслоўнымі *(самаўпэўнена—самоуверенно)*, то колькасць паўкалек з гэтай займеннікавай асновай дасягне сотні.

Пры няпоўным калькаванні перакладацца можа любая частка складанага слова — першая, другая, сярэдняя. Пры гэтым у асобных выпадках часткі мяняюць сваё месцапалажэнне, напр.: *управдом—домакіраўнік, очевидно—відавочна* і інш.

### *Абрэвіятуры як новы тып слоў*

Сярод розных тыпаў неалагізмаў (уласна беларускіх утварэнняў, калек, паўкалек, запазычанняў) асобае месца займаюць скарочаныя словы, або абрэвіятуры (італ. *abbrewiatura*, ад лац. *abbrevio* — скарачаю). Высвятлення тут патрабуюць многія пытанні: 1) аб'ём паняцця «абрэвіятура»; 2) час з'яўлення абрэвіятур у беларускай мове і шляхі іх далейшага развіцця; 3) крыніцы папаўнення беларускай мовы скарочанымі словамі; 4) класіфікацыя абрэвіятур у залежнасці ад іх структуры;

5) праблема сувязі гучання са значэннем у абрэвіятурах і некаторыя іншыя.

1. Існуе два погляды на абрэвіятуры: расшыраны, згодна з якім да абрэвіятур адносяцца не толькі лексічныя адзінкі, але і сумежныя з'явы (графічныя скарачэнні, умоўныя абазначэнні), і больш вузкі, які асноўваецца на прызнанні абрэвіятурамі толькі лексічных скарачэнняў. Апошні погляд уяўляецца больш аб'ектыўным, і таму ў якасці рабочага можна прыняць такое азначэнне гэтай з'явы: абрэвіятуры як новы тып слоў — гэта лексічныя адзінкі, утвораныя са скарочаных элементаў слова або намінатыўнага словазлучэння — фрагментаў, ініцыяльных гукаў і літар, узятых асобна або ў розных камбінацыях, напр.: *нам* (намеснік), *спец* (спецыяліст), *саўгас* (савецкая гаспадарка), *санэпідстанцыя* (санітарна-эпідэміялагічная станцыя), *загс* (запіс актаў грамадзянскага стану), *КІМ* (Камуністычны Інтэрнацыянал Моладзі), *педВНУ* (педагагічная вышэйшая навучальная ўстанова).

Важнейшымі асаблівасцямі, якія адрозніваюць абрэвіятуры ад сумежных з'яў (графічных скарачэнняў і ўмоўных абазначэнняў), з'яўляюцца наступныя: а) абрэвіятуры набываюць адносную незалежнасць ад поўных найменняў у семантычных і стылістычных адносінах; б) маюць уласнае вымаўленне, г. зн. не паўтараюць гучання поўнага наймення; в) характарызуюцца граматычнай катэгорыяй роду, сінтаксічнай цэласнасцю, патлівасцю да марфалагічнага апрошчання, здольнасцю служыць базай для ўтварэння новых слоў [28].

2. Асобныя выпадкі ўжывання абрэвіятур у беларускай мове адзначаліся яшчэ ў дарэвалюцыйны перыяд: *Ад партыі кадэтаў выступіў Кутлер* (Наша ніва. 1907. № 12). Шырока абрэвіятуры ў беларускай мове пачалі ўжывацца толькі пасля рэвалюцыі, і з таго часу папаўненне беларускай лексікі за кошт лексічных скарачэнняў не спыняецца. На старонках газет, часопісаў, грамадска-палітычных і навуковых выданняў паяўляюцца абрэвіятуры самых розных тыпаў: складанаскарочаныя словы, ініцыяльныя абрэвіятуры, розныя віды ўсячэнняў: *наргайтадор, БДУ, Белдрэс, камбеды, камсамол, лікбез, нарком, партком, рабфак, ФЗН, ЦВК, чон* і інш.

---

[28] Алексеев Д. И. Графические сокращения и слова-аббревиатуры // Развитие современного русского языка. М., 1963. С. 146—152.

У гісторыі абрэвіятур можна вылучыць асобныя этапы, для якіх характэрна пэўная суадноснасць розных структурных тыпаў: у 20-я гады колькасна пераважаюць складовыя абрэвіятуры (тыпу лікбез, Белнацком), у 30—40-х гадах актывізуецца працэс ініцыяльнай абрэвіяцыі, у пасляваенны час пашыраюцца ўтварэнні змешанага тыпу, як *БелНДІгіпрасельбуд* і пад.

3. Асноўнай крыніцай папаўнення беларускай лексікі абрэвіятурамі, як і іншымі неалагізмамі, была лексіка рускай мовы. «Чыстыя» запазычанні ў складзе абрэвіятур па колькасці займаюць асноўнае месца. Гэта абумоўлена па меншай меры дзвюма прычынамі: прыярытэтам рускай мовы ва ўтварэнні скарочаных лексічных адзінак і аднолснай зразумеласцю гэтых адзінак для беларускага насельніцтва, якое ў асноўнай сваёй масе дасканала валодае рускай мовай. Гэта давала магчымасць проста транслітарыраваць рускія абрэвіятуры на беларускую мову.

Другой прычынай, што садзейнічала прамому запазычванню абрэвіятур, трэба назваць немагчымасць у асобных выпадках калькаваць, «склейваць» часткі слоў без парушэння мілагучнасці і структуры скарачэння. Так, руск. *самбо* 'самооборона без оружия', складзенае з пачатковай часткі першага слова і пачатковых гукаў другога і трэцяга слоў, не магло быць калькавана на беларускую мову з прычыны несспалучальнасці элементаў другога і трэцяга слоў. Са спалучэння «самаабарона без зброі» павінна была б узнікнуць форма «самбз», аднак спалучэнне «бз» для беларускай мовы не характэрна, і таму абышліся простай транслітарацыяй рускай абрэвіятуры на беларускую мову ў форме «самба».

У склад «чыстых» запазычанняў уваходзяць не толькі ўласна рускія, але і іншамоўныя абрэвіятурныя ўтварэнні рознай структуры: *акваторыя, асаавіяхім, ВОКС, га, ГУМ, дамком, ЗІЛ, лаўсан, лікбез, МХАТ, РСДРП, Соцінтэрн, Таргсін, універсам, фабзавуч, чэпэ, эрэс, ЮПІ, юнкор, юннат* і інш.

Толькі асобнымі прыкладамі прадстаўлены ў беларускай мове абрэвіятурныя калькі. Гэта перш за ўсё скарачэнні, утвораныя шляхам адсячэння канцавой часткі слова: *заг* (загадчык) з руск. *зав.* (заведующий), *нам* (намеснік) з руск. *зам* (заместитель): *Я скажу вам — загі, намы — дарагія вашы дамы!* (Вожык. 1959. № 19. С. 9). Па-другое, рэдкія калькі адзначаюцца і сярод

складанаскарочаных слоў: *дзяржгас* (госхоз), *дзяржгандаль* (госторг), *дзяржнагляд* (госнадзор). Малалікасць абрэвіятурных калек абумоўліваецца, відаць, тым, што пры калькаванні з блізкароднаснай мовы складанаскарочаных, «буйнаблочных» слоў патэнцыяльныя магчымасці поўнага разыходжання ўсіх кампанентаў адпаведных зыходных словазлучэнняў аказваюцца вельмі нізкімі. Як правіла, хоць адзін з кампанентаў аказваецца агульным для мовы-крыніцы і мовы-рэцэптара, і тады ўжо паяўляюцца не калькі, а паўкалькі, напр.: *МОТ* (Международная организация труда) і *МАП* (Міжнародная арганізацыя працы).

У гэтым прычына абмежаванасці калек абрэвіятурнага паходжання і вялікая пашыранасць паўкалек, якія колькасна ўступаюць толькі абрэвіятурным запазычанням. Вось некалькі прыкладаў такіх паўкалек: *аблвыканкам—облисполком, АСК* (аўтаматызаваная сістэма кіравання)— *АСУ, БУ* (будаўнічае ўпраўленне)— *СУ, ГПА—ГТО, ДАСТ—ГОСТ, ДБК—ДСК, Дзяржснаб—Госснаб, скураміт—кожимит, лясгас—лесхоз, педВНУ—педвуз, СБА* (студэнцкі будаўнічы атрад)— *ССО*.

Пэўная колькасць абрэвіятур была створана і на ўласна беларускай моўнай аснове. Гэта, як правіла, скарачэнні поўных найменняў, што з'яўляліся назвамі мясцовых беларускіх партый, арганізацый, устаноў, упраўленняў, аб'яднанняў і пад. Утварэнне гэтых скарачэнняў адбывалася па мадэлях, ужо вядомых у рускай, а праз запазычанні і ў беларускай мове. Так, у 1903 г. у Вільні была створана дробнабуржуазная партыя леванародніцкага кірунку, якая на сваім 1-м з'ездзе прыняла назву *Беларуская Сацыялістычная Грамада.* На аснове гэтай поўнай назвы ўзніклі графічныя скарачэнні *Бел. С. Гр., Б. С. Г.* (Дзянніца. 1.III 1918). Пазней графічнае скарачэнне *Б. С. Г.* лексікалізавалася, утварыўшы абрэвіятуру *БСГ: У верасні 1917 значная частка левага крыла БСГ на чале з А. Чарвяковым, якая стала на рэвалюцыйныя пазіцыі, выйшла з петраградскай арганізацыі БСГ, стварыла беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю і далучылася да бальшавікоў* (БелСЭ. Т. 2. С. 230).

У 1922 г. у Беларусі была створана навукова-даследчая ўстанова *Інстытут беларускай культуры.* Неўзабаве поўная назва гэтай установы пачала перадавацца складанаскарочаным словам *Інбелкульт: Не пытайце — «Хто*

*ты?» Ці ящчэ — «Адкуль ты?» Бо ён член сапраўдны з членаў Інбелкульта* (К. Крапіва. Член). Калі ў канцы 60-х гадоў было запланавана стварэнне Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, то для арганізацыі будаўнічых работ было створана і ўпраўленне, якое назвалі складана-скарочаным словам — *«Віліямінскводабуд»*.

Прамежкавае месца паміж беларускімі і запазычанымі абрэвіятурамі займаюць лексічныя скарачэнні, утвораныя па існуючых мадэлях шляхам камбінацыі беларускіх і запазычаных кампанентаў. Такія ўтварэнні досыць пашыраны: *БелАЗ, БелАПП, БелСЭ, Белсаўпроф, БелТА, МТЗ* (Мінскі трактарны завод) і інш. Што гэтыя словы ўтвораны спалучэннем беларускіх і запазычаных кампанентаў, можна выразна ўбачыць, саставіўшы парадыгмы для кожнага слова: *БелАЗ—ГАЗ, КАЗ, КрАЗ, КамАЗ, МАЗ, УАЗ* і інш.

Як відаць, узаемадзеянне беларускай лексікі з рускай у галіне абрэвіяцыі праяўлялася ў разнастайных формах: у форме запазычвання, калькавання, паўкалькавання. Акрамя таго, абрэвіятурныя словаўтваральныя мадэлі рускай мовы служылі ўзорам для з'яўлення абрэвіятур на ўласна беларускай моўнай аснове, а пры немагчымасці стварэння абрэвіятур—для ўзнікнення намінатыўных словазлучэнняў, напр.: *завхоз — загадчык гаспадаркі, зампред—намеснік старшыні, завмаг—загадчык магазіна, завгар—загадчык гаража* і інш.

4. Базай для ўтварэння абрэвіятур служаць асобныя словы або намінатыўныя словазлучэнні. Скарочаныя назвы не з'яўляюцца абсалютнымі адпаведнікамі поўных назваў: паміж імі ўстанаўліваюцца своеасаблівыя структурныя і семантычныя ўзаемаадносіны, што дае падставу гаварыць аб адноснай незалежнасці абрэвіятур ад поўных найменняў. Характар гэтых узаемаадносін і кладзецца звычайна ў аснову класіфікацыі абрэвіятур.

Па асаблівасцях структурных узаемаадносін з базавымі адзінкамі абрэвіятуры падзяляюцца на тры асноўныя групы: а) абрэвіятуры, якія маюць структурную паралельнасць з базавымі адзінкамі *(мясцком — мясцовы камітэт)*; б) абрэвіятуры, у якіх парушана паслядоўнасць размяшчэння кампанентаў у параўнанні з намінатыўным словазлучэннем *(скураміт — імітацыя скуры)*; в) абрэвіятуры, утвораныя з фрагментаў толькі часткі слоў базавай канструкцыі *(універсам — універсальны магазін самаабслугоўвання)*.

Пры разглядзе абрэвіятур як асобна ўзятых слоў сярод іх можна вылучыць некалькі структурных тыпаў: усечаныя словы, часткова скарочаныя словы, складанаскарочаныя словы, кантрактуры, тэлескапічныя словы, складанаскарочаныя словы змешанага тыпу.

Усечаныя словы складаюць адносна малалікую групу. Яны ўзніклі з пачатковых або канцавых скарочаных частак слова, якія ў выніку паўтаральнасці і ўстойлівасці значэння сталі новымі каранёвымі марфемамі і, набыўшы пэўную сістэму канчаткаў, ужываюцца як самастойныя словы [29], напр.: *пам* (памочнік), *нам* (намеснік), *заг* (загадчык), *спец* (ваенспец з ваенны спецыяліст): *А там праз тыдзень, праз другі У пунях старшыні, усіх памаў, намаў І смертных радавых таксама Духмяна пахнуць мурагі* (Р. Барадулін. Дойны конь); *А ён ідзе па бітаму шляху,— Не справіўся і з прызначэннем гэтым: Паслалі намам у галоўзбытпялюху* (У. Корбан. Шклянка чаю).

У апошні час наглядаецца працэс лексікалізацыі суфікса *-ізм,* што служыць для ўтварэння назваў тэорый, філасофскіх, мастацкіх і іншых плыней, якія гучаць часам вельмі штучна: *Хвалююць жа мяне спектаклі МХАТа Першага і Другога, Малога тэатра і студыі Вахтангава альбо перадзвіжнікі ў Трацsmallцякоўцы. А новае мастацтва, розныя там ізмы?... Уцякаеш ад яго як чорт ад ладану. Яно для цябе цьмяная пляма!* (Ц. Сяргейчык. Нататкі акцёра); *Ільяшэвіч быццам дзесьці блукае па нейкіх модных «ізмах»* (М. Машара. Лукішкі). Прыметамі, якія сведчаць пра лексікалізацыю гэтага элемента, могуць служыць абстрактнасць семантыкі, адцягненасць яе ад канкрэтных назваў тэорый, плыней, а таксама граматычныя катэгорыі роду, ліку і склону, якія ён набывае ў кантэксце.

Калі разглядаць усечаныя словы ў дыяхранічным плане, то сярод іх можна вылучыць яшчэ адну групу. Гэта запазычанні пачатку XX ст. у рускай мове тыпу *аўто, кіло, кіно, метро* і пад., якія ўтварыліся ў заходнееўрапейскіх мовах (французскай, нямецкай) шляхам адсячэння другой часткі адпаведных складаных слоў *аўтамабіль, кілаграм, кінематограф, метрапалітэн.* З рускай мовы гэтыя ўсечаныя словы адразу праніклі ў беларускую і па-

[29] Словообразование современного русского литературного языка. М., 1968. С. 269—271.

чалі ў ёй шырока ўжывацца: *Паўзуць аўто пярэстыя, нібы кароўкі божыя* (П. Панчанка. Тысяча небасхілаў); *На стале ляжала кіло тры хлеба* (К. Чорны. Люба Лук'янская); *Савецкая вуліца — Шлях на Маскву,— Тэатры і клубы, кіно і палацы* (П. Броўка. Мінск). У апошні час працягваюць узнікаць асобныя ўсечаныя словы (параўн.: *паслаць пісьмо авіяпоштай — паслаць пісьмо авія*), аднак у цэлым увесь гэты структурны тып не выяўляе заметнай тэндэнцыі да пашырэння.

Часткова скарочаныя словы — гэта абрэвіятуры, утвораныя з фрагмента першага слова і поўнага другога слова: *авіяатрад, авіябаза, артполк, біястанцыя, ваентэхнік, гарсавет, генштаб, драмгурток, еўрабачанне, земснарад, камсастаў, літфонд, мехкалона, начштаба, партсход, сельсавет, турбаза, фізпадрыхтоўка, хімчыстка.* Калі часткова скарочанае слова ўзнікае на базе не двухчленнага, а мнагачленнага словазлучэння, то скарачацца могуць два і больш першых кампанентаў словазлучэння: *дзяржпрацашчадкаса, галоўбудмехмантаж, райсельгасінспекцыя.* Абрэвіятуры, утвораныя з першага поўнага слова і фрагмента другога — з'ява адносна рэдкая: *акваторыя* (з лац. *aqua*+ [тэры]*торыя*).

У гэтай групе скарачэнняў вычляняюцца тры структурныя разнавіднасці: 1) абрэвіятуры з усечаных частак першых кампанентаў намінатыўнага словазлучэння і апорнага слова ў форме назоўнага склону (*санінструктар, прафтэхвучылішча*); 2) абрэвіятуры з усечанай часткай апорнага слова і залежнага кампанента ў форме роднага склону (*кампалка, начштаба*); 3) абрэвіятуры, словаўтваральная структура якіх не капіруе сінтаксічных адносін паміж кампанентамі зыходнага словазлучэння (*райздраўаддзел — раённы аддзел аховы здароўя*). У першых дзвюх разнавіднасцях структура абрэвіятуры адпавядае структуры словазлучэння, у трэцяй — зменен парадак размяшчэння кампанентаў, апушчана слова *аховы.*

Складанаскарочаныя словы (у адрозненне ад часткова скарочаных) не маюць у сваім саставе поўнага слова і складаюцца з двух ці некалькіх фрагментаў. Складанаскарочаныя словы ўзнікаюць на аснове намінатыўных словазлучэнняў або складаных слоў, утвораных з такіх словазлучэнняў: *райвыканком — раённы выканаўчы камітэт, філфак — філалагічны факультэт, ГЭС — гідраэлектрастанцыя.*

Сярод складанаскарочаных слоў вылучаюцца дзве разнавіднасці — складовыя і ініцыяльныя абрэвіятуры. Складовыя абрэвіятуры — гэта словы, састаўленыя з пачатковых фрагментаў усіх ці толькі асобных кампанентаў зыходнага словазлучэння: *аблвыканком — абласны выканаўчы камітэт, сельмаг — сельскі магазін, універсам — універсальны магазін самаабслугоўвання, гралекс* ('заменнік скуры') — ад імён вынаходнікаў Д. Графава і Аляксеенкі.

Ініцыяльныя абрэвіятуры — словы, утвораныя з пачатковых гукаў або літар усіх ці толькі асобных кампанентаў зыходнага словазлучэння. Гукавыя абрэвіятуры ўзнікаюць тады, калі іх фанетычны склад адпавядае заканамернасцям утварэння звычайных слоў, спалучэння гукаў у склады: *АЭС — атамная электрычная станцыя, БАМ — Байкала-Амурская магістраль, ЛЭП — лінія электраперадач, загс — запіс актаў грамадзянскага стану.* Па літарах чытаюцца абрэвіятуры тады, калі ўзнікаюць спалучэнні гукаў, цяжкія для вымаўлення: *БССР* (бэ-эс-эс-эр), *БДУ* (бэ-дэ-у). Часам ствараюцца ўмовы для спалучэння гукавога і літарнага чытання абрэвіятур: *ДТСААФ* (дэ-тэ-сааф), *ЦСКА* (цэ-эс-ка) і інш.

Кантрактуры (англ. *contraction* — сцяжэнне) — гэта абрэвіятуры, утвораныя шляхам апушчэння асобных унутраных складоў слова і аб'яднання пачатковага і канцавога яго элементаў[30], напр.: *рацыя (ра* [дыёстан] *цыя), тол(т* [рынітраталу] *ол).*

Тэлескапічныя словы — абрэвіятуры, утвораныя шляхам злучэння ў адно цэльнааформленае слова пачатковага элемента аднаго слова і канцавога элемента другога слова: *біёніка (бія* [логія] + [электро] *ніка), касмабачанне (касм* [ічнае] + [тэле] *бачанне), мапед (ма* [тацыкл] + [веласі] *пед), матэль* (англ. *mo* [torists] + [ho] - *tel), паралангіст (пара* [шутыст] + [аква] *лангіст)* і інш.

Складанаскарочаныя словы змешанага тыпу — утвараюцца спалучэннем розных тыпаў абрэвіятур. Сярод іх вылучаецца некалькі разнавіднасцей:

1. Словы, утвораныя з фрагмента і ініцыяльнай абрэвіятуры: *аблана — абласны аддзел народнай асветы; Белдрэс — Беларуская дзяржаўная раённая электрастанцыя; БелСЭ — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя; пед-*

---

[30] Борисов В. В. Аббревиация и акронимия: Военные и научно-технические сокращения в иностранных языках. М., 1972. С. 130.

*ВНУ — педагагічная вышэйшая навучальная ўстанова.*

2. Словы, утвораныя з ініцыяльнай абрэвіятуры і фрагмента: *МАНІТМАШ — Маскоўскае аддзяленне Усесаюзнага навуковага інжынерна-тэхнічнага таварыства машынабудаўнікоў* і пад.

3. Словы, утвораныя з фрагментаў і ініцыяльных элементаў у сярэдзіне: *БелНДІгіпрасельбуд — Беларускі дзяржаўны навукова-даследчы праектны інстытут па сельскаму жыллёва-грамадзянскаму будаўніцтву.*

4. Словы, утвораныя з фрагментаў, ініцыяльных элементаў і поўнага слова: *БелрыбНДІпраект — Беларускі навукова-даследчы інстытут па праектаванню рыбнай гаспадаркі.*

5. Словы, утвораныя з фрагмента і кантрактуры: *ваенкамат — ваенны камісарыят, наркамат — народны камісарыят, паўпрэдства — паўнамоцнае прадстаўніцтва, эсмінец — эскадраны мінаносец.*

6. Словы, утвораныя на аснове двух словазлучэнняў шляхам спалучэння фрагментаў і абрэвіятур ініцыяльных: *Інтэкар — Інстытут тэхнічнай кібернетыкі, аўтаматычны робат.*

Абрэвіятуры (пераважна складанаскарочанага тыпу) могуць станавіцца асновай для ўтварэння новых слоў. З дапамогай суфіксаў і канчаткаў ад іх утвараюцца назоўнікі са значэннем асобы па прыналежнасці да якой-небудзь установы, месца жыхарства або работы (*бамавец, белазавец, калгаснік, камсамолец, мясцкомавец, самбіст, селькоравец, чэкіст*); са значэннем адцягненага ці зборнага паняцця (*камсамолія, паўпрэдства*), а таксама прыметнікі са значэннем прыналежнасці каму-, чаму-небудзь (*абкомаўскі, выканкомаўскі, калгасны, медсанбацкі, сельпоўскі, юнкораўскі* і інш.).

## § 3. АЖЫЎЛЕННЕ СТАРАБЕЛАРУСКІХ СЛОЎ ЯК СРОДАК НАМІНАЦЫІ

У перыяды актыўнага фарміравання нацый і росту нацыянальнай самасвядомасці для ўсіх моў характэрна імкненне ахапіць свае папярэднія гістарычныя набыткі не толькі ўшыркі (сучасная пісьмовая мова, тэрытарыяльныя дыялекты па ўсёй этнічнай тэрыторыі, фальклор), але і ў глыбіню, г. зн. пласты старой лексікі, якія ўжо забыліся або забываюцца. Звяртаючы на гэта ўвагу, І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ гаварыў, што скрыжаванне і

змешванне моў адбываецца не толькі ў парадку геаграфічным і тэрытарыяльным, яно адбываецца таксама і ў парадку храналагічным[31]. Яшчэ раней і больш выразна па гэтаму пытанню выказаў свой погляд Г. Пауль: «Запазычванне з больш ранніх перыядаў развіцця мовы можа адбывацца, вядома, толькі з дапамогай пісьма. Адсюль вынікае, што яно ніяк не можа ўздзейнічаць на гукавы склад мовы-рэцэптара. Гэты від запазычвання, як правіла, адбываецца толькі ў працэсе літаратурнай творчасці і з'яўляецца рэзультатам свядомых намераў. Пры гэтым неабходна ўлічваць наступныя адрозненні. Па-першае, запазычванні могуць рабіцца проста для таго, каб нанава адрадзіць некаторыя — сапраўдныя або ўяўныя — перавагі мовы на больш ранняй ступені яе развіцця. Па-другое, архаічнасць мовы можа служыць для таго, каб лепей ахарактарызаваць мінулую эпоху, у якую аўтар пераносіць свайго чытача. У апошнім выпадку архаічны моўны матэрыял можа запазычвацца намнога шырэй, чым у першым»[32].

Ажыўленне ўстарэлых слоў магчыма ва ўсякай пісьмовай мове на розных этапах яе развіцця. Аднак найбольш актыўна гэты працэс працякае ў мовах, якія мелі перапынак у пісьмовай традыцыі. У перыяд адраджэння пісьмовай мовы і пашырэння яе функцый узнікае асаблівая патрэба ў сродках намінацыі, а значыць, і неабходнасць у адшуканні ўсё новых крыніц папаўнення лексікі. На такіх этапах звычайна і звяртаюцца да моўных багаццяў, выпрацаваных на папярэдніх этапах — да перарыву пісьмовай традыцыі.

Падобнае становішча наглядалася і ў беларускай мове пачатку XX ст., асабліва пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі яна пачала выконваць шырокія функцыі ў новым грамадстве і адчувала вялікую патрэбу ў сродках намінацыі. Пурыстычныя тэндэнцыі, што ўзніклі ў гэты час пад уплывам рэвалюцыйнага руху і росту нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, значна абмежавалі пранікненне ў беларускую мову іншамоўных слоў, але затое ўзмацнілі цікавасць да старабеларускай пісьменнасці як крыніцы ўзбагачэння літаратурнай мовы новымі словамі. Яшчэ да рэвалюцыі пачынаюць гаварыць

[31] Бодуэн де Куртене И. А. О смешанном характере всех языков // Избр. тр. по общему языкознанию. Т. 1. М., 1963. С. 365.
[32] Пауль Г. Принципы истории языка. М., 1960. С. 473.

аб старабеларускай мове як аб «залатым веку» беларускай пісьменнасці, і гэта ідэя ва ўмовах бяспраўнага становішча беларускага народа ў царскай Расіі атрымала шырокі водгук. Ужо ў нашаніўскі перыяд праяўляецца глыбокая зацікаўленасць да старабеларускай пісьменнасці, робяцца спробы выкарыстоўваць яе слоўныя багацці. Гэты працэс актывізуецца яшчэ больш у першыя гады Савецкай улады.

Думка аб неабходнасці звярнуцца да старабеларускай пісьменнасці як крыніцы ўзбагачэння лексікі сучаснай літаратурнай мовы выказваецца самымі аўтарытэтнымі дзеячамі таго часу і лінгвістамі ў прыватнасці. Прафесар М. В. Доўнар-Запольскі, напрыклад, звяртаецца да работнікаў культурнага будаўніцтва з такімі словамі: «Я ўпрашаў бы землякоў не баяцца старасвецкай праўнай тэрміналогіі. Уся яна злажылася ў нас у 16-м веку; ёю нашы продкі карысталіся аж да 18-га веку і часткова нават да 1830-га г., і нашы бацькі мянуюць імі падчас расейскія царскія ўстановы. Не трэба думаць, што гэта тэрміналогія польскага права — будзем аднаўляць наш праўны язык з Літоўскага статута, каторы ўжываўся як закон да 1830 г. А тэрміналогія Статута ўтварылася ў часы нашай дзяржаўнай незалежнасці» [33]. Акадэмік У. І. Пічэта, улічваючы моўную сітуацыю першых гадоў Савецкай улады, патрэбы ў тэрмінатворчасці, пісаў: «Літоўская метрыка, беларуская ў сваёй аснове, утрымлівае ў сабе вялікі, зусім не вывучаны матэрыял для гісторыі беларускай мовы, у прыватнасці для юрыдычнай і адміністратыўнай тэрміналогіі, якая ў сваёй новай канструкцыі павінна непрыменна адпраўляцца ад старой традыцыі» [34].

Гэты наказ укладальнікі беларускай тэрміналогіі выконвалі на практыцы. Так, Мікола Гуткоўскі, які распрацоўваў юрыдычную тэрміналогію, указваў на дзве асноўныя яе крыніцы — беларускія народныя гаворкі і багацейшыя крыніцы старажытнага беларускага права: Акты Літоўскай метрыкі, Літоўскі статут, Акты Заходняй Расіі. Агаварыўшыся, што народныя гаворкі не заўсёды дакладна абазначаюць тыя ці іншыя юрыдычныя паняцці, ён асаблівую ўвагу звяртае на другую крыні-

[33] Вольная Беларусь. 1918. № 19. С. 146—147.

[34] Пичета В. И. Белорусский язык как фактор национально-культурный. Мн., 1924. С. 15.

цу — Акты Беларуска-Літоўскай дзяржавы: «Гэтыя крыніцы могуць даць надзвычайна важныя і каштоўныя матэрыялы для праўнай тэрміналогіі. Калі мы разгледзім толькі «Указатель» да I тома Літоўскай метрыкі, то можна без памылкі сказаць, што 25% змешчаных там слоў жывуць і да гэтага часу ў народзе. Напр.: *барышнік, бярэменная жонка, будованье, вжиток, волокита, вчынок, вызволенье, вырок, вязень, ганьба, господа, грабеж, давность, дар, держава, довод, долг, драпежства, жалаба, ісцец* і г. д.

Таксама значная колькасць праўных тэрмінаў Літоўскага статута не страціла свайго значэння і да сёння. Напр.:

*персона, абыватель, обычай, справедливость, збіранье, складанье, справа, устав, кривда, выпіс, міло-сердье;*

*ліст, мандат, пазычаць, опека, тэстамент, торг, давность;*

*ображенье, здрада, везенье, змова, учынок, вырок, згвалтаванье, шкода;*

*паньство, станы, вряд, повет, оселость, чюжинец, тубылец;*

*оборона, цягненье* і г. д.» [35]

Частка гэтых слоў, такіх, як *барышнік, валакіта, ганьба, жалаба, крыўда, пазычаць, вязенне, даўнасць, шкода* і інш. магла быць данесена да нашага часу жывой народнай мовай. Але другая частка слоў больш кніжнага характару, відаць, магла быць узята ў новыя тэрміналогіі непасрэдна са старабеларускай пісьменнасці.

Прыкладам слоў, узятых непасрэдна са старабеларускай пісьменнасці, можа служыць тэрмін *урад*. Утвораны ад ст.-руск. *радити*, ён у розных арфаграфічных варыянтах (*урадъ, врадъ, урядъ*) шырока ўжываўся ў беларускіх пісьмовых помніках XVI—XVII стст. са значэннем 'мясцовае кіраўніцтва', 'суд': *а урадъ вшелякий так за станьемъ, яко и за нестаньемъ моимъ воленъ и моцонъ будетъ* (АВК, XX, с. 203, 1607). У ранніх тэкстах новай беларускай пісьменнасці гэта слова не адзначаецца. Для абазначэння галоўнага выканаўчага і распарадчага органа дзяржаўнай улады спачатку выкарыс-

---

[35] Гуткоўскі М. Беларуская праўная тэрміналогія // Працы БДУ. Мн., 1927. № 14—15. С. 84—85.

тоўвалася, як і ў рускай мове, толькі слова *правіцельства*: *Трэба толькі мужыкам дабівацца, каб правіцельства памагло ім* (Наша доля. 1906. № 2).

Першы раз у гісторыі новай пісьменнасці слова *урад* ужыта не ў самастойным, назыўным значэнні, а ў якасці дублета-паяснення да слова *правіцельства*: *Выплату доўгу прыняло на сябе правіцельства (урад)* (Наша ніва. 1909. № 37). Падобнае афармленне ў дарэвалюцыйным друку выкарыстоўвалася тады, калі аўтар хацеў увесці ва ўжытак новы тэрмін, а навізна і незразумеласць слова для шырокага чытача не дазвалялі адразу ўжываць яго ў намінатыўнай функцыі.

З гэтага часу назоўнік *урад* пачаў выцясняць слова *правіцельства* і займаць першае месца ў сінанімічным радзе: ...*арендатары зрабілі таварыство, дазволенае ўрадам (правіцельствам)* (Наша ніва. 1910. № 12. С. 168); *Кітайскі ўрад (правіцельство) хацяі скасаваў уласць тамтэйшых ханоў, але кінуў старыя адміністрацыйныя парадкі* (Наша ніва. 1912. № 2). У апошнія гады перад рэвалюцыяй і ў першыя паслярэвалюцыйныя гады назоўнікі *урад* і *правіцельства* суіснавалі як сінонімы, і выбар для ўжывання аднаго з іх поўнасцю залежаў ад густу і арыентацыі аўтара: *польскае правіцельства*, але *грэцкі урад* (Савецкая Беларусь. 11.XI 1922). Паступова частотнасць ужывання слова *урад* павялічвалася, і Навукова-тэрміналагічная камісія замацавала яго ў якасці нормы, а сінонім *правіцельства* к канцу 20-х гадоў канчаткова выходзіць з ужытку.

Прыкладам той групы лексікі старой беларускай пісьменнасці, пры ажыўленні якой ролю «каталізатара» адыгрывала руская мова, можа служыць, як здаецца, слова *дзяржава*. У беларускіх пісьмовых помніках XV—XVII стст. яно ўжывалася ў некалькіх значэннях: а) 'знак каралеўскай або царскай улады': *Скипетръ; Держава или лѣска царская, або берло, або палцатъ кролевский* (Бяр., с. 310); б) 'маёнтак, уладанне': *А кроль побралъ войтовские державы* (ХП, с. 11); в) 'краіна, дзяржава': *ишолъ воевати... царя дария державу* (Алекс., с. 15—15б, 1697); г) 'улада над кім-небудзь, кіраванне кім-небудзь': *мѣста и села князства его одошли до державы кролевства полского* (Дыяр., с. 149б).

Прыкладна такія ж значэнні мела слова *держава* і ў старажытнарускай мове (гл. «Материалы...» І. І. Сраз-

неўскага), аднак там паралельна існавала ўжо і слова *государство*, якога старая беларуская пісьменнасць амаль не ведала. К пачатку XX ст. значэнне гэтых слоў у рускай мове дыферэнцыравалася: назоўнік *дзяржава*, звузіўшы сваю семантыку, пачаў ужывацца пераважна ў мове афіцыяльных дакументаў са значэннем 'незалежная краіна, якая вядзе самастойную палітыку', а нейтральнае слова *государство* — 'палітычная арганізацыя грамадства на чале з урадам і яго органамі, з дапамогай якіх пануючы клас ажыццяўляе сваю ўладу, забяспечвае ахову існуючага парадку і падаўленне класавых праціўнікаў, а таксама краіна з такой арганізацыяй'.

У беларускім друку XIX — пачатку XX ст. ужывалася толькі слова *гасударства*: *Государ разослаў клич по ўсему государству* (П. Шэйн. Материалы. 1893. Т. 2. С. 52); [Народ] *трэбуе помачы ад гасударства* (Наша ніва. 1906. № 4); *Расея і Англія зрабілі меж сабой умову і абецаліся не дапусціць парушэння цэласці пэрсіцкага гасударства* (Наша ніва. 1908. № 3). Толькі пазней на старонках «Нашай нівы» і іншых выданняў пачало з'яўляцца слова *дзяржава* і вытворныя ад яго: *Ужо цяпер стаяць пад аружжам усе дзержавы Еўропы* (Наша ніва. 1914. № 29); *Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай* (Дзянніца. 1918. № 39); *Пралетарская дзяржава не хоча ўтайваць, што ёй патрэбны грошы* (Савецкая Беларусь. 6.X 1922). Ужо к сярэдзіне 20-х гадоў слова *дзяржава* становіцца больш ужывальным і замацоўваецца тэрміналагічнымі слоўнікамі ў якасці літаратурнай нормы, а слова *гасударства* выходзіць з ужытку.

Сказаць, што слова *дзяржава* было непасрэдна запазычана з рускай мовы ў пачатку XX ст., нельга, таму што ў новай беларускай пісьменнасці яно адразу пачало ўжывацца ў больш шырокім значэнні, чым у рускай мове, дакладней кажучы, увабрала ў сябе значэнні рускіх слоў *держава* і *государство*. Роля рускай мовы ў ажыўленні гэтага слова беларускай мовай магла праявіцца, відаць, у тым, што наяўнасць у рускай мове слова *держава* магла выклікаць у адраджэнцаў асацыяцыі з асноўнымі значэннямі гэтага слова ў старабеларускай пісьменнасці ('краіна, дзяржава'; 'улада над кім-небудзь, кіраванне кім-небудзь') і гэтым самым даць ім падставу выкарыстаць яго ў новых умовах з некалькі зменелай семантыкай для абазначэння новага паняцця.

Пасрэднікам пры ажыўленні некаторых старабеларускіх слоў магла быць і польская мова. У якасці прыклада тут можна ўзяць слова *статут*. Як слова інтэрнацыянальнае яно шырока ўжывалася ў старабеларускай мове ў значэнні 'закон, урадавая пастанова' і, як сведчыць картатэка Гістарычнага слоўніка, націск мела на апошнім складзе: *ѹставъ, Веленіе, преданіе, вѣра: ...статѹтъ* (Бяр., с. 182) і інш.

У пачатку XX ст. са значэннем 'збор правіл і палажэнняў якой-небудзь арганізацыі' пачынаюць ужывацца два словы — руск. *устав* і польск. *устава*: *Дастаць больш ведамасцей аб таварыстве, яго уставе... можна ў самой суполцы «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ» ў Пецярбургу* (Наша ніва. 1907. № 34); *Нармальная устава гэтак кажэ аб мэтах сельскагаспадарскіх хаўрусаў...* (Беларускі каляндар. 1914. С. 78). Прыблізна з 1912 г. у друкаваных тэкстах пачынае з'яўляцца і слова *статут*: *Паводлуг статута, гэты даход дзеліцца між членамі* (Беларускі каляндар. 1912. С. 69); *Гэтымі днямі выйдзе статут Ленінскага Камсамолу і статут Ленінскіх дзіцячых камуністычных груп* (Савецкая Беларусь. 30.IX 1924). Ужываючыся ў значэннях, адпаведных руск. *устав* і *статут* і польск. *ustawa* і *statut*, яно скора пацясніла сваіх папярэднікаў і к канцу 20-х гадоў заняло дамінуючае становішча. Скораму замацаванню слова *статут* у якасці нормы садзейнічала, можна думаць, нехарактэрнасць для жывой беларускай мовы слоў *устаў* і *устава* і разуменне дзеячамі адраджэння слова *статут* як даўняга беларускага, вядомага не толькі па трох рэдакцыях Літоўскага статута, але зафіксаванага, хоць і з інакшым значэннем, у народнай мове (гл. Слоўнік І. І. Насовіча). Роля польскай мовы ў асваенні гэтага слова заключалася, відаць, толькі ў тым, што пад яе ўплывам націск у слове *стáтут* быў замацаван на перадапошнім складзе.

Сярод іншых слоў, што маглі быць запазычаны са старабеларускай пісьменнасці прама або пры пасрэдніцтве рускай, польскай і ўкраінскай моў, можна назваць такія, як *аксаміт, акруга, астрог, акт, балонка, бавоўна, вакацыі, валока, ветразь, воцат, вязень, гарнітур, дукат, дыямент, дойлід, мытня, мосенж, найміт, павет, падлоўчы, плён, скарб, стан, тубылец, управа, цукар, цырата, чынш* і інш. Праўда, некаторыя з гэтых слоў (напр. *балонка, мыта, мытніца, мосенж, павет*) праз нядоўгі час зноў выйшлі з ужытку і былі заменены адпа-

ведна словамі *старонка, пошліна, таможня, латунь, раён.*

Ажыўляцца могуць не толькі тыя словы, што выйшлі з ужытку ў выніку працяглага перарыву пісьмовай традыцыі, але і лексіка, якая ўстарэла і адышла ў пасіўны запас у працэсе бесперапыннага функцыяніравання пісьмовай мовы. Выпадкі хуткага старэння і раптоўнага ажыўлення слоў найбольш часта наглядаюцца ў перыяды рэзкіх сацыяльных перамен у жыцці грамадства, калі ідзе пераацэнка матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей папярэдніх эпох. Так, пасля Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якая стварыла новы грамадскі лад, многія словы беларускай мовы, што абазначалі з'явы і паняцці старога ўкладу жыцця, выйшлі з актыўнага ўжытку і зрабіліся гістарызмамі. Аднак некаторыя з іх праз пэўны час ажылі і зноў вярнуліся ў клас агульнаўжывальных, некалькі абнавіўшых сваю семантыку. Гэты працэс адбываўся пад уплывам рускай мовы, якая раней за іншыя мовы адлюстроўвала ў сваім слоўнікавым саставе тыя зрухі, што адбываліся ў жыцці грамадства.

Перад Вялікай Айчыннай вайной, напрыклад, у сувязі з увядзеннем у Чырвонай Арміі новых воінскіх званяў спачатку ў рускай, а потым у беларускай і іншых мовах з пасіўнага запасу былі вернуты ў агульнаўжывальны фонд словы *адмірал, генерал, палкоўнік, маёр, капітан, лейтэнант, сяржант, яфрэйтар,* у час вайны — *гвардыя, салдат, пагон, апалчэнне*[36], а з 1 студзеня 1972 г. і словы *прапаршчык, мічман.*

Цікавай у гэтых адносінах з'яўляецца гісторыя слова *афіцэр.* У дарэвалюцыйны час у семантыку гэтага слова ўключалася не толькі паняцце воінскага або марскога чына, але і паняцце дваранскай годнасці, чым падкрэслівалася прывілеяванае становішча афіцэрскай касты. З ліквідацыяй пасля рэвалюцыі саслоўных прывілеяў, у тым ліку і афіцэрскіх, слова *афіцэр* было заменена словам *камандзір* і выйшла з актыўнага ўжытку.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны гэта слова пачынае ўжывацца для называння асобай групы камандзіраў, створанай спецыяльна для падтрымання сувязі паміж Генштабам Чырвонай Арміі і войскамі на фрон-

---

[36] Кожин А. Н. Возрождение устаревшей лексики // РЯШ. 1957. № 3. С. 37.

це: «Стаўка назвала гэту групу корпусам афіцэраў Генеральнага штаба. За ўсю гісторыю Чырвонай Арміі слова «афіцэр» было прыменена тут упершыню. Тым самым як бы падкрэсліваўся спецыфічны характар работы і падначаленасці: у той час як усе іншыя службовыя асобы кадравага саставу нашых Узброеных Сіл называліся або камандзірамі або начальнікамі, людзі, якія прадстаўлялі ў войсках Генштаб, называліся афіцэрамі Генеральнага штаба»[37]. З 1943 г. афіцэрамі пачынаюць называцца ўсе камандзіры Савецкай Арміі, якія мелі воінскае званне ад малодшага лейтэнанта да палкоўніка, і слова *афіцэр* зноў становіцца жывым фактам сучаснага стану мовы.

Прыведзеныя матэрыялы дазваляюць зрабіць некаторыя вывады адносна тых унутрымоўных працэсаў, якімі суправаджаецца ажыўленне старабеларускіх слоў і слоў пасіўнага запасу ў сучаснай мове. Пры пераходзе архаізмаў і гістарызмаў у склад слоў «дзеючых» адбываецца, па-першае, пераасэнсаванне ранейшых значэнняў, страта старых і развіццё новых адценняў, змяненне эмацыянальнай афарбаванасці слова і інш. Такі працэс, напрыклад, меў месца пры ажыўленні слова *дзяржава,* якое ўжываецца цяпер у тэрміналагічным значэнні, не адэкватным ні аднаму з ранейшых значэнняў, а таксама і слова *урад,* якое пачало абазначаць галоўны выканаўчы орган краіны, а не орган мясцовага кіравання і суд, як раней.

Змяненне семантыкі пры ажыўленні слова абумоўлівае, па-другое, змяненне яго славаўтваральных магчымасцей, што праяўляецца ў змяншэнні або павелічэнні колькасці дэрыватаў. Назоўнік *урад,* напрыклад, мае цяпер толькі адно вытворнае слова *урадавы,* у старабеларускай жа пісьменнасці іх было некалькі: *урадити, урадовник, урадовный;* зніклі такія ўтварэнні ад слова *афіцэр,* як *афіцар'ё, афіцэршчына, афіцэрыць.*

Парушаюцца, па-трэцяе, існаваўшыя раней лексіка-граматычныя сувязі ажыўленага слова, развіваюцца яго новыя спалучальныя магчымасці. Такія старыя спалучэнні назоўніка *дзяржава,* як, напрыклад, *воевати державу, окупити державу, держава царствия его,* не былі засвоены сучаснай мовай, але затое ў ёй з'явіліся новыя

[37] Штеменко С. М. Генеральный штаб в годы войны. М., 1968. С. 138.

спалучэнні, якіх не ведала старабеларуская пісьменнасць: *дзяржава рабочых і сялян, суверэнная дзяржава, сацыялістычныя дзяржавы* і інш.; слова *гвардыя* пасля ажыўлення паслужыла асновай для ўтварэння новых словазлучэнняў тыпу *працоўная гвардыя, гвардзейская часць, гвардыі маёр, гвардзейскі значок* і інш.

## § 4. ЗАПАЗЫЧАННІ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ САВЕЦКАГА ЧАСУ

### *Разнавіднасці іншамоўнай лексікі*

У спрадвечным працэсе кантактавання беларускай мовы з іншымі мовамі савецкі перыяд займае асобнае месца. У гэты час, выступаючы ў новай функцыі, беларуская літаратурная мова настолькі папоўнілася іншамоўнымі словамі, што змагла на іх аснове развіць такія новыя для сябе функцыянальныя стылі, як навуковы, публіцыстычны, афіцыяльна-дзелавы, вядучай прыметай якіх з'яўляецца тэрміналагічнасць і інтэрнацыянальнасць лексікі.

Па ступені адаптаванасці і ролі ў мове-рэцэптары сярод слоў іншамоўнага паходжання вылучаюцца тры разнавіднасці: запазычаныя словы, іншамоўныя ўкрапванні і экзатычная лексіка. Да з а п а з ы ч а н ы х адносяцца словы іншамоўнага паходжання, якія ў выніку семантычнага і фанетыка-марфалагічнага асваення зрабіліся лексічнымі адзінкамі беларускай мовы. Асноўная прымета запазычанага слова — яго функцыянальная значымасць, якая заключаецца ў тым, што слова абазначае прадметы і паняцці, не маючы адэкватнага абазначэння ў самой беларускай мове, або з'яўляецца семантычным ці стылістычным сінонімам да адпаведнага беларускага слова. Што ж датычыцца ступені фанетыка-марфалагічнай і акцэнтуацыйнай асвоенасці, то яна знаходзіцца ў прамой залежнасці ад семантычнай асвоенасці і функцыянальнай актыўнасці запазычання. Слова *кемпінг*, напрыклад, запазычанае ў сярэдзіне 60-х гадоў са значэннем 'спецыяльна абсталяваны лагер для аўтатурыстаў', працяглы час ужывалася ў двух фанетыка-арфаграфічных варыянтах: *кемпінг, кэмпінг* і толькі к канцу 80-х гадоў замацавалася ў адзінай фанетыка-арфаграфічнай форме *кемпінг*.

Сярод запазычанняў вылучаецца пласт інтэрнацыя-

нальнай лексікі — слоў, якія паходзяць з адной першакрыніцы і ўжываюцца ў многіх роднасных і няроднасных мовах з аднолькавым або блізкім значэннем. Гэта пераважна тэрміны з вобласці навукі і тэхнікі *(арыфметыка, геаметрыя, логіка, космас, тэлескоп)*, грамадска-палітычнага жыцця *(адміністрацыя, дыктатура, канстытуцыя, рэвалюцыя)*, эканомікі *(банк, імпарт, крэдыт, працэнт)*, літаратуры і мастацтва *(анапест, амфібрахій, драма, навела, опера)* і інш.

Іншамоўныя ўкрапванні — гэта словы і выразы з якой-небудзь мовы, ужытыя білінгвальнай асобай у нязменнай або транслітарыраванай форме з пэўнай стылістычнай мэтай. Сярод іх не толькі ўстойлівыя інтэрнацыянальныя элементы з класічных моў тыпу *de facto* ('фактычна'), *post scriptum* ('пасля напісанага'), якія надаюць выказванню характар афіцыяльнасці, але і сродкі для характарыстыкі моўнай сітуацыі, індывідуалізацыі мовы персанажаў і аўтара: *Усё мінулася — і боль, і гора,— Усё кудысь далёка адышло; Але срогі надпіс: «Disce mori»* ('вучыся паміраць'.— *А. Б.*) *Нагадвае, што з табой было* (М. Багдановіч. Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла); *У ход пускаліся нагайкі і шампалы. «Двадзесце пеньць!» — крычалі азвярэлыя капралы* (Я. Колас. Дрыгва); *Па дарозе ў порт група сенегальцаў сустрэла мяне прывітаннем: «Па, асалям алейхум!» Я ахвотна адказаў: «Алейхум асалям!»* (В. Вольскі. Афрыканскае падарожжа).

У залежнасці ад моўнай сітуацыі, ступені валодання чужой і роднай мовай, яе літаратурнымі нормамі колькасць іншамоўных украпванняў у розных асоб бывае большай або меншай і часам дасягае такой ступені, што набывае характар змешвання дзвюх моў. Паказальная ў гэтых адносінах была лексіка першай беларускай савецкай газеты «Дзянніца». Мова з вялікай колькасцю ўкрапванняў звычайна лічыцца паказчыкам нізкай агульнай і моўнай культуры яе носьбітаў і асуджаецца грамадскасцю. Таму яна не набывае масавага праяўлення.

Як незасвоеныя мовай-рэцэптарам, іншамоўныя ўкрапванні не фіксуюцца слоўнікамі агульнага карыстання. Найбольш устойлівыя з іх часам змяшчаюцца ў дадатках да слоўнікаў іншамоўных слоў або каменцірующца ў спецыяльных слоўніках іншамоўных слоў і выразаў. Толькі асобныя, шырока асвоеныя ўкрапванні

трапляюць у тлумачальныя і іншыя слоўнікі агульнага карыстання (гл., напр., назоўнік *нотабена*, які з'яўляецца назвай ініцыяльнай абрэвіятуры ЛВ, або NB, узнікшай на аснове лацінскага спалучэння *nota bene* 'пазнач добра').

Асобнае месца сярод іншамоўных слоў займае **экзатычная лексіка**, або **экзатызмы**. Гэта словы, што называюць прадметы, з'явы, паняцці, характэрныя для жыцця і быту іншых народаў і не ўласцівыя для нашай рэчаіснасці. Экзатызмамі ў беларускай мове з'яўляюцца такія, напрыклад, словы як *абвер, бундэстаг, баўэр, вермахт, рэйх, пфеніг, фрау, фюрэр, шпэк* — звязаныя з жыццём Германіі; *дэндзі, лорд, лэдзі, мілорд, мілэдзі, сэр, спікер, шылінг* — з жыццём Англіі; *айран, арык, аул, кішміш, курултай, чайхана* — з жыццём і бытам цюркскіх народаў і г. д.

У тэматычных адносінах экзатычная лексіка вельмі разнастайная. Сярод экзатызмаў вылучаюцца групы слоў, што абазначаюць назвы: страў і напіткаў (*бешбармак, мамалыга, чабурэк, чача, цынандалі*), адзення і абутку (*бекеша, бешмет, паранджа, тарбасы, унты*), жылля і населеных пунктаў (*аул, кішлак, сакля, юрта, яранга*), песень, танцаў і музычных інструментаў (*бугівугі, дойна, зурна, кантэле, тамтам*), грашовых адзінак, мер плошчы, вагі і пад. (*акр, бушаль, долар, іена, крона, леў, песа, юань*), асоб, пасад, званняў (*аксакал, бай, далай-лама, клерк, матадор, мэр, шэрыф*), устаноў, арганізацый, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак (*аймак, бундэсрат, меджліс, рыкстаг, сейм, сторцінг, улус*) і інш.

З прычыны сітуацыйнасці ўжывання экзатызмы, падобна іншамоўным украпванням, таксама застаюцца «іншародным целам», незамкнутай групай слоў, не звязаных з новай лексічнай сістэмай. Будучы неаднароднай ў тэматычных, этымалагічных і семантычных адносінах, экзатычная лексіка застаецца неаднастайнай і па сваёй «экзатычнасці», па ступені асіміляванасці мовай-рэцэптарам. У залежнасці ад характару мовы-крыніцы (маламвядомая яна ці блізкароднасная), ад частаты ўжывання і некаторых іншых прычын характар экзатызмаў можа відазмяняцца і па ступені адаптаванасці яны могуць набліжацца да слоў запазычаных. Многія словы з моў народаў Савецкага Саюза (*аджыка, айва, акын, аул, джыгіт, казінакі, кішлак, курага, нерпа, плоў, чабурэкі, чад-*

*ра* і пад.) вядомы ў Беларусі не толькі білінгвальным асобам; яны засвойваюцца спачатку ў працэсе навучання ў школах і ВНУ, а пасля ў працэсе культурных і дзелавых узаемаадносін з прадстаўнікамі адпаведных народаў. Такім чынам адны з падобных экзатызмаў паступова пераходзяць у разрад запазычанняў, другія прыбліжаюцца да запазычаных слоў. Такія экзатызмы ўключаюцца ў слоўнікі і павінны даследавацца ў адным патоку з іншымі запазычанымі словамі.

Як відаць, у класіфікацыі слоў іншамоўнага паходжання выяўляецца, па сутнасці, толькі двухчленнае проціпастаўленне: запазычанае слова — іншамоўнае, бо, сапраўды, неалагізм іншамоўнага паходжання ў канчатковым выніку можа быць або прынятым, асвоеным, запазычаным, або адвергнутым мовай-рэцэптарам.

### *Прычыны запазычвання іншамоўнай лексікі*

Працэс запазычвання іншамоўных слоў і яго вынікі ў кожным выпадку абумоўліваюцца рознымі прычынамі і таму змяняюцца не толькі ад мовы да мовы, але і на розных этапах развіцця адной і той жа мовы. У высокаразвітых літаратурных мовах з даўнімі пісьмовымі традыцыямі працэс запазычвання іншамоўных слоў працякае больш павольна і раўнамерна, чым у маладых літаратурных мовах, якія толькі пачынаюць фарміравацца. Гэты тэзіс пацвярджаецца і гісторыяй развіцця новай беларускай літаратурнай мовы.

Нягледзячы на складанасць моўнай сітуацыі і пурыстычныя тэндэнцыі, што выразна праяўляліся ў 20—30-я і пазнейшыя гады ў рэспубліцы, слоўнік беларускай літаратурнай мовы папоўніўся вялікай колькасцю запазычанай лексікі як бытавога, так і тэрміналагічнага характару. Садзейнічалі гэтаму многія ўнутрымоўныя і сацыяльныя фактары, якія на розных этапах змяняліся, падпарадкуючыся фактарам больш агульнага характару.

Адным з асноўных унутрымоўных стымулаў быў недахоп кніжнай (агульнанавуковай і спецыяльнай, тэрміналагічнай) лексікі — як вынікаднабаковага яе развіцця ў папярэднія перыяды. На працягу XIX і першых двух дзесяцігоддзяў XX ст. беларуская літаратурная мова, будучы афіцыяльна забароненай, фарміравалася на аснове жывых народных гаворак і змагла развіць ва

ўсіх жанрах толькі стыль мастацкай літаратуры і часткова публіцыстычны. Што ж датычыцца спецыяльных, тэрміналагічных падсістэм, то адных з іх зусім не было, другія (напрыклад, грамадска-палітычная, сельскагаспадарчая, граматычная) былі на стадыі зараджэння, уяўляючы сабой нешматлікі набор слоў-тэрмінаў, розных па паходжанню, стракатых па афармленню, якія не ўтваралі якой-небудзь сістэмы.

Справа ж культурнага і дзяржаўнага будаўніцтва ў першыя гады Савецкай улады на Беларусі настойліва патрабавала ад літаратурнай мовы развіцця новых для яе функцыянальных стыляў, у прыватнасці навуковага, публіцыстычнага, афіцыяльна-дзелавога, без якіх яна не магла выконваць функцыю мовы дзяржаўнай. І гэты «сацыяльны заказ» быў выканан у асноўным своечасова і тэрмінова. На працягу 1921—1930 гг. галіновымі тэрміналагічнымі секцыямі Інбелкульта была падрыхтавана і апублікавана серыя выпускаў беларускай навуковай тэрміналогіі па важнейшых галінах навукі і культуры.

Нягледзячы на тое, што пры выпрацоўцы гэтай тэрміналогіі асноўная ўвага была накіравана на выкарыстанне лексічных і словаўтваральных багаццяў роднай мовы, укладальнікі не маглі абысціся і без слоў іншамоўнага паходжання. Гэта не толькі таму, што для абазначэння многіх паняццяў навукі, тэхнікі, культуры, афіцыяльных і грамадска-палітычных адносін у беларускай мове не было адпаведных лексічных сродкаў, але і таму, што аўтары праектаў галіновых тэрміналогій уважліва адносіліся да вопыту выпрацоўкі тэрміналагічных сістэм у іншых мовах, дзе іншамоўныя і інтэрнацыянальная лексіка мае вялікую ўдзельную вагу, і скарыстоўвалі гэты вопыт у сваёй рабоце.

Другім унутрымоўным фактарам, які выклікаў шырокае пранікненне пасля рэвалюцыі іншамоўнай лексікі ў беларускую мову, была недастатковая ўпарадкаванасць яе словаўтваральнай сістэмы, адносная беднасць спосабаў і сродкаў утварэння слоў-тэрмінаў. У адрозненне ад рускай літаратурнай мовы, якая, бесперапынна развіваючыся, сінтэзавала лексіка-граматычныя багацці ўсіх велікарускіх дыялектных зон, старaславянскай, іншых славянскіх і неславянскіх моў і сфарміравала на гэтай аснове багатую і разгалінаваную словаўтваральную сістэму, новая беларуская літаратурная мова (з

прычыны асаблівых умоў фарміравання) не змагла ў дарэвалюцыйны час развіць дастатковай колькасці словаўтваральных сродкаў для ўзбагачэння тэрміналагічнай лексікай. Таму ў новых умовах, калі ўзнікла патрэба ў паскораным развіцці лексічнага саставу, «прапускная здольнасць» беларускай словаўтваральнай сістэмы аказалася недастаткова высокай, а сама яна недастаткова «вопытнай», каб справіцца з новымі складанымі задачамі. Вядома, што спробы ствараць навукова-тэхнічныя тэрміны па структурна-семантычных мадэлях, складзеных «на хаду» і не замацаваных папярэдняй моўнай практыкай народа, не мелі поспеху. Многія штучныя ўтварэнні 20-х гадоў (тыпу *веслакрыл — пінгвін, лупняк — сланец*) былі адкінуты моўнай практыкай і заменены словамі інтэрнацыянальнага паходжання. Гэтым і тлумачыцца той факт, што ў савецкі час, калі функцыі беларускай літаратурнай мовы небывала расшырыліся, у яе шырокім патокам пачалі ўлівацца лексічныя, а разам з тым і словаўтваральныя сродкі з іншых моў, пераважна — з рускай [38].

Асноўным сацыяльным фактарам, які спрыяў шырокаму пранікненню іншамоўнай лексікі ў беларускую літаратурную мову, было змяненне ў савецкі час характару эканамічных, палітычных і культурных узаемасувязей беларускага народа з суседнімі народамі, што прывяло да змянення характару моўных кантактаў — аслаблення іх у адных месцах і ўзмацнення ў другіх. Грамадзянская вайна значна змяніла палітычную карту былой царскай Расіі.

Калі, згодна з Рыжскім мірным дагаворам 1921 г., заходнія беларускія і ўкраінскія землі адышлі пад уладу панскай Польшчы, непасрэдныя кантакты з латышскай, літоўскай і польскай мовамі на працяглы час перапыніліся з прычыны ўскладнення дзяржаўных адносін з гэтымі краінамі, што сталі на капіталістычны шлях развіцця і прынялі ўдзел у эканамічнай і палітычнай блакадзе маладой савецкай рэспублікі. Калі перарыў кантактаў з літоўскай і латышскай мовамі застаўся малазаметным, то адмежаванне беларускай мовы ад польскай мела ў далейшым значныя вынікі. Хоць на працягу

---

[38] Булахов М. Г. Особенности интерференции белорусского и русского языков // Проблемы двуязычия и многоязычия. М., 1972. С. 220.

20-х гадоў лексічныя і іншыя сродкі польскай мовы яшчэ шырока выкарыстоўваюцца беларуска-польскімі білінгвамі, аднак гэта ўжо не запазычванне новага, а скарыстанне таго, што з'явілася ў беларускай мове ў працэсе папярэдніх узаемасувязей. У ходзе стабілізацыі норм беларускай літаратурнай мовы многія з тых паланізмаў, што не паспелі асіміляваццa, былі заменены сродкамі роднай мовы і паступова выйшлі з ужытку.

Па меры аслаблення ўплыву польскай мовы яшчэ больш умацоўваліся сувязі беларускай мовы з рускай. Са змяненнем пасля рэвалюцыі знешніх абставін змянілася і сама прырода ўзаемадзеяння гэтых моў. Генетычная роднасць і структурная блізкасць рускай і беларускай моў з'явіліся асновай для развіцця беларуска-рускага двухмоўя. Сацыяльна абмежаванае, аднабаковае і пераважна пасіўнае ў дарэвалюцыйны перыяд беларуска-рускае двухмоўе зрабілася масавым, актыўным і ў аснове сваёй нарматыўным у савецкі час, калі былі створаны ўмовы для развіцця беларускай духоўнай культуры і авалодання шырокімі масамі рэспублікі рускай мовай як сродкам міжнацыянальных зносін. Гэта масавасць і актыўны характар беларуска-рускага двухмоўя і з'яўляліся адным з тых стымулаў, што садзейнічалі шырокаму пранікненню іншамоўнага лексічнага элемента ў беларускую літаратурную мову.

### *Шляхі пранікнення і спосабы ўвядзення іншамоўных слоў у беларускую мову*

Лёс іншамоўнага слова ў новай мове залежыць ад многіх прычын, у прыватнасці ад таго, па якому каналу яно пранікае да носьбітаў другой мовы. Заўважана, напрыклад, што ва ўмовах масавай пісьменнасці насельніцтва і разнастайнасці сродкаў перадачы інфармацыі з пісьмовых тэкстаў іншамоўнае слова ўваходзіць у новую моўную сістэму значна скарэй, чым з гутарковай мовы білінгвальных асоб.

У савецкі час вядучым у рэспубліцы зрабілася беларуска-рускае двухмоўе, а руская мова як сродак міжнародных і міжнацыянальных зносін — асноўнай крыніцай узбагачэння лексічнага саставу беларускай мовы.

Важнейшым каналам, па якім у савецкі час іншамоўная лексіка ўваходзіла ў беларускую мову, была масавая пісьмовая літаратура, прадстаўленая газетна-публі-

цыстычным, вучэбным, навукова-папулярным і мастацкім жанрамі, а таксама перакладнымі тэкстамі.

Над усімі гэтымі відамі пісьменнасці пераважалі газетна-публіцыстычныя тэксты. Ролю асноўнага «пасрэдніка» ў перадачы іншамоўных слоў у беларускую мову газетна-часопісная публіцыстыка адыгрывала дзякуючы не толькі сваёй масавасці, але і з прычыны надзённасці зместу, даступнасці выкладу і тэматычнай разнастайнасці матэрыялу. Актыўную ролю ў перадачы іншамоўнай лексікі на пачатковым этапе культурнага будаўніцтва адыгрывала таксама вучэбная і навукова-папулярная літаратура. Будучы пераважна перакладной, яна садзейнічала засваенню шырокімі народнымі масамі, якія цягнуліся да навукі і асветы, новых іншамоўных слоў і тэрмінаў.

Правадніком многіх новых слоў, асабліва са сферы грамадска-культурнага жыцця, была жанрава развітая арыгінальная мастацкая літаратура, асабліва драматычныя творы, якія пачынаючы з 20-х гадоў шырока ставіліся на сцэне спачатку самадзейнымі, а пазней і прафесіянальнымі калектывамі.

Высокая насычанасць іншамоўнай лексікай уласціва звычайна перакладной літаратуры. З сярэдзіны 20-х гадоў рэзка павялічваецца, у параўнанні з дарэвалюцыйным часам, колькасць перакладаў з моў розных народаў, павышаюцца іх тыражы і якасць. Так, у 1931 г. у Беларусі ўжо было выдадзена 124 пераклады твораў іншамоўных аўтараў, амаль столькі, колькі і арыгінальных беларускіх твораў (іх выйшла 126) [39]. На першым месцы стаялі пераклады рускіх пісьменнікаў, затым ішлі ўкраінскія, польскія, чэшскія, венгерскія, англійскія, італьянскія. Пачалі паяўляцца пераклады з моў народаў СССР — башкірскай, грузінскай, дагестанскіх, казахскай, латышскай і інш.

У выніку перакладной дзейнасці, якая не спыняецца і цяпер, беларуская літаратурная мова ўзбагаціла свой слоўнікавы састаў не толькі колькасна, але ўдасканаліла сваю навуковую і грамадска-палітычную тэрміналогію, актывізавала свае ўнутраныя сродкі.

Сярод усёй перакладной літаратуры ў працэсе «перадачы» іншамоўнай лексікі беларускай мове асобнае месца займалі перакладныя слоўнікі. За перыяд з 1921

[39] Гл.: Кніга — масам. Мн., 1932. № 4—5. С. 25.

па 1930 г. Інстытутам беларускай культуры была выдадзена серыя тэрміналагічных руска-беларускіх слоўнікаў. У працэсе выпрацоўкі навуковых тэрміналогій укладальнікі свядома адбіралі неабходную колькасць рускіх тэрмінаў па кожнай галіне ведаў і перакладалі іх на беларускую мову або пакідалі ў выхадной частцы іншамоўнае слова, толькі транслітарыруючы яго. Уключаныя ў слоўнікі навуковай тэрміналогіі, такія іншамоўныя словы станавіліся абавязковымі для ўвядзення ў школьныя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, дзе яны атрымлівалі спецыяльныя азначэнні-тлумачэнні. Засвоеныя ў сваіх дакладных значэннях шырокім колам навучэнцаў, яны адносна скора станавіліся здабыткам беларускай мовы.

Запазычванне з рускай мовы ў беларускую шляхам прамога пераносу лексікі з рэестра рускага слоўніка ў беларускі не было адзінкавым фактам. Магчымасці такога запазычвання выкарыстоўваліся пры стварэнні ўсіх руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў. Рэестры рускіх слоўнікаў застаюцца і цяпер адной з крыніц папаўнення беларускай лексікі іншамоўнымі словамі.

На пачатковым этапе культурна-моўнага будаўніцтва, калі ў якасці асноўнай мэты ставілася ліквідацыя непісьменнасці, павышэнне адукацыйнага і культурнага ўзроўню шырокіх народных мас, узнікала неабходнасць у шырокім выкарыстанні іншамоўнай лексікі там, дзе родная мова не магла забяспечыць патрэбы камунікацыі ўласнымі сродкамі. З другога боку, насычэнне вучэбных і культурна-асветных тэкстаў мноствам чужых слоў у такіх умовах таіла пагрозу зрабіць гэтыя тэксты незразумелымі для беларусаў, якія валодалі толькі роднай мовай.

Каб пазбегнуць гэтага, у працэсе моўнага будаўніцтва выпрацоўваліся розныя спосабы ўвядзення і асваення іншамоўных слоў, што абазначалі з'явы і паняцці, невядомыя раней беларускаму народу. У тых выпадках, калі агульны змест тэксту не дазваляў зразумець сэнс неалагізма, ствараўся дадатковы спецыяльны кантэкст для раскрыцця семантыкі іншамоўнага слова.

Сярод розных прыёмаў увядзення ў беларускую мову іншамоўных слоў часцей за ўсё выкарыстоўваліся наступныя:

1. П р ы ё м а п і с а н н я. Сутнасць яго заключалася ў тым, што сэнс слова, якое ўпершыню ўводзілася ў мо-

ву і абазначала новы прадмет (з'яву, паняцце), раскрываўся шляхам разгорнутага (энцыклапедычнага) апісання самой рэаліі — яе формы, будовы, прызначэння і інш. Гэтыя апісанні часам былі настолькі шырокія, што складалі цэлы абзац ці нават асобны артыкул. У такім сэнсава закончаным тэксце звычайна вычляняюцца дзве часткі. У загалоўку, які можа мець форму пытання, звяртаецца ўвага на прадмет (паняцце), аб якім будзе ісці гаворка, а потым раскрываецца яго сутнасць шляхам апісання. Вось некалькі прыкладаў:

**Коопэрацыя** (*загаловак артыкула ў часопісе*). *Коопэрацыя — значыць па нашаму праца разам, агулам, супольная падмога пры рабоце* (Беларускі каляндар на 1922 год. С. 57); **Піонэры** (*загаловак*). *Піонэры — гэта зьмена комсамолу. Большасць піонэраў — вучні нашых школ. У большасці нашых школ маюцца піонэрскія фарпосты. Піонэр — лепшы грамадчык...* (З. Вінаградаў і М. Сеўрук. Наша комуна. Лемантар для калгаснікаў і сельгасрабочых. М., 1930. С. 43). Падобным чынам уводзіліся ў мову і ўсе іншыя віды новых слоў, у тым ліку і калькі, напр.: **Якія есць колгасы?** (*загаловак*). *Трэба ўсім ведаць, што колгас — гэта добраахвотнае сельскагаспадарчае кооперацыйнае аб'яднанне. Кожны селянін можа ўступіць у колгас толькі па сваім жаданні. Паміж колгасам і соўгасам ёсць розніца. Соўгас — гэта дзяржаўнае сельскагаспадарчае прадпрыемства з нанятымі рабочымі. Колгас — коопэрацыйнае аб'яднанне* (Там жа. С. 94).

Гэты прыём шырока выкарыстоўваўся ў перыядычным друку і вучэбнай літаратуры на пачатковым этапе культурнай рэвалюцыі ва ўмовах непісьменнасці і малапісьменнасці. Хоць па меры развіцця асветы і культуры з пачатку 30-х гадоў ён паступова пачынае абмяжоўвацца, аднак па меры неабходнасці выкарыстоўваецца і цяпер.

2. Прыём тлумачэння. Найбольш пашыранай формай гэтага прыёму з'яўляецца падача ўслед за іншамоўным словам ці складаным тэрмінам тлумачэння яго сэнсу цэлым выразам або наборам удакладняльных слоў, якія браліся звычайна ў дужкі. Рэдакцыі некаторых перыядычных выданняў практыкавалі яшчэ пастаноўку працяжніка перад першай дужкай або пасля яе: *Як закладаць кааператыў (— спажывецкае таварыства.)* (Саха. 1927. Кн. 10. С. 12); *Патроху і з асьцярожкай зробленае — даўжэй дзяржыцца. Вось дзеля гэтага закон эвалюцыі — (гэта значыць ступянёвага развіцця) лягчэй*

*ным*ся *закон рэвалюцыі — (раптоўнай зьмены)* (Беларускі каляндар на 1922 год. С. 61); *Думаецца, што з гэтай самай прычыны і кармавыя кораньплоды (буракі, рэпа і інш.) не заваявалі яшчэ сабе пачэснага месца ў нашых сучасных сялян* (Саха. 1927. Кн. 1. С. 8).

Тлумачэнні гэтыя часам былі недакладныя, прыблізныя, аднак у параўнанні з прыёмам апісання спосаб тлумачэння можна лічыць крокам наперад у асваенні іншамоўных слоў, паколькі для іх разумення ў канкрэтным кантэксце бывае дастаткова і самых мінімальных дадатковых звестак. Галоўная ж перавага яго ў тым, што тлумачэнні, зробленыя як бы мімаходам, не перапыняюць ходу апавядання, а значыць, і не ўскладняюць успрынящя тэксту. Відаць, гэта і забяспечыла прыёму тлумачэння шырокую ўжывальнасць і доўгую гісторыю, якая працягваецца і цяпер.

3. П р ы ё м с і н а н і м і і. У адрозненне ад двух папярэдніх гэты прыём заснаваны на суаднясенні моўных адзінак аднаго і таго ж узроўню: слова ўдакладняецца, тлумачыцца словам, г. зн. у адным адрэзку тэксту побач змяшчаюцца два сінонімы — слова іншамоўнае і слова беларускае. Такая суаднесенасць дае магчымасць раскрыць характар узаемадзеяння беларускай лексікі з іншамоўнай у працэсе яе запазычвання і асваення.

У практыцы адзначаюцца два найбольш тыповыя спосабы выкарыстання гэтага прыёму: а) беларускае слова раскрывае сэнс іншамоўнага слова; б) іншамоўнае слова раскрывае сэнс слова беларускага. Кожны з гэтых спосабаў можа вар'іравацца ў залежнасці ад характару суаднесенасці іншамоўнага слова з беларускім і выкарыстання дадатковых сродкаў пры афармленні сінаніміі.

П е р ш ы с п о с а б мог прымяняцца як да слоў, што ўводзіліся ў беларускую мову першы раз, так і да слоў, якія ўжо сустракаліся ў літаратурных тэкстах, але яшчэ не зрабіліся блізкімі і зразумелымі для шырокіх слаёў насельніцтва. Падобна разгорнутым тлумачэнням беларускія сінонімы ў даным выпадку служаць для раскрыцця сэнсу іншамоўных слоў як носьбітаў больш дакладнага, тэрмініраванага паняцця: *Па загаду Народнага Камісарыяту Сацыяльнай Апекі лес будзе адпускацца... дэмабілізаваным чырвонаармейцам, інвалідам (калекам) і бяднейшаму сялянскаму жыхарству* (Савецкая Беларусь. 27.X 1922); *Каолін* (белаглін) — *гэта чыстая гліна белага колеру* (Наш край. 1925. № 2. С. 35).

Адзначаны выпадкі, калі іншамоўнае слова тлумачыцца не ўласна беларускім сінонімам, а запазычаным словам, якое ўжо зрабілася для ўсіх зразумелым, прыгодным для таго, каб паясніць сэнс незразумелага іншамоўнага слова: *У шведскім парлямэнце (думе) 24 студзеня адбываліся гарачыя спрэчкі наконт васьмігадзіннага рабочага дня* (Савецкая Беларусь. 2.II 1921). Пра асвоенасць слова *дума* можа сведчыць, напрыклад, частае ўжыванне яго яшчэ ў дарэвалюцыйнай літаратуры: *Зашумелі аб зямлі ў Думе дэпутаты, Ды па карку ім далі — І пайшлі дахаты* (Я. Колас. Канстытуцыя).

Другі спосаб выкарыстання прыёму сінаніміі, хоць і звязан непасрэдна з папярэднім, з'яўляецца адначасова і яго процілегласцю. Прыём тлумачэння іншамоўнага слова беларускім быў пароджан неабходнасцю запазычвання іншамоўнай лексікі і скарэйшага яе асваення роднай мовай. Тлумачэнне ж беларускага слова іншамоўным выклікана да жыцця процілеглай тэндэнцыяй — імкненнем увесці ў літаратурную мову пабольш сваіх, народных слоў і надаць ім канкрэтнае, тэрміналагічнае значэнне. Узнікненне такой тэндэнцыі — з'ява заканамерная. На пачатковым этапе фарміравання нацыянальнай літаратурнай мовы, які характарызуецца шырокім пранікненнем у яе іншамоўных слоў, «фарміруюцца адначасова і сілы супраціўлення ім, узбуджаецца семантычная і словаўтваральная актыўнасць спрадвечнага саставу мовы. З'яўленне іншамоўнай намінатыўнай адзінкі на любым участку семантычнай прасторы служыць, як правіла, імпульсам, што выклікае контрнамінацыю сіламі роднай мовы» [40]. Тыповай ілюстрацыяй да гэтага палажэння можа служыць і беларуская літаратурная мова пачатку 20-х гадоў XX ст. Асноўныя напрамкі яе развіцця ў той час вызначаліся не толькі сацыяльнымі патрэбамі грамадства, але і перакананнямі асобных дзеячаў беларускага адраджэння, якія ў адносінах да запазычвання тэрмінаў з іншых моў прытрымліваліся думкі, што лепей браць сваё, чым запазычваць іншамоўнае. Для рэалізацыі гэтай ідэі ў той час падстаў і магчымасцей было дастаткова.

Уводзячы новы беларускі тэрмін, аўтар, як правіла, стараўся змяшчаць побач у дужках і іншамоўнае, звы-

[40] Биржакова Е. Э., Войнова Л. А., Кутина Л. Л. Очерки по исторической лексикологии русского языка XVIII века: Языковые контакты и заимствования. Л., 1972. С. 5.

чайна рускае слова, каб удакладніць, у якім тэрміналагічным значэнні ўжыта слова беларускае. Для ўдакладнення звычайна падбіраліся словы, якія да гэтага ўжо выкарыстоўваліся ў беларускай мове і былі зразумелымі для народных мас: *Зямля, якую мы абрабляем пад засеў збожжа, ёсць зьместам (рэзервуарам) жывых істот (мікробаў), якія насяляюць яе мірыядамі і якія патрабуюць для свайго існавання спрыяючых варункаў* (Саха. 1927. Кн. 1. С. 2); *Бурштын («янтарь») лічыцца напалову каштоўным каменем* (Наш край. 1925. № 2. С. 35—36); *У рэзультаце ажыццяўлення бальшавіцкіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва... зьнішчаны беспрацоўе і галеча (паўперызм)* (Звязда. 1.I 1933).

Відавочна, што асноўнае прызначэнне гэтага спосабу — канкрэтызаваць сэнс беларускіх слоў, тэрмініраваць іх значэнне. Чытачу як бы напаміналася, што беларускае слова мае тое ж значэнне, што і іншамоўнае, змешчанае побач у дужках або ў зносцы.

Калі ж узнікала неабходнасць асабліва падкрэсліць тэрміналагічны характар беларускага слова, то іншамоўнае слова звычайна ўводзілася з дапамогай слоў і зваротаў, якія паказвалі на сферу бытавання або паходжання апошняга: *Сухоты, альбо, як дактары кажуць, туберкулёз, з'яўляюцца вельмі пашыранаю і вельмі страшнаю хваробаю* (Савецкая Беларусь. 25.XI 1922). Сустракаецца спалучэнне адначасова некалькіх прыёмаў тлумачэння беларускага слова (прыёму сінаніміі з указаннем крыніцы іншамоўнага слова-сіноніма, прыёму апісання і прыёму тлумачэння ў форме зноскі): *Дзераза. (Па-маскоўску плаун, па-лацінску Lycopodium). Гэта — зялёная і ўлетку і ўзімку расьціна, якая сьцелецца па моху ў густым яловым, бярозавым ці сасновым лесе.* Тлумачэнне ў зносцы: *На ўсходзе Беларусі завуць «Дзяруга»* (Беларускі каляндар на 1922 год. С. 53).

Такім чынам, на працягу 20—30-х гадоў, калі ўзбагачэнне лексічнага саставу літаратурнай мовы адбывалася асабліва інтэнсіўна, шырока выкарыстоўваліся розныя спосабы ўвядзення новых слоў — апісанне, тлумачэнне, сінанімія. Вядомыя дзеячам культурнага і моўнага будаўніцтва яшчэ па дарэвалюцыйнаму перыяду, усе гэтыя прыёмы былі ўдасканалены і знайшлі сапраўды шырокае прымяненне ў новых гістарычных умовах. Палягчэнне і паскарэнне працэсу асваення новых слоў — асноўны сэнс выкарыстання гэтых прыёмаў.

## *Асваенне іншамоўных слоў*

Уступныя заўвагі. Пры лексічным запазычванні адбываецца не механічны пераход слова з адной мовы ў другую, а, па сутнасці, узнікненне новага слова на аснове чужога матэрыялу ў выніку фанетычнай, марфалагічнай і семантычнай адаптацыі яго мовай-рэцэптарам. Запазычанае слова, па-першае, на пісьме перадаецца сродкамі беларускай графікі (параўн.: руск. *щелочь* — бел. *шчолач,* польск. *zamek* — бел. *замак,* ням. *Druse* — бел. *друза*); па-другое, афармляецца адпаведна з фанетычнымі заканамернасцямі беларускай мовы (руск. *декабрист* — бел. *дзекабрыст*; перададзена «дзеканне» і зацвярдзеласць «р»); па-трэцяе, падпарадкуецца правілам беларускай марфалогіі, г. зн. набывае прыметы той ці іншай часціны мовы і асаблівасці яе змянення; напрыклад, ням. *das Dach* (наз. ніякага роду) у бел. мове па аналогіі з іншымі назоўнікамі другога скланення мужчынскага роду тыпу *мох, мех, луг* набыў форму мужчынскага роду. Пры запазычванні адбываюцца значныя змены ў семантыцы слова (пра гэта гл. ніжэй).

Разам з тым, выпадкі поўнай асіміляцыі іншамоўнага слова — не такая ўжо і частая з'ява; як правіла, асваенне гэта бывае няпоўным, частковым. Цяжкасці ўзнікаюць на розных узроўнях: пры асваенні новых гукаў і іх спалучэнняў, новых граматычных катэгорый і семантычнай структуры слоў. Заўважана, што ступень асвоенасці іншамоўных слоў паніжаецца па меры аддалення ад старажытнасці і прыбліжэння да нашага часу. Робяцца спробы даць тлумачэнне гэтай з'яве. Прытрымліваючыся шлейхераўскага падзелу чужых слоў на запазычаныя *(Lehnwörter)* і іншамоўныя *(Fremdwörter)*, славенскі лінгвіст Ф. Міклашыч тлумачыць прычыны ўтварэння гэтых дзвюх катэгорый іншамоўных слоў наступным чынам: у гісторыі кожнай мовы можна ўмоўна вылучыць два перыяды: 1) пакуль сувязі паміж народамі і іх мовамі яшчэ нязначныя, мова-рэцэптар адчувальна ўспрымае чужыя словы і актыўна асімілюе іх па сваіх законах; 2) калі сувязі становяцца цяснейшымі і чужыя словы прыходзяць у вялікай колькасці, мова траціць да іх адчувальнасць, становіцца больш цярпі-

май, і запазычаны матэрыял захоўвае ў большай або меншай ступені чужую форму [41].

Сапраўды, запазычанні, зробленыя на ранніх этапах развіцця беларускай мовы (лац. *акт, боб, доктар, віно, бульба;* герм. *кнот, пуд, хлеў, шнур;* літ. *гірса, груца, пуня, свіран;* цюрк. *армяк, бязмен, гарбуз, торба* і інш.), да цяперашняга часу поўнасцю асвоены і ўспрымаюцца як уласна беларускія словы. Запазычанні адносна нядаўняга часу тыпу *відэатэлефон, візаві, індыга,* наадварот, захоўваюць фанетыка-марфалагічныя асаблівасці, не ўласцівыя беларускай мове: спалучэнне галосных *-эа-,* перадача зычных *д, т* у цвёрдым вымаўленні, нескланяльнасць назоўнікаў *візаві, індыга.*

У аснову тлумачэння ступені адаптаванасці іншамоўнага матэрыялу ў апошні час кладзецца наяўнасць або адсутнасць білінгвізму, а таксама яго тып у грамадстве, якое карыстаецца мовай-рэцэптарам. Пры характарыстыцы маўленчай дзейнасці ў псіхафізіялагічным плане адзначаецца рэзкае адрозненне ў характары адаптацыі іншамоўнай лексікі білінгвамі і маналінгвамі. У маналінгва ўздзеянне сістэмы роднай мовы на іншамоўнае слова з'яўляецца непазбежным, абавязковым; у білінгва ж працэс адаптацыі можа то ажыццяўляцца, то не ажыццяўляцца, то ахопліваць, то не ахопліваць пэўныя ўзроўні мовы. «Формы адаптацыі іншамоўнай лексемы пры моналінгвізме,— гаворыць Я. М. Верашчагін,— лёгка прадказваюцца. Калі дадзены апісанні дзвюх моўных сістэм, то заўсёды можна на аснове толькі лінгвістычных крытэрыяў прадказаць, якой мадыфікацыі падвергнецца лексема адной мовы пры ўжыванні моналінгвістычным носьбітам другой мовы. Аднак такое прадказанне становіцца немагчымым, калі размова ідзе пра білінгва, г. зн. мы не ў стане наперад сказаць, у якой ступені ён адаптуе іншамоўную лексему: падвергне яе граматычнаму ўпадабленню або не, субстытуіруе ўсе іншамоўныя фанемы ці не ... Адаптацыя можа быць поўнай (у гэтым выпадку білінгв вядзе сябе падобна маналінгву). Адаптацыі зусім можа не быць (у гэтым выпадку гавораць аб «мене мовы (кода)», або аб «слове-цытаце»). Аднак у большасці назіранняў аказ-

---

[41] Miklosich F. Über Fremdwörter // Archiv für Slavische Philologie. 1988. B. XI.

ваецца, што адаптацыя іншамоўнай лексікі бывае частковай»[42].

Правільнасць думкі, што пры моналінгвізме адаптацыя іншамоўнага матэрыялу з'яўляецца абавязковай і прадказальнай, пацвярджаецца назіраннямі над дыялектнай мовай аднамоўных асоб (параўн.: «слухаў радзіва», «глядзеў цілівізар», «былі ў кіне», «усе адзеты ў польтах», «хадзілі ў ціятар», «палучыў сціпендзію» — у народна-дыялектнай беларускай мове і адпаведныя формы ў літаратурнай мове: «слухаў радыё», «глядзеў тэлевізар», «былі ў кіно», «усе адзеты ў паліто», «хадзілі ў тэатр», «палучыў стыпендыю»).

Уплыў жа білінгвізму на ступень адаптацыі іншамоўнага матэрыялу аказваецца значна большым, чым гэта можа здавацца на першы погляд. «Роля двухмоўных асоб у грамадстве не толькі ў тым, што яны — перадатчыкі і праваднікі на лініі Sachen — Wörter (падразумяваючы пад Sachen і рэчы і паняцці), але і ў тым, што іх уласныя асобыя моўныя паводзіны, якія склаліся ў той або іншай меры пад знакам моўнай інтэрферэнцыі, з'яўляюцца пры пэўных умовах узорам пераймання і распаўсюджвання ў аднамоўным асяроддзі. Інакш кажучы, элементы «чужога» трапляюць у маўленне аднамоўных асоб не толькі ў сувязі з тым, што прыйшлі новыя рэчы і новыя паняцці з іх назвамі, але і таму, што ў практыцы пэўных двухмоўных груп (пісьмовай або вуснай) маюць месца іншамоўныя падмены, а гэта моўная практыка па тых ці іншых прычынах уплывовая (мова педагогаў, прапаведнікаў, кіраўнікоў вытворчых або іншых калектываў — майстры, афіцэры і г. д.). Муказіянальнае, магчымае першапачаткова ў двухмоўным асяроддзі, паступова становіцца узусам шырокіх слаёў аднамоўнага грамадства, рысай нацыянальнай мовы»[43]. Ва ўмовах іменна такога групавога двухмоўя ўплыў іншай мовы на дадзеную нацыянальную можа быць вельмі значным.

Тут, аднак, трэба мець на ўвазе яшчэ і фактар процілеглага дзеяння: у перыяды фарміравання нацыянальных літаратурных моў і росту нацыянальнай самасвядомасці ўзнікае тэндэнцыя да процідзеяння шырокаму на-

[42] Верещагин Е. М. Психолингвистическая проблематика теории языковых контактов // ВЯ. 1967. № 6. С. 128.

[43] Биржакова Е. Э., Войнова Л. А., Кутина Л. Л. Очерки по исторической лексикологии русского языка XVIII века. С. 7.

плыву іншамоўнага матэрыялу ў родную мову ці, па крайняй меры, імкненне аформіць яго па законах роднай мовы. Дзейнасць гэтых процілеглых тэндэнцый лёгка прасочваецца на працэсе фанетыка-марфалагічнага афармлення запазычанняў у беларускай літаратурнай мове савецкага часу.

Фанетыка-марфалагічнае асваенне. Асноўныя выпадкі гэтага складанага працэсу ўжо апісаны ў працах І. М. Акулава, В. П. Краснея, А. А. Станкевіч, П. Я. Юргілевіча і інш. Тут разгледзім толькі адну граматычную з'яву.

З масавым пранікненнем іншамоўных слоў з неблізкароднасных моў і няпоўным іх марфалагічным асваеннем ва ўсіх усходнеславянскіх нацыянальных літаратурных мовах звязана станаўленне катэгорыі нязменных назоўнікаў (тыпу *арго, бюро, дэпо, магнета, плато* і пад.). Застаючыся марфалагічна нязменнымі, запазычаныя назоўнікі з асновай на галосны разам з тым могуць рэалізаваць у сказе функцыі асобных склонаў, роду, ліку.

Склонавыя значэнні гэтых назоўнікаў вызначаюцца іх аналітыка-сінтаксічнымі асаблівасцямі, іх спалучальнасцю з іншымі словамі ў сказе: *быў у кіно* (месн. скл.), *глядзеў кіно* (він. скл.). Выражэнне катэгорыі роду запазычаных назоўнікаў з нязменным граматычным саставам таксама адбываецца толькі пры дапамозе сінтаксічных сродкаў: прыналежнасць гэтых слоў да пэўнага роду вызначаецца формамі дапасавання прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў і інш.: *вясёлы канферансье, гэта табло, увайшла лэдзі*. Значэнне ліку ў запазычаных нязменных словах атрымлівае вызначэнне ў атрыбутыўных і прэдыкатыўных спалучэннях пры дапамозе афіксаў паясняльных слоў: *аўтамабільнае ралі — аўтамабільныя ралі, усё купэ — усе купэ* і г. д.

Як відаць, запазычаныя нязменныя назоўнікі, хоць і не маюць разгалінаванай сістэмы граматычных форм, усё ж звязаны з пэўнымі ўласцівымі класу назоўнікаў граматычнымі катэгорыямі і ўваходзяць у марфалагічную сістэму сучаснай беларускай літаратурнай мовы [44]. Гэта катэгорыя слоў можа служыць узорам частковага фанетыка-марфалагічнага асваення іншамоўнай лексікі.

---

[44] Семешко Л. И. Нарицательные неизменяемые имена существительные в современном белорусском литературном языке: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1975. С. 16—20.

**Семантычнае асваенне іншамоўных слоў** — гэта таксама больш-менш працяглы працэс уваходжання іх у лексіка-семантычную сістэму мовы-рэцэптара, устанаўленне сэнсавых і стылістычных сувязей з лексічнымі элементамі прымаючай мовы.

**У эвалюцыі запазычаных слоў** вылучаецца звычайна тры фазы: «пранікненне» — пачатковая стадыя агульнага працэсу запазычвання, якая характарызуецца няўстойлівасцю ў напісанні, вымаўленні, марфалагічным і акцэнтуацыйным афармленні; «запазычванне» — этап змянення семантыкі пад уплывам сістэмы значэнняў прымаючый мовы і этап «укаранення», калі змены адбываюцца ўжо па ўнутраных заканамернасцях мовы-рэцэптара [45].

Па асаблівасцях уваходжання ў лексіка-семантычную сістэму беларускай мовы сярод запазычанняў савецкага часу можна вылучыць дзве разнавіднасці: 1) словы, якія прыйшлі ў беларускую мову разам з новымі паняццямі або рэаліямі і не мелі сабе ў ёй адпаведнікаў; 2) словы, якія мелі ў беларускай мове частковыя ці поўныя адпаведнікі.

**1.** Сярод слоў першай групы вылучаюцца дзве катэгорыі: тэрміны, звязаныя з пэўнымі паняццямі, і словы, што адносяцца да прадметнай наменклатуры. Да шматлікай групы запазычаных тэрмінаў адносяцца назвы навук, іх аддзелаў і раздзелаў (*алгебра, арыфметыка, анатомія, біялогія, галаграфія, геалогія, крышталаграфія, лінгвістыка, мінералогія, педагогіка, псіхалогія, фізіка, хімія*), назвы вучэнняў і навуковых плыней (*марксізм, ленінізм, дарвінізм, ідэалізм, рэалізм, класіцызм*), назвы абстрактных і канкрэтных паняццяў з розных галін навукі (*ідэалогія, клас, катэгорыя, цывілізацыя*) і інш.

Самы шырокі прыток навуковых тэрмінаў у беларускую мову адбыўся ў 20-я гады, у перыяд актыўнага фарміравання функцыянальных стыляў літаратурнай мовы і яе тэрміналагічных сістэм. Уведзеныя ў беларускія публіцыстычныя ці іншыя тэксты спосабам тлумачэння або проста перанесеныя з рускай мовы ў слоўнікі навуковай тэрміналогіі, такія словы-тэрміны станавіліся

[45] Аристова В. И. К теории эволюции лексических заимствований // Материалы всесоюзн. конф. по общему языкознанию «Основные проблемы эволюции языка». Ч. 1. Самарканд. 1966. С. 210—213.

абавязковымі для ўключэння ў школьныя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, дзе ім ужо і даваліся спецыяльныя, навуковыя азначэнні-тлумачэнні. Засвоеныя ў сваіх дакладных значэннях шырокімі коламі навучэнцаў, у лік якіх у гэты час уваходзіла пераважная большасць насельніцтва, яны адносна хутка станавіліся прыналежнасцю беларускай мовы. Засваенню зместу навуковых паняццяў шырокімі масамі садзейнічала ўся культурна-асветная работа, якая шырока праводзілася ў краіне на працягу першых дзесяцігоддзяў. Гэты працэс працягваецца і ў наш час.

Своеасабліва адбываецца засваенне іншамоўных слоў, што адносяцца да прадметнай наменклатуры. Перш знаёмства з семантыкай іншамоўнага слова носьбіты мовы атрымліваюць у апісанні ці тлумачэнні, з дапамогай якіх яно ўводзіцца ў новую мову, а потым глыбей засвойваюць у працэсе бытавога азнаямлення з самой рэаліяй.

Семантыка іншамоўных слоў, што абазначаюць прадметы і рэчы паўсядзённага выкарыстання — адзенне, прадукты харчавання і пад. (напр.: *аспірын, бalонняя,* *бігудзі, бра, джаз, калготкі, таршэр, шэрбет*), лёгка засвойваецца пры першым жа знаёмстве з адпаведнай рэаліяй, асабліва калі яна з'яўляецца прадуктам масавай вытворчасці.

Словы, што прыйшлі ў беларускую мову разам з запазычанымі паняццямі і рэаліямі, былі дакладна засвоены ў тых значэннях, якія мелі гэтыя словы ў рускай мове. Аднак гэтыя словы адрозніваюцца аб'ёмам семантыкі ад адпаведных слоў мовы-крыніцы, з якой іх запазычвала руская мова. Так, слова *ад'ютант*, згодна з «Немецко-русским и русско-немецким словарем «ложных друзей переводчика» (М., 1972), укладзеным К. Г. Готлібам, у нямецкай мове мае тры значэнні: «1. начальник штаба (подразделения); 2. ротный фельдфебель; 3. офицер, состоящий при военном начальнике.» У рускай і беларускай мове гэта слова замацавалася толькі ў апошнім значэнні.

Няма аднастайнасці ў асваенні семантыкі запазычаных слоў уласна рускага паходжання. Безэквівалентныя рускія словы, што абазначаюць прадметы і з'явы традыцыйнага рускага побыту, кніжныя словы, саветызмы, гістарызмы, спецыяльныя тэрміны засвойваюцца, як правіла, ва ўсім аб'ёме сваіх значэнняў. З поўным заха-

ваннем сваёй семантыкі, асаблівасцей спалучальнасці, стылістычнай адназначнасці прыйшлі ў беларускую мову такія, напрыклад, словы, як *акцябронак, бальшавік, савет; ваявода, вотчына, дзекабрыст, стралец; акрошка, матрошка, мачалка, расольнік; бумажнік, майка, трусы, футболка, фуфайка; азнаменаваць, вяшчаць, здравіца, саратнік, славеснасць* і многія іншыя.

Уласна рускія словы, што развілі ў сабе спецыяльныя значэнні, засвойваюцца беларускай мовай, як правіла, толькі ў гэтых новых значэннях, традыцыйныя ж бытавыя паняцці абазначаюцца адпаведнымі беларускімі словамі. Напрыклад, полісемічнае рускае слова *путь* запазычана беларускай мовай толькі ў адным тэрміналагічным значэнні 'чыгуначная каляя, лінія': *Уздыхнуў паравоз парай і без гудкоў, без свісткоў выбраўся на галоўны пуць* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). Усе іншыя значэнні гэтага рускага слова перадаюцца беларускімі адпаведнікамі *шлях, дарога, спосаб, толк.* З двух значэнняў рускага слова *башмак* (1. від абутку, 2. тэхнічны тэрмін) беларускай мовай запазычана толькі апошняе, тэрміналагічнае — 'прыстасаванне, якое кладзецца на рэйку для тармажэння чыгуначных вагонаў': *Там вагоны чакае башмачнік: ён спрытным рухам кладзе на рэйку тармазны башмак, і вагоны спыняюцца* (Я. Васілёнак. Вячэрняя размова). Часткова асвоенымі застаюцца рускія словы *ветка, винт, пленка, лоток* і інш.

2. Лёс іншамоўных слоў, якія мелі ў беларускай мове частковыя ці поўныя сінанімічныя адпаведнікі, залежаў ад становішча гэтых адпаведнікаў у лексіка-семантычнай сістэме беларускай мовы. Ліквідацыя лексічнай дублетнасці адбываецца шляхам семантычнай і стылістычнай дыферэнцыяцыі кампанентаў сінанімічнага рада, узнікнення дамінанты, аслаблення пазіцыі другіх членаў і інш. Пры гэтым магчымы два крайнія выпадкі: з аднаго боку, працяглае суіснаванне дублетных форм і пар або цэлых радоў без заметнай семантычнай або стылістычнай дыферэнцыяцыі; з другога — распадзенне сінанімічнага рада ў выніку архаізацыі і выпадзення з мовы аднаго ці некалькіх членаў рада.

У залежнасці ад паходжання і колькаснага складу кампанентаў у беларускай мове савецкага часу вылучаюцца тры асноўныя разнавіднасці сінанімічных радоў:

— з беларускіх і запазычаных слоў *(лаўка — магазін, пярэднік — фартух, расада — флянсы);*

— са слоў запазычаных (*алмаз — дыямент, мацярык — кантынент, бегемот — гіпапатам*);

— з аднаго ці некалькіх беларускіх і аднаго ці некалькіх іншамоўных слоў (*крывадушнік — ханжа — фарысей, выкат — прарэз — дэкальтэ*).

У сінанімічных радах з беларускага і іншамоўнага слова абсалютных сінонімаў адзначаецца адносна нямнога. Гэта такія пары, як *байніца — амбразура, конніца — кавалерыя, мовазнаўства — лінгвістыка, кітаязнавец — сінолаг, злучок — дэфіс, наготкі — календула, правапіс — арфаграфія, канчатак — флексія, самалюбец — эгаіст* і некаторыя іншыя. Часцей жа пры тоеснасці семантыкі кампанентаў выяўляюцца пэўныя адрозненні:

а) у стылістычнай характарыстыцы: *тлумачыць — інтэрпрэтаваць* 'раскрываць сэнс чаго-небудзь, растлумачваць што-небудзь'. У параўнанні са стылістычна нейтральным словам *тлумачыць* запазычанае *інтэрпрэтаваць* мае ярка выражаны кніжны характар. Аналагічныя адносіны наглядаюцца і ў парах *даўжнік — дэбітор, знімаць — фатаграфаваць, пазыка — крэдыт, прадчуванне — інтуіцыя, сумны — мінорны* і пад.;

б) у лексічнай спалучальнасці: *пустата — вакуум* 'разрэджаны стан паветра або газу ў якім-небудзь прыборы або пасудзіне' (спец.): *тарычэлева пустата*, але *трымаць (апрацоўваць) што-небудзь пад вакуумам.*

У многіх сінанімічных радах гэтай разнавіднасці ў паслярэвалюцыйны перыяд адзначаецца семантычная дыферэнцыяцыя, выкліканая рознымі прычынамі. Выразнае размежаванне семантыкі адбылося, напрыклад, у пары *занавеска — фіранка.* Спрадвечна беларускае слова *занавеска* захавала сваё традыцыйнае значэнне 'выраб з усякай тканіны для завешвання або адгароджвання чаго-небудзь ад чаго-небудзь': *Праз расчыненыя дзверы Іван заўважыў, як з-за ружовай занавескі, што разгароджвала пакоі, на момант паказалася галава Анатоля і адразу знікла* (М. Ваданосаў. Пераломнае лета); *Адкінуўшы квяцістую занавеску, з кухні выглянула заклапочаная, стомленая гаспадыня* (В. Палтаран. Дзівасіл); *Акно з боку вуліцы было завешана просценькаю занавескаю* (Я. Колас. На ростанях).

Адносна позняе запазычанне з польскай мовы *фіранка* (у старабеларускай мове яго не было) скора звузіла сваю семантыку і набыло значэнне 'занавеска з

лёгкага празрыстага матэрыялу (марлі, цюлю), звычайна на вокны': *Валя падышла да акна і ўткнулася тварам у фіранкі* (У. Дубоўка. Ганна Алелька). *І фіранкі Валя павесіла новыя: з марлі, падсіненыя і таксама злёгку падкрухмаленыя* (А. Васілевіч. Бабіна лета).

Адбылося пераразмеркаванне значэнняў і ў пары *страха — дах.* Запазычанае яшчэ ў XV ст. праз польскую мову нямецкае слова *Dach* аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі ўжывалася ў недыферэнцыраваным значэнні 'усякае пакрыццё над домам, будынкам': *семдесятъ столпов мармуровых каторыи дахъ держатъ* (Аповесць аб трох каралях-валхвах канца XV ст., с. 71 б); *дахъ соломою крытый* (АВАК, XVI, 1597, с. 600). Пасля рэвалюцыі ў працэсе фарміравання функцыянальных стыляў значэнні слоў *страха* і *дах* дыферэнцыраваліся. Слова *страха* захавала за сабой традыцыйнае значэнне 'пакрыццё над будынкам з саломы': *Сыпаў снег, завываў і скуголіў вецер, ірвучы саламяныя стрэхі* (І. Гурскі. У вялікай дарозе); *Ледзь тумаліліся ў перадвячэрнім сутонні саламяныя стрэхі* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). За словам *дах* замацавалася значэнне 'пакрыццё над будынкам з цвёрдых матэрыялаў (*чарапіцы, бляхі, гонту* і інш.)': *Блакітны купал з хмарамі ліловымі, бляшаны дах, чырвоны ад іржы* (П. Макаль. Вечны агонь); *Горда і пыхліва выступаў палац ... белымі сценамі і чарапічным дахам* (Я. Колас. Дрыгва). Ужыванне слова *дах* у спалучэнні з прыметнікам *саламяны* ўспрымаецца цяпер як адхіленне ад нормы.

Аналагічная сэнсавая дыферэнцыяцыя наглядаецца ў многіх іншых сінанімічных парах: *акно — ілюмінатар, любоў — каханне, расада — флянсы, бязбожнік — атэіст* і інш. Пры гэтым адрозненні ў значэннях кампанентаў сінанімічнага рада суправаджаюцца адрозненнямі ў стылістычнай афарбоўцы, частотнасці ўжывання і лексічнай спалучальнасці.

Многія сінанімічныя рады ўвогуле аказаліся недаўгавечнымі і ў працэсе нармалізацыі лексічнага саставу зусім распаліся. Гэта перш за ўсё рады з іншамоўнага слова і лексічнага неалагізма, якіх нямала было створана з беларускіх марфем у перыяд фарміравання тэрміналагічных сістэм, каб абмежаваць шырокі наплыў іншамоўнай лексікі. Так, у XI выпуску БНТ (Грамадазнаўства. Мн., 1927) адзначаюцца такія штучныя беларускія наватворы, проціпастаўленыя іншамоўным сло-

вам, як *абяскласіць — дэкласіраваць*, *аўта́р — алтар*, *балвахвальства — ідалапаклонства*, *згук — афрыката*, *залога — гарнізон*, *змык — блакада*, *лёсы — балаціроўка*, *мірлівец — пацыфіст*, *першабыльцы — аўтахтоны*, *улучэнне — інкарпарацыя*, *упрамысловенне — індустрыялізацыя* і інш. Падобныя ўтварэнні, засведчаныя і ў іншых галіновых тэрміналогіях, не вытрымалі канкурэнцыі з адпаведнымі запазычаннямі і засталіся на стадыі аказіяналізмаў.

Сінанімічныя рады і групы са слоў запазычаных з'явіліся вынікам узаемадзеяння беларускай мовы з дзвюма ці некалькімі іншымі мовамі. Увесь сінанімічны рад мог быць запазычан і з адной мовы. Лёс кампанентаў у гэтых радах аказаўся неаднолькавы. Уплыў на характар узаемадзення паміж членамі рада аказвалі такія фактары, як патрэбнасць беларускай мовы ў новых сродках намінацыі, перамена напрамкаў іншамоўнага ўплыву (змяненне асноўнага ўплыву на пабочны), храналогія (адначасовасць ці паслядоўнасць) запазычвання, змяненне тыпу білінгвізму ў носьбітаў прымаючай мовы і інш.

Рады, у якіх да апошняга часу захавалася тоеснасць сэнсавай, стылістычнай, частотнай і іншых характарыстык, адносна нешматлікія: *амур — купідон*, *аліва — масліна* (дрэва), *абрыс — контур* (контурны малюнак), *амулет — талісман*, *арэол — німб*, *бурштын — янтар*, *бегемот — гіпапатам*, *вандраваць — качаваць*, *васьміног — спрут*, *гума — рызіна*, *мацярык — кантынент*, *мільярд — більён*, *мараль — этыка* (нормы паводзін), *кансерватар — руцінёр*, *друкарня — тыпаграфія*, *кугуар — пума*, *іслам — мусульманства*, *плебесцыт — рэферэндум* і інш.

У пераважнай колькасці радоў са слоў запазычаных адбыліся зрухі ў семантыцы і пераразмеркаванне яе паміж кампанентамі рада. Дыяпазон гэтых змяненняў быў вельмі шырокі — ад самых нязначных зрухаў да такіх пераўтварэнняў, што ўжо прывялі або прыводзяць да канчатковага распаду сінанімічнага рада.

Значныя змены адбыліся, напрыклад, у сінанімічнай пары *гарнітур — касцюм*. Французскае слова *garniture* ў пачатку XX ст. праз нямецка-польскае пасрэдніцтва было запазычана беларускай мовай у адным значэнні 'мужчынскі касцюм', якое к гэтаму часу выразна акрэслілася ў польскай мове і яшчэ не было вядома ў рускай мове. Да канца 30-х гадоў слова *гарнітур* у беларускай

мове ўжывалася пераважна ў адным гэтым канкрэтным значэнні: *Кравец Мотка пашыў шлюбны гарнітур для парабка Крушынскага — Рыгора* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі); *Чалавека ў кепі зацікавіў шэры падношаны гарнітур, гаспадаром якога быў малады яшчэ белабрысы хлапец* (П. Галавач. Навела без назвы).

Пазней, у пасляваенны час, у тым жа значэнні, што і *гарнітур*, пачынае ўжывацца слова *касцюм* (фр. *costume*), пранікшае з рускай мовы: *Хлопцы былі ў новых касцюмах, дзяўчаты ў прыгожых сукенках з дарагіх матэрыялаў* (В. Вольскі. Чайкі над Нараччу); *Уваходзіць Анатоль. Ён у чорным касцюме* (І. Козел. Папараць-кветка); *Гадомскі і Строіш былі ў касцюмах і плашчах* (Я. Брыль. У Забалоцці днее); *Тут былі і добры касцюм і некаторыя іншыя рэчы* (М. Лынькоў. За акіянам).

Шырокая ўжывальнасць слова *касцюм* была абумоўлена аб'ёмам семантыкі, з якой яно пранікла ў беларускую мову. Акрамя значэння 'камплект мужчынскага адзення з пінжака, штаноў і часам камізэлькі', якое мела і слова *гарнітур*, запазычанне *касцюм* адразу пачынае дадаткова абазначаць набор жаночай вопраткі з жакета і спадніцы, а таксама ўсякае адзенне спецыяльнага прызначэння — якраз тыя значэнні, якія слова *гарнітур* развівала дужа нясмела: *Скуратаў быў ужо не ў белым гарнітуры, а ў шэрым спартыўным касцюме* (А. Шашкоў. Лань — рака лясная); *Стомленая дзяўчына ў чорным форменным касцюме папрасіла адчыніць чамадан* (В. Хомчанка. Рукавіцы генерала Даватара); *Гэты спектакль парадаваў яркім нацыянальным каларытам дэкарацый і касцюмаў* (Беларусь. 1954. № 9. С. 21).

Частае выкарыстанне слова *касцюм* з шырокай семантыкай адразу пасунула на задні план слова *гарнітур*, якое ў аналагічных значэннях пачало заметна архаізавацца, уступіўшы месца слову *касцюм*. Але яно пры гэтым развіло больш шырокае, абагульненае значэнне — 'поўны камплект прадметаў пэўнага прызначэння', напрыклад, мэблі, пасуды, бялізны: *Спальня была абстаўлена гарнітурам: два ложкі, шыфаньер, трумо — усё ў адзін тон, пакрытае цёмна-карычневым лакам* (Я. Радкевіч. Плытагоны). Тут мы маем справу з такімі глыбокімі семантычнымі зменамі, якія ў працэсе далейшага развіцця могуць прывесці да распаду сінанімічнага рада.

Сярод сінанімічных радоў, якія ў паслярэвалюцый-

ны перыяд канчаткова распаліся або знаходзяцца на стадыі распадзення, пераважаюць такія, у якіх адным з кампанентаў з'яўляюцца адносна позні я польскія запазычанні, што не паспелі цвёрда замацавацца ў беларускай мове: *адсотак — працэнт, асадка — ручка* (для пісьма), *атрамант — чарніла, багнэт — штык, валізка — чамадан, гарбата — чай, гісэрня — ліцейня, каморка — клетка* (біял.), *краёвы — абласны, лемантар — буквар, места — горад, мосенж — латунь, пакост — аліфа, парцэляна — фарфор, рондаль — каструля, спіжарня — кладоўка, таца — паднос, ходнік — тратуар, фэст — кірмаш* і інш. Яшчэ ў XIX — пачатку XX ст. гэтыя паланізмы досыць шырока бытавалі ў беларускай мове, а некаторыя і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі: *Старшыня памачыў пяро асадкі ў атрамант і пачаў пісаць* (П. Галавач. Спалох на загонах); *Моцная спражка. З мосенжу* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца); *Белыя былі арлы ў паноў на шапках, Багнэты і нагайкі у руках* (З. Бядуля. З сказаў буры і віхораў).

К канцу 30-х гадоў кніжная беларуская мова канчаткова пазбавілася падобных слоў, але ў мастацкіх творах пры апісанні мінулых падзей яны выкарыстоўваліся і пазней як сродак стылізацыі мовы.

Мнагачленныя сінанімічныя рады з аднаго ці некалькіх беларускіх і аднаго ці некалькіх іншамоўных слоў пачалі шырока складвацца ў паслякастрычніцкі перыяд. Карэнная перабудова грамадскага ладу, з'яўленне вялікай колькасці новых рэалій і паняццяў, расшырэнне функцый літаратурнай мовы выклікалі неабходнасць у стварэнні новых намінатыўных адзінак. У пошуках новых сродкаў намінацыі розныя аўтары ідуць рознымі шляхамі (стварэнне неалагізмаў, запазычванне, спецыялізацыя традыцыйных значэнняў), што і прыводзіла да паліноміі — выкарыстання розных слоў для абазначэння аднаго і таго ж паняцця. У гэтых радах адбываліся працэсы, у асноўным аналагічныя тым, што і ў радах двухчленных: размежаванне значэнняў і сфер ужывання, архаізацыя і выпадзенне асобных членаў рада або адначасова і тое і другое.

Сінанімічны рад *воплескі — апладысменты — авацыя,* напрыклад, захаваўся дзякуючы таму, што сярод яго кампанентаў адразу адбылося размежаванне семантыкі і стылістычных сфер. Слова *воплескі* пачало ўжывацца са значэннем 'плясканне ў далоні ў знак прывітання,

адабрэння, удзячнасці' як стылістычна нейтральнае; слова *апладысменты* ў тым жа значэнні, але з адценнем урачыстасці, узнёсласці, а кампанент *авацыя,* захаваўшы тую ж стылістычную афарбоўку, што і слова *апладысменты,* набыў больш вузкае значэнне — 'бурныя працяглыя апладысменты (воплескі)'.

У сінанімічнай групе *веласіпед — самакат — ровар,* якая склалася яшчэ ў нашаніўскі перыяд, к цяперашняму часу слова *самакат* устарэла, а англіцызм *ровар,* які пранік праз польскую мову ў заходнебеларускія гаворкі, захаваўся там на ўзроўні слова абласнога, і толькі французскае слова *веласіпед* захавала статус нейтральнага слова.

Прыкладам радоў, у якіх адпаў кампанент, што з'явіўся новаўтварэннем на беларускай аснове, можа служыць сінанімічны рад *штука — паасобнік — экземпляр.* Адным з лексіка-семантычных варыянтаў слова *штука,* вядомага ўжо старабеларускай мове, было шырокае значэнне 'усякі асобны прадмет з ліку аднародных': *У статку ўсяго пяцьдзесят штук свіней і авечак* (Полымя. 1966. № 5. С. 56). *Дзесяць абаранкаў, Яблычкаў штук сем, Нават масла шклянку Бацьку мы нясем* (З. Бядуля. Хлопчык з-пад Гродна). Абазначаючы ўсякі асобны прадмет з ліку аднародных і маючы адценне размоўнасці, слова *штука* не змагло развіць у сабе тэрміналагічнага значэння. У спецыяльным значэнні 'асобны ўзор друкаванага або рукапіснага тэксту; асобны прадстаўнік якога-небудзь разраду жывёл або раслін' пачало ўжывацца запазычанне *экземпляр,* вядомае беларускай мове яшчэ з часоў «Нашай нівы»: *Мы прывезлі Івану Дамінікавічу экземпляр украінскага выдання яго паэмы «Над ракой Арэсай»* (Полымя. 1952. № 6. С. 132); *Гэта быў надзвычай прыгожы экземпляр маладога, дужага, прапарцыянальна развітага зубра* (В. Вольскі. Гаспадар пушчы); *Усе вядомыя нам дрэвы пірамідальнага топаля — гэта мужчынскія экземпляры* (Беларусь. 1948. С. 31.).

У пачатку 20-х гадоў як сродак працідзеяння іншамоўнаму слову *экземпляр* з'явіўся наватвор *паасобнік,* магчыма, стымуляваны рускім *особь.* Ужываючыся ў тым жа спецыяльным значэнні, што і слова *экземпляр,* яно пэўны час выкарыстоўвалася некаторымі аўтарамі ў творах розных стыляў і жанраў, напр.: *Там аказалася пяць паасобнікаў твораў Кузьмы Пруткова* (У. Дубоў-

ка. Ганна Алелька), але з прычыны рэдкай ужывальнасці не змагло замацавацца ў якасці нормы.

Прыведзеныя тут матэрыялы могуць даць толькі прыблізнае ўяўленне аб тых глыбокіх зменах у лексічным складзе беларускай літаратурнай мовы, якія адбываліся ў ёй у працэсе ўзаемадзеяння з іншымі мовамі.

### *Прадметна-тэматычныя групы запазычанай лексікі*

Пласт лексічных запазычанняў у новай беларускай літаратурнай мове намнога багацейшы, чым у старабеларускай пісьменнасці. У працэсе фарміравання беларускай нацыі шырыліся і паглыбляліся культурныя сувязі з іншымі народамі, змяняўся характар моўных кантактаў: пераважна прамыя запазычанні ўступалі месца апасродкаваным, вусныя — кніжным. Із'алексы запазычаных слоў звязваюць цяпер беларускую мову, хоць і ў рознай ступені, з індаеўрапейскімі мовамі Еўропы, Азіі і Амерыкі, з мноствам неіндаеўрапейскіх моў народаў былога СССР і некаторых замежных краін, з угра-фінскімі, інданезійскай, кітайскай, японскай, мангольскай і інш. У савецкі час, асабліва з пачатку 60-х гадоў, прыток запазычанняў з англійскай, французскай, нямецкай, італьянскай моў узмацняецца і тэматычна пашыраецца.

Сярод гэтых шматлікіх запазычанняў вылучаюцца два шырокія пласты: словы іншамоўнага паходжання, запазычаныя непасрэдна з мовы-крыніцы або праз рускую мову, і словы ўласна рускага паходжання.

Па інтэнсіўнасці пранікнення і лексіка-семантычных асаблівасцях іншамоўнай лексікі паслякастрычніцкі этап у гісторыі беларускай літаратурнай мовы можна ўмоўна расчляніць на тры перыяды: 20—30, 40—50 і 60—80-я гады.

Запазычаная лексіка, што прыйшла праз рускую мову, мае пераважна тэрміналагічны характар. Пра гэта можа сведчыць хоць бы пералік тэрміналагічных слоўнікаў, выдадзеных на працягу 20 — пачатку 30-х гадоў, сярод якіх тэрміналогіі анатоміі, грамадазнаўства і права, заалогіі і глебазнаўства, геалогіі, мінералогіі і крышталаграфіі, матэматыкі, літаратуры, геаграфіі і касмаграфіі, логікі і псіхалогіі, музыкі, лясной гаспадаркі, хіміі і бухгалтэрыі, граматыкі, лінгвістыкі, педа-

гогікі, тэхнікі і інш. Калі прыняць пад увагу, што гэтыя тэрміналогіі для беларускай мовы былі пераважна новымі, то няцяжка ўявіць, якой вялікай колькасцю іншамоўных і інтэрнацыянальных слоў папоўніўся беларускі лексікон у гэты час. Так, у «Слоўнік тэхнічных тэрмінаў» (Мн., 1932) побач з тэрмінамі беларускага паходжання былі ўключаны ў вялікай колькасці інтэрнацыянальныя словы-тэрміны тыпу *ацытылен, вакуум, генератар, дэпрэсія, дызель, індыкатар, калектар, камутатар, каталізатар, магнета, пульверызатар, радыятар, электрон* і інш.

Акрамя вузкаспецыяльнай лексікі была засвоена ў гэты час вялікая колькасць іншамоўных слоў розных іншых тэматычных груп і пластоў.

Сярод іх — кніжныя словы ў шырокім разуменні гэтага паняцця, г. зн. агульнанавуковыя тэрміны, ужыванне якіх не абмежавана вобласцю адной якой-небудзь вузкай галіны навукі або культуры: *аб'ект, аб'ектывізм, адэкватны, аморфны, аптымальны, вербальны, версія, гетэрагенны, дэкаданс, дэрывацыя, дэфініцыя, імпазантны, індыферэнтны, кампетэнцыя, кангламерат, кан'юнктура, квінтэсэнцыя, маніфест, прэрагатыва, рэпрэзентацыя, эклектызм, эмпірычны* і інш.

Сярод запазычанняў гэтай пары вылучаюцца таксама разнастайныя прадметна-тэматычныя групы слоў, звязаныя з абазначэннем прадметаў, з'яў, паняццяў грамадска-вытворчай дзейнасці (*аранжарэя, атэль, аўтобус, гастраном, інтэрнат, клуб, планетарый, таксі, трактар, тралейбус, трыер*), прадметаў адзення і відаў тканін (*бастон, батыст, джэмпер, камбінезон, кашнэ, піжама, п'ексы, пуловер, світэр, трыкатаж, фланель, цюль*), прадуктаў харчавання (*асарці, вінегрэт, джэм, кансервы, канцэнтрат, кофе, лівер, ліманад, мармелад, сітро*), грамадска-палітычных, спартыўных, ваенных, музычных паняццяў (*акупант, фашыст, факстрот, рэгбі, слалам, танкетка*) і інш.

Усе гэтыя разнастайныя па тэматыцы новыя іншамоўныя словы праз сродкі масавай інфармацыі ў кароткі час становяцца шырокаўжывальнымі, пераходзяць у разрад асвоеных, запазычаных слоў.

Запазычанні рускага паходжання — гэта пераважна безэквівалентная руская лексіка, якая нават на блізкародную мову не магла быць калькавана і таму пераносілася ў беларускія тэксты ў марфалагічна нязменнай,

толькі транслітарыраванай форме. Сярод запазычанняў гэтай катэгорыі вылучаецца некалькі тэматычных груп.

1. Словы, якія абазначаюць паняцці, што з'явіліся ў ходзе перабудовы грамадскага жыцця ў нашай краіне пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і адносяцца да савецкай рэчаіснасці (т. зв. саветызмы): *акцябраты, бальшавік, ВКП(б), ВЛКСМ, калектывізацыя, камсамол, ленінец, партком, парткабінет, парторг, піянер, райком, савет, сельсавет, СССР, ЦК* і інш.

2. Блізкія да саветызмаў словы і значэнні, што абазначаюць прадметы і паняцці новага савецкага быту: назвы вытворчых аб'яднанняў, установаў, грамадскіх арганізацый: *брыгада* (паляводчая), *праўленне* (калгаса), *рабфак, сельпо, райфо, главк, агітпункт, дзетсад;* назвы асоб па іх адносінах да працы, роду дзейнасці і занятку: *перадавік, стаханавец, ударнік, прараб, рабкор, рабфакавец, спецкор, трактарыст;* назвы грамадскіх мерапрыемстваў, сацыяльных з'яў і інш.: *абязлічка, змычка* (горада і вёскі), *самакрытыка, ураўнілаўка* і інш.

3. Словы, што абазначаюць прадметы і з'явы традыцыйнага рускага побыту, у прыватнасці назвы страў, адзення, гульняў, танцаў, мастацкіх вырабаў і інш.: *акрошка, бужаніна, піражок, расольнік, сушкі, халадзец; аколыш, валёнкі, кепка, шапка-вушанка, фуражка, чапец; барыня, гарадкі, лапта, матрошка* і інш.

4. Некаторыя рускія гістарызмы, якія служылі назвамі даўнейшых мер, адзення, людзей па розных прыметах, адміністрацыйных адзінак, установаў і інш.: *алтын, вяршок, залатнік; кафтан, кальчуга, каўпак, бурлак, баярын, ваявода, гарадавы, дваранін, карабейнік, памешчык, разначынец; абшчына, акалодак, вотчына, воласць, губерня, земства* і інш.

5. Неперакладная эмацыянальная афарбаваная лексіка вусных народных твораў: *Баба Яга, ідалішча, Кашчэй Бяссмертны, шапка-невідзімка, сіўка-бурка, цудаюда* і пад.

6. Кніжныя, паэтычныя словы і спецыяльныя тэрміны: *азнаменаваць, вяшчаць,ісціна, раць, саратнік; башмак* (чыгун.), *від* (біял.), *кукалка, песцік, шатун* (тэхн.) і інш.

Актыўнаму запазычванню і засваенню іншамоўнай лексікі беларускай мовай у 20—30-я гады садзейнічалі такія стымулюючыя фактары, як набыццё беларусамі сваёй дзяржаўнасці, неабходнасць у далейшым развіцці

кніжных стыляў літаратурнай мовы, пашырэнне навукі і асветы, узмацненне працэсу ўзаемадзеяння паміж мовамі народаў СССР.

Перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў развіцці беларускай лексікі характарызуецца дзвюма процілеглымі тэндэнцыямі: а) змяншэннем колькасці запазычанняў з іншых моў; б) актуалізацыяй многіх разрадаў ваеннай і звязанай з ёй грамадска-палітычнай тэрміналогіі. Дзейнасць гэтых тэндэнцый была абумоўлена складанасцю моўнай сітуацыі, якая склалася ў Беларусі на працягу вайны.

Акупацыя тэрыторыі рэспублікі нямецка-фашысцкімі войскамі і ўстанаўленне крывавага фашысцкага рэжыму выклікала ў народзе крайне адмоўныя адносіны да ўсяго іншаземнага, у тым ліку і да іншамоўных слоў. Гэта сацыяльная акалічнасць і была адной з прычын, якія абумовілі змяншэнне колькасці запазычанняў у час вайны ў параўнанні з папярэднім перыядам. Са слоў, якія былі запазычаны ў гэты час і перайшлі ў актыўны запас, можна назваць толькі нешматлікія тэхнічныя тэрміны (напр., *бульдозер, грэйдэр*) і паасобныя словы нетэрміналагічнага характару, што шырока ўжываліся ў публіцыстычных і мастацкіх творах, напрыклад, *ас* 'выдатны па баявому і лётнаму майстэрству лётчык': *Вадзім быў лётчыкам з вялікай літары, савецкім асам* (Маладосць. 1968. № 8. С. 122).

Увогуле ж у ваенны час іншамоўная лексіка ў вялікай колькасці пранікала ва ўсе формы моўных зносін. Пераважна гэта былі экзатызмы і іншамоўныя ўкрапванні, што абазначалі: а) прадметы ваеннай тэхнікі фашысцкай арміі: *пантэра, тыгр, фердынанд* (маркі танкаў і самаходных гармат); *месершміт, фокевульф, хейнкель, юнкерс* (маркі самалётаў); *фауст, фаустпатрон* (від ручной зброі для барацьбы з танкамі); б) назвы асоб па іх службовым становішчы: *гауляйтэр* (абласны кіраўнік, намеснік Гітлера па вобласці), *гебітскамісар* (абласны камісар, гітлераўскі чыноўнік у акупіраванай краіне), *штурмбанфюрэр* (воінскі начальнік службы «СС»); в) словы, якія характарызавалі мову, быт, паводзіны нямецкіх салдат: *баўэр* (селянін, фермер), *бліцкрыг* (маланкавая вайна), *брот* (хлеб), *вэк* (прэч, вон), *гут* (добра), *гэр* (пан), *капут* (смерць, канец), *рэйх* (германская імперыя), *фатэрлянд* (бацькаўшчына), *фрау* (жанчына, жонка), *шнапс* (гарэлка), *шпэк* (сала), *эрзац* (сурагат,

заменнік); г) назвы арганізацый: *абвэр* (ваенная разведка), *гестапа* (дзяржаўная тайная паліцыя), *фолькс-штурм* (народнае апалчэнне); д) словы, што служылі агульнай назвай фашысцкіх салдат: *вілі, ганс, фрыц, шульц, карл: — Ну, што ж, хлопцы, час нам рушыць, Выйсці з лесу ў свет, Гансаў, фрыцаў і карлушаў Страсянём як след* (Я. Колас. Суд у лесе).

Большасць гэтых экзатызмаў нямецкага паходжання ўжывалася з адмоўнай экспрэсіўнай афарбоўкай, таму скора пасля вайны перайшла ў гістарызмы і выкарыстоўваецца цяпер толькі пры апісанні падзей ваеннага часу. Такі ж лёс слоў англійскага паходжання *віліс, дуглас, студэбекер, форд, ленд-ліз* і інш.

Сярод запазычанняў рускага паходжання ў гэты час пераважалі словы ваеннай тэматыкі: назвы відаў зброі, ваеннай тэхнікі і пад.: *ПТР* (проціватанкавае ружжо), *РГД* (ручная граната Дзегцярова). Значнае пашырэнне атрымалі словы-ацэнкі: «кацюша» (жартаўліва-ласкальная назва рэактыўнага мінамёта, устаноўленага на аўтамабілі), «кукурузнік» (лёгкі аднаматорны самалёт), «лімонка» (ручная граната акруглай формы): *Наша помста ворагу ў паходзе Праграмела голасам кацюш* (П. Прыходзька. Не здадзеныя вышыні); *Не ён, а другія ішлі ў атаку, Лімонку кідалі ў бліндажы* (П. Панчанка. Герой).

Актуалізацыя ваеннай лексікі і звязанай з ёй грамадска-палітычнай тэрміналогіі была абумоўлена ўсім ходам баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі. Небывалае перамяшчэнне рознанацыянальных груп насельніцтва, актыўны ўдзел у партызанскай вайне побач з беларусамі кадравых ваенных розных нацыянальнасцей садзейнічалі пранікненню ў беларускую мову вузкаспецыяльных элементаў са сферы ваеннай лексікі. У мовах усіх савецкіх народаў ваенная лексіка зрабілася самай актуальнай. Можна назваць некалькі тэматычных груп, у склад якіх уваходзіла актыўная ваенная лексіка:

1) грамадска-палітычная тэрміналогія, непасрэдна звязаная з вайной, баявымі дзеяннямі: *агрэсія, акупацыя, антыфашыст, вандалізм, імперыялізм, інформбюро, кааліцыя, капітуляцыя, мабілізацыя, нацызм, пакт, патрыятызм, сатэліт, сепаратызм, фашызм, шпіянаж, экспансія* і інш.;

2) словы, што абазначалі воінскія званні, спецыяль-

насці; назвы родаў войск і злучэнняў: *артылерыст, камісар, партызан, снайпер, генерал, батальён, дывізіён, гвардыя, экіпаж, эскадрылля;*

3) ваенныя тэрміны, што абазначаюць паняцці, звязаныя са стратэгіяй і тактыкай баявых дзеянняў: *атака, абарона, аперацыя, блакада, дэсант, канцэнтрацыя, контратака, манеўр, маршрут, пароль, рэзерв, рэйд, тактыка, траса, штурм, фланг, фронт;*

4) назвы ваеннай тэхнікі, узбраення, абаронных збудаванняў, абмундзіравання і пад.: *аўтамат, граната, міна, тарпеда, бомба, пісталет, бліндаж, траншэя, эскарп, парашут, каска* і інш.

Ваенныя тэрміны названых і іншых тэматычных груп шырока ўжываліся не толькі на старонках газет, мастацкіх і публіцыстычных твораў, яны глыбока пранікалі ў мову грамадзянскага насельніцтва, а адтуль нават у вусную народную творчасць.

Для пасляваеннага часу (канец 40-х—50-я гады), як і для перыяду вайны, характэрна амаль поўнае адмаўленне запазычанняў і, больш таго, імкненне замяняць раней асвоеныя лексічныя запазычанні словамі з роднай мовы. Выклікана гэта было актывізацыяй ідэалагічнай работы, якая вялася пад лозунгам барацьбы супраць «касмапалітызму» і «нізкапаклонства перад Захадам». У гэты час запазычваюцца толькі асобныя тэхнічныя, спартыўныя і некаторыя іншыя тэрміны інтэрнацыянальнага паходжання, такія, як *адаптэр, плексіглас, радар, робат; крос, сальта, табло* і пад. Асобныя тэрміны гэтых тэматычных груп, наадварот, замяняюцца сваімі словамі. Паяўляецца, напрыклад, *варатар* замест *галкіпер, настольны тэніс* замест *пінг-понг* і інш.

Апошнія пасляваенныя дзесяцігоддзі (60—80-я гады) характарызаваліся трыма асноўнымі тэндэнцыямі: а) актывізацыяй працэсу запазычвання; б) пашырэннем кола тэматычных і лексіка-семантычных груп запазычанай лексікі; в) зменай вядучых тэматычных груп сярод запазычанай лексікі. Гэтыя змены былі выкліканы, па-першае, тымі пераўтварэннямі, якія адбыліся ў нашай краіне пасля XX з'езда партыі і мелі шырокі міжнародны водгук. Быў заключан рад міжнародных дагавораў аб культурных і гандлёва-эканамічных сувязях, што садзейнічала паступовай ліквідацыі «жалезнай заслоны», якая існавала ў першыя пасляваенныя гады паміж лагерам сацыялізму і капіталістычнымі краінамі Захаду

і стрымлівала ўсякі іншамоўны ўплыў, у тым ліку і ў галіне лексікі. Таму з пачатку 60-х гадоў запазычванне іншамоўных слоў актывізуецца і працэс іх уваходжання ў рускую, а праз яе і ў беларускую мову становіцца больш раўнамерным і выніковым. Паступовае ўмацаванне міжнародных кантактаў у самых разнастайных галінах чалавечай дзейнасці абумовіла пашырэнне ў гэты перыяд кола тэматычных і лексіка-семантычных груп запазычанай лексікі.

Другім стымулюючым фактарам з'явіўся навукова-тэхнічны прагрэс. Яго поспехі за гэты перыяд выявіліся ў аўтаматызацыі вытворчасці, выкарыстанні атамнай энергіі, асваенні космасу, выкарыстанні электронна-вылічальных машын, вырабе сінтэтычных матэрыялаў і ў многіх іншых формах, у выніку чаго па колькасці і актуальнасці ўжывання сярод запазычанняў на першае месца выйшла навуковая і тэхнічная тэрміналогія. Многія тэрміны абазначаюць новыя галіны, напрамкі і раздзелы сучаснай навукі і тэхнікі, такія, як *астрабіялогія, астрагеаграфія, астрагеалогія, астранавігацыя, аэраномія, біёніка, вірусалогія, вітаміналогія, галаграфія, геатэрмія, геакрыналогія, геранталогія, гідрамеліярацыя, гідрапоніка, кардыяхірургія, касмафізіка, касмахімія, касметалогія, кібернетыка, мікраэлектроніка, нейрапсіхалогія, плазмахімія, псіхалінгвістыка, радыёхімія, селенадэзія, селеналогія, семіётыка, спелеалогія, структуралізм, фатоніка, флюараграфія, футуралогія* і інш.

Шматлікую групу складаюць новыя тэрміны гэтага часу, звязаныя з развіццём тэхнікі, ажыўленнем прамысловага і культурнага будаўніцтва, забеспячэннем народнай гаспадаркі новымі машынамі, апаратамі, сродкамі сувязі, тэрміны, што абазначаюць навукова-тэхнічныя паняцці, вытворчыя працэсы, матэрыялы і пад. Гэта словы тыпу *акваланг, алгарытм, аэраметад, аэробус, батыплан, бойлер, бройлер, відэамагнітафон, відэатэлефон, дэдэрон, інтраскоп, камп'ютэр, капралактам, кашмілон, катамаран, лазер, лайнер, магнітола, мазер, матаролер, нейлон, паралон, рубероід, ратапрынт, транзістар, тэлекс, хіматрон.*

У гэты перыяд шырокім патокам пранікаюць новыя грамадска-палітычныя тэрміны (*апартэід, абстракцыянізм, антысаветызм, гегеманізм, генацыд, канфрантацыя, мафія, мемарыял, неакаланіялізм, неанацызм, саветалогія, супермен, хіпі, хунта, эскалацыя*); словы, што

абазначаюць прадметы, з'явы і паняцці культурна-бытавога характару (*асарці, балонне, бігудзі, бістро, бугі-вугі, буклет, джынсы, калготы, кемпінг, кліпсы, комікс, круіз, лечо, максі, матэль, міні, паблісіці, рок-н-рол, сервант, таршэр, тэхасы, фен, хобі, шорты*); спартыўныя тэрміны (*аўтаралі, аўтсайдэр, бабслей, бадмінтон, батут, біятлон, гандбол, дзю-до, дрыблінг, каратэ, карцінг, самба, спідвей, спурт, тайм-аўт, фінт, юніёр*); медыцынскія тэрміны (*алахол, алергія, антыбіётык, бяміцін, валакардзін, гама-глабулін, допінг, дэкамевіт, канцэраген, карвалол, рэзерпін, стрэптаміцын, стрэс, тэтрацыклін, фурацылін, халестэрын, эленіум*) і інш.

Неалагізмы рускага паходжання тэматычна не адрозніваюцца ад іншамоўных. Гэта таксама навукова-тэхнічныя, грамадска-палітычныя, спартыўныя, медыцынскія тэрміны, словы, што абазначаюць прадметы, з'явы, паняцці са сферы культуры, быту, сельскай гаспадаркі і інш.: *атамаход, атаммаш, аўтаматыка, верталётаносец, землясос, земснарад, мапед, лунiт, стыкоўка, тэлеатэльe, электратабло, энергагігант; бесканфліктнасць, дружыннік, кіналекторый, палітінфарматар, праграміраванне, прафгрупорг, ультраправыя, школа-інтэрнат, юнармейцы; ваднальжнік, гарнальжнік, фіналіст; аўталаўка, кафяварка, кафямолка, малакавоз, скараварка, электрабрытва; самалячэнне, саматрэніроўка, электрасон* і інш.

Матэрыялы паказваюць, што неалагізмаў рускага паходжання ў пасляваенны перыяд засвойваецца беларускай мовай у нязменнай форме значна больш, чым у 20—30-я гады. Асноўнай прычынай тут з'явілася тое, што пад уплывам агульнай тэндэнцыі да тэрміналагізацыі лексікі пераважная большасць новых слоў у рускай мове ўтвараецца шляхам спалучэння рускіх і інтэрнацыянальных або толькі інтэрнацыянальных словаўтваральных элементаў, якія не паддаюцца калькаванню нават на блізкародную мову, а таму словы з такімі структурнымі элементамі, як правіла, не перакладаюцца, а запазычваюцца ў нязменнай форме. Для прыкладу, з адным інтэрнацыянальным элементам *гідра...* беларускай мовай у пасляваенны час было запазычана з рускай каля сотні такіх складаных утварэнняў, як *гідраавіяцыя, гідраагрэгат, гідраакустыка, гідраачыстка, гідрааэрадром, гідрааэрапорт, гідрабіёніка, гідрабіялогія, гідрабур, гідравузел, гідрагеалогія, гідрагенератар,*

*гідраграфія, гідрадэніт, гідраінкубатар, гідракартызон, гідралакатар, гідраманітор, гідраметрыст, гідраметцэнтр, гідраметэаслужба, гідрамеханіка, гідранаўт, гідрапоніка, гідрапульт, гідратэрапія, гідрафобія, гідрафон, гідрацыклон, гідраэлеватар* і інш.

Павелічэнню ў пасляваенны перыяд чыстых запазычанняў рускага і іншамоўнага ўтварэння садзейнічала і значнае аслабленне тэндэнцыі да «адштурхоўвання ад рускай мовы», якая досыць выразна праяўлялася ў даваенны час. У працэсе моўнага будаўніцтва ў рэспубліцы ўсё больш глыбока ўсведамлялася ісціна, якую ў свой час выказаў Ф. Энгельс: «... неабходныя ж іншамоўныя словы, якія ў большасці выпадкаў з'яўляюцца навукова-тэхнічнымі тэрмінамі, не былі б неабходнымі, калі б яны паддаваліся перакладу. Значыць, пераклад толькі скажае сэнс; замест таго, каб растлумачыць, ён уносіць блытаніну»[46].

Асноўным пасрэднікам у перадачы новых слоў з рускай мовы ў беларускую ў гэты час заставаліся публіцыстычныя жанры (газета, часопісы, радыё- і тэлеперадачы), у лексіцы якіх найбольш аператыўна і натуральна адлюстроўваюцца ўсе новыя працэсы і з'явы, што адбываюцца ў паўсядзённым жыцці. Некаторыя тэрміны маглі быць перанесены ў беларускія слоўнікі непасрэдна з рускіх тэкстаў або слоўнікаў, пра што сведчаць наяўнасць падобных слоў у беларускіх навейшых слоўніках і адсутнасць іх у фундаментальнай картатэцы Тлумачальнага слоўніка.

## § 5. УПЛЫЎ ЛЕКСІЧНАЙ СІСТЭМЫ НА СЛОВАЎТВАРЭННЕ

Інтэнсіўнае папаўненне лексікі новымі словамі, асабліва запазычаннямі, выклікае складанае ўзаемадзеянне паміж лексічнымі і словаўтваральнымі працэсамі. Прычыны запазычвання толькі лексічныя. Словы запазычваюцца таму, што яны патрэбны для семантычных або стылістычных мэт, а не таму, што маюць пэўную словаўтваральную будову. Аднак, пранікаючы ў літаратурную

---

[46] Энгельс Ф. Предисловие к первому немецкому изданию «Развитие социализма от утопии к науке» // Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 19. С. 322.

мову, запазычаныя словы пратэкцыяніруюць пэўным словаўтваральным тыпам. Гэта адзін з найбольш важных выпадкаў уплыву лексікі на словаўтварэнне [47].

Пранікненне ў мову значнага рада структурна аднатыпных, семантычна аднародных слоў можа прывесці да з'яўлення ў словаўтваральнай сістэме мовы-рэцэптара новых афіксаў і словаўтваральных тыпаў. Замацаванне іншамоўнага словаўтваральнага тыпу адбываецца звычайна паступова, па меры асэнсавання матываванасці запазычанага слова, вычлянення ў ім зыходнай асновы і словаўтваральнага афікса, усведамлення іх семантыкі. Уваходжанню іншамоўнай словаўтваральнай мадэлі ў новую словаўтваральную сістэму звычайна спадарожнічаюць такія з'явы, як калькаванне пэўнай колькасці аналагічных слоў сродкамі мовы-рэцэптара, «подражательное» ўтварэнне новых слоў з выкарыстаннем іншамоўных фармантаў, функцыянальная спецыялізацыя або развіццё полісеміі тыпу і некаторыя іншыя [48]. Гэтыя з'явы адначасова сведчаць і аб засваенні мовай-рэцэптарам новага афікса і адпаведнага словаўтваральнага тыпу.

Сярод важнейшых змен, што адбыліся пад уплывам лексічнай сістэмы ў сферы словаўтварэння, можна назваць наступныя:

1. Далейшае асваенне іншамоўных афіксаў, у выніку чаго яны пачалі выкарыстоўвацца для ўтварэння новых слоў на беларускай моўнай аснове. Скажам, грэчаская прыстаўка *анты-* ('супраць') ужываецца цяпер не толькі ў складзе «чыстых» запазычанняў тыпу *антытэза, антыфрыз,* але і для ўтварэння новых беларускіх слоў у працэсе калькавання: *антыаблЕдзяняльнік, антыакісляльнік, антыграмадскі, антымастацкі, антыпрыгонніцкі, антырэчыва, антыўрадавы* і інш. Тое ж можна сказаць і пра лацінскую прыстаўку *контр-* ('супраць'): *контрагент* і *контрпадрыхтоўка, контрпара, контрпрапанова, контррэйка;* пра суфіксы *-іст- (-ыст-), -ізм- (-ызм-)* і некаторыя іншыя.

У савецкі час беларускай мовай быў асвоен іншамоўны суфікс *-ірава-,* якога яна на папярэдніх этапах

---

[47] Словообразование современного русского литературного языка. С. 269.

[48] Адливанкин С. Ю. К вопросу о заимствовании в области словообразования // Уч. зап. Пермского ун-та. Т. 137, вып. 1. 1965. С. 105—106.

свайго развіцця амаль не ведала. З суфіксам *-іравацяпер* ужываюцца не толькі тыя іншамоўныя дзеясловы, якія раней яго не мелі, напр.: *аперыраваць* (аперавацъ), *базіравацца* (базавацца), *маскіраваць* (маскаваць), *маршыраваць* (машараваць), але і сотні новых слоў, запазычаных і ўтвораных на беларускай аснове: *бульбасарціроўка, бальзаміраваць, інфіцыраваць, кадзіраваць, камуфліраваць, мадэліраваць, планіраваць, праграміраваць, складзіраваць, фарміраваць* і інш.

2. Папаўненне новымі суфіксамі. Прыкладам тут можа служыць суфікс *-іян-*, які генетычна ўзыходзіць да лацінскага фарманта *-(і)яна*. З латыні гэты фармант пранік у французскую і англійскую мовы і к XVIII ст. атрымаў там значнае пашырэнне.

Першае ўжыванне гэтага фарманта ў рускай мове прыпадае на канец XIX ст.: *Puschciniana:* Библиографический указатель статей о жизни А. С. Пушкина, его сочинений и вызванных ими произведений литературы и искусства/Составил В. И. Межовъ. СПб., 1886. Пазней узнікаюць новыя словы з гэтым фармантам: *Тютчевиана* (1913), *Лениниана* (1934), *Шевченкиана, Шекспириана, Шопениана, Лермонтовиана* (1964), *Руставелиана* (1966) і інш.[49] На рускай аснове фармант *(-і)ана* пачаў выразна чляніцца на дзве марфемы: словаўтваральную — суфікс *-іян-* і формаўтваральную — канчатак *-а*.

У дарэвалюцыйных беларускіх тэкстах словы з суфіксам *-іян-* не адзначаны. Першае ўжыванне слова з суфіксам *-іян-* зафіксавана ў зборніку «Чатырохсотлецце беларускага друку» (Мн., 1926), дзе акад. У. Пічэта апублікаваў артыкул *«Skoriniana»*. Імя аўтара, а таксама лацінізаваная форма напісання загалоўка сведчылі, што слова было ўтворана па іншамоўнай мадэлі, ужывалася ўпершыню і, значыць, з'яўлялася для беларускай мовы аўтарскім утварэннем, аказіяналізмам. Скора праз рускую мову пачалі пранікаць іншыя словы, утвораныя па гэтай жа мадэлі: *Ленініяна, Шапеніяна, Шэкспірыяна, Ясеніяна: Першае слова ў беларускай сцэнічнай Ленініяне было яго, народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Саюза ССР Пайла Малчанава* (Лім. 10.III 1972); *Вельмі хочацца ... перадаць усім аматарам паэзіі Сяргея Ясеніна ўдзячнасць за папаўненне*

[49] Филиппов В. С. «Руставелиана» // Русская речь. 1967. № 1. С. 83—84.

*маёй Ясеніяны рознымі выданнямі аб ім* (Вячэрні Мінск. 26.III 1976).

Пранікненне ў беларускую мову гэтай семантычна і структурна аднароднай групы іншамоўных слоў, усведамленне іх словаўтваральнай структуры неўзабаве прывяло да з'яўлення аналагічных слоў на ўласна беларускай аснове і да павышэння ўжывальнасці тых, што выступалі спачатку як аказіяналізмы: *Летась Купаліяна папоўнілася яшчэ адным украінскім выданнем* (Полымя. 1968. № 5. С. 236); *Другая частка «Летапісу» — своеасаблівая «Каліноўскіяна», у якой паказваецца, як жыццё і рэвалюцыйная дзейнасць К. Каліноўскага станавіліся аб'ектам вывучэння і даследавання гісторыкаў і літаратуразнаўцаў* (Беларусь. 1967. № 2. С. 29); *Аднак самы значны ўклад у Скарыніяну зрабіў Шчакаціхін як мастацтвазнаўца* (А. Ліс. Шчакаціхін. 1968. С. 47).

Выкарыстанне інтэрнацыянальнага суфікса *-іян-* для ўтварэння новых слоў ад беларускіх словаўтваральных асноў — адзін з паказчыкаў таго, што гэты суфікс увайшоў у словаўтваральную сістэму беларускай мовы і стаў «сваім». Другім сведчаннем гэтаму з'яўляецца пашырэнне разнавіднасцей асноў, з якімі можа спалучацца суфікс *-іян-*. Калі спачатку ён спалучаўся толькі з асновамі, што з'яўляліся прозвішчамі гістарычных асоб (*Ленініяна, Купаліяна*), то ў апошні час з ім пачалі ўтварацца назоўнікі са значэннем зборнасці і ад геаграфічных назваў: *«Беларусіяна»* — назва рубрыкі ў газеце «Ніва» (Ніва. 26.X 1975).

Хоць і ўскосна, пра асвоенасць суфікса *-іян-* беларускай мовай можа сведчыць і той факт, што словы, утвораныя з дапамогай яго, становяцца асновай для ўзнікнення кампазітаў, напр.: *Навуковая кіналенініяна* (ЛіМ. 24.III 1970).

Новым для беларускай мовы савецкага часу з'яўляецца і суфікс *-ствава-*. Узнік ён у стараславянскай мове ў выніку зліцця суфіксаў *-ьств-* і *-ова-* пры ўтварэнні дзеясловаў ад абстрактных назоўнікаў: *пророчьство — пророчьствовати, наследьство — наследьствовати* [50]. Праз старажытнарускую мову дзеясловы з гэтым суфіксам трапілі ў сучасную рускую мову і яшчэ больш пашырыліся. У тых жа славянскіх мовах, якія не адчулі на сабе такога моцнага ўплыву стараславянскай, як

---

[50] Хабургаев Г. А. Старославянский язык. М., 1974. С. 319.

кніжная руская мова, дзеясловаў з суфіксам *-ствава-* або зусім няма (польская, чэшская, славацкая), або яны ўжываюцца вельмі рэдка (украінская).

Для беларускай мовы дарэвалюцыйнага часу гэтыя дзеясловы былі таксама нехарактэрны і ў тагачасных слоўніках не адзначаліся. Аднак з сярэдзіны 20-х гадоў дзеясловы з суфіксам *-ствава-* пачынаюць шырока пранікаць у беларускую мову ў форме чыстых запазычанняў з рускай мовы і паўкалек: *Бандыты злачынствуюць* (М. Зарэцкі. 42 дакументы); — *Ты асмельваешся кашчунстваваць* (Я. Маўр. Цётка Эмілія); *Як шэфствуюць рабочыя* (Савецкая Беларусь) і інш. З гэтага часу яны пачынаюць рэгулярна фіксавацца ва ўсіх беларускіх слоўніках і граматыках[51].

У апошні час павелічэнне колькасці дзеясловаў з суфіксам *-ствава-* адбываецца не толькі за кошт запазычвання і калькавання рускіх дзеясловаў, але і за кошт уласна беларускіх наваўтварэнняў: *Габрусь за дзела ўзяўся, не абібоцтвуе на вакзале* (Х. Шынклер. Хата); *Сын Аляксандр брыгадзірствуе ў сваім калгасе* (А. Караткевіч. Жывая крыніца); — *Я не жартую і не мудрагельствую* (Г. Далідовіч. Усё яшчэ наперадзе); — *Дзе ж гэта ты старастваваў* (В. Быкаў. Калі хочацца жыць) і інш. Гэтыя наватворы сведчаць, што тып дзеясловаў з суфіксам *-ствава-* ўвайшоў у словаўтваральную сістэму беларускай мовы, хоць і застаецца яшчэ малапрадуктыўным.

Сярод іншых новых словаўтваральных марфем, што з'явіліся ў беларускай мове ў паслярэвалюцыйны час, можна назваць прыстаўкі *напаў-, небез-, паза-* (у прыметніках тыпу *пазапланавы, пазаўрочны*) і інш.

3. Узаемадзеянне лексічнай і словаўтваральнай сістэм мовы не абмяжоўваецца толькі асваеннем іншамоўных афіксаў і словаўтваральных тыпаў. Яно праяўляецца і ў больш глыбокіх зменах. У апошні час наглядаецца працэс паступовага пераходу некаторых карэнных іншамоўных элементаў тыпу *аўта-, кіна-, мікра-, радыё-, тэле-, -лог, -скоп* у марфемы-афіксы. З сярэдзіны XX ст. словаўтварэнне з такімі элементамі становіцца адным з самых актыўных спосабаў утварэння новых тэрмінаў. «Гранічная аглютынатыўнасць гэтых элементаў адкры-

[51] Васілеўскі М. С. Дзеяслоўнае словаўтварэнне. Мн., 1985. С. 50—54.

вае прастор для незвычайна шырокай спалучальнасці іх з рознымі словамі, пры якой праяўляюцца строга адназначныя адносіны паміж рознымі часткамі такіх словазлучэнняў. Пры гэтым яны кампактныя і вельмі зручныя ва ўжыванні»[52]. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», напрыклад, зафіксаваў каля 80 слоў з элементам *кіна,* звыш 100 — з элементам *радыё,* больш як 60 — з элементам *тэле* і г. д. Колькасць наватвораў з такімі элементамі ўвесь час павялічваецца. Характэрна, што спалучацца з імі пачынаюць і словы нетэрміналагічнага характару, напр.: *кінавока* (Вячэрні Мінск. 12.XII 1979), *тэлесвацця* (Звязда. 12.I 1975), *тэленянька* і інш. У выніку частага і адназначнага ўжывання гэтыя элементы паступова трацяць сваё лексічнае значэнне і пачынаюць успрымацца як прыстаўкі.

Зроблена спроба знайсці крытэрыі размежавання такіх сумежных паняццяў, як аснова (корань) складанага слова — афіксоід — афікс. Аснова або корань, якія часта сустракаюцца ў складаных словах, яшчэ не афіксоіды, калі іх семантыка не з'яўляецца сінанімічнай значэнню афікса, гаворыць М. М. Шанскі. І наадварот, на месцы афіксоіда мы заўважаем ужо афікс, калі аналізуемая марфема ў даны момант развіцця адпаведнай мовы невядома ў ёй як карэнная або асноўная або выступае з якім-небудзь несуадносным значэннем і ў якасці роднаснай зыходнаму кораню ўжо не ўсведамляецца: аманімічныя адносіны марфемы і этымалагічна роднаснага слова ў сінхронным плане — такое ж сведчанне ператварэння афіксоіда ў афікс, як і знікненне адпаведнага слова ў мове ўвогуле[53]. Кіруючыся такімі крытэрыямі, можна сказаць, што, напрыклад, у словах *біялогія, біёлаг* элементы *-логія, -лаг* з'яўляюцца цяпер не каранёвымі марфемамі, бо не ўтвараюць простых і вытворных слоў, а суфіксамі, паколькі яны выконваюць функцыі, аналагічныя суфіксу *-ік-* у словах *батаніка, батанік.* І наадварот, элемент *-метр* сустракаецца як каранёвая марфема ў словах *метрыка, метрычны,* і таму тэрміны, утвораныя пры дапамозе гэтага элемента *(патэнцыяметр, каларыметр, спектрометр),* застаюцца склада-

---

[52] Лексика современного русского литературного языка. М., 1988. С. 155—156.

[53] Шанский Н. М. Очерки по русскому словообразованию: Автореф. дис. ... докт. филол. наук. М., 1960. С. 30.

нымі словамі[54]. Трансфармацыя адной з асноў (аднаго з каранёў) складанага слова спачатку ў афіксоід, а затым і ў афікс — яшчэ адна з форм уплыву лексікі на словаўтварэнне.

4. Змяненне слоўнікавага саставу ва ўзаемадзеянні з рознымі сацыяльнымі і ўнутрымоўнымі фактарамі прывяло да змен у традыцыйных спосабах утварэння новых слоў — павышэння прадуктыўнасці адных словаўтваральных тыпаў і зніжэння другіх. Пры гэтым спалучэнне розных фактараў у кожным асобным выпадку было своеасаблівым.

Прасочваецца гэта пры аналізе канкрэтных словаўтваральных тыпаў.

Па-першае, абумоўленая карэннымі сацыяльнымі пераўтварэннямі ў СССР, павышэннем ролі асобы ў грамадстве, развіццём новых галін навукі, тэхнікі, народнай гаспадаркі, спецыялізацыяй вытворчых працэсаў заметна ўзрасла прадуктыўнасць тых суфіксаў, што служаць для ўтварэння назваў асоб па прафесіі, роду заняткаў, партыйнай прыналежнасці, палітычных поглядах і інш. Гэта можна сказаць пра суфіксы **-нік:** *аглядальнік, адыходнік, аднаасобнік, безбілетнік, вандроўнік, воднік, вячэрнік, дружыннік, дыпломнік, завочнік, калгаснік, крамнік, палярнік, саветнік, сезоннік, ударнік, чыгуначнік* і інш.; **-ец, -енец:** *абаронец, адшчапенец, акружэнец, ардэнаносец, бамавец, байкапісец, вайсковец, вылучэнец, гуртковец, забеспячэнец, заўкомавец, камсамолец, ленінец, маладагвардзеец, мічурынец, нахімавец, навучэнец, партыец, рабфакавец, службовец, стаханавец, чырванагвардзеец;* **-чык, -шчык:** *абкатчык, абліцоўшчык, арматуршчык, атамшчык, аўтагеншчык, бетоншчык, брашуроўшчык, варсавальшчык, велагоншчык, доменшчык, зімоўшчык, знімшчык, мінамётчык, нарміроўшчык, наладчык, пракатчык, разведчык, сігнальшчык, фехтавальшчык, фармоўшчык, фрэзероўшчык, чысцільшчык;* **-іст, -ыст:** *абсалютыст, актывіст, аптыміст, артылерыст, анархіст, гандбаліст, лінгвіст, марксіст, медаліст, нацыяналіст, парашутыст, турыст, рацыяналіст, сувязіст, шахматыст, шпажыст, эканаміст* і інш. Значную долю сярод гэтых слоў складаюць уласна беларускія наватворы.

Па-другое, актывізаваўся працэс утварэння назоўнікаў (звычайна са зніжанай стылістычнай афарбоўкай)

[54] Лейчик В. М. Люди и слова. М., 1982. С. 75.

на аснове словазлучэння «прыметнік+назоўнік» пры дапамозе суфіксаў *-к-а, -оўк-а, -ушк-* і інш.: *адзіночка* (адзіночная спартыўная лодка; адзіночная камера), *азімка* (азімая пшаніца), *ананімка* (ананімнае пісьмо), *аператыўка* (аператыўная зводка), *бязгучка* (бязгучная вінтоўка), *васьмігодка* (васьмігадовая школа), *газіроўка* (газіраваная вада), *гравейка* (гравейная дарога), *дывізіёнка* (дывізіённая газета), *зенітка* (зенітная гармата), *курылка* (курыльны пакой), *лесапілка* (лесапільны завод), *легкавушка* (легкавая машына), *маторка* (маторная лодка), *прагрэсіўка* (прагрэсіўная аплата), *раёнка* (раённая газета), *раздзявалка* (раздзявальны пакой), *фальшыўка* (фальшывая папера, пісьмо), *цыркулярка* (цыркулярная піла), *шматтыражка* (шматтыражная газета), *электрычка* (электрыфікаваная чыгунка, электрапоезд) і інш. Усё часцей адзначаюцца новыя ўтварэнні з суфіксам *-к-а* на беларускім матэрыяле: — *Што будзе ўяўляць сабой мінская падземка, якія яе маршруты?* (Звязда. 26.III 1977); *Драматург распрацоўваў і сучасную тэматыку — оперныя лібрэта... і аднаактоўкі* (ЛіМ. 16.XI 1979) і інш.

Па-трэцяе, ажывіўся працэс утварэння назоўнікаў шляхам субстантывацыі па існуючых мадэлях. Найбольш заметна ён праяўляецца ў пераходзе прыметнікаў жаночага роду ў назоўнікі, што абазначаюць розныя службовыя памяшканні, аддзелы ўстаноў, арганізацый і пад.: *агрэгатная, апаратная, аперацыйная, ардынатарская, багажная, бойлерная, бройлерная, буравая, ванная, гасціная, душавая, дыктарская, дыспетчарская, закусачная, знімачная, камендандцкая, кампрэсарная, канструктарская, камутатарная, лабаранцкая, пажарная, перавязачная, прарабская, прахадная, прыёмная, пультавая, рататорная, шчытавая* і інш. Неабходнасць у такіх назвах узнікла ў сувязі са спецыялізацыяй прамысловасці, форм бытавога і культурнага абслугоўвання насельніцтва, сродкаў сувязі, уліку і г. д. Так, удасканаленне сістэмы грамадскага харчавання паслужыла стымулам да з'яўлення такіх назваў, як *блінная, булачная, закусачная, катлетная, пельменная, раздатачная, сасісачная, чайная, чабурэчная, шашлычная* і інш. Сярод уласна беларускіх субстантыватаў гэтага тыпу можна назваць такія, як *бульбяная, зборная, настаўніцкая* і інш.

Па-чацвёртае, у працэсе выпрацоўкі беларускіх галіновых тэрміналогій зрабіўся прадуктыўным малавядо-

мы раней спосаб утварэння субстантыватаў для абазначэння класаў, сямействаў, родаў, відаў у сістэматыцы жывёл і раслін: *аднадольныя, аднаклетачныя, аднапражыходныя, акунёвыя, галаваногія, губакветныя, жывародзячыя, крыжакветныя, ласасёвыя, люцікавыя, парнакапытныя, прамакрылыя, рагалісьнікавыя, саламандравыя, тараканавыя, чайкавыя* і інш.

5. Вялікае пашырэнне ў савецкі час атрымалі складанасастаўныя словы рознай семантыкі: а) састаўныя назвы-тэрміны: *вагон-ляднік, горад-герой, дызель-электраход, завод-аўтамат, камбайн-малатарня, канапа-ложак, лётчык-касманаўт, механік-наладчык, плаще-касцюм, плашч-палатка, ракета-носьбіт, тэлефон-аўтамат, хата-чытальня, школа-інтэрнат, эксперт-выпрабавальнік*; б) парныя спалучэнні антанімічнага характару: *купля-продаж, прыёмка-выдача, прыход-расход, экспарт-імпарт* і інш.

З'яўленне ў мове новых словаўтваральных афіксаў і павышэнне прадуктыўнасці асобных традыцыйных словаўтваральных тыпаў аказвае зваротны ўплыў на лексічную сістэму — стымулюе ўтварэнне новых слоў пры дапамозе гэтых афіксаў, а значыць, і актывізацыю адпаведных тыпаў.

## Абагульненні і вывады

1. Лексіка сучаснай беларускай літаратурнай мовы склалася ў працэсе працяглага гістарычнага развіцця і таму генетычна і этымалагічна неаднародная. Умоўна ў ёй вылучаюцца цяпер тры вялікія гістарычныя пласты: 1) спрадвечная лексіка — словы, унаследаваныя праз старажытнарускую мову з папярэдніх эпох; 2) лексіка перыяду беларускай народнасці (XIV—XVIII стст.); 3) лексіка перыяду беларускай нацыі (XIX—XX стст.). У кожным з названых пластоў побач са словамі, што з'явіліся ў выніку арыгінальнага словаўтварэння, трэба адрозніваць спецыфічны пласт слоў, запазычаных з іншых моў і асвоеных па фанетычных, граматычных і лексіка-семантычных законах беларускай мовы.

2. Старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова, сфарміраваўшыся ў XIV—XVIII стст. на аснове старажытнарускай пісьменнасці, з'яўлялася афіцыяльнай мовай Вялікага княства Літоўскага і, функцыяніруючы ў розных жанрава-стылёвых разнавіднасцях, намнога

ўзбагаціла свой спрадвечны лексічны фонд неалагізмамі рознага паходжання: а) словаўтваральнымі (*жердка, пустка, сварка; будовникъ, посланецъ; забойство, загинути; лиходей, старажитность, штодень;*

б) семантычнымі: *баран*[1] 'жывёліна' — *баран*[2] 'двухручны рубанак', *пруд*[1] 'ставок' — *пруд*[2] 'млын', *каморнік* 'землямер';

в) пранікненнямі з мясцовых беларускіх гаворак: *апошні, асілак, берестень, гетаки, геты, дотуль, дыкъ, заспети, кавярзень, литвинъ, мужность, оттуль, покуль, потуль, сачень;*

г) шматлікімі запазычаннямі з іншых моў: *гарнецъ, клумокъ, ляска, постронокъ, рыдель* — з польскай; *амбиция, вершъ, гоноръ, градусъ, литера, материя, орнаментъ, трактатъ, форма* — з лацінскай; *арфа, броваръ, гебель, дахъ, кубель, ланцухъ, обцуги, панчоха, риштунокъ, стадола, трунокъ, фартухъ, цегла, цехъ, шмалецъ, шиба* — з германскіх моў і інш.

Пераважная колькасць гэтых новых слоў была засвоена жывой народнай мовай, адкуль пасля перарыву пісьмовых традыцый яны зноў увайшлі ў новую беларускую літаратурную мову, якая пачала фарміравацца ў XIX ст. на аснове мясцовых гаворак.

3. Дакастрычніцкі перыяд у фарміраванні новай беларускай літаратурнай мовы быў працяглы, але малавыніковы. Асноўным напрамкам у развіцці слоўнікавага саставу на працягу XIX ст. было асваенне лексічных багаццяў народных гаворак па ўсёй беларускай этнічнай тэрыторыі, а з пачатку XX ст.— і актыўнае папаўненне словамі кніжна-тэрміналагічнага і бытавога характару шляхам запазычвання, калькавання іншамоўных слоў і стварэнне ўласна беларускіх неалагізмаў. Шырокі наплыў у літаратурныя тэксты генетычна разнароднай лексікі пры адсутнасці якой-небудзь мэтанакіраванай работы па яе нармалізацыі прыводзіў да непатрэбнай дублетнасці, непаслядоўнасці пры ўжыванні слоў у аналагічных кантэкстах, што парушала сістэмныя адносіны ў лексіцы. Дакастрычніцкі перыяд — гэта этап апрабацыі і накаплення разнародных лексічных элементаў, работа па сістэматызацыі і нармалізацыі якіх была праведзена толькі на наступным этапе развіцця беларускай літаратурнай мовы.

4. Як важнейшую асаблівасць у развіцці лексічнага складу беларускай літаратурнай мовы ў савецкі час

трэба назваць паскоранасць. Парушэнне эвалюцыйнага ходу моўных змяненняў было выклікана неадпаведнасцю паміж рэальнымі магчымасцямі лексікі, набытымі ў дарэвалюцыйны час, і раптоўным павелічэннем патрэбнасцей у сродках намінацыі, абумоўленых рэзкім пашырэннем грамадскіх функцый літаратурнай мовы пасля абвяшчэння Беларусі суверэннай сацыялістычнай рэспублікай. Зрабіўшыся афіцыяльнай, беларуская літаратурная мова павінна была адразу ж, у спешным парадку адлюстраваць усе здабыткі агульначалавечай культуры, знайсці сродкі для слоўнага выражэння ўсіх ідэй, з'яў і паняццяў, якія ў іншыя мовы пранікалі на працягу цэлых стагоддзяў.

5. Узрослыя патрэбы ў сродках намінацыі на працягу савецкага часу задавальняліся ўсімі магчымымі спосабамі і з самых разнастайных крыніц. Адной з асноўных крыніц папаўнення літаратурнай лексікі новымі найменнямі па-ранейшаму заставаўся слоўнік народнадыялектнай мовы. Ён быў не толькі «пастаўшчыком» гатовых слоў, не асвоеных у дарэвалюцыйны час, але і асновай для цэлых катэгорый словаўтваральных і семантычных неалагізмаў, базай для тэрміналогіі. Сярод усіх неалагізмаў 20—30-х гадоў розныя катэгорыі народнадыялектных слоў складалі, па прыблізных падліках, каля 33—35%.

6. Другім важным сродкам задавальнення патрэб намінацыі з'яўляліся словаўтваральныя неалагізмы, сярод якіх найбольшае пашырэнне атрымалі розныя тыпы калек (каля палавіны ўсіх відаў наватвораў) і паўкалек (каля 40%). Чыстыя ўласна беларускія ўтварэнні складаюць толькі каля 10% словаўтваральных неалагізмаў. Гэтыя паказчыкі сведчаць, што ўзбагачэнне беларускай лексікі адбывалася ў цесным узаемадзеянні з высокаразвітымі суседнімі роднаснымі і няроднаснымі мовамі.

7. Значнае месца сярод неалагізмаў савецкага часу займаюць запазычанні з іншых моў. Яны пранікалі ў беларускую мову ў нязменнай форме, калі ў іншамоўным слове нельга было вызначыць марфалагічную будову для калькавання або — пры марфалагічнай падзельнасці — ствараліся цяжкасці для ўзнаўлення структуры слова і яго значэння сродкамі роднай мовы. У лік запазычанняў, акрамя інтэрнацыяналізмаў агульнаеўрапейскага характару, уваходзяць запазычанні з рускай мовы (*савет, лаўсан, прараб*) і іншых моў народаў СССР

*(аул, бандура, курага).* Гэтыя тры катэгоры арэальных інтэрнацыяналізмаў складаюць агульны лексічны фонд моў савецкіх народаў.

8. Не набылі шырокіх маштабаў працэсы ажыўлення лексічных багаццяў старабеларускай пісьменнасці і выпрацоўкі семантычных неалагізмаў. Першы з гэтых працэсаў, зарадзіўшыся яшчэ ў дарэвалюцыйны час, значна ажывіўся ў 20-х гадах, у выніку чаго былі адроджаны і замацаваны ў мове такія старабеларускія словы, як *акт, вакацыі, валока, вязень, дукат, каштарыс, мытня, плён, скарб, павет, статут, тубылец, урад, чынш* і інш., але скора пад уплывам новых тэндэнцый гэты працэс пачаў затухаць. Выкарыстанне лексікі старабеларускай мовы цяпер абмежавана ў асноўным сферай мастацкіх твораў і гістарычных даследаванняў. Праўда, з выхадам першых тамоў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» цікавасць да старабеларускай лексікі зноў пачынае ўзрастаць.

9. Удзельная вага асобных тыпаў неалагізмаў на розных этапах развіцця літаратурнай мовы значна змянялася; адлюстроўваючы змяненне больш агульных тэндэнцый у развіцці лексічнай сістэмы. Так, з канца 30-х гадоў узмацняецца раней абмежаваны рознымі фактарамі прыток у беларускую мову інтэрнацыянальнай і іншамоўнай лексікі. Асабліва заметным ён становіцца ў пасляваенныя гады, не спыняецца і ў наш час. Гэта значыць, што адным з важнейшых напрамкаў у развіцці літаратурнай лексікі з'яўляецца тэндэнцыя да інтэрнацыяналізацыі. Асновай гэтага працэсу былі і застаюцца навукова-тэхнічны прагрэс, змены ў міжнародных адносінах і паглыбленне працэсаў узаемадзеяння паміж мовамі розных народаў.

10. Змены ў лексіцы, як і развіццё мовы ў цэлым, рэгулююцца фактарамі не толькі знешняга, але і ўнутранага парадку. У савецкі час больш актыўна, чым раней, адбывалася ўтварэнне новых слоў для называння ўжо вядомых паняццяў, якія дагэтуль абазначаліся апісальна, устойлівымі словазлучэннямі. Імкненне да замены расчляпёных найменняў асобнымі словамі, якое ў лінгвістычную літаратуру ўвайшло пад тэрмінамі «універбізацыя», «сцяжэнне», «семантычная кандэнсацыя», звязваюць з «тэндэнцыяй да рэгулярнасці ўнутрымоўных адносін» (Д. М. Шмялёў) і тэндэнцыяй да эканоміі моўных сродкаў.

Найбольш яркае праяўленне тэндэнцыя да універбізацыі знайшла ў савецкі час ва ўзнікненні і пашырэнні такога спосабу ўтварэння новых слоў, якім з'яўляецца абрэвіяцыя. Гэтым спосабам ад разгорнутых найменняў утвораны тысячы новых слоў-абрэвіятур самай разнастайнай структуры: частковаскарочаныя (*медсястра*), складанаскарочаныя з падзелам на складовыя і ініцыяльныя (*прафком, БАМ*), тэлескапічныя (*мапед*), кантрактуры (*рацыя*), складанаскарочаныя словы змешанага тыпу (*эсмінец, педВНУ*) і інш. Гэта тэндэнцыя захоўваецца і ў пашырэнні асобных тыпаў суфіксальнага словаўтварэння, напрыклад ва ўзнікненні аднаго слова на месцы словазлучэння «прыметнік+назоўнік» ад асновы прыметніка з дапамогай суфіксаў *-к-, -ік-, -нік-, -шчык-, -ушк-, -як-* (*маторная лодка — маторка, таварны поезд — таварняк*); у актывізацыі такіх спосабаў словаўтварэння, як субстантывацыя (*настаўніцкі пакой — настаўніцкая*), словаскладанне (*гразелячэбніца*), утварэнне складанасастаўных (бінарных) назваў (*фабрыка-кухня, купля-продаж*) і інш.

11. Узбагачэнне лексікі вялікай колькасцю ўласна беларускіх наватвораў і запазычанняў выклікала заметныя змены ў сумежных ярусах моўнай структуры, асабліва ў словаўтваральнай сістэме. З'явіліся дзесяткі новых марфем, пераважна інтэрнацыянальных прэфіксаў і суфіксаў: *анты-, архі-, дыс-, дэ-, контр-, рэ-; -ірава-, -ізава-, -фікава-, -іян-, -ствава-*, многія з якіх зрабіліся прадуктыўнымі. Невытворныя грэка-лацінскія асновы, што ўжываюцца ў якасці прэпазіцыйных частак у складаных словах (*аўта-, аэра-, бія-, геа-, гідра-, кіна-, мота-, фота-, электра-; -логія, -граф, -скоп, -наўт, -дром, -філ*), у апошні час выяўляюць тэндэнцыю да пераходу ў афіксы.

12. Адлюстраваўшы вялікія змены, што адбыліся ў жыцці грамадства, лексіка беларускай літаратурнай мовы змянілася не толькі ў колькасных, але і ў якасных адносінах. Папоўніліся новымі аб'яднаннямі слоў важнейшыя лексіка-граматычныя катэгорыі. Склаліся новыя сінанімічныя рады (*водалячэнне — водатэрапія, спонсар — фундатар*), антанімічныя пары (*аграмаджванне — прыватызацыя*), аманімічныя і паранімічныя групы (*бор*[1] 'лес' — *бор*[2] 'хімічны элемент' — *бор*[3] 'свердзел для лячэння зубоў'; *дрэўца — дрэўка*) і інш.

Адначасова з папаўненнем новымі словамі адбываўся

адбор і замацаванне лексічных сродкаў за пэўнымі сферамі ўжывання. Знік былы сінкрэтызм лексічнага складу. У працэсе фарміравання функцыянальных стыляў досыць выразна акрэсліліся пласты кніжнай, нейтральнай і размоўнай лексікі, што было выклікана пераразмеркаваннем функцый паміж членамі многіх сінанімічных радоў. Афарміліся ў асноўных рысах сістэмы навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, адышлі ў пасіўны запас, у катэгорыю гістарызмаў і архаізмаў словы-тэрміны, што абазначалі рэаліі старога ўкладу жыцця ў дарэвалюцыйнай Расіі: назвы некаторых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, устаноў, пасад, прадметаў культу, быту і інш. (*губерня, земства,ураднік, соцкі, карчма, аналой, прычасце*). Адбылося размежаванне семантыкі паміж кампанентамі многіх сінанімічных радоў, удакладненне значэнняў многіх слоў (параўн.: *любоў — каханне, гарнітур — касцюм*), праявіліся зрухі ў словаўтваральнай сістэме і спалучальнасці слоў. Па меры росту культурных запатрабаванняў грамадства працэс узбагачэння і ўдасканалення лексічнага складу будзе працягвацца.

# Частка 2

# СІСТЭМНА-СЕМАСІЯЛАГІЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА БЕЛАРУСКАЙ ЛЕКСІКІ

## Уступныя заўвагі: Праблема сістэмнай арганізацыі мовы ў сучаснай лінгвістыцы

Тэрмінам «сістэма» карыстаюцца цяпер спецыялісты ўсіх галін навукі. Пры гэтым у шырокім, агульнатэарэтычным плане пад сістэмай разумеецца ўсякі цэласны аб'ект, які складаецца з элементаў, звязаных паміж сабой узаемнымі адносінамі і ўзаемнай абумоўленасцю. Прыкладамі сістэм з розных галін навукі могуць служыць батанічная сістэма Лінея, метрычная сістэма мер, сістэма органаў дыхання, сонечная сістэма, фанетычная сістэма мовы і пад.

Ідэя сістэмнасці мовы развівалася паступова. Чыста эмпірычнае разуменне мовы як сістэмы было характэрна ўжо даструктурнаму мовазнаўству. Вычляненне часцін мовы і іх катэгорый, распачатае яшчэ антычнымі філосафамі, спосабы падачы моўнага матэрыялу ў форме парадыгм сведчаць, што складальнікамі граматык мова ўспрымалася як своеасаблівае адзінства, аб'яднаўшае больш прыватныя адзінствы.

Пра мову як «арганізм» пісаў заснавальнік тэарэтычнага мовазнаўства нямецкі філолаг-мысліцель В. Гумбальд. Заметны ўклад у пазнанне сістэмных уласцівасцей мовы ўнесла параўнальна-гістарычнае мовазнаўства. Пазней ідэі І. А. Бадуэна дэ Куртэнэ, якому належаць паняцці фанемы, марфемы, графемы, сінтагмы, лексемы, стварылі патэнцыяльныя магчымасці для вывучэння мовы як многаступеньчатай, але цэласнай сістэмы[1].

---

[1] Общее языкознание: Внутренняя структура языка. М., 1972. С. 31—32, 36.

Тэарэтычна сістэмны характар мовы абгрунтаваў швейцарскі філолаг Ф. дэ Сасюр, увёўшы паняцце суадноснай значымасці (цэннасці) адзінак мовы, а таксама паняцці сінтагматычных і асацыятыўных (парадыгматычных) адносін паміж адзінкамі мовы. Ён сцвярджаў, што «мова ёсць сістэма, усе элементы якой утвараюць цэлае, а значымасць аднаго элемента вынікае толькі з адначасовай наяўнасці іншых»[2]. З гэтага часу кожная адзінка мовы пачынае асэнсоўвацца не толькі сама па сабе, але і ў адносінах да больш буйных адзінак, у склад якіх яна ўваходзіць, а таксама і больш дробных, якія ўваходзяць у яе ўласны састаў. Інакш кажучы, мова пачынае разглядацца як сістэма сістэм (падсістэм).

Ідэя сістэмнасці мовы ў апошні час зрабілася як быццам агульнапрызнанай. Аднак важнейшыя ключавыя тэрміны («сістэма», «структура», «элемент сістэмы»), якія вынікаюць з дэфініцыі паняцця «сістэма», атрымалі рознае філасофска-метадалагічнае асэнсаванне.

У дачыненні да мовы тэрміны «сістэма» і «структура» былі вядомы з XVIII ст., хоць за імі яшчэ не стаялі дакладна акрэсленыя лінгвістычныя паняцці. Тэрмінам «сістэма» ў свой час карыстаўся Ф. дэ Сасюр, тэрмін «структура» прынялі лінгвісты пражскай школы, паклаўшы пачатак новаму навуковаму напрамку — структуралізму. Пазней гэтыя тэрміны пачалі па-рознаму асэнсоўвацца рознымі даследчыкамі, у тым ліку і савецкімі. Адны аўтары ўжывалі абодва тэрміны як сінонімы (Р. А. Будагаў і інш.), другія прапаноўвалі замацаваць кожны тэрмін за асобнымі (рознымі) паняццямі: сістэма — адзін узровень мовы, а структура — этажэрка ўзроўняў (А. А. Рэфармацкі), сістэма — у лексіцы, а структура — у сінтаксісе (Г. У. Калшанскі) і г. д.

Большасць сучасных лінгвістаў строга размяжоўвае гэтыя тэрміны і дае ім канкрэтнае азначэнне: «Пад сістэмай трэба разумець любое складанае адзінства, утворанае з узаемазвязаных або ўзаемаабумоўленых частак — элементаў, увасобленых у рэальную субстанцыю і маючых канкрэтную схему ўзаемасувязей (адносін), г. зн. структуру. Значыць, структура — гэта хоць і важнейшая, але толькі адна з характарыстык сістэмы. Другой, не менш важнай характарыстыкай сістэмы з'яў-

[2] Соссюр Ф. де. Труды по языкознанию. М., 1977. С. 147.

ляецца яе субстанцыя»[3]. «Сукупнасць структуры і элементаў складае сістэму»,— падкрэслівае Ю. С. Сцяпанаў[4].

Патрабуе ўдакладнення і тэрмін «элемент сістэмы». Цяпер вылучаецца мноства адзінак мовы: гукі, фанемы, марфемы, словы, фразеалагізмы, словазлучэнні, сказы і інш. Узнікае пытанне: якія ж з гэтых адзінак з'яўляюцца элементамі сістэмы мовы?

Паколькі асноўнай функцыяй мовы з'яўляецца камунікатыўная, разважае З. Д. Папова, то і элемент яе сістэмы павінен быць камунікатыўным, г. зн. несці пэўны самастойны адрэзак інфармацыі. «Такой адзінкай, па агульнаму прызнанню, з'яўляецца слова. Са слоў як элементаў ствараецца ўся сістэма мовы, але ў той час асобныя словы самі могуць разглядацца як сістэмы семантычных кампанентаў і фанем, а злучэнні слоў, іх блокі рознай структуры могуць быць элементамі іншых падсістэм, напрыклад сінтаксічнай. Слова адпавядае і ўсім патрабаванням знакавай сітуацыі, у той час як іншыя адзінкі мовы адпавядаюць толькі асобным яе аспектам. Гэта таксама падтрымлівае разуменне слова як элемента сістэмы мовы, у той час як іншыя адзінкі мовы могуць прэтэндаваць, відавочна, на ролю элементаў яе асобных падсістэм»[5] (фанетычнай, марфалагічнай, сінтаксічнай). Такім чынам, мова — гэта сістэма, у якой вылучаюцца элементы (словы — з іх гукавой і сэнсавай субстанцыяй) і структура — як сукупнасць устойлівых узаемаадносін паміж элементамі сістэмы, схема сувязей паміж імі.

Структурныя адносіны паміж элементамі мовы вельмі разнастайныя і поўнасцю яшчэ не вывучаны. Адносіны паміж двума элементамі сістэмы называюцца апазіцыяй. Кожная адзінка сістэмы можа ўваходзіць у мноства апазіцый, у выніку чаго ствараюцца цэлыя групы і класы элементаў. Злучаючыся і перасякаючыся адны з другімі, гэтыя групы і класы ўтвараюць сістэму мовы.

Самымі універсальнымі відамі адносін, у якія можа патэнцыяльна ўступаць кожны элемент, кожная адзінка

---

[3] Мельников Г. П. Системная лингвистика и ее отношение к структурной // Проблемы языкознания: (Докл. и сообщ. сов. учен. на X Междунар. конгрессе лингвистов). М., 1967. С. 98.

[4] Степанов Ю. С. Основы общего языкознания. М., 1975. С. 228.

[5] Попова З. Д. Общее языкознание: Учеб. пособие. Воронеж, 1987. С. 80.

мовы, з'яўляюцца: 1) іерархічныя, 2) сінтагматычныя і парадыгматычныя, 3) варыянтныя.

1. Мова — гэта складаная сістэма сістэм (падсістэм), якія размешчаны не ў адной плоскасці, а як бы накладваюцца адна на адну ў парадку ад ніжэйшай да вышэйшай. Адпаведна асноўным тыпам моўных адзінак (фанема, марфема, слова, сказ) вылучаюцца чатыры ўзроўні мовы — фанетычны, марфалагічны, лексічны, сінтаксічны.

У межах узроўневай мадэлі мовы ўсе ўзроўні размешчаны ў напрамку знізу ўверх. Адносіны паміж адзінкамі сумежных узроўняў тлумачацца як адносіны сродку і функцыі. Усякая адзінка мовы звязана з адзінкамі ніжэйшага ўзроўню па свайму афармленню і з адзінкамі вышэйшага ўзроўню па сваёй функцыі. Адзінкі ніжэйшага ўзроўню ў адносінах да вышэйшага з'яўляюцца сродкамі афармлення, а ў адзінках вышэйшага ўзроўню любая адзінка рэалізуе свае функцыі, выступаючы ў якасці састаўных частак.

Напрыклад, у «напластаванні» моўных узроўняў лексічны ўзровень апіраецца на марфалагічны і папярэднічае ўзроўню сінтаксічнаму. Адпаведна гэтаму марфемы з'яўляюцца сродкамі афармлення слова, а словы — сродкамі афармлення сказа. І наадварот, слова выконвае ўсю паўнату сваіх функцый толькі ў сказе, а марфема — толькі ў саставе слова. На аснове гэтага ўзнікае магчымасць трохбаковага падыходу да слова: як да адзінкі лексічнага ўзроўню, як да комплексу марфем — з боку марфалогіі і як да састаўных частак сказа — з боку сінтаксісу[6]. У гэтым і заключаецца іерархічнасць мовы як складанай сістэмы сістэм.

2. Ужо гаварылася, што паняцці сінтагматычных і парадыгматычных адносін звязаны з імем Ф. дэ Сасюра, які сфармуляваў іх як асноўныя віды адносін, што існуюць паміж элементамі мовы. Адносіны элементаў у лінейнай паслядоўнасці Сасюр назваў сінтагматычнымі, адносіны паміж элементамі як членамі розных класаў — асацыятыўнымі (у тэрміналогіі сучаснай лінгвістыкі — парадыгматычнымі). Паняцце парадыгматычных адносін звычайна звязваюць цяпер з характарыстыкай уласна мовы, а паняцце сінтагматычных адносін — з характарыстыкай маўлення. Між тым, заўважае В. М. Сонцаў,

[6] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. М., 1989. С. 9.

абодва гэтыя віды адносін уласцівы элементам мовы і, значыць, характарызуюць мову ў цэлым, хоць, праўда, і ў розных аспектах: мова як сродак (па-за функцыяніраваннем) характарызуецца перш за ўсё асацыятыўнымі (парадыгматычнымі) адносінамі паміж элементамі. Сінтагматычныя адносіны, пры такім поглядзе, выступаюць у якасці нерэалізаванай здольнасці элементаў спалучацца між сабой у лінейных паслядоўнасцях. Мова як функцыяніруючы сродак (у форме маўлення) перавodзіць уласцівую элементам здольнасць да лінейнай спалучальнасці ў актыўныя сінтагматычныя адносіны. Пры гэтым элементы мовы нясуць у сабе патэнцыяльную здольнасць утвараць класы, або парадыгмы.

Сінтагматычныя адносіны, калі яны ўяўляюць сабой іменна адносіны, а не некаторую здольнасць, заўсёды характарызуюцца момантам рэальнага ўзаемадзеяння. Парадыгматычныя адносіны не характарызуюцца момантам узаемадзеяння, паколькі па сваёй сутнасці яны з'яўляюцца адносінамі паміж членамі розных груп, «якія ўтвараюцца па разумовай асацыяцыі» (Ф. дэ Сасюр). Парадыгматычныя адносіны можна інакш назваць унутрыкласавымі адносінамі паміж элементамі, якія складаюць адзін клас.

Будучы проціластаўленымі, сінтагматычныя і парадыгматычныя адносіны ў той жа час прадугледжваюць і абумоўліваюць адны другіх[7]. Двума відамі гэтых адносін вызначаюцца два статусы слоў: статус слоў-назваў, або слоў-анаматэм, і статус сінтаксічных слоў, або слоў-сінтагм як адзінак маўлення. Слова-анаматэма — гэта адзінка лексічнай сістэмы, якая мае самастойны змест незалежна ад рэалізацыі ў кантэксце і выконвае намінатыўную функцыю. Парадыгматычнымі адносінамі словы звязваюцца паміж сабой іменна ў анаматэмным сваім статусе.

3. У аснове адносін варыянтнасці, гаворыць Э. В. Кузняцова, ляжыць тое, што «мова ў сілу сваёй індывідуальна-грамадскай прыроды існуе «ў дзвюх асобах»: сістэмы і маўлення, што абумоўлівае дваістасць статуса яе адзінак, якія існуюць у выглядзе інварыянтных абстракцый, ствараючы глыбінную аснову моўнай сістэмы, і ў выглядзе варыянтаў, якія прадстаўляюць гэтыя аб-

---

[7] Солнцев В. М. Язык как системно-структурное образование. М., 1977. С. 68—69.

страктныя адзінкі ў маўленні»[8]. На фанетычным узроўні, напрыклад, інварыянтнай (абстрагаванай) адзінкай будзе фанема, а яе мадыфікацыі ў маўленні — варыянтамі фанемы, на марфалагічным — адпаведна марфема і яе аламорфы. На лексічным узроўні адносіны варыянтнасці праяўляюцца ў фанетыка-граматычных формах слова (параўн.: *кмен — кмін, зал — зала, пісаць — пішу — пішаш*), а таксама ў змяненнях семантыкі (з'ява полісеміі).

Адзначаныя найбольш універсальныя тыпы структурных сувязей паміж моўнымі адзінкамі (іерархічныя, парадыгматычныя, сінтагматычныя, варыянтныя) пранізваюць усе ўзроўні мовы, і гэта з'яўляецца дастатковай падставай для тэарэтычнага асэнсавання мовы як складанай, але адзінай сістэмы. Прызнанне мовы як складанай сістэмы павінна само сабой быць перанесена і на лексіку, паколькі нельга ўявіць сабе сістэму, адны часткі якой былі б сістэмныя, а другія несістэмныя. Разам з тым вырашэнне праблемы сістэмнасці на лексічным узроўні, які характарызуецца зменлівасцю і шматлікасцю сваіх адзінак, мае свае спецыфічныя асаблівасці ў параўнанні з іншымі ўзроўнямі. Раскрыццю гэтай спецыфікі прысвячаюцца тры наступныя раздзелы манаграфіі.

---

[8] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 11.

## Раздзел I

# ПАРАДЫГМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ Ў ЛЕКСІЦЫ

### § 1. ФАРМАЛЬНА-СЕМАНТЫЧНАЯ СТРУКТУРА СЛОВА

Асноўнай рысай парадыгматычных адносін у лексіцы з'яўляецца тое, што яны аб'ядноўваюць словы ў групы без уліку ўжывання гэтых слоў у кантэксце, г. зн. на аснове асацыятыўных сувязей паміж словамі. Адносна гэтага Ф. дэ Сасюр пісаў: «З аднаго боку, словы ў маўленні, утвараючы ланцужок, уступаюць паміж сабой у адносіны, заснаваныя на лінейным характары мовы, які

выключае магчымасць вымаўлення двух элементаў адразу... Такія спалучэнні, якія апіраюцца на працягласць, могуць быць названы сінтагмамі... З другога боку, па-за моўным працэсам словы, якія маюць паміж сабой штонебудзь агульнае, асацыіруюцца ў памяці так, што з іх утвараюцца групы, унутры якіх выяўляюцца вельмі разнастайныя адносіны»[1]. Значыць, для таго, каб вывучаць парадыгматычныя аб'яднанні слоў, неабходна вылучыць у словах агульныя і адрознівальныя прыметы, фармальныя або семантычныя. У сувязі з гэтым узнікае неабходнасць яшчэ раз акрэсліць некаторыя паняцці, звязаныя з фармальнай і семантычнай структурай слова.

Слова як асноўная, базавая адзінка мовы мае знешнюю форму — план выражэння і ўнутраную форму — план зместу. Комплекс марфем утварае знешнюю абалонку слова — л е к с е м у, комплекс семантычных кампанентаў, або сем[2], складае лексічнае значэнне слова — с е м е м у. Інакш кажучы, абодва бакі слова-анаматэмы маюць камбінаторны характар: лексема складаецца з марфем, семема — з семантычных кампанентаў — сем. Лексема і семема звязаны паміж сабой адносінамі маніфестацыі. Лексема выражае семему, семема выражаецца лексемай. У такой сувязі і заключаецца сутнасць слова-знака[3].

Семы, з якіх складваецца змест лексічных значэнняў, суадносяцца з прыметамі адпаведных паняццяў. Прыметы ж паняццяў у сваю чаргу адлюстроўваюць прыметы з'яў рэчаіснасці, і таму семы ў сваёй аснове маюць пазамоўную прыроду. Адрозніваюцца семы перш за ўсё ў залежнасці ад той ролі, якую яны выконваюць у структуры семемы. У гэтай структуры вылучаюцца самыя агульныя семы, якім падпарадкаваны астатнія, менш агульныя. Найбольш агульныя семы — гэта семы граматычнага характару, напрыклад сема 'прадмет' у назоўніках, сема 'прымета' ў прыметніках, сема 'дзеян-

---

[1] Соссюр Ф. де. Курс общей лингвистики. М., 1933. С. 121.

[2] Сема (ад грэч. *sema* — знак) — найменшая адзінка плана зместу, якая з'яўляецца элементарным адлюстраваннем у мове розных асаблівасцей абазначаемых прадметаў і з'яў рэчаіснасці. Сема рэалізуецца як кампанент семемы — элементарнага значэння слова, або лексіка-семантычнага варыянта слова.

[3] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. М., 1989. С. 40—41.

не' ў дзеясловах. На аснове гэтых самых агульных сем граматычнага характару вылучаюцца найбольш значныя парадыгматычныя класы слоў — аб'яднанні слоў па часцінах мовы. Агульныя семы граматычнага характару выражаюцца формаўтваральнымі марфемамі, якімі з'яўляюцца пераважна канчаткі.

Агульныя граматычныя семы ўдакладняюцца з дапамогай сем лексіка-граматычнага характару, якія вылучаюцца ў лексічных значэннях слоў адной часціны мовы, але не з'яўляюцца аднолькавымі для ўсіх гэтых слоў. Скажам, у значэнні назоўніка *стол* агульная граматычная сема 'прадмет' удакладняецца лексіка-граматычнай семай 'неадушаўлёнасць', а ў назоўніку *брат* — семай 'адушаўлёнасць'. У прыметніку *бацькаў*, напрыклад, граматычная сема 'прымета' канкрэтызуецца лексіка-граматычнай семай 'прыналежнасць', у прыметніку *цагляны* — семай 'адноснасць', у прыметніку *дужы* — семай 'якаснасць'.

Менш агульнымі з'яўляюцца ўласна лексічныя семы, сярод якіх таксама вылучаюцца галоўныя, дамініруючыя (яны называюцца звычайна катэгарыяльна-лексічнымі) і залежныя, падпарадкаваныя, якія ўдакладняюць, канкрэтызуюць іх, ствараюць індывідуальнасць слоў і таму называюцца дыферэнцыяльнымі. Акрамя катэгарыяльных і дыферэнцыяльных сем у значэнні асобных слоў могуць быць і патэнцыяльныя семы [4].

Структуру лексічнага значэння слова можна паказаць у выглядзе пэўнага набору і камбінацыі сем. Так, семная структура слова *квас* можа быць прадстаўлена прыкладна ў такім плане: 1) прадмет (граматычная сема); 2) рэчыва (лексіка-граматычная сема); 3) у выглядзе вадкасці для піцця (катэгарыяльна-лексічная сема); 4) кіславатай; 5) прыгатаванай са ржаного хлеба або ржаной мукі з соладам (семы 4, 5 — дыферэнцыяльныя). У якасці патэнцыяльных тут могуць выступаць семы 'свежы', 'пеністы' і пад.

Семную структуру гэтага слова можна паказаць у выглядзе схемы, абазначыўшы розныя семы адпаведнымі літарнымі індэксамі: КГ — катэгарыяльна-граматычная, ЛГ — лексіка-граматычная, КЛ — катэгарыяльна-лексічная, ПГ — прыватна-граматычная, ДК — ды-

[4] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 33—34.

ферэнцыяльна-канкрэтызуючая, Пат. — патэнцыяльная:




Як відаць, структура паняційнай часткі лексічных значэнняў слоў уяўляе сабой камбінацыю (іерархію) функцыянальна розных сем, звязаных адносінамі ўдакладнення. У склад лексічнага значэння слова ўваходзяць таксама семантычныя кампаненты стылістычнага і эмацыянальна-ацэначнага характару, якія складаюць канататыўную частку лексічных значэнняў.

Кампаненты лексемы і сememы знаходзяцца ў складаных, неадназначных адносінах. Паміж імі няма поўнай адпаведнасці. Агульныя семы граматычнага характару, як ужо адзначалася, знаходзяць сваё пастаяннае выражэнне ў лексеме. Яны выражаюцца формаўтваральнымі марфемамі, якія пераважна з'яўляюцца канчаткамі. Уласна лексічныя семы не маюць спецыяльных сродкаў для свайго выяўлення, і таму лексема служыць пераважна для нерасчлянёнага выражэння ўсяго зместу слова. Невыпадкова, што найбольш важнай уласцівасцю слова лічыцца ідыяматычнасць, нерасчлянёнасць семан-

тычных кампанентаў на кампаненты формы слова. Аднак гэта зусім не выключае рознай ступені семантычнай расчлянёнасці/нерасчлянёнасці слоў і рознай ступені суадноснасці сем з марфемамі. У прыметніку *дадатковы*, напрыклад, семантычныя кампаненты 'які з'яўляецца дадаткам', 'дабаўлены да чаго-н.' досыць выразна суадносяцца з прыстаўкай, коранем і суфіксам, а ў прыметніку *дадатны* семантычныя кампаненты (1. 'добры, станоўчы'; 2. 'большы за нуль' і інш.) ужо не матывіруюцца марфалагічнымі кампанентамі.

Яшчэ больш складанымі з'яўляюцца адносіны паміж лексемай мнагазначнага слова і яго семемамі, або лексіка-семантычнымі варыянтамі (далей ЛСВ). Сукупнасць семем адной лексемы называюць с е м а н т э м а й. Семантэма з'яўляецца мікраструктурай у лексіка-семантычнай сістэме мовы. Суадносіны семантэмы, семемы і наступнага па ўзроўню семантычнага кампанента семемы—семы ў даследаваннях[5] паказваюцца такім чынам:




## § 2. АСНОЎНЫЯ ТЫПЫ СЛОЎНЫХ АПАЗІЦЫЙ ПА СЕМЕМАХ І ЛЕКСЕМАХ

У аснове парадыгматычных адносін паміж лексічнымі адзінкамі ляжыць падабенства па адных кампанентах іх структуры і проціпастаўленасць па другіх кампанентах. Калі такога падабенства або адрознення няма, то гэта значыць, што парадыгматычнымі адносінамі словы не звязаны. «Проціпастаўленне (апазіцыя),— гаварыў М. С. Трубяцкой,— мае сваёй прадпасылкай не толькі прыметы, якімі адрозніваюцца члены апазіцыі адзін ад другога, але і прыметы, якія з'яўляюцца агуль-

[5] Гл.: Попова З. Д., Стернин И. А. Лексическая система языка. Воронеж, 1984. С. 33.

нымі для абодвух членаў апазіцыі. Такія прыметы можна лічыць «асновай для параўнання». Дзве рэчы, якія не маюць асновы для параўнання, або, другімі словамі, якія не маюць ні адной агульнай прыметы (напрыклад, *чарнільніца* і *свабода волі*), ніяк не могуць быць проціпастаўлены адна другой»[6].

Парадыгматычныя сувязі слоў і формы іх праяўлення бываюць вельмі разнастайныя, ад мінімальных да максімальных. Мінімальнымі праяўленнямі гэтых адносін прызнаюцца слоўныя апазіцыі, максімальнымі — класы слоў.

С л о ў н а я а п а з і ц ы я — гэта два словы, падобныя адно да другога па якіх-небудзь кампанентах і адначасова розныя ў чым-небудзь. Словы могуць быць падобнымі па форме (пры наяўнасці ў іх агульных марфем), па значэнню (пры наяўнасці ў іх семемах агульных сем) і адначасова — па форме і па значэнню. Адпаведна гэтаму адрозніваюцца тры асноўныя віды слоўных апазіцый: фармальныя, семантычныя і фармальна-семантычныя[7].

Ф а р м а л ь н ы я а п а з і ц ы і ўзнікаюць паміж словамі, якія маюць агульныя марфемы, але розную семантыку. Так, у дзеясловах *даймаць* і *наймаць* ёсць агульная марфема *-ім-*, але ў іх значэннях няма агульных сем.

С е м а н т ы ч н ы я а п а з і ц ы і аб'ядноўваюць словы, у складзе якіх няма агульных марфем, акрамя граматычных, але ёсць агульныя семы. Параўн.: *возера* 'натуральны замкнуты ў берагах вадаём' і *вадасховішча* 'штучны вадаём для збору і захавання вады'. Тут агульнай, ідэнтыфіцыруючай для абедзвюх семем з'яўляецца сема 'вадаём', а дыферэнцыруючымі — семы 'натуральны', 'замкнуты ў берагах' — для слова *возера* і 'штучны', 'для збору і захавання вады' — у слове *вадасховішча*.

У ф а р м а л ь н а-с е м а н т ы ч н ы я а п а з і ц ы і ўступаюць словы, якія маюць падобныя кампаненты і ў форме і ў значэнні, напр.: *сінець — сінецца*. З фармальнага боку гэтыя словы падобны па каранёвай марфеме *сін-* і суфіксальнай *-ец-*, а ў семантычных адносінах іх збліжае сема 'вылучацца сваім сінім колерам'.

---

[6] Трубецкой Н. С. Основы фонологии. М., 1960. С. 75.
[7] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 43.

У залежнасці ад ступені супадзення фармальных і семантычных кампанентаў у сваю чаргу вылучаюцца яшчэ чатыры тыпы апазіцый: апазіцыя тоеснасці, або нулявая апазіцыя; прыватыўная, або апазіцыя ўключэння; эквіпалентная, або апазіцыя перасячэння; дыз'юнктыўная, або апазіцыя несумяшчальнасці, узаемавыключэння.

Узорам апазіцыі тоеснасці ў фармальным плане могуць служыць амонімы: *міна*[1] 'выраз твару' — *міна*[2] 'разрыўны снарад', *нота*[1] 'музычны тэрмін' — *нота*[2] 'дыпламатычны тэрмін'. У семантычным плане гэтыя амонімы падабенства не маюць, а па форме яны аднолькавыя (тоесныя). Прыкладам семантычных апазіцый тоеснасці можна назваць абсалютныя (поўныя) сінонімы, напр.: *абярэмак — ахапак, капшук — кісет, кугуар — пума* і інш.

Прыватыўныя апазіцыі маюць у сваёй аснове такія суадносіны кампанентаў двух слоў, калі адно слова як бы ўключаецца ў другое слова, у якім, акрамя агульнай часткі, ёсць яшчэ спецыфічна ўласная, дыферэнцыяльная. Прыватыўныя апазіцыі могуць выяўляцца ў фармальных, семантычных і ў фармальна-семантычных сувязях слоў.

Фармальныя апазіцыі выяўляюцца пераважна ў этымалагічных сувязях слоў, якія ў сучаснай мове страцілі семантычную блізасць. Параўн.: *корм — скорам, стол — сталовая, стол — прастол, стол — сталіца* і інш. У гэтых парах аснова другога слова ўключае ў сябе корань першага і адрозніваецца прыстаўкай або суфіксам, аднак семантычныя сувязі паміж імі ў сучаснай беларускай мове ўжо распаліся.

Семантычныя апазіцыі прыватыўнага тыпу ў арганізацыі лексічнай сістэмы адыгрываюць больш значную ролю. Яны рэалізуюцца ў проціпастаўленнях слоў, звязаных рода-відавымі адносінамі, а таксама ў адносінах паняційных, стылістычных і семантыка-стылістычных сінонімаў, напр.: *злосць — гнеў* 'вялікая злосць', *ударыць — гакнуць* 'ударыць з вялікай сілай+разм.' Другі кампанент кожнай пары тут поўнасцю ўключае семантыку першага слова і, акрамя таго, мае дадатковыя спецыфічныя рысы.

Фармальна-семантычныя прыватыўныя апазіцыі ўстанаўліваюцца звычайна паміж словамі, звязанымі адносінамі словаўтварэння: *араць — араты*

'той, хто арэ', *апельсін — апельсінавы* 'які мае адносіны да апельсіна', *працаваць — запрацаваць* 'пачаць працаваць'. Ва ўсіх гэтых выпадках вытворнае слова ўключае ў сябе ўтвараючае як фармальна, так і змястоўна, але разам з тым адрозніваецца семантычным кампанентам, выражаным словаўтваральным фармантам, які і складае дыферэнцыяльную частку вытворнага слова.

Э к в і п а л е н т н ы я а п а з і ц ы і ўзнікаюць паміж словамі, у якіх, акрамя агульных, маюцца і індывідуальныя кампаненты, што процістаўляюць адно слова другому. Часткова супадаючы, часткова адрозніваючыся, такія словы як бы перасякаюцца адно з другім. Эквіпалентныя процістаўленні могуць быць чыста фармальнымі (напрыклад, у дзеясловах з агульным коранем і рознымі прыстаўкамі пры адсутнасці агульных сем: *заняць — адняць*) і чыста семантычнымі, калі ў словах ёсць ідэнтыфіцыруючыя і дыферэнцыруючыя кампаненты. Так, у значэннях слоў *стол — стул* ёсць агульны семантычны кампанент 'род мэблі' і дыферэнцыруючыя кампаненты 'у выглядзе шырокай дошкі, умацаванай на адной або некалькіх ножках, на якую кладуць або ставяць што-небудзь пры ядзе, рабоце і г. д.' — у слове *стол* і 'звычайна са спінкай, для сядзення аднаго чалавека' — у слове *стул*.

Яшчэ больш пашыранымі з'яўляюцца ф а р м а л ь н а-с е м а н т ы ч н ы я эквіпалентныя апазіцыі. Яны выяўляюцца сярод слоў, утвораных па адной словаўтваральнай мадэлі, напр.: *накасіць — намалаціць, нажаць —назграбаць* і інш. Фармальна яны падобны па словаўтваральных фармантах, а розняцца ўтваральнымі асновамі. Аднак і ў значэннях гэтых слоў можна вылучыць агульныя і індывідуальныя кампаненты. У прыведзеных дзеясловах агульнай семай з'яўляецца 'колькасць аб'екта' (напр.: *накасіць воз сена, намалаціць тону збожжа* і г. д.).

Падобныя адносіны выяўляюцца ў аднакарэнных словах, якія захоўваюць семантычную сувязь: *мысленне — мысліцель, вадзяны — вадзяністы*. Фармальна гэтыя словы аб'ядноўваюцца агульнасцю кораня, адрозніваюцца рознымі суфіксамі. У семантыцы, на аснове агульнасці кораня, можна таксама вылучыць агульныя кампаненты і, на аснове афіксаў,— адрознівальныя. Параўн.: *мысленне* 'дзеянне і стан па значэнню дзеяслова *мысліць*' і *мысліцель* 'чалавек, здольны глыбока, па-

філасофску мысліць'; *вадзяны* 'які мае адносіны да вады, звязаны з вадой' і *вадзяністы* 'які ўтрымлівае ў сабе лішак вады'.

З кароткага агляду слоўных апазіцый відаць, наколькі разнастайнымі і мнагапланавымі з'яўляюцца парадыгматычныя сувязі нават у такіх мінімальных аб'яднаннях, якімі з'яўляюцца пары адназначных слоў. Яшчэ больш складанымі і глыбокімі будуць сістэмныя сувязі ў максімальных аб'яднаннях (групах, класах) слоў, звязаных парадыгматычнымі адносінамі.

Поўнага, вычарпальнага апісання лексікі як сістэмы няма яшчэ ні ў адной мове. Қ цяперашняму часу на матэрыяле розных моў выяўлены і ў той ці іншай меры апісаны толькі важнейшыя аб'яднанні, «пучкі слоў, якія забяспечваюць сістэмнасць лексікі: 1) семантычнае поле, 2) лексіка-семантычная група, 3) тэматычная група, 4) сітуатыўная група, 5) камунікатыўная група, 6) рода-відавая група (рубрыка тэзаўруса), 7) сінанімічны рад, 8) антанімічная пара, 9) словаўтваральнае гняздо, 10) эпідыгматычная група (сукупнасць усіх значэнняў або ЛСВ аднаго мнагазначнага слова)»[8]. Ёсць і іншыя мадэлі парадыгматыкі, пабудаваныя па прынцыпу «ад прыватнага да больш агульнага»: сінанімічны рад — тэматычны рад — лексіка-семантычная група — часціна мовы; сінанімічны рад — лексіка-семантычная група — часціна мовы — слоўнікавы састаў і інш.

Разгледзім спачатку асноўныя слоўныя апазіцыі, на аснове якіх вылучаюцца лексіка-семантычныя катэгорыі аманіміі, сінаніміі, параніміі, антаніміі і полісеміі. Пры гэтым лексіка-семантычная катэгорыі выступаюць як абагульненыя значэнні, што характарызуюцца пэўнай формай выражэння (структурай) і функцыямі ў тэксце.

---

[8] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980. С. 119.

Раздзел II

# ХАРАКТАРЫСТЫКА АСОБНЫХ СЛОЎНЫХ АПАЗІЦЫЙ У МЕЖАХ ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНЫХ КАТЭГОРЫЙ

## § 1. АМОНІМЫ, ШЛЯХІ ІХ УЗНІКНЕННЯ, КЛАСІФІКАЦЫЯ, СТЫЛІСТЫЧНЫЯ ФУНКЦЫІ У МОВЕ

### *Агульнае паняцце аб амонімах*

Два словы або некалькі слоў, якія вымаўляюцца і пішуцца аднолькава, але маюць зусім розныя, не звязаныя між сабой значэнні, называюцца лексічнымі амонімамі (ад грэч. *homos* — аднолькавы і *опута*— імя), напр.: *рак*[1] 'прэснаводная жывёліна з вялікімі клюшнямі' і *рак*[2] 'хвароба: род злаякаснай пухліны'; *кіт*[1] 'аконная замазка' і *кіт*[2] 'вялікая марская млекакормячая жывёліна, знешне падобная на рыбіну'; *тур*[1] 'дзікі бык' і *тур*[2] 'адзін круг танца, адзін этап гульні'; *справа*[1] 'работа, занятак, дзейнасць' і *справа*[2] 'з правага боку'; *до*[1] 'нота, якая абазначае першы гук музычнай гамы' і *до*[2] 'досыць, даволі (разм.)'; *нізка*[1] 'маток якіх-небудзь аднародных прадметаў; цыкл вершаў' і *нізка*[2] 'невысока'. Такая з'ява супадзення ў адным гучанні і напісанні розных па значэнню слоў называецца аманіміяй.

Аманімія як лексічная катэгорыя па-рознаму суадносіцца з сінаніміяй і полісеміяй. Яна з'яўляецца процілегласцю сінаніміі, для якой характэрна тоеснасць або блізасць значэнняў пры розным гучанні слоў, і, наадварот, мае многа агульнага з полісеміяй, пры якой, як і пры аманіміі, аднаму гукавому комплексу адпавядае некалькі значэнняў. Таму аманімію трэба строга размяжоўваць з полісеміяй. Размежаванне гэта бывае простым, калі па гучанню супадаюць словы, розныя па паходжанню. Скажам, бел. *бор* 'лес' і *бор* 'хімічны элемент' (з лац. *borax*)— несумненныя амонімы. Але такое размежаванне бывае досыць складаным, калі аманімія ўзнікае ў выніку лексіка-семантычнага вар'іравання мнагазначных слоў, крайняй граніцай якога з'яўляецца распад полісеміі.

Усё ж і ў такіх выпадках паміж аманіміяй і полісе-

міяй можна выявіць істотныя адрозненні. У лексіка-семантычных варыянтах мнагазначнага слова ёсць агульныя і дыферэнцыяльныя семы, якія дазваляюць устанавіць блізасць і ўзаемную сувязь паміж значэннямі, адно з якіх з'яўляецца асноўным, першасным, а іншыя — вытворнымі, другаснымі; параўн.: *пасадзіць вішню* (дрэва) і *з'есці вішню* (плод гэтага дрэва).

Калі ж гаварыць пра амонімы, то яны з'яўляюцца такімі аднолькавымі па гучанню і напісанню словамі, значэнні якіх у свядомасці сучасных носьбітаў мовы зусім не звязваюцца паміж сабой і адно з другога не выводзяцца, напр.: *гасцінец*[1] 'шырокая бойкая дарога, звычайна абсаджаная дрэвамі' і *гасцінец*[2] 'падарунак, які падносіць хто-небудзь каму-небудзь'. Сэнсавай сувязі паміж сememaмі 'дарога' і 'падарунак', абазначанымі адным гукакомплексам *гасцінец*, сучасныя носьбіты мовы не ўлоўліваюць. Значыць, з цяперашняга пункту гледжання словы *гасцінец*[1] і *гасцінец*[2] — выразныя амонімы. І толькі шляхам этымалагічнага даследавання ўдаецца ўстанавіць, што ў старажытнасці гэта былі значэнні аднаго і таго ж слова. Слова *гасцінец* — агульнаславянскае, утворана пры дапамозе суфікса *-ец-* ад прыметніка *гасціны* 'які адносіцца да гасцей' (параўн. *гасцінная* — пакой для прыёму гасцей). У старарускай і старабеларускай мовах назоўнік *гасцінец* меў значэнне 'вялікая дарога', дакладней, 'дарога, па якой ехалі госці, купцы'. Развіццё значэння слова *гасцінец* пазней ішло наступным чынам: «тавар, прывезены купцом, госцем — падарунак госця — усякі падарунак»[1]. Распад полісеміі слова *гасцінец* адбыўся пасля таго, калі забылася першапачатковае значэнне слова *госць* 'іншаземны купец', якое было сувязным звяном паміж ЛСВ 'дарога, па якой ехалі госці, купцы' і 'падарунак госця, купца'. Пасля гэтага семемы 'дарога' і 'падарунак' зрабіліся асобнымі словамі, хоць і захавалі сваю пачатковую гукавую абалонку.

Як відаць, словы-амонімы суадносяцца з той ці іншай з'явай рэчаіснасці незалежна адно ад другога, бо паміж імі не існуе выразнай асацыятыўнай семантычнай сувязі, якая лёгка выяўляецца паміж рознымі значэннямі полісемічных слоў. Інакш кажучы, у фармальных адносінах

---

[1] Шанский Н. М., Иванов В. В., Шанская Т. В. Краткий этимологический словарь русского языка. 3-е изд. М., 1975. С. 112.

амонімы знаходзяцца ў апазіцыі тоеснасці, а ў семантычных — у апазіцыі дыз'юнкцыі, або выключэння.

Амонімы — паняцце суадноснае, г. зн. што нельга характарызаваць як амонім асобна ўзятае слова. Пра амонімы можна гаварыць толькі як пра два ці больш розных слоў, якія супалі па сваёй знешняй форме. Таму амонімы існуюць не ізалявана, а толькі ў супастаўленні і аб'яднанні ў пары ці групы. Абсалютную большасць складаюць аманімічныя пары, значна меншую частку — трох-, чатырох- і пяці-кампанентныя групы.

### *Шляхі ўзнікнення амонімаў*

Нярэдка адзначаецца, што лексічныя амонімы — гэта чыста фармальныя апазіцыі слоў, якія, па сутнасці, супярэчаць законам пабудовы знакавых сістэм, не маюць значнай функцыянальнай вартасці і таму ўсякая літаратурная мова, па меры сваёй нармалізацыі, быццам бы імкнецца ад іх пазбавіцца. Падобныя разважанні былі параджаны сцвярджэннем Ф. дэ Сасюра, што «ў мове няма нічога, акрамя адрозненняў» [2]. Але такі пункт гледжання не можа лічыцца даказаным. «Абаронцы погляду на амонімы як на «хворыя словы» мелі б рацыю толькі ў тым выпадку, калі б мова была матэматычнай сістэмай: адно слова — адно значэнне, адно гучанне — адно слова,— гаворыць Р. А. Будагаў.— У сапраўднасці ж мова складваецца інакш, яна мае сваю спецыфіку, таму і амонімы з'яўляюцца зусім натуральнай і зусім заканамернай з'явай» [3].

Аб'ектыўнасць такой ацэнкі амонімаў пацвярджаецца ходам развіцця моў. Побач з асобнымі выпадкамі ліквідацыі аманіміі ва ўсіх мовах наглядаюцца яшчэ больш частыя факты паяўлення новых амонімаў, якія практычна не ўскладняюць моўных зносін, паколькі амаль заўсёды нейтралізуюцца кантэкстам або моўнай сітуацыяй [4]. Вось таму ў многіх мовах амонімы вылічваюцца тысячамі пар і груп.

Узнікненне амонімаў выклікаецца як унутрымоўнымі, так і пазамоўнымі фактарамі, узаемадзеянне якіх спе-

---

[2] Соссюр Ф. де. Курс общей лингвистики. М., 1933. С. 119.
[3] Будагов Р. А. Введение в науку о языке. М., 1958. С. 46—47.
[4] Шанский Н. М. Лексикология современного русского языка. М., 1972. С. 44.

цыфічна праяўляецца ў кожнай мове і прыводзіць да розных вынікаў.

У гісторыі беларускай мовы дзейнасцю гэтых фактараў абумоўлена паяўленне трох асноўных тыпаў амонімаў.

Амонімы, якія паявіліся ў выніку выпадковага супадзення спрадвечна розных слоў. Гэты тып аб'ядноўвае такія выпадкі, калі сэнсавая несумяшчальнасць пры супадзенні вымаўлення і напісання слоў абумоўлена «семантычнымі адносінамі, якія ўстанавіліся за межамі данай сінхранічнай сістэмы і па гэтай прычыне не могуць быць вытлумачаны ў рамках гэтай апошняй»[5]. Тлумачэнне тут можа быць толькі дыяхранічным, г. зн. у тэрмінах граматычных і фанетычных працэсаў, якія адбыліся раней. Аманімічныя пары і групы, што ахопліваюцца гэтым тыпам, неаднародныя па сваім саставу. Сярод іх можна вылучыць некалькі структурных разнавіднасцей.

1. Амонімы, якія ўтварыліся ў выніку гукавога супадзення этымалагічна розных беларускіх (уласна беларускіх, усходнеславянскіх, агульнаславянскіх) слоў пасля завяршэння дагістарычных і раннегістарычных фанетычных працэсаў, напр.: *абора*[1] 'вяровачка для лапцей'— *абора*[2] 'кароўнік'; *аброк*[1] 'падатак, чынш'— *аброк*[2] 'корм, які бяруць для каня ў дарогу'; *абмінаць*[1] 'абганяць, апярэджваць' — *абмінаць*[2] 'абцісканць'; *дабыць*[1] 'прабыць да канца'— *дабыць*[2] 'набыць, здабыць'; *ласка*[1] 'пяшчота' — *ласка*[2] 'невялікая жывёліна сямейства куніцавых'; *лата*[1] 'латка, лапік'— *лата*[2] 'жэрдка, планка для страхі'; *рысь*[1] 'быстры алюр'— *рысь*[2] 'драпежная жывёліна сямейства кашэчых'; *слаць*[1] 'адпраўляць, пасылаць' (з *сълати*)— *слаць*[2] 'рассцілаць, засцілаць' (з *стълати*) і інш.

2. Аманімічныя пары і групы, што склаліся ў выніку выпадковага супадзення гучання, напісання і формазмянення (поўнага ці частковага) спрадвечна беларускіх і запазычаных слоў, напр.: бел. *байка*[1] 'кароткі літаратурны твор'— *байка*[2] 'мяккая баваўняная тканіна' (з гал. *baai*); бел. *бор*[1] 'стары сасновы лес' — *бор*[2] 'хімічны элемент' (з лац. *borax*)— *бор*[3] 'свердзел для лячэння зубоў' (з ням. *Bohrer*); бел. *горн*[1] «кавальская печ' — *горн*[2] 'сіг-

[5] Ахманова О. С. Словарь омонимов русского языка. М., 1974. С. 8. (Адсюль узяты многія прыклады па ўсёй праблеме аманіміі.)

нальны духавы музычны інструмент' (з ням. *Horn*); бел. *клуб*[1] 'верхняя знешняя частка бядра'— бел. *клуб*[2] 'шарападобная маса пылу, дыму'— *клуб*[3] 'арганізацыя, установа ці памяшканне' (з англ. *club*); бел. *крыга*[1] 'ільдзіна ў час ледаходу'— *крыга*[2] 'рыбалоўная прылада' (з ням. *Krige*); бел. *лава*[1] 'прадмет сялянскай мэблі'— *лава*[2] 'вулканічная маса' (з іт. *lawa*)— *лава*[3] 'баявы парадак конніцы' (з польск. *lawa*)—*лава*[4] 'забой у шахце' (з руск. *лава*); бел. *лінь*[1] 'прэснаводная рыба сямейства карпавых' — *лінь*[2] 'тонкі канат' (з гал. *lijn*); бел. *пáра*[1] 'газападобны стан вады'— *пара*[2] 'два падобныя прадметы' (з ням. *Paar*); бел. *порт*[1] 'простая льняная тканіна' — *порт*[2] 'прыстань, гавань' (з фр. *porte*); бел. *скат*[1] 'схіл, адхон'— *скат*[2] 'марская рыба' (з нарв. *skata*) і інш. Супадзенне ў гучанні іншамоўнага слова з беларускім магло адбывацца часам не адразу, а пастунова, пад уплывам іншых аналагічных слоў беларускай мовы. Так, англ. слова *club*, пранікшы з нямецкай праз польскую мову, у пачатку XX ст. вымаўлялася і пісалася спачатку з мяккім *л'* (параўн. яшчэ: *кляса, міталёгія, філёзофія)* і толькі з увядзеннем новых правіл беларускай арфаграфіі ў 1934 г. пачало вымаўляцца і пісацца з цвёрдым *л* па ўзору беларускіх слоў *клубок, клумак, клуня, клыпаць, глум* і пад.

3. Аманімічныя пары і групы з іншамоўных слоў, запазычаных апасродкавана ці непасрэдна з розных першакрыніц і, як правіла, у розны час: *блок*[1] 'грузапад'ёмнае прыстасаванне' (з англ. *block*)— *блок*[2] 'аб'яднанне дзяржаў, арганізацый, груповак' (з фр. *bloc*); *грот*[1] 'натуральная або штучная пячора' (з іт. *grotta*)— *грот*[2] 'ніжні парус на грот-мачце' (з гал. *groot*); *грыф*[1] 'драпежная птушка' (з грэч. *gryps*)— *грыф*[2] 'дэталь струннага музычнага інструмента' (з ням. *Griff*)— *грыф*[3] 'штэмпельны адбітак чыйго-н. подпісу' (з фр. *griffe*); *ліра*[1] 'музычны інструмент' (з грэч. *lyra*)— *ліра*[2] 'грашовая адзінка ў Італіі і Турцыі' (з іт. *lira*).

4. Амонімы, запазычаныя з якой-небудзь адной мовы: а) у форме «гатовых» амагруп (г. зн. слоў, што ўступілі ў аманімічныя адносіны яшчэ ў мове-першакрыніцы), напр.: *міна*[1] 'выбуховы снарад' (фр. *mine*[1])— *міна*[2] 'выраз твару' (фр. *mine*[2]); *кар'ер*[1] 'самы быстры алюр, паскораны галоп' (фр. *carriere*[1]) —*кар'ер*[2] 'месца здабычы карысных выкапняў адкрытым спосабам' (фр. *carriere*[2]); *танк*[1] 'баявая бронемашына на гусенічным ходу' (англ.

*tank*[1]) — *танк*[2] 'спецыяльны бак для захоўвання і транспарціроўкі вадкасцей' (англ. *tank*[2]) і інш.;

б) у форме разрозненых ЛСВ аднаго слова, якія, страціўшы ў мове-рэцэптары прамежкавыя звёны, адразу аманімізаваліся; так, амонімы *купюра*[1] 'скарачэнне, пропуск у тэксце літаратурнага твора' — *купюра*[2] 'назва папяровых грошай і іншых каштоўных папер па іх намінальнай вартасці' ўзніклі на аснове раз'яднаных ЛСВ французскага слова *coupure*, якое ў мове-першакрыніцы мае сем значэнняў[6];

в) у форме розных па гучанню і значэнню слоў, якія аманімізаваліся ў беларускай мове пад уздзеяннем яе граматычнай і фанетычнай сістэм, напр.: *шпік*[1] 'касцяны мозг' (польск. *szpik* з ням. *Spek*) — *шпік*[2] 'шпіён' (польск. *spieg* з ням. *Spuger*); *аспід*[1] 'ядавітая змяя' (грэч. *aspis, aspidos*) — *аспід*[2] 'чорны сланец' (грэч. *jaspis, jaspidos*) і інш.

Як відаць, запазычанні з іншых моў з'яўляюцца даўняй вельмі важнай крыніцай пашырэння аманіміі ў беларускай мове. Будучы словамі пераважна карэннымі, амонімы гэтага тыпу складаюць шырокую базу для ўтварэння новых слоў, і перш за ўсё новых амонімаў.

Словаўтваральныя амонімы. Гэты тып з'яўляецца найбольш пашыраным і заўсёды прадстаўлен вытворнымі словамі, аманімія якіх ствараецца семантычнай несумяшчальнасцю ўтвараючых асноў або фармантаў, што да іх далучаюцца ў працэсе словаўтварэння. У гэтым тыпе можна вылучыць наступныя разнавіднасці:

1. Амонімы, утвораныя ад аманімічных асноў, напр.: *парны*[1] ад *пара*[1] 'газападобны стан вады' — *парны*[2] ад *пара*[2] 'два падобныя прадметы'; *кранавы*[1] ад *кран*[1] 'прыстасаванне для выпускання газу або вадкасці' — *кранавы*[2] ад *кран*[2] 'механізм для пад'ёму грузаў'; *газавы*[1] ад *газ*[1] 'рэчыва' — *газавы*[2] ад *газ*[2] 'празрыстая тканіна'; *ператапіць*[1] ад *тапіць*[1] 'пагружаць у ваду' — *ператапіць*[2] ад *тапіць*[2] 'награваючы расплаўляць'. Такога ж утварэння амонімы *аброчны*[1,2], *зверабойны*[1,2], *курсавы*[1,2], *латны*[1,2], *ліставы*[1,2], *кардонны*[1,2], *рагавы*[1,2], *ордэрны*[1,2], *разрадны*[1,2], *рэйдавы*[1,2], *прызавы*[1,2], *пракатны*[1,2] і інш.

2. Амонімы, утвораныя ад падобных, але розных ас-

---

[6] Коротинская Д. Н. Лексическая омонимия имен существительных в современном белорусском литературном языке: Дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1981. С. 158.

ноў, фармальныя адрозненні якіх нейтралізуюцца ў працэсе словаўтварэння; параўн.: *бáльны*[1] ад *баль* і *бальны*[2] ад *бал, кармавы*[1] ад *корм* і *кармавы*[2] ад *карма, капсульны*[1] ад *капсула* і *капсульны*[2] ад *капсуль, кулявы*[1] ад *куля* і *кулявы*[2] ад *куль* (саломы), *крытычны*[1] ад *крытыка* і *крытычны*[2] ад *крызіс, метрычны*[1] ад *метр* і *метрычны*[2] ад *метрыка, семінарскі*[1] ад *семінар* і *семінарскі*[2] ад *семінарыя, чумны*[1] ад *чум* і *чумны*[2] ад *чума, прасавальны*[1] ад *прас* і *прасавальны*[2] ад *прэс*.

3. Асобную групу складаюць амонімы, утвораныя ад аднаго кораня пры дапамозе аманімічных прыставак і суфіксаў. Так, у беларускай мове, як і ў рускай, ёсць дзве аманімічныя прыстаўкі **за...**, адна з якіх мае значэнне пачатку дзеяння, а другая — завершанасці дзеяння, дасягнення выніку дзеяння. Далучаючыся да аднаго і таго ж дзеяслова, яны ўтвараюць амонімы: *запырскаць*[1] 'пакрыць пырскамі' і *запырскаць*[2] 'пачаць пырскаць'; *зажыць*[1] 'загаіцца, зарубцавацца (пра рану)', *зажыць*[2] 'набыць што-н., разжыцца на што-н.' і *зажыць*[3] 'пачаць жыць (пэўным чынам)'; *закáпаць*[1] 'абкапаць; капаючы, увесці куды-н. лякарства' і *закапаць*[2] 'пачаць капаць'; *запыліць*[1] 'пакрыць або напоўніць што-н. пылам' і *запыліць*[2] 'пачаць пыліць'; *запрацаваць*[1] 'зарабіць працай' і *запрацаваць*[2] 'пачаць працаваць'.

Падобным чынам словаўтваральныя амонімы параджаюцца аманімічнымі суфіксамі *-нік-*, *-к-* і інш. Напрыклад, словы *ягаднік*[1] 'збіральнік ягад' і *ягаднік*[2] 'месца вырошчвання ягад; ягадныя кусты, расліны' ўтвораны ад адной асновы, але па розных словаўтваральных мадэлях. У слове *ягаднік*[1] суфікс *-нік-* мае значэнне асобы (параўн.: *пажарнік, фокуснік, ахоўнік*), а ў *ягаднік*[2] — месца, занятага расліннасцю, і сама расліннасць (параўн.: *вінаграднік, сасоннік, канаплянік*). На такой жа падставе амонімамі з'яўляюцца словы *цялятнік*[1,2], *ударнік*[1,2], *начнік*[1,2] і др. Утварае амонімы і суфікс *-к-*, параўн.: *фінка*[1] (ад *фін*) і *фінка*[2] (ад *фінскі нож*), *полька*[1] (ад *паляк*) і *полька*[2] (ад *польскі танец*), *венгерка*[1] (ад *венгерац*) і *венгерка*[2] (ад *венгерская куртка*), *лезгінка*[1] (ад *лезгін*) і *лезгінка*[2] (ад *лезгінскі танец*).

4. Амонімы, якія маюць аднолькавую фармальную структуру, але адрозніваюцца рознай ступенню яе членімасці, іначш кажучы, неаднолькавай марфалагічнай матываванасцю супастаўленых слоў: значэнне аднаго з гэтых слоў выразна матывуецца ўтваральнай асновай, а

другое з сучаснага пункту гледжання з'яўляецца семантычна слаба матываваным, параўн.: *данесці*[1] 'несучы, даставіць у якое-н. месца' і *данесці*[2] 'далажыць, паведаміць; зрабіць данос'; *нарваць*[1] 'сарваць, парваць, вырваць пэўную колькасць чаго-н.' і *нарваць*[2] 'апухнуць і нагнаіцца'; *норка*[1] 'памянш. да *нара*' і *норка*[2] 'гарнастай, ласка' (дзе запазычанне з фінскай мовы (параўн. эст. *nürk, nirk*) зблізілася з *нара* на аснове народнай этымалогіі).

5. Амонімы, якія паявіліся ў працэсе ўтварэння новых слоў ад розных каранёў пры дапамозе адных і тых жа або розных афіксаў: *надрабіць*[1] (ад *рабіць*) — *надрабіць*[2] (ад *драбіць*), *падводны*[1] (ад *вада*) — *падводны*[2] (ад *падвода*), *горны*[1] (ад *гара*) — *горны*[2] (ад *гора*), *замучаны*[1] (ад *муціць*) — *замучаны*[2] (ад *мучыць*), *запусціць*[1] (ад *пуск*) — *запусціць*[2] (ад *пусты*) і інш. Сюды ўмоўна могуць быць аднесены і амонімы абрэвіятурнага паходжання тыпу *камбат*[1] (з *камандзір батальёна*) і *камбат*[2] (з *камандзір батарэі*), *КП*[1] (з *каманднЫ пункт*) — *КП*[2] (з *кантрольны пункт*) і інш.

6. Амонімы, якія ўтварыліся ў выніку розных відаў канверсіі: а) субстантывацыі прыметнікаў і дзеепрыметнікаў, напр.: *рабочы*[1] (рабочы народ) — *рабочы*[2] (рабочы і селянін), *паляўнічы*[1] (паляўнічы нож) — *паляўнічы*[2] (паляўнічы на ваўкоў), *бульбяная*[1] (бульбяная каша) — *бульбяная*[2] (абедаць у бульбяной), *камандуючы*[1] (камандуючы фронтам) — *камандуючы*[2] (далажыць камандуючаму), *люты*[1] (люты звер) — *люты*[2] (студзень, люты);

б) пераходу назоўнікаў, займеннікаў у катэгорыю стану: *пара́*[1] (летняя пара) — *пара́*[2] (мне пара дамоў), *шкода*[1] (нанесці шкоду) — *шкода*[2] (шкода таварыша), *ліха*[1] (навалілася ліха) — *ліха*[2] (будзе табе ліха); *усё*[1] (усё зберaглося) — *усё*[2] (вось і ўсё, канец).

З названымі відамі канверсіі нельга блытаць ужыванне прыслоўяў і дзеепрыслоўяў у значэнні прыназоўнікаў (напр.: *вакол цвілі яблыні — вакол вёскі цягнуўся лес*), бо тут канверсіі не адбываецца.

С е м а н т ы ч н ы я (г а м а г е н н ы я) а м о н і м ы. Амонімы гэтага тыпу паяўляюцца ў выніку распаду былой полісеміі або ў працэсе развіцця полісеміі. Кожны з гэтых працэсаў варта разглядаць асобна.

Распад полісеміі адбываецца паступова пад уздзеяннем сацыяльных і ўнутрымоўных прычын, якія могуць прывесці да змянення семантычнай структуры слова,

пашырэння або звужэння яго значэння, архаізацыі, а затым выпадзення асобных лексіка-семантычных варыянтаў і г. д. Калі па якой-небудзь прычыне адно з прамежкавых значэнняў мнагазначнага слова выходзіць з ужытку і забываецца, іншыя значэнні, раней звязаныя праз яго між сабой, аказваюцца семантычна раз'яднанымі і пачынаюць успрымацца носьбітамі мовы як зусім розныя словы, г. зн. становяцца амонімамі. Працэс распаду полісеміі мы ўжо мелі магчымасць прасачыць на прыкладзе мнагазначнага слова *гасцінец*, якое, у выніку знікнення аднаго «прамежкавага звяна», распалася на два амонімы са значэннямі: 'бойкая дарога'—'падарунак'.

Падобным чынам у беларускай мове з'явіліся амонімы *лаўка*[1]— *лаўка*[2]. Ужо ў старабеларускай мове слова *лаўка* ўжывалася як мнагазначнае. Развіццё полісеміі гэтага слова адбывалася ў такім напрамку: невялікая лава→аддзел у гандлёвым радзе→памяшканне для продажу пэўных тавараў, невялікі магазін. Гэтыя лексіка-семантычныя варыянты складалі суцэльны рад звязаных па сэнсу значэнняў слова. Апошняе з гэтых значэнняў паявілася ў выніку функцыянальнага пераносу назвы з другога значэння ' аддзел у гандлёвым радзе' на памяшканне для гандлю. Разрыву семантычных сувязей паміж першым і апошнім значэннямі садзейнічала выпадзенне прамежкавага звяна 'аддзел у гандлёвым радзе', якое некалі звязвала гэтыя значэнні ў адным слове. Рэзультатам гэтага разрыву і з'явілася ўтварэнне слоў-амонімаў: *лаўка*[1] 'невялікая лава' і *лаўка*[2] 'невялікая гандлёвая ўстанова, невялікі магазін'[7].

У выніку выпадзення «прамежкавага звяна» са структуры полісема ўтварыліся і такія амонімы, як *бык*[1] 'самец буйной рагатай жывёлы'— *бык*[2] 'прамежкавая апора моста'; *дача*[1] 'дзеянне па знач. дзеяслова *даць—даваць'* — *дача*[2] 'загарадны дом' — *дача*[3] 'частка лясніцтва'; *лайка*[1] 'парода сабак' — *лайка*[2] 'сорт мяккай скуры'; *прыход*[1] 'дзеянне па значэнню дзеясловаў *прыходзіць—прыйсці'*— *прыход*[2] 'ніжэйшая царкоўная арганізацыя'— *прыход*[3] 'даход, узяты на бухгалтарскі ўлік'; *вяршок*[1] 'верх, верхавіна'— *вяршок*[2] 'старая мера даўжыні, роўная 4,4 см', і інш.

---

[7] Коротинская Д. Н. Лексическая омонимия имен существительных в современном белорусском литературном языке: Дис. ... канд. филол. наук. С. 123—124.

У працэсе развіцця полісеміі можа ўзнікаць «аманімія па сігніфікату і аманімія па дэнатату»[8]. Аманімія па дэнатату паяўляецца на аснове метафарычнага пераносу назвы з аднаго прадмета на другі. Паколькі ж «пры частым ужыванні слова ў пераносным значэнні метафара паступова траціць сваю вобразнасць, сціраецца, то асацыятыўная сувязь, якая існуе паміж living рознымі значэннямі гэтага слова, знікае і яно распадаецца на семантычныя амонімы»[9].

На аснове метафарычных значэнняў у беларускай мове ўтварыліся такія аманімічныя пары, як *журавель*[1] 'вялікая пералётная птушка'— *журавель*[2] 'прыстасаванне для падымання вады з калодзежа'; *апалонік*[1] 'хвастатая лічынка жабы; лягушкі' — *апалонік*[2] 'вялікая лыжка для размешвання цеста'; *баран*[1] 'самец авечкі'— *баран*[2] 'двуручны рубанак для габлявання'; *вайчок*[1] 'памянш. да *война*' — *вайчок*[2] 'дзіцячая цацка'; *ёрш*[1] 'дробная касцістая рыба сямейства акунёвых'— *ёрш*[2] 'шчотка для мыцця бутэлек'; *кошка*[1] 'дамашняя жывёліна са звычкамі драпежніка' — *кошка*[2] 'прыстасаванне ў форме якара для падымання якіх-небудзь прадметаў са дна вадаёма'; *лябёдка*[1] 'самка лебедзя' — *лябёдка*[2] 'прыстасаванне для падымання грузаў'; *лісічка*[1] 'памянш.-ласк. да *ліса*; маладая ліса' — *лісічка*[2] 'ядомы грыб жоўтага колеру' і інш.

Аманімія па сігніфікату — гэта той рубеж, да якога можа дайсці слова, калі яго сігніфікат развіваецца ад бліжэйшага значэння да далейшага. Такая аманімія характарызуе адносіны паміж словам агульнай мовы і спецыяльным тэрмінам[10].

Працэс актыўнага пераасэнсавання традыцыйна народных слоў і паяўлення на іх аснове амонімаў у беларускай мове найбольш выразна праяўляўся ў перыяд паскоранага фарміравання яе навуковай тэрміналогіі (20—30-я гады). Сутнасць пераасэнсавання заключаецца ў тым, што адна з дыферэнцыяльных прымет семантычнай структуры агульнаўжывальнага слова пачынае выкарыстоўвацца ў якасці канцэптуальнага ядра слова-тэрміна. У новым тэрміне гэта прымета ўдакладняецца, канкрэтызуецца, звужаецца або расшыраецца ў залеж-

---

[8] Степанов Ю. С. Основы общего языкознания. М., 1975. С. 28.
[9] Юрьева Е. Ю. К вопросу об именной омонимии в современном французском языке // Учен. зап. 1-го МГПИИЯ им. Мориса Тореза. Т. 19. М., 1959. С. 359—371.
[10] Степанов Ю. С. Основы общего языкознания. С. 28.

насці ад аб'ёму навуковага паняцця, што і прыводзіць да ўтварэння новага слова. Такім шляхам былі ўтвораны многія беларускія лінгвістычныя тэрміны, у прыватнасці назоўнік *трыванне*.

Дзеяслоў *трываць* у беларускай народнай мове ўжываецца ў двух значэннях: 1. Цярпліва пераносіць да пэўнага часу боль, непрыемнасці і пад.:— *Трывай, трывай, атаманам будзеш* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). 2. Працягвацца пэўны час: *Завязалася рукапашная...* — *не на жыццё, а на смерць. Трывала яна вельмі нядоўга* (Я. Брыль. Нёманскія казакі); *Ён даўно прызвычаіўся да агульнажыцця і можа не зважаць на шум, які трывае ў інтэрнаце ледзь не круглыя суткі* (І. Навуменка. Бульба); *Гутарка іх трывала некалькі хвілін* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). Адпаведна гэтаму абстрактны назоўнік *трыванне* мае таксама два значэнні: 1. Здольнасць цярпліва пераносіць што-небудзь да пэўнага часу. 2. Працягласць у часе. На аснове асацыятыўных сувязей гэты аддзеяслоўны назоўнік быў выкарыстан для абазначэння граматычнага паняцця «трыванне» (дзеяслова), што дэфініруецца як «граматычная катэгорыя, якая выражае незакончанасць або закончанасць дзеяння ў часе» [11]. Аб'ядноўвае гэтыя розныя словы толькі агульная думка аб часе, уяўленне аб працяканні дзеяння або стану ў часе. Аб'ём жа і змест паняццяў, сімваламі якіх з'яўляюцца гэтыя словы, розныя. Разышліся іх і ўласна граматычныя асаблівасці. Аддзеяслоўны назоўнік *трыванне* не ўжываецца ў форме множнага ліку, а слова-тэрмін яе мае: *трыванні дзеяслова, дзеяслоў мае два трыванні*. Змяніліся спалучальныя магчымасці гэтых слоў пры ўжыванні ў агульнапрынятым і спецыяльным, канкрэтызаваным, значэннях: *набрацца трывання, стала не ў трыванне*, але *закончанае трыванне, катэгорыя трывання*. Тэрмін *трыванне* і агульнаўжывальнае слова маюць розныя сінанімічныя рады: *трыванне, від* (дзеяслова) і *трыванне, цярпенне, вынослівасць, вытрымка*. Акрамя гэтага, тэрмін *трыванне* паслужыў асновай для ўтварэння новага слова *трывальны* (*трывальныя пары дзеяслова*), што можа сведчыць аб канчатковым адрыве яго ад бытавога слова і замацаванні ў якасці самастойнай лексічнай адзінкі. Падобным шляхам фарміраваліся

---

[11] БелСЭ. 1974. Т. 10. С. 304.

лінгвістычныя тэрміны *асоба, лад, стан, зычны* (гук), *дужка, кропка, далучэнне, сказ* і інш.

Хоць адасабленне асобных значэнняў і паяўленне аманіміі — з'ява, індывідуальная для кожнага слова, усё ж тут можна выявіць і некаторыя заканамернасці. Парушэнне семантычнай сувязі паміж лексіка-семантычнымі варыянтамі, як правіла, знаходзіць рознае знешняе выражэнне. Яно можа праяўляцца: а) у фарміраванні розных словаўтваральных, семантычна несуадносных гнёзд (параўн.: **асоба**[1] — *асабісты, асобісты, асобіна* і **асоба**[2] — *асабовы, агульнаасабовы, безасабовы* (дзеяслоў); **ліхі**[1] — *ліхадзей, ліхадзейства, ліхалецце* і **ліхі**[2] — *ліхач, ліхасць, ліхацтва;* **ліць**[1] — *выліць, даліць, адліць, пераліць, зліць* і **ліць**[2] — *літы, ліццё, злітак, ліцейны, ліцейня, ліцейшчык*); б) у рознай лексічнай спалучальнасці амонімаў (параўн.: **гасцінец**[1] — *купіць (прывезці, даць, прыпаднесці) дарагі гасцінец* і **гасцінец**[2] — *старасвецкі гасцінец, ехаць гасцінцам, звярнуць з гасцінца, пасадкі каля гасцінца;* **мера**[1] — *сістэма мер, мера даўжыні (вагі, аб'ёму), мера цярпення (вынослівасці)* і **мера**[2] — *крайнія (крутыя, строгія) меры, прыняць (адмяніць) меры, меры спагнання* і інш.; в) у суадноснасці амонімаў з рознымі сінанімічнымі радамі або прадметна-тэматычнымі групамі слоў (параўн.: **лаўка**[1] — *лава, услон, заслон* (абл.) (прадмет мэблі) і **лаўка**[2] — *магазін, кіёск, крама* (гандлёвая ўстанова); **звод**[1] — *знікненне, выміранне* (працэс) і **звод**[2] — *сукупнасць* (тэкстаў, дакументаў); г) у разыходжанні граматычных форм (параўн.: **трыванне**[1] (дзеянне па дзеяслову *трываць* — мае толькі адзіночны лік) і **трыванне**[2] (граматычны тэрмін — мае формы адз. і мн. ліку).

Распад полісеміі і ўтварэнне семантычных амонімаў з'яўляецца вынікам цеснага ўзаемадзеяння сацыяльных і ўнутрымоўных фактараў, лексічнага і граматычнага значэнняў, а таксама арганічнай узаемасувязі паміж рознымі аспектамі самога лексічнага значэння (сігніфікатыўным, структурным, прагматычным, дэнататыўным). Звычайна гэта працяглы і складаны працэс, які на пэўным канкрэтным этапе семантычнага развіцця слова можа быць завершаным або незавершаным. У апошнім выпадку рашэнне пытання аб тым, што перад намі — два самастойныя словы (амонімы), або розныя значэнні аднаго і таго ж слова — бывае вельмі складаным. Адсутнасць дакладных крытэрыяў для размежавання полісе-

мії і аманіміі прыводзіць да разнабою ў падачы амонімаў і мнагазначных слоў у розных слоўніках. Так, слова *падарожнік* у БРС-62 дадзена як мнагазначнае, а ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы»— раздзелена на дзве амалексемы.

У якасці аднаго з крытэрыяў для размежавання мнагазначнасці і аманіміі звычайна выкарыстоўваюцца тыя фармальныя прыметы, якімі суправаджаецца распад полісеміі,— дывергенцыя словаўтваральных радоў, адрозненні ў спалучальнасці і граматычных формах, прыналежнасць да розных сінанімічных радоў, тэматычных груп і інш. Аднак усе гэтыя прыметы не могуць выступаць як асноўныя і рашаючыя па трох прычынах: а) яны толькі «пацвярджаюць і фіксуюць факты, выяўленыя шляхам уласна семантычнага аналізу» [12]; б) падобныя адрозненні могуць быць уласцівы і розным значэнням полісемантычнага слова; в) такія марфалагічныя і сінтаксічныя паказчыкі часта зусім адсутнічаюць. Таму асноўным крытэрыем пры размежаванні аманіміі і полісеміі павінны з'яўляцца ўласна семантычныя прыметы, на аснове якіх толькі і можна выявіць сутнасць абазначаемых прадметаў рэчаіснасці і характар іх суадносін паміж сабой. Марфалагічныя і сінтаксічныя прыметы могуць і павінны быць выкарыстаны пры размежаванні аманіміі і полісеміі, але толькі «як дадатковыя і дапаможныя моманты, якія пацвярджаюць і фіксуюць факты, выяўленыя шляхам уласна семантычнага аналізу» [13].

Паколькі распад полісеміі адбываецца, як правіла, папаступова, размежаванне мнагазначнасці і аманіміі павінна рабіцца ў межах строга сінхронных адносін, бо тое, што лічылася мнагазначнасцю слова на адным гістарычным этапе развіцця мовы, можа зрабіцца аманіміяй на другім этапе.

### Класіфікацыя амонімаў

Супадзенне гучання моўных адзінак пры абсалютным разыходжанні іх значэнняў выяўляецца на ўсіх значымых узроўнях мовы: лексічным, граматычным, марфемным. Правесці поўную фіксацыю такіх амонімаў, тым больш іх строгую класіфікацыю, практычна вельмі цяж-

[12] Ахманова О. С. Очерки по общей и русской лексикологии. М., 1957. С. 113.
[13] Там жа.

ка. І гэта не толькі з прычыны іх мнагалікасці, але часта і недастатковай фармальна-семантычнай акрэсленасці. Нейкую стройнасць у класіфікацыю амонімаў можна ўнесці толькі ў межах аднаго моўнага ўзроўню.

У лексікалогіі, на лексічным узроўні, вывучаецца аманімія «слоўнікавых форм, г. зн. тых форм слоў, што традыцыйна выступаюць як іх прадстаўнікі ў слоўніках, пры вывучэнні моў і ўвогуле ў тых выпадках, калі словы становяцца не прыладамі, а прадметам маўлення»[14]. У зменных часцінах мовы гэта будзе іх пачатковая форма: для назоўнікаў — назоўны склон, для дзеяслова — інфінітыў і г. д. Нязменныя самастойныя і службовыя словы заўсёды маюць адну слоўнікавую форму.

У аснову класіфікацыі амонімаў на ўзроўні слоўнікавых форм кладуцца два асноўныя крытэрыі: а) адносяцца амонімы да адной часціны мовы ці да розных часцін мовы, розных лексіка-граматычных класаў; б) супадаюць аманімічныя словы ва ўсіх уласцівых для іх структурна-граматычных формах ці толькі ў частцы гэтых форм. Амонімы, якія адносяцца да адной і той жа часціны мовы, прынята называць лексічнымі. Амонімы, што адносяцца да розных часцін мовы, розных лексіка-граматычных класаў, называюцца лексіка-граматычнымі. Аманімічныя словы, якія супадаюць ва ўсіх сваіх формах, называюцца поўнымі амонімамі; тыя ж, у якіх асобныя формы не супадаюць, называюцца няпоўнымі.

Такім чынам, на ўзроўні слоўнікавых форм вылучаюцца чатыры структурныя тыпы амонімаў: 1) поўныя лексічныя амонімы; 2) няпоўныя лексічныя амонімы; 3) поўныя лексіка-граматычныя амонімы; 4) няпоўныя лексіка-граматычныя амонімы.

1. Словы, якія адносяцца да адной і той жа часціны мовы, супадаюць ва ўсіх сваіх граматычных формах і адрозніваюцца толькі лексічным значэннем, называюцца поўнымі лексічнымі амонімамі, напр.: *капа*[1] 'куча сена, саломы, складзеная конусам; невялікі стажок'— мае склонавыя формы: *капы, капе, капу, капой, аб капе; копы, коп, копам, копы, копамі, аб копах; капа*[2] 'даўнейшая адзінка лічэння: шэсцьдзесят штук чаго-н.'— скланяецца так жа сама: *капы, капе, капу, капой, аб капе; копы, коп, копам, копы, копамі, аб копах.*

---

[14] Ахманова О. С. Словарь омонимов русского языка. С. 5.

Як відаць, абодва гэтыя словы — назоўнікі жаночага роду, маюць абсалютна тоесныя парадыгматычныя формы як у адзіночным, так і ў множным ліку і таму з'яўляюцца поўнымі лексічнымі амонімамі.

У ліку іншых прыкладаў поўных лексічных амонімаў са сферы назоўнікаў можна назваць: *абора*[1] 'тонкая вяровачка для лапцей'— *абора*[2] 'памяшканне для жывёлы'; *бак*[1] 'пасудзіна для вадкасцей'— *бак*[2] 'насавая частка верхняй палубы'; *быліна*[1] 'народная эпічная песня пра герояў'— *быліна*[2] 'каліва травы; сцяблінка'; *касяк*[1] 'вугшак або іншы косавугольны прадмет'— *касяк*[2] 'гурт кабыл з адным жарабком; чарада птушак, рыб'; *лата*[1] 'кусок тканіны, скуры, якім зашываюць дзірку ў адзенні, абутку'— *лата*[2] 'жэрдка, якую прыбіваюць да крокваў'; *махавік*[1] 'вялікае кола з масіўным вобадам, якое забяспечвае раўнамерны рух механізма'— *махавік*[2] 'грыб з жоўта-бурай шапкай' і інш.

Асобныя пары і групы поўных лексічных амонімаўназоўнікаў складаюцца з нязменных слоў, запазычаных з адной і той жа ці розных моў: *даміно*[1] 'маскарадны касцюм у выглядзе шырокага плашча з капюшонам' (іт. *domino*)— *даміно*[2] 'гульня ў 28 касцяных або пластмасавых пласцінак' (іт. *domino*); *піке*[1] 'бавоўняна-папяровая або шаўковая тканіна з узорам у выглядзе рубчыкаў удоўж асновы' (фр. *piqué*)— *піке*[2] 'амаль вертыкальнае зніжэнне самалёта на вялікай скорасці' (фр. *piqué*); *рандо*[1] 'вершаваная форма з абавязковым паўтарэннем у страфе адных і тых жа радкоў у пэўным парадку; верш, напісаны такой формай' (фр. *randeau*)— *рандо*[2] 'спецыфічна закруглены рукапісны, а таксама друкарскі шрыфт; пяро з тупым канцом для пісання такім шрыфтам' (фр. *randeau*).

У поўных лексічных амонімах-дзеясловах супадаюць граматычныя катэгорыі трывання, пераходнасці, парадыгмы спражэння. Так, *сплавіць*[1], злучыць якія-н. рэчывы шляхам плаўлення' і *сплавіць*[2] 'адправіць што-н. вадой уніз па цячэнню'— дзеясловы закончанага трывання, пераходныя, кожны мае па шэсць асабовых форм спражэння, якія поўнасцю супадаюць: *сплаўлю, сплавіш, сплавіць; сплавім, сплавіце, сплавяць*.

Поўныя лексічныя амонімы-прыметнікі, напрыклад *крытычны*[1] 'які заключае ў сабе крытыку' і *крытычны*[2] 'які знаходзіцца ў стане крызісу', маюць аднолькавыя граматычныя формы роду (*крытычны, крытычная, кры-*

*тычнае*), ліку (*крытычны, крытычныя*), склону (*крытычны, крытычнага, крытычнаму* і г. д.).

2. Семантычна розныя словы, якія адносяцца да адной часціны мовы, супадаюць у гучанні і напісанні толькі ў асобных граматычных формах, называюцца **няпоўнымі лексічнымі амонімамі**. З'ява няпоўнай аманіміі выяўляецца сярод назоўнікаў і дзеясловаў. Няпоўнымі амонімамі з'яўляюцца такія, напрыклад, значна пашыраныя групы слоў, як

а) назоўнікі, у парадыгме якіх супадаюць толькі формы адзіночнага ліку, бо адзін з іх формы множнага ліку не мае: *зверабой*[1] 'паляўнічы на марскога звера' (мн. лік *зверабоі*) — *зверабой*[2] 'травяністая лекавая расліна' (мн. ліку не мае); *кар'ер*[1] 'месца адкрытай распрацоўкі карысных выкапняў' (мн. лік *кар'еры*) — *кар'ер*[2] 'самы хуткі алюр' (мн. ліку не мае); *зборка*[1] 'складка на адзенні, матэрыі' (мн. лік *зборкі*) — *зборка*[2] 'мантаж, збіранне чаго-н.' (мн. ліку не мае); *па́ра*[1] 'два аднародныя або аднолькавыя прадметы' (мн. лік *па́ры*) — *па́ра*[2] 'газападобны стан вады' (мн. ліку не мае);

б) назоўнікі, у парадыгме якіх супадаюць толькі формы множнага ліку, бо адзін з іх формы адзіночнага ліку не мае: *калдуны*[1] 'клёцкі, начыненыя мясным і якім-н. іншым фаршам' (адз. лік *калдун*) — *калдуны*[2] 'зблытаныя, скудлачаныя валасы' (адз. ліку не мае); *дзяды*[1] 'пустазелле з калючым лісцем і сцяблом' (адз. лік *дзед*) — *дзяды*[2] 'людзі, якія жылі раней, продкі, а таксама абрад памінак нябожчыкаў' (адз. ліку не мае);

в) амонімы-назоўнікі, якія адрозніваюцца не толькі семантыкай, але і прыналежнасцю да розных родаў; сюды адносяцца аманімічныя групы, якія ўтварыліся ў выніку фанетычнага супадзення не толькі запазычаных і спрадвечна беларускіх слоў, але і слоў толькі іншамоўнага паходжання: *ложа*[1] 'месца ў глядзельнай зале для некалькіх асоб' (фр. *loge*, ж. род) — *ложа*[2] 'драўляная частка ружжа, да якой прымацоўваецца ствол' (н. род) — *ложа*[3] 'паглыбленне ў грунце, па якім сцякае вада' (н. род); *туш*[1] 'кароткае музычнае прывітанне' (ням. *Tusch*, м. род) — *туш*[2] 'каляровая фарба для чарчэння і рысавання' (ням. *Tusche*, ж. род). Несупадзеннем родавых форм абумоўліваюцца ў гэтым выпадку адрозненні ў форме ліку і склонаў амакампанентаў; параўн.: *туш*[1], *туша* і *туш*[2], *тушы*;

г) назоўнікі, формы якіх не супадаюць у вінавальным

склоне адзіночнага і множнага ліку, бо адзін з назоўнікаў абазначае адушаўлёны прадмет, а другі — неадушаўлёны: *скат*[1] 'кола аўтамабіля' (він. склон: *скат, скаты*) — *скат*[2] 'буйная драпежная марская рыбіна са сплюснутым целам' (він. склон: *ската, скатаў*) — *скат*[3] 'пакаты схіл' (він. склон: *скат, скаты*); *дзяркач*[1] 'стары венік без лісця' (він. склон: *дзяркач, дзеркачы*) — *дзяркач*[2] 'лугавая птушка сямейства пастушковых са скрыпучым крыкам' (він. склон: *дзеркача, дзеркачоў*);

д) амонімы-назоўнікі, якія ў залежнасці ад значэння маюць у родным склоне адзіночнага ліку канчатак *-а* або *-у*: *кардон*[1] 'тоўстая цвёрдая папера' (родн. склон: *кардону*) — *кардон*[2] 'дзяржаўная граніца, мяжа' (родн. склон: *кардона*); *лом*[1] 'завостраны металічны стрыжань для расколвання, разбівання чаго-н.' (родн. склон: *лома*) — *лом*[2] 'паламаныя рэчы, прадметы' (родн. склон: *лому*);

е) дзеясловы, у якіх парадыгмы спражэння супадаюць толькі часткова. Так, у аманімічнай пары *заняцца*[1] 'прыступіць да якога-небудзь занятку' — *заняцца*[2] 'загарэцца, успыхнуць; наступіць, пачацца (пра золак, раніцу)' першы дзеяслоў мае ўсе шэсць асабовых форм і форму загаднага ладу (*займуся, зоймешся ... зоймуцца, займіся*), а другі — форм першай і другой асобы і формы загаднага ладу не мае; амонімы *слаць*[1] 'пасылаць, адпраўляць куды-небудзь' — *слаць*[2] 'пакрываць што-небудзь чым-небудзь' супадаюць толькі ў пачатковай форме і ў формах прошлага часу, але не супадаюць у асабовых формах (*слаць*[1], *шлю, шлеш, шле* — *слаць*[2], *сцялю, сцелеш, сцеле*), бо ўтвораны гэтыя дзеясловы ад этымалагічна розных асноў.

3. Словы, якія адносяцца да розных часцін мовы і супадаюць у адзіна магчымай для іх форме, называюцца поўнымі лексіка-граматычнымі амонімамі. Адзіна магчымую форму маюць толькі нязменныя самастойныя і службовыя словы.

У аманімічныя групы тут могуць аб'ядноўвацца:

а) самастойныя нязменныя і нескланяльныя словы: *бардо*[1] 'сорт віна' (нескл. наз.) — *бардо*[2] 'цёмна-чырвоны' (нязм. прым.); *до*[1] 'нота' (нескл. наз.) — *до*[2] 'досыць' (прысл.);

б) самастойнае нязменнае і службовае слова: *ля*[1] 'нота' (нескл. наз.) — *ля*[2] (прыназ.); *га*[1] 'гектар' (нескл.

наз.) — *га*[2] (часціца); *па*[1] 'фігура ў танцы' (нескл. наз.) — *па*[2] (прыназ.);

в) функцыянальныя амонімы з прыслоўя і прэдыкатыўнага слова: *весела*[1] (прысл.) — *весела*[2] (прэдыкат. сл.); параўн.: *ён расказваў весела — яму было весела; шкодна*[1] (прысл.) — *шкодна*[2] (прэдыкат. сл.): *курэнне шкодна дзейнічае на здароўе — курыць шкодна; горача*[1] (прысл.) — *горача*[2] (прэдыкат. сл.) і інш.

4. Словы, якія адносяцца да розных часцін мовы і супадаюць толькі ў асноўных (пачатковых, слоўнікавых) сваіх формах, называюцца **няпоўнымі (частковымі) лексіка-граматычнымі амонімамі**. Заўважым, што ў якасці пачатковых (слоўнікавых) форм тут могуць выступаць лексікалізаваная форма множнага ліку назоўнікаў і субстантываваныя словы.

Гэтым відам адносін могуць звязвацца:

а) два самастойныя зменныя словы: *знаць*[1] 'вышэйшы слой пануючага класа' (наз.) — *знаць*[2] 'ведаць' (дзеясл.); *пяць*[1] 'напружваць' (дзеясл.) — *пяць*[2] (ліч.); *звонкі*[1] 'картачная масць' (наз. мн.) — *звонкі*[2] (прым.); *карэлы*[1] 'народ' (наз. мн.) — *карэлы*[2] 'брудны' (прым.); *плаўкі*[1] 'купальныя трусы' (наз. мн.) — *плаўкі*[2] 'які плавіцца' (прым.); *кары*[1] 'род калёс' (наз. мн.) — *кары*[2] 'карычневы' (прым.); *соты*[1] 'васкавыя ячэйкі' (наз. мн.) — *соты*[2] (пар. ліч.); *румяны*[1] 'касметычная фарба' (наз. мн.) — *румяны*[2] 'ружовы' (прым.); *вусны* 'губы' (наз. мн.) — *вусны*[2] 'не пісьмовы' (прым.); *мецца*[1] 'мецца-сапрана' (наз. нескл.) — *мецца*[2] 'быць у наяўнасці' (дзеясл.);

б) самастойнае зменнае і нязменнае слова: *соль*[1] 'белае крышталічнае рэчыва' (наз.) — *соль*[2] 'нота' (наз. нескл.); *варта*[1] 'ахова' (наз.) — *варта*[2] 'заслугоўвае' (прэдыкат. сл.); *палка*[1] 'тоўсты кій' (наз.) — *палка*[2] 'горача, пачуццёва' (прысл.); *горка*[1] 'невялікая гара' (наз.) — *горка*[2] 'пра адчуванне горкага, горычы' (прэдыкат. сл.); *рана*[1] 'раненне' (наз.) — *рана*[2] 'няпозна' (прысл.); *нешта*[1] (займ.) — *нешта*[2] 'чамусьці' (прысл.);

в) самастойнае зменнае і службовае слова: *як*[1] 'бык' (наз.) — *як*[2] (злучн.); *морг*[1] 'зямельная мера' (наз.) — *морг*[2] 'трупярня' (наз.) — *морг*[3] (выкл.);

г) субстантываванае і несубстантываванае слова: *вучоны*[1] (наз.) — *вучоны*[2] (прым.); *знаёмы*[1] (наз.) — *знаёмы*[2] (прым.); *крывая*[1] (наз.) — *крывая*[2] (прым.); *настаўніцкая*[1] (наз.) — *настаўніцкая*[2] (прым.); *будучае*[1] (наз.) — *будучае*[2] (прым.); *мінулае*[1] (наз.) — *мінулае*[2] (прым.);

*адпускныя*[1] (наз.) — *адпускныя*[2] (прым.); *родныя*[1] (наз.) — *родныя*[2] (прым.) і інш.

За межамі пералічаных груп лексічных і лексіка-граматычных амонімаў, што ўзнікаюць на аснове пачатковых, слоўнікавых форм слова, застаюцца с у м е ж н ы я а м а н і м і ч н ы я з'явы, якія праяўляюцца на ўзроўні граматычных форм, марфем і фанетыка-арфаэпічных варыянтаў. Гэта амаформы, амаморфы, амафоны і амографы.

А м а ф о р м ы (ад грэч. *homos* — аднолькавы і лац. *forma*) — аманімічныя (аднолькавыя па гучанню і напісанню) формы ў межах граматычнай парадыгмы аднаго і таго ж слова або парадыгм розных слоў.

Амаформы ў межах парадыгмы аднаго і таго ж слова — гэта супадзенне ў гучанні і напісанні граматычных форм скланяльных часцін мовы: назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў. Параўн.: *чалавек* — форма назоўніка наз. скл. адз. ліку і *чалавек* — форма родн. скл. мн. ліку *(пяці чалавек)*; у парадыгмах назоўнікаў тыпу *версія, станцыя, экскурсія* формы роднага, давальнага, меснага склонаў адзіночнага ліку і форма назоўнага склону множнага ліку супадаюць у адным гучанні і напісанні «версіі», «станцыі», «экскурсіі». Якасныя прыметнікі мужчынскага і ніякага роду, напрыклад, маюць аднолькавыя формы ў родным, давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку: *белы снег, белае палатно — белага снегу (палатна), беламу снегу (палатну), белым снегам (палатном)* і г. д. У якасных кароткіх прыметніках супадаюць формы ніякага і жаночага роду ў назоўным склоне, напр., *дзіця рада — матка рада, заданне гатова — работа гатова* і інш. Найбольш часта амаформы наглядаюцца ў парадыгмах лічэбнікаў. Так, лічэбнік *90* ва ўсіх склонах мае адну і тую ж форму — *дзевяноста*, лічэбнікі ад *5* да *20*, а таксама *30, 50, 60, 70, 80* маюць адну і тую ж форму ў родным, давальным і месным склонах, напр.: *сем* — родн. *сямі*, дав. *сямі*, месн. *аб сямі*. Зваротны займеннік *сябе* таксама мае адну форму ў родным і вінавальным склонах адзіночнага ліку.

Амаформы ў межах парадыгм розных слоў паяўляюцца ў выніку выпадковага супадзення ў адным вымаўленні і напісанні граматычных форм слоў, якія адносяцца да адной і той жа або да розных часцін мовы: *лячу* — форма першай асобы адзіночнага ліку ад дзеяслова *ляцець*

і *лячу* — форма першай асобы адзіночнага ліку ад дзеяслова *лячыць; тры* — колькасны лічэбнік і *тры* — форма другой асобы адзіночнага ліку загаднага ладу ад дзеяслова *церці; піла* — прылада для рэзання, пілавання (назоўнік) і *піла* — форма прошлага часу адзіночнага ліку ад дзеяслова *піць*.

Паколькі амаформы ўзнікаюць у выніку супадзення граматычных форм, іх называюць граматычнымі амонімамі. Гэта аб'ект граматыкі.

Амаморфы — марфемы, якія супадаюць па гучанню і напісанню, але адрозніваюцца па значэнню: *трэніроў-***к***-а* (суфікс -**к**- мае значэнне назвы дзеяння) — *аспірант-***к***-а* (назвы асобы).

Амафоны (ад грэч. *homos* — аднолькавы і *phone* — гук, голас) — словы, якія аднолькава гучаць, але пішуцца па-рознаму. У беларускай мове супадзенне ў гучанні слоў або словаформ паяўляецца ў выніку фанетычных заканамернасцей — аглушэння звонкіх зычных на канцы слоў, а таксама ў сярэдзіне перад глухімі зычнымі, напр.: *грыб* і *грып, код* і *кот, мог* і *мох, род* і *рот, паз* і *пас; казка* і *каска, везці* і *весці, грубка* і *групка*. На той падставе, што амафоны ўзнікаюць як рэзультат дзейнасці фанетычных законаў, іх часам называюць фанетычнымі амонімамі. Да амафонаў павінны быць аднесены і такія апазіцыі слоў, як *арол* 'птушка'— *Арол* 'назва горада', *вера* 'упэўненасць у чым-н.' і *Вера* 'уласнае імя', *раман* 'жанр літаратурнага твора' — *Раман* 'уласнае імя' і пад.

Ад лексічных амонімаў трэба адрозніваць яшчэ амографы (ад грэч. *homos* — аднолькавы і *grapho* — пішу) — словы і формы слоў, якія аднолькава перадаюцца на пісьме, але ў вымаўленні адрозніваюцца пастаноўкай націску: *áтлас — атлáс, нáсып — насы́п, мýка — мукá, пáдаць — падáць, тýга — тугá, вы́сыпаць — высыпáць, кáпаць — капáць, вы́клікаць — выклікáць, кáса — касá, рáса — расá, кáра — карá, кáпа — капá, пáра — парá, вáда — вадá* і інш.

### *Стылістычныя функцыі амонімаў і сумежных з імі з'яў*

Ва ўсіх разнавіднасцях амонімаў закладзены вялікія вобразна-выяўленчыя магчымасці. Супярэчнасць паміж формай і зместам амонімаў (рознасць значэнняў пры

аднолькавасці гучання) здаўна прыцягвае ўвагу майстроў мастацкага слова. Таму «амонімы, амаформы і амафоны (часам таксама амографы і паронімы) — адзін з найбольш часта ўжывальных сродкаў славеснай гульні, стварэння каламбураў і разнастайных стылістычных эфектаў»[15]. Свядомае супастаўленне пісьменнікам амонімаў у адным кантэксце служыць сродкам павышэння моўнай выразнасці, надання выказванню гумарыстычнай, іранічнай ці сатырычнай афарбаванасці, напрыклад:

Добра Керзан піша *ноты* —
Проста люба паглядзець,
Ды няма у нас ахвоты
Па яго ных *нотах* пець.

*(К. Крапіва. Да ноты Керзана)*

Тут гульня слоў, заснаваная на аманіміі гукавога рада «нота» (дыпламатычны і музычны тэрмін), дапамагла аўтару вобразна перадаць адмоўныя адносіны савецкага народа да англійскага палітычнага дзеяча, які ў 1923 г. прад'яўляў ультыматум Савецкаму Саюзу.

Умелым выкарыстаннем амонімаў *гасцінец* ('вялікая бойкая дарога' і 'падарунак') ажыўляе свой верш «Вечны агонь» Я. Крупенька:

Дзеці гулялі,
Бацькоў чакалі,
Сустракаць выбягалі
На шырокі *гасцінец*,
Прынясе, можа, татка
З вайны ім *гасцінец*.

У паэзіі наглядаецца частае выкарыстанне амонімаў, амаформ, амафонаў і амографаў у якасці слоў-рыфм:

Аманімічная рыфма:

Спрадвечнай тэмы пераказ
*Вусны:*
Не трэба слоў,
Не трэба фраз,—
*Вусны ў вусны:*

*(Р. Барадулін. Спрадвечная тэма)*

---

[15] Шанский Н. М. Лексикология современного русского языка. С. 48.

Амаформная рыфма:

Спытаўся бог у грэшніка:— Чаму шмат піў *віна?*
У гэтым,— кажа,— не мая *віна.*
Сам знаеш, з гліны ты мяне стварыў,
І каб мне не рассыпацца — я піў.

*(М. Танк. Пераймание Амара Хаяма)*

Амафонная рыфма:

— Падымі, матулька, *карытца,*
Вязём табе нявестачку сварыцца.
— Нашто нам з нявесткай сварыцца —
Будзе мне нявестка *карыцца.*

*(З вясельнай песні)*

Яшчэ адна разнавіднасць амафоннай рыфмы:

З недапісаным *раманам*
Лез у класікі *Раман.*
Кажуць, і сыны *Рамана*
Пішуць той жа ўсё *раман.*

*(Хв. Жычка. Каламбур)*

Амаграфічная рыфма:

Пакуль бог папу на *ра́су*
Сыпаў срэбную *расу́,*
Чорт у храме выграб *ка́су*
І купіў сабе *касу́.*

*(Н. Гілевіч. Карацелькі-каламбуры)*

Розныя формы аманіміі могуць выкарыстоўвацца і ў празаічных жанрах, фельетонах, пародыях, жартах: — *Нічога, Захар, перамелецца — мука́ будзе.— Або мука́, або му́ка,— уздыхае старшыня* (Я. Колас. На ростанях). З гэтага відаць, што аманімія — гэта не «хвароба» мовы, як лічаць некаторыя лінгвісты; гэта хоць і спецыфічная, але зусім натуральная моўная з'ява. Амонімы выконваюць не толькі намінатыўную і камунікатыўную функцыі, але і функцыю эстэтычную.

## § 2. СІНОНІМЫ, ШЛЯХІ ІХ УЗНІКНЕННЯ, КЛАСІФІКАЦЫЯ, СЭНСАВА-СТЫЛІСТЫЧНЫЯ ФУНКЦЫІ У МОВЕ

### *Паняцце аб лексічных сінонімах*

Адной з самых выразных форм праяўлення сістэмных адносін у лексіцы, побач са з'явай полісеміі, з'яўляецца

сінанімія (ад. грэч. *synōnymia* — аднайменнасць). Лексічная сінанімія — гэта семантычная з'ява, якая праяўляецца ў здольнасці розных па гучанню слоў абазначаць адну і тую ж рэалію, адно і тое ж паняцце. Сінанімія — адваротная старана полісеміі. Калі пры мнагазначнасці адзін гукавы комплекс напаўняецца розным зместам, то пры сінаніміі розныя словы (розныя гукавыя комплексы) выражаюць аднолькавы або вельмі блізкі змест. Напрыклад, для абазначэння прылады, якой сякуць і чэшуць драўніну, у беларускай мове аднолькава выкарыстоўваюцца словы *тапор* і *сякера;* коннае войска можа быць названа словамі *кавалерыя* і *конніца,* а пра чалавека, які працуе з перавыкананнем нормы, скажуць, што ён *перадавік, ударнік, стаханавец.* Словы, тоесныя або блізкія па значэнню, але розныя па гучанню, называюцца лексічнымі сінонімамі (ад грэч. *synōnymos* — аднайменны). Сінонімамі будуць, напрыклад, кампаненты наступных пар і цэлых груп слоў: *вавёрка — белка, доктар—урач, лодка—човен; смелы—адважны—храбры, святочны—урачысты; спыняць—стрымліваць, пагарджаць—грэбаваць; вельмі—надта—надзвычайна—неймаверна—дужа—празмерна* і інш. Пара або група лексічных сінонімаў, якія суадносяцца паміж сабой пры абазначэнні адных і тых жа прадметаў ці паняццяў, утвараюць парадыгму ці, інакш кажучы, сінанімічны рад.

Сінанімія, як універсальная моўная з'ява, прыцягвала да сябе ўвагу з глыбокай старажытнасці. Сінаніміка многіх моў цяпер падрабязна апісана ў сотнях сінанімічных слоўнікаў. Праблемам сінаніміі і сінонімаў прысвечаны тысячы тэарэтычных артыкулаў і манаграфій. І ўсё ж, па прызнанню саміх даследчыкаў, паняцце сіноніма і сінаніміі застаецца адным з найбольш складаных і найменш распрацаваных паняццяў сучаснай семантыкі.

Шматлікія працяглыя пошукі ў галіне найбольш агульных пытанняў сінаніміі, такіх, як азначэнне сіноніма, прынцыпы класіфікацыі сінонімаў, будова сінанімічных радоў, выбар дамінанты, крыніцы ўзнікнення сінонімаў, функцыянальна-стылістычная роля іх у мове і інш., ні ў айчынным, ні ў зарубежным мовазнаўстве не прывялі яшчэ да стварэння колькі-небудзь адзінай тэорыі сінонімаў. «Ужо на першае пытанне — што такое сінонім?— мы знаходзім цэлы рад розных адказаў, якія то

ўзаемна дапаўняюць, то ўзаемна выключаюць адзін другога» [16].

Сінонімамі называюць словы: а) тоесныя па значэнню; б) блізкія па значэнню; в) тоесныя або блізкія па значэнню; г) здольныя абазначаць адзін прадмет або адно і тое ж паняцце. Прыметамі сінонімаў лічыцца таксама ўзаемазамяняльнасць слоў у пэўных кантэкстах, аднолькавая спалучальнасць (валентнасць) і інш. Кожны з гэтых поглядаў, на думку Л. А. Новікава, адлюстроўвае адзін з аспектаў лексічнага значэння слова: сігніфікатыўны, структурны, прагматычны, дэнататыўны [17]. Існуючы разнабой у азначэнні сінонімаў, гаворыць Д. М. Шмялёў, «не трэба разумець так, што ў мове існуе нейкая «ісцінная» сінанімія, а даследчыкі толькі ў той або іншай ступені прыбліжаюцца к яе адэкватнаму азначэнню... На самай жа справе ў мове існуюць розныя (і разнастайныя) тыпы семантычных збліжэнняў, якія і адлюстроўваюцца па-рознаму ў розных азначэннях сінонімаў. Размова, такім чынам, можа ісці не столькі аб розным разуменні сінаніміі, колькі аб розным ужыванні тэрміна, аб яго прымяненні да розных з'яў мовы: магчыма больш шырокае і больш вузкае прымяненне тэрміна, а таксама больш паслядоўнае і недастакова паслядоўнае» [18].

Найбольш пашыраным з'яўляецца традыцыйны пункт гледжання, згодна з якім сінонімамі трэба лічыць «словы, што абазначаюць адно і тое ж паняцце, тоесныя або блізкія па значэнню, словы, якія пэўным чынам суаднесены ў даны час у мове і служаць для дэталізацыі і абазначэння тонкіх сэнсавых адценняў паняцця або выражэння экспрэсіўных, стылістычных, жанравых і іншых адрозненняў» [19]. У такім азначэнні знайшлі адлюстраванне важнейшыя формы семантычных адносін, якімі характарызуюцца сінанімія і сінонімы, а іменна: тоеснасць або блізкасць значэння членаў апазіцыі — з аднаго боку, і некаторыя сэнсавыя, стылістычныя адрозненні, а таксама асаблівасці словаўжывання — з другога боку.

---

[16] Брагина А. А. Синонимы в литературном языке. М., 1986. С. 6.

[17] Новиков Л. А. Семантика русского языка. М., 1982. С. 223.

[18] Шмелев Д. Н. Современный русский язык: Лексика. М., 1977. С. 194.

[19] Евгеньева А. П. Основные вопросы лексической синонимии // Очерки по синонимике современного русского литературного языка. М.; Л., 1966. С. 29.

Прыкладам сінонімаў, якія ў беларускай мове маюць тоеснае лексічнае значэнне, могуць служыць словы *маланка* і *бліскавіца,* узятыя ў іх асноўнай намінатыўнай функцыі. Розныя па гучанню, гэтыя назоўнікі абазначаюць адну і тую ж атмасферную з'яву ('гіганцкі іскрысты электрычны разрад паміж хмарамі або паміж хмарамі і зямной паверхняй'); у іх семантыцы няма сэнсавых адрозненняў, стылістычна яны абодва нейтральныя, выяўляюць аднолькавую спалучальнасць і таму могуць выступаць як узаемазамяняльныя кампаненты выказвання. Параўн.: *Раз-паразу бліскала маланка і ляскалі перуны* (А. Чарнышэвіч. На сажалках); *Гром гручэў грук-грук, На пайнеба ясная бліскавіца бліскала* (Р. Барадулін. Журавінка); *Хвост ад сонейка іскрыцца, як маланка-бліскавіца* (А. Александровіч. Змей). Аналагічныя адносіны (тоеснасць семантыкі, стылістычная нейтральнасць, аднолькавая спалучальнасць) выяўляюцца і ў сінанімічных парах *абоі—шпалеры, вавёрка—белка, аліва—масліна, вакса—гуталін, мацярык—кантынент, абрыс—контур* і інш.

У сінанімічнай пары *страх—жах* сэнсавыя адносіны паміж кампанентамі ўжо некалькі іншыя. Семантычны аб'ём гэтых слоў не супадае. Лексічнае значэнне кампанента *жах* ('моцны страх да здранцвення') поўнасцю ўключае ў сябе семантыку слова *страх* і звыш таго мае семы 'моцны' і 'да здранцвення'. Гэтыя семы ўказваюць на больш высокую ступень прыметы (якасці), што ўваходзіць у семантыку слова *страх*, і гэтым самым уносяць новае адценне ў значэнне слова *жах.* Такім чынам, словы *страх* і *жах* не адэкватныя, а толькі блізкія па значэнню. У адрозненне ад сінонімаў *маланка—бліскавіца,* якія знаходзяцца ў апазіцыі тоеснасці, г. зн. поўнага супадзення лексічных значэнняў, словы *страх* і *жах* звязаны апазіцыяй уключэння, ці прыватыўнай апазіцыяй: больш змястоўнае слова *жах* уключае ў сябе семантыку слова *страх,* але адрозніваецца ад яго спецыфічным адценнем, якое ствараецца семамі 'моцны' і 'да здранцвення'. Несупадзеннем семантыкі абумоўлены адрозненні ў спалучальнасці гэтых слоў з другімі словамі. Так, можна сказаць: *гэта невялікі страх,* але не прынята гаварыць: *гэта невялікі жах.* Адносіны ўключэння пры сінаніміі — з'ява досыць пашыраная; такімі адносінамі звязваюцца часцей за ўсё сінонімы, якія служаць для выражэння меры і ступені прыметы, інтэнсіўнасці дзеяння, суб'ектыў-

най ацэнкі і інш., напр.: *вялікі—вялізны* (вельмі вялікі), *няволя—рабства* (асабліва цяжкая і ўніжальная няволя), *бегчы—імчацца* (вельмі хутка бегчы), *твар—морда* (грубы непрыгожы твар) і г. д.

Словы *сябра* і *таварыш* таксама блізказначныя, г. зн. сінонімы, што можна бачыць з наступных сказаў: 1. *Навек таварышаў-сяброў Ты* [маладосць] *парадніць умела* (П. Прыходзька. Стэп кліча); 2. *Не міналі маёй хаты Мае таварышы, сябры* (Я. Колас. Я помню); 3. *Рыгор — у гэту хвіліну не толькі таварыш-змагальнік, не толькі сябра, а і ідэал, якому можна пакланіцца* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). У гэтых словах ёсць агульная, супадаючая частка семантыкі — 'блізкі чалавек' і несупадаючыя, дыферэнцыруючыя семы. *Сябра* — ['блізкі чалавек'], 'вельмі вялікая ступень блізкасці', 'асабістыя адносіны', 'прыхільнасць, сімпатыя', 'інтымныя, асабістыя інтарэсы'; *таварыш* — ['блізкі чалавек'], 'вялікая ступень блізкасці', 'грамадскія адносіны', 'род дзейнасці', 'умовы жыцця', 'агульнасць палітычных поглядаў', 'прыналежнасць да палітычнай арганізацыі' [20] і інш. У сказах 1, 2 несупадаючыя прыметы не рэалізуюцца, як бы знімаюцца, прыглушаюцца супадаючымі кампанентамі, якія і вылучаюць у характарызуемым чалавеку рысы сябра і таварыша ў іх непарыўным адзінстве. У 3-м сказе сінонімы знаходзяцца ў дыферэнцыруючым кантэксце. Эпітэт «змагальнік» да слова *таварыш* паказвае на прыналежнасць Рыгора да нейкай палітычнай арганізацыі, на род яго дзейнасці, агульнасць палітычных поглядаў з нейкімі другімі людзьмі і інш. Гэтымі прыметамі слова *таварыш* проціпастаўляецца слову *сябра*, са значэннем якога ў даным кантэксце пачынаюць асацыіравацца і ажываць такія семантычныя прыметы, як асабістая дружба, узаемная прыхільнасць, душэўныя інтарэсы і г. д. Семантычная проціпастаўленасць гэтых слоў узмацняецца яшчэ і пералічальна-раздзяляльнай інтанацыяй *(не толькі..., не толькі..., а і)*, якой падкрэсліваецца сэнсавая неадэкватнасць кампанентаў.

Такім чынам, у процістаўленні *сябра—таварыш* выяўляецца спецыфічны выпадак, калі семантыка слоў поўнасцю не накладваецца адна на другую і не ўключае адна другую, а перасякаецца, супадаючы асноўнай сваёй часткай і адрозніваючыся дыферэнцыруючымі прымета-

---

[20] Новиков Л. А. Семантика русского языка. С. 235.

мі. Інакш кажучы, словы *сябра—таварыш* знаходзяцца ў эквіпалентнай апазіцыі.

Спалучальнасць эквіпалентных сінонімаў, як і іх семантыка, часткова супадае, часткова арозніваецца. У значнай частцы кантэкстаў могуць аднолькава ўжывацца абодва сінонімы, узаемна замяняючы адзін другога без заметнага змянення сэнсу ўсяго выказвання: *блізкі, верны, адданы ... сябра/таварыш; сустрэцца, пагаварыць, развітацца ... з сябрам/таварышам; атрымаць пісьмо, дапамогу, параду ... ад сябра/таварыша.* Такая супадаючая спалучальнасць адлюстроўвае агульную частку значэння сінонімаў. Паралельна існуюць кантэксты, у якіх магчыма толькі індывідуальная спалучальнасць і дзе ў адпаведнасці з існуючымі нормамі словаўжывання ўзаемная замена сінонімаў аказваецца немагчымай (параўн.: *таварышы па зброі, па рабоце, па прафесіі; таварыш камандзір, таварышы камсамольцы, таварышы курсанты* (як афіцыяльныя звароты), але не *сябра (сябры)* і *неразлучныя сябры,* але не *таварышы.* Такія кантэксты адлюстроўваюць несупадаючыя семантычныя прыметы слоў-сінонімаў.

Разгледжаныя прыклады ілюструюць розныя тыпы процістаўленняў пры выражэнні сінонімамі канцэптуальнага (паняційнага) ядра лексічнага значэння. Другой важнай асаблівасцю сінонімаў, уключанай у іх азначэнне (дэфініцыю), з'яўляецца тое, што, маючы аднолькавае або блізкае рэчыўнае значэнне, яны могуць адрозніваецца паміж сабой ступенню эмацыянальнай афарбаванасці, стылёвай прыналежнасцю і сферамі ўжывання. Так, у групе сінонімаў *сталовая—сталоўка—харчэўня* першае слова з'яўляецца стылістычна нейтральным, другое — размоўным, трэцяе — устарэлым. Параўн. яшчэ: *войска* (нейтральнае слова) — *раць* (устарэлае, паэтычнае) — *арда, полчышча* (пагардлівыя назвы варожага войска).

У апошні час робяцца спробы традыцыйнае паняцце сінонімаў удакладніць па некалькіх напрамках. Па-першае, звяртаецца ўвага на неправамернасць прызнання ўякасці сінонімаў двух ці некалькіх слоў без уліку іх полісеміі, паколькі семантычны аб'ём мнагазначных слоў супадае вельмі рэдка [21]. Калі пры ўстанаўленні адносін

[21] Бережан С. Г. К семасиологической интерпретации явления синонимии // Лексическая синонимия. М., 1967. С. 44—45.

сінанімічнасці зыходзіць з таго, што большасць слоў з'яўляецца мнагазначнай, то стане відавочным, што адзіна прымянімы пры вывучэнні сінонімаў метад — гэта «супастаўленне не слова ў цэлым з другімі словамі, а супастаўленне слоў у тых значэннях, якія з'яўляюцца агульнымі для іх» [22]. Сапраўды, мнагазначнае слова можа мець некалькі радоў сінонімаў, якія суадносяцца з тым ці іншым яго лексіка-семантычным варыянтам (ЛСВ), напр.: **вялікі**[1] — *буйны, вялізны;* **вялікі**[2] — *дарослы, сталы, узмужнелы;* **вялікі**[3] — *выдатны, славуты, шырокавядомы* і інш. Таму ў аснову апісання сінаніміі ў апошні час кладуцца іменна сэнсавыя адносіны лексіка-семантычных варыянтаў. Семантычная блізкасць сінонімаў праяўляецца звычайна ў супадзенні, тоеснасці часткі іх сэнсавага зместу: пэўных лексіка-семантычных варыянтаў (іх семем), а таксама часткі сем (кампанентаў) такіх семем, гаворыць Л. А. Новікаў і ўдакладняе: «Сінонімы семантычна тоесны (эквівалентны) у межах пэўных значэнняў (ЛСВ) або супадаючых частак значэнняў узаемадзеючых слоў, узаемазамянімы ў тэксце ў межах, адпаведных іх агульнаму зместу (перасячэнню іх сэнсавага аб'ёму). Гэта іх найбольш характэрныя адносіны» [23].

Пры такім падыходзе да вызначэння сінонімаў традыцыйны тэрмін «адценне значэння» для многіх даследчыкаў пачаў уяўляцца расплывічатым, «пазбаўленым пастаяннага зместу» [24], і таму ў апошні час яго змест усё часцей пачынае раскрывацца праз такія тэрміны структурнай лінгвістыкі, як «семантычны кампанент» («множнік»), «сема», «дыферэнцыяльная прымета» і інш. Напрыклад: «Аснову лексічнага значэння складае прадметна-паняційнае ядро слова, вакол якога групуюцца іншыя семантычныя кампаненты — удакладненне зместу паняцця, мера выяўлення прыметы ці дзеяння, стылістычная, экспрэсіўная характарыстыка слова і т. п. Гэтыя дадатковыя кампаненты і складаюць адценні» [25].

Па-другое, спроба спалучыць уяўленне аб сінаніміі як семантычнай тоеснасці з уяўленнем аб сінонімах як сло-

---

[22] Григорян В. М. Материалы к словарю синонимов. Ереван, 1957. С. 10—11.

[23] Новиков Л. А. Семантика русского языка. С. 225.

[24] Апресян Ю. Д. Лексическая семантика: Синонимические средства языка. М., 1974. С. 248.

[25] Лесиченко Л. А. Лексикологія сучасної української мови: Семантична структура слова. Харків, 1977. С. 70.

вах, што могуць адрозніваціа адно ад другога адценнямі значэнняў (семамі, дыферэнцыяльнымі прыметамі), прывяла да канцэпцыі нейтралізацыі (сцірання) семантычных адрозненняў сінонімаў у строга канкрэтных пазіцыях. З улікам канцэпцыі нейтралізацыі прапануюцца новыя дэфініцыі сінонімаў. Так, на думку Д. М. Шмялёва, сінонімамі можна назваць «словы адной і той жа часціны мовы, значэнні якіх маюць тоесныя элементы, а несупадаючыя элементы ўстойліва нейтралізуюцца ў пэўных пазіцыях. Інакш кажучы, сінонімамі могуць быць прызнаны словы, проціпастаўленыя толькі па такіх семантычных прыметах, якія ў пэўных кантэкстах становяцца неістотнымі»[26]. Падобныя ўдакладненні традыцыйнага азначэння сінонімаў дазваляюць больш глыбока пранікнуць у сутнасць гэтай лексіка-семантычнай катэгорыі слоў, пазнаць іх сэнсава-стылістычныя функцыі.

## *Класіфікацыя сінонімаў*

У залежнасці ад характару семантыка-стылістычных суадносін паміж кампанентамі сінанімічнага рада звычайна вылучаюцца наступныя групы сінонімаў: абсалютныя (або поўныя), семантычныя (або паняційныя, ідэаграфічныя), стылістычныя і семантыка-стылістычныя.

1. Абсалютныя сінонімы — гэта словы, якія поўнасцю супадаюць па значэнню і ўжыванню пры магчымым разыходжанні ў спалучальнасці[27]. Яны характарызуюцца трыма асноўнымі асаблівасцямі: тоеснасцю значэння, адсутнасцю стылістычных адрозненняў і суіснаваннем толькі ў сінхронных моўных пластах. Прыкладам абсалютных (поўных) сінонімаў могуць быць разгледжаныя вышэй словы *маланка* і *бліскавіца*. Яны, як было паказана, абазначаюць адно і тое ж паняцце, тоесныя па значэнню, стылістычна нейтральныя і, характарызуючыся аднолькавай спалучальнасцю, могуць узаемна замяняць адзін другога ў канкрэтных кантэкстах.

Да апошняга часу некаторыя даследчыкі прытрымліваюцца думкі, што абсалютных сінонімаў у натуральных

---

[26] Шмелев Д. Н. Современный русский язык: Лексика. С. 196.
[27] Розенталь Д. Э., Теленкова М. А. Словарь-справочник лингвистических терминов. М., 1976. С. 384.

мовах зусім няма[28]; другія, дапускаючы магчымасць паяўлення іх у мове, адзначаюць, што поўная сінанімія не займае заметнага месца ў лексічнай сістэме, што абсалютных сінонімаў вельмі мала[29]. Такі погляд на абсалютныя сінонімы склаўся скарэй за ўсё на аснове лінгвістычнай канцэпцыі, згодна з якой для ўсякай літаратурнай мовы (у адрозненне ад дыялектнай) характэрна тэндэнцыя да пазбаўлення ад такіх паралельных спосабаў выражэння адной і той жа думкі, якія ніяк семантычна не дыферэнцыраваны. Падкрэсліваецца, што найбольшаму ўплыву гэтай тэндэнцыі падпадаюць спрадвечныя, частаўжывальныя, структурна простыя і стылістычна нейтральныя словы ў іх асноўных, пачатковых значэннях. Бесперапынны працэс семантычнай дыферэнцыяцыі такіх слоў прыводзіць да пашырэння ідэаграфічных, паняційных сінонімаў і скарачэння сінонімаў абсалютных.

Аднак жа вядома і тое, што, бесперапынна змяняючыся ў асобных звёнах, мова захоўвае і пастаянныя элементы, якія забяспечваюць яе тоеснасць самой сабе і здольнасць выконваць камунікатыўную функцыю на працягу цэлых эпох. Гэта ўстойлівасць мовы і забяспечвае магчымасць працяглага суіснавання паралельных, ніяк не дыферэнцыраваных сродкаў выражэння адной і той жа думкі.

Абсалютныя сінонімы ў беларускай мове можна выявіць ва ўсіх стылістычных пластах лексікі і ў межах розных часцін мовы. У сферы стылістычна нейтральных слоў абсалютнымі сінонімамі ў пэўных лексіка-семантычных варыянтах з'яўляюцца: а) назоўнікі: *абраз—ікона, абоі—шпалеры, ацэнка—адзнака* (на экзаменах), *асець—ёўня, ахапак—абярэмак, адуванчык—дзьмухавец, васілёк—валошка, думка—мысль, капшук—кісет, казяўка—кузурка, сустрэча—спатканне, жабрак—старац, пала—крысо, човен—лодка, падол—прыпол, пасаг—прыданае, вясёлка—радуга, тапор—сякера, падарожнік—трыпутнік, шрам—рубец, шыбеніца—вісельня* і інш.; б) прыметнікі: *асенні—восеньскі* (вечар), *вясенні—веснавы* (дзень), *аблажны—абкладны* (дождж), *духмяны—пахучы* (мёд),

[28] Так, М. М. Макоўскі лічыць, што поўныя сінонімы ўвогуле не ўласцівы мовам, паколькі тэндэнцыя да «нераўнамернага распаўсюджання моўнай энергіі» прыводзіць да іх ліквідацыі. (М. М. Маковский. Теория лексической аттракции // ВЯ. 1965. № 6. С. 86.)

[29] Кодухов В. И. Рассказы о синонимах. Л., 1971. С. 26; Булаховский Л. А. Введение в языкознание. Ч. II. М., 1953. С. 39.

*сумны—смутны—маркотны* (хлопец), *сухарлявы—хударлявы* (чалавек), *ройны—аднолькавы* (лёс), *плячысты—шыракаплечы* (хлопец), *самаробны—самадзялковы* (нож), *халодны—сцюдзёны* (вецер) і інш.; в) дзеясловы: *баранаваць—скарадзіць, брыцца—галіцца, знаць—ведаць, гадаць—варажыць* (на картах), *папасці—трапіць* (у цэль), *ірваць—браць* (лён), *заспець—застаць* (дзе-небудзь каго-небудзь), *спяваць—пець—пяяць, ягніцца—каціцца* (пра авечак, коз), *згінуць—прапасці, імгліць—імжыць* (пра дождж) і інш.; г) прыслоўі: *крыху—троху, хопіць—досыць—даволі, дадому—дахаты, пехатой—пяшком—пешшу, скора—хутка, скрозь—усюды, недзе—дзесьці, чуць—ледзь* і інш.

Многа поўных сінонімаў паяўляецца ў працэсе ўтварэння новых слоў па розных мадэлях [30]. У сінанімічныя адносіны ўступаюць часцей за ўсё вытворныя дзеясловы. Сярод іх: а) дзеясловы, утвораныя ад аднаго кораня з дапамогай прыставак: *абагнаць—перагнаць* (бегуна), *напалохаць—спалохаць* (каго-н.), *выспець—паспець* (пра яблыкі), *спыніць—прыпыніць* (рух), *прызнавацца—сазнавацца* (у чым-небудзь), а таксама пары з бесприставачнага і прыставачнага дзеясловаў: *варыць—адварваць* (бульбу), *вучыць—навучаць* (маладых), *канчаць—заканчваць* (школу), *мяняць—абменьваць* (кватэру), *месці—падмятаць* (двор), *лічыць—падлічваць* (грошы), *сохнуць—засыхаць* (пра расліны); б) прэфіксальныя дзеясловы з рознымі сінанімічнымі асновамі: *вывінціць—выкруціць* (лямпачку), *зажыць—загаіцца* (пра рану), *падсцерагчы—падкараўуліць* (злодзея), *саўладаць—справіцца* (з сабой), *напалохаць—настрашыць* (каго-н.); в) незваротны — зваротны дзеяслоў: *бялець—бялецца, састарэць—састарыцца, заблудзіць—заблудзіцца, забыць—забыцца* і інш.

Сярод назоўнікаў, прыметнікаў і прыслоўяў поўныя сінонімы ўзнікаюць таксама галоўным чынам за кошт сінаніміі прыставак, суфіксаў і вар'іравання асноў: *акурак—недакурак, абмылак—змылак, дабраволец—добраахвотнік, ласіха—ласіца, ваўчыха—ваўчыца, асмолка—асмольванне* (дзеянне), *слабаволле—слабавольства, наслаенне—напластаванне; бурачны—бурачковы* (колер), *колкі—калючы* (іржэўнік), *непрыветны—непрыветлівы,*

---

[30] Апресян Ю. Д. Лексическая семантика. С. 227—229. (З гэтай работы намі ўзяты і некаторыя прыклады.)

*потны—спацелы, сённяшні—сягонняшні; недалёка—непадалёку, нельга—няможна, сёлета—сяголета* і інш.

Вось некалькі прыкладаў ужывання поўных сінонімаў у аднолькавых ці аналагічных кантэкстах: *Бывайце здаровы, Жывіце багата, Ужо ж мы паедзем Дадому, дахаты* (А. Русак. Бывайце здаровы); *Дробны дождж бесперастанку, Як скрозь сіта ўсё імгліць* (Я. Колас. Увосень); *Імжыў асенні дробны дождж*ык (І. Гурскі. Вецер веку);— *Чаго ты прывязаўся, як смала? Згінь, прападзі! Але чорт не гінуў* (Я. Колас. Чорт); *Кожнае апавяданне...— і сапраўдная літаратура, і дакумент часу; гэта кніга сустрэч-спатканняў з цікавым і дбайным чалавекам* (Звязда. 2.X 1988); *Сымоніха хоча ўсё знаць-ведаць, што робіцца ў Лявонісі* (З. Бядуля. Лявоніха і Сымоніха); *Трэба ведаць, знаці службы гараванне: Позна легчы спаці, А ўстаці заранне* (Я. Купала. Ад рана да рана); *Як ліхія думкі-мыслі Над зямлёю хмары звіслі* (Я. Колас. Хмары) і інш. Ужо гэтыя кароткія матэрыялы пераконваюць у правільнасці вываду, што «нават ядро слоўніка літаратурнай мовы можа ў прынцыпе... процістаяць тэндэнцыі да ўстаранення семантычна недыферэнцыраванай лексічнай разнастайнасці» [31].

У іншых пластах лексікі супраціўленне матэрыялу гэтай тэндэнцыі значна ўзрастае. Экспрэсіўная лексіка, словы ў пераносных і фразеалагічна звязаных значэннях, некаторыя вытворныя і нядаўнія запазычанні складаюць у цэлым значна большы працэнт слоўніка, і кожная такая адзінка намнога радзей сустракаецца ў тэкстах. Паколькі на кожную з іх прыпадае не так многа ўжыванняў, яны аказваюцца менш падыходзячым аб'ектам для дзеяння семантычнай дыферэнцыяцыі, якой цяжка праявіцца на такім адносна бедным матэрыяле [32].

На лёгкасць узнікнення сінанімічных адносін у сферы эмацыянальнай лексікі зварочвалі ўвагу ўжо многія лінгвісты (Ж. Вандрыес, А. Б. Шапіра, Л. А. Іваннікава, Ю. Д. Апрэсян і інш.). Прыкладамі такіх абсалютных сінонімаў у беларускай мове можна назваць: *адубець—акарчанець* (ад холаду), *бразнуцца—гракнуцца* (вобзем-лю), *вылупіць—вытарашчыць* (вочы), *заляпіць—заехаць* (у вуха), *агрэць—аперазаць* (дзягай), *уляпіць—закаціць* (вымову), *плесціся—валачыцца—цягнуцца* (ззаду ўсіх);

---

[31] Апресян Ю. Д. Лексическая семантика. С. 224.
[32] Там жа. С. 225.

*абадранец—абшарпанец, бязглуздзіца—лухта, гарлапан—гарладзёр, кукіш—фіга, пранырa—пралаза, пустазвон—пустабрэх—пустаслоў—пустамеля; бязмозгі—безгаловы, нездаляшчы—лядашчы, нягеглы—недалужны* і інш.

Абсалютныя сінонімы досыць часта сустракаюцца ў сферы пераносных і фразеалагічна звязаных значэнняў: *уляцець—нагарэць—дастацца* (ад бацькі), *выйсці—атрымацца* (добра выйсці, атрымацца на фатаграфіі), *нагнаць — навярстаць* (упушчанае), *выпасці — выдацца* (выпала, выдалася вольная мінута), *празяваць—прамаргаць—праваро̀ніць* (зручны выпадак), *калупацца—корпацца* (каля дому), *заплюшчыць—зажмурыць* (вочы), *вандал—варвар* (XX стагоддзя), *навука—урок* (на будучае), *зеніт—апагей* (славы), *аплот—цытадэль—цвярдыня* (міру); *закляты—злейшы* (вораг), *літаральны—прамы* (сэнс), *палярныя—процілеглыя* (погляды), *збіты—зацягані—пошлы* (выраз), *невыносны—нецярпімы* (боль) і інш.

Важнай крыніцай поўных сінонімаў у галіне кніжнай лексікі з'яўляюцца запазычанні, якія ў працэсе функцыяніравання ў мове-рэцэптары могуць уступаць у сінанімічныя адносіны з іншымі запазычанымі словамі або са спрадвечнымі словамі той мовы, якая іх прымае. Пры гэтым фарміруюцца два віды сінанімічных радоў: а) рады, якія складаюцца толькі з запазычаных слоў: *аліва—масліна, амур—купідон, абрыс—контур, бурштын—янтар, бегемот—гіпапатам, гума—рызіна, іслам—мусульманства, кансерватар—руцінёр, качаваць—вандраваць, кугуар—пума, плебісцыт — рэферэндум, скумбрыя—макрэль, арэол—німб, васьміног—спрут, кантынент—мацярык* і інш.; б) рады з уласных і запазычаных слоў: *адцягнены—абстрактны, накід—эскіз, вынік—рэзультат, канчатак—флексія, мнагазначнасць—полісемія, любіцель—аматар, прыстаўка—прэфікс, самадзяржаўе—абсалютызм, заваёўнік—агрэсар, злабадзённы—актуальны, мовазнаўства—лінгвістыка, друкарня—тыпаграфія, разваліны—руіны* (дома); *мімавольна—машынальна—аўтаматычна* і інш.

Выбарачна прыведзеныя тут прыклады з розных пластоў лексікі паказваюць, што нават дастаткова апрацаваныя літаратурныя мовы захоўваюць у сабе значную колькасць абсалютных, семантычна поўных сінонімаў.

2. С е м а н т ы ч н ы я (п а н я ц і й н ы я, і д э а г р а-

фічныя) сінонімы характарызуюцца тым, што, абазначаючы адно і тое ж паняцце, яны адрозніваюцца паміж сабой адценнямі (дыферэнцыяльнымі прыметамі, семамі) у канцэптуальнай частцы лексічнага значэння, ці, інакш кажучы, аб'ёмам семантыкі. У сінанімічнай пары *страх—жах*, як мы бачылі, паняцце *жах* уключае ў сябе ўсе прыметы паняцця *страх* і разам з тым мае дадатковыя семантычныя прыметы (семы) — 'моцны' і 'да здранцвення'. Прыметнікі *чырвоны—кумачовы—пунсовы*, аб'ядноўваючыся ў сінанімічны рад на аснове агульнага для ўсіх іх значэння — 'які мае колер крыві', у той жа час адрозніваюцца паміж сабой адценнямі гэтага значэння: *чырвоны* абазначае звычайную ступень прыметы, *кумачовы* — больш высокую ступень — 'ярка-чырвоны', а *пунсовы* мае адценне 'густа-чырвоны'. Дзеясловы *ісці — крочыць* маюць агульнае значэнне 'перамяшчацца, робячы шагі', але ў лексічным значэнні дзеяслова *крочыць* ёсць дадатковыя семы 'шырокія' 'цвёрдыя' (шагі), якімі ён і адрозніваецца ад дзеяслова *ісці*. Семантычнымі сінонімамі будуць такія словы, як *акцёр—артыст, злосць—гнеў—абурэнне, касынка—хусцінка, пакт—дагавор—пагадненне; вясёлы—радасны, малады—юны, шпаркі—імклівы; атакаваць—штурмаваць, хацець—жадаць—прагнуць, прасіць—упрошваць—маліць—заклінаць; публічна—усенародна* і інш.

Адрозненне ў семантыцы сінонімаў гэтай групы праяўляецца ў несупадзенні спалучальнасці кожнага члена сінанімічнага рада з другімі словамі. Параўн.: *акцёр/артыст тэатра*, але: *народны артыст СССР* (не *акцёр*); *ісці/крочыць па вуліцы*, але: *асцярожна ісці па балоце* (не *крочыць*).

3. Стылістычныя сінонімы — гэта тоесныя або блізкія па значэнню словы, якія маюць розную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку і таму належаць да розных стыляў і сфер ужывання. Рад стылістычна розных сінонімаў складаюць, напрыклад, словы *асілак—сілач—волат—атлет—здаравяк—здаравіла—бугай*, дзе *асілак* і *сілач* — стылістычна нейтральныя словы, *волат* і *атлет* — кніжныя, *здаравяк* і *здаравіла* — размоўныя, *бугай* — размоўна-грубае. Вось яшчэ рады такога тыпу: *выдумляць—плесці—вярзці; прыстаць—прычапіцца—прычурыцца; крык—шум—гармідар—вэрхал—гвалт; турма—астрог—цёмная — халодная; украсці—сцягнуць—сперці—сцібрыць; ілгаць—брахаць—плесці* і інш.

4. Да **семантыка-стылістычных сінонімаў** адносяцца словы, якія адрозніваюцца адначасова і аб'ёмам семантыкі і стылістычнай прыналежнасцю. Напрыклад, у пары *ісці—валачыся* другі кампанент, уключаючы ў сябе значэнне дзеяслова *ісці*, мае яшчэ дадатковыя семы 'павольна', 'з цяжкасцю' і выразную адзнаку размоўнасці. Параўн. яшчэ: *жывот—пуза* ('вялікі тоўсты жывот у чалавека'+разм. пагардл.); *неспрактыкаваны—зялёны* ('неспрактыкаваны з-за маладосці'+разм. пагардл.); *ударыць—гакнуць* ('ударыць з вялікай сілай'+ +разм.); *валасы—пэйсы* ('доўгія раскудлачаныя валасы'+разм. пагардл.); *кідаць—шпурляць* ('кідаць з сілай'+разм.); *піць—жлукціць* ('многа і прагна піць'+ +разм.) і інш.

Акрамя названых груп сінонімаў (абсалютных, семантычных, стылістычных і семантыка-стылістычных), якія з'яўляюцца агульнамоўнымі словамі, характарызуюцца ўстойлівасцю семантыкі і адноснай незалежнасцю ад кантэксту, вылучаюцца яшчэ так званыя **кантэкстуальныя, або аказіянальныя, сінонімы**. Гэтым тэрмінам называюцца словы, якія толькі часова, толькі ў канкрэтным кантэксце выступаюць як сінонімы да іншых слоў. Напрыклад, у сказе: *Імгла заслала сіні далягляд, І жураўлі ляцяць, веслуюць к Нілу* (Е. Лось. Вянцы зруба)—дзеясловы *ляцець* і *весляваць* ужыты аўтарам у значэнні 'рухацца ў паветры пры дапамозе крылаў'. За межамі гэтага кантэксту слова *весляваць* мае значэнне 'грэбці вёсламі, едучы ў лодцы'. Але ў прыведзеным урыўку праз сістэму ўласных асацыяцый аўтар надае яму пераноснае значэнне і сінанімізуе са словам *ляцець* (параўн.: *весляваць* — 'грэбці вёсламі'; *грэбці* — 'плывучы, працаваць рукамі або вёсламі'; *ляцець* (плыць у паветры)— 'працаваць, махаць крыламі'). Такія кантэкстныя (аказіянальныя, аўтарскія) сінонімы-ўжыванні выходзяць за рамкі лексіка-семантычнай сістэмы і таму не ўключаюцца ні ў сінанімічныя, ні ў тлумачальныя слоўнікі.

### Функцыі сінонімаў у мове

Сінонімы як тоесныя або блізкія па значэнню словы выконваюць у мове функцыі замяшчэння, удакладнення і стылістычнай характарыстыкі.

Ф у н к ц ы я з а м я ш ч э н н я з'яўляецца па сутнасці пачатковай, зыходнай, на ёй у значнай меры асноўваецца само азначэнне сінонімаў. У найбольш тыповай форме функцыя замяшчэння ўласціва абсалютным (поўным) сінонімам. Яна рэалізуецца ў тым выпадку, калі два словы ўжываюцца ў тэксце для абазначэння аднаго і таго ж паняцця (рэаліі) і могуць узаемна замяняць адно другое без парушэння сэнсу выказвання. Выкарыстанне сінонімаў з мэтай узаемнага замяшчэння дазваляе пазбегнуць таўталогіі, паўтарэння адных і тых жа слоў у сумежных кантэкстах, напрыклад:

«Савет Міністраў Беларускай ССР пастанаўляе:

1. Зацвердзіць «Праект удакладненняў і частковых змен беларускага *правапісу*», падрыхтаваны Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР (дадаецца).

2. Даручыць Акадэміі навук БССР скласці да 1 верасня 1957 года поўны звод правіл беларускай *арфаграфіі* і пунктуацыі, якім прадугледзець больш дробныя неабходныя ўдакладненні асобных правіл *правапісу*» (Правілы беларускай *арфаграфіі* і пунктуацыі. М., 1959. С. 7). У прыведзеным урыўку чаргаваннем абсалютных сінонімаў *правапіс* і *арфаграфія* ўдалося пазбегнуць мнагакратнага паўтарэння аднаго з гэтых слоў у адносна кароткім урыўку тэксту.

Характарызуючыся нулявой сэнсавай апазіцыяй (адпаведнымі раўназначнымі паняццямі) і ў цэлым супадаючай дыстрыбуцыяй, абсалютныя сінонімы застаюцца патэнцыяльна ўзаемазамяняльнымі ва ўсякім кантэксце: *чырвоная кавалерыя/чырвоная конніца, служыць у кавалерыі/служыць у конніцы, захапляцца кавалерыяй/захапляцца конніцай* і інш.; *часаць тапаром/часаць сякерай, навастрыць тапор/навастрыць сякеру, не ўзяць з сабой тапара/не ўзяць з сабой сякеры* і інш.; *прайсці курс водатэрапіі/прайсці курс водалячэння, кабінет водатэрапіі/кабінет водалячэння* і г. д.

У якасці сродку замяшчэння таго ці іншага слова ў тэксце могуць выкарыстоўвацца таксама а) ідэнтычныя па сэнсу складаныя назвы: *АН РБ — Акадэмія навук Рэспублікі Беларусь, ВНУ — вышэйшая навучальная установа, БАМ — Байкала-Амурская магістраль, ЛЭП — лінія электраперадачы;* б) разгорнутыя назвы: *параіць — даць параду, згадзіцца — даць згоду, геліяцэнтрызм — геліяцэнтрычная сістэма свету;* в) устойлівыя вобразныя

спалучэнні: *бавоўна — белае золата, бульба — другі хлеб, жэнь-шэнь — корань жыцця, лес — зялёны сябра, маладосць — раніца жыцця, партызаны — лясныя салдаты, дактары (урачы)— людзі ў белых халатах; БелДРЭС — першынец беларускай энергетыкі, Ф. Дзяржынскі — жалезны рыцар рэвалюцыі, Янка Купала — пясняр беларускага народа* і інш.

Як можна бачыць, функцыя замяшчэння для сінонімаў з'яўляецца жывой і рэальнай. Яна абумоўлена патрэбнасцямі камунікацыі і стылістычнай разнастайнасці.

Удакладняючая функцыя з'яўляецца асноўнай для семантычных (паняційных, ідэаграфічных) сінонімаў, якія, як вядома, перадаюць дадатковыя сэнсавыя адценні ці, інакш кажучы, вылучаюць якія-небудзь новыя прыметы паняцця. Удакладняючая функцыя сінонімаў, як і функцыя замяшчэння, забяспечваецца асаблівасцямі іх кантэкстуальнага ўжывання ў мове: для сінонімаў характэрна пераважна кантактнае, сумежнае размяшчэнне ў тэксце. У адрозненне ад значэнняў мнагазначнага слова, якія вылучаюцца дзякуючы несупадаючаму акружэнню, сінонімы дыферэнцыруюцца «дзякуючы сваім розным лексемам: яны адрозніваюцца адзін ад другога не асацыятыўнай прыметай, а кампанентным саставам — адрозненнем пэўных сем або іншай дыстынкцыі пры высокай ступені супадзення іх сэнсавай структуры (кампанентнага саставу)» [33]. Кантактнае ўжыванне паняційных сінонімаў у мове (маўленні) і забяспечвае магчымасць featuresнабаковай, удакладняючай характарыстыкі таго ці іншага адрэзка рэчаіснасці.

У залежнасці ад характару кампанентаў, якімі адрозніваюцца паняційныя сінонімы, сярод іх можна вылучыць некалькі груп:

1. Сінонімы, якія перадаюць розную ступень якасці або ўласцівасці прадмета: *Штодзень і штовечар ляцяць з усіх балконаў парашуты... Малыя, маленькія, малюсенькія і самыя малюпаценькія* (М. Лынькоў. Янка-парашутыст). У гэтым кароткім сказе побач пастаўленыя якасныя прыметнікі паказваюць на чатырохступенную градацыю прыметы — рознай велічыні парашутаў.

У сказах:— *Адышлі ў нябыт адвечная беднасць і галеча палешука, яго славуты «каўтун», яго бездапаможнасць у барацьбе з суровай прыродай* (У. Краўчанка.

[33] Новиков Л. А. Семантика русского языка. С. 191.

Вясна па Палессі); *А хто гэта іх, не адзін мільён, Крыўду несць наўчыў, разбудзіў іх сон?— Бяда, гора* (Я. Купала. А хто там ідзе?); *А бацька страшны, поўны злосці, Алеся лупіць без літосці; І маці рады даць не можа — Так моцна бацька абурыўся... Прыбег і дзядзька на падмогу, Насілу вырвалі нябогу. А бацька сек, пытаў скрозь гнеў:— Куды «начаткі», гад, задзеў?* (Я. Колас. Новая зямля) — сінонімы *беднасць—галеча, бяда—гора, злосць—гнеў* адрозніваюцца адсутнасцю ў адных з іх і наяўнасцю ў другіх семы, якая выражае вельмі высокую ступень (меру) прыметы ('крайні', 'вялікі', 'вельмі'): *галеча* — 'крайняя беднасць', *бяда* — 'вялікае гора', *гнеў*— 'вельмі вялікая злосць'. Неабходнасць удакладнення ў падобных выпадках выклікаецца тым, што абазначаемы прадмет, з'ява або паняцце з прычыны сваёй мнагаграннасці не могуць быць рознабакова выражаны адным лексіка-семантычным варыянтам і патрабуюць дадатковай характарыстыкі.

2. Сінонімы, якія раскрываюць спосаб ажыццяўлення дзеяння, інтэнсіўнасць яго працякання: *бегчы—імчацца—ляцець, прасіць—маліць, хацець—жадаць—прагнуць, гарэць—палаць, злавацъ—гневацца* і пад. Звычайна ў такіх радах кожнае наступнае слова паказвае на больш высокую ступень інтэнсіўнасці дзеяння, спосабу яго працякання: *А ў тым коміне зноў Вецер песню пачаў, Вось ён глуха завёў, Застагнаў, забурчаў* (Я. Колас. На адзіноце); *Так ісці на захад, гэтак перці За эпоху можна толькі раз. Есці захацелася да смерці, Ну, а повар з кухняю загразь* (П. Панчанка. Бульба). Магчымы і адваротныя выпадкі, калі сінонімы размяшчаюцца ў парадку аслаблення інтэнсіўнасці дзеяння: *Ціхне, глухне гэты звон. Ускочыўшы ў гаёчак, Замірае, моўкне ён, Кволы галасочак* (Я. Колас. Тройка); *Госці рагаталі, смяяліся, жартавалі* (З. Бядуля. Салавей). Такі прыём нанізвання, або ампліфікацыі, блізкіх па значэнню слоў дазваляе больш поўна і рознабакова абмаляваць прадмет, прымету або дзеянне, узмацніць выразнасць тэксту.

3. Сінонімы, у значэнні якіх вылучаюцца некаторыя дадатковыя (індывідуальныя) прыметы, рысы абазначаемага, якіх няма ў іншых членаў сінанімічнага рада. Так, сінонімы *гарлач* і *гладыш* адрозніваюцца тым, што *гарлач* — гэта 'збан з вузкім горлам', а *гладыш* — 'збан без ручкі'; *замак* — 'багатае, умацаванае жыллё феадала, пана', а *палац* — 'багаты, раскошны будынак, звы-

чайна без умацаванняў'; *гультай* — 'лянівы чалавек, лодар', а *гуляка* — 'чалавек, які ўхіляецца ад работы і любіць пагуляць'; *нагайка* — 'кароткая раменная плётка', а *бізун* — 'доўгая плётка, звітая з тонкіх рамянёў або вяровак'. Пры кантактным ужыванні, у аднолькавым ці блізкіх кантэкстах такія сінонімы ўступаюць у складаныя семантычныя адносіны: *Зручна, гучна грай нам, грайка, Ад усіх рэж струн! Не свісціць ужо нагайка, Не гудзіць бізун* (Я. Купала. Безназоўнае); *Ласкаю ж чыёю І з чые вы працы Замкі збудавалі, Пышныя палацы?* (Я. Колас. Ворагам); — *Тут не прыстанішча ў нас Для гультаёў і для гуляк, А месца для працоўных мас* (Я. Купала. Над ракою Арэсай).

У адрозненне ад паняційных сінонімаў першай і другой групы, звязаных семантычнымі адносінамі ўключэння (лагічнага падпарадкавання), сінонімы гэтай групы ўтвараюць эквіпалентныя апазіцыі, пры якіх члены рада характарызуюцца, з аднаго боку, лагічнай раўнапраўнасцю (незалежнасцю), частковай сумяшчальнасцю аб'ёмаў лексічнага значэння, частковым супадзеннем лексічнай спалучальнасці, а з другога — наяўнасцю дыферэнцыяльных семантычных кампанентаў і адпаведна адрозненнямі ў спалучальнасці. У адным кантэксце пры сумежным размяшчэнні сінонімаў і агульныя і дыферэнцыяльныя семы накіроўваюцца на адзін і той жа прадмет, як бы складваюцца і, узаемадзейнічаючы між сабой, паўней выражаюць адпаведнае паняцце. Пры выкарыстанні гэтай разнавіднасці паняційных сінонімаў вылучаюцца кантэксты двух відаў — нейтралізуючыя і дыферэнцыруючыя. У першых з іх дыферэнцыяльныя прыметы (семы) не процістаўляюцца, а як бы сціраюцца, нейтралізуюцца і могуць адчувацца толькі як патэнцыяльна магчымыя, напр.: *Цень мінуўшчыны праклятай, Дзе бізун гуляў з нагайкай, Змяціцё вы, арляняты, Сваёй новай сілай, байкай* (Я. Купала. Арлянятам); *Пра музыку вечна ходзіць Слава кепская ў народзе: «Не касец і не ратай, А гуляка і гультай»* (А. Бачыла. Юнацтва).

У такіх выпадках удакладняльная функцыя сінонімаў можа разглядацца як «няпоўнае замяшчэнне» (Л. А. Новікаў). Гэта магчымасць узаемазамяшчэння выразна праяўляецца ў практыцы папарнага, здвоенага ўжывання паняційных сінонімаў у вузкім кантэксце і напісання іх праз дэфіс: *Тарасовы гора-мукі Камень толькі бача Ды шумлівы вецер чуе, як гаротны плача* (Я. Купала.

Тарасова доля); *Зірнеш — не згледзіш канца-краю, І гэта ўся зямлі армада Гаспадара-цара аблада* (Я. Колас. Новая зямля); *Дзяўчына, кветкамі абсып курган вялікі, А песню вечную злажы, пясняр-паэт* (Я. Купала. На смерць таварыша Кірава).

У другім выпадку, наадварот — увага акцэнтуецца на індывідуальных, адрознівальных прыметах: *Дажджу не было і не было, а сонца не грэла, а смаліла і смаліла дзень у дзень* (С. Александровіч. Ад роднае зямлі). Проціпастаўленасць сінонімаў *грэць—смаліць* тут выражана супраціўнай сувяззю з адпаведнай ёй інтанацыяй.

### *Стылістычныя функцыі сінонімаў*

Будучы тоеснымі або вельмі блізкімі па логіка-прадметнаму значэнню, стылістычныя сінонімы адрозніваюцца адзін ад другога эмацыянальна-ацэначнымі характарыстыкамі, эматыўным значэннем. Эмацыянальная ацэнка — «гэта станоўчыя ці адмоўныя эмацыянальныя адносіны, устанаўленне суб'ектам эмацыянальна-ацэначнага статуса каго-, чаго-небудзь, выражэнне эмацыянальнай перавагі (адабрэння і інш.) — неперавагі (неадабрэння і інш.) каго-, чаго-небудзь» [34]. У лексіка-семантычнай сістэме ацэнкі такога роду замацоўваюцца за пэўнымі стылістычна выражанымі адзінкамі, з дапамогай якіх і даюцца кваліфікацыі «добра», «дрэнна» і т. п., але не «ўсё роўна» [35].

На аснове гэтага вылучаюцца дзве асноўныя функцыі стылістычных сінонімаў: функцыя ацэнкі, або ўласна стылістычная, і функцыя стылёвай арганізацыі тэксту, або стылеадрознівальная. Функцыя ацэнкі, з'яўляючыся асноўнай у стылістычных сінонімаў, выражае пэўныя адносіны гаворачых да абазначанага факта. Розная стылёвая замацаванасць маркіраваных лексічных адзінак у мове (высокае, паэтычнае, кніжнае, афіцыяльна-дзелавое — вышэй нейтральнага «нуля» і размоўнае, прастамоўнае — ніжэй нейтральнага «нуля») з'яўляецца асновай адпаведнай станоўчай або адмоўнай ацэнкі абазначаемага [36].

Так у сінанімічным радзе *выдумляць—ілгаць—хлу-*

---

[34] Киселева Л. А. Вопросы теории речевого воздействия. Л., 1978. С. 18.

[35] Новиков Л. А. Семантика русского языка. С. 101.

[36] Там жа. С. 237.

*сіць—плесці—гарадзіць—вярзці* ўсе кампаненты маюць адно і тое ж сігніфікатыўнае значэнне 'гаварыць няпраўду', але розную эмацыянальна-стылістычную афарбоўку. Сінонімы *выдумляць, ілгаць, хлусіць* з'яўляюцца нейтральнымі, міжстылявымі словамі, а *плесці, гарадзіць, вярзці* — стылістычна зніжанымі, размоўнымі з адценнем неадабрэння, г. зн. словамі адмоўнай ацэнкі. У сінанімічнай парадыгме *банальны—збіты, шаблонны, стандартны, трафарэтны, стэрэатыпны, неарыгінальны, плоскі, пошлы, сцёрты, заезджаны, зацяганы, трывіяльны* словы *заезджаны, зацяганы* маюць ярка выражаную афарбоўку размоўнасці, ■ *трывіяльны* — кніжнасці.

Функцыя стылявой арганізацыі тэксту, або стылеадрознівальная, «заключаецца ў стылістычнай узгодненасці сіноніма (як, між іншым, і ўсякага другога слова) з агульным характарам тэксту (высокім, нейтральным, зніжаным)»[37]. Узгодненасць сіноніма з тэкстам праяўляецца ў прынцыповай немагчымасці выкарыстання слова высокага стылю ў тэксце зніжанага стылю і наадварот. Прасачыць гэта можна і на такім, напрыклад, урыўку звязанага тэксту, узятага з газеты «Звязда» за 18 верасня 1987 г.: «**Паплечнік Пятра** (загаловак). У гісторыі Радзімы ёсць нямала прыкладаў, калі нашы суайчыннікі, што жывуць за рубяжом, аказвалі ёй значныя паслугі, часам зусім бескарысліва, па абавязку сыноўняй любві. Яркі прыклад звязаны з імем і справамі беларуса Іллі Капіеўскага (Капіевіча) — вернага *спадзвіжніка* Пятра І, актыўнага *прыхільніка* яго радыкальных рэформ пераўтварэння Расіі, пра якога, на жаль, пакуль так мала вядома». У гэтым газетна-публіцыстычным тэксце выкарыстаны словы толькі стылістычна нейтральныя і блізкія да кніжных, у тым ліку сінонімы *паплечнік, спадзвіжнік, прыхільнік,* але няма ніводнага слова са зніжанай стылістычнай афарбоўкай. Такая арыентаванасць тэксту на публіцыстычнасць робіць немагчымым выкарыстанне побач з названымі сінонімамі такіх стылістычна зніжаных слоў, як, скажам, *памагаты, прыслужнік, паслугач* і пад.

Семантыка-стылістычныя сінонімы, як паказвае іх назва, могуць адначасова выконваць некалькі функцый — удакладнення, эмацыянальнай ацэнкі, стылістычнай характарыстыкі і інш.: *конь—кляча* ('дрэнны, заезджаны

---

[37] Новиков Л. А. Семантика русского языка. С. 239.

конь'+разм.), *хадзіць—швэндацца* ('хадзіць без мэты'+ +разм.), *геройства—доблесць* ('геройства, дастойнае славы'+высок.).

### *Сінанімічны рад*

Сінонімы — паняцце суадноснае, паколькі слова можа быць названа сінонімам толькі ў дачыненні да другога слова або некалькіх слоў. Значыць, для таго, каб узніклі адносіны сінаніміі, трэба мець мінімум два словы, або сінанімічную пару: *стагоддзе—век.* Некалькі сінанімічных паміж сабой слоў утвараюць лексічную парадыгму, або сінанімічны рад: *гультай—лодар—абібок—лянівец—лайдак—лежабок—труцень—лежань — гультаіна—гуляка—завала—нядбалец* і інш.

У сінанімічны рад уваходзяць звычайна словы адной і той жа часціны мовы: назоўнікі: *бальніца—клініка—шпіталь—лазарэт, злосць—гнеў—абурэнне;* прыметнікі: *смелы—храбры—бясстрашны—адважны, актыўны—дзейны—ініцыятыўны—энергічны;* дзеясловы: *гаіцца—зажываць—залечвацца, мерзнуць—зябнуць—калець—стыць;* прыслоўі: *голасна—звонка—гучна, нямнога—троху—трошкі—крыху;* займеннікі: *кожны—усякі, нехта—хтосьці—хтось;* прыназоўнікі: *к—да, аб—пра;* злучнікі: *а—але—аднак—ды, бо—таму што, ці—або;* асобныя часціцы: *іменна—якраз, вось—вот* і інш.

Розныя словы аб'ядноўваюцца ў сінанімічны рад пры наяўнасці ў іх адзінай сэнсавай асновы, агульнага для ўсіх іх значэння. Практыка стварэння сінанімічных слоўнікаў выклікала неабходнасць вылучаць у сінанімічным радзе а п о р н а е  с л о в а (або д а м і н а н т у), якое магло б служыць загалоўным, апорным словам да ўсяго рада. За апорнае звычайна прымаецца слова, якое мае менш за ўсё дадатковых адценняў і найбольш выразна перадае агульнае значэнне слоў усяго рада. Сапраўды, можна сказаць, што ў сінанімічным радзе *вялікі, вялізны, агромністы, гіганцкі* апорным з'яўляецца слова *вялікі*, як найбольш «чыстае» ў сэнсавых і нейтральнае ў эмацыянальна-стылістычных адносінах. Аднак вызначыць дамінанту можна не заўсёды, а толькі ў групе семантычных і семантыка-стылістычных сінонімаў. Сярод жа абсалютных і эквіпалентных сінонімаў гэтага практычна зрабіць немагчыма (параўн.: *арфаграфія—правапіс, сябра—таварыш*). І таму ідэя апорнага слова ў

сінанімічным радзе раздзяляецца далёка не ўсімі даследчыкамі.

Акрамя асобных слоў, у сінанімічны рад могуць уваходзіць: а) спалучэнні службовых і паўназначных слоў, якія выступаюць у той жа сінтаксічнай функцыі, што і загаловачнае слова рада (напр., *асцярожна — з агляд-кай, бесперашкодна—без затрымак, ананімны—без подпісу)*; б) лексікалізаваныя спалучэнні, якія абазначаюць адно паняцце *(дантыст — зубны ўрач, блакнот — запісная кніжка, інфаркт — разрыў сэрца, персанаж — дзеючая асоба, абзац — чырвоны радок, сейф — незгаральная шафа)*; в) словазлучэнні дублетнага (у адносінах да загаловачнага слова рада) і перыфрастычнага характару, якія звычайна маюць у сваім саставе словы з аслабленым лексічным значэннем *(фабрыкант—уладальнік фабрыкі, багацець—рабіцца багатым, бавоўна—белае золата)*; г) разгорнутыя назвы, адпаведныя складанаскарочаным словам *(ЭВМ — электронна-вылічальная машына, лінкор — лінейны карабель)*.

Па-рознаму вырашаецца пытанне аб магчымасці сінанімізацыі слова і фразеалагічнай адзінкі. Імкнучыся як можна паўней адлюстраваць сінанімічныя сродкі мовы, укладальнікі сінанімічных слоўнікаў уключаюць фразеалагізмы ў сінанімічны рад. У працах жа тэарэтычнага характару звяртаецца ўвага на тое, што лексічная і фразеалагічная сінанімія, нягледзячы на рад агульных рыс, характарызуецца і прынцыповымі адрозненнямі: «Не забываючы таго, што фразеалагічныя адзінкі апіраюцца на словы і іх патэнцыяльныя структурна-семантычныя магчымасці, варта разам з тым заўсёды мець на ўвазе, што словы ў саставе фразеалагізма парываюць са сваёй сферай семантычных і сінтаксічных узаемадзеянняў і набываюць там новую якасць. Яны падпарадкоўваюцца новым, ужо фразеалагічным сувязям і ўзаемадзеянням, якія ўстанаўліваюцца ў межах фразеалагічных адзінак, а такія адзінкі ў цэлым праходзяць свой шлях сінанімізацыі. На гэтай аснове варта зрабіць вывад аб тым, што лексічная і фразеалагічная сінаніміі як блізкія, але несупадаючыя з'явы павінны быць самастойнымі аб'ектамі лінгвістычнага аналізу» [38]. Па гэтай прычыне фразеалагізмы ў сінанімічны рад намі не ўключаюцца.

---

[38] Авалиани Ю. Ю., Ройзензон Л. И. Синонимические отношения слов и фразеологических сочетаний // Лексическая синонимия. М., 1967. С. 173.

У сінанімічны рад могуць уваходзіць словы рознай марфалагічнай структуры: аднакарэнныя і рознакарэнныя (*вазак—возчык, свята—урачыстасць*), невытворныя і вытворныя (*вялікі—вялізны—велізарны—агромны—агромністы*), а таксама адзінкі розных узроўняў мовы (*фауна—жывёльны свет, флора—раслінны свет* і інш.). У адным сінанімічным радзе могуць аб'ядноўвацца словы рознай стылёвай прыналежнасці (*бандыт—галаварэз* (разм.)—*гангстэр* (кніжн.)), розных сфер ужывання (*повар—кок* (спец.), *дзяркач—галень* (абл.), *вечарынка—капуснік* (жарг.)), рознага паходжання (*байніца—амбразура, довад—аргумент*), словы сучаснага ўжытку і ўстарэлыя або старэючыя (*буквар—лемантар, аліфа—пакост, землякоп—грабар* і інш.). Аб'яднанне слоў у сінанімічным радзе — адно з самых наглядных праяўленняў сістэмных адносін у лексіцы. «Сінанімічны рад — гэта сувязны мост у часе (розныя эпохі), у прасторы (паміж літаратурнымі нарматыўнымі словамі і ўваходзячымі ў моўны абарот дыялектызмамі і запазычанымі з іншых моў словамі), паміж сацыяльнымі сферамі зносін (прафесіяналізмы, жарганізмы і словы літаратурнай мовы). Апошнія дзве прыметы сінанімічнага рада хоць звычайна і разглядаюцца ў сінхронным плане, але і ў гэтым плане сінанімічны рад усё ж не замкнут»[39]. Сінанімічныя рады пранізваюць усю лексічную сістэму. Бесперапынна змяняючыся як у колькасных, так і ў якасных адносінах, яны становяцца важнай крыніцай узбагачэння і абнаўлення лексіка-семантычнага ўзроўню мовы.

### *Крыніцы сінонімаў у беларускай мове*

Сінанімія, як моўная універсалія, характарызуецца рысамі, агульнымі для розных моў. Аднолькавымі або падобнымі з'яўляюцца, напрыклад, шляхі фарміравання сінанімічных радоў. У беларускай, як і ў іншых мовах, сінонімы да ўжо існуючых слоў паяўляюцца заўсёды і самымі рознымі шляхамі. Важнейшымі з іх з'яўляюцца:

1) утварэнне новых слоў шляхам а) афіксацыі (*жоўты—зжаўцелы—пажоўклы, злы—злосны—раззлаваны*), б) асноваскладання (*касабокі—крывабокі, шматгадовы—мнагалетні, раўназначны—раўнацэнны*), в) канверсіі (*вартаўнік—вартавы, сталоўка—сталовая, коннік—*

[39] Брагина А. А. Синонимы в литературном языке. С. 14.

*верхавы*), г) абрэвіяцыі (*жыллёва-эксплуатацыйная кантора — ЖЭК, навукова-тэхнічная рэвалюцыя—НТР*);

2) асваенне запазычаных слоў, тоесных або блізкіх па значэнню беларускім або раней запазычаным іншамоўным словам (*ашчадны—эканомны, памілаванне—амністыя, байніца—амбразура, малакроўе—анемія, тузе-мец—абарыген—аўтахтон*);

3) пранікненне ў літаратурную мову народна-дыялектных, прафесіянальных, спецыяльных, устарэлых слоў і неалагізмаў (*авадзень—здрок, нядаўна—кагадзе, галінка—гучок* (абл.), *кухня—камбуз* (марск.), *старонка—паласа* (газетн.), *рэакцыянер—абскурант—цемрашал* (неалаг. 20-х гадоў), *сплаўшчык—аснач* (уст.);

4) развіццё ў семантычнай структуры таго ці іншага традыцыйнага слова пераносных значэнняў, на аснове якіх могуць скласціся новыя сінанімічныя адносіны, новыя сінанімічныя рады. Так, у пачатку 60-х гадоў слова *маяк* пачало шырока ўжывацца ў значэнні 'перадавік вытворчасці, які можа служыць прыкладам, узорам для пераймання': *А свінарка саўгаса Тамара Шам была маяком у раёне* (В. Хомчанка. Сумленне); *За токарам-універсалам Савай Усталявалася такая слава: «Перадавік! Наватар! Вынаходнік! Адменны, незаменны ён работнік! Як не лічыць Савося маяком!»* (В. Маеўскі. Розум у партфелі); — *Вы павінны намаляваць вобраз сучасніцы. Так, яна сціплая. Не гаворыць гучных фраз, не крычыць..., а яна сапраўды наш маяк* (Л. Гаўрылкін. Прашу звольніць мяне). У такім значэнні слова *маяк* уступае ў сінанімічныя адносіны са словамі *прыклад, узор*.

Сінанімічная мікрасістэма кожнай літаратурнай мовы побач з агульнымі рысамі мае і спецыфічна свае, самабытныя асаблівасці, якія выпрацоўваліся ў ёй у працэсе паступовага фарміравання самой мовы. Спецыфіка сінанімічнай падсістэмы беларускай мовы лягчэй за ўсё выяўляецца пры супастаўленні яе з сінанімікай блізкароднаснай рускай мовы. Многія сінанімічныя рады гэтых моў сваімі каранямі ўваходзяць у лексічную сістэму старажытнарускай мовы. Адны з гэтых радоў у абедзвюх мовах засталіся агульнымі да цяперашняга часу (напр., *травінка—былінка, язычнік—ідалапаклоннік, колкі—калючы, гадаць—варажыць, ведаць — знаць* і інш.), другія адчулі значныя змены і выразна дыферэнцыраваліся.

Адным з важнейшых фактараў, што абумовіў такую

дыферэнцыяцыю, можна назваць перарыў пісьмовай традыцыі ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Паступовы занепад, а потым і поўнае выцясненне старабеларускай мовы з пісьмовага ўжытку ў Рэчы Паспалітай аказалі значны ўплыў на развіццё новай беларускай літаратурнай мовы і яе сінанімікі ў XIX—XX стагоддзях.

Па-першае, у выніку амаль двухвяковага перарыву пісьмовых традыцый беларуская мова страціла значную частку лексікі сінанімічных радоў, унаследаваных са старажытнарускай мовы. Руская ж мова, наадварот, не толькі захавала гэтыя сінанімічныя багацці агульнаўсходнеславянскага перыяду без заметных змен, але і бесперапынна іх папаўняла. Гэта можна прасачыць, параўнаўшы некаторыя суадносныя сінанімічныя рады з рускай і беларускай моў. Так, перамяшчэнне прадметаў ад суб'екта пералётам па паветры ў сучаснай рускай мове абазначаецца дзеясловамі *бросать, кидать, метать, швырять, пускать, запускать, шибать*, якія ўтвараюць сінанімічны рад. У сучаснай беларускай літаратурнай мове адпаведны сінанімічны рад уключае дзеясловы *кідаць, шпурляць, шыбаць, пускаць, запускаць*. Як відаць, агульнымі для рускай і беларускай моў у гэтых радах будуць дзеясловы *кидать—кідаць, шибать—шыбаць, пускать—пускаць, запускать—запускаць*, а дыферэнцыраванымі — руск. *бросать, метать, швырять*, якіх беларуская мова не захавала, але затое набыла новы сінонім *шпурляць* [40].

Для беларускай мовы характэрна амаль поўная адсутнасць у сінанімічных радах старaславянізмаў, якія ў сінаніміцы рускай мовы займаюць досыць значнае месца. Параўн.: руск. *надежда, ожидания; чаяния* (кніжн.); *упование* (уст. кніжн. і высок.) і бел. *надзея, спадзяванне, вера, чаканне; спадзяванка, спадзёўка* (разм.); руск. *сверкающий, блестящий, блистающий, сияющий, горящий, искрящийся, искристый; блистательный* (уст.) і бел. *зіхатлівы, бліскучы, іскрысты; зіхоткі, зіхотны* (разм.) і інш.

Сінанімічныя мікрасістэмы беларускай і рускай моў істотна адрозніваюцца між сабой і саставам запазычанай лексікі ўнутры радоў: у сінаніміцы беларускай мовы пераважаюць запазычанні з польскай і літоўскай моў, у

---

[40] Козырев И. С. Из истории синонимов русского и белорусского языков // Синонимы русского языка и их особенности. М., 1972. С. 184—186.

9*

рускай — з цюркскіх і фінскіх моў. Параўн.: бел. *сырасць, вільгаць* (з польск.) і руск. *сырость, влага; сіла, магутнасць, моц* (з польск.) і *сила, мощность, мощь; асець* (з польск.), *ёўня* (з літ.) і *овин, рига* (з фінск.); *клуня* (літ.), *пуня* (літ.) і *сеновал, сарай* (цюрк.).

Сінаніміка беларускай мовы да цяперашняга часу застаецца маладаследаванай. Толькі пачынаецца лексікаграфічнае яе апісанне. «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» М. К. Клышкі, выдадзены выдавецтвам «Вышэйшая школа» ў 1976 годзе, змяшчае ўсяго каля 1900 сінанімічных радоў. Па сведчанню ж рускіх сінанімічных слоўнікаў, такіх радоў у сучасных развітых літаратурных мовах выяўляецца звыш дзесяці тысяч. Таму ўкладанне поўнага слоўніка сінонімаў беларускай мовы і глыбокае тэарэтычнае іх асэнсаванне застаюцца адной з першачарговых задач беларускага мовазнаўства.

## § 3. ЭЎФЕМІЗМЫ

Як адну з разнавіднасцей сінонімаў многія даследчыкі разглядаюць так званыя **эўфемізмы** (ад грэч. euphēmia — гавару ветліва). У цяперашнім разуменні эўфемізмы — гэта словы і выразы, што служаць для замены такіх абазначэнняў, якія ў пэўных сітуацыях уяўляюцца гаворачаму занадта грубымі, рэзкімі, непрыстойнымі. Гавораць, напрыклад, *туалет* замест *прыбіральня, затрымліваецца* замест *спазняецца, папрасілі* замест *выгналі* (адкуль-небудзь), *пад мухай* замест *п'яны, поўны* замест *тоўсты, нябожчык* замест *мярцвяк, фігура з трох пальцаў* замест *фіга* і інш.

Сваімі каранямі эўфемізмы ўваходзяць у далёкае мінулае. Іх узнікненне звязана з лексічным **табу**[41] — забаронай у першабытных народаў ужываць словы, што служылі назвамі багоў і духаў, смерці, хвароб, некаторых жывёл, сонца, агню і пад. Такая забарона асноўвалася на асаблівым светаразуменні — наіўным перакананні, што паміж прадметам і словам, якое гэты прадмет абазначае, існуе непасрэдная сувязь. Цесна збліжаючы ў сваёй свядомасці прадметы з іх назвамі, чалавек на ранніх стадыях развіцця грамадства думаў, што, выключаючы з ужытку назвы пэўных прадметаў, ён тым самым пе-

[41] Табу — у адной з палінезійскіх моў: *ta* — адзначаць, вылучаць і *pu* — абсалютна, поўнасцю; разам *tapu*>*tabu* — поўнасцю вылучаны, асабліва памечаны.

рашкаджае злым духам уздзейнічаць на гэтыя прадметы або на яго самога.

«Мэта табу — выключыць з ужывання не паняцце, якое застаецца неабходным грамадству, а слова-назву. Гэтым вызначаецца механізм дзеяння табу: замена назвы іншай або пераўтварэнне назвы» [42]. Неабходнасць замяніць забароненае слова прыводзіла да таго, што ва ўжытак пранікала сінанімічнае, але больш «ветлівае», дазволенае слова — эўфемізм.

Прывядзём некалькі прыкладаў. «У славянскіх мовах,— пісаў у свой час французскі моваввед А. Мее,— як і ў балтыйскіх, германскіх і часткова кельцкіх мовах, няма даўнейшай назвы мядзведзя, якая захавалася ў большасці іншых індаеўрапейскіх моў. Яна была заменена рознымі словамі (а ў славянскай мове словам medvedь), абазначаючым «ядок мёду». Гэта вынік слоўнай забароны: прытрымліваючыся звычаю, добра вядомага ў многіх народаў, паляўнічыя пазбягаюць называць сваім імем звяроў, якіх яны праследуюць; народы поўначы Еўропы, фіны, як і індаеўрапейскія плямёны, абазначаюць мядзведзя рознымі найменнямі» [43]. Значыць, слова *мядзведзь* у сучасных славянскіх мовах — гэта эўфемізм на месцы нейкага забытага спрадвечнага слова. У асяроддзі паляўнічых слова *мядзведзь* пазней паўторна табуіравалася і было заменена ў рускай мове новымі эўфемізмамі — «хозяин», «мохнач», «топтыгин», а ў беларускай — словам «касалапы»: *Добра, што к яму не трапіў, Разарваў бы касалапы* (А. Дзеружынскі. Цуды ёсць на свеце); *На досвітку сёння да сувязістаў завітаў касалапы* (А. Алешка. Дарогі без слядоў); *Вось там, на абрыве, Цямнее арол апярэннем, А там — касалапы Устаў на дыбкі з чацвярэнек* (Н. Гілевіч. Перазовы) і інш.

На аснове вераванняў і забабонаў у мовах з'явілася нямала эўфемізмаў для абазначэння хвароб, смерці, духаў і пад. Так, замест «памерці» ў беларускай мове шырока выкарыстоўваюцца менш рэзкія, «далікатнейшыя» словы і выразы «адысці», «спачыць», «аддаць богу душу», «заснуць» і інш.: *Я ўспомніў маё знаёмства з Міхаілам Міхайлавічам Прышвіным ... І думаў, што добра вось так: зрабіць усё, што мог, і адысці* (Я. Брыль. Жменя со-

---

[42] Варбот Ж. Ж. Табу // Русский язык: Энциклопедия. М., 1979. С. 345.

[43] Мейе А. Общеславянский язык. М., 1951. С. 400.

нечных промняў); *Арыштант. Не будуць дзеткі знаць, дзе татка іх спачыў, Бо не будзе і заметкі, Дзе ты косдзе татка іх спачыў* (Я. Колас. Смерць арыштанта); *На раттачкі злажыў* (Я. Колас. Смерць арыштанта); *На ратным полі паміраў салдат. Ён мужна біўся да апошняй кулі, Ужо сябры яго на век паснулі, І поруч з імі злёг і ён у рад* (П. Глебка. Смерць салдата).

«Часам заменнікам слова табу,— падмячае Л. А. Булахоўскі,— з'яўляецца,— і гэта амаль што самая натуральная з граматычнага пункту гледжання замена, — проста займеннік 3-й асобы або ўказальны, што яго замяняе» [44]. Сляды даўнейшага табуіравання слоў і выкарыстання на іх месцы займеннікаў 3-й асобы нярэдка выяўляюцца і ў наш час, асабліва ў творах мастацкай літаратуры. Прыпомнім хоць бы малюнак, створаны Я. Коласам у паэме «Новая зямля», калі дзядзька Антось, прыблізіўшыся да зямельнага банка ў Вільні, загадзя адчувае непамерны страх перад панамі: *Стаіць наш дзядзька ў задуменні, Не смее ўзняцца на ступені: Баіцца ён мужычым ботам, Прапахлым дзёгцем, здорам, потам, Тут наслядзіць або напляміць, Лепш іх не знаць, няхай іх цяміць... І гэта «іх», як здань ліхая, Спакой ад дзядзькі адганяе; «Іх»— нешта злое, цемень, сіла, Што душу дзядзькаву муціла; «Іх»— гэта тое, што варожа і ў рог барані сагнуць можа... Забіты дух яго вякамі Ўжо чуе страх перад панамі.* Каб не наклікаць гневу паноў, гэтай злой і цёмнай сілы, якая «можа сагнуць у барані рог», герой паэмы дзядзька Антось нават у думках называе іх не агульнапрынятым словам, а займеннікам 3-й асобы, які і выступае ў кантэксце эўфемізмам да назоўніка «паны».

У вершы «Байцу, які першы ступіў на беларускую зямлю» П. Панчанка гаворыць, звяртаючыся да гэтага салдата: *Ты будзеш жыць, ты жыць цяпер павінен За тых, каго замучылі яны. Ты стаў цяпер для многіх матак сынам, народжаным у цяжкі час вайны.* Займеннікам «яны» тут паэт абазначыў ненавісных для савецкіх людзей нямецка-фашысцкіх акупантаў, хоць словы «фашыст», «акупант» у вершы ні разу не ўжыты.

Эўфемізмамі ў сучасных мовах, відаць, з'яўляюцца і займеннікі «сам» і «мой» у значэнні 'гаспадар, галава' (дома, сям'і, установы і пад.), напр.: — *Ой, хоць бы ўжо*

---

[44] Булаховский Л. А. Введение в языкознание. Ч. II. М., 1953. С. 51.

*хутчэй сам прыйшоў. Сам — гэта, канечне, бацька. Ад яго ўжо даўно нічога не чутна. Бабка баіцца, каб нам казённага пісьма не прынеслі* (І. Сяркоў. Мы хлопцы жывучыя); — *Ну, а дзе сама? Я ўжо ладзілася ісці па яе, ды дасюль няўпраўка была* (М. Зарэцкі. Вязьмо); — *А ты, родненькая, пабудзь трошкі ў нас. Зараз павінен мой вярнуцца, дык скажы, што мы з Волькаю ў Дымаўку пайшлі* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Па меры таго як з развіццём грамадства і культуры рэлігійныя ўяўленні аслабявалі, табу станавілася ўсё больш абмежаванай з'явай і цяпер у некаторых плямён і народнасцей мае атавістычны характар. У цывілізаваным грамадстве забарона на ўжыванне асобных слоў і паяўленне эўфемізмаў абумоўліваецца зусім іншымі прычынамі: імкненнем захаваць этыкет, пазбегнуць ужывання грубых, непрыстойных слоў і выразаў (напрыклад, назваў фізіялагічных працэсаў у арганізме і звязаных з імі частак цела), цэнзурнымі забаронамі на раскрыццё якой-небудзь тайны (ваеннай, медыцынскай, дзяржаўнай) і інш. Так, на месцы табуіраванага слова са значэннем 'хадзіць па сваёй патрэбе' ўжываюць дзеяслоў *апаражніцца*, замест рэзкага слова *зараза* гавораць звычайна *інфекцыя*, замест «Хто апошні?» (у чарзе) нядаўна пачалі гаварыць «Хто крайні?» Медыцынскія работнікі часта свядома замяняюць народныя назвы хвароб лацінскімі тэрмінамі: ужываюць *cancer* замест *рак*, *tbc* замест *сухоты*, *cito* замест *тэрмінова* і інш. Пры неабходнасці захаваць ваенную, дзяржаўную, асабістую тайну ўласныя назвы гарадоў, краін, воінскіх часцей і пад. замяняюцца літарамі або словамі, утворанымі ад іх назваў (напрыклад, «у горадзе М», «Н-скі полк», «энская застава», «выдаць энную суму»), наборам лічбаў («палявая пошта 213540»), апісальнымі выразамі («адна службовая асоба») і інш.

У якасці эўфемізмаў могуць выкарыстоўвацца сінанімічныя запазычанні (*скула — фурункул, вош — паразіт, падучка — эпілепсія*), агульнаўжывальныя мнагазначныя словы, адно са значэнняў якіх супадае са значэннем табуіраванага слова (*абмачыцца, абрабіцца*), субстантываваныя сталыя эпітэты (*шэры* — пра ваўка, *усявышні* — пра бога), эліптычныя звароты замест поўных выказванняў (*сядзець* — знаходзіцца ў турме, *а ну цябе* — а ну цябе к чорту), словы са зніжальнай сэнсавай характарыстыкай для абазначэння каштоўнага прад-

мета (*худоба* — пра свойскую парнакапытную жывёлу), займеннік 3-й асобы і г. д. Магчыма змяненне граматычнай формы слова пад уплывам табу: так тлумачыцца ўжыванне формы множнага ліку ў дачыненні да адной асобы для выражэння ветлівасці [45].

Як відаць, прырода розных эўфемізмаў не аднолькавая. Сярод іх трэба адрозніваць такія, што зрабіліся фактамі мовы (напрыклад, *уступіць* замест *прайграць, затрымлівацца* замест *спазняцца, клюнуць* замест *выпіць* (спіртнога), *кашчавая* замест *смерць*), і змякчаючыя індывідуальна-кантэкстныя або ўмоўныя абазначэнні з вузкаспецыяльных сфер ужывання (параўн. выкарыстанне займеннікаў *іх, яны* ў вышэйпрыведзеных сказах з мастацкай літаратуры, а таксама выразы тыпу *энная сума, адна службовая асоба, cancer* і інш.).

Першыя з'яўляюцца сінонімамі да агульнапрынятых абазначэнняў, другія («маскіруючыя абазначэнні»), наадварот, сінонімамі адпаведных слоў не з'яўляюцца, бо «асноўнае іх прызначэнне якраз у тым, каб скрыць самую сутнасць абазначаемага» [46].

З'явай, процілеглай эўфемізмам, з'яўляюцца дысфемізмы — словы, якія ў параўнанні з натуральнымі, нейтральнымі абазначэннямі з'яўляюцца больш вульгарнымі, фамільярнымі, грубымі, параўн.: *памерці — спачыць, заснуць, адысці* (эўфемізмы) і *акачурыцца, загнуцца, здырдзіцца, апруцянець, выпруціцца* (дысфемізмы). Апошнія з'яўляюцца прыналежнасцю жаргонаў і грубага прастамоўя.

---

[45] Варбот Ж. Ж. Табу. С. 345.
[46] Шмелев Д. Н. Современный русский язык: Лексика. С. 200.

## § 4. ПАРОНІМЫ

### *Паняцце аб паронімах*

Гэты тэрмін у лінгвістычнай літаратуры ўжываецца ў вузкім і шырокім сэнсе слова. Пры вузкім яго разуменні **паронімамі** называюць словы, якія ўтвораны ад аднаго кораня пры дапамозе розных афіксаў і маюць рознае або часткова супадаючае значэнне (ад грэч *para* — побач, блізка і *onyma* — імя), напр.: *абагульніць* 'выразіць вынікі назіранняў у форме агульнага палажэння' — *абагуліць* 'зрабіць уласнае калектыўным', *чарнець* 'станавіцца

чорным, чарнейшым' — *чарніць* 'рабіць што-н. чорным, чарнейшым', *карыслівы* 'прагны да нажывы, карысталюбівы' — *карысны* 'які прыносіць карысць', *царыца* 'жанчына-манарх, а таксама жонка цара' — *царэўна* 'дачка цара' і інш. Такая з'ява гукавога і марфалагічнага падабенства слоў пры адрозненні ў іх значэннях называецца п а р а н і м і я й.

Пры шырокім разуменні тэрміна паронімамі называюць увогуле ўсякія блізкія па гучанню словы незалежна ад іх паходжання, значэння, марфалагічнай будовы і г. д., напр.: *антракт — кантракт, буры — бурны, выць — віць, дыстанцыя — інстанцыя, камічны — касмічны, ланцэт — пінцэт, прытворны — прыдворны, ратыфікацыя — рэктыфікацыя, эскалатар — экскаватар* і пад.

Адзначаючы прынцыповую розніцу паміж паронімамі ў вузкім і шырокім сэнсе гэтага тэрміна, П. М. Дзянісаў гаворыць: «Магчыма, за выключэннем вельмі вузкага класа ўласна паронімаў (*практичный — практический*), усе астатнія паронімы існуюць толькі для асоб з пэўным узроўнем ведання (або, скарэй, няведання) мовы»[47].

Толькі паранімія ў вузкім значэнні слова з'яўляецца адным са структурных кампанентаў мовы і займае зусім пэўнае месца ў яе сістэме. «Паронімы — гэта асобы словаўтваральны тып, зона дзеяння якога ў адносінах да другіх словаўтваральных тыпаў, у адрозненне, напрыклад, ад сінонімаў, больш абмежаваная»[48]. Важнейшымі прыметамі паронімаў з'яўляюцца: а) наяўнасць аднаго і таго ж кораня ў кожным слове лексічнай пары або групы (*абанент—абанемент, цярпімы—цярплівы, ступа́ — ступня*); б) выразная дыферэнцыраванасць лексічных значэнняў (параўн.: *прастудны* 'які мае адносіны да прастуды, выкліканы прастудай' і *прастудлівы* 'схільны да прастуды, які лёгка прастуджваецца'); в) частая сугучнасць прыставак і суфіксаў: *праезджы—праезны—праязны, праяснець—праясніць, рассыпны—рассыпчаты; масціты—масцісты, механічны—механістычны, маладзейшы—малодшы, парадзіць—парадніць;* г) прыналежнасць да адной часціны мовы — назоўніка, дзеяслова, прыметніка, прыслоўя (для назоўнікаў і прыметнікаў — яшчэ да аднаго роду, ліку, для дзеясловаў — да аднаго трыван-

---

[47] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980. С. 221.

[48] Вишнякова О. В. Паронимы в русском языке. М., 1974. С. 8.

ня)[49]. Уключэнне некаторымі даследчыкамі ў лік аба-вязковых прымет паранімії «супадзенне месца пастаноўкі націску на адным і тым жа па парадку складзе» на-многа звужае аб'ём гэтага паняцця і таму ўяўляецца немэтазгодным, бо ў многіх паронімах гэта прымета не вытрымліваецца, параўн.: *генера́льны — генера́льскі, аста́ткі — аста́нкі,* але: *пасіне́лы — пасінены, зна́чэнне — зна́чымасць, метэары́т — метэо́р, пасланец — пасла́ннік, праблемны — праблематы́чны, пра́ктык — практыка́нт* і інш. Разыходжанні ў месцы пастаноўкі націску назіраюцца, як правіла, у тых паронімах, дзе няма сугучнасці ў суфіксах.

## Шляхі ўзнікнення паронімаў

Паранімічныя групы складваюцца рознымі шляхамі. Важнейшымі з іх з'яўляюцца: марфалагічны спосаб словаўтварэння, змяненне семантыкі, запазычванне іншамоўных слоў.

Пры марфалагічным спосабе ўтварэнне паронімаў адбываецца шляхам далучэння да аднаго кораня (ці вытворнай асновы) розных прыставак і суфіксаў, у выніку чаго атрымліваюцца новыя аднакарэнныя словы, падобныя па гучанню, але розныя ці блізкія па значэнню. Больш пашыраны паронімы суфіксальнага ўтварэння: **белы:** *бял-ець, бял-іць;* **бяда:** *бяд-ак, бяд-няк;* **крыўда:** *крыўд-лів-ы, крыўд-н-ы;* **літара:** *літар-н-ы, літар-альн-ы;* **памяць:** *памят-н-ы, памят-лів-ы;* **сусед:** *сусед-н-і, сусед-ск-і* і інш. Радзей адзначаюцца паронімы прэфіксальнага ўтварэння: **хапіць:** *а-хапіць, аб-хапіць;* **звычайны:** *над-звычайны, не-звычайны* і інш. У асобных выпадках паронімы ўтвараюцца ў выніку фанетыка-марфалагічных працэсаў, што адбываюцца ў корані слова: *астат-к-і, астан-к-і; цень, цем-ень; яшч-ар, яшч-ур.*

Некаторыя паранімічныя групы склаліся ў працэсе калькавання на беларускую мову іншамоўных паранімічных, аманімічных і мнагазначных слоў, напр.: *аператыўны—аперацыйны* (з руск. *оперативный—операционный*); *дзейны—дзейсны* (з руск. *деятельный—действенный*); *уваскрасаць—уваскрашаць* (з руск. *воскресать—воскрешать*); *асветны—асветніцкі* (з руск. *просветительный—просветительский*); *планаваць—планіраваць* (з

---

[49] Вишнякова О. В. Паронимы в русском языке. С. 9—10.

руск. амонімаў *планировать* [1, 2]); *фармаваць—фарміраваць* (ад розных значэнняў мнагазначнага слова *формировать*); *прадуктыўны—прадукцыйны* (ад розных значэнняў рускага мнагазначнага слова *продуктивный*) і інш. Некаторыя паронімы з'явіліся ў выніку субстантывацыі прыметнікаў і ўступлення іх у фармальныя і сэнсавыя суадносіны паміж сабой або з аднакарэннымі назоўнікамі, напр.: *гарадавы—гараднічы, дворнік—дварэцкі, дзесятнік—дзесяцкі, лавец—лоўчы, ляснік—лясьнічы, сотнік—соцкі, прыгоннік—прыгонны* і інш.

Адным са шляхоў утварэння паронімаў з'яўляецца п е р а а с э н с а в а н н е с е м а н т ы к і аднаго са словаўтваральных варыянтаў і набыццё ім новага значэння. Так, у беларускай мове XIX—пачатку XX ст. словаўтваральныя варыянты *дрэўка—дрэўца* ўжываліся ў адным і тым жа значэнні 'невялікае маладое дрэва; памянш.-ласк. да дрэва', напр.: *Прадай лес да дрэўка — Будзе свежа дзеўка* (Ф. Багушэвіч. Песні); *Дзяўчына падклала дрэвак у агонь* (К. Чорны. Трыццаты год) і *Пойдзем у лес, накапаем дрэўцаў і пасадзім іх у ямкі, што вы сёння прыгатавалі* (Я. Колас. На ростанях); *Гні дрэўца, пакуль гнецца* (Прыказка). Аднак пазней, у перыяд фарміравання новай беларускай літаратурнай мовы, варыянт *дрэўка* набыў новае, спецыяльнае значэнне 'выструганая палка, да якой прымацоўваецца сцяг, вымпел і пад.': *Над дахам трапятаў чырвоны сцяг, трымцела і калыхалася ад ветру дрэўка* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка); *З дрэўка сцяг я зрываю, На вуліцу выбягаю* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады); *Са строю выйшаў юнак са сцягам, паставіў дрэўка да нагі* (Хв. Жычка. Зброю бяруць сыны). Традыцыйнае ж значэнне гэтага варыянта пачало архаізавацца і к цяперашняму часу амаль поўнасцю выцеснена варыянтам *дрэўца*. У выніку гэтых семантычных працэсаў і з'явілася новая паранімічная група *дрэўка—дрэўца*, абодва кампаненты якой фіксуюцца сучаснымі нарматыўнымі слоўнікамі як семантычна самастойныя словы.

У працэсе развіцця мовы дыферэнцыраваліся ў сваім значэнні і ўступілі ў паранімічныя адносіны такія суфіксальныя ўтварэнні ад аднаго кораня, як *вянец—вянок, стралец—стралок, атамнік—атамшчык,* хоць асобныя значэнні да цяперашняга часу ў іх застаюцца агульнымі. У словаўтваральных варыянтах прыметнікаў *малодшы—маладзейшы, старшы—старэйшы* пад уплывам

складаных тэрміналагічных назваў рускай мовы спецыялізавалася значэнне першых варыянтаў, і ў беларускай літаратурнай мове яны зрабіліся паронімамі ў адносінах да другіх варыянтаў; параўн.: *малодшы лейтэнант*, але *маладзейшы брат*, *старшы навуковы супрацоўнік*, але *старэйшы сын* і г. д.

Сярод аднакарэнных паронімаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове нямала паралельных або паслядоўных з а п а з ы ч а н н я ў з іншых моў: *адрасат—адрасант*, *абанент—абанемент*, *акцэнтуацыя—акцэнталогія*, *антанімія—антаніміка*, *вакансія—вакацыя*, *гідрат—гідрант*, *гідранімія—гідраніміка*, *дыктат—дыктант*, *дыпламат—дыпламант*, *дыяганальны—дыяганалевы*, *здравіца—здраўніца*, *квадрат—квадрант*, *каагулят—каагулянт*, *міс—місіс*, *статут—статус*, *сінанімія—сінаніміка*, *сталактыт—сталагміт*, *сартамент—сартымент*, *фен—фён*, *эканомія—эканоміка* і многія іншыя. Паронімы-запазычанні, як відаць, гэта пераважна словы спецыяльнага, тэрміналагічнага значэння.

## *Паронімы сярод сумежных з'яў*

Паронімы маюць падабенства як з амонімамі, так і з сінонімамі. Таму падчас іх называюць «амоніма-сінанімічнымі групамі слоў» [50]. Гэта патрабуе дакладнага размежавання паняццяў паронімы—амонімы, паронімы—сінонімы.

Паронімы — гэта словы хоць і блізкія, але заўсёды розныя па гучанню і марфалагічнай будове, амонімы ж — заўсёды словы з абсалютна аднолькавым гучаннем і напісаннем, напр.: *чыгунны—чыгуначчы* (паронімы), *соль* $^1$ 'белае крышталічнае рэчыва' — *соль* $^2$ 'пяты гук музычнай гамы' (амонімы). Адрозніваюцца паронімы ад амонімаў і характарам семантычных адносін паміж кампанентамі ўнутры сваіх груп. Амонімы — гэта зусім розныя, семантычна не звязаныя між сабой словы. Аднак дыферэнцыяцыя іх лексічных значэнняў (пры поўным супадзенні «знешняй абалонкі») магчыма толькі пры супастаўленні тых кантэкстаў, у якіх яны ўжыты, напр.: *закурыць люльку—пакласці дзіця ў люльку*. Паронімы — таксама розныя па значэнню словы, але ў іх семантыцы акрамя дыферэнцыяльных прымет, якія выра-

[50] Степанов Ю. С. Основы общего языкознания. С. 34.

жаюцца рознымі афіксамі, ёсць і агульныя, інтэгральныя семы, закладзеныя ў корані, агульным для абодвух слоў. Так, паронімы-прыметнікі *рухавы* 'жвавы, непаседлівы, лёгкі ў рухах' *(рухавае дзіця)* і *рухомы* 'здольны рухацца, перамяшчацца' *(рухомы састаў, рухомы націск)*, акрамя дыферэнцыяльных прымет, выражаных суфіксамі *-ав-* і *-ом-*, маюць у сваім значэнні і агульную сему 'звязаны з рухам, перамяшчэннем', выражаную коранем *рух*. Інакш кажучы, кампаненты аманімічных пар або груп звязаны па форме адносінамі тоеснасці, па зместу — адносінамі дыз'юнкцыі (выключэння), а кампаненты паранімічных груп — адносінамі перасячэння (эквіпалентная апазіцыя).

Наяўнасць у лексічным значэнні паронімаў побач з агульнымі рысамі і дыферэнцыяльных прымет робіць зразумелай (размежаванай) іх семантыку і па-за моўным кантэкстам. Таму можна сказаць, што, у адрозненне ад амонімаў, лексічнае значэнне паронімаў не столькі вынікае з моўнага кантэксту, колькі, наадварот, служыць удакладненнем сэнсу выказвання. Так, у сказе: *Музыка, песні чутны з палаца — Гуляюць за труд бедакоў, Мучыцца ж бедны думкай штодзённай, Каб голад са свету не звёў* (Я. Купала) аднолькава магчыма ўжыванне паронімаў *бядак* і *бядняк,* тым больш што побач стаіць прыметнік *бедны,* семантычна звязаны як з адным, так і з другім. Ставячы ў тэкст слова *бядак,* аўтар свядома хацеў падкрэсліць, што на працу да багатых наймаюцца не ўсякія бедныя людзі *(беднякі)*, а перш за ўсё крайне абяздоленыя, няшчасныя людзі, якія церпяць беды *(бедакі)*.

У гэтым і заключаецца прынцыповае адрозненне паронімаў ад амонімаў.

Ад сінонімаў паронімы адрозніваюцца таксама як знешняй, так і ўнутранай формай. Паронімы — гэта заўсёды аднакарэнныя словы, прытым ці толькі ўласна беларускія (напрыклад, *чытач—чытальнік*), ці толькі запазычаныя *(эканомія—эканоміка)*. У сінанімічны ж рад могуць аб'ядноўвацца аднакарэнныя і рознакарэнныя словы рознага паходжання, як беларускія, так і запазычаныя *(выраз—прарэз—дэкальтэ, знос—амартызацыя, жыццярадаснасць—бадзёрасць—аптымізм)*.

У сэнсавых адносінах паронімы адрозніваюцца ад сінонімаў тым, што ў іх значэннях заўсёды ёсць выразныя адрознівальныя прыметы, якія робяць паронімы семан-

тычна «самастойнымі», рознымі, узаеманезамяняльнымі словамі. Сінонімы як тоесныя або вельмі блізкія па значэнню словы звычайна могуць замяняцца адзін другім (*прыстаўка—прэфікс, намінатыўны—назыўны* і інш.). Спецыфікай семантыкі гэтых катэгорый слоў абумоўлены асаблівасці іх ужывання ў мове. З прычыны выразных семантычных адрозненняў у паронімах яны ў адным кантэксце адносна рэдка ўжываюцца. Для сінонімаў, наадварот, характэрна кантактнае, сумежнае размяшчэнне ў тэксце, калі аўтарам ставіцца задача дасягнуць большай паўнаты і выразнасці апісання: *Ціхне, глухне гэты звон, Ускочыўшы ў гаёчак, Замірае, моўкне ён, Кволы галасочак* (Я. Колас. Тройка).

Пры супастаўленні паронімаў з сінонімамі вылучаюцца асобныя пары аднакарэнных слоў, значэнне якіх часткова супадае, накладваецца адно на другое, часткова разыходзіцца. Такія словы можна назваць няпоўнымі паронімамі або няпоўнымі сінонімамі. Так, у семантычнай структуры аднакарэнных слоў *вянок—вянец*, з аднаго боку, можна вылучыць агульнае для іх значэнне 'рад бярвён у зрубе': *Вянок за вянком вырастаў зруб новай Тарэнтавай хаты* (П. Галавач. Праз гады) і *Клалі моху пароўну на кожны вянец, Прыціскалі вянцом наступным* (Р. Барадулін. Адам і Ева). У гэтым значэнні словы *вянок* і *вянец* з'яўляюцца сінонімамі. З другога боку, у іх семантыцы ёсць і розныя значэнні (*вянок* 'упрыгожанне з кветак, сплеценых у кружок' — *вянец* 'карона, царская або вянчальная', 'вышэйшая ступень, верх чаго-н.'), якія робяць гэтыя словы паронімамі. Падобныя адносіны ўстанаўліваюцца і ў парах *стралок—стралец, крышталічны—крыштальны, зубаты—зубасты, атамнік—атамшчык, жняя—жнейка, жалавацца—жаліцца* і інш.

Узнікненне паронімa-сінанімічных адносін у такіх выпадках абумоўліваецца двума фактарамі: агульнасцю кораня і аманімічнасцю адпаведных суфіксаў, якія ў працэсе развіцця мовы ўступаюць паміж сабой у складаныя ўзаемаадносіны. Вызначальную ролю ў дыферэнцыяцыі значэння паронімa-сінанімічных слоў адыгрывае кантэкст.

Падабенства паронімаў у гучанні, марфалагічнай будове (а значыць, і пэўнае сэнсавае) часта прыводзіць да няправільнага выкарыстання іх у мове, зблытвання і ўжывання аднаго пароніма на месцы другога. Вось не-

калькі прыкладаў такога зблытвання, узятых з друкаваных тэкстаў: *У кнізе аўтар абагуліў* (трэба *абагульніў*) *вопыт беларускай народнай медыцыны, даследаваў народныя лекі ў святле сучаснай навуковай медыцыны* (Полымя. 1970. № 7. С. 249); *Прапанова абагульніць* (трэба *абагуліць*) *пасевы была прынята аднагалосна* (М. Паслядовіч. З табою побач); *Шчасце ўсіх людзей, усяго прыгнечанага народа — вось што павінна быць і нашым асабовым* (трэба *асабістым*) *шчасцем* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара); *Аднойчы мне давялося чытаць біяграфію* (трэба *аўтабіяграфію*) *маладога чалавека, напісаную ім разам з заявай аб прыёме ў члены Саюза пісьменнікаў* (М. Хведаровіч. Памятныя сустрэчы); *Уся ўвага Мірона была прыкута да Пясчанага Пруда, адзінага месца, дзе пераправа магла даць для немцаў эфектныя* (трэба *эфектыўныя*) *вынікі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні); *Процілеглы бераг рэчкі быў вышэйшы — ён быў не лугавы, балотны* (трэба *балоцісты*), *а палявы* (П. Пестрак. Камень); *Сцяпан фармаваў* (трэба *фарміраваў*) *групы з новапрыбыўшых* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах); *Выдатнай асаблівасцю Міровіча быў яго канструкцыйны* (трэба *канструктыўны*) *вынаходлівы розум* (Я. Рамановіч. Знаёмыя сілуэты); *Зямля тут была ўраджайная* (трэба *ўрадлівая*), *найлепшая ў наваколлі* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка); — *А зараз даводзяць, што кратэры ад падзення метэораў* (трэба *метэарытаў*) (А. Карпюк. У адным інстытуце) і інш.

Частае і ненаўмыснае зблытванне паронімаў абумоўліваецца, па-першае, тым, што «ў паранімії з найбольшай сілай праяўляецца... прынцып няпоўнага (недыскрэтнага) члянення слоў як з фармальнага (каране- і словаўтваральнага) боку, так і з боку семантычнага»[51], а па-другое, слабай вывучанасцю самой з'явы паранімії ў беларускай мове і амаль поўнай адсутнасцю навукова-практычных дапаможнікаў па гэтаму пытанню. Адзіны слоўнік С. М. Грабчыкава «Цяжкія выпадкі ўжывання блізкіх па гучанню слоў» (Мн., 1977) мае выражаную практычную накіраванасць, аднак ён уключае каля 500 пар і груп слоў гэтай катэгорыі, чым далёка не вычэрпваецца ўсё багацце беларускай паранімії. Патрэбна да-

[51] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. С. 221.

лейшае даследаванне паронімаў як у тэарэтычным, так і ў практычным плане.

Паранімія ў шырокім сэнсе слова здаўна выкарыстоўваецца як мастацкі сродак у розных фальклорных, паэтычных і публіцыстычных жанрах. Яна ляжыць у аснове стылістычнага прыёму, які называецца п а р а н а м а з і я й (ад грэч. *para* — блізка і *onomazo* — называю). Сутнасць гэтага прыёму заключаецца ў свядомым сутыкненні слоў-паронімаў у межах вузкага кантэксту для павышэння выразнасці выказвання і мілагучнасці мовы. Супастаўляцца могуць як роднасныя (аднакарэнныя) словы, так і нягодныя, гукавое падабенства ў якіх зусім выпадковае.

Пры выкарыстанні а д н а к а р э н н ы х паронімаў павышэнне выразнасці выказвання і мілагучнасці мовы дасягаецца спалучэннем фармальнай і сэнсавай блізкасці слоў. Гэты прыём часцей за ўсё выяўляецца ў мастацкіх творах (*Калі на рэчку ён* [Костусь] *ні прыйдзе, Глядзіць — штось новае там выйдзе...* (Я. Колас. Новая зямля)), у прыказках, прымаўках, прыгаворках (*Няма роду без выроду; Век пражыў, а розуму не нажыў; Жыць, пажываць ды дабро нажываць; Вучаны, ды ненавучаны*), у загалоўках літаратурных твораў і газетных публікацый (*«Зара-зараніца»* — загаловак кнігі М. Парахневіча, *«Выбары без выбару», «Даходы з адходаў»* — загалоўкі газетных артыкулаў у «Звяздзе»).

Збліжэнне ў вузкім кантэксце падобных па гучанню р о з н а к а р э н н ы х паронімаў служыць для рыфмоўкі і стварэння рытма-меладычнага малюнка ў паэзіі і ў розных жанрах фальклору: — *Дуброўка! — Сінявокі прашчур Сяброўку юную гукаў. І рэха, быццам камень з прашчы, У Нёмнаў падала рукаў* (Р. Барадулін. Неруш); *Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа — не дай божа* (Народнае пажаданне); *Як дурніцы не чарніцы, дык чарніцы не дурніцы* (Каламбур); *Каса — дзявочая краса* (Прыказка) і інш.

Характарызуючыся рознай ступенню фармальнай і семантычнай блізкасці, словы-паронімы тояць у сабе значныя стылістычныя магчымасці і разам з іншымі лексіка-семантычнымі катэгорыямі слоў складаюць патэнцыяльнае багацце лексікі беларускай мовы.

## § 5. АНТОНІМЫ

### *Паняцце аб антонімах*

Яркім праяўленнем сістэмных адносін у лексіцы побач з полісеміяй і сінаніміяй з'яўляецца антанімія — проціпастаўленасць слоў з супрацьлеглым сігніфікатыўным значэннем. Словы адной часціны мовы, якія маюць процілеглыя значэнні, называюцца антонімамі (ад грэч. *anti* — супраць + *onyma* — імя): *добры—дрэнны, высокі—нізкі; верх—ніз, усход—захад; любіць—ненавідзець, паднімацца—апускацца; далёка—блізка, часта—рэдка* і інш. Як відаць, антанімічная група складаецца ўсяго з двух слоў. Калі ж кожнае з проціпастаўленых слоў мае свае сінонімы (**добры** — *слаўны, адменны, бездакорны* і **дрэнны** — *благі, нягодны, заганны*), то ў такім выпадку антанімічныя адносіны ўстанаўліваюцца і паміж гэтымі групамі сінонімаў, узятымі агульна: група ⟨**добры**, *слаўны, адменны, бездакорны*⟩ будзе антанімічнай да групы ⟨**дрэнны**, *благі, нягодны, заганны*⟩, і антанімічнасць гэта грунтуецца на адносінах, што ўзнікаюць паміж апорнымі словамі кожнага з сінанімічных радоў: **добры—дрэнны**.

Аднак антанімія мае сувязь не толькі з сінаніміяй, але і з полісеміяй. Выражаецца гэта сувязь у тым, што большасць мнагазначных слоў можа ўваходзіць у розныя антанімічныя пары, інакш кажучы, кожны ЛСВ мнагазначнага слова або асобныя з іх маюць свае антонімы. Так, мнагазначны прыметнік *глыбокі* да асноўнага свайго значэння будзе мець антонім *мелкі* (*глыбокая рака—мелкая рака*), да другога — *павярхоўны* (*глыбокія веды—павярхоўныя веды*), а да пераноснага значэння ў выразе тыпу *глыбокая старасць* выразнага антоніма зусім не мае. Сувязь антаніміі з полісеміяй праяўляецца яшчэ і ў тым, што процілеглыя значэнні могуць развівацца і ўнутры аднаго і таго ж мнагазначнага слова, напр.: *абдзяліць* — 1) надзяліць усіх чым-небудзь, аддаючы кожнаму яго долю; 2) не даць пры падзеле каму-небудзь нічога або менш, чым іншым (пра ўнутраслоўную антанімію — энантыясемію *гл.* ніжэй).

Лагічную аснову антаніміі ўтвараюць супрацьлеглыя відавыя паняцці ўнутры родавага паняцця, якое адлюстроўвае адзіную і разам з тым члянімую сутнасць: «павольна»—«імкліва» [«скорасць»], «вясёлы»—«сумны»

[«настрой»], «увайсці»—«выйсці» [«рух у адваротным напрамку»], «праўда»—«хлусня» [«адпаведнасць рэчаіснасці»] [52]. Семантычнай жа асновай для ўзнікнення антонімаў з'яўляецца наяўнасць у значэннях суадносных слоў такой прыметы (якаснай, колькаснай, прасторавай, часавай і інш.), якая можа відазмяняцца (павялічвацца ці памяншацца) і даходзіць да сваёй процілегласці. Таму часцей за ўсё антонімы сустракаюцца сярод якасных прыметнікаў і прыслоўяў: *вялікі—маленькі, вясёлы—сумны, стары—малады; далёка—блізка, многа—мала, павольна—шпарка, моцна—слаба* і г. д.; некалькі радзей сярод назоўнікаў і дзеясловаў: *святло—цемра, цяпло—холад, усход—захад; радавацца—сумаваць, гаварыць—маўчаць, увайсці—выйсці* і ў асобных выпадках сярод займеннікаў, якія набываюць абагульненае значэнне якасці або колькасці: *свой—чужы, усе—ніхто, усё—нішто.* У звязных кантэкстах антанімічныя значэнні могуць набываць прыназоўнікі *ад—да, ад—к, над—пад* і інш.: *адышоў ад стала і падышоў да кніжнай шафы; над намі блакітнае неба, пад намі прасторы зямлі.* Не маюць антонімаў, як правіла, уласныя назоўнікі і назоўнікі з канкрэтным значэннем, лічэбнікі і большасць займеннікаў, інакш кажучы, словы, у значэнні якіх адсутнічаюць якасна-ацэначныя характарыстыкі або непасрэдная суаднесенасць з адным паняццем (*Пётр, кніга, пяць, ён, мы* і інш.).

### Класіфікацыя антонімаў

Сутнасць і тыпалогія антонімаў паўней за ўсё раскрываецца пры структурнай і семантычнай іх класіфікацыі.

Па марфалагічнай структуры антонімы падзяляюцца на рознакарэнныя і аднакарэнныя.

Рознакарэнныя антонімы з'яўляюцца найбольш пашыранымі. Яны пранізваюць важнейшыя самастойныя часціны мовы, асабліва прыметнікі, прыслоўі, назоўнікі, дзеясловы і некаторыя службовыя словы: *белы—чорны, разумны—дурны, халодны—гарачы, сухі—мокры, сыты—галодны, тайны—яўны, тоўсты—тонкі; ак-*

---

[52] Новиков Л. А. Русская антонимия и ее лексикографическое описание // Львов М. Р. Словарь антонимов русского языка. М., 1985. С. 9—10.

*тыўна—пасіўна, звонка—глуха, добра—дрэнна, рана—позна; дзень—ноч, жыццё—смерць, вайна—мір, поўдзень—поўнач; маладзець—старэць, хваліць—ганіць; так—не; у—з, да—пасля; марш!—стоп!* і інш. Такія антонімы называюцца ў л а с н а  л е к с і ч н ы м і. Супрацьлегласць значэнняў у іх выражаецца рознымі асновамі або рознымі каранямі, калі суфіксальныя марфемы ў антонімах супадаюць (параўн.: *лет-н-і—зім-н-і*).

У а д н а к а р э н н ы х  а н т о н і м а х процілегласць значэння ўзнікае пры далучэнні да аднаго і таго ж слова антанімічных прыставак *з—раз, у—вы, пры—ад, с—рас* і інш. (*з+блытаць—раз+блытаць, пры+вязаць—ад+ +вязаць, у+несці—вы+несці, с+кідаць—рас+кідаць*) або пры ўжыванні прыставак *а(ан), не, анты, контр, дэ, дыс*, якія надаюць слову процілеглае значэнне (*шчасце—няшчасце, ідэйны—безыдэйны, мабілізаваць—дэмабілізаваць, ваенны—антываенны, маральны—амаральны, гармонія—дысгармонія* і інш.).

Сярод аднакарэнных антонімаў самую пашыраную групу складаюць прыставачныя дзеясловы: *адбегчы—падбегчы, увесці—вывесці, усыпаць—высыпаць, уліць—выліць, узлезці—злезці, сабраць—разабраць, пераляцець—недаляцець, адкаціць—падкаціць* (бочку) і пад. Сярод прыметнікаў, наадварот, найбольш характэрным праяўленнем аднакарэннай антаніміі з'яўляюцца адносіны беспрыставачнага слова з прыставачным: *гуманны—антыгуманны, рэвалюцыйны—контррэвалюцыйны, смачны—нясмачны, талковы—бесталковы, лагічны—алагічны, ідэйны—безыдэйны*. Аналагічныя адносіны перадаюцца і прыслоўямі, утворанымі ад такіх прыметнікаў: *гуманна—антыгуманна, смачна—нясмачна* і пад. Антанімія аднакарэнных назоўнікаў з'яўляецца адлюстраваннем антаніміі тых дзеясловаў і прыметнікаў, ад якіх утвораны гэтыя назоўнікі: *недавыкананне—перавыкананне* (ад *недавыканаць—перавыканаць*), *прышпільванне—адшпільванне* (ад *прышпільваць—адшпільваць*), *зборка—разборка* (ад *збіраць—разбіраць*); *ветлівасць—няветлівасць* (ад *ветлівы—нявbooлівы*), *дакладнасць—недакладнасць* (ад *дакладны—недакладны*) і інш. Уласная, неадлюстраваная антанімія ўзнікае ў парах «карэнны назоўнік—прыставачны назоўнік»: *сіла—бяссілле, удача—няўдача, удар—контрудар, пратон—антыпратон, тэзіс—антытэзіс, атака—контратака, гармонія—дысгармонія, шчасце—няшчасце, праўда—няпраўда* і інш. Аднакарэн-

ныя антонімы называюцца **л е к с і к а - г р а м а т ы ч н ы м і**.

У залежнасці ад характару **с е м а н т ы ч н а й** супрацьлегласці сярод антонімаў вылучаецца некалькі груп.

1. Найбольш пашыраную групу складаюць антонімы, якія выражаюць якасную процілегласць. Для слоў з якасным значэннем уласцівы такія апазіцыі, члены якіх характарызуюцца розная ступенню адной і той жа прыметы, якасці або ўласцівасці: *халодны—халаднаваты—летні—нармальны* (па тэмпературы)—*цёплы—гарачы; лёгкі—няцяжкі—сярэдні* (па цяжкасці)—*нялёгкі—цяжкі; малады—маладжавы—сярэдніх гадоў—пажылы—стары*. Поўнымі антонімамі ў гэтых парадыгмах з'яўляюцца сіметрычна крайнія члены: *халодны—гарачы, лёгкі—цяжкі, малады—стары*. Сярэднія ж члены паказваюць толькі на павышэнне або паніжэнне ступені якасці. Графічна ступеньчатую (градуальную) антанімію якасных слоў можна паказаць у выглядзе круга, паміж процілеглымі сектарамі якога (уласна антонімамі) існуе прамежкавая зона, на якой размяшчаюцца пераходныя ступені градацыі, сярэднія члены.

Ступеньчатая (градуальная) апазіцыя можа быць выражана ўсяго трыма словамі: *пісьменны—малапісьменны—непісьменны; громкі—нягромкі—ціхі; карысны—бескарысны—шкодны*. Для такіх апазіцый, заўважае Л. А. Новікаў, варта зрабіць агаворку адносна значэння прыставак *не-* і *без-* у крайніх і прамежкавых членах парадыгмы. З прыкладаў можна бачыць, што прыстаўкі *не-* і *без-* выражаюць простае адмаўленне зыходных паняццяў у складзе прамежкавых, някрайніх членаў парадыгмы: *малады—немалады* (пры гранічным адмаўленні *стары*). Не з'яўляючыся крайнімі, прыметнікі з прыстаўкамі *не-* і *без-* выражаюць няпоўную, аслабленую супрацьлегласць і антонімаў не ўтвараюць. І наадварот, якасныя прыметнікі з прыстаўкамі *не-* і *без-* з'яўляюцца антонімамі да зыходных слоў у тым выпадку, калі яны з'яўляюцца гранічнымі, крайнімі членамі парадыгмы: *пісьменны—непісьменны, здольны—няздольны, змястоўны—беззмястоўны* (пры наяўнасці прамежкавых кампанентаў *малапісьменны, малаздольны, малазмястоўны*).

Часам да гэтай групы антонімаў з пэўнымі агаворкамі адносяць і абазначэнні асноўных часавых, прасторавых і іншых каардынат, якія выяўляюць ступеньчатыя апазіцыі, хоць і не з'яўляюцца якаснымі словамі: *верх-*

*ні—сярэдні—ніжні, левы—сярэдні* (цэнтральны)—*правы, прошлы—цяперашні—будучы* (час), *пазаўчора—сягоння—учора—заўтра—паслязаўтра* і інш. [53]

2. Асобную, адносна нешматлікую групу складаюць т. зв. **кампліментарныя антонімы** (ад англ. *complementarity* — дапаўняльнасць). Яны абазначаюць супрацьлеглыя відавыя паняцці, якія дапаўняюць адно другое да цэлага (родавага паняцця) і па сваёй сутнасці з'яўляюцца гранічнымі, крайнімі, бо паміж імі не можа быць прамежкавых членаў: *відушчы—сляпы, крывы—прамы, жывы—мёртвы, аднолькавы—розны, жанаты—халасты, здаровы—хворы; праўда—хлусня, дзень—ноч, вайна—мір; можна—нельга* і інш. [54] Графічна кампліментарную антанімію паказваюць у форме круга, падзеленага папалам, дзе ўсё, што не адпавядае відавому паняццю, названаму адным з антонімаў, называецца другім. Напрыклад, усё, што не з'яўляецца аднолькавым, будзе розным; той, хто не з'яўляецца жанатым, будзе халастым і г. д. Хоць кампліментарныя антонімы і абазначаюць з'явы, якія з лагічнага пункту гледжання ацэньваюцца двухчленнымі характарыстыкамі тыпу «так» або «не», у гутарковых выразах лексічнымі сродкамі фіксуецца градацыя і гэтых неградуіруемых з'яў. Лагічна магчымы, напрыклад, толькі стан «жывы» або «мёртвы», аднак у мове гэты стан можа градуіравацца таксама словамі *напаўжывы, ледзь жывы; напаўмёртвы, чуць не памёр* і пад. [55]

3. Шматлікую групу складаюць антонімы, якія выражаюць супрацьлеглую накіраванасць дзеянняў, уласцівасцей, прымет. Яны прадстаўлены ў вялікай колькасці дзеясловамі, назоўнікамі, прыметнікамі, прыслоўямі, прыназоўнікамі: *аналізаваць—сінтэзаваць, атакаваць—контратакаваць, бяднець—багацець, адкручваць—закручваць, запаліць—патушыць, зачыніць—адчыніць, мабілізаваць—дэмабілізаваць, нагрузіць—разгрузіць, набыць—страціць, пайнець—худзець, узброіць—раззброіць, хваляваць—супакойваць; усход—захад, зборка—разборка, захворванне—выздараўленне, спуск—пад'ём, павелічэнне—змяншэнне; наступальны—абарончы, недасолены—пера-*

---

[53] Новиков Л. А. Русская антонимия и ее лексикографическое описание. С. 16.

[54] Новиков Л. А. Семантика русского языка. С. 245.

[55] Плотников Б. А. Лексическая антонимия // Общее языкознание. Мн., 1983. С. 201.

*солены, зборачны—разборачны; туды—сюды, узад—упе-рад, направа—налева, уверх—уніз, удоўж—упоперак; ад—да, у—з, да—пасля* і інш.

4. У асобных лексікалагічных даследаваннях, акрамя трох названых груп, вылучаюцца т. зв. антонімы-канверсівы (ад лац. *conversio* — змяненне). Канверсівы — гэта пары слоў тыпу *маладзейшы—старэйшы, муж—жонка, купіць—прадаць, даваць—браць, прайграваць—выйграваць, апярэджваць—адставаць,* з дапамогай якіх перадаецца адна і тая ж сітуацыя, але ацэньваецца з пункту гледжання розных яе ўдзельнікаў: *Іван маладзейшы за Васіля — Васіль старэйшы за Івана; Косця — муж Тані — Таня — жонка Косці; лыжнік апярэджвае скарахода — скараход адстае ад лыжніка.* Але антонімы-канверсівы «не ўтвараюць зыходнага класа. Яны ўзнікаюць за кошт асаблівага ўжывання антонімаў, якія належаць да названых вышэй тыпаў і маюць здольнасць абазначаць «адваротныя» адносіны паміж удзельнікамі сітуацыі»[56]. Параўн.: *Іван маладзейшы, а Васіль старэйшы. Лыжнік на старце апярэдзіў скарахода, а на фінішы адстаў ад яго.* Антонімы-канверсівы не складаюць самастойнага класа адзінак і, як канструкты, вельмі рэдка сустракаюцца ў жывой натуральнай мове: *Я не знаю, чаму Думка склалася ў іх, Што яна мне — нявеста, Што я ёй — жаніх, Толькі нас сустракалі, Нібы маладых* (А. Куляшоў. Толькі ўперад). Гэта адзіны прыклад ужывання антонімаў-канверсіваў, выяўлены намі ў літаратурных тэкстах.

### Стылістычныя функцыі антонімаў

У тэксце антонімы размяшчаюцца звычайна ў непасрэднай блізкасці адзін да другога. Гэта дазваляе ім з усёй паўнатой рэалізаваць сваю асноўную функцыю — выразіць супрацьлегласць, якая ўласціва іх семантыцы ў большай ці меншай ступені. Найбольш выразна процілеглаўленасць супрацьлегласцей выяўляецца ў кантэкстах, дзе антонімы звязаны супраціўнымі злучнікамі *а, ды, але* і інтанацыяй супрацьпастаўлення: *Аб бяспрыкладнай славе Сталінградскай бітвы нагадвае меч, што зіхаціць у руках Маці-Радзімы на Мамаевым кургане. Гэты меч не зброя нападу, а зброя абароны* (Вячэрні

[56] Новиков Л. А. Семантика русского языка. С. 254.

Мінск. 10.VIII 1987); *Лёс — латарэйнае кола ўдачы: Тут нехта смяецца, а там нехта плача* (Л. Філімонава. Гучныя фарбы); *Мы на твар маладое глядзім: Не відно ні крывінкі, Быццам тут не вяселле зусім, А памінкі* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады); *Многа гаворана, ды мала сказана* (Прыказка). Процiпастаўленасць процілегласцей можа выражацца адной інтанацыяй пры апушчаным злучніку: *Каля ціхае рэчкі, дзе дрэмле лаза, Разгарэліся спрэчкі: хто — супраць, хто — за* (А. Куляшоў. Новае рэчышча).

У кантэкстах, дзе антонімы звязаны злучальнымі адносінамі, выражаецца значэнне аслабленага процiпастаўлення, якое ў асобных выпадках успрымаецца як «складанне» або чаргаванне супрацьлегласцей: *Даставайце з вышак санкі, Гайда сцежкі праціраць і па белым акіяне Уздоўж і ўпоперак гуляць* (Я. Колас. Зіма); *Я вясёлым сцяжынкам рад — Тройчы высах і вымак. Быццам з Зосяй прымаем парад Каласоў і травінак* (А. Куляшоў. Новае рэчышча); *У блакнот свой заношу пачатак Вандроўнага дзённіка... Усе ростані і сустрэчы пішу на паперы* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады).

Для антонімаў, звязаных раздзяляльнымі злучнікамі, характэрна значэнне ўзаемавыключэння, размежавання аб'ектаў: [Тварыцкі] *або адмоўчвайся, або крычаў і лаяўся* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне); *У залежнасці поўнай ад важкасці слоў, Мой праект альбо ўніз, Альбо ўгору ішоў* (А. Куляшоў. Новае рэчышча). Злучнікі *або (альбо), ці, то* часам могуць ужывацца і пры адсутнасці ўзаемавыключэння (пры аслабленай дыз'юнкцыі), калі аднолькава магчымым становіцца адно або другое або тое і другое: *Рана ці позна, позна ці рана высахнуць слёзы, загоіцца рана* (А. Вярцінскі. Пытанне жыцця або смерці); *Цябе, як пушчу, адкрываю У зменах часу і святла. То ты прамая, то крывая, То немая, то гаваркая, То — расінка, то — смала* (А. Пысін. Цябе, як пушчу, адкрываю).

Антонімы могуць указваць на крайнія межы, пункты, якімі ахопліваецца ўвесь клас прадметаў, з'яў, дзеянняў, адносін і г. д. Тады яны звязваюцца прыназоўнікамі *ад—да, з—да, з—на* і інш: *Ад вясны вясёлай ранняй Да восені позняй Пяе поле трактарамі весела, пагрозна* (Я. Купала. Над ракой Арэсай); *Ой, гуляй жа, Бандароўна, з вечара да ранку* (Я. Купала. Бандароўна).

Семантычныя асаблівасці антонімаў шырока выка-

рыстоўваюцца для стылістычных мэт у мастацкіх творах, у розных жанрах вуснай народнай творчасці, у навуковай і публіцыстычнай літаратуры, у жывой народнай мове, калі трэба абмаляваць такія сітуацыі, прадметы ці з'явы, якія характарызуюцца супрацьлеглымі асаблівасцямі або якасцямі.

На выкарыстанні антонімаў асноўваецца такі мастацкі прыём, як антытэза — проціпастаўленне кантрастных слоўных вобразаў, у якіх раскрываецца несумяшчальнасць прадметаў або паняццяў ці асобных іх якасцей, прымет. Стылістычны прыём антытэзы выкарыстаў, напрыклад, Я. Купала пры стварэнні вобразаў мужыка і пана ў вершы «Якія»: *Сыты, раскормлены, Вясёлы вечна. Сільны над стан, З трудоў слабейшага Жыве бяспечна,— Гэта — Ваш пан. Худы, прыгорблены, Працай сцяганы, У вобуві з лык, Холадам, голадам век катаваны — Гэта мужык.* Рэзкае проціпастаўленне вобразаў тут ствараецца ўмелым падборам антонімаў і антанімічных выразаў, якімі характарызуюцца розныя бакі раскошнага жыцця пана і гаротнага жыцця мужыка: *сыты, раскормлены— худы; вясёлы вечна—век катаваны; сільны над стан— прыгорблены, працай сцяганы* і інш. На антытэзе поўнасцю пабудаван і верш Ф. Багушэвіча «Бог не роўна дзеле». Вось асобныя строфы з гэтага верша: *Гэты едзе ў вагоне,— Цёпла, мякка, толькі жыць. А ляціць, як віхар гоне, А ён сабе толькі спіць. Той ў мяцеліцу, ў марозе, Што аж вон яму прэ дух, Пайзе з клункам па дарозе, У снягу увесь па брух... Аднаму дзесяткі-служкі Зарабляюць сотні сот: Рукі ў яго, як падушкі, Як кісель дрыжыць жывот. Другі ж сам, аж на дзесятак Працуючы лье свой пот, А высахшы, як аплатак, Цянюсенькі, як той кнот.*

Антытэза можа быць у аснове кампазіцыі і буйных публіцыстычных і мастацкіх палотнаў, выяўляючыся нават у назвах твораў: *«Сіла і слабасць рускай рэвалюцыі»* (Ул. Леніна), *«Вайна і мір»* (Л. Талстога), *«Жывыя і мёртвыя»* (К. Сіманава), *«Дайней і цяпер»* (Я. Купалы), *«На горах і ў далінах»* (А. Куляшова), *«Эканомныя і марнатрайцы»* (газетны артыкул) і інш. На антытэзе пабудаваны многія прыказкі, павучанні, крылатыя выразы, параўнанні: *Нязнайка на печы ляжыць, а знайка па дарожцы бяжыць; Дабро пушыць, а ліха сушыць; Рыхтуй калёсы зімой, а сані летам; Далей паложыш — бліжэй возьмеш* і інш.

Яшчэ адным стылістычным прыёмам, які ствараецца на супастаўленні антанімічных значэнняў, з'яўляецца **аксюмаран** (ад грэч. *oxýmōron* — літаральна «вастраслоўная недарэчнасць»). Гэты прыём аснован на спалучэнні слоў, якія выражаюць лагічна несумяшчальныя паняцці і ўзаемна выключаюць адно другое: *далёкае — блізкае, сумныя радасці, халоднае цяпло, рэакцыйнасць прагрэсу, аглушальны спакой, гарачы снег* і інш. Прыклады з літаратурных тэкстаў: *Такаровец выглядаў як жывы труп і толькі салопаў асалавелымі вачамі* (З. Бядуля. Дванаццацігоднікі); *«Няўжо аддадуць?» — неяк з сумнаю радасцю падумала Сцепаніда* (В. Быкаў. Знак бяды); *Тут гняздо маіх бацькоў, тут душы маёй прапіска — так далёка ўсё і блізка* (А. Пысін. Чабарок, мой чабарок). Такія спалучэнні слоў узнікаюць пры неабходнасці перадаць стан складаных псіхічных перажыванняў, супярэчлівых пачуццяў і эмацыянальнай актыўнасці.

Акрамя агульнамоўных антонімаў, важную ролю ў мове для выражэння кантрастаў адыгрываюць т. зв. **кантэкстуальныя антонімы** — словы, якія ў звычайнай моўнай сітуацыі не выражаюць супрацьлеглых значэнняў, але набываюць іх у індывідуальных аўтарскіх кантэкстах. Так, у сказе: *Я шмат прайшоў дарог — Яны былі шырокія і вузкія, Яны былі далёкія і нашы — беларускія* (П. Глебка) словы *шырокія* і *вузкія* з'яўляюцца агульнамоўнымі антонімамі, таму што яны выражаюць супрацьлеглыя значэнні не толькі ў гэтым кантэксце, але і па-за кантэкстам ці ў любым іншым кантэксце. Словы ж *далёкія* і *беларускія*, калі іх выключыць з аўтарскага кантэксту, агульнамоўнымі антонімамі не з'яўляюцца. Антонімам да слова *далёкія* з'яўляецца слова *блізкія*. У прыведзеным жа ўрыўку з верша Пятра Глебкі, беларуса па нацыянальнасці, слова *беларускія* ў аўтарскім успрыняцці раўназначна слову *блізкія* (шлях асацыіравання: *нашы, беларускія→блізкія*). Гэта адзін з прыкладаў узнікнення кантэкстуальных, аўтарскіх антонімаў.

Умелае выкарыстанне ўласна лексічных, лексіка-граматычных і кантэкстуальных антонімаў дапамагае больш дакладна і вобразна абмалёўваць прадметы і з'явы рэчаіснасці.

## § 6. ЭНАНТЫЯСЕМІЯ

Супрацьлеглымі (антанімічнымі) па свайму значэнню могуць быць не толькі асобныя словы (напр., *верх—ніз, пачатак—канец*), але і лексіка-семантычныя варыянты аднаго і таго ж слова. Так, дзеяслоў *праслухаць* у выразе *праслухаць усё да канца* мае значэнне ’выслухаць, пачуць’, а ў выразе *праслухаць па няўважлівасці* (з-за шуму і пад.) — ’не пачуць’. Дзеяслоў *пазычыць* у залежнасці ад кантэксту можа абазначаць ’даць у доўг’ (*пазычыць грошы таварышу*) і ’узяць у доўг’ (*пазычыць грошы ў таварыша*). Значэнні ’пачуць—не пачуць’, ’даць—узяць’ з’яўляюцца антанімічнымі. Такая здольнасць слова выражаць супрацьлеглыя значэнні без змянення сваёй формы называецца энантыясеміяй (ад грэч. *enantios* — процілеглы і *sēma* — знак).

У спецыяльных даследаваннях апошняга часу адзначаецца некалькі важнейшых фактараў, якія садзейнічаюць паяўленню энантыясеміі або непасрэдна параджаюць яе.

1. Энантыясемія ўзнікае звычайна ў працэсе працяглага ўжывання слова ў розных сферах мовы. Адзін з першых даследчыкаў гэтай з’явы В. Шэрцль асноўную прычыну энантыясеміі бачыў у тым, што корані і вытворныя ад іх словы мелі ў старажытны час шырокія неразмежаваныя значэнні. З развіццём мыслення і мовы гэтыя значэнні дыферэнцыраваліся. З агульнага паняцця паступова вычляняліся больш канкрэтныя адценні асноўнага значэння, якія ператвараліся ў процілегласць. «Многазнамянальнасць, якая складае несумненную і вельмі характэрную ўласцівасць старажытных карэнных слоў, аказваецца, такім чынам, адной з важнейшых прычын энантыясеміі» [57].

Сляды такога працэсу дыферэнцыяцыі агульнага значэння і паяўлення процілеглых адценняў ці значэнняў выяўляюцца цяпер у розных мовах. У беларускай мове, напрыклад, побач з антанімічнымі приставачнымі дзеясловамі *здвойваць* і *раздвойваць* ужываецца яшчэ карэнны дзеяслоў *дваіць*, які захаваў у сабе абодва гэтыя антанімічныя значэнні: *дваіць ніткі* ’рабіць парнымі, здвойваць’ і *дваіць скуры* ’раздзяляць надвае, раздвой-

[57] Шерцль В. О словах с противоположными значениями (или о так называемой энантиосемии) // Филологические зап. Вып. V—VI. Воронеж, 1883. С. 3.

ваць'. Дзеяслоў *пячы* ў выразе *сонца пячэ* мае значэнне 'моцна грэе', а ў выразе *мароз пячэ* — 'прычыняе боль холадам': *Сонца пякло так неміласэрна, што нават гаманлівы зайсёды пляж прыціх* (М. Лынькоў. За акіянам) і *Мароз пёк агнём, а ніколі так не былі ў партызан расхрыстаны грудзі* (А. Карпюк. Данута). Аналагічна процілеглыя значэнні мае дзеяслоў *паліць* у сказах: *Сонца паліць агнём, пот ліецца цуркам* (Я. Купала. Касцам) і *Холад роснай дарогі Паліць босыя ногі* (Хв. Жычка. Стой на вахце, сэрца).

2. Важнай крыніцай узнікнення энантыясеміі з'яўляецца ўжыванне слоў са значэннем станоўчай эмацыянальнай ацэнкі ў процілеглым сэнсе — з адценнем іроніі, едкай насмешкі, пагарды, зларадства, неадабрэння і пад. Такое выкарыстанне слоў магчыма ў спецыфічных моўных сітуацыях і суправаджаецца асобым інтанацыйным афармленнем выказвання, «асобым інтанацыйным контурам» [58]. Іменна пры наяўнасці спецыфічнага інтанацыйнага контуру і адбываецца процілеглае асэнсаванне і палярызацыя вядомага агульнамоўнага лексічнага значэння. Параўн.: *Сайгас — горад, не мястэчка. Не які там Любань! Лад-парадак, люду поўна, Толькі глянуць люба* (Я. Купала. Над ракой Арэсай) і — *Ну і парадак у вас?! Страх!* (г. зн. поўны беспарадак); *Былі тут розныя будынкі: Гуменцы, гумны і адрынкі, Хлявы і стайні і аборы. Дабра, набытку былі горы* (Я. Колас. Новая зямля) і *Такога дабра не трэба і дарма!* (г. зн. дрэні).

Раскрываючы сутнасць такога пераасэнсавання, А. А. Брагіна падмячае: «З'ява энантыясеміі — гэта палярызацыя значэнняў і разам з ёй расчапленне лагічнага і эмацыянальнага аспектаў у слове. «Станоўчае значэнне» мае лагічную дамінанту, а наваўтворанае «адмоўнае значэнне» — антонім — эмацыянальную дамінанту. Вось чаму такое значэнне нараджаецца ў пэўным «інтанацыйным контуры», уласціва эмацыянальнай, гутарковай мове» [59].

Аднак энантыясемія гэтага тыпу не абмежавана сферай толькі вуснай мовы. Яна шырока праяўляецца і ў мове мастацкай літаратуры як адной з разнавіднасцей літаратурнай мовы: — *Ашчаслівіў, мярзотнік, свет сваёй*

---

[58] Ахманова О. С. Словарь лингвистических терминов. М., 1966. С. 49.

[59] Брагина А. А. Синонимы в литературном языке. С. 74.

асобай (г. зн. прынёс няшчасце) (М. Паслядовіч. З табою побач); *І над вухам яго раздаўся голас: — А, папаўся ўрэшце, малойчык!* ('нягоднік') (М. Лынькоў. За акіянам); *— А ну, падымайся, галубчык! — раптам крыкнула* [Люба], *тупнуўшы нагой* (А. Марціновіч. Прасека). Няцяжка заўважыць, што і ў пісьмовай мове з энантыясемічным ужываннем якога-небудзь слова адчуваецца той жа інтанацыйны контур, што і ў вуснай мове.

Часта выкарыстоўваючыся ў аналагічных моўных сітуацыях, аказіянальныя ўжыванні могуць замацоўвацца як агульнамоўныя, узуальныя значэнні або адценні значэнняў. Вось некалькі прыкладаў такой энантыясеміі, засведчаных «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы»:

**Дабрадзей** — 1) той, хто робіць дабро, аказвае паслугу каму-н.: *— Прыходзьце, даражэнькія мае, часцей: вы толькі і засталіся нашымі сябрамі-дабрадзеямі,— пасла ла наўздагон ім Стэпа* (Ц. Гартны. Сокі цаліны);

2) *(разм. пагард.)* ліхадзей, зламыснік: *Асобна кожную загонам Нас надзяліў пан-дабрадзей, А над усімі злы аконам Стаіць, ганяе жаць бардзей* (Я. Купала. Песня жней); *Багачы і панства, Нашы «дабрадзеі»! Мы на суд вас клічам, Каты вы, Зладзеі!* (Я. Колас. Ворагам); *— Вось дабрадзеі знайшліся, каб яны хутчэй самі ўтапіліся! — сказаў Мірон, калі людзі адышліся* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны).

**Ваяка** — воін, баец, салдат: *На гэты ж пясок упаў Сёмка-матрос, камандзір партызанскіх атрадаў, слаўны ваяка і бальшавік* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз); // *(іран., пагард.)* пра таго, хто не апраўдвае званне воіна, байца: *Карп паклаў сваю жылістую руку на руку паліцэйскага, загадаў спакойна, але сурова: — Пакладзі дзіця! Ваяка!* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

**Праславіцца** — 1) набыць добрую славу, добрую рэпутацыю: *Не зоркім паглядам, не постаццю гнуткай Праславіўся хлопец — Праславілі рукі!* (П. Броўка. Каваль);

2) *(разм. неадабр.)* набыць дрэнную славу, дрэнную рэпутацыю: *— Вунь за тым паркам — палац былога душагуба, царскага генерала Антропава, што праславіўся сваёй жорсткасцю з бяззбройным народам* (А. Асіпенка. Дарога ў даль).

**Частаваць** — 1) паіць, карміць, надзяляць каго-н. чым-н., выказваючы гасціннасць: *Маці частавала дачку, слухала яе і не магла надзівіцца* (І. Грамовіч. Далі сабе

слова); *Антось сам... частаваў дзяўчат цукеркамі* (А. Васілевіч. Шляхі-дарогі);

2) *(разм. іран.)* біць, караць за правіннасць: — *Ведаюць людзі, за што цябе Крупеніч з раз'езда гарэлкаю частуе, каб цябе лейцамі частавалі!* (Я. Колас. На ростанях); *А потым аплявухамі як след* [Янук] *Зладзюгу частаваць узяўся* (У. Корбан. Шклянка чаю).

**Аддзякаваць** — 1) адплаціць дабром за дабро: *А бабка ішла шчаслівая, што аддзякавала доктару* (С. Грахоўскі. Зялёны агеньчык); // *(разм. іран.)* адплаціць злом за зло, адпомсціць: *Неяк адзін з гэтых ворагаў укінуў у Бабрукову студню здохлую варону... Гэтай варонай мой папярэднік пастушок Лёня Шарэйка аддзякаваў кулаку за горкую службу* (Я. Брыль. У Забалоцці днее);

2) *(разм. неадабр.)* адплаціць злом за дабро, паступіць вераломна: — *Дурная, сказала б хоць слова,... а то адразу штурханула і проста на вілы... Гэта ж ён лез, а я цябе бараніў... От як ты мне аддзякавала* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

3. У некаторых прыставачных дзеясловах энантыясемія абумоўлена процілегласцю значэнняў прэфіксаў. Пры гэтым «на аснове процілеглых значэнняў прыставак можа развівацца дзеясло̌ўная аманімія, і тады «ўнутрыслоўная» антанімія ператвараецца ў антанімію слоўамонімаў (з'ява амаантаніміі)»[60]. Такімі з'яўляюцца, напрыклад, прыстаўкі *за*[1, 2], што абазначаюць пачатак і вынік дзеяння (*запрацаваць*[1] 'пачаць працаваць' і *запрацаваць*[2] 'зарабіць працай').

У іншых выпадках антанімічнасць або мнагазначнасць прыставак прыводзіць да энантыясеміі[61] — узнікненне процілеглых значэнняў у семантычнай структуры аднаго і таго ж слова. Узнікненне такіх значэнняў магчыма толькі ў кантэксце з дапамогай розных сінтаксічных і лексічных сродкаў. Група дзеясловаў, у якіх процілеглыя значэнні фіксуюцца слоўнікамі як факты літаратурнай мовы, досыць значная. У прыведзеных ніжэй дзеясловах з ліку рэальных значэнняў адзначаюцца толькі тыя, што могуць разглядацца як процілеглыя.

**Абдзяліць** — 1) надзяліць усіх чым-н., аддаючы кож-

---

[60] Новиков Л. А. Антонимы в русском языке. М., 1973. С. 191.
[61] Прохорова В. Н. Энантиосемия в современном русском языке // Вопросы русского языкознания. М., 1976. № 1. С. 159.

наму яго долю: *Сват хадзіў з рэшатам, абдзяляў гасцей цукеркамі і збіраў падарункі маладым* (А. Васілевіч. Шляхі-дарогі);

2) пры падзеле не даць каму-н. нічога або даць менш: *Калі хлеба па картках сям'і неставала, рукі матчыны зналі, што трэба рабіць,— так умелі апошні кавалак дзяліць, каб усіх надзяліць, а сябе абдзяліць* (А. Вольскі. Водбліскі далёкіх маякоў).

**Абысці** — 1) ідучы, пабыць усюды, у многіх месцах: *Сёння з песняй абыду я Уваскрошую з руінаў, Залатую, маладую Нашу родную краіну* (П. Панчанка. Шчаслівы верасень);

2) прайсці стараной, мінуўшы каго-, што-н.: *Батальён потайкам уночы абышоў Прымакі і Вепры і схаваўся ў лесе* (Я. Колас. Дрыгва).

**Аб'ехаць** — 1) едучы, пабыць усюды, у многіх месцах: *Ад самае Волгі Да сівых Карпат — Паўсвета на танку Аб'ехаў мой брат* (А. Астрэйка. Мой брат камсамолец);

2) праехаць стараной, мінуўшы каго-, што-н.: *Зося аб'ехала людзей і схавалася за Ціткавай хатай* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

**Агаварыцца** — 1) загадзя папярэдзіць аб чым-н., зрабіўшы агаворку: *Варта адразу агаварыцца, што не заўсёды воля ва ўяўленнях героя паўстае хісцкай зданню* (І. Навуменка. Янка Купала);

2) памылкова сказаць не тое, што трэба: *Бывае, што ў гарачцы агаворышся, сам не агледзішся як* (Р. Няхай. Сірочы лес).

**Аджыць** — 1) пражыўшы свой век, адысці, памерці: *Аджыла сваё, выплакаўшы вочы, дзяўчына, супакоілася пад магільным грудком* (Т. Хадкевіч. Песня Дзвіны);

2) ажыць, зрабіцца зноў жывым: *З рота і носа Казіка пайшла вада. Яшчэ некалькі хвілін — і ён дыхнуў. — Аджыў, бедненькі,— сказала бабка Аксіння і заплакала* (А. Чарнышэвіч. На сажалках).

**Залячыць** — 1) загаіць, вылечыць: *Рану залячыў, але вуха так і асталося двайное* (А. Кулакоўскі. Сцежкі зведаныя і нязведаныя);

2) няўмелым лячэннем давесці да цяжкага стану, да смерці: *Пацыент Рахубу нейкі трывожыць, Ці то не далячыў ён яго, ці то залячыў* (Я. Васілёнак. Тацццяна Ларына).

**Злазіць** — 1) падняўшыся ўверх, пабыць дзе-н. і вярнуцца назад: *Злазіла* (Волька) *на гарышча, дастала тап-*

*чан, але ў хату не палезла* (Я. Скрыган. Свая аповесць).

2) спусціўшыся ўніз, пабыць дзе-н. і вярнуцца назад: *Злазіўшы ў падвал, Максім Сцяпанавіч падняўся ў кабінет Дзімінай* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

**Пакінуць** — 1) захаваць у такім стане, як было: *Дворнік пакінуў браму адпёртаю і пайшоў спачываць пасля бяссоннай ночы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны);

2) адмовіцца ад таго, што было, што рабілася: *За вусны-маліны Гулянкі пакіну* (Д. Бічэль-Загнетава. Запалянкі).

**Прагледзець** — 1) агледзець з мэтай праверкі, азнаёміцца з чым-н.: *Камандзір палка прагледзеў дакументы і з цікавасцю пачаў слухаць тлумачэнне* (М. Машара. Ішоў дваццаты год);

2) не заўважыць каго-, чаго-н.; празяваць, прапусціць. *Ваню Чакая Уля прагледзела. Спадзявалася ўбачыць наперадзе, а ён вынырнуў ззаду* (У. Паўлаў. Ад агню і мяча).

Аналагічна процілеглыя значэнні мае названы вышэй дзеяслоў *праслухаць* і некаторыя іншыя.

Як можна бачыць, знешнім, фармальным выражэннем энантыясеміі з'яўляецца заўсёды кантэкст ужывання слова ў процілеглых значэннях, інакш кажучы, характар сінтаксічных і лексічных сувязей слова з другімі словамі, параўн.: *пазычыць грошы таварышу* 'даць у доўг' і *пазычыць грошы ў таварыша* 'узяць у доўг', *біць масла* 'вырабляць' і *біць пасуду* 'знішчаць', 'разбіваць'. Часта, акрамя кантэксту, неабходнай умовай для процілеглага асэнсавання агульнамоўнага значэння слоў з'яўляецца спецыфічнае інтанацыйнае афармленне выказвання, напр.: *нашы слаўныя ваякі* і *«Ваякі, трасца вашай галаве!» — сказаў сам сабе дзед Талаш, калі заціхлі стрэлы* (Я. Колас. Дрыгва). І нарэшце, у значнай групе вытворных дзеясловаў процілеглыя значэнні развіліся ў выніку ўзаемадзеяння кантэксту з мнагазначнасцю прыставак: *залячыць рану* 'вылечыць' і *залячыць хворага* 'няўмелым лячэннем давесці да цяжкага стану, да смерці'.

У агульнай сістэме лексічных апазіцый энантыясемія звычайна расцэньваецца як разнавіднасць полісеміі, пра што можа сведчыць хоць бы форма падачы яе ў тлумачальных слоўніках. Аднак, як паказваюць матэрыялы, па ступені семантычнай проціпастаўленасці традыцыйных і новых значэнняў энантыясемія неаднародная. Побач з

палярна антанімічнымі значэннямі (напр., *аджыць* — 'памерці' і 'ажыць, зрабіцца зноў жывым') у структуры мнагазначных слоў сустракаецца нямала прамежкавых, семантычна «няпоўных», «частковых» проціпастаўленняў, як, напрыклад, у слове *агаварыцца* — 'зрабіць папярэднюю агаворку' і 'памыліцца ў час гаворкі'. Калі гэтыя апошнія «няпоўныя» проціпастаўленні можна інтэрпрэтаваць як праяўленне полісеміі, то проціпастаўленні першага тыпу «могуць быць вытлумачаны як праяўленне ўнутрылексемнай антаніміі, г. зн. як семантычная палярызацыя варыянтаў адной лексемы»[62]. Інакш кажучы, адной стараной энантыясемія змыкаецца са звычайнай полісеміяй, а другой — з аманіміяй; пры пэўных умовах унутрылексемная антанімія можа ператварыцца ў аманімію слоў-антонімаў (*ліхі* [1] 'дрэнны' — *ліхі* [2] 'смелы', 'удалы'; *закіпець* [1] 'пачаць кіпець' — *закіпець* [2] 'зрабіцца кіпячоным').

Такім чынам, энантыясемія — гэта жывая з'ява ў развіцці мовы, звязаная з фарміраваннем процілеглых значэнняў у адным слове; «гэта не распаўшая полісемія, не аманімія антанімічных значэнняў, якія сфарміраваліся ў узусе і ўжо замацаваны слоўнікам, а працэс, магчымасць палярызацыі значэнняў у пэўны сінхронны момант»[63].

## § 7. ТЫПАЛОГІЯ ФАРМАЛЬНА-СЕМАНТЫЧНЫХ АПАЗІЦЫЙ У МЕЖАХ ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНЫХ КАТЭГОРЫЙ

Ужо адзначалася, што ў апазіцыю ўступаюць словы, падобныя па форме, па зместу (або адначасова і па форме, і па зместу), і што па ступені свайго праяўлення гэта падабенства можа быць поўным (адносіны тоеснасці), частковым (прыватыўныя і эквіпалентныя адносіны) або падабенства можа зусім не быць (адносіны дыз'юнкцыі, або ўзаемавыключэння). Калі звесці адносіны па форме і зместу з адносінамі па ступені падабенства/адрознення, то на скрыжаванні гэтых прымет узнікнуць тыпы лексічных апазіцый, кожны з якіх будзе характарызаваць тую ці іншую лексіка-семантычную катэгорыю. Пры супа-

[62] Соколов О. М. Энантиосемия в кругу смежных явлений // Филологические науки. 1980. № 6. С. 42.
[63] Брагина А. А. Синонимы в литературном языке. С. 73.

стаўленні двух адназначных слоў або ЛСВ могуць узнікнуць наступныя тыпы адносін.

1. Два ЛСВ маюць тоесныя лексемы пры наяўнасці частковых адрозненняў у семемах (з'ява полісеміі, уключаючы энантыясемію: *вуха*[1] 'орган слыху' — *вуха*[2] 'знешняя частка гэтага органа ў форме ракавіны').

2. У двух словах тоесныя лексемы і зусім розныя семемы (з'ява аманіміі: *крыга*[1] 'ільдзіна' — *крыга*[2] 'рыбалоўная прылада').

3. Лексемы маюць агульную каранёвую частку, семемы тоесныя (з'ява поўнай аднакарэннай сінаніміі: *акурак—недакурак, вазак—возчык, месці—падмятаць*).

4. Лексемы маюць агульную каранёвую частку, семемы блізказначныя (з'ява аднакарэннай паняційнай і стылістычнай сінаніміі: *хадзіць—пахаджваць* (па пакоі), *глядзець—паглядваць* (на каго-н.).

5. Лексемы маюць агульную каранёвую частку, семемы розныя (з'ява параніміі: *дыктат—дыктант, крыўдны—крыўдлівы*).

6. Лексемы маюць агульную каранёвую частку, семемы абазначаюць процілеглыя відавыя паняцці ў межах аднаго родавага паняцця (з'ява аднакарэннай антаніміі: *апагей—перыгей, убегчы—выбегчы, чалавечны—бесчалавечны*).

7. Дзве зусім розныя лексемы маюць тоесныя семемы (з'ява абсалютнай сінаніміі: *васілёк—валошка, капшук—кісет, тапор—сякера*).

8. У словах зусім розныя лексемы, але блізказначныя семемы (з'ява featureрознакарэннай паняційнай і стылістычнай сінаніміі: *злосць—гнеў—абурэнне, ударыць—гакнуць*).

9. У словах зусім розныя лексемы, а семемы абазначаюць процілеглыя відавыя паняцці ў межах аднаго родавага паняцця (з'ява рознакарэннай антаніміі: *верх—ніз, добры—дрэнны, часта—рэдка*).

Пералік міжслоўных апазіцый паказвае, наколькі складанымі могуць быць сістэмныя сувязі нават паміж асобнымі словамі. Так, у сферы сінаніміі поўная тоеснасць семантыкі можа выражацца як зусім рознымі лексемамі (*кугуар—пума*), так і аднакарэннымі (*прыпыніць—спыніць*); тое ж можна сказаць пра выражэнне і няпоўнай тоеснасці (параўн.: *атака—штурм, прасіць—упрошваць* і інш.). Як відаць, межы паміж рознымі тыпамі апазіцый не заўсёды выразныя, што часта выклі-

кае цяжкасці ў размежаванні лексіка-семантычных катэгорый (напрыклад, полісеміі і аманіміі, параніміі— сінаніміі і інш.).

## Раздзел III

# КЛАСЫ СЛОЎ ЯК З'ЯВА ЛЕКСІЧНАЙ ПАРАДЫГМАТЫКІ

### § 1. ПАНЯЦЦЕ КЛАСА СЛОЎ. ТЫПАЛОГІЯ КЛАСАЎ

Лексіка-семантычныя катэгорыі не з'яўляюцца канчатковай мэтай сістэмна-семасіялагічнага аналізу лексікі. Яны служаць толькі зыходнымі паняццямі для разбору лексічных груповак больш высокага парадку, якімі з'яўляюцца класы слоў з іх складанай іерархічнай структурай.

Класы слоў — гэта максімальныя формы праяўлення лексічнай парадыгматыкі (Э. В. Кузняцова). Класы слоў існуюць у выглядзе больш шырокіх і больш складаных аб'яднанняў слоў, чым слоўныя апазіцыі, што ўваходзяць у такія аб'яднанні ў якасці састаўных частак.

У залежнасці ад таго, якія прыметы, фармальныя ці семантычныя, з'яўляюцца для слоў агульнымі, вылучаюцца фармальныя, семантычныя і фармальна-семантычныя класы слоў. Фармальныя класы характарызуюцца тым, што аб'ядноўваюць у сабе словы, падобныя па формаўтваральных афіксах, якія не выражаюць якіх-небудзь агульных семантычных прымет. Прыкладамі такіх класаў могуць служыць назоўнікі аднаго тыпу скланення, дзеясловы аднаго тыпу спражэння і пад.

Чыста семантычныя класы слоў — з'ява адносна рэдкая. Да іх могуць быць аднесены словы, што не маюць марфемнага падабенства і абазначаюць відавыя паняцці, сузалежныя ад аднаго родавага паняцця, або часткі цэлага, напр.: дрэва→*асіна, бук, дуб, клён, рабіна, сасна, ясень;* дрэва →*камель, корань, ствол, сук* і г. д.

У фармальна-семантычныя класы аб'ядноўваюцца словы, падобныя як па форме, так і па значэнню. Такія класы з'яўляюцца найбольш пашыранымі і разнастайнымі. Фармальна-семантычнымі класамі могуць

быць названы, напрыклад, групы слоў, утвораных па адной словаўтваральнай мадэлі (*друкарня, кнігарня, паперня, смалакурня, сыраварня; абходчык, зборшчык, наводчык, разносчык, тынкоўшчык, шліфавальшчык*), гнёзды аднакарэнных слоў (*конь, конюх, коннік, конніца, конны, канюшына*) і інш.

Найбольш аб'ёмнымі фармальна-семантычнымі класамі слоў з'яўляюцца часціны мовы, якія характарызуюцца: а) адзінствам абагульненага значэння, напрыклад прадметнасці ў назоўніка, прыметы прадмета ў прыметніка, працэсу ў дзеяслова; б) агульнасцю граматычных катэгорый і словазмянення; в) тоеснасцю сінтаксічных функцый.

У межах часцін мовы вылучаюцца больш дробныя класы слоў лексіка-граматычнага характару, якія прынята называць **разрадамі** (напрыклад, уласныя і агульныя назоўнікі, адносныя, якасныя і прыналежныя прыметнікі, колькасныя і парадкавыя лічэбнікі, пераходныя і непераходныя дзеясловы). «Асновай аб'яднання слоў у разрады з'яўляюцца не толькі катэгарыяльна-граматычныя семы, але і ўдакладняючыя іх лексіка-граматычныя семы, якія, як правіла, не маюць фармальных паказчыкаў у марфемнай структуры слова»[1]. Словы *вапняк* і *здаравяк*, скажам, маюць у сваім марфемным саставе суфікс *-як*, але адносяцца да розных лексіка-граматычных разрадаў: *вапняк* — да неадушаўлёных, *здаравяк* — да адушаўлёных назоўнікаў. Семы 'адушаўлёнасць' і 'неадушаўлёнасць' удакладняюць катэгарыяльна-граматычную сему 'прадмет' і адносяць назоўнікі да розных лексіка-граматычных разрадаў.

Класы слоў, якія маюць сістэмнае фармальнае падабенства (граматычныя і словаўтваральныя парадыгмы), разглядаюцца звычайна ў марфалогіі. Прадметам лексікалогіі з'яўляюцца пераважна класы слоў, што ўзнікаюць на аснове падабенства семантыкі. Семантыка ж слова, як вядома, вызначаецца пазамоўнымі фактарамі (рэальны свет, чалавечая свядомасць, што яго адлюстроўвае) і прычынамі ўнутрымоўнымі. Адпаведна гэтаму класы слоў могуць выяўляцца або на аснове чыста пазамоўных крытэрыяў, або з апорай на лінгвістычныя прыметы слоў[2]. З улікам пазамоўных і ўнутрымоўных крытэрыяў

---

[1] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка М., 1989. С. 72.
[2] Там жа. С. 70.

на ўзроўні лексіка-семантычнай сістэмы рознымі аўтарамі вылучаюцца тры асноўныя класы слоў: **тэматычныя** (або **прадметна-тэматычныя**) групы, **лексіка-семантычныя** групы і **семантычныя** (або **лексіка-семантычныя**) палі.

У аснове аналізу і стварэння іерархічнай сістэмы класаў лексічных адзінак ляжаць рода-відавыя (або гіпанімічныя) сэнсавыя адносіны. Сутнасць гэтых адносін заключаецца ў тым, што словы, якія абазначаюць від, з'яўляюцца падпарадкаванымі ў логіка-семантычных адносінах словам, якія абазначаюць род. Так, словы, што называюць віды птушак *(дзяцел, верабей, варона, сініца...)*, падпарадкоўваюцца родавай назве — слову *птушка*, якое з'яўляецца ў адносінах да назваў віду падпарадкавальным і называецца **гіперонімам** («вышэйшым» словам). Назвы відавых паняццяў, падпарадкаваныя семантычна родаваму паняццю, называюцца **гіпонімамі** («ніжэйшымі» словамі), а ў адносінах паміж сабой — **сугіпонімамі** (сузалежнымі словамі).

Другі магчымы тып гіпанімічных адносін складаюць апазіцыі слоў, якія абазначаюць часткі цэлага і цэлае (напр.: *цыліндр, поршань, клапан, карбюратар ...* — **рухавік**). Гіпонімы тут — назвы частак, гіперонім — назва цэлага. Пры наяўнасці значных адрозненняў агульным у прыватыўных апазіцыях род—від, цэлае—частка з'яўляецца тое, што яны характарызуюцца аднолькавай уласцівасцю падпарадкавання віду роду, часткі цэламу.

Спецыфічную асаблівасць гіпанімії складае **транзітыўнасць**, г. зн. не толькі прамая, але і апасродкаваная падпарадкаванасць ніжэйшага (па ступені абагульненасці) паняцця вышэйшаму праз прамежкавыя паняцці. Пераходнасць падпарадкавання пэўных велічынь звычайна ілюструецца формулай: калі адносіны ўключэння (падпарадкавання) існуюць паміж велічынямі *a* і *b*, а таксама *b* і *c*, то *a* і *c* таксама звязаны адносінамі ўключэння (падпарадкавання). Так, у радзе супастаўляльных паняццяў *квас—напітак—вадкасць—рэчыва* паняцце *квас* з'яўляецца гіпонімам да ўсіх наступных слоў *(квас — напітак, квас — вадкасць, квас — рэчыва)*, паняцце *напітак* — у адносінах да слоў *вадкасць, рэчыва* і г. д.

Гэта асаблівасць гіпанімічных адносін робіць іх «самымі фундаментальнымі парадыгматычнымі сэнсавымі адносінамі, з дапамогай якіх структурыраван слоўнікавы

састаў мовы»[3]. Самымі «агульнымі і універсальнымі» пры аналізе і стварэнні іерархічнай сістэмы класаў адзінак у лексіцы называе гіпанімічныя адносіны Л. А. Новікаў[4].

Паспрабуем вызначыць адметныя асаблівасці асноўных лексічных груповак (класаў), якія ў залежнасці ад сваёй прыроды, крытэрыяў і прынцыпаў вылучэння атрымалі назву прадметна-тэматычных, лексіка-семантычных груп і лексіка-семантычных палёў.

## § 2. ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНЫЯ ГРУПЫ

Гэты тып лексічных груповак характарызуецца некалькімі спецыфічнымі асаблівасцямі.

1. З усіх тыпаў лексічных класаў прадметна-тэматычная група мае найбольш цесную сувязь з адпаведным фрагментам пазамоўнай рэчаіснасці. Гэта тлумачыцца тым, што крытэрый уліку пазамоўнай рэчаіснасці ляжыць у самой аснове вылучэння прадметна-тэматычных груп. Так, акадэмік Д. М. Шмялёў піша, што, «адлюстроўваючы пэўным чынам тыя або іншыя «адрэзкі рэчаіснасці», словы, натуральна, звязаны паміж сабой, як узаемазвязаны і адлюстроўваемыя імі з'явы самой рэчаіснасці. Дзякуючы гэтым «пазамоўным» сувязям словы аб'ядноўваюцца ў групы, якія можна назваць тэматычнымі»[5]. Блізкае да гэтага азначэнне прадметна-тэматычных груп дае Ф. П. Філін: «Такога роду аб'яднанні слоў, якія заснаваны не на лексіка-семантычных сувязях, а на класіфікацыі саміх прадметаў і з'яў, можна назваць тэматычнымі слоўнікавымі групамі»[6].

Аналагічныя выказванні адносна прыроды і сутнасці прадметна-тэматычных груп можна знайсці і ў іншых аўтараў: «тэматычная група — словы, якія абазначаюць у нечым падобныя прадметы рэчаіснасці (назвы птушак, раслін)»[7]; «у тэматычных групах словы аб'яднаны на аснове агульнай тэмы, якая адлюстроўвае сітуацыю

[3] Лайонз Дж. Введение в теоретическую лингвистику. М., 1978. С. 478.

[4] Новиков Л. А. Семантика русского языка. М., 1982. С. 241—242.

[5] Шмелев Д. Н. Проблемы семантического анализа лексики. М., 1973. С. 13.

[6] Филин Ф. П. Очерки по теории языкознания. М., 1982. С. 231.

[7] Бертельс А. Е. Разделы словаря, семантические поля и тематические группы слов // ВЯ. 1982. № 4. С. 54.

зносін, гэта значыць некаторыя пазамоўныя моманты»[8]; «да тэматычных груп неабходна адносіць толькі такія класы слоў, якія аб'ядноўваюцца адной і той жа тыповай сітуацыяй альбо адной тэмай (параўн. такія тэмы, як «транспарт», «спорт», «магазін», «тэатр» і пад.)»[9].

Пазамоўны характар крытэрыяў вылучэння асобных прадметна-тэматычных груп слоў распаўсюджваецца і на ўсю тэматычную класіфікацыю лексікі ў цэлым. Параўн., для прыкладу, наступныя выказванні: «тэматычная класіфікацыя апіраецца на класіфікацыю саміх прадметаў і з'яў аб'ектыўнай рэальнасці»[10]; «тэматычная дыферэнцыяцыя слоў ... з'яўляецца пераважна пазамоўнай, паколькі сувязі паміж словамі тут узнікаюць перш за ўсё за кошт іх адносін да адзінай прадметнай тэмы»[11].

2. Акрамя пазамоўнага характару крытэрыяў вылучэння прадметна-тэматычных груп, апошнія маюць і іншыя адметныя асаблівасці ў параўнанні з лексічнымі групоўкамі іншых тыпаў. Напрыклад, шэраг даследчыкаў лексічнай сістэмнасці сцвярджае, што ў межах прадметна-тэматычных груп, як правіла, аб'ядноўваюцца словы пераважна з дэнататыўным тыпам значэння, прычым паводле свайго граматычнага статуса гэтыя словы належаць звычайна да лексіка-граматычнага разраду назоўнікаў. У якасці аргументаў на карысць гэтай думкі можна прывесці цэлы рад выказванняў. Так, П. М. Дзянісаў лічыць, што пад тэматычную класіфікацыю «падпадаюць у асноўным назоўнікі. Рэальныя прадметы — вось ядро абагульненага катэгарыяльнага значэння прадметнасці назоўнікаў»[12]. У сваю чаргу, Р. М. Карымава і Т. А. Кільдзібекава адзначаюць, што ў значэнні канкрэтных назоўнікаў у параўнанні з класам дзеясловаў прэваліруе дэнататыўны змест, суадносіны з прадметамі матэрыяльнага свету. Таму галоўнай падставай для класіфікацыі і апісання назоўнікаў з'яўляецца аднесенасць іх да пэў-

---

[8] Слесарева И. П. Проблемы описания и преподавания русской лексики. М., 1980. С. 51.

[9] Васильев Л. М. Теория семантических полей: (Обзор) // ВЯ. 1971. № 5. С. 110.

[10] Денисов П. Н. Место и роль самых многозначных слов в лексической системе языка // Слово в грамматике и словаре. М., 1984. С. 148.

[11] Плотников Б. А., Трайковская В. Ф. Дихотомическая лексикология. Мн., 1989. С. 71—72.

[12] Денисов П. Н. Место и роль самых многозначных слов в лексической системе языка. С. 148.

най прадметнай вобласці, тэматычнай сферы, г. зн. вядучымі тут будуць экстралінгвістычныя фактары. У той жа час катэгарыяльнае значэнне дзеясловаў мае рэлятыўны і больш абстрактны характар, таму пры апісанні дзеяслоўных лексем узрастае роля ўнутрымоўных фактараў [13].

У другой жа сваёй працы П. М. Дзянісаў нават падкрэслівае, што «чыста тэматычнай класіфікацыі паддаюцца толькі назоўнікі» [14], г. зн. магчымасці выкарыстання тэматычнай класіфікацыі лексікі абмяжоўваюцца галоўным чынам рамкамі лексіка-граматычнага разраду назоўнікаў. Крыху больш шырокае разуменне адзначанай адметнай асаблівасці прадметна-тэматычных груп (пераважна дэнататыўны тып значэння тых слоў, якія ўваходзяць у склад апошніх) дэманструе В. В. Банкевіч, калі вызначае прадметна-тэматычную групу як функцыянальна-інварыянтную групу лексічных адзінак (у тым ліку і словаспалучэнняў), якія адлюстроўваюць пэўную вобласць рэальнай рэчаіснасці і валодаюць у асноўным дэнататыўным тыпам значэння [15].

3. Яшчэ адной адметнай асаблівасцю прадметна-тэматычных груп з'яўляецца відавочная лёгкасць, з якой яны вылучаюцца даследчыкамі лексічнай семантыкі. Іменна гэту рысу прадметна-тэматычных груп маюць на ўвазе Л. В. Быстрова, Н. Д. Капатрук і В. В. Лявіцкі, калі пішуць, што «групы з дэнататыўнай агульнасцю... цесна звязваюцца (а часам і зліваюцца) з тым, што прынята называць «тэматычным радам». Вылучэнне такіх груп не ўяўляе асаблівых цяжкасцей: яны могуць быць параўнальна лёгка атрыманы на падставе суцэльнай выбаркі з тэксту ці слоўніка» [16]. Адзначаная лёгкасць вылучэння прадметна-тэматычных груп слоў на падставе крытэрыяў пазамоўнага характару садзейнічала таму, што ў межах беларускай лексікалогіі слоўныя

---

[13] Каримова Р. А., Кильдибекова Т. А. Тематическая группа слов как объект исторической лексикологии // Исследования по семантике. Уфа, 1976. С. 66.

[14] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980. С. 128.

[15] Банкевич В. В. К вопросу о соотношении лексико-семантических и тематических групп // Семантика слова и предложения. Л., 1985. С. 35.

[16] Быстрова Л. В., Капатрук Н. Д., Левицкий В. В. К вопросу о принципах и методах выделения лексико-семантических груп слов // Филологические науки. 1980. № 6. С. 75.

групоўкі такога тыпу апісваліся ў першую чаргу і на сённяшні дзень ужо выяўлен лексічны састаў многіх дзесяткаў прадметна-тэматычных груп. Можна дадаць, што часцей за іншыя даследчыкамі лексічнай семантыкі вывучаліся такія прадметна-тэматычныя групы слоў, як назвы жылля і яго памяшканняў, назвы частак чалавечага цела, назвы транспартных сродкаў, назвы паселішчаў і населеных пунктаў, назвы рыб, раслін, жывёл і г. д.

З пункту гледжання сучаснай лексікалагічнай тэорыі адносная лёгкасць вылучэння ўсемагчымых прадметна-тэматычных груп тлумачыцца тым, што «адносіны паміж словамі ў тэматычных групах будуюцца толькі на знешніх адносінах паміж паняццямі» [17], а «сувязей уласна моўных або зусім няма ў тэматычных аб'яднаннях слоў, або яны могуць быць выпадковымі, няўстойлівымі» [18]. Іменна таму «прадметна-тэматычная група канструюецца на логіка-гнастычных падставах безадносна да сінтаксічнага выкарыстання яе членаў» [19]. Апошняе як быццам вызваляе даследчыкаў прадметна-тэматычных груп слоў ад неабходнасці вывучэння шматлікіх і рознатыповых унутрымоўных сувязей, якія існуюць паміж словамі ў пісьмовых ці вусных тэкстах.

Адзначаны логіка-паняційны (анамасіялагічны) падыход да тэматычнага вывучэння лексікі шырока выкарыстоўваецца беларускімі дыялектолагамі, паколькі ён дазваляе хутка вызначыць адпаведнасць некаторага набору слоў з розных мясцовых гаворак пэўнаму і, як правіла, даволі шырокаму паняццю. Аднак такім чынам можна апісаць толькі адзін бок лексічнай семантыкі, прычым далёка не самы складаны. Сутнасць гэтай часткі лексічнай семантыкі і яе ўзаемаадносіны з прадметна-тэматычнымі групамі слоў даволі ўдала, на наш погляд, вызначыў А. Я. Міхневіч. У прыватнасці, ён лічыць, што «ў лексіцы існуюць, узаемадзейнічаюць і дапаўняюць адзін другога два тыпы сістэм: сістэма, якая выводзіцца з сінтагматычных структур, і сістэма, не выводзімая з сінтагматычных структур. Апошняя можа быць названа намінатыўнай семантычнай сістэмай. Адзінкай гэтай сістэмы трэба лічыць прадметна-тэматычную групу

---

[17] Филин Ф. П. Очерки по теории языкознания. С. 235.

[18] Там жа. С. 238.

[19] Міхневіч А. Я. Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы. Мн., 1976. С. 129.

слоў»[20]. І дадае: «Намінатыўная сістэма фактычна не мае сінтагматыкі, якая магла б быць даследавана ў межах лінгвістыкі і метадамі лінгвістыкі»[21].

4. Адсутнасць апоры на сінтагматычныя структуры самой моўнай рэчаіснасці і дакладныя лінгвістычныя метады яе даследавання надаюць прадметна-тэматычным групам слоў такую адметную асаблівасць, як пэўны суб'ектывізм і нават апрыёрнасць. Гэта адметная асаблівасць прадметна-тэматычных груп нярэдка параджае спрэчкі паміж даследчыкамі лексічнай семантыкі. Напрыклад, Н. Г. Міхайлоўская лічыць, што «пры групіроўцы слоў у залежнасці ад тэматычнай блізкасці абазначаемых імі паняццяў ... асноўнае значэнне набывае факт наймення паняцця, рэаліі, дзеяння, прыметы і г. д. Такім чынам, лексіка атрымлівае характарыстыку ў асноўным з пункту гледжання сферы яе прыналежнасці і адпаведнага выкарыстання. Аб сістэмных адносінах у гэтым выпадку даводзіцца гаварыць толькі таму, што гэта сістэма можа быць прызнана на пазамоўным узроўні. Пазамоўны ж (экстралінгвістычны) узровень для вызначэння сістэмных адносін слоў нельга прызнаць надзейным крытэрыем»[22]. Аналагічную думку выказвае і А. А. Уфімцава: «... разгляд тэматычных груп, адметная прымета якіх выбрана па экстралінгвістычнаму фактару, толькі абазначаемаму рэферэнту... не можа раскрыць сістэмных сувязей слоў»[23]. Яшчэ больш катэгарычна выказваецца наконт гэтага А. А. Рэфармацкі: «Лексічная сістэма мовы не мае нічога агульнага з упарадкаваннем лексікі дадзенай мовы па прадметных (пазамоўных) катэгорыях, як гэта робіцца ў «прадметных», «тэматычных» і «ідэалагічных» слоўніках»[24].

Некалькі інакшага пункту гледжання на эўрыстычныя магчымасці тэматычнай класіфікацыі лексікі прытрымліваюцца такія даследчыкі лексічнай семантыкі, як Д. М. Шмялёў, Ф. П. Філін. Першы, у прыватнасці, пісаў:

---

[20] Міхневіч А. Я. Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы. С. 129.

[21] Там жа. С. 138.

[22] Михайловская Н. Г. К проблеме семантического членения словарного состава // Актуальные проблемы лексикологии. Мн., 1970. С. 136.

[23] Уфимцева А. А. Слово в лексико-семантической системе языка. М., 1968. С. 138.

[24] Реформатский А. А. Термин как член лексической системы языка // Проблемы структурной лингвистики, 1967. М., 1968. С. 110.

«Зусім зразумела, што вылучэнне тэматычных груп слоў заснавана на пазамоўных крытэрыях. Аднак наўрад ці было б мэтазгодна наперад адмовіцца на гэтай падставе ад лінгвістычнага аналізу адпаведных аб'яднанняў слоў, ад спроб адшукаць у іх агульныя семантычныя элементы»[25]. Другі, у сваю чаргу, адзначае: «Вывучэнне слоўнікавага саставу па тэматычных групах законна не толькі па прычыне метадычных зручнасцей пры тлумачэнні разнароднага лексічнага матэрыялу. Даследаванне стану і развіцця слоў, якія абазначаюць розныя групы прадметаў і з'яў прыроды і грамадства, важнае само па сабе, што не патрабуе асаблівых доказаў. Таму яно і звычайнае ў практыцы лексікалагічных работ»[26].

Сваю, асаблівую, пазіцыю па гэтаму пытанню займаў акадэмік В. У. Вінаградаў. У прыватнасці, ён падкрэсліваў, што асобныя даследчыкі лексічнай семантыкі нярэдка з унутрымоўнымі сістэмнымі сувязямі слоў «змешваюць намінатыўныя адносіны слоў да тых або іншых матэрыяльна звязаных куточкаў ці сфер рэальнага свету (напрыклад, назвы птушак, назвы страў, назвы жылля і яго частак, абазначэнні розных сродкаў перамяшчэння і г. д.). Само сабой зразумела, што матэрыяльныя сувязі паміж рэчамі і з'явамі рэальнага свету, якія абазначаюцца словамі, не могуць не знайсці адлюстравання ў сувязях і ўзаемадзеяннях іх назваў і нават у характары іх семантычных змен. Аднак гэтае важнае кола пытанняў мэтазгодна разгледзець у асобным даследаванні, далучыўшы гэтыя праблемы да крытычнага аналізу той плыні ў дасавецкай гістарычнай лексікалогіі, якая вядома пад назвай «словы і рэчы»...»[27]

Усё сказанае дазваляе, на наш погляд, зрабіць вывад адносна правамернасці вылучэння прадметна-тэматычных груп слоў на падставе крытэрыяў пазамоўнага характару. Асноўнымі адметнымі асаблівасцямі лексічных груповак гэтага тыпу ў параўнанні з сумежнымі лексічнымі аб'яднаннямі з'яўляюцца: а) відавочна пазамоўны характар аб'яднання слоў у межах прадметна-тэматычных груп; б) пераважна дэнататыўны характар значэнняў тых слоў (як правіла, назоўнікаў), якія аб'яд-

---

[25] Шмелев Д. Н. Проблемы семантического анализа лексики. С. 13.

[26] Филин Ф. П. Очерки по теории языкознания. С. 231—232.

[27] Виноградов В. В. Избранные труды: Лексикология и лексикография. М., 1977. С. 87.

ноўваюцца ў межах прадметна-тэматычных груп; в) адносная лёгкасць вылучэння прадметна-тэматычных груп слоў даследчыкамі; г) пэўны суб'ектывізм і нават апрыёрнасць пры выяўленні саставаў прадметна-тэматычных груп. Разам з тым трэба пагадзіцца з думкай апанентаў тэматычнага даследавання лексікі аб тым, што вылучэнне і апісанне самых розных прадметна-тэматычных груп слоў не вызваляе даследчыкаў лексічнай семантыкі ад неабходнасці вывучэння лексічных груповак другіх тыпаў, якія заснаваны на ўнутрымоўных сувязях паміж словамі. Адзначаная неабходнасць тлумачыцца тым, што поруч з тэматычнай класіфікацыяй лексікі, «часткова паўтараючы яе, а часткова разыходзячыся, існуе ў свядомасці носьбітаў мовы і ўласна семантычная класіфікацыя лексікі» [28].

## § 3. ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНЫЯ ГРУПЫ

Сярод лексічных груповак, якія вылучаюцца з апорай на ўнутрымоўныя фактары, часцей за іншыя даследчыкамі ўпамінаюцца лексіка-семантычная група і лексіка-семантычнае поле. У адрозненне ад прадметна-тэматычных груп, якія фарміруюцца на падставе анамасіялагічнага (логіка-паняційнага) падыходу да вывучэння лексікі, лексіка-семантычныя групы і лексіка-семантычныя палі, як правіла, даследуюцца на аснове крытэрыяў уласна лінгвістычнага характару. Паколькі прадметна-тэматычныя і лексіка-семантычныя групы асобнымі даследчыкамі часта атаясамліваюцца, зробім спробу выявіць адрозненні паміж гэтымі лексічнымі групоўкамі і тым самым назваць адметныя асаблівасці лексіка-семантычных груп.

Так, Ф. П. Філін лічыць, што «цяжкасць размежавання тэматычных і лексіка-семантычных груп слоў абумоўліваецца перш за ўсё складанасцю расчлянення слоўнікавага саставу, як спецыфічнай з'явы мовы, і пазамоўнага зместу». І дадае: «Агульнае паміж тэматычнымі і лексіка-семантычнымі групамі слоў заключаецца ў тым, што як адны, так і другія групы адлюстроўваюць пазнаную аб'ектыўную рэальнасць. У гэтым сэнсе любая лексіка-семантычная група слоў заўсёды мае сваю «тэму»,

[28] Клименко А. П. Проблема лексической системности в психолингвистическом освещении: Автореф. дис. ... доктора филол. наук. Мн., 1980. С. 29.

няхай нават будзе ісці размова аб групе вельмі блізкіх адзін да аднаго сінонімаў. У гэтым плане не можа быць раздзялення слоў на тэматычныя і лексіка-семантычныя групы»[29].

Падобнае размежаванне слоў адбываецца не па лініі іх адносін да пазамоўнай рэчаіснасці, а па лініі іх узаемаадносін паміж сабой. Інакш кажучы, «калі мы не лічым, што значэнне тоеснае паняццю, то мы таксама не павінны атаясамліваць сувязі паміж значэннямі слоў і сувязі паміж паняццямі»[30]. Такім чынам, у межах прадметна-тэматычных груп адносіны паміж словамі абумоўлены адносінамі паміж паняццямі, якія гэтыя словы абазначаюць. У межах жа лексіка-семантычных груп самыя разнастайныя сувязі паміж словамі з'яўляюцца вынікам дзеяння законаў і заканамернасцей гістарычнага развіцця лексічнай семантыкі мовы. Таму, «калі ставіцца задача выявіць унутраныя сувязі слоў у межах семантычнай сістэмы мовы, вызначыць структуру і спецыфічныя сэнсавыя сувязі апошняй, неабходна даследаваць лексіка-семантычныя групы слоў»[31].

Каб канчаткова высветліць адносіны паміж такімі лексічнымі групоўкамі, як прадметна-тэматычныя і лексіка-семантычныя групы, працытуем яшчэ некалькі прац. Так, І. П. Слесарава лічыць, што «адносіны тэматычных груп да ЛСГ ... — гэта адносіны перасячэння. Словы адной ЛСГ могуць аказацца размеркаванымі па розных тэматычных групах»[32]. Падобныя асіметрычныя адносіны паміж прадметна-тэматычнымі і лексіка-семантычнымі групамі тлумачацца тым, што «кожная лексіка-семантычная група мае сваю «тэму», але далёка не кожнае класіфікацыйнае аб'яднанне слоў па той ці іншай тэме ўяўляе сабой дадзенае ў самой мове аб'яднанне значэнняў (сінанімічных, антанімічных, узаемазвязана ўдакладняючых і інш.)»[33]. Пералічаныя адрозненні паміж прадметна-тэматычнымі і лексіка-семантычнымі групамі ў многім вызначаюць і адметныя асаблівасці апошніх.

1. Калі прадметна-тэматычныя групы звычайна вылу-

---

[29] Филин Ф. П. Очерки по теории языкознания. С. 233.
[30] Там жа. С. 234.
[31] Уфимцева А. А. Опыт изучения лексики как системы. М., 1962. С. 137.
[32] Слесарева И. П. Проблемы описания и преподавания русской лексики. С. 52.
[33] Филин Ф. П. Очерки по теории языкознания. С. 239.

чаюцца на падставе крытэрыяў пазамоўнага характару, дык выяўленне лексіка-семантычных груп, як правіла, ідзе з дапамогай крытэрыяў уласна лінгвістычнага характару. У якасці першага з такіх крытэрыяў неабходна назваць улік лексічнага значэння слова пры ўключэнні яго ў састаў лексіка-семантычнай групы. Адносна гэтай адметнай асаблівасці лексіка-семантычных груп сярод даследчыкаў лексічнай семантыкі існуе даволі рэдкае аднадушша. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прывесці некалькі выказванняў з прац розных аўтараў.

Так, Л. М. Васільеў лічыць, што «тэрмінам ЛСГ можна абазначаць любы семантычны клас слоў (лексем), аб'яднаных хоць бы адной агульнай лексічнай парадыгматычнай семай (або хоць бы адным агульным семантычным множнікам)»[34]. У сваю чаргу П. М. Дзянісаў адзначае, што «лексіка-семантычную групу складаюць словы, якія выражаюць адно паняцце, адну ідэю, адно агульнае значэнне. Гэта — сінанімія ў самым шырокім сэнсе»[35]. Аналагічныя думкі выказваюць і іншыя аўтары[36]. Такім чынам, даследчыкі лексічнай семантыкі пераананы, што наяўнасць агульнай семантычнай прыметы з'яўляецца абавязковай для ўсіх слоў, якія ўваходзяць у састаў адной лексіка-семантычнай групы.

Праўда, «не кожная прымета можа выступаць у якасці семантычнага ядра лексіка-семантычнай групы»[37]. Часцей за ўсё словы ў межах лексіка-семантычнай групы аб'ядноўваюцца 1) значэннямі якога-небудзь слова (яно ў такім выпадку называецца ідэнтыфікатарам, дамінантай, ядром, імем ЛСГ) або 2) адным агульным семантычным кампанентам. Адносна першага спосабу аб'яднання слоў у межах лексіка-семантычнай групы акадэмік В. У. Вінаградаў пісаў, што «ў некаторых семантычных групах асобныя, найбольш семантычна важкія словы выступаюць у якасці семантычных цэнтраў, вакол якіх групуюцца цэлыя рады слоў і паняццяў. Прыцягненне да іх новых серый слоў суправаджаецца зменамі ў ладзе іх

---

[34] Васильев Л. М. Теория семантических полей: (Обзор) // ВЯ. 1971. № 5. С. 110.

[35] Денисов П. Н. Место и роль самых многозначных слов в лексической системе языка. С. 148.

[36] Гл., напрыклад, лексікалагічныя працы В. Г. Гака, П. М. Дзянісава, Ф. П. Філіна і інш.

[37] Кузнецов А. М. Структурно-семантические параметры в лексике: (На материале английского языка). М., 1980. С. 71.

старых значэнняў. Такія цэнтральныя словы, якія з'яўляюцца як бы сонцамі асобных семантычных сістэм, часам выражаюць асноўныя, «баявыя» паняцці той ці іншай эпохі»[38]. Што ж датычыцца другога спосабу аб'яднання слоў у межах лексіка-семантычнай групы, калі словы аб'ядноўваюцца адным агульным значэннем ці семантычным кампанентам, то фармальным паказчыкам гэтага спосабу, на думку Ю. М. Каравулава, з'яўляецца тое, што ў якасці назваў утвораных такім чынам лексіка-семантычных груп звычайна выступае словаспалучэнне (напрыклад, ЛСГ тэрмінаў сваяцтва)[39].

2. Яшчэ адной адметнай асаблівасцю лексіка-семантычных груп з'яўляецца змешаны, дэнататыўна-сігніфікатыўны, тып значэння тых слоў, якія ўваходзяць у састаў гэтых груп. Прычым у адрозненне ад прадметна-тэматычных груп з іх прадметнай арыентацыяй, якая часцей за ўсё знаходзіць сваё адлюстраванне праз уключэнне ў склад такіх груп канкрэтных назоўнікаў, лексіка-семантычныя групы слоў могуць быць вылучаны ў межах самых розных часцін мовы. Так, па сведчанню А. М. Ціханава, «прыметнікі, дзеясловы, прыслоўі аб'ядноўваюцца ў ЛСГ на базе агульнасці тыповых лексічных значэнняў або іх пэўных кампанентаў, семантычных множнікаў»[40]. Яшчэ больш катэгарычна выказваецца адносна магчымасці ўключэння слоў пералічаных часцін мовы ў склад лексіка-семантычных груп П. М. Дзянісаў. Ён, у прыватнасці, лічыць, што «іменна да лексіка-семантычных груп адносяцца класіфікацыі дзеясловаў (дзеясловы пачуцця, мыслення, маўлення, паводзін, перадачы, фізічнага ўздзеяння, стварэння, разбурэння і пад.), а таксама класіфікацыі прыметнікаў (прыметнікі формы, памеру, узросту, тэмпературы і інш.) і прыслоўяў»[41].

У сваю чаргу, калі ў межах лексіка-семантычных груп аб'ядноўваюцца назоўнікі з аднатыпнымі лексічнымі значэннямі, то такія лексіка-семантычныя групы набліжаюцца па свайму саставу да адпаведных прадметна-тэма-

---

[38] Виноградов В. В. Избранные труды: Лексикология и лексикография. С. 88.

[39] Караулов Ю. Н. Общая и русская идеография. М., 1976. С. 216.

[40] Тихонов А. Н. Проблемы составления толкового гнездового словаря современного русского языка // Слово в грамматике и словаре. М., 1984. С. 198.

[41] Денисов П. Н. Место и роль самых многозначных слов в лексической системе языка. С. 148.

тычных груп. Так, паводле назіранняў Ф. П. Філіна, даволі шматлікімі з'яўляюцца «выпадкі, калі ў поле зроку даследчыка трапляе абмежаваная па свайму саставу група слоў, якая адначасова можа быць і тэматычнай, і лексіка-семантычнай» [42]. Да ліку такіх лексічных груповак змешанага характару можна аднесці, напрыклад, назвы паселішчаў і населеных пунктаў, тэрміны сваяцтва і інш.

3. Адрозніваюцца лексіка-семантычныя групы ад прадметна-тэматычных груп і па сваіх адносінах да сінаніміі, антаніміі і іншых тыпаў семантычных сувязей паміж словамі. Гэтыя тыпы сувязей звычайна не ўлічваюцца пры вылучэнні прадметна-тэматычных груп слоў, паколькі апошнія фарміруюцца ў адпаведнасці з сістэмнымі адносінамі паміж прадметамі і з'явамі навакольнага асяроддзя. Што ж датычыцца лексіка-семантычных груп, то ў іх структуры пералічаныя тыпы ўнутрымоўных семантычных сувязей адыгрываюць даволі істотную ролю. Удакладняючы тыпы гэтых унутрымоўных сувязей, В. Г. Гак гаворыць: «Элементы ЛСГ звязаны адносінамі ўключэння і супадпарадкавальнасці, ЛСГ уключае гіперонімы і гіпонімы, сінонімы і антонімы» [43]. А І. П. Слесарава спрабуе нават вызначыць іерархічныя адносіны паміж лексіка-семантычнай групай слоў, сінанімічным радам і іншымі лексічнымі групоўкамі: «ЛСГ у нашым разуменні ўяўляе ўтварэнне, прамежкавае паміж сінанімічным радам і семантычным полем. Яна ўключае ў сябе сінонімы і ўваходзіць у больш шырокае аб'яднанне слоў — семантычнае поле» [44]. Выкарыстанне такога тыпу семантычных сувязей, як сінанімія, пры апісанні той часткі лексічнай семантыкі, якой у структурным плане звычайна адпавядае тая ці іншая лексіка-семантычная група, нярэдка становіцца прычынай памылковага абазначэння гэтай лексіка-семантычнай групы тэрмінам *сінанімічны рад*.

4. Нарэшце, у якасці апошняй адметнай асаблівасці лексіка-семантычных груп трэба адзначыць магчымасць іх выводзення з сінтагматычных структур. Як правіла, у сказе члены адной лексіка-семантычнай групы выконва-

---

[42] Филин Ф. П. Очерки по теории языкознания. С. 234.

[43] Гак В. Г. Сопоставительная лексикология: (На материале французского и русского языков). М., 1977. С. 154.

[44] Слесарева И. П. Проблемы описания и преподавания русской лексики. С. 50.

юць адну і тую ж граматычную функцыю. Якраз гэта мела на ўвазе В. М. Ярцава, калі адзначала, што «пэўныя лексіка-семантычныя структурныя групы маюць сувязь з граматычнымі пабудовамі і нават уплываюць на іх»[45]. Агульнасць граматычнай функцыі членаў адной лексіка-семантычнай групы дазваляе ім замяніць адзін аднаго ў сказе. Вось як ілюструе гэта палажэнне Ф. П. Філін: «З'яўляецца зусім відавочнай цесная семантычная сувязь у сучаснай рускай мове паміж словамі *спина* і *хребет*. У прастамоўі абодва гэтыя словы ў пэўным маўленчым кантэксце ўзаемазамяняльныя: параўн. *взвалить мешок на хребет* і *взвалить мешок на спину*... З гэтага вынікае, што ў рамках адной тэматычнай групы (назваў частак чалавечага цела.— *В. Шч.*) існуюць больш дробныя, але цесна спаяныя паміж сабой лексіка-семантычныя групы слоў»[46].

Такім чынам, лексіка-семантычныя групы слоў маюць наступныя адметныя асаблівасці: а) унутрымоўны, семантычны характар аб'яднання слоў у межах лексіка-семантычнай групы; б) змешаны, дэнататыўна-сігніфікатыўны, тып лексічных значэнняў, якія складаюць змест лексіка-семантычнай групы і перадаюцца ці толькі назоўнікамі, ці толькі прыметнікамі, ці толькі дзеясловамі, ці толькі прыслоўямі; в) магчымасць сумяшчэння ў межах лексіка-семантычнай групы такіх лексічных з'яў, як сінанімія, антанімія, гіпанімія і інш.; г) агульнасць граматычнай функцыі членаў адной лексіка-семантычнай групы ў сказе. Што ж датычыцца тэматычнай прыналежнасці розных лексіка-семантычных груп, то на сённяшні дзень «вывучаюцца, напрыклад, ЛСГ дзеясловаў маўлення, перамяшчэння, гучання, стварэння, разбурэння, радасці, смутку і інш.; ЛСГ прыметнікаў прасторавых вымярэнняў, колеру, памеру і г. д.; ЛСГ назоўнікаў, якія абазначаюць час, назвы рэльефу, людзей па прафесіі, узросту, нацыянальнасці і г. д.»[47] У якасці ж найбольш тыповых прыкладаў лексіка-семантычных груп можна прывесці лексіка-семантычную групу прыслоўяў са значэннем ступені (*зусім, поўнасцю, цалкам, абсалютна, канчаткова, вельмі, дастаткова* і г. д.), лексіка-семантычную групу назваў стану чалавека (*жыць, спаць, ды-*

---

[45] Ярцева В. Н. Контрастивная грамматика. М., 1981. С. 16.
[46] Филин Ф. П. Очерки по теории языкознания. С. 233.
[47] Попова З. Д. Общее языкознание: Учеб. пособие. Воронеж, 1987. С. 130.

*хаць, нараджацца, паміраць* і г. д.), лексіка-семантычную групу назваў людзей паводле ўласцівасцей іх інтэлекту (*дурны, мудры, разумны, тупы, абмежаваны, недалёкі, някемлівы* і г. д.) і многія іншыя ЛСГ.

## § 4. СЕМАНТЫЧНЫЯ ПАЛІ

Зусім іншы набор адметных асаблівасцей выяўляецца пры апісанні такога тыпу лексічных груповак, як лексіка-семантычнае поле. Прычым у працах розных аўтараў, якія займаліся даследаваннем лексічных груповак гэтага тыпу, набор такіх асаблівасцей істотна вар'іруецца і ўзаемадапаўняецца. Так, на думку П. М. Дзянісава, «для семантычнага поля можна адзначыць шэраг апазнавальных прымет: 1) велічыня, 2) сэнсавая атракцыя, а не бінарнае супрацьпастаўленне; 3) цэласнасць, 4) упарадкаванасць, 5) узаемадапаўняльнасць элементаў (кожны элемент поля «прылягае да суседзяў»); 6) паўната, 7) адвольнасць і размытасць межаў, 8) бесперапыннасць» [48]. У сваю чаргу, Б. Ю. Гарадзецкі піша: «Адзінства семантычнага поля заснавана на спецыфічных карэляцыях, якія звязваюць семантычныя адзінкі. Да гэтых карэляцый належаць: сінанімічныя карэляцыі; гіпанімічныя карэляцыі (напрыклад, *барвовы—чырвоны*); карэляцыі несумяшчальнасці (*чырвоны—зялёны*); антанімічныя карэляцыі; карэляцыі паслядоўнасці (*вывучаць—ведаць*); канверсійная карэляцыя (*прадаваць—купляць*); агентыўная карэляцыя (*купляць—пакупнік*) і іншыя» [49].

Нарэшце, аналізуючы апісаныя праф. М. М. Пакроўскім яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя вельмі спецыфічныя лексіка-семантычныя палі, Ю. С. Сцяпанаў заўважае: «Палі такога тыпу вылучаюцца на падставе сумеснага выкарыстання трох крытэрыяў: 1) тэматычная група (словы адносяцца да «аднаго і таго ж кола ўяўленняў», паводле выразу М. М. Пакроўскага), 2) сінанімія, 3) марфалагічныя сувязі. Пад апошнімі разумеюцца групоўкі па прынцыпу назваў дзеячаў, прылад, спосабаў дзеяння і г. д. (словы, згрупаваныя такім чынам, маюць агульныя паказчыкі ў сваёй форме — суфіксы і інш.), а

---

[48] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. С. 127.

[49] Городецкий Б. Ю. К проблеме семантической типологии. М., 1969. С. 202.

таксама больш складаныя адносіны, напрыклад адносіны аддзеяслоўных назоўнікаў да дзеясловаў»[50].

Як можна бачыць з гэтага пераліку адметных асаблівасцей лексіка-семантычнага поля, яно аб'ядноўвае ў сваім складзе значную колькасць самых разнастайных моўных сродкаў і мае надзвычай складаную ўнутраную арганізацыю, у аснову якой пакладзены даволі розныя па свайму характару прыметы. Прычым адзначаная разнастайнасць і нават супрацьлегласць тых прымет, якія кладуцца ў аснову вылучэння лексіка-семантычнага поля, на думку Д. М. Шмялёва, «сведчыць не столькі аб суб'ектыўнасці выбару прымет, колькі аб аб'ектыўнай іх разнастайнасці ў мове»[51]. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова разгледзець існуючыя на сучасны момант тыпалогіі лексіка-семантычных палёў.

Найбольш агульнай такой тыпалогіяй палёў з'яўляецца іх падзел на паняційныя (экстралінгвістычныя) і лексічныя (лінгвістычныя) палі. Аўтарам гэтай тыпалогіі лічыцца нямецкі вучоны Й. Трыр. Сутнасць створанай ім тыпалогіі палёў зводзіцца Ю. С. Сцяпанавым да наступнага: «Паняційнае поле — вялізная сістэма ўзаемазвязаных паняццяў, арганізаваных вакол цэнтральнага паняцця, напрыклад 'розум'. Лексічнае поле ўтворана якім-небудзь адным словам і яго «сям'ёй слоў». Лексічнае поле пакрывае толькі частку паняційнага поля, другая частка апошняга пакрыта іншым лексічным полем і г. д. Паняційнае поле аказваецца ў плане выражэння падобным да мазаікі»[52].

Прапанаваны Й. Трырам падзел палёў на паняційныя і лексічныя атрымаў сваё лагічнае развіццё ў работах Г. Мюлера, А. А. Уфімцавай, О. Духачака, Дж. Вершурэна, І. П. Слесаравай, М. А. Барадзіной, В. Г. Гака і іншых даследчыкаў лексічнай семантыкі. Напрыклад, А. А. Уфімцава піша: «Паняційныя (часам называюцца семантычнымі) палі ўяўляюць сабой абстрактныя, адцягненыя ад сродкаў іх моўнага выражэння паняційныя сферы, розныя вобласці сацыяльнага, палітычнага, матэрыяльнага ці духоўнага жыцця народа, як яны прысутнічаюць у свядомасці калектыву, які гаворыць на сваёй мове. У «лінгвістычныя палі», якія адпавядаюць такім

---

[50] Степанов Ю. С. Основы общего языкознания. М., 1975. С. 47—48.
[51] Шмелев Д. Н. Очерки по семасиологии русского языка. С. 111.
[52] Степанов Ю. С. Основы общего языкознания. С. 48.

паняційным сферам, залічваецца ўсё: словы (розных часцін мовы), іх вытворныя, словазлучэнні, фразеалагічныя выразы і нават розныя экспрэсіўныя і эмацыянальныя сродкі мовы, якія садзейнічаюць выражэнню тых або іншых ідэй. Пры падобным прынцыпе адмежавання «лінгвістычных палёў» сціраецца мяжа паміж мовай як сістэмай і мовай як маўленнем, якое выражае ідэі, думкі, пачуцці, настроі, эмоцыі»[53].

У сваю чаргу, І. П. Слесарава спрабуе суаднесці паняційныя і лексічныя (семантычныя) палі пры дапамозе агульнай семантычнай шкалы «канкрэтнае—абстрактнае». Яна заўважае: «Семантычнае поле разумеецца як больш высокі (у параўнанні з лексіка-семантычнай групай.— *В. Шч.*) узровень лексіка-семантычных сувязей парадыгматычнага характару. Семантычнае поле аб'ядноўвае словы розных часцін мовы, якія знаходзяцца паміж сабой у непасрэднай семантычнай сувязі. Семантычныя сувязі ў полі характарызуюцца рознай ступенню ўпарадкаванасці (ад ядра да перыферыі). Паняційнае поле можна разглядаць як яшчэ больш высокі ўзровень абагульнення сэнсавых сувязей. На гэтым узроўні адбываецца іх далейшая катэгарызацыя. Адрозніванне семантычнага і паняційнага палёў мэтазгодна рабіць, такім чынам, не на аснове супрацьпастаўлення значэння значэнню, а як размежаванне розных ступеней абстракцыі»[54].

Нарэшце, яшчэ адзін, і даволі спецыфічны, падыход да вызначэння суадносін паміж паняційнымі і лексічнымі (слоўнымі) палямі дэманструюць М. А. Барадзіна і В. Г. Гак. У адрозненне ад памянёных вышэй даследчыкаў лексічнай семантыкі, якія падкрэслівалі ўзаемадапаўняльны характар сувязей паміж паняційнымі і лексічнымі палямі, яны лічаць мэтазгодным «адрозніваць слоўныя палі, заснаваныя на адзінстве лексемы (пад лексемай разумеецца гукавая абалонка слова), і паняційныя (канцэптуальныя, семантычныя, рэферэнцыйныя) палі, заснаваныя на адзінстве семемы (змястоўнага ядра слова). Паміж слоўнымі і паняційнымі палямі няма паралелізму. Слоўныя палі ў лінгвістычнай традыцыі называюцца «гнёздамі» ці «сем'ямі» слоў. Словы, якія

[53] Уфимцева А. А. Опыт изучения лексики как системы. С. 135.
[54] Слесарева И. П. Проблемы описания и преподавания русской лексики. С. 50.

уваходзяць у адну лексічную групу слоў, могуць абазначаць вельмі далёкія паняцці»[55]. Няцяжка заўважыць, што тут супрацьпастаўляюцца не паняційныя і лексічныя (слоўныя) палі, а хутчэй паняційныя і дэрывацыйныя палі. Таму паміж імі і адзначаецца адсутнасць паралелізму. Што ж датычыцца паняційных і лексічных палёў, то паміж імі заўсёды існуе даволі моцная сувязь і нават структурнае падабенства іхніх пэўных частак, паколькі і першыя, і другія палі пэўным чынам адлюстроўваюць сістэмнасць адной і той жа пазамоўнай рэчаіснасці.

Увогуле ж суадносіны паняційных палёў, лексічных палёў і адпаведных фрагментаў пазамоўнай рэчаіснасці можна праілюстраваць пры дапамозе «семантычнага трохвугольніка». Як вядома, адзін вугал гэтага трохвугольніка належыць прадмету ці з'яве пазамоўнай рэчаіснасці, другі вугал — паняццю, пры дапамозе якога гэты прадмет ці з'ява адлюстроўваюцца ў нашай свядомасці, і трэці — слову, якім абазначаецца гэты прадмет ці з'ява ў данай мове. У сваю чаргу, калі разглядаецца не адзін прадмет, а цэлая група ўзаемазвязаных у пазамоўнай рэчаіснасці прадметаў, то з ёй будзе суадносіцца, з аднаго боку, адпаведнае паняційнае поле, а з другога боку — аднайменнае лексічнае поле.

Такім чынам, аднайменныя паняційнае і лексічнае палі звязвае паміж сабой адзін і той жа сістэмна ўпарадкаваны кавалак пазамоўнай рэчаіснасці, які стаіць за кожным з гэтых палёў. Агульным для гэтых палёў з'яўляецца і пераважна семантычны характар сувязей паміж элементарнымі адзінкамі ў іх складзе. Інакш кажучы, і паняційныя, і лексічныя палі могуць быць аднесены да катэгорыі семантычных палёў. Адрозніваюцца ж гэтыя палі а) рознай ступенню абстрактнасці свайго зместу і б) наяўнасцю ці адсутнасцю ўласных сродкаў выражэння свайго зместу.

Адносна першага адрознення можна адзначыць, што паняцце звычайна мае больш агульны і універсальны характар, чым адпаведнае лексічнае значэнне. Гэта універсальнасць паняцця нярэдка праяўляецца ў тым, што ў розных мовах яно можа перадавацца па-рознаму, пры дапамозе самых розных моўных сродкаў. У сувязі з гэтым эўрыстычныя магчымасці паняцця, як асноўнай

---

[55] Бородина М. А., Гак В. Г. К типологии и методике историко-семантических исследований. Л., 1979. С. 53.

адзінкі паняційнага поля, якраз і заключаюцца ў тым, што паняцце, выяўленае пры дапамозе лексічных, граматычных і іншых сродкаў адной мовы, можа быць выкарыстана для апісання адпаведных лексічных, граматычных і іншых сродкаў другой мовы. Пры гэтым, зразумела, маюцца на ўвазе найбольш агульныя і абстрактныя паняцці, якія маюць экстралінгвістычны, пазамоўны характар і не з'яўляюцца ўнутрымоўнымі ці ўласна моўнымі паняццямі.

Адносна ж другога адрознення паміж паняційнымі і лексічнымі палямі трэба адзначыць, што першыя маюць толькі план зместу, а ў якасці іхняга плана выражэння заўсёды выступаюць лексічныя, граматычныя, дэрывацыйныя і іншыя палі. У сваю чаргу, лексічныя палі маюць як уласны план зместу, які ў значнай сваёй частцы супадае з планам зместу аднайменнага паняційнага поля, так і ўласны план выражэння (словы, іх вытворныя, усемагчымыя словазлучэнні, фразеалагічныя выразы, стылістычныя канатацыі і інш.).

Агульнасць семантычнага зместу аднайменных паняційных і лексічных палёў і іх розныя магчымасці для яго выражэння сталі асноўнай прычынай фарміравання ў сучаснай лексікалогіі двух супрацьлеглых пунктаў гледжання на прыроду семантычнага поля: «1) семантычнае поле — факт мовы і толькі мовы, яго вылучэнне і аналіз павінны грунтавацца выключна на лінгвістычных даных; 2) семантычнае поле — з'ява экстралінгвістычная (псіхалагічная ці лагічная), але якая знаходзіць адлюстраванне ў фактах мовы і пагэтаму цікавіць лінгвістаў»[56]. Няцяжка заўважыць, што ў першым выпадку пад семантычным полем разумеецца лексічнае ці лексіка-семантычнае поле, а ў другім выпадку — паняційнае поле.

Прычым семантычнае поле ў першым яго разуменні пэўным чынам набліжаецца да лексіка-семантычнай групы, паколькі, таксама як і яна, вылучаецца шляхам аналізу семантычных сувязей паміж словамі ў пісьмовых і вусных тэкстах. У сваю чаргу, паняційнае поле (семантычнае поле ў другім яго разуменні), як і прадметна-тэматычная група слоў, зыходзіць галоўным чынам з адносін паміж прадметамі і паняццямі пазамоўнай рэчаіс-

[56] Шайкевич А. Я. Распределение слов в тексте и выделение семантических полей // Иностранные языки в высшей школе. Вып. 2. М., 1963. С. 14.

насці, якія абазначаюцца пры дапамозе слоў. На наш погляд, кожны з гэтых двух падыходаў мае ў сучаснай лексікалогіі права на існаванне, паколькі адны групы слоў лягчэй вывучаць з боку іх чыста моўных, лексічных сувязей паміж сабой, другія ж групы слоў лепш вывучаць з боку іх сувязей з пазамоўнай рэчаіснасцю. Аднак пры гэтым не выклікае сумнення, што ўсемагчымыя паняційныя класіфікацыі лексікі з'яўляюцца толькі дапаможным сродкам пры пабудове поўнай і ўсебаковай семантычнай класіфікацыі лексікі чыста моўнага характару.

На жаль, як паказаў спецыяльны агляд даследаванняў, прысвечаных апісанню палёў розных тыпаў, універсалізм логіка-паняційнага падыходу ўсё больш прыцягвае ўвагу даследчыкаў лексічнай семантыкі, і апошнія паступова адыходзяць ад традыцыйнага вывучэння лексікі з улікам унутрымоўных сувязей семантычнага характару, якія існуюць паміж словамі аднаго і таго ж лексіка-семантычнага поля ў разнастайных пісьмовых і вусных тэкстах: «У апошні час усё часцей паяўляюцца работы, у якіх паняцце «поле» ўжываецца ў адносінах да груп лексікі, у аснову аб'яднання якіх у такое поле пакладзены экстралінгвістычныя характарыстыкі. Параўн., напрыклад, групы слоў, якімі абазначаюцца дрэвы, надвор'е і г. д. (працы М. І. Талстога)» [57]. Між тым можна яшчэ раз напомніць слушныя словы А. А. Рэфармацкага адносна таго, што ўпарадкаванне лексікі мовы па прадметных (пазамоўных) катэгорыях, як гэта робіцца ва ўсемагчымых тэматычных слоўніках, не мае нічога агульнага з лексічнай сістэмай мовы [58]. Таму, выкарыстоўваючы універсальны логіка-паняційны падыход пры стварэнні тэматычных, прадметных, ідэаграфічных і іншых «сістэмных» слоўнікаў, трэба ўсё ж такі разглядаць гэты падыход і вылучаныя пры яго дапамозе паняційныя семантычныя палі толькі ў якасці дапаможнага сродку пры стварэнні ўласна лінгвістычнай семантычнай класіфікацыі лексікі.

Калі ж засяродзіць сваю ўвагу на чыста лінгвістычных (лексічных) палях, то трэба прызнаць, што найбольш удалую тыпалогію такіх палёў стварыў савецкі

---

57 Щур Г. С. Теории поля в лингвистике. М., 1974. С. 76.

58 Реформатский А. А. Термин как член лексической системы языка. С. 110.

даследчык Л. М. Васільеў. Ён удала падагульніў вынікі вывучэння лінгвістычных палёў розных тыпаў, назапашаныя ў работах савецкіх і замежных даследчыкаў лексічнай семантыкі, і вылучыў тры асноўныя тыпы лінгвістычных палёў: парадыгматычныя, сінтагматычныя і комплексныя палі [59]. Шырокая вядомасць, якую набыла сярод лексіколагаў створаная Л. М. Васільевым тыпалогія семантычных палёў, патрабуе больш дэталёвага разгляду таго зместу, які надаваўся самім аўтарам кожнаму вылучанаму ім тыпу палёў. У прыватнасці, Л. М. Васільевым першаму тыпу палёў даецца наступнае азначэнне: «Да парадыгматычных палёў адносяцца самыя разнастайныя класы лексічных адзінак, тоесных па тых ці іншых сэнсавых прыметах (семах ці семантычных множніках): лексіка-семантычныя групы слоў (ЛСГ), сінонімы, антонімы, сукупнасці звязаных адно з адным значэнняў полісемантычнага слова (семантэмы), словаўтваральныя парадыгмы, часціны мовы і іх граматычныя катэгорыі» [60]. Як можна бачыць, парадыгматычныя палі ў такім іх разуменні з'яўляюцца яшчэ больш шырокімі па свайму складу моўнымі ўтварэннямі, чым нават лексічныя палі М. М. Пакроўскага, паколькі аб'ядноўваюць у сабе самыя разнастайныя моўныя адзінкі, злучаныя парадыгматычнымі адносінамі.

У сваю чаргу, наступны тып палёў атрымаў такое аўтарскае тлумачэнне: «Класы слоў, якія цесна звязваюцца адзін з адным па выкарыстанню, але ніколі не сустракаюцца ў адной сінтаксічнай пазіцыі, можна назваць сінтагматычнымі семантычнымі палямі. Першым такія палі пачаў вывучаць В. Порцыг» [61]. Вядома, што В. Порцыг яшчэ ў 1934 годзе звярнуў увагу на з'явы такога тыпу: слова *схапіць* абавязкова прадугледжвае наяўнасць у мове такога слова, як *рука, брахаць* — слова *сабака, зажмурыць* — слова *вочы* і г. д. На гэтай падставе ў лексіцы вылучаюцца, па тэрміналогіі В. Порцыга, «элементарныя семантычныя палі», ядром якіх заўсёды з'яўляецца дзеяслоў або прыметнік, паколькі звычайна

---

[59] Прыярытэт Л. М. Васільева ў стварэнні гэтай тыпалогіі палёў прызнаецца і замежнымі даследчыкамі. Гл., напрыклад: Verschueren Jef. Problems of lexical semantics // Lingua. 1981. Vol. 53, N 4. P. 327—328.

[60] Васильев Л. М. Теория семантических полей: (Обзор). С. 108.

[61] Там жа. С. 112.

гэтыя класы слоў могуць выконваць прэдыкатыўную функцыю.

Разам з тым няцяжка заўважыць, што Л. М. Васільеў разумее сінтагматычныя палі больш шырока, чым В. Порцыг,— не толькі як асобныя пары сінтагматычна звязаных слоў, але як цэлыя групы слоў з сінтагматычнымі адносінамі паміж імі. Прычым пры вылучэнні такіх сінтагматычных палёў звычайна ўлічваецца індывідуальная спалучальнасць слоў. У адпаведнасці з гэтым крытэрыем кожнае слова можа ўтвараць сваё сінтагматычнае (семантыка-сінтаксічнае) поле, гэта значыць кола слоў, з якімі гэта слова можа спалучацца, не ўступаючы ў супярэчнасць са сваёй семантычнай і граматычнай прыродай.

Нарэшце, апошняму, трэцяму, тыпу палёў Л. М. Васільевым даецца наступнае азначэнне: «Пры складанні парадыгматычных і сінтагматычных сэнсавых палёў утвараюцца комплексныя палі. Такімі палямі з'яўляюцца, напрыклад, словаўтваральныя рады, якія ўключаюць словы розных часцін мовы разам з іхнімі парадыгматычнымі карэлятамі (напрыклад, *Настаўнік/выкладчык ... вўчыць/навучае ... вучня/студэнта...*); неаднародныя па інварыянтных значэннях часцін мовы лексіка-семантычныя групы (напрыклад, *слова, маўленне ... гаварыць, апавядаць*) і да т. п. Увогуле кажучы, з комплекснымі семантычнымі палямі мы маем справу ва ўсіх тых выпадках, калі пазіцыі абстрактнай семантычнай сінтагмы запаўняюцца не асобнымі канкрэтнымі сememамі, а іхнімі парадыгматычнымі класамі (=парадыгматычнымі палямі)»[62].

На наш погляд, найбольш мэтазгодна выкарыстоўваць комплексныя семантычныя палі пры даследаванні так званай групавой спалучальнасці слоў, калі апісваецца здольнасць слоў з адной лексіка-семантычнай групы (напрыклад, назваў прамежкаў часу) спалучацца са словамі з другой лексіка-семантычнай групы (напрыклад, дзеясловамі руху): *час ідзе, бяжыць, ляціць: дзень прайшоў, прабег, праляцеў* і г. д. Разам з тым трэба адзначыць прымянімасць комплексных семантычных палёў і для вывучэння іншых моўных з'яў. Напрыклад, у якасці своеасаблівай разнавіднасці комплексных семантычных палёў можна разглядаць і так званыя асацыятыўныя

[62] Васильев Л. М. Теория семантических полей: (Обзор). С. 113.

палі, у межах якіх вакол аднаго якога-небудзь слова групуюцца ўсе звязаныя з ім парадыгматычнымі і сінтагматычнымі адносінамі словы. Іменна універсальным характарам комплексных семантычных палёў, прыгодных для вывучэння самых разнастайных груповак слоў, тлумачыцца тое, што «ў апошнія гады паяўляецца ўсё больш прац, у якіх ... робіцца спроба сумясціць аналіз парадыгматычных і сінтагматычных палёў» [63].

Калі ж дадаткова ўлічыць, што сумяшчэнне рознатыповых палёў не толькі садзейнічае паляпшэнню, удасканаленню метаду «семантычнага поля», але і пэўным чынам адпавядае анталогіі гэтай моўнай з'явы (параўн.: «Семантычныя палі ў мове могуць часткова перасякацца. Існуюць сістэмы семантычных палёў розных парадкаў (адны палі з'яўляюцца падпалямі іншых) — тэзаўрусы» [64]), то трэба, відаць, пагадзіцца з думкай М. І. Талстога, які піша: «У прынцыпе семантычнае поле неабходна ўспрымаць як прастору мнагамерную» [65]. Падобная мнагамерная прастора семантычнага поля дапускае ўключэнне ў свой склад самых разнастайных лексічных адзінак (лексіка-семантычных варыянтаў слова, мнагазначных слоў, антанімічных пар слоў, сінанімічных радоў, рознатыповых словазлучэнняў, прадметна-тэматычных груп, лексіка-семантычных груп і г. д.). Адзначаная мнагамернасць семантычнага поля добра карэліруе з мнагамернасцю ўсёй лексіка-семантычнай сістэмы мовы. Таму апісанне апошняй метадам «семантычнага поля» максімальна садзейнічае выяўленню яе анталагічных уласцівасцей і, як вынік гэтага, дае магчымасць сцвярджаць, што «паняцце лексічнага поля, бясспрэчна, з'яўляецца адным з цэнтральных паняццяў у галіне лексічнай семантыкі» [66].

У сваю чаргу, той факт, што вылучэнне розных тыпаў семантычных палёў (паняційных, лексічных, парадыгматычных, сінтагматычных, комплексных, асацыятыўных і іншых) адбываецца на пазбаўленых унутранага адзінства падставах, лішні раз сведчыць на карысць мнага-

---

[63] Щур Г. С. Теории поля в лингвистике. С. 53.

[64] Городецкий Б. Ю. К проблеме семантической типологии. С. 201.

[65] Толстой Н. И. Из опытов типологического исследования славянского словарного состава // ВЯ. 1966. № 5. С. 25.

[66] Lutzeier P. R. The notion of lexical field and its application to English nouns of financial income // Lingua. 1982. Vol. 56, N 1. P. 1.




ЧМ — часціны мовы; ЛГР — лексіка-граматычныя разрады; СП — семантычныя палі; ЛСГ — лексіка-семантычныя групы; ПТГ — прадметна-тэматычныя групы; Р — гіпанімічныя, сінанімічныя, антанімічныя і іншыя рады.

мернасці і універсальнасці гэтай моўнай з'явы (семантычнага поля), якая ўвабрала ў сябе ледзь не ўсе адметныя асаблівасці іншых лексічных груповак—сінанімічнага рада, прадметна-тэматычнай групы, лексіка-семантычнай групы і г. д. Адзначаныя якасці лексіка-семантычнага поля садзейнічаюць таму, што даследчыкі лексічнай семантыкі, замест вызначэння іерархічных адносін паміж лексічнымі групоўкамі розных тыпаў і памераў, што дазволіла б больш адэкватна ўжываць такія лексікалагічныя тэрміны, як *сінанімічны рад, прадметна-тэматычная група, лексіка-семантычная група, лексіка-семантычнае поле* і некаторыя іншыя, пры апісанні розных участкаў лексіка-семантычнай сістэмы мовы, не блытаючы іх паміж сабой, усё часцей прадстаўляюць слоўнікавы склад мовы ў выглядзе сістэмы рознаўзроўневых семантычных палёў, паміж якімі існуюць адносіны ўключэння і перасячэння.

Аднак, на наш погляд, суадносіны паміж разнастайнымі класамі слоў у межах лексіка-семантычнай сістэмы мовы лепш за ўсё прадстаўляць пры дапамозе прыведзенай вышэй агульнай схемы [67].

Як можна бачыць з вышэй прыведзенай схемы, больш агульныя класы слоў (часціны мовы, лексіка-граматычныя разрады, семантычныя палі і іншыя) уключаюць у свой склад больш дробныя класы слоў (лексіка-семантычныя і прадметна-тэматычныя групы, гіпанімічныя, сінанімічныя, антанімічныя і іншыя рады). Падобнае перакрыжаванне розных па памерах і ўнутранай складанасці класаў слоў, на наш погляд, якраз і надае слоўнікаваму складу мовы тыя рысы сістэмнасці і ўпарадкаванасці, дзякуючы якім носьбіты гэтай мовы ў выпадку неабходнасці хутка адшукваюць у сваёй памяці патрэбнае слова.

---

[67] Параўн.: Попова З. Д. Общее языкознание. С. 131.

Частка 3

# САЦЫЯЛІНГВІСТЫЧНАЯ СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛЕКСІКІ

Раздзел І

## СТЫЛІСТЫЧНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ ЛЕКСІКІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

### § 1. ПАНЯЦЦЕ СТЫЛЮ І СТЫЛІСТЫЧНЫХ СРОДКАЎ

Хоць стылістыка ўзыходзіць да вучэння старажытных мысліцеляў аб нормах правільнага маўлення, у мовазнаўстве да цяперашняга часу няма такога яе азначэння, якое б прымалася ўсімі лінгвістамі. У самым агульным плане пад стылістыкай як лінгвістычнай дысцыплінай разумеецца цяпер навука аб сродках моўнай экспрэсіі і заканамернасцях функцыяніравання мовы ў залежнасці ад мэты, сітуацыі, сферы зносін. У прадмет стылістыкі, такім чынам, уваходзіць функцыянальна-стылёвая сістэма і стылістычныя рэсурсы мовы.

Паняцце стылю вызначаецца функцыямі мовы: «Пры вылучэнні такіх важнейшых грамадскіх функцый мовы, як зносіны, паведамленне і ўздзеянне, маглі б быць у агульным плане структуры мовы размежаваны такія стылі: абыходкава-бытавы стыль (функцыя зносін); абыходкава-дзелавы, афіцыяльна-дакументальны і навуковы (функцыя паведамлення); публіцыстычны і мастацка-белетрыстычны (функцыя ўздзеяння)» [1]. Вызначэнне стылю з апорай на грамадскія функцыі мовы найбольш поўна раскрывае сутнасць гэтага паняцця як функцыянальнай разнавіднасці літаратурнай мовы.

Паколькі функцыянальны стыль фарміруецца шляхам адбору, узаемнага спалучэння і ўжывання тых моўных сродкаў, якія найлепшым чынам забяспечваюць зносіны ў адпаведнай сферы жыцця, у вызначэнні і класіфікацыі функцыянальных стыляў апора робіцца на сферы

[1] Виноградов В. В. Стилистика. Теория поэтической речи. Поэтика. М., 1963. С. 6—7.

зносін. Стыль — гэта «разнавіднасць мовы, якая замацавана ў дадзеным грамадстве традыцыяй за адной з найбольш агульных сфер сацыяльнага жыцця і часткова адрозніваецца ад іншых разнавіднасцей той жа мовы па ўсіх асноўных параметрах — лексікай, граматыкай, фанетыкай» [2]. Нягледзячы на адсутнасць адзінай класіфікацыі функцыянальных стыляў, а таксама аднастайнасці ў іх назвах, традыцыйна на аснове функцый і сфер зносін вылучаюцца афіцыяльна-дзелавы, навуковы, публіцыстычны, размоўны, мастацкі (або мастацка-белетрыстычны) стылі. Сярод іх вылучаюцца стылі вуснай мовы (размоўны стыль) і стылі пісьмовай мовы (афіцыяльна-дзелавы, навуковы, публіцыстычны і мастацка-белетрыстычны).

Вылучэнне функцыянальных стыляў становіцца магчымым толькі таму, што літаратурная мова на ўсіх узроўнях сваёй структуры мае неабходны запас стылістычных (выяўленчых, вобразных, ацэначных) сродкаў.

Да стылістычных сродкаў у галіне лексікі адносяцца, па-першае, словы абмежаванага выкарыстання, або функцыянальна адзначаныя словы. Яны ўжываюцца пераважна ў пэўнай сферы моўных зносін, якой адпавядае той ці іншы стыль. Прынятая традыцыяй да ўжывання ў пэўным стылі, такая лексіка нясе на сабе адбітак іменна гэтага стылю. Няцяжка, напрыклад, заўважыць, што такія словы, як *апартэід, кансалідацыя, камюніке, нацыяналізм, светапогляд, шавінізм,* уласцівы публіцыстычнаму стылю; *аргумент, абстракцыя, аспект, гіпотэза, значымасць, функцыя* — мове навукі; *вышэйназваны, ніжэйпадпісаны, неплацельшчык, спадчыннік* — дзелавой мове; *разява, сцягнуць* 'украсці', *электрычка* — размоўнаму стылю і г. д. Такія словы называюцца функцыянальна-стылістычна афарбаванымі, або стылістычна маркіраванымі.

Функцыянальна-стылістычная афарбоўка слова носіць знешні характар і не ўключаецца ў яго семантычную структуру. У адносінах да зместу стылістычная маркіраванасць можа разглядацца толькі як дадатковая інфармацыя аб дапушчальнасці і мэтазгоднасці ўжывання слова ў пэўных камунікатыўных умовах, аб замацаванасці яго за пэўным функцыянальным стылем.

---

[2] Степанов Ю. С. Стиль // Лингвистический энциклопедический словарь. М., 1990. С. 494.

Да стылістычных рэсурсаў у межах лексікі адносяцца, па-другое, словы, проціпастаўленыя стылістычна нейтральнаму фонду тым, што ў іх семантыцы акрамя прадметна-паняційнага значэння маюцца канататыўныя кампаненты (суназначэнні), у якіх адлюстроўваюцца эмацыянальныя і ацэначныя адносіны людзей да таго, аб чым ідзе гаворка. Такія словы выконваюць у мове экспрэсіўную функцыю: яны з'яўляюцца сродкам выражэння пачуццяў, эмоцый, суб'ектыўнай ацэнкі чалавекам навакольнага свету і складаюць асобны пласт т. зв. экспрэсіўнай лексікі (ад лац. *expressio* — выражэнне, англ. *expressive* — выразны).

Экспрэсіўна афарбаваныя словы могуць разглядацца як другасныя ўтварэнні, сінанімічныя адпаведным лексічным адзінкам стылістычна нейтральнага фонду. Маркіраваныя кампаненты сінанімічнай пары ўступаюць з нейтральнымі словамі ў своеасаблівыя прыватыўныя апазіцыі, пры якіх стылістычна адзначаны кампанент нясе больш інфармацыі, чым нейтральны; параўн.: *конь—кляча* ('худы, заезджаны конь' + разм. пагардл.), *многа—навалам* ('вельмі многа' + разм.), *іграць—брынкаць* ('няўмела іграць' + разм. асудж.), *хадзіць—швэндацца* ('хадзіць без мэты' + разм.), *геройства—доблесць* ('геройства, дастойнае славы' + высок.) і інш. Гэтыя дадатковыя маркіруючыя звесткі і складаюць у семантычнай структуры слова яе канататыўны элемент.

Такім чынам, у межах функцыянальна маркіраванай лексікі прынята размяжоўваць два тыпы слоў: уласна стылістычна маркіраваную лексіку і лексіку канататыўную. Разам з тым, як паказваюць прыведзеныя прыклады, у многіх выпадках абодва тыпы маркіраванасці (стылістычнай і канататыўнай) могуць сумяшчацца ў адных і тых жа словах. Узаемасувязь і спецыфіка стылістычна і канататыўна маркіраваных слоў больш падрабязна будзе паказана ў наступных параграфах, прысвечаных характарыстыцы стыляў і стылістычных сродкаў лексікі.

## § 2. КАРОТКАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА СТЫЛЯЎ

### *Афіцыяльна-дзелавы стыль*

Мова дзяржаўных актаў, пастаноў, законаў, статутаў, інструкцый, міжнародных пагадненняў, нарэшце, усёй дакументацыі ўстаноў і арганізацый, а таксама асабістых

заяў, дакладных, давераnасцей і г. д. мае агульныя рысы, якія абумоўлены функцыяніраваннем у адміністрацыйна-прававой дзейнасці. Тэксты, рэалізаваныя ў сферы гэтай камунікатыўнай дзейнасці, адносяцца да афіцыяльна-дзелавога стылю. Моўныя асаблівасці гэтага стылю, у тым ліку і лексіка-семантычныя, знаходзяцца ў прамой залежнасці ад жанру і зместу дзелавога дакумента, абумоўлены яго задачамі і патрабаваннямі — выразіць волю заканадаўца, прадпісаць паводзіны, давесці што-небудзь да ведама каго-небудзь. Да агульных стылявых рыс афіцыяльна-дзелавых дакументаў адносіцца дакладнасць, афіцыяльнасць, аб'ектыўнасць, недвухсэнсоўнасць, лагічнасць, высокая ступень стандартызацыі, паўната выказвання, лаканічнасць, адсутнасць вобразнасці і эмацыянальнасці.

Вызначальная роля ў дзелавой мове адводзіцца мове законаў, якая не без падстаў названа «моцнай» разнавіднасцю афіцыяльна-дзелавога стылю[3].

Мова законаў — правільная літаратурная мова без якіх бы там ні было адхіленняў ад агульналітаратурных норм, прычым беларуская мова законаў вызначаецца меншай колькасцю спецыфічных, абмежаваных толькі прававымі адносінамі лексем і выразаў у параўнанні з рускай. Параўн.: руск. спец. *пресечение* — бел. *спыненне;* руск. афіц. *взыскать* — бел. *спагнаць;* руск. кніжн. *влечь* — бел. *цягнуць.*

Спецыфіка мовы заканадаўчых дакументаў праяўляецца ў тым, што пры агульнай функцыі афіцыяльна-дзелавога стылю — паведамляльнай — тут пераважае функцыя моўнага выражэння абавязковасці, волевыяўлення, прадпісання, што адбіваецца на мэтанакіраваным адборы лексічных, граматычных, сінтаксічных сродкаў.

Стылістычная спецыфіка афіцыяльна-дзелавога стылю звязваецца з лексічнымі асаблівасцямі, паколькі лексічны склад мае першаступеннае значэнне для выражэння прававых катэгорый, паняццяў і розных характэрных заканадаўчых палажэнняў. Адсюль — шырокае ўжыванне тэрміналогіі — прававой, юрыдычнай, грамадска-палітычнай. Лексічны склад мовы законаў характарызуецца

[3] Вольская Н. С. Дифференциальные признаки официально-делового стиля речи на синтаксическом уровне: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. М., 1966. С. 9.

асаблівай семантыка-стылістычнай класіфікацыяй у цэлым, спецыфікай лексіка-тэматычных разрадаў.

На тэматычнай прадстаўленасці лексікі адбіваецца функцыя рэгулявання грамадскіх адносін людзей, характэрная для заканадаўчых актаў. Юрыдычная тэрміналогія служыць для перадачы прававых катэгорый і паняццяў (*права, дыскрэдытацыя, касацыя, апеляцыя, юрысдыкцыя*). Для мовы законаў характэрныя тэрміны, тэрміналагізаваныя словы і словазлучэнні са значэннямі: 'сацыяльна шкодныя дзеянні' (*злачынства, правапарушэнне, супрацьпраўнае дзеянне*), 'меры крымінальнага пакарання' (*пазбаўленне волі, канфіскацыя, выдварэнне*), 'віды адміністрацыйнага спагнання' (*вымова, строгая вымова, заўвага, штраф*), 'прававыя дзеянні работнікаў міліцыі і службовых асоб' (*арышт, затрыманне, прывод, узяцце пад варту, меры стрымання*), 'прычыненая шкода' (*калецтва, крадзеж, растрата, цялесныя пашкоджанні, знявечанне*), 'акалічнасці, якія змякчаюць або абцяжарваюць адказнасць' (*хваляванне, раскаянне, стан ап'янення*).

У мове права, якая з'яўляецца сродкам стварэння прававых норм і правіл абавязковых паводзін людзей, адзначаецца высокая частотнасць лексем з семантычным адценнем прымусовасці: *падлягаць, цягнуць (за сабой), прыцягнуць (да адказнасці), забараняць; нагляд, пастанова, парадак, правілы, мера, рашэнне, патрэба, кантроль; неадкладна, недапушчальна; незаконны, несвоечасовы, прымусовы.* Значэнне прымусовасці, катэгарычнасці надае дзеясловам адмоўе «не»: *не можа, не дапускаецца, не разглядаецца, не церпіць адкладу.* Значэнне пастаянства і абавязковасці выканання маюць характэрныя для мовы законаў дзеясловы залежнага стану: *караецца* (па закону), *прызнаецца, вядзецца, касуецца, плаціцца.* Напр.: *Мерапрыемствы па забеспячэнню захаванасці помнікаў гісторыі і культуры пры правядзенні будаўнічых, меліярацыйных, дарожных і іншых работ арганізуюцца і каардынуюцца* (г. зн. павінны арганізоўвацца і каардынавацца.— *Г. В.*) *адпаведнымі дзяржаўнымі органамі аховы помнікаў* (Закон РБ аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры).

Спецыфічнымі для мовы законаў з'яўляюцца аддзеяслоўныя назоўнікі і прыметнікі адмоўнага значэння (*бяздзеянне, неаказанне, незахаванне, неплацёж, непрад-*

*стаўленне; незаконны, супрацьпраўны, безгаспадарчы, самавольны, злосны)*. Лексіцы мовы законаў наогул характэрна выкарыстанне слоў з проціластаўленымі значэннямі, паколькі права прыводзіць да агульнага юрыдычнага множніка процілегласці *(правы—абавязкі, ісцец—адказчык, даўжнік—крэдытор, давернік—паверанны* і інш.).

Да групы тэрмінаў судаводства адносяцца таксама назвы асоб, правы і абавязкі якіх рэгламентуюцца правам *(адчужальнік, давернік, завяшчальнік, спадчыннік)*, назвы работнікаў суда *(суддзя, адвакат, народны засядацель, пракурор)*, удзельнікаў судовага або следчага разбору *(ісцец, сведка, паднаглядны, падсудны, скаржнік, спаганяльнік)*.

Акрамя прававой і справаводчай тэрміналогіі ў афіцыяльна-прававой мове шырока прадстаўлена грамадска-палітычная і іншая навуковая тэрміналогія. У прыватнасці, гэта лексіка, звязаная з вытворчай дзейнасцю прадпрыемстваў, арганізацый, асобных работнікаў *(заданне, прадукцыйнасць, нарматыў, тарыф, сабекошт, прыбытак, дакументацыя, штаты)*. Асобна можна вылучыць назвы працэсаў, патрабуючых дакументальнага афармлення *(выкананне, кіраванне, браніраванне, звальненне, фінансаванне, падпарадкаванне)*. Сустракаюцца і спецыфічна бухгалтарскія тэрміны: *каштарыс, рахунак, дэлькрэдэрэ*. З тэматычнай накіраванасцю законаў, галіновай сферай іх дзеяння цесна звязана ўжыванне спецыяльнай навуковай тэрміналогіі. Ужыванне такіх «ведамасных» тэрмінаў не парушае прынцыпаў агульнай зразумеласці законаў, паколькі яны разлічаны на спецыялістаў адпаведнай галіны.

Тэрміналагізаванасць — адна з вызначальных рыс афіцыяльна-дзелавой мовы. Тэрміны, не маючы эмацыянальнасці і вобразнасці, абстрагаваныя ад адзінкавага і выпадковага, тут маюць канструктыўнае значэнне, з'яўляюцца неабходнымі лексічнымі сродкамі.

Лексічную аснову афіцыяльна-дзелавой мовы, як і іншых функцыянальных разнавіднасцей, складаюць нейтральныя агульнаўжывальныя лексічныя сродкі. Для ілюстрацыі тэматычнай разнастайнасці прывядзём некаторыя групы, прадстаўленыя ў мове законаў: з'явы прыроды, раслінны і жывёльны свет, прадметы побыту і прадукты чалавечай дзейнасці, збудаванні, свойская жывёла, пасяленні, стан і пачуцці чалавека і інш.

Канкрэтная лексіка ў мове законаў мае сваю асаблівасць: ужываючыся ў слоўнікавым значэнні, яна выражае агульныя паняцці, а не канкрэтныя прадметы. Таму сярод агульнаўжывальнай лексікі найбольш характэрныя родавыя назвы, якія таксама абагульняюць.

Афіцыяльна-дзелавы стыль мае не толькі спецыфічныя рысы ў лексіцы, сувязь усіх моўных элементаў у ім семантычна і граматычна мэтанакіраваная і мэтазгодная. Адной з найбольш яркіх, спецыфічных рыс граматычнай арганізацыі тэксту ў афіцыяльна-дзелавой сферы з'яўляецца безасабовы характар маўлення, які праяўляецца ў значэннях і функцыяніраванні дзеясловаў і асабовых займеннікаў: у адсутнасці дзеясловаў 1-й і 2-й асоб, у пераважанні залежных канструкцый, у высокай частотнасці інфінітыва, маючага ў загадах, пастановах значэнне імператыўнасці. У мове законаў, Канстытуцыі пераважаюць дзеясловы незакончанага трывання, якое носіць тут характар абавязковасці, пастаянства: *Калегіі адвакатаў аказваюць бясплатна юрыдычную дапамогу: істцам у судах першай інстанцыі пры вядзенні ... працоўных спраў* (Палажэнне аб адвакатуры); *Копія пастановы на працягу трох дзён уручаецца або высылаецца асобе, у адносінах да якой яна вынесена* (Кодэкс адміністрацыйны).

У параўнанні з іншымі стылямі афіцыяльна-дзелавы вызначаецца большай колькасцю назоўнікаў, асабліва аддзеяслоўных, ужывальнасцю дзеепрыметнікаў незалежнага стану на *-уч-(-юч-), -ач-(-яч-)* і залежнага на *-ем-, -ім-*.

У цэлым мова законаў мае свае лексіка-семантычныя асаблівасці:

1. Агульнанародны характар асноўнага лексічнага складу; адсутнасць дыялектызмаў і жарганізмаў.

2. Ужыванне агульнавядомых лексем у якасці тэрмінаў: *заказчык, карыстальнік, навучэнец, пакупнік, распарадчык, скупшчык* і інш.

3. Матываванасць судаводчых і прававых тэрмінаў агульналітаратурнымі лексемамі забяспечвае іх зразумеласць: *адказчык←адказваць, залогадавальнік←даваць залог, залогатрымальнік←трымаць залог, адчужальнік←адчужаць, davernік←даверыць, ліквідатар←ліквідаваць, завяшчальнік←завяшчаць, страхавальнік←страхаваць, пазычальнік←пазычаць.*

4. Наяўнасць апісальных выразаў — заменнікаў тэр-

мінаў і тэрміналагізаваных словазлучэнняў, якія забяспечваюць большую канкрэтызацыю, зразумеласць і паўнату фармуліровак: *асобы, якія не дасягнулі васемнаццаці гадоў; асобы, якія не дасягнулі ў момант выканання злачынства васемнаццаці гадоў.*

5. Наяўнасць сінаніміі наступных тыпаў: аднаслоўныя тэрміны і словазлучэнні (*непаўналетнія—непаўналетнія асобы—непаўналетнія дзеці; пацярпеўшы—пацярпеўшая асоба*), словазлучэнні і разгорнутыя словазлучэнні (*прадстаўнікі ўлады—прадстаўнікі дзяржаўнай улады*), канструктыўна розныя словазлучэнні і лексічныя сінонімы (*іншаземныя грамадзяне—замежныя грамадзяне, падапечны—апякаемы, усынавіцель—усынаўляльнік*). Сінанімічнасць не з'яўляецца адметнай рысай мовы законаў, як і афіцыяльна-дзелавога стылю ў цэлым, з-за недапушчальнасці двухсэнсоўнага разумення тэксту закона, якое можа ўзнікнуць на аснове сінанімічнасці. Многія сінонімы літаратурнай мовы ў нарматыўных актах набываюць спецыфічныя адценні, напр.: *асобы, узнагароджаныя дзяржаўнымі ўзнагародамі* і *асобы, удастоеныя дзяржаўных узнагарод* не сінанімічныя, паколькі ўжыванне першага выразу апраўдана неабходнасцю падкрэсліць факт рэальнага атрымання або ўручэння ўзнагароды. Некаторыя сінонімы адносяцца да ліку хранала-гічных (*слабавумны* і *разумова непаўнацэнны*).

6. Адносна невялікая колькасць вузкаспецыяльных тэрмінаў, цяжкіх для разумення (*контрагент, камітэнт, камісіянер*).

7. Асаблівасць лексічнай парадыгматыкі — субстантывацыя, лексікалізацыя, тэрміналагізацыя марфалагічных форм: а) найбольш рэгулярным з'яўляецца ўтварэнне назоўнік←прыметнік (*малалетнія, падсудны*), назоўнік←дзеепрыметнік незал. пр. часу (*нападаўшы, пацярпеўшы*), назоўнік←дзеепрым. незал. цяп. часу (*ваеннаслужачы, старшынствуючы*), назоўнік←дзеепрым. зал. пр. часу (*абвінавачаны, арыштаваны*), назоўнік← дзеепрым. зал. цяп. часу (*абвінавачваемы*); б) лексікалізацыя форм множнага ліку некаторых назоўнікаў або субстантываваных прыметнікаў, што з'яўляецца адной з стылеўтваральных рыс (*інваліды, састарэлыя*); в) тэрміналагізацыя форм мужчынскага роду (*адказчык, завяшчальнік*).

Агульназразумеласць, даступнасць, дакладнасць, недвухсэнсоўнасць мовы заканадаўчых актаў вымагаецца

асаблівасцю іх функцыяніравання ў грамадстве. Дакладнасць і адназначнасць забяспечваюцца тым, што мова законаў мае за аснову навуковую прававую тэрміналогію, строга акрэсленую ў спецыяльнай даведачнай літаратуры і ў саміх законах.

## Навуковы стыль

Функцыянальны стыль літаратурнай мовы, які абслугоўвае сферу навукі, называецца навуковым.

Мэтай навукі з'яўляецца растлумачэнне сутнасці з'яў, перадача аб'ектыўнай інфармацыі аб прыродзе, чалавеку, грамадстве. Навука грунтуецца на навуковым мысленні, спецыфіка якога ў параўнанні з эстэтычным, мастацкім — у абстрагаванасці ад канкрэтных фактаў, з'яў. «Навуковая мова ўяўляе сабой сукупнасць сродкаў выражэння, пры дапамозе якіх чалавечы розум імкнецца апісаць сапраўды існуючае або даказаць ісціну»[4].

Самымі агульнымі спецыфічнымі рысамі навуковага стылю, якія вынікаюць з паняційнасці і строгай лагічнасці мыслення, з'яўляюцца абстрактнасць, абагульненая падача матэрыялу, лагічнасць, дакладнасць у вызначэнні паняццяў, выразнасць выкладання.

Лексічны склад мовы навукі характарызуецца ўжываннем слоў, уласцівых толькі дадзенаму стылю, наяўнасцю спецыфічнай лексікі — тэрміналогіі, пераважаннем слоў з адцягненым значэннем, вялікай колькасцю інтэрнацыяналізмаў. Міжстылёвая лексіка, ужываючыся ва ўсіх стылях, у кожным мае свае заканамернасці, якія праяўляюцца ў частотнасці ўжывання, у семантычных асаблівасцях, сінанімічным складзе і г. д. У навуковым стылі часта ўжываюцца стылістычна нейтральныя словы, нехарактэрныя для іншых стыляў (*абумовіць, выражаць, з'яўляцца, суадносіцца, уяўляць сабой*). Розная суаднесенасць асобных значэнняў у семантычнай структуры слова ў навуковым стылі і іншых функцыянальных стылях адбіваецца на сістэмных adносінах слоў, стварае новыя сінанімічныя рады: *аналізаваць, разбіраць, разглядаць, праводзіць назіранні; пытанне, праблема, прадмет* з'яўляюцца сінонімамі, відаць, толькі ў навуковым стылі. Поліфункцыянальнасць слоў прыводзіць да семантычнай мнагазначнасці. *Асяроддзе, атам,*

[4] Балли Ш. Французская стилистика. М., 1961. С. 144.

*вада, золата, сіла, ядро* з'яўляюцца звычайнымі словамі ў мове мастацкай літаратуры, у размоўным стылі; у навуковай літаратуры яны тэрміны і маюць сваю функцыянальную нагрузку. Такое шырокаўжывальнае слова, як *кніга*, у навуковай літаратуры па эканоміцы будзе тэрмінам з пэўнай дэфініцыяй: *Кніга ёсць спосаб арганізацыі твора літаратуры, музыкі, выяўленчага мастацтва ў «выданне» (кантэксту твора ў кантэкст выдання, тэксту твора ў тэкст выдання) — працэс і часовы прамежкавы вынік гэтай арганізацыі ў іх дыялектычным адзінстве* (Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 5. С. 55).

Тэрміналогія з'яўляецца найбольш спецыфічнай часткай лексічнага складу навуковых тэкстаў. Вузкаспецыяльных тэрмінаў у мове бясконцае мноства — адпаведна з неабмежаванай колькасцю аб'ектаў навуковай дзейнасці чалавека. Іменна вузкаспецыяльныя тэрміны выводзяць мову навукі за межы літаратурнай мовы. Асноўны масіў вузкаспецыяльнай тэрміналогіі не ўключаецца ў агульнамоўныя слоўнікі.

Тэрміны могуць быць «чыстымі» і «змешанымі», або паўтэрмінамі, у якіх спецыяльнае значэнне перамяжоўваецца з неспецыяльнымі. Паўтэрміны могуць ужывацца ў іншых стылях мовы ў нетэрміналагічным значэнні і ва ўсіх навуках (*рух, ціск, націск, маса, рэчыва, жыццё, напружанне, супрацьйленне*) або ва ўсіх стылях мовы і радзе навук з рознай ступенню тэрміналагізацыі (*газ, кісларод, вадарод, азот, лад, паветра, цела, святло, паверхня, энергія, метал, соль, арганізм, тэмпература*).

Агульнанавуковая лексіка складае самы значны пласт слоўніка навуковага стылю. Гэта тыя словы, пры дапамозе якіх апісваюцца, характарызуюцца з'явы і працэсы ў самых розных навуках. Працэсы набыцця ведаў, напрыклад, у беларускіх навуковых тэкстах прадстаўлены лексемамі *заўважаць, даказваць, з'яўляцца, адпавядаць, прасочвацца, назірацца, эвалюцыяніраваць, дамініраваць; сімвалізаваць, канцэнтраваць, мець адносіны, азначаць, тлумачыць, атаясамліваць; дэфармаваць, абумоўліваць, вынікаць, высвятляць, разлічваць, імкнуцца, прапанаваць, прадказваць, прадугледжваць, прадбачыць, прадвызначаць, планаваць* і інш. У пераважнай большасці гэтыя словы мнагазначныя і поліфункцыянальныя, але ў навуковых тэкстах іх ужыванне абмежавана адным або двума значэннямі.

Характэрнай асаблівасцю агульнанавуковай лексікі з пункту гледжання яе паходжання з'яўляецца шырокае ўжыванне інтэрнацыяналізмаў, што адлюстроўвае тэндэнцыю да міжнароднай стандартызацыі навукі і забяспечвае разуменне тэксту. Інтэрнацыянальныя словы, уласцівыя агульнанавуковаму ўжытку, з'яўляюцца пераважна словамі лацінскага і грэчаскага паходжання: *аб'ект, альтэрнатыва, апрабацыя, аргумент, асіміляцыя, дыферэнцыяцыя; аналіз, гіпотэза, дыялектыка.*

Частка агульнанавуковай лексікі блізкая да агульнаўжывальнай і становіцца такой у ходзе грамадскага пашырэння навуковых ведаў, росту адукаванасці грамадства: *аб'ект, аналогія, аспект, праблема, уласцівасць.* Безумоўна, выразнай, строгай мяжы паміж тэрміналагічным, агульнанавуковым і агульнаўжывальным пластамі лексікі няма. Яна можа мяняцца не толькі з рухам лексікі ў часе, але можа залежаць ад галіны навукі, метадалагічнага падыходу.

Лексіка навуковага стылю ўвогуле эмацыянальна нейтральная, адсутнічае тут і вобразнае ўжыванне слоў, хоць вобразнасць, перанос значэнняў часам могуць выкарыстоўвацца пры стварэнні тэрміна; параўн.: *падэшва, пальцы, свечы.* Пераноснае ўжыванне, у выніку якога нейтральная лексіка можа стаць эмацыянальна афарбаванай, не ўласціва навуковаму стылю. Гэта не выключае поўнасцю ўжыванне слоў у пераносным, нават метафарычным значэнні, асабліва ў навукова-папулярнай літаратуры. Індывідуальная ацэнка, дапушчаная ў навуковым стылі, ніяк не з'яўляецца арганічнай уласцівасцю стылю. Эмацыянальная ацэнка, выражаная, напрыклад, эпітэтамі *хлуслівы, ілжывы, паклёпніцкі, зламысны* і пад., не толькі не правамерная, а нават шкодная для навуковага стылю тым, што эмацыянальнасцю тут прыкрываецца адсутнасць сапраўднага навуковага аналізу.

Прынята лічыць, што эмацыянальная афарбоўка ўласціва тэрмінам такіх тэрміналагічных сістэм, як палітыка, філасофія, рэлігія, якія не могуць быць цалкам нейтральнымі. Наогул, экспрэсіўнасць навуковага маўлення ў яго доказнасці, і гэтым яна адрозніваецца ад экспрэсіўнасці ў іншых стылях.

У мове навукі ацэнка, як правіла, выражаецца ў адрозненне ад мастацкага, публіцыстычнага, размоўнага стыляў асобнымі стылістычна нейтральнымі словамі.

Тут амаль не ўжываюцца словы, у семантыцы якіх рэчыўная сема аб'яднана з ацэначнай. Ацэначныя словы тут не толькі пазбаўлены экспрэсіі, але і катэгарычнасці: *дадатны, адмоўны, дакладны, недакладны, не зусім праваменны, некалькі спрошчана, недастаткова распрацаваны.* Эмацыянальна афарбаваныя ацэнкі тыпу *шчасліва спалучаюцца, тонкае даследаванне, брудныя паклёпнікі, подлыя выдумшчыкі* могуць сустракацца ў працах па грамадазнаўству, у вуснай навуковай мове.

Сэнсавая дакладнасць і адназначнасць — тыповыя рысы мовы навукі. Мнагазначныя словы ўжываюцца ў навуковых тэкстах пераважна ў адным значэнні, не характэрным для іншых функцыянальных стыляў. З 8 слоўнікавых значэнняў дзеяслова *адкрыць* для навуковых тэкстаў найбольш характэрна 6-е: 'заўважыць, знайсці ў выніку экспедыцыі або навуковага даследавання нешта зусім новае або даўно забытае'; з 6 значэнняў дзеяслова *лічыць* — 6-е: 'расцэньваць якім-н. чынам, успрымаць як-н. // Рабіць якія-н. заключэнні, прызнаваць. // Думаць, меркаваць, мецъ думку наконт чаго-н.' Прыведзеныя прыклады выяўляюць яшчэ адну асаблівасць агульнанавуковай лексікі — неўжывальнасць у канкрэтных значэннях. Заўважана, што найбольш адцягненыя па свайму зместу тэксты шырэй выкарыстоўваюць моўныя адзінкі з абагульнена-адцягненым значэннем: абстрактныя назоўнікі; канкрэтныя назоўнікі, якія выражаюць агульныя паняцці; інфінітыў; цяперашні і будучы час дзеяслова са значэннем пазачасавасці; 1-я асоба мн. л. у значэнні аўтарскага «я» і інш. Для навуковага стылю характэрна ўжыванне назваў родавых, абагульняючых паняццяў або канкрэтных назоўнікаў у родавым значэнні. Для лексікі навуковага стылю характэрны і словазлучэнні абагульняючага значэння: *крыніцы лакальнага забруджвання* (пад імі разумеюцца ЦЭЦ, МТЗ, чыгунка і інш.), *аб'екты мэтавага прызначэння* (санаторыі, бальніцы, школы), *прамысловыя цэнтры, горныя работы, прадукты духоўнай дзейнасці, даведачны апарат твора, касцявы матэрыял* (косці чэрапа, канечнасцей, пазваночніка) і інш.

У мове навукі шырока выкарыстоўваюцца скарачэнні і абрэвіятуры *(ДП — дыферэнцыяльная прымета, ЛСГ — лексіка-семантычная група, ККД — каэфіцыент карыснага дзеяння)*, сімвалічныя і формульныя абазначэнні, напрыклад у хіміі, фізіцы.

Характэрнай прыметай навуковага маўлення з'яўляецца наяўнасць асаблівых слоў і зваротаў, з дапамогай якіх выражаецца лагічная сувязь выказвання: *у сувязі з ..., у выніку ..., такім чынам, нягледзячы на ..., адсюль вынікае ...*

У цэлым навуковы стыль характарызуецца гамагеннай, без іншастылёвых элементаў лексікай.

## *Публіцыстычны стыль*

Функцыянальную разнавіднасць літаратурнай мовы, якая выкарыстоўваецца ў газетах, грамадска-палітычных часопісах, у агітацыйна-прапагандысцкіх выступленнях, у сродках масавай камунікацыі, прынята называць публіцыстычным стылем. Асноўнымі функцыямі публіцыстычнага стылю з'яўляюцца інфармацыйная — паведамленне пра навіны, падзеі, з'явы грамадскага жыцця, і агітацыйная — фарміраванне грамадскай думкі, праводзенне ў жыццё пэўнай палітыкі і ідэалогіі. Публіцыстычныя творы ўздзейнічаюць на розум чытачоў або слухачоў шляхам лагічнага доказу і экспрэсіўнага пераканання, а на пачуцці — праз эмацыянальнасць і вобразнасць маўлення. Інакш кажучы, для мовы публіцыстыкі характэрна арганічнае спалучэнне лагічнага і вобразнага пачаткаў, адзінства лагічных доказаў, разважанняў і мастацка-вобразнай нагляднасці. Фактычна мова газет адлюстроўвае асноўныя асаблівасці публіцыстычнага стылю ў цэлым, за выключэннем жанру мастацкай публіцыстыкі, якая больш набліжана да мастацкага стылю.

Функцыямі публіцыстычнага стылю абумоўліваецца і характар яго лексічнага складу. Выкарыстанне і размеркаванне лексікі матывуецца перш за ўсё тэмай твора, а стылеўтваральную ролю іграе прагматычнае выкарыстанне слоў, тых семантычных асаблівасцей, якія дазваляюць выконваць ім асноўную сацыяльную функцыю. Двухкампанентнасць значэння (спалучэнне сігніфікатыўнага аспекту значэння з прагматычным) і складае спецыфіку словаўжывання ў публіцыстычным стылі.

Інфармацыйнай функцыі газеты служыць міжстылёвая лексіка, у якой найбольш высокай частотнасцю вылучаюцца словы, што абазначаюць месца і час апісаных падзей, імёны, прозвішчы, геаграфічныя назвы. Актыўна выкарыстоўваюцца тут складаныя (*птушка-*

*фабрыка, цеплатраса)*, складанаскарочаныя словы *(аблміжкалгасбуд, карпункт, усянавуч)*, ініцыяльныя абрэвіятуры *(ГЭС, ДАІ, МУС)*.

Самы значны лексічны пласт публіцыстыкі складае грамадска-палітычная лексіка. Маючы па сваёй сутнасці тэрміналагічны характар, грамадска-палітычная лексіка газет вызначаецца агульназразумеласцю і агульнадаступнасцю. Па тэматычнай прымеце ў гэту катэгорыю слоў уваходзяць назвы палітычных, сацыяльна-эканамічных, філасофскіх напрамкаў, класавых, партыйных, ідэалагічных паняццяў, грамадска-палітычных падзей і інш. Класавы, партыйны характар ідэалогіі прыводзіць да развіцця ў грамадска-палітычнай лексіцы сацыяльнай ацэнкі. У семантыцы многіх з гэтых тэрмінаў адзначаюцца пазітыўна- і негатыўнаацэначныя элементы. Адны з грамадска-палітычных слоў маюць ацэначны кампанент у сваёй семантычнай структуры і таму захоўваюць ацэначнасць і па-за кантэкстам. У другіх ацэначнасць праяўляецца толькі ў пэўных кантэкстах. Пазітыўную ацэнку маюць тэрміны *прагрэс, інтэрнацыяналізм, свабода, дэмакратыя, публічнасць*; адмоўную — *апартунізм, стагнацыя, экстрэмізм, апартэід, генацыд, нацыст, інцыдэнт, кліка, рэнегат*. Ёсць і група грамадска-палітычных тэрмінаў, напрыклад эканамічных, нейтральных у плане ацэнкі *(вытворчасць, вартасць, прадукцыйнасць працы, дзеяч, дэкрэт, мандат)*.

Публіцыстычны стыль — стыль уздзеяння, і любая інфармацыя выконвае гэту функцыю праз ацэнку інфармацыйных падзей. Катэгорыя ацэначнасці ўласціва ўсім стылям, але ў рознай ступені і праяўляецца ў іх па-рознаму. Усеагульны, адкрыты характар яна мае толькі ў публіцыстычным. Прычым для публіцыстыкі характэрна не толькі адмоўнае стаўленне да варожага, чужога, у ёй выразна акрэсліваюцца і пазітыўныя адносіны да станоўчага, перадавога. Ацэначная лексіка як важны, колькасна значны і прадуктыўны пласт, што садзейнічае выкананню агітацыйна-прапагандысцкай функцыі, уваходзіць у спецыфічна публіцыстычную лексіку. Ацэначнасць слова можа быць абсалютнай, незалежнай ад кантэксту, уласцівай ізаляванаму слову і кантэкстуальнай. Ацэначнымі, і пазітыўна і негатыўна, могуць быць словы, ацэначныя па свайму асноўнаму значэнню, як *выдатны — заганны, перадавы — адсталы*. Ацэначнасць уваходзіць канататыўнай семай у семантычны аб'ём

вялікай групы лексікі: *дружны, дастойны, пераканаўчы, сумленны, трывалы, зневажальны, раўнадушны, безадказны, безгаспадарчы, непатрабавальны.* Ацэначнасць уласціва словам розных граматычных катэгорый: *перашкаходзец, ініцыятыва; па-дзелавому, нястомна; плёткі, вымыслы, глухата* (адміністрацыйная); *скампраметаваць, злоўжываць.* Разрад ацэначнай лексікі няспынна папаўняецца за кошт пераноснага ўжывання слоў: *сталы, свежы, нястомны, папяровая* (работа), *эпідэмічны* (маштаб), *засядальніцкая (мітусня), папяровая (карусель).* Ацэначная лексіка газет убірае разнаяўныя ацэначныя сродкі (*прагарэць, пабузаваць, паскудны, гультайка, нягоднік, шарлатан, навар*), спецыяльную лексіку (*стабільны, фатальны, сурагат, пластылінавы* (характар, душа), воінскую, кніжную лексіку (*ратны, натхнёны, бязгрэшны*). Многа ацэначных слоў, пераважна негатыўнай ацэнкі, дала медыцынская лексіка: *хвароба, галюцынацыя, сімптом, блізарукасць, зараза, паталогія.* З ваеннай лексікі ў газетную ацэначную, часцей пазітыўную, увайшлі такія словы, як *авангард, аванпост, зарад, мабілізацыя, стратэгія.* З лексікі сваяцкіх адносін увайшлі ў ацэначную лексіку *брацкі, матчын, родны, кроўны, мацi, сястра* — з пазітыўнай ацэнкай, *дзедаўскі* (спосаб), *кумаўство* — з негатыўнай.

Пазітыўнаацэначная лексіка мае вялікую патэнцыяльную сілу ацэначнасці і часта ўжываецца з процілеглай ацэнкай, якая вынікае з канкрэтнага акружэння і мае асаблівую экспрэсію: *«выхаванцы» звалак, «кадры», накіраваныя з прыёмніка-размеркавальніка. Які ж запас «брані» і прабіўной сілы адначасова трэба мець, каб штурхаць наперад прагрэс* (Звязда. 27.VI 1986. С. 4). Станоўчая кантэкстуальная ацэнка *прабіўной сілы* і адмоўная *брані* ўзнікае пад уплывам агульнай высокай сацыяльнай ацэнкі апісанага актывіста.

Частае ўжыванне слоў у пэўным сацыяльна афарбаваным кантэксце прыводзіць да набыцця імі ацэначнага адцення, аднымі — станоўчага, другімі — адмоўнага. Пры апісанні міралюбівых, блізкіх нам, адпаведных дэмакратычнай, агульначалавечай маралі дзеянняў ужываюцца словы *мітынг, форум, суд, спрэчкі, візіт, актывіст, цікавасць, выпадак,* а ў інфармацыі аб ідэалагічна варожых або амаральных падзеях — адпаведна *зборышча, судзілішча, дэбаты, ваяж, дзялок, ажыятаж, інцыдэнт.*

Асноўнай стылёвай рысай, якая вызначае своеасаблівы каларыт публіцыстычнай мовы, з'яўляецца такая яе якасць, як выразнасць, экспрэсіўнасць выказвання. Экспрэсіўнасць выяўляецца перш за ўсё ў адкрытай ацэначнасці маўлення: у дадатных ацэнках дасягненняў нашай рэчаіснасці, у адмоўных ацэнках нашых пралікаў, недахопаў, у палемічных артыкулах. Гэта рыса выражаецца ў такіх якасна-ацэначных назоўніках, як *баявітасць, грунтоўнасць, дзелавітасць, ініцыятыва, энтузіязм, інтэнсіфікацыя,* асабліва ў якасных прыметніках, прыметніках найвышэйшай ступені параўнання: *выдатны, высокі, дастойны, зладжаны, магутны, надзейны, самаадданы, ударны, найвышэйшы, найлепшы, высокаэканамічны.* Тут жа можна назваць рад устойлівых спалучэнняў: *ударная праца, выдатныя паказчыкі, высокія тэмпы, гарачае адабрэнне, працоўная напружанасць, вялікая работа, велізарнае значэнне, на належным узроўні,* якія, пераходзячы з артыкула ў артыкул, страчваюць свой намінатыўны сэнс і ўспрымаюцца як экспрэсіўна-ацэначныя. Вобразнае ўжыванне мае адкрыты ацэначны характар: *Дрэва беларускай савецкай паэзіі расло хутка і пладаносіла шчодра. Быццам прадчувала яно, што неўзабаве карані будуць падсечаны, жыватворныя галіны зрэзаны* (ЛіМ. 5.II 1988. С. 5). Не пазбаўлены экспрэсіі такія негатыўнаацэначныя назоўнікі, як *амаральнасць, ашуканства, безыдэйнасць, безгаспадарчасць, злоўжыванне, пазёрства, параднасць, пустазвонства, цякучка.*

Як адзначаюць даследчыкі, спецыфічнай публіцыстычнай лексікі ў рускай мове нямнога. Не больш яе і ў беларускай. Газетызмамі, напрыклад, можна лічыць тыя моўныя з'явы і адзінкі, шырокаўжывальныя іменна ў гэтай сферы і мала або амаль неўжывальныя ў іншых маўленчых сферах, дзе яны захоўваюць газетнасць: *народаўладдзе, усямерна, выкананне, перавыкананне, няўхільна, адзінадушна, першачарговы, суайчыннік,* словазлучэнні *падрастаючая змена (пакаленне), скоўваць ініцыятыву, факты безгаспадарчасці, паставіць задачы, выяўленыя недахопы, дапусціць пралікі ў рабоце.*

Адной з лексічных асаблівасцей публіцыстычнага стылю з'яўляецца стандартызаванасць — наяўнасць гатовых формул (штампаў). Можна выдзеліць шэраг устойлівых словазлучэнняў, уласцівых публікацыям на палітычныя, вытворчыя і іншыя тэмы: *асвоіць выпуск,*

*перакрыць план, вытрымаць экзамен на сталасць. ліквідаваць запазычанасць, умацаванне адстаючых участкаў, сур'ёзныя недахопы, няўхільна праводзіць у жыццё, унесці дастойны ўклад, далейшае ўдасканаленне, панесці заслужанае пакаранне, апераджальнымі тэмпамі, дапусціць сур'ёзныя пралікі ў рабоце, знізіць адказнасць і патрабавальнасць, прыняць меры па ліквідацыі выяўленых недахопаў (дапушчанага адставання),* выразы кніжнага паходжання: *пальма першынства, прапісныя ісціны, паставіць кропку.* Такія і падобныя словазлучэнні, з'яўляючыся гатовым наборам газетных стандартаў, дапамагаюць аўтарам газетных, публіцыстычных матэрыялаў напісаць іх за кароткі час. Акрамя таго, стандартызаваныя сродкі даюць магчымасць хутчэй зразумець сэнс аўтарскага выказвання масавым чытачом. «Мова газет перапоўнена штампамі — ды інакш не можа быць: цяжка пісаць хутка і правільна»[5]. Штамп — гэта сцёрты шматразовым ужываннем выраз, які спачатку меў экспрэсіўны характар, быў яркім, свежым, выразным, потым страціў сваю арыгінальнасць. Такім можна лічыць, напрыклад, выраз *цяжкасці росту,* значэнне якога стала расплывістым, дыфузным. Заштампоўваюцца *працаваць з агеньчыкам, на поўны голас,* зусім нядаўна ўвайшоўшы ва ўжытак выраз *маленькая радзіма.* «Імкненне некаторых журналістаў абавязкова, ва ўсіх выпадках, гаварыць эмацыянальна і вобразна непазбежна прыводзіць да ўзнікнення штампаў, і чытач, наглытаўшыся «вобразных» трафарэтаў накшталт чорнага або белага золата, пачынае сумаваць па звычайным, простым, канкрэтным слове»[6].

Зварот публіцыстычных твораў, газеты да шырокага кола чытачоў прадвызначае такую важную яе асаблівасць, як агульнадаступнасць, пазбяганне незразумелых, вузкаспецыяльных слоў. Але найбольш поўнае забеспячэнне выканання функцыі інфармацыі вымушае выкарыстоўваць незразумелыя тэрміны новых паняццяў, экзатызмы, прафесіяналізмы; функцыя ўздзеяння часта звязана з выкарыстаннем аказіяналізмаў, нелітаратурнай лексікі, размоўных і нават прастамоўных слоў. Калі аказіяналізмы звычайна агульназразумелыя, то новыя тэрміны растлумачваюцца ў тэксце (*лізін — адзін*

[5] Балли Ш. Французская стилистика. С. 109.
[6] Цікоцкі М. Я. Стылістыка публіцыстычных жанраў. Мн., 1971. С. 75.

*з важнейшых элементаў бялку; этнічныя рэзервацыі — бантустаны; «рэліктавы гуманоід» — чалавекападобная істота; палтаргейст, або ў перакладзе з нямецкай мовы «шумны дух»).*

Мова публіцыстыкі вызначаецца злабадзённасцю, насычана словамі і выразамі, якія адлюстроўваюць сённяшняе жыццё, сённяшні дзень, надзённыя патрэбы і інтарэсы. Газеты за 1986—1988 гг. напоўнены тэрміналогіяй актуальных паняццяў: *перабудова, самафінансаванне, гаспадарчы разлік, публічнасць (галоснасць), дэмакратызацыя, чалавечы фактар, новае палітычнае мысленне, прамы провад, прамы эфір, жансаветы, барацьба з паператворчасцю (з бюракратыяй, з прыпіскамі), каманднa-аўтарытарныя метады кіравання; эйфарыя, канструктыўныя метады, рассяляньванне сялян; маскультура, брэйкеры, хэві-метал.*

Некаторыя словы трывала набываюць у газеце новыя значэнні, якія могуць стаць агульнаўжывальнымі. Спецыфічна публіцыстычным у слове *месцы* з'яўляецца значэнне 'перыферыя, правінцыя': *весткі з месц; інструктарскі састаў дрэнна ведаў, што адбываецца на месцах.* Новы змест набывае слова *дыялог* 'узаемны абмен думкамі, ідэямі, меркаваннямі': *паглыбленне прадуктыўнага дыялога і ўзаемадзеяння з заходнееўрапейскімі краінамі.* Апошнія перадачы радыё, матэрыялы друку сведчаць аб ужыванні назоўніка *кантэкст* у новым значэнні 'агульная накіраванасць, дух выказаных дзе-н. думак, разважанняў': *У кантэксце надзённай гаворкі пра мову, якая вядзецца ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісе «Полымя» і іншых выданнях, мэтазгодна вярнуцца да творчай спадчыны пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры* (ЛіМ. 11.III 1988. С. 6); Новае значэнне набывае і слова *экватар* 'найвышэйшы момант напружання ў развіцці падзей': *Вось і наблізіўся да свайго «экватара» футбольны сезон-86, поўны гарачых напружаных паядынкаў, мужнай і самаадданай барацьбы* (Звязда. 27.VI 1986. С. 3).

Словаўжыванне ў мове газет вызначаецца навізной значэння слова. Новыя значэнні, узнікшыя ў мове газет, развіліся на аснове расшыранай спалучальнасці слоў: *Вось так — неўпрыкмет, спакваля, паступова — дэфармуецца надзвычай падатлівая, незагартаваная, амаль* *п л а с т ы л і н а в а я* *ў юным узросце* *с в я д о м а с ц ь.* *Так наспяваюць тыя трывожныя, небяспечныя перакосы*

*ў маральных крытэрыях, калі ў* *р а н г  п р ы г а ж о с ц і* *ўзводзіцца мішура, разбэшчанасць пачынае лічыцца сучаснасцю, чэрствасць і жорсткасць — дзелавітасцю і мужнасцю, а падман і зладзейства — «уменнем жыць»* (Звязда. 25.I 1986. С. 4). Расшырэнне лексічнай спалучальнасці слоў прыводзіць да размытасці яго семантычных меж, але навізна, незвычайнасць лексічнай спалучальнасці сваёй галоўнай мэтай мае функцыю ўздзеяння: *папяровая багна, кіруючае крэсла, калаўрот быту, рэстараннае Ватэрлоо, рэдкі букет здольнасцей і заслуг, кавалерыйскі наскок на праблему.*

Газетным публікацыям уласціва метанімічнае ўжыванне такіх слоў, як *вобласць, горад, раён, рэспубліка, завод, самалёт,* для іх уласных назваў характэрна адухаўленне. *За адзінаццаць месяцаў планы па пастаўках прадукцыі не выканалі ўсе вобласці, многія гарады, раёны, рэспубліка ў цэлым* (Звязда. 16.XII 1987. С. 1); *На 2-м Беларускім фронце штурмавікі пад камандаваннем палкоўніка Смалавіка зрабілі паспяховы налёт на буйныя танказборачныя майстэрні праціўніка. У гэты ж час знішчальнікі пад камандаваннем палкоўніка Волкава блакіравалі нямецкі аэрадром у раёне горада Цэханаў* (Звязда. 1944. № 10).

Публіцыстыцы ўласціва і персаніфікацыя: *Значыць, трэба яшчэ і яшчэ раз падумаць, усё ўзважыць і прыняць адпаведнае рашэнне ў духу часу — рашэнне на стагоддзі, прадыктаванае голасам сумлення насуперак* *ш э п т у  а м б і ц ы й,  з в о н у  м у н д з і р н ы х  р э г а л і й* (ЛіМ. 20.XI 1987. С. 12).

Характэрнай вызначальнай рысай публіцыстычнага стылю з'яўляецца прагматычнае ўжыванне слоў. Прагматызм у словаўжыванні прыводзіць да ўтварэння своеасаблівых прагматычных тэрмінаў з адмоўным значэннем на базе ўласных імёнаў (*квіслінгі, берты, марты, фрыцы, сцяпаны крыніцкія і іх «абы ціха»* і інш.).

### *Размоўны стыль*

У сістэме функцыянальных стыляў беларуская літаратурная мова мае і стыль размоўны, або гутарковы. Як падказвае сама назва, ён проціпастаўляецца іншым, кніжным стылям перш за ўсё вуснай формай свайго існавання, хоць можа праяўляцца і ў некаторых пісьмовых жанрах (у запісках прыватнага зместу, пісьмах,

дзённіках і пад.). Уласнамоўныя асаблівасці, якімі адрозніваецца размоўны стыль ад кніжных, абумоўліваюцца пераважна нелінгвістычнымі фактарамі, найбольш важнымі сярод якіх з'яўляюцца: а) непасрэдны кантакт удзельнікаў размовы, адсюль важнасць інтанацыйнага гучання, жэстаў і мімікі як дадатковых сродкаў перадачы інфармацыі; б) натуральнасць, прастата і непасрэднасць адносін паміж субяседнікамі; в) непадрыхтаванасць, спантаннасць маўлення; г) тэматычная неабмежаванасць.

Сфера функцыяніравання размоўнага стылю беларускай літаратурнай мовы абмежавана сферай сям'і, сяброўскіх зносін, інтымных і дзелавых размоў у асяроддзі беларускамоўнай інтэлігенцыі — пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, настаўнікаў-моваведаў і інш. Рашаючай умовай развіцця размоўнай функцыі літаратурнай мовы з'яўляецца агульная сацыяльна-гістарычная абстаноўка. На станаўленне беларускага літаратурнага маўлення вялікі ўплыў зрабіла і робіць мастацкая літаратура, таму ў якасці мадэлі гутарковага стылю можа быць узята яго адлюстраванне ў мастацкай літаратуры.

Размоўны стыль існуе пераважна ў вуснай форме, але гэта не дае падстаў для атаясамлівання яго з вусным варыянтам мовы, вусным маўленнем. Вуснае маўленне не проста шырэйшая з'ява, чым размоўны стыль. Паколькі апошні можа быць прадстаўлены і ў пісьмах, нататках, дзённіках, імправізацыях, то гэтай сваёй часткай ён не можа ўваходзіць у вуснае маўленне. У сваю чаргу, вусны варыянт мовы можа быць характэрны для навуковага стылю (лекцыя, даклад), афіцыяльна-дзелавога (выступленне суддзі на судзе), публіцыстычнага (прамова на сходзе, мітынгу), але ён будзе мець у цэлым кніжны характар, што не выключае ў ім элементаў размоўнага стылю, ужываных, напрыклад, з мэтай актывізацыі ўвагі слухачоў[7]. Размоўны стыль, такім чынам, з аднаго боку, проціпастаўляецца кніжным стылям, з другога, як літаратурны ён супрацьстаіць дыялектнай гутарковай мове.

У апошнія тры дзесяцігоддзі[8] незвычайна вырасла

---

[7] Каўрус А. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1987. С. 25.

[8] Гутарковае маўленне стала вывучацца ў якасці аднаго з функцыянальных стыляў літаратурнай мовы пасля дыскусіі па пытаннях стылістыкі, якое ў 1954—1955 гг. праходзіла на старонках часопіса «Вопросы языкознания».

цікавасць да пытанняў гутарковай мовы, асабліва сярод рускіх моваведаў[9]. Сутнасць гутарковай мовы вызначаецца лінгвістамі па-рознаму, але ўвогуле паняцце «гутарковая мова» ў рускім мовазнаўстве замацавалася за літаратурнымі формамі свабодных, натуральных зносін. Беларускія лінгвісты таксама вылучаюць у літаратурнай мове размоўны (або размоўна-бытавы, гутарковы) стыль, разумеючы пад ім адзін з функцыянальных стыляў.

Гутарковы стыль беларускай мовы знайшоў сваё адлюстраванне ў мастацкай рэалістычнай літаратуры — творах празаікаў і драматургаў. Безумоўна, «мастацкае адлюстраванне стылю не дае адэкватнай карціны яго сапраўдных уласцівасцей, але без сумнення дасць іх добрую мадэль»[10]. Між тым не ўсё з літаратурнай гутарковай мовы можа быць фатаграфічна адлюстравана ў творы. Значная частка структурных асаблівасцей вуснага маўлення — суаднесенасць рэплік у часе, гукавы тэмбравы бок, інтанацыя — у мастацкай літаратуры не перадаецца[11]. Поўнасцю нельга ўзнавіць лексічны склад і сінтаксічную будову вуснага маўлення з прычыны прынцыповай розніцы стылеўтваральнага фактару размоўнага стылю і мастацкага: вуснае маўленне — непадрыхтаванае, спантаннае, а мастацкая творчасць заўсёды мэтанакіраваная. І ўсё ж у дыялогу мастацкага твора лексічнымі сродкамі ў значнай меры перадаюцца такія асаблівасці вуснага маўлення, як непасрэдны кантакт субяседнікаў, адносіны да субяседніка, псіхічны стан гаворачага. Таму лічыцца магчымым вывучаць лексічны склад размоўнага стылю па літаратурных творах, безумоўна, са скідкай на інтуіцыю, суб'ектыўнасць.

У лексіцы размоўнага стылю вылучаюцца агульна-

---

9 Гл.: Лаптева О. А. Изучение русской разговорной речи в отечественном языкознании последних лет // ВЯ. 1967. № 1. С. 129; Разговорная речь в системе функциональных стилей русского литературного языка: Лексика / Под ред. О. Б. Сиротининой. Саратов. 1983; Земская Е. А. Русская разговорная речь: Проспект. М., 1968; Русская разговорная речь. М., 1973; Земская Е. А., Китайгородская М. В., Ширяев Е. Н. Русская разговорная речь: Общие вопросы. Словообразование. Синтаксис. М., 1981; Русская разговорная речь: Фонетика. Морфология. Лексика. Жест. М., 1983 і інш.

10 Головин Б. Н. Вопросы социальной дифференциации языка // Вопросы социальной лингвистики. Л., 1960. С. 355.

11 Виноградов В. В. Стилистика. Теория поэтической речи. Поэтика. С. 17; Ковтун Л. С. Лексические нормы русского языка и разговорная речь // Современная русская лексикология. Л., 1966. С. 11.

моўны нейтральны пласт і размоўна афарбаваны — лексемы, якія з'яўляюцца неактуальнымі намінацыямі ў афіцыяльных зносінах і актуалізуюцца ў размоўна-бытавых, размоўныя сінонімы нейтральных намінацый, «няслоўнікавыя» лексічныя сродкі, якія выкарыстоўваюцца ў жывой гутарцы. Размоўна афарбаваная лексіка складае ўсяго 7—10% ад агульнай колькасці ўжываных слоў.

Паколькі размоўны стыль звязаны з канкрэтным спосабам мыслення, у яго лексічным складзе пераважае канкрэтная лексіка, а кніжныя словы, тэрміны, абстрактная лексіка ўжываюцца абмежавана. Для прыкладу прывядзём урывак з прыватнага пісьма І. Мележа да жонкі: *«Дарагая жоначка! Вот ужо трэці дзень я на новым месцы. Домік, у якім я цяпер жыву і пішу гэтыя радкі да цябе, маленькі прыгожы дамок, стаіць недалёка ад узбярэжжа Чорнага мора. Шум хваляў, які не ўціхае ні ўдзень ні ўночы, даходзіць сюды, урываецца ў вокны майго пакойчыка, як акампанемент гэтым радкам... Дамок наш стаіць у прыгожым месцы, паміж вялікага саду... З шамоўкай у нас няважна, гатовяць добра, смачна, але — малавата. Думаю купіць хлеба і падкрапляцца мінскім капчоным салам»* (Мележ І. Зб. тв.: У 10 т. Т. 10. Мн., 1985. С. 19).

У лісце апісваецца месца адпачынку пісьменніка, і большасць назоўнікаў ужываецца ў сваім канкрэтным значэнні: *домік, узбярэжжа, Чорнае мора, хвалі, вуліца, сад, вокны, пакойчык, дрэвы, кіпарысы, ігрушы, інжыр, дарожка, гара, ложак, кніжкі, бібліятэка, часопіс, вокладка, хлеб, сала, вінаград.* Назоўнікаў з абстрактным значэннем нямнога, ды і яны ў тэксце канкрэтызаваныя: *трэці дзень, шум хваляў, у прыгожым месцы, мае папярэднікі.* Пачуцці аўтара пісьма выказваюцца эмацыянальна афарбаванымі словамі *жоначка, шчочкі, носікі, роцікі, губкі, лобікі.* Дзеяслоў дыфузнага значэння *накінуўся* таксама выражае настрой аўтара. Суб'ектыўная ацэнка мясціны адпачынку выражаецца ацэначнымі прыметнікамі *прыгожы, вялікі,* назоўнікамі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі *дамок, пакойчык, дарожка.*

З пункту погляду ўжывальнасці ўсе словы пісьма, за рэдкім выключэннем, агульнаўжывальныя. Да кніжных можна аднесці *акампанемент,* да стылёва зніжаных, спецыфічна размоўных — *шамоўка* — няслоўнікавы эк-

эквівалент да *яда*. Дзеясловы *накінуўся, нагружуся, падкрапляцца* маюць экспрэсіўны характар.

Ужыванне кніжнай лексікі ў размоўным стылі залежыць ад узроўню і інтэлектуальнасці гаворачых. У гутарках на грамадска-палітычныя тэмы, на тэмы навукі, мастацтва, правоў, суда не могуць не выкарыстоўвацца кніжныя словы. Досыць часта гучаць у сучасных размовах такія словы, як *праблема, прынцып, плюралізм, дэмакратыя, перспектыва, дасягненні, кангламерат, канструктыўны, праецыраваць* і інш. Але ўжыванне падобных слоў у размоўным стылі павінна быць строга матывавана. Празмернае захапленне кніжнымі словамі характарызуе людзей, якія нядаўна далучыліся да літаратурнай мовы, недастаткова авалодалі яе багаццямі. Яшчэ Л. У. Шчэрба перасцерагаў: «Усякае не да месца са стылістычнага пункту погляду ўжыванне слоў разбурае стылістычную структуру мовы, а мова з разбуранай стылістычнай структурай тое самае, што цалкам разладжаны музычны інструмент, з той толькі розніцай, што інструмент можна неадкладна наладзіць, а стылістычная структура мовы ствараецца стагоддзямі»[12].

Прывядзём прыклад удалай стылізацыі захаплення кніжнымі словамі, газетнымі штампамі гарадскім жыхаром, нядаўнім выхадцам з вёскі, мова якога выдае яго невысокую агульную культуру: — *Узяў бы ты, Васілёк, касу ды ўспомніў сваю маладосць,— а? — Марная трата энергіі,— раўнадушна сказаў сын.— Навукова даказана, што дзікарослая паша са сваёй руціннай тэхналогіяй і абмежаванымі параметрамі не забяспечвае збалансаванай структуры кармавога рацыёну.— Сынок, карова не цікавіцца структурай і параметрамі,— адказаў бацька.— Ёй сена трэба* (С. Паўлаў. Прагнатыка).

Размоўны стыль вызначаецца таксама шырокай магчымасцю ўтварэння новых слоў і аказіяналізмаў. Мяжой ужывання наватвораў з'яўляецца незразумеласць для субяседнікаў. *Аступеніцца, акандыдаціцца, раскладаць пасьянс* 'працаваць над картатэкай' зразумелыя і ўжывальныя толькі ў асяроддзі навуковых супрацоўнікаў. Новыя словы ствараюцца па мадэлях літаратурных слоў або па аналогіі: *цяперашчына — мінуўшчына, вачысты — вушасты, павыаэробвацца — павыкручвацца, раўнадуш-*

---

[12] Щерба Л. В. Литературный язык и пути его развития // Избранные работы по русскому языку. М., 1957. С. 139.

*нік — нягоднік, тэбээмавец* (член ТБМ) — *бамавец* і інш.

Размоўны стыль мае вялікія багацці спецыфічнай лексікі. У першую чаргу гэта — словы з канкрэтна-бытавой семантыкай (*абноскі, абмусолак, акорак, кладоўка, накрыўка, насоўка, сценка; аблапіць, абнасіцца, гакнуць, зарабіцца, заспацца, прыбрахаць, сноўдацца* і г. д.). З эмацыянальнасцю выказвання ў размоўным стылі непасрэдна звязана наяўнасць эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі (*галубок, сакатушка; гаварыльня, галадранец, гаргара, дамок, дакуменцік, драндулет, поскудзь; крамзоліць, пілікаць, прасвістаць* (грошы) і г. д. Амаль усе падобныя лексемы ўжываюцца як ацэначныя. Ацэначныя кампаненты слова значна мяняюць яго першапачатковую семантыку. Так, пра добра і прыгожа адрамантаваную кватэру гавораць — *лялька!*, пра нязграбную жанчыну — *карова.* У непасрэдным выказванні значна актывізуецца суб'ектыўная ацэнка. Ацэначнае значэнне можа нарадзіцца ў кантэксце і быць аказіянальным, кансітуатыўным: Анна Паўлаўна. *Гэта шло за краля такая?* Гарлахвацкі. *Так, дробязь... сакратар, Зіна Зёлкіна.* Анна Паўлаўна. *Нешта ты паглядаеш на гэту дробязь, як кот на сала!* (К. Крапіва. Хто смяецца апошні).

Толькі гутарковай мове ўласціва ўжыванне выклічнікаў са значэннем аднакратнага дзеяння: *бразь, гоп, гак, дрыг, коўзь, крамзель, круць, пырсь, цап* і інш. — *Я глядзеў направа, а з левага боку — плюх на шыю нешта халоднае* (Хв. Жычка. Паспелі суніцы); Якім. *Ты аконца адчыні, лахі пад пахі ды скакель з хаты ў сад, як пятух!* Паўлінка. *Гэта ты, як пятух, а я, як...* Якім. *Як курыца.* Паўлінка. *Не курыца, а як зязюлька.* Якім. *Як зязюлька, праз акно фырр! а пятух цап, а поп крапілам пырсь! а там ...* Паўлінка (*смеючыся*). *А там зноў фырр!* (Я. Купала. Паўлінка).

У вусным маўленні ў межах размоўнага стылю дапускаецца абмежаванае ўжыванне дыялектных, прастамоўных, груба-фамільярных слоў тыпу *дрыхнуць* (груб.), *жраць* (груб.), *нарыціцца* (дыял.), *трыбушыць* (дыял.), *ідыёт* (лаянк.), *падлюга* (лаянк.).

У размоўным маўленні частыя дэрываты з эмацыянальна-ацэначнымі суфіксамі (*дамок, кватэрка, носічак, насяра, пылюка, даміна*), з суфіксам адзінкавасці *-ін(а)*, які часам надае значэнне фамільярнасці (*адзе-*

*жына, бульбіна, газеціна, беламорына, паперына, паперчына, лісціна)*, дэрываты з суфіксам *-к-* рознага значэння (*сталоўка, ленінка, купалаўка, чыталка; мазілка, свісцёлка; дакторка, камунараўка*).

Заўважана, што «выкарыстанне экспрэсіўных суфіксаў індывідуальна абмежавана: адны ўжываюць іх даволі шырока і нават «без патрэбы»; у маўленні іншых эмацыянальнасць ствараецца толькі інтанацыйнымі сродкамі, экспрэсіўных суфіксаў амаль няма»[13].

Размоўны стыль характарызуецца высокай актыўнасцю спецыфічнай для яго фразеалогіі і стандартнымі выразамі, таму што «чалавеку ў працэсе паўсядзённых зносін няма часу для асобай моўнай творчасці, і ён у пераважнай большасці выпадкаў карыстаецца гатовымі фразамі»[14]. У час эмацыянальнага ўзбуджэння маўленне становіцца больш «аўтаматызаваным». Пры дапамозе ідыяматычных выразаў гаворачы ацэньвае сітуацыю (*нашага палку прыбыло; развязалі языкі; выскачыў, як Піліп з канапель; зняўшы галаву, па валасах не плачуць*), паводзіны асобнага чалавека (*гуляць ў хованкі; паплакаць у камізэльку; душу выматаў; аж бокі рвалі; глядзець у корань; рыбак рыбака бачыць здаляка; чыя б карова мычала, а чыя б і памаўчала; губа не дура!*), характары і знешні выгляд людзей (*стрэляны верабей; ні богу свечка, ні чорту качарга; здаровы як бык; падобны як свіння на лебедзя*). Размоўнаму стылю ўласцівы і перабудаваныя, згодна з сітуацыяй, фразеалагізмы (*яму і чаркі ў рукі*)[15].

Спецыфічнай лексічнай рысай размоўнага стылю з'яўляецца таксама частае ўжыванне незнамянальных слоў, якія ў функцыі пабочных могуць перадаваць пэўныя сэнсавыя ацэнкі, а могуць толькі запаўняць вымушаныя ў спантанным маўленні паўзы. Вялікую ролю адыгрываюць часціцы, выклічнікі, часам злучнікі — *а, але, але ж, дык жа*. Часта яны ўводзяць рэплікі, з іх пачынаецца адказ. У вусным непадрыхтаваным маўленні частыя часціцы *ну, вось, значыць, значыцца, гэта, гэта самае*, якія ўласцівы амаль усім гаворачым. Ёсць і індывідуальныя словы, звычайныя ў мове пэўных

[13] Сиротинина О. Б. Современная разговорная речь и ее особенности. М., 1974. С. 60.

[14] Щерба Л. В. Литературный язык и пути его развития // Избранные работы по русскому языку. С. 131.

[15] Усе прыклады ўзяты з камедыі К. Крапівы «Мілы чалавек».

асоб. Успомнім стылізацыю такой з'явы ў мове героя ў камедыі Янкі Купалы «Паўлінка» (*собственно, вось-цо-да, тудэма-сюдэма*).

Асаблівасцю лексікі размоўнага стылю з'яўляюцца значныя сінанімічныя рады размоўных слоў з дамініруючым нейтральным. Да дзеяслова *запэцкаць*, звычайнага ў сваім першасным значэнні ў бытавой і вытворчай сферы, магчымы сінонімы, насычаныя рознай сілы экспрэсіяй: *забрудзіць, забрындаць, завэдзгаць, заквэцаць, залапаць, заляпаць, замурзаць, замэдзгаць, запаганіць, зарабіць*. Акрамя таго, могуць быць дададзены дыялектныя сінонімы *закеўзаць, зацухмоліць* і інш. У гутарцы чалавек можа *разануць, бухнуць, загнуць, змарозіць, зарапартавацца, зарвацца* і г. д.

У моваазнаўчай літаратуры ёсць дзве думкі адносна лексічнай сінаніміі ў рускім размоўным маўленні. Адны лічаць, што тут сінанімія прадстаўлена найбольш поўна, другія,— што мінімальна. Да апошняга меркавання прыйшлі даследчыкі з Саратаўскага універсітэта: «найбольшая колькасць сінонімаў ужываецца ў навукова-папулярнай літаратуры, найменшая — у РР (гутарковай мове.— *Г. В.*) ...сінанімічныя рады ў межах маўлення адной асобы практычна адсутнічаюць, у межах адной размовы сустракаюцца рэдка, выяўляюцца толькі ва ўсім масіве запісаных размоў» [16]. Гэты вывад ставіцца пад сумненне маскоўскімі лінгвістамі, якія бачаць у сінаніміі адзін са сродкаў экспрэсіі, эмацыянальнага ўзмацнення выказвання: «Экспрэсіўнасць у словах выразных зношваецца асабліва хутка, і мова пастаянна ўцягвае новыя і новыя сродкі, новыя адзінкі ў вобласці эфектыўнай лексікі. Для гутарковай мовы надзвычай характэрны сінонімы названага вышэй тыпу, часта кантэкставыя, ad hoc, аказіянальныя, грубыя, вульгарныя, але часта так неабходныя гаворачым» [17]. Экспрэсіўна-ацэначныя намінацыі асобы ўтвараюць мнагачленныя сінанімічныя рады. Пра галоўнага героя камедыі К. Крапівы «Мілы чалавек» персанажы гавораць: *мілы чалавек — аспід — блатняк — блатмайстар — бочка пакасцей — васіліск — жулік — агідны павук — прахвост — пузыр — агідная туша — свіння — шэльма*. Ча-

---

[16] Разговорная речь в системе функциональных стилей... С. 20.
[17] Русская разговорная речь: Фонетика. Морфология. Лексика. Жест. С. 156.

стыя ў размоўным стылі і кантэкставыя, або сітуацыйныя, сінонімы: Я з в а. *А тут знайшоўся ёлап...* П р а м е н н ы *(пакрыўджана). Якая ж ты свіння!* Я з в а. *Выбачай! Знайшоўся высакародны юнак, цудоўны паэт, які сілаю свайго натхнёнага слова вырваў няшчаснае стварэнне з лап гэтага агіднага павука. З паразіта зрабіў чалавека, карыснага для грамадства* (К. Крапіва. Мілы чалавек). У апісанай сцэне *ёлап* сінанімічны да *высакародны юнак, цудоўны паэт; няшчаснае стварэнне* — да *паразіт.*

Да рыс размоўнага стылю, абумоўленых экстралінгвістычна, адносіцца дастатковая свабода намінацый, напрыклад няпоўная назва. У размоўнай сітуацыі можа адбывацца эліптызацыя тэрміналагічных і наменклатурных словазлучэнняў тыпу *лаўровы ліст→ліст (Ці кладзеш ты ў боршч ліст?), магазін № 20→дваццаты (У дваццатым усё купіла), праспект Скарыны — праспект (Там, на рагу Сурганава і праспекта), дзіцячы садок→садок.* Для вуснага маўлення характэрна таксама абрэвіяцыя тэрміналагічных словазлучэнняў: *дыямат, матан, белмова.* Да намінацый, пашыраных у размоўным маўленні і вядомых агульналітаратурнай мове, адносяцца ў першую чаргу кандэнсаты *(згушчонка, двухходоўка, трохходоўка* — шахматная задача на 2(3) хады, *«Чырвонка» — «Чырвоная змена»),* субстантываты — *гарачанькае, салёненькае, купейны, ранішні.* Са спантаннасцю гутарковай мовы звязаны намінацыі спецыфічнай структуры, т. зв. апісальнай намінацыі: *Дай чым напісаць; Ці ёсць на чым запісаць; Няма чым завастрыць.*

Калі ў кадыфікаванай літаратурнай мове намінацыя падпарадкоўваецца пэўным заканамернасцям і зразумела па-за канкрэтнай сітуацыяй, то намінатыўныя ўтварэнні ў размоўным стылі могуць быць і толькі сітуатыўнымі, зразумелымі для пэўнага кола людзей: *шэф, кіраўнік, Чырвоная Шапачка, Тамарын пірог* (пірог, рэцэпт якога прынесла Тамара).

Проціластаўлены кніжным стылям размоўны стыль, такім чынам, уключае ў сябе міжстылёвыя лексічныя сродкі і спецыфічна афарбаваныя — размоўную і прастамоўную лексіку.

Мастацкі, або мастацка-белетрыстычны, стыль займае асаблівае месца сярод іншых функцыянальных стыляў. Перш за ўсё яго вылучае эстэтычная функцыя, якой падпарадкоўваюцца ўсе моўныя сродкі літаратурна-мастацкіх твораў. Эстэтычная значымасць моўных элементаў не можа разглядацца ў адрыве ад ідэйна-кампазіцыйных задач твора, ад мовы таго асяроддзя, якое апісваецца, ад індывідуальных рыс і мастацкага майстэрства аўтара і іншых экстралінгвістычных параметраў. Камунікатыўная функцыя выступае ў мове мастацкай літаратуры ў значна трансфарміраваным выглядзе: інфармацыя, якую нясе мастацкі тэкст, не так адпавядае рэальнасці, як служыць для стварэння мастацкага вобраза гэтай рэальнасці.

Калі афіцыяльна-дзелавы, навуковы і публіцыстычны стылі проціпастаўлены ў пэўнай ступені адзін аднаму і ўсе яны «пераламляюцца» ў размоўным, то мастацкі стыль узвышаецца над імі «як эстэтычны экстракт з абедзвюх разнавіднасцей» (кніжнай і размоўнай) і супрацьстаіць усёй мове [18].

У мове мастацкай літаратуры асаблівае месца займае праблема адбору моўных элементаў, іх сінкрэтычны характар. «Калі навуковая, афіцыяльна-дзелавая і публіцыстычная мовы рэгулююцца нормамі агульналітаратурнай мовы, ...мова мастацкай літаратуры ўключае ў сябе такія сродкі і спосабы выражэння, ацэнка якіх з пункту гледжання норм літаратурнай мовы яўна недастатковая» [19]. У мову мастацкай літаратуры прыцягваюцца сродкі нелітаратурнай мовы, а спецыфічныя рысы гутарковай мовы асабліва. Грунтуючыся на гэтым, многія лінгвісты (Л. Ю. Максімаў, Н. А. Мяшчэрскі, К. А. Панфілаў, Д. М. Шмялёў, Ю. А. Бельчыкаў, В. П. Мурат і інш.) сярод функцыянальных стыляў не называюць мастацкага, вылучаючы такую моўную катэгорыю, як мова мастацкай літаратуры.

Мастацкая літаратура з'яўляецца адным з найбольшых дасягненняў моўнай практыкі, гэта — самая бага-

---

[18] Денисов П. Н., Костомаров В. Г. Стилистическая дифференциация лексики и проблема разговорной речи // Вопросы учебной лексикографии. М., 1969. С. 108.

[19] Шмелев Д. Н. Русский язык в его функциональных разновидностях. М., 1977. С. 34.

тая моўная разнавіднасць сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Мастацкая літаратура — тая сфера, дзе беларуская літаратурная мова жыве паўнакроўным жыццём, тая лабараторыя, праз якую праходзяць сотні абласных, тэрытарыяльна абмежаваных слоў, моўных наватвораў, сацыяльна і прафесіянальна абмежаваных слоў і выразаў.

Не аспрэчваючы погляду, які склаўся ў стылістыцы беларускай мовы на мастацкую літаратуру як на вядучы і вызначальны стыль[20], мы лічым, што мова мастацкай літаратуры патрабуе асобнага разгляду, што ўжо часткова зроблена ў спецыяльным манаграфічным даследаванні[21]. Гэта першы стыль беларускай мовы з доўгай гісторыяй фарміравання, са сваімі, як і ў іншых мовах, мэтамі і сродкамі, якія ў большасці стаяць асобна ад сродкаў дзелавога і навуковага стыляў. Вызначальнай рысай мастацкага стылю з'яўляецца спалучэнне камунікатыўнай і эстэтычнай функцый.

Мова мастацкай літаратуры можа характарызавацца як сістэма моўных сродкаў, розных у розныя гістарычныя эпохі і ў розных літаратурна-мастацкіх плынях, але якія заўсёды даюць магчымасць стварыць уяўны свет у мастацкіх творах. У цэлым мове мастацкай літаратуры ўласцівы такія рысы, як канкрэтна-пачуццёвая вобразнасць, эстэтычная матываванасць выкарыстаных сродкаў, своеасаблівы спосаб адлюстравання рэчаіснасці і інш., падпарадкаваныя мастацкай функцыі. У літаратурна-мастацкім маўленні выкарыстоўваюцца моўныя сродкі ўсіх стыляў, аднак тут яны маюць зусім іншае функцыянальнае прызначэнне эстэтычнага ўздзеяння. У мастацкім творы кожны сродак другіх стыляў матывуецца як зместам твора, так і мастацкай мэтазгоднасцю, таму разнастайная гама стылёвых фарбаў у мастацкім стылі ўспрымаецца як мастацка-эстэтычная неабходнасць. У мастацкіх творах таксама дастаткова шырока выкарыстоўваюцца сродкі дыялектнай мовы і прастамоўя, якія стаяць на мяжы літаратурнай мовы. Акрамя таго, мова мастацкіх твораў — сфера ўтварэння аўтарскіх неалагізмаў і аказіяналізмаў. Напрыклад, у

---

[20] Шакун Л. М. Да характарыстыкі функцыянальных стыляў беларускай літаратурнай мовы // Культура мовы журналіста. Вып. 1. Мн., 1982. С. 10—11.

[21] Абабурка М. В. Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры. Мн., 1987.

паэзіі: *Сіпнуць празарліўцы, талмачы. Ад* *с л о в а а б-в а л а ў* *глухнуць форумы* (Р. Барадулін. Хто?); *А размах той* *ш о ф е р а г а д о ў л і — Легкавухі пруць з усіх бакоў* (П. Панчанка. Персанальныя шафёры).

Здабыткам мовы мастацкай літаратуры з'яўляюцца практычна ўсе стылістычныя рэсурсы мовы. Тут шырока ўжываюцца ўсе сродкі славеснай вобразнасці — эпітэты, метафары, параўнанні, багацці сінаніміі і полісеміі.

У адрозненне ад афіцыяльна-дзелавога і навуковага стыляў, дзе лексемы з канкрэтнай семантыкай маюць абагульненае значэнне і абазначаюць паняцці, у мастацкіх творах яны выражаюць канкрэтны мастацкі вобраз. Параўнаем азначэнне трубы ў БелСЭ сродкамі навуковага стылю і апісанне яе ў аповесці Якуба Коласа:

*Т Р У Б А, духавы муштуковы інструмент; латуневая цыліндрычная сагнутая ў адзін абарот трубка, якая ў канцы паступова расшыраецца і заканчваецца раструбам (БелСЭ,* Т. 10).

*Цяпер толькі заўважыў Нявідны, што ў Мартына ёсць не толькі карабін, а і труба пры баку на зялёным шнурку, ёмкая крывая* *т р у б а, дзярвяная, самадзельная, шчыльна абвярчаная бяростаю* (Я. Колас. Дрыгва).

Творчая канкрэтызацыя ў мастацкім творы дасягаецца разнастайнымі сродкамі, якія дапамагаюць ператвараць слова ў вобраз. Адным з такіх сродкаў лічыцца, напрыклад, насычанасць тэксту дзеясловамі, якія наглядна перадаюць кожны рух і паказваюць, як разгортваецца дзея ў цэлым. Так, апісваючы ўцёкі героя на падпітку ад жонкі, Я. Колас толькі ў адным сказе ўжывае 6 дзеясловаў і дзеяслоўных форм, якія перадаюць імклівы рух уцекача: *Прабегшы некалькі хат, Арцём звярнуў на агароды, шуснуў у каноплі, адтуль разораю між капусты забег у надворак Юркі Труса, з надворку заламаў у вулачку і пасучыў проста да калодзежа* (Я. Колас. Недаступны).

Праз дзеясловы ў сукупнасці з іншымі вобразамі і выяўленчымі сродкамі, мастацкімі параўнаннямі перадаецца і ўнутраны свет герояў: *Думкі ў яго галаве нек так варушыліся і былі такімі цяжкімі, што як бы і не плылі яны, а нек валакліся, і прытым усё аб нешта спатыкаліся* (К. Чорны. Парфір Кіяцкі).

Прыём паралелізму, супастаўленне са з'явамі пры-

роды і наваколля вельмі часта выкарыстоўваецца пры апісанні душэўнага стану чалавека: *Слухаюць песню — хораша пяе Лімпа. Недзе яшчэ там, на пагоне, далёка. Не кожнае слова чуваць, а не пачуеш — успомніш. І ўспамінаецца нешта затоенае, святое, пра што і сказаць нікому не скажаш; здаецца ж, даўно-даўно адшугаў касцёр, апаў агонь і попел астыў, а дзьмухнуў свежы ветрык, варухнуўшы шэры прысак, і з-пад яго маладою суніцаю бліснуў вугольчык...* (М. Клебановіч. Сёмка Далар).

У мастацкім маўленні праходзіць дакладны і мэтанакіраваны адбор агульнамоўных сродкаў, у выніку чаго кожнае слова абумоўлена сэнсам усяго твора. Значэнне слова таксама матывавана зместам твора. Параўн. ужыванне слоў *арандаваць, арэнда,* у вершы П. Макаля «Арэнда»:

Навошта ў бязводдзі рыбачыць,
Маючы зрок прарочы?
Калі не ўмееце бачыць,
Бярыце ў арэнду вочы!
Што вам, аглухлым, рухаць,
Маліцца на мёртвыя душы?
Калі развучыліся слухаць,
Дык арандуйце вушы!
Ці ж вы скляпаны са сталі,
Каб верыць чыноўнай мерцы?
Калі адчуваць перасталі,
Бярыце ў арэнду сэрцы!

Актуальным грамадска-палітычным тэрмінам *арандаваць, браць у арэнду* аўтар надае дадатковы сэнс, спалучаючы іх са словамі *вочы, вушы, сэрца.* Такія спалучэнні немагчымы за межамі літаратурна-мастацкага маўлення. Наогул у мове мастацкай літаратуры літаратурна-мастацкія каштоўнасці ствараюцца часта асаблівасцямі спалучэння моўных адзінак, спалучэннем звычайных агульнаўжывальных слоў, якія ніхто да гэтага не мог уявіць злучанымі ў адно цэлае. У выніку такой практычна неабмежаванай лексічнай і семантычнай спалучальнасці ствараюцца непаўторныя, арыгінальныя мастацкія выразы: *Час — эпохі каморнік — Адмераў мне восем дзесяткаў Буравейных, грымотных І сонцам налітых гадоў* (А. Звонак. Сябрына); *Пайнеюць кашы у капальшчыкаў спрэс, а бульба прагрэсам параненая...* (А. Емяльянаў. Урок гісторыі).

Трэба адзначыць яшчэ адну рысу ўжывання слоў у мастацкіх творах — набыццё імі новых, дадатковых семантычных адценняў. Слова тут адлюстроўвае не толькі агульнапрынятае вядомае паняцце. Яно выкарыстоўваецца для выражэння таго свету, які ствараецца ў мастацкім творы. У вершы П. Макаля «Абойма» амаль кожнае слова (*кілзалі, вяшчалі, страляла, маторны, заржавела*) ужыта са значэннем, якое не супадае з агульнаўжывальным:

Не, не абойма патронаў,
Якімі мы беды *кілзалі*,
*Страляла* абойма імёнаў
У анямелай зале.
*Вяшчалі* з трыбуны клікушы —
Нязменна сваё рабіла
Абойма, якая вушы
Аглушаным пратрубіла.
Запозненым бачым паглядам,
Што праўда, а што для
прыліку.
Хто быў у абойме з зарадам,
А хто дадаваўся да ліку.
Ці ж выб'ем, нарэшце, падпоркі
З-пад увянчанай дрэні?
Няўжо мы на вопыце горкім
І сёння не памудрэлі?

Кумірам сваім вядомым
У парываннях зорных
Зала адказвала громам
Апладысментаў ***маторных.***
Пасадным пакорныя тронам,
Даць не пасмелі бой мы
Пустапарожнім патронам
Той *заржавелай* абоймы...
На службу любові народнай
Ужо навабранцаў вярбуюць,
З таропкасцю неверагоднай
Абойму змяніць спрабуюць.
Кожнага, мусіць, па-свойму
Грэюць памкненні пустыя
Трапіць хутчэй у абойму,
Патроны якой — халастыя.

Мова мастацкай літаратуры вызначаецца таксама асаблівай гукавой арганізацыяй, напрыклад прыёмамі алітэрацыі, асанансу. Так, у Я. Брыля: *паразгіналі іржавыя штабы кратаў; шарахцелі іржышчам; чорная пячора варот; у сівой бабулі светлавалосы хлопчык; у адной белай кашульцы, з цёплымі ножкамі.* Але гукавая алітэрацыя больш уласціва паэзіі:

Не шасцяць каласы,
Звон не валіцца з касы,
Не кладуцца ў стог пласты,
Толькі сыплюцца лісты
На яловыя кусты,
На сухія верасы.

*(Я. Купала. Адцвітанне)*

Галоўнай тэндэнцыяй развіцця сучаснай мовы мастацкай літаратуры з'яўляецца дэмакратызацыя, больш шырокае выкарыстанне сродкаў народнай мовы ў мастацкіх творах, што звязана з дэмакратызацыяй зместу літаратуры, калі яе героямі становяцца сяляне, рабочыя, людзі працы.

## § 3. СТЫЛІСТЫЧНЫЯ СРОДКІ ЛЕКСІКІ: ЛЕКСІКА ФУНКЦЫЯНАЛЬНА-СТЫЛЕВА АФАРБАВАНАЯ

Аснову для размежавання функцыянальных стыляў і адпаведнай стылістычнай маркіраванасці слоў складае форма мовы: вусная яна ці пісьмовая. Мэты і ўмовы вусных і пісьмовых зносін істотна адрозніваюцца адны ад другіх, а таму ў межах гэтых разнавіднасцей мовы выпрацоўваюцца своеасаблівыя сродкі, што нясуць на сабе адбітак таго ці іншага стылю. Нават па-за кантэкстам без цяжкасці можна вызначыць, што такія, напрыклад, словы, як *аксіёма, асацыяцыя, дэвальвацыя, індукцыя, канцэпцыя, субстрат, экалогія,* належаць стылям пісьмовай (кніжнай) мовы, а словы тыпу *валацуга, гуляка, лахмоцце, лупцаваць, шашні, швэндацца* і пад.— вуснай размоўнай мове. Выяўленчыя сродкі кніжных і размоўнага стыляў вылучаюцца толькі на фоне лексікі стылістычна нейтральнай, або міжстылёвай. Разгледзім кожны з гэтых трох пластоў беларускай лексікі.

### *Міжстылёвая лексіка*

Пераважная большасць слоў выкарыстоўваецца ва ўсіх функцыянальных стылях, ва ўсіх відах маўлення — ад высокіх патэтычных прамоў да афіцыяльных даведак і вольнай непасрэднай гутаркі, пра што сведчыць сама назва гэтай лексікі — міжстылёвая. Падлікі слоў на літару «А» па «Беларуска-рускаму слоўніку» (Мн., 1988—1989) паказалі, што 72,42% (8 093 словы з 11 175) не маюць ніякіх стылістычных памет, фактычна ўжываюцца без абмежавання.

Міжстылёвая лексіка прадстаўлена амаль усімі часцінамі мовы. Большасць назоўнікаў, дзеясловаў, займеннікаў, прыназоўнікаў, злучнікаў, многія прыметнікі, прыслоўі, усе лічэбнікі адносяцца да функцыянальна нейтральных. Адна часціна мовы — выклічнікі — не ўключае ў сябе міжстылёвай лексікі і прадстаўлена функцыянальна і экспрэсіўна афарбаванымі словамі — высокімі *(о!, ой!, гэй!)* або зніжанымі, уласцівымі гутарковай мове *(ай, ой, ах, ух, ого, дудкі!, ая-яй!, ого-го!)*.

Стылістычна нейтральныя словы абазначаюць прадметы побыту, акаляючага асяроддзя, з'явы прыроды

*(вада, зямля, хлеб, соль, дрэва, чалавек, галава, рука, лета, зіма, мароз)*, а таксама якасці, уласцівасці, прыметы гэтых прадметаў, з'яў прыроды *(вялікі, сіні, гарачы, жалезны, далёкі, многа, мала)*, дзеянні, учынкі і стан *(працаваць, хварэць, спяваць, есці, стаяць, ляжаць, расці)*, прыметы дзеянняў і якасцей *(весела, горача, надта, па-новаму* і інш.*)*.

Міжстылёвыя словы выкарыстоўваюцца пераважна ў сваім прамым намінатыўным значэнні. У навуковых тэкстах па біялогіі агульнаўжывальнымі словамі будуць словы *расці, панаваць, паскорыць, разворвацца, граніца, лес,* у лінгвістычных — *група, адбор, грамадства, выпадак, твор, замяніць, парушыць, разбурыць* і г. д. У любым стылі ўжывальнымі з'яўляюцца словы *праца, асобна, часта, вілавочна, асноўны, розны, прамы, быць, адсутнічаць* і г. д. Складаючы аснову ўсіх стыляў, агульнаўжывальная лексіка ў кожным з іх мае свае заканамернасці ўжывання[22]. Тэматычнага абмежавання не існуе для гэтага пласта слоў не толькі ў размоўным, а і ў мастацкім, публіцыстычным і афіцыяльна-дзелавым стылях, але ні ў адным стылі не ўжываюцца так часта абазначэнні часу і месца, уласныя імёны, як, напрыклад, у публіцыстычным. Калі асаблівасцю навуковага стылю з'яўляецца ўжыванне абстрактнай лексікі з адцягненым, абагульняючым значэннем, то гэта датычыцца ў першую чаргу агульнаўжывальнай лексікі.

У міжстылёвую лексіку ўваходзяць усе стылістычна несупастаўляльныя словы і словы, сінонімы да якіх з'яўляюцца функцыянальна нейтральнымі: *радавацца — весяліць — цешыць; рад — шэраг — чарада — ланцуг; цяпер — зараз.* Міжстылёвыя, стылістычна нейтральныя словы выконваюць ролю апорных у сінанімічных радах, дзе яны суадносяцца з кніжнымі і размоўнымі кампанентамі: *разам* (нейтр.) — *плячо ў плячо* (кніжн.) — *гурбой, агулам* (разм.); *будаваць* (нейтр.) — *узводзіць* (кніжн.) — *стаўляць* (разм.); *ісці* (нейтр.) — *плесціся, валачыцца, цягнуцца* (разм.) і інш.

У розных камунікатыўных сферах па-рознаму выкарыстоўваюцца і сінанімічныя сродкі. Шырока і рознафункцыянальна ўжываюцца яны ў мастацкім і публіцы-

---

[22] Больш падрабязна пра асаблівасці міжстылёвай лексікі ў розных стылях гаворыцца ў параграфе, прысвечаным характарыстыцы функцыянальных стыляў.

стычным стылях. У навуковым стылі сінанімія можа ахопліваць пласт слоўнага афармлення тэксту, агульнанавуковую лексіку і быць заганнай у тэрміналогіі. *Аналізуецца, разглядаецца, апісваецца, даследуецца, з'яўляецца прадметам аналізу; прымета, рыса, асаблівасць* — звычайныя сінанімічныя рады ў навуковых тэкстах. У афіцыяльна-дзелавым стылі замена сінонімамі непажаданая, паколькі яна можа выклікаць рознапачытанні і двухсэнсоўнасць.

Існуе шэраг марфалагічных, сінтаксічных асаблівасцей ужывання міжстылёвай лексікі. Афіцыяльна-дзеламому стылю, асабліва мове законаў, уласціва больш, чым іншым стылям, ужыванне назоўнікаў, а сярод іх — аддзеяслоўных назоўнікаў. Толькі ў гэтым стылі ўжываюцца назвы асобы пераважна ў форме мужчынскага роду адзіночнага ліку, а назвы рэчыўных прадметаў у Pluralia tantum — у афіцыяльна-дзелавым і навуковым стылях *(алеі, віны, цукры)*.

Разгляд міжстылёвай лексікі ў функцыянальна-экспрэсіўным аспекце паказвае, што гэта лексіка адносіцца ў асноўным да стылістычна нейтральнай.

Гаворачы, што агульнаўжывальная лексіка з'яўляецца асновай кожнага функцыянальнага стылю, трэба ўлічваць той факт, што семантычная мнагазначнасць і гібкасць агульнаўжывальных слоў дазваляюць ім быць пастаяннай крыніцай узбагачэння кніжнай і размоўнай лексікі. Агульнаўжывальнае нейтральнае слова *ядро* 'унутраная частка плода (звычайна арэха), зерня або семя, пакрытая шалупіннем, абалонкай' на базе асноўнай, стрыжнявой прыметы 'найважнейшая частка' атрымала шэраг тэрміналагічных значэнняў у навуковым стылі: *ядро атама* — у фізіцы, *ядро Зямлі* — у геалогіі, *ядро клеткі* — у біялогіі, *ядро і перыферыя поля* — у лінгвістыцы. Пераноснае ўжыванне гэтага слова характэрна для публіцыстычнага стылю: *ядро партыйнай арганізацыі, ядро калектыву.*

Набыццё нейтральным словам новых значэнняў прыводзіць да розных вынікаў. У адных выпадках мнагазначнае слова не змяняе свайго пачатковага статусу і застаецца стылістычна нейтральным ва ўсіх значэннях, напрыклад слова *настаўнік:* 1. Педагог, выкладчык у школе. *Настаўнік сярэдняй школы.* 2. Натхніцель, кіраўнік у якой-небудзь дзейнасці, справе. *Духоўны настаўнік.* 3. Вопытны спецыяліст, які дапамагае маладым

рабочым набыць глыбокія прафесіянальныя веды і жыццёвыя навыкі. *Настаўнік моладзі.*

Аднак яшчэ часцей адзначаюцца выпадкі, калі пры ўзнікненні мнагазначнасці стылістычнае адзінства слова распадаецца. Прыстасаванне для лоўлі рыбы, птушак з ніцей або дроту, перакрыжаваных і замацаваных вузламі на роўных прамежках, мае назву *сетка.* Семантычная прымета 'раўнамернасць адлегласці, заканамернасць размяшчэння вузлоў' стала асновай выдзялення шэрагу значэнняў у спецыялізаваных сферах ужывання: *градусная сетка, тарыфная сетка, сетка электроннай лямпы.* У моваэнаўстве пашыраны выраз *сетка даследавання.* Слова набывае адценне зніжанасці, размоўнасці, называючы залішне рэдкую тканіну або выраб з такой тканіны.

Многія словы, што ў сваім намінатыўным значэнні з'яўляюцца назвамі жывёл або дзеянняў, якія ўтвараюць жывёлы, у пераносным значэнні набываюць зніжаную стылістычную афарбоўку і пераходзяць з нейтральнай лексікі ў склад размоўнай, грубай, лаянкавай. *Гад:* 1. Змяя, гадзюка. *Бусел ляціць з небасхілу, нішчыць гадаў гатовы* (У. Дубоўка. Палессе). 2. *Разм., лаянк.* Пра агіднага, шкоднага чалавека. *Ох, Богут, выклятае племя, Навошта гад такі жыве!* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Аналагічны працэс зніжэння стылістычнага статусу мае месца і ў словах, што абазначаюць неадушаўлёныя прадметы пры ўжыванні іх у дачыненні да чалавека: *абух, бервяно, калода, мяшок, піла* і інш. Назвы з'яў прыроды, частак чалавечага, жывёльнага, расліннага арганізма, назвы роднасці і сваяцтва і г. д. могуць тэрміналагізавацца, калі паняцці, якія яны абазначаюць, становяцца прадметамі навуковага аналізу.

Міжстылёвая лексіка — самы багаты лексічны пласт. Яна вызначаецца як шырокай тэматычнай разнастайнасцю, так і семантычным багаццем, зменлівай сінтаксічнай валентнасцю. «Гэтым словам уласціва натуральнасць, прастата, агульназразумеласць, адсутнасць штучнасці, мудрагелістасці. Гэтым і тлумачыцца, што самыя яскравыя, глыбокія і задушэўныя думкі і вобразы мастакамі слова ствараюцца з самым шырокім выкарыстаннем гэтых простых і звычайных слоў» [23]. Ілюстра-

[23] Гвоздев А. Н. Очерки по стилистике русского языка. М., 1965. С. 64.

цыяй да мастацкага выкарыстання міжстылёвай лексікі з'яўляецца проза Я. Коласа:

*У леце пачыналася ўжо тая ледзь значная змена, той паварот часу, калі жыццё прыроды ідзе на спад. Скошаны луг і паскладаныя курганамі стагі, парыжэлыя ад дажджоў і сонца, ужо гаварылі аб гэтым паміранні. Буслы збіраліся ў чароды і доўга стаялі на грудах або ляніва аглядалі лагчыны. Але было прыметна, што не на пажытак пазбіраліся яны сюды, а для нейкай іншай справы. Пастаяўшы, павольна, адзін за адным, уздымаліся яны ўгару, кружыліся там, і кожны круг падымаў іх усё вышэй і вышэй. Там яны спляталіся ў адну фігуру, у адзін шырокі круг і, не махаючы крыллямі, плаўна і згодна, як па камандзе, насіліся ў неаглядным прасторы сініх нябёсаў* (Я. Колас. У старых дубах).

## *Кніжная лексіка*

Галоўным крытэрыем размежавання кніжнай і размоўнай лексікі з'яўляецца сфера пашырэння слова, улік сацыяльнага асяроддзя, у якім узнікла, развівалася і ўжываецца лексічная адзінка. Немалаважную ролю адыгрывае значэнне, прадметна-тэматычная аднесенасць слова і яго экспрэсіўная характарыстыка — здольнасць выклікаць пэўныя рэакцыі. Названыя крытэрыі ахопліваюць функцыянальна-стылістычныя і экспрэсіўна-стылістычныя аспекты. Да кніжнай лексікі адносяцца словы, якія ўжываюцца ў навуковай літаратуры, афіцыяльных і заканадаўчых дакументах, дзелавых паперах, публіцыстыцы і мастацкай літаратуры і не ўласцівы натуральнай гаворцы, паўсядзённаму бытавому маўленню. Кніжная лексіка развіваецца пад уздзеяннем вучоных, пісьменнікаў, палітычных дзеячаў.

Кніжнай лексікай з'яўляецца спецыфічна навуковая лексіка — тэрміналогія: матэматычная — *актаэдр, біном, бісектрыса, дыферэнцыял, інтэграл;* біялагічная — *актывацыя, акукліцца, альбінізм, альбумін, амітоз, амніён, біясінтэз, мікрапапуляцыя, фітацэноз, флора;* моваведчая — *афікс, калька, крэалізацыя, парадыгматыка, этымон;* медыцынская — *гіпадынамія, калапс, кома, энфізэма.* Агульнанавуковая лексіка ў пераважнай большасці адносіцца да кніжнай: *аб'ект, абстракцыя, адаптацыя, адэкватны, аналіз, вымяральнасць, гіпотэза, дыяпазон, дэфініцыя, інтэграцыя, канвергенцыя, канструкцыя,*

*карэляцыя, каузальны, лабільны, метад, параметр, праблема, спантанны, сцвярджэнне, трансфармацыя, фактар, элемент; дамінаваць, суадносіцца* і г. д.

Фармальна-лагічны выклад матэрыялу арганізуецца ў звязны навуковы тэкст з дапамогай слоў-арганізатараў. Гэта — пабочныя словы і словазлучэнні, складаныя злучнікі і злучальныя словы, спецыяльныя канструкцыі з дзеепрыслоўямі, безасабовыя дзеясловы і інш.: *у выніку; у выніку таго, што; нягледзячы на тое, што; варта заўважыць; на нашу думку; такім чынам; як ужо адзначалася.* Падобныя словы слабей функцыянальна маркіраваныя, але таксама маюць характар кніжнасці.

Да кніжнай лексікі адносяцца многія словы, якія ўласцівы мове законаў, справаводству: *абскарджанне, выдварэнне, дача* (паказанняў), *кампетэнцыя, канфіскацыя, падлягаць, падпарадкаванне, пазбаўленне* (волі), *правапарушэнне, правасвядомасць, прадвырашыць; вышэйпамянёны; даводзіць да ведама, зацвярджаць, паведамляць.* Такія абагульненыя назвы (гіперонімы), як *матэрыяльныя каштоўнасці, маёмасная страта, цялесныя пашкоджанні, транспартныя сродкі, месца пражывання,* ужываючыся ў сферы прававых і дзелавых адносін, набылі адзнаку афіцыяльнасці і кніжнасці. Сапраўды, «звужэнне сферы ўжывання часта мае для лёсу слова іменна стылістычныя вынікі» [24].

Стылістычна афарбаваная лексіка мае побач з намінатыўным значэннем непрадметную інфармацыю, якая афарбоўвае тэкст, выказванне, уносіць у яго пэўную танальнасць, канататыўнасць. У словах і выразах, функцыянальна афарбаваных у дзелавой мове, гэта — канатацыя афіцыяльнасці, якая праяўляецца ў адцягненасці ад канкрэтных значэнняў, адсутнасці ацэнкі, падкрэсленай строгасці, стрыманасці, што можна пацвердзіць тэкстам з юрыдычнага дакумента: *Кіруючыя транспартнымі сродкамі вадзіцелі або іншыя асобы, у адносінах да якіх ёсць падставы меркаваць, што яны знаходзяцца ў стане ап'янення, падлягаюць адхіленню (адстараненню) ад кіравання транспартным сродкам і агляду ва ўстаноўленым парадку на стан ап'янення* (Кодэкс адміністрацыйны).

---

[24] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980. С. 136.

Спецыфічная афіцыяльна-дзелавая лексіка выразна выяўляе сваю кніжнасць пры ўключэнні яе ў мастацкі, публіцыстычны твор, у гутарку. Часцей за ўсё афарбоўка праяўляецца ў тым, што стылістычна афарбаванае слова, словазлучэнне ўспрымаецца як нетыповае. Некаторыя з іх у нестылізаваных тэкстах проста немагчымыя. У мове мастацкай літаратуры афарбаваная лексіка ўжываецца з мэтай стылізацыі, адлюстравання адпаведных жыццёвых сітуацый.

У прававой і дзелавой сферах высокая ступень шматразовасці падрыхтоўкі і прымянення адных і тых жа дакументаў і дзелавых папер сама па сабе вядзе да няzменнасці фармуліровак моўных стэрэатыпаў, якія забяспечваюць адназначнасць і лаканізм. Стандартызацыя ў афіцыяльна-дзелавой лексіцы стварае зручнасці ў карыстанні дакументамі, у разуменні законаў. Традыцыйныя тут стэрэатыпы *у адпаведнасці з ..., на падставе ...* і пад. падкрэсліваюць законнасць дзеяння ў спалучэнні з назвамі адпаведных артыкулаў, закона, могуць падмацоўваць і ўзмацняць дзелавую аснову выказвання. Гэтыя словазлучэнні адзначаюцца як устойлівыя ў літаратурнай мове, характэрныя і для навуковага, і для публіцыстычнага стыляў.

Удакладненні, надзвычай характэрныя для мовы законаў, уводзяцца ў тэкст моўным стэрэатыпам *у выпадку (адмаўлення, адхілення, немагчымасці, выканання, прастою)*, у кніжнай афарбоўцы якога немалаважную ролю адыгрываюць аддзеяслоўныя назоўнікі. Устойлівасцю вызначаюцца таксама словазлучэнні *з прычыны ..., у мэтах... , у сувязі... , з улікам...* . Для ўдакладнення ўмоў і часу выканання дзеяння ўжываюцца канструкцыі з прыназоўнікам *пры: пры нездавальняючым выніку выпрабавання, пры наяўнасці двух і больш дзяцей, пры поўнай працягласці штодзённай работы, пры збегу цяжкіх абставін, пры правядзенні галасавання.* Асаблівасцю афіцыяльна-дзелавой мовы з'яўляецца ўжыванне назоўнікаў, звычайна назоўніка *шлях*, у функцыі прыназоўнікаў: *шляхам крадзяжу (падлогаў, растрат, махлярства).*

Кніжны характар маюць дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу на *-уч- (-юч-), -ач- (-яч-)* і дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу на *-ем-, -ім-*, якія часта выкарыстоўваюцца ў дзелавых, асабліва заканадаўчых, тэкстах. Закон, пастанова аба-

гульняюць у сваіх фармуліроўках мноства тыповых выпадкаў, канкрэтызуючы прымяненне закона да пэўных акалічнасцей, вызначаючы магчымыя ў падобных выпадках умовы, выключэнні. Дзеепрыметнікі, спалучаючы ў сабе прыметы дзеяння, часу і якасці, вельмі адпавядаюць характару мовы законаў, дзе дакладнасць і недвухсэнсоўнасць патрабуюць канкрэтызацыі ў часе. Напрыклад, субстантываты *усынавіўшы* і *усынаўляючы* маюць перавагу над назоўнікам *усынавіцель* тым, што выражаюць адносіны да выніку дзеяння.

Грамадска-палітычная лексіка, пашыраная і спецыфічная ў публіцыстычным стылі, таксама кніжная: *агітацыя, аграмадзіць, аграрый, айчына, дактрына, заканамернасць, канон, канфрантацыя; катаклізм, соцыум, экалогія.* Акрамя агульных грамадска-палітычных тэрмінаў, сюды адносяцца і назвы палітычных, эканамічных, філасофскіх напрамкаў, класавых, партыйных, ідэалагічных паняццяў, грамадскіх дзеячаў: *дэмакратыя, гуманізацыя, расізм, сепаратызм, федэрацыя, апазіцыя, маркецінг, інвестыцыя, канфуцыянства, нігілізм, прагматызм, сацыял-дэмакрат, ліберал, манапаліст, экстрэміст.*

Заштампаваныя газетныя фразы *ударная праца, высокія тэмпы, у абстаноўцы высокай працоўнай актыўнасці, унесці дастойны ўклад, дапусціць сур'ёзныя пралікі, крочыць у нагу з часам* і пад. таксама з'яўляюцца параджэннем кніжнай мовы.

Да кніжнай адносіцца і спецыфічная лексіка мовы мастацкай літаратуры — сродкі славеснай вобразнасці: метафары, эпітэты, параўнанні, сінекдаха, адухаўленне і пад. Калі гутарка ідзе аб славеснай вобразнасці, створанай пісьменнікамі і паэтамі, маюцца на ўвазе новыя арыгінальныя вобразы, свежыя метафары: *асенняя медзь* (В. Зуёнак), *нервы расстайных дарог* (А. Вялюгін), *скурганіў бы душу чырванцом тваім я* (Я. Купала), *шум жыццёвае стужы* (Я. Колас).

Адным з самых пашыраных паэтычных тропаў з'яўляецца эпітэт, які адрозніваецца ад звычайнага азначэння яскравай вобразнасцю: *вішнёвыя хаты* (У. Караткевіч), *самотны жаўранак* (А. Куляшоў), *лебядзіная бель* (Я. Купала), *аржаная барада* (П. Панчанка), *дыпламаваны баран* (К. Крапіва).

Кніжнасцю вызначаюцца і перыфразы, уласцівыя як мове мастацкай літаратуры, так і публіцыстыцы: *канап-*

*ляную возьмеш заплату* (Я. Купала), *белае золата* 'бавоўна', *другі хлеб* 'бульба'.

У разрад кніжнай лексікі ўваходзяць словы рознай тэматычнай накіраванасці, якія ўжываюцца ў вусным маўленні адукаваных людзей: *аналогія, аперыраваць, апломб, арыентацыя, бясстрасны, доўгацярпенне, ігнарыраваць, ідэнтычны, ізаляцыя, кампетэнтны, кантынгент, квінтэсэнцыя, крэда, кумір, першаэлемент, пралюбадзейства, пратэжэ, прафанацыя, прымат, прэрагатыва, рыгарызм, стагнацыя* і інш.

Для многіх з гэтых і падобных слоў у часы ўсеагульнай сярэдняй адукацыі, ва ўмовах пашырэння сеткі радыё і тэлебачання характарыстыку *кніжнае* трэба разглядаць вельмі ўмоўна, улічваючы ў асноўным паходжанне слова і ўжыванне яго ў кніжных стылях.

У самой кніжнай лексіцы адбываюцца змены: вузкаспецыяльная тэрміналагічная лексіка становіцца агульнанавуковай і нават агульнакніжнай (*аналіз, інтэграванне, дыферэнцыяцыя, ультыматум*), некаторыя кніжныя словы становяцца агульнаўжывальнымі. Прыметнік *ядзерны* ўваходзіць у склад рада фізічных тэрмінаў (*ядзерная рэакцыя, ядзерны зарад, ядзерны магнітны рэзананс, ядзерны рэактар*) і стаў амаль агульнаўжывальным у спалучэннях *ядзерная вайна, ядзерны выбух*. Шырока ўвайшло ў гутарковую мову слова *комплекс: спартыўны комплекс, жывёлагадоўчы комплекс.*

Характарызуючы кніжную лексіку з пункту гледжання выражанай ёю экспрэсіі, трэба адзначыць, што тут вылучаюцца словы з адценнем прыўзнятасці, урачыстасці і ўласна кніжныя, г. зн. абумоўленыя спецыфічнымі абставінамі маўлення[25]. Кніжная лексіка надае характар грунтоўнасці, сур'ёзнасці маўлення, узвышае прадмет гаворкі. Прывядзём рад кніжных узвышаных слоў: *адвечны, адрынуты, айчына, арсенал, астанкі, баграніца, безбалесны, бітва, бічаваць, благаслаўляць, братэрства, бяскрайні, бяспрыкладны, бяссмерце, вахта, венцаносны, вешчаваць, вой, воін, воінства, выгнаннік, вышні, вянец, вячысты, гарніла, глыбокашаноўны, грун-*

---

[25] Кніжнасць лічыцца некаторымі лінгвістамі прыметай экспрэсіўна-стылістычнай; гл.: Бельчиков Ю. А. Лексическая стилистика. М., 1977. С. 45; Мурат В. П. Стилистическая система современного русского языка по данным «Словаря русского языка» С. И. Ожегова. 14-е изд. 1982 // Словарные категории. М., 1988. С. 135.

*таваіцца, доблесны, дойлід, дума, жыватворчы, здзейсніць, неабсяжны, невычэрпны, недасяжна, нязбыўны, непарушны, непаўторны, няўтомны, паходня, правадыр, прамяніцца, росквіт, стырнавы, сусвет* і інш. Высокія словы выкарыстоўваюцца ў прамовах аўтараў у абарону інтарэсаў народа і айчыны, у палітычных агітацыйных выступленнях, у некралогах, у паэзіі: *«Як прарок Беларусі, Скарына абвясціў роўнасць свайго народа сярод народаў свету; як правадыр, высока ўзняў паходню асветы, даў накірунак да выйсця з цемры і залежнасці на прастору вольнага духу... Мы кажам, што ягоная справа непадуладная забыццю, незнішчальная ў нашай памяці* (К. Тарасаў. За промнямі славы).

Да высокіх слоў набліжаюцца паэтызмы: *белакаменны, залатагрывы, зямліца, краявід, пуціна* 'дарога', *срэбразвонны* і інш.

Кніжна афарбаваная лексіка характарызуе сферу свайго ўжывання як узвышаную над штодзённай рэчаіснасцю. Кніжныя словы, ужытыя пры разважаннях, меркаваннях, суджэннях, таксама прыўзнімаюць тэкст над узроўнем бытавой гутаркі. *Думка нараджаецца разам са словамі і г р у н т у е ц ц а на слове* (У. Юрэвіч. Слова і вобраз); *З п р ы ч ы н ы важнасці і ўрачыстасці палітычнага моманту «свентыя ойцы» д а з в о л і л і с а б е некаторую вольнасць, з'явіўшыся на банкет* (Я. Колас. Дрыгва). І наадварот, у прыўзнятым, паэтычным кантэксце нейтральныя словы могуць набываць адценне кніжнасці: *гадзіна* (помсты), *ярмо, путы, грамадзянін, крыніца* і інш. *Нямала народаў з крыніц яго* (Ф. Скарыны.— *Г. В.*) *піла і брала ад мудрасці вечны агонь, У літарах першых знаходзячы сілу...* (П. Броўка. Яшчэ ў дні старыя).

Кніжныя словы могуць характарызаваць удзельнікаў гаворкі, афіцыйныя, дзелавыя, а часам і халодныя адносіны паміж імі.— *Вам што трэба, грамадзянін? — холадна звярнуўся да яго Саламон* (Зм. Бядуля).

Экспрэсія кніжнасці звязваецца з абагульненасцю значэнняў слоў і словазлучэнняў, з афіцыяльнасцю выказвання, адсутнасцю ацэнкі або з яе афіцыяльнасцю. Такія словы часта гучаць на радыё і тэлебачанні, сустракаюцца на старонках газет: *ападкі* (дождж, снег), *мерапрыемства, месцажыхарства, навакольнае асяроддзе, прадметы першай неабходнасці, сельгасугоддзі, жыллёвая плошча. Рэкамендаваць, наведваць* (школу),

*прыбыць, аб'явіць падзяку* маюць выразны характар кніжнасці ў супастаўленні з *раіць, хадзіць* (у школу), *прыехаць, падзякаваць.*

Супастаўленне мікракантэкстаў у розных стылях дае магчымасць зрабіць вывады аб мэтазгоднасці выкарыстання кніжных слоў у кожным з іх. *У мэтах больш поўнага забеспячэння патрэб насельніцтва таварамі першай неабходнасці..., У мэтах бяспекі руху..., У мэтах атрымання генетычна ўстойлівых форм..., Прысваенне дзяржаўнай маёмасці шляхам крадзяжу...*— выразы, арганічна ўласцівыя афіцыяльнай пастанове, заканадаўчаму дакументу, навуковаму артыкулу. У мове радыё яны ўспрымаюцца як штампы і зусім непрымальныя ў гутарковай мове.

У мове мастацкай літаратуры, размоўным стылі афіцыяльная лексіка выкарыстоўваецца пры іранізацыі, парадзіраванні, інакш кажучы, са спецыяльным «стылёвым заданнем». Такія фразы, як *Ён увязаўся ў бойку і атрымаў цялесныя пашкоджанні. Наш паветраны басейн напоўнены выхлапнымі газамі, Бачу — ляжыць чалавек у стане ап'янення,* з'яўляюцца адхіленнем ад нормы ў размоўным літаратурным стылі.

Экспрэсіўная своеасаблівасць кніжнай лексікі відаць у парадыйных тэкстах: *Нямала год падрад не дазваляла нам развінуць філасофскія крылы* **інфантыльнасць** *натуральнай паэзіі. Яе* **інерцыя** *прывяла да* **імітацыі** *пачуццяў, у якой не праяўлялася ніводнага* **кванта быцця** (Г. Юрчанка. Ад лямансэта да канансэта); *Ад жонкі — цвёрдае заданне: Рыхтуй ізноў перавыданне, Каб збудаваць на дачы дом, Фугуй за пятым шосты том У дар народу і краіне У штапелі і лідэрыне* (С. Грахоўскі. Цвёрдае заданне).

У кніжнай лексіцы акрамя слоў з экспрэсіяй узвышанасці і афіцыяльнасці ёсць пласт слоў, якія выражаюць аб'ектыўную адмоўную ацэнку. Праўда, у слоўніках не сустракаюцца побач паметы *кніжн.* і *неадабр.* Пры наяўнасці паметы *кніжн.* ацэначная канатацыя выражаецца ў дэфініцыі: *Абскурантызм* кніжн. 'варожае стаўленне да асветніцтва і культурнага прагрэсу, уласцівае рэакцыйным класам'; *Прафанацыя* кніжн. 'невуцкае скажэнне чаго-н. агульнапрызнанага (ідэі, вучэння, твора мастацтва і г. д.); непачцівыя адносіны да таго, што карыстаецца ўсеагульнай пашанай'; *Клеўрэт* кніжн. 'прыхільнік, прыслужнік, які імкнецца дагадзіць свайму

апекуну любымі 'сродкамі'. Кніжнасць слоў, падобных да *алілуйшчына, алімп, амбіцыя, заарганізаванасць, пражэкцёрства* і інш., не выклікае сумнення, але ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» яны маюць паметы *неадабр., іран.* Пра іх стылёвую аднесенасць сведчаць дэфініцыі: тут ужываюцца такія словы, як *усхваленне, неажыццявімы.*

Некаторыя кніжныя словы могуць мець адценне фамільярнасці.

Адносна прымет, па якіх вызначаюцца кніжныя словы, можна сказаць у агульным плане, што гэта, па-першае, кніжна-пісьмовая сфера ўжывання, па-другое, запазычанасць слова праз пісьмовыя крыніцы. Калі слова мае функцыянальна-стылістычную афарбоўку навуковага, афіцыяльна-дзелавога, публіцыстычнага стыляў або з'яўляецца паэтызмам, яно залічваецца ў разрад кніжнай лексікі. Кніжнымі словамі часта з'яўляюцца стараславянізмы, якія захаваліся ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: *благаславенне, вобласць, вяшчаць, вузы, ісціна, плоць, прах, скрыжаль, узвысіць, узвялічыць, уладыка, цвярдыня,* адны з якіх былі засвоены жывой старабеларускай мовай, другія — запазычаны пазней.

Нядаўнія іншамоўныя запазычанні і інтэрнацыяналізмы, якія прыйшлі ў беларускую літаратурную мову праз мову навуковых прац, газет, радыё, тэлебачання, успрымаюцца як кніжныя: *брыфінг, імідж, кансенсус, маркецінг, калаж, спонсар, стагнацыя: Спроба стварыць імідж сытае Беларусі нагадвае мне леташнюю спробу давесці, што беларуская культура квітнее* (ЛіМ. 9.XII 1988). Новае кніжнае слова як стылістычны сінонім можа ўзмацняць, канкрэтызаваць значэнне агульнаўжывальнага: *Эканоміка стаяла на месцы. Застой. Стагнацыя. А культура?* (ЛіМ. 9.XII 1988).

У беларускай літаратурнай мове да кніжных адносяцца словы, утвораныя шляхам складання асноў,— *авысакародзіць, першавобраз, першапраходзец, першародства, цемрашал, нарсуд, светаўспрыманне, хлебабулачны.*

На прыналежнасць слова да кніжнага разраду могуць таксама паказваць афіксы. Найбольшай ступенню кніжнасці вызначаюцца словы, утвораныя ад інтэрнацыянальных асноў з дапамогай інтэрнацыянальных афіксаў: *дыскрэдытацыя, індыкатар, калабарацыяніст, кан-*

*сервант, стабілізацыя, тыпізацыя.* Кніжныя словы характарызуюцца ў асноўным аднароднай афарбоўкай асновы і суфікса. У іншых выпадках вызначальную ролю адыгрывае стылістычная афарбоўка асновы, напрыклад і *дыслакацыя* і *дыслацыраванне* будуць адносіцца да кніжных.

У кніжных словах словаўтваральныя мадэлі вызначаюцца высокай ступенню агульнасці. Перш за ўсё гэта словаўтваральныя мадэлі, праз якія рэгулярна матэрыялізуюцца асаблівасці спецыфічна кніжнай лексікі — тэрміналагічнай, спецыяльнай, абстрактнай. Да кніжна маркіраваных афіксаў першага парадку адносяцца *-аж, -ант, -ацый-а (-ізацый-а), -іан-а, -іад-а, -ізм, -ік-а (-ык-а), -ур-а, звыш-, са- (су-), анты-, контр-, архі-, дые-, дэ-, рэ-, супраць-* і інш. Незалежна ад стылістычнага і семантычнага значэння матывуючай асновы лексемы, утвораныя пры дапамозе такіх афіксаў, будуць мець ярка выражаную кніжную афарбоўку: *літраж, паразітызм, пашпартызацыя, прафесура, архіважна.* Некаторыя назоўнікі на *-аж* становяцца агульнаўжывальнымі праз сферу тэрміналагічнага ўжывання: *дрэнаж, сянаж, танаж, фіксаж, экіпаж.*

Кніжныя афіксы другога парадку могуць быць маркіраваныя стылістычна, але яны таксама служаць для ўтварэння агульнаўжывальных слоў. Гэта, напрыклад, суфіксы імён дзеяння *-нне, -енне (-энне), -ццё (-цце)*, адцягненай прыметы *-осць (-асць)*, па частаце ўжывання і па стварэнню кніжнага каларыту спецыфічныя для кніжных тэкстаў, але шырока вядомыя і ў гутарковым стылі: *абстрагаванне, паразітаванне, культываванне, пражыванне; выбыццё, заняцце, пражыццё, прынявцце, ускрыццё; павярхоўнасць, супастаўляльнасць* і *спатканне, поўзанне; біццё, выццё, калаццё, распяцце, пачуцце; вернасць, маладосць, старасць, тлустасць, вясёласць, гадасць.*

Кніжныя афіксы трэцяга парадку характэрныя і для кніжнай лексікі, і для агульнаўжывальнай, і для размоўнай: *дамінанта, мерзлата, пустата, цеплата* і *страта, любата, распуста, смехата; пайзун, сысун, бягун* і *свістун, крыкун, піскун; выкапень, апоўзень* і *кіпень, лежань.*

Словаўтваральныя сродкі экспрэсіі ў цэлым у кніжнай лексіцы прадстаўлены слаба. Больш высокай канцэнтрацыяй ацэначных сродкаў вызначаецца газетна-

публіцыстычная мова, словы з суфіксамі адмоўнай ацэнкі *-чына, -шчына* (*прымітыўшчына, сталіншчына, абэцэдаршчына*), прэфіксамі *псеўда-, каля-, ілжэ-, анты-* (*псеўданавуковы, калялітаратурны, ілжэмастацтва, ілжэсведка, антыгуманны*).

Згодна з пашыранай у мовазнаўстве думкай, колькасць ярка выражаных стылёвых адзінак змяншаецца, кніжная лексіка траціць сваё адасобленае становішча, адбываецца яе нейтралізацыя як «заканамерны вынік тых культурных пераўтварэнняў, якія праходзяць у савецкім грамадстве... Словы, якія яшчэ нядаўна былі прыметай кніжнага, адукаванага маўлення, становяцца агульным здабыткам, стылістычна нейтралізуюцца»[26]. Ёсць прыхільнікі і процілеглай думкі, згодна з якой стылістычная дыферэнцыяцыя мовы паглыбляецца і пашыраецца, «стылістычная структура мовы ствараецца стагоддзямі»[27] (Л. В. Шчэрба), і стылістычная сістэма мовы павінна захоўваць і захоўвае свае ўстоі, нягледзячы на сапраўды маючую месца нейтралізацыю асобных кніжных слоў (М. В. Паноў, А. К. Панфілаў). Кніжныя словы вельмі часта ўжываюцца ў гутарках, размовах на грамадска-палітычныя тэмы, на тэмы мастацтва, вытворчасці, дасягненняў навукі і тэхнікі. І тут немагчыма абысціся без тэрміналагічных, спецыяльных слоў. Вельмі часта і ў розным асяроддзі цяпер, напрыклад, ужываецца *гасразлік,* нават і ў іранічным сэнсе, але далёка не кожнае яго ўжыванне азначана поўным і дакладным разуменнем гэтага тэрміна. Пройдзе час, эканамічнае паняцце, названае *гасразлікам,* стане нормай, а слова застанецца кніжным. Знаёмства з кніжнымі словамі не мае абавязковым вынікам ужыванне іх паўсюдна, без стылістычнай патрэбы. «А між тым людзі, якія цалкам авалодалі літаратурнай мовай, зусім не вылучаюцца (і ў мінулым не вылучаліся) тым, што пастаянна гавораць «па-кніжнаму». Толькі тыя, хто ледзь далучыўся або толькі далучаецца да кніжнай культуры, празмерна

---

[26] Шмелева И. Н. Стилистические сдвиги в лексике современного литературного языка: (На материале письменных источников и толковых словарей) // Нормы современного русского литературного словоупотребления. М.; Л., 1966. С. 41.

[27] Щерба Л. В. Литературный язык и пути его развития // Избранные работы по русскому языку. С. 139.

напаўняюць сваё маўленне кніжнымі словамі, ужываючы іх у многіх выпадках не да месца» [28].

### *Размоўная лексіка*

Кніжнай лексіцы ў функцыянальна-стылістычным аспекце процістаіць лексіка размоўная, якая знаходзіцца шмат у чым у адносінах дадатковай дыстрыбуцыі да кніжных сродкаў: «што не патрабуе намінацыі ў кніжным маўленні, аказваецца актуальным і патрабуе намінацыі ў гутарковым маўленні» [29]. Калі праблема стылістычнага размежавання лексікі не можа быць адназначна і канчаткова вызначана, то ў вялікай ступені гэта звязана з цяжкасцю вызначэння размоўнай лексікі. Межы яе ўжывання вельмі няпэўныя, а дакладней, досыць шырокія. «Размоўная лексіка, прычым лексіка з яскравай размоўнай афарбоўкай, шырокім патокам уключаецца ва ўласна аўтарскую мову мастацкіх твораў, яна звычайна ў мемуарнай літаратуры, у публіцыстычных творах, у навукова-папулярных артыкулах і кнігах, у навуковым маўленні і не толькі вусным..., а і ў пісьмовым» [30]. Таму правесці мяжу паміж агульнаўжывальнай і размоўнай лексікай вельмі складана. Амаль не ўжываецца размоўная лексіка ў афіцыяльна-дзелавым стылі, у мове законаў. Існуюць нават прапановы правяраць размоўнасць слова такім простым прыёмам: уставіць слова, якое выклікае сумненне, у тэксты афіцыяльнага дакумента, дзелавой паперы і г. д. Калі словы, якія здаваліся агульнаўжывальнымі, успрымаюцца ў такім кантэксце чужароднымі элементамі, яны адносяцца да размоўнай лексікі [31]. Таму, улічваючы ідэю вылучэння функцыянальных разрадаў лексікі на аснове сферы іх ужывання, нам здаецца, для размоўнай лексікі трэба зрабіць агаворку адносна не толькі сферы яе ўжывання — неафіцыяльнай, паўсядзённа-бытавой, але і сферы яе неўжывальнасці — афіцыяльнай мовы

---

[28] Панфилов А. К. Разговорная речь и проблема нейтрализации книжных средств языка // Учен. зап. МГПИИЯ им. Ленина. № 341. Вопросы филологии. М., 1960. С. 291.

[29] Виноградова В. Н. Стилистика словообразовательно мотивированного слова // Русский язык: Языковые значения в функциональном и эстетическом аспекте. М., 1987. С. 181.

[30] Петрищева Е. Ф. Стилистически окрашенная лексика русского языка. М., 1984. С. 125.

[31] Калинин А. В. Лексика русского языка. М., 1971. С. 159.

законаў, дакументаў. Вызначыўшы, дзе размоўная лексіка не ўжываецца, дзе яна можа ўжывацца і выконвае пэўную стылістычную, экспрэсіўную нагрузку, трэба звярнуцца да гутарковага стылю як асноўнай сферы выкарыстання і крыніцы размоўнай лексікі. Галоўныя рысы гутарковага стылю — адвольнасць, непадрыхтаванасць маўлення, свабода ў адносінах субяседнікаў, тэматычная неабмежаванасць — абумовілі асаблівасці размоўнай лексікі — павышаную экспрэсіўнасць[32] і эмацыянальнасць, стылістычную зніжанасць, шырокі тэматычны дыяпазон — ад тэрміналогіі да назваў дробных бытавых з'яў.

Сярод слоў з размоўнай афарбоўкай значны пласт складаюць такія, што абазначаюць канкрэтныя рэаліі бытавых зносін. Але гэта не проста словы паўсядзённа-бытавога ўжытку, якія называюць рэаліі штодзённага побыту. Размоўныя словы падкрэсліваюць, што гэтыя рэаліі разглядаюцца з паўсядзённа-бытавых пазіцый. Так, шырока ўжывальныя медыкаментозныя сродкі ў паўсядзённым побыце называюцца спрошчанымі ў адносінах да іх тэрміналагічных адпаведнікаў словамі: *аскарбінка* (аскарбінавая кіслата), *касторка* (кастора-вы алей), *зялёнка* (брыльянтавая зелень), *трайчатка, валяр'янка.* Бытавы падыход да названай рэаліі можа вызначацца ацэнкай бытавой непрыгоднасці, малазначнасці *(жалеззе, жалезіна, акор'е),* сапсаванасці *(гніллё, агрэбкі, трухляціна),* памераў *(гамарня, гаргара, гразішча, дробка, دручок),* бытавой канкрэтызацыі *(галыш, грымак, дратаванка, дрындушка, душагрэйка).* Бытавы, неафіцыяльны падыход назіраецца ў такіх словах са значэннем адзінкавасці, як *бульбіна, морквіна, газеціна* (звычайна абы-якая), *крупіна.* Да размоўных адносяцца найменні асоб жаночага полу па прафесіі, якім у кніжных стылях адпавядаюць агульнапрафесіянальныя найменні: *брыгадзірка — брыгадзір, майстрыха — майстар, дакторка — доктар.* Назвы асоб па прафесіі, роду занятку, месцы работы вызначаюцца высокай частотнасцю ў гутарковай мове. Асабліва ўжывальныя намінацыі па месцы работы, па назве ўстановы, прадпрыемства: *лімаўцы, звяздоўцы, маладосцеўцы, палымянцы, універсітэтчыкі, камунараўцы* (работнікі

---

[32] Ахманова О. С. Очерки по общей и русской лексикологии. М., 1957. С. 251.

ф-кі «Камунарка»), *інтэгральшчыкі*. Спецыфічнымі для размоўнага стылю з'яўляюцца пагардлівыя назвы некаторых прафесій: *пісака* (журналіст), *вершаплёт* (паэт), *канавал, эскулап* (урач).

Адценне размоўнасці маюць назвы асоб па прафесіі і сферы працы, шырока ўжывальныя ў публіцыстыцы, але не прыгодныя для афіцыяльна-дзелавых тэкстаў: *абаранчнікі, абутнікі, газавікі, газетчыкі, гарнізоннік, нафтавік, рамонтнік, тэлевізійшчык*, а таксама назвы хворых — *гіпертонік, дальтонік, дыябетчык, падагрык, рэўматык, сардэчнік*. Характар размоўнасці маюць і зборныя назоўнікі: *гнілле, дуддзё, рыззё, суччо*.

Дзеясловы размоўнай лексікі вызначаюцца таксама бытавой канкрэтнасцю семантыкі. У большасці такія дзеясловы абазначаюць дробныя, не вельмі значныя дзеянні, якія не выходзяць за межы паўсядзённага жыцця чалавека: *абалваніць, аблапіць, аблезці, абленавацца, аблапацца, аблапаць, акрывець, бубніць, войкаць, выскаляцца, гадзіцца, галёкаць, гікаць, гоцаць, гундосіць, гупаць, дудукаць, дурыць, екатаць, жвякаць, керхаць, нагалубіцца, парэпацца, прыкархнуць, сёрбаць* і інш. Спецыфічна бытавы пункт гледжання на назву дзеяння праяўляецца ў дзеясловах *абáбіцца, не абабрацца, аблаташыць, набрацца, прыткнуцца*: — *Яе аднагодкі — вунь, скажам, Кашына! — даўно ўжо* а б á б і л і с я, *заўчасна пастарэлі,* р а с п л ы л і с я, *як цеста* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні); *Ды і выгляд наш быў не ранейшы, не адразу пазнаеш,— абраслі барадамі,* а б а д р а л і с я (В. Быкаў. Абеліск); — *Учора ў суседа сад, мабыць, хацелі* а б л а т а ш ы ц ь, *бо сабака аж роў ад злосці...* (М. Капыловіч. Скрозь жывуць людзі); *Аляксандр* п р ы т к н у ў с я *на краёчку лаўкі, прыплюшчыў вочы, але не спаў* (С. Грахоўскі. Рудабельская Рэспубліка).

Да размоўных адносяцца і назвы дзеянняў жывёл, ужытыя ў дачыненні да чалавека: *бэкаць, гайкаць, гергетаць, курняўкаць, мэкаць, яўкаць*.

Размоўная лексіка вызначаецца яскравай семантычнай экспрэсіўнасцю. Якасная характарыстыка дзеяння з'яўляецца вызначальнай для большасці дзеясловаў, якія ўтвараюць шматкампанентныя сінанімічныя рады, як, напрыклад, сінонімы з агульным значэннем 'ісці': *валачыцца, віхляць, драбязіць, дрыпаць, дыбаць, калдыбаць, кастыляць, каціцца, паўзці, перці, праставаць,*

*сігаць, сунуцца, траляваць, трусіць, тэпаць, цюпаць, цягнуцца, чыкільгаць, шаркаць, шкандыбаць, шлёпаць, шоргаць.* Дзеясловы гэтага рада надзелены здольнасцю ствараць вобраз, жывую карціну дзеяння — хады. Інварыянтнае значэнне 'запэцкаць адзенне' аб'ядноўвае досыць вялікі рад размоўных экспрэсіўных дзеясловаў: *абрабіць, забрындаць, завэдзгаць, загнюсіць, заквэцаць, залапаць, заляпаць, замэдзгаць, запаганіць, зашмальцаваць* і інш. Аналагічныя рады ўтвараюць дзеясловы са значэннем 'есці', 'біць', 'глядзець' і інш. Вобразнасць, экспрэсіўнасць размоўнай лексікі падтрымліваецца і абумоўліваецца празрыстай унутранай формай: *адшматаць* 'неакуратна адарваць шматок, шматкі'; *адшмуляць* 'адрэзаць чым-н. тупым' (*шмуляць* 'церці'); *адпаласаваць* 'моцна збіць каго-н. рэменем, плёткай, пакінуўшы на целе палосы'; *жабаваты* 'няроўны, бугрысты', *жабіцца* 'моршчыцца, набываць выгляд жабінай скуры'.

Асноўны пласт размоўнай лексікі складаюць словы эмацыянальна-экспрэсіўнай ацэнкі. Тут сустракаюцца характарыстычныя словы з нейтральнай, станоўчай і часцей з негатыўнай ацэнкай. Лічыцца агульнапрызнаным, што словы негатыўнай ацэнкі значна пераважаюць. Да эмацыянальнай лексікі са станоўчай ацэнкай адносяцца словы з ласкальным значэннем (*булёнчык, галубачка, мучыца, песенька; адзінюсенькі, добранькі, навюткі; раненька, сённенька*); характарыстычныя назвы чалавека (*дружбак, дружа, здаравіла, сябрук, таварышок, галавасты*).

Негатыўная ацэнка можа ўваходзіць семантычным кампанентам у структуру лексічнага значэння слова і абазначаць, напрыклад, што пэўнае дзеянне выконваецца дрэнна, не так, як патрабуецца (*балбатаць, крэмзаць, мямліць, набўхаць, пілікаць, трэнькаць*), можа ўказваць на характар, спосаб дзеяння (*дарвацца, змікіціць, знюхацца, пеpакалупаць*), абазначаць наяўнасць празмернай, непажаданай якасці (*даўгалыгі, галасіна, глухмень, даўжэзны*). Негатыўная ацэнка можа адносіцца да дзеяння, прадмета, з'явы цалкам (*галас, гармідар, навалач, прастытуцыя, прышпандорыць*). Асабліва характэрнымі тут будуць эмацыянальна-экспрэсіўныя найменні асобы: па прымеце росту (*вярзіла, гаргара, граміла, дылда*), па разумовых якасцях і практычных здольнасцях (*дубіна, дурань, дурыла, праныра*), па

уласцівых дзеяннях (*абжора, абібок, абірала, абдзірала, гарлахват, жлукта, назола, падбухторшчык*).

Семантычная асаблівасць размоўнай лексікі праяўляецца не толькі ў яе канкрэтнасці, але і ў вобразнасці, метафарычнасці, выражанай праз канкрэтную прадметнасць. Прадметная канкрэтнасць слоў бытавога ўжытку не патрабуе спецыяльных доказаў, што відаць з прыведзеных вышэй прыкладаў. Спецыфіка гэтага лексічнага пласта заключаецца і ў тым, што адцягненыя, абстрактныя паняцці выражаюцца канкрэтна, праз знешнія прыметы: *адвязацца* 'пазбавіцца ад каго-н. дакучлівага, назойлівага або непрыемнага, непажаданага'. Значэнне ўзнікла як пераноснае ад першасных 'развязаўшыся, аддзяліцца (аб вяроўцы, канаце і пад.)'; 'вызваліцца ад прывязі, стаць непрывязаным'. Пераноснымі з'яўляюцца размоўныя значэнні слоў *адбарабаніць* 'адслужыць доўгі час на якой-небудзь малацікавай рабоце', *адкапаць* 'адшукаць, вынайсці што-н. забытае, малавядомае', *адкукаваць* 'адбыць нейкі час у цяжкіх умовах', *адбрыквацца* 'настойліва адмаўляцца ад чаго-н. непажаданага', *адстукаць* 'адбыць прызначаны тэрмін (зняволення, службы)', *адрыгнуцца* 'выклікаць непрыемныя для каго-н. вынікі (пра зробленае каму-н. зло)'.

Асаблівую складанасць у тэарэтычным і практычным (лексікаграфічным) плане выклікае адрозненне размоўнай і прастамоўнай лексікі. Ф. П. Філін для рускай мовы прапаноўваў тэорыю, па якой адрозніваюцца літаратурнае прастамоўе, якое выконвае пэўную стылістычную ролю, і нелітаратурнае — маўленне той часткі насельніцтва, у першую чаргу гарадскога, якое яшчэ недастаткова авалодала літаратурнымі нормамі[33]. Для беларускай мовы пытанне аб прастамоўнай лексіцы ставіцца інакш. Да прастамоўнай лексікі беларускай мовы адносяцца лексічныя адзінкі зніжанага размоўнага пласта — грубыя, лаянкавыя словы з адценнем зняважлівасці, пагарды, неадабральнасці. Такія словы ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» пазначаліся паметамі *разм. груб., разм. лаянк., груб., лаянк.* Прастамоўныя словы ўжываюцца ў літаратурнай мове ў мэтах зніжанай, грубаватай характарыстыкі прадмета гаворкі або самога гаворачага. *Кумпал* 'галава', *мурло* 'пра чалавечы твар', *морда* 'пра чалавека'; *аблапошыць, гарла-*

[33] Русский язык в современном мире. М., 1974. С. 115.

*паніць, закапыліць (губы), загнуцца* 'памерці' можна пачуць у мове адукаваных людзей, якія гавораць на літаратурнай мове, у экстрэмальных сітуацыях — запале, злосці або, напрыклад, у гаворцы пра сябе, пра сваіх блізкіх, прыяцеляў з адценнем фамільярнасці: *«Загнешся тут, на такой рабоце, і ўсё»; «Мы там абжыраліся абрыкосамі»; «Умалоў місу кашы, бліноў штук з пяток».*

Грубыя размоўныя словы вызначаюцца пераважна негатыўным значэннем (*аболтус, абразіна, аздобіна, галган, гіцаль, даўбешка, заразіна, ідал, ідыёт, карова, крэцін, поскудзь, прахвост, пудзіла* і інш.), ужытыя ў дачыненні да чалавека, яны носяць характар лаянкі. Такая лексіка з пэўнай стылістычнай функцыяй ужываецца ў творах мастацкай літаратуры як сродак моўнай характарыстыкі персанажаў: *Адно неадчэпнае чаўплося ў галаве: Генадзь п р а х в о с т, ён ажаніўся з Вікторыяй, каб затуліцца на гады вучобы за ягоную, Міхалаву, спіну* (Р. Сабаленка. Спатканне пасля разлукі); — *Каб мае вочы цябе не бачылі, з а р а з і н у такую!* (І. Пташнікаў. Калістрыха).

Размоўныя зніжаныя, грубыя словы могуць выражаць таксама зняважлівыя, пагардлівыя адносіны да аб'екта гаворкі.— *Ішоў бы ты, Гараська, на ферму, а то каб позна не было,— гаворыць маці.— Прыбяжыць ё к а л а гэты, пачне б а л а б о н і ц ь* (А. Масарэнка. На бабровых тонях); *Пазбіраліся тут гэтыя п л я г і, ды п л я в у з г а ю ц ь, ды б а л б о ч у ц ь чорт ведама што* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

Сканцэнтраванае ўжыванне размоўных і прастамоўных слоў можа ствараць патрэбны эмацыянальны тон грубасці або іранічнасці: — *Майчы, ш ч а н ю к! У-у-у! В ы р а д к і з л ы д н ё в ы я!* — *вылупіў вочы на хлапцоў Шардыка* (Хв. Шынклер. Петрык-завадатар); *Ды перабраў тут дзядзька меру: На слуп узбіўся, н а х а л е р у, Дый так аб п а д л у штурхануўся, Што свет яму перавярнуўся, На брук зляцеў ён з тратуару, Перакруціўся разоў пару* (Я. Колас. Новая зямля).

Праблема вылучэння размоўнага пласта лексікі застаецца нявырашанай і дыскусійнай да апошняга часу. Адным з крытэрыяў аднясення слова да размоўнага з'яўляецца наяўнасць агульнаўжывальнага сіноніма: *завядзёнка* — размоўны сінонім да *звычай, ачмуціць* — да *ашукаць, бессань* — да *бяссонніца, разніца* — да *бойня, улазіны* — да *ўваходзіны.*

Некаторыя стылістычныя адпаведнікі да агульнага, інварыянтнага значэння адрозніваюцца экспрэсіўнымі канатацыямі. Напрыклад, *налаташыць* — гэта нарваць, але нарваць многа, без разбору, псуючы і спусташаючы; *нямоглы* ў параўнанні са *слабы* падкрэслівае няздатнасць да фізічнага напружання; *нядошлы* — *слабы* і невялікі; *нягеглы* — не проста слабы, але таксама нязграбны, непрыглядны; *дрындушка* — гэта абы-якая, малаканаватая цацка; *нялюдскі* — дрэнны, не такі, як у людзей, не такі, якім павінен бы быць; *дрыгацець* — уздрыгваць дробна і часта; *пагрызціся* — пасварыцца, злосна лаючыся і г. д. У шэрагу слоў, якія прыйшлі ў літаратурную мову з дыялектаў, размоўнасць праяўляецца толькі пры супастаўленні з агульналітаратурнымі адпаведнікамі: *мяшанец — метыс, жмакі — жамерыны, дзяцюк — юнак, абганяць — акучваць, гіль — снягір, гарнітур — касцюм, гамузам — агулам, габлюжка — стружка, галень — дзяркач, аднамыснік — аднадумец.*

Размоўнымі могуць лічыцца сінонімы, якія адрозніваюцца фанетычна ад агульналітаратурных слоў (*абрыдаць — абрыдзець, гуркі — агуркі, жваць — жаваць, дзерава — дрэва*). У гутарковай мове дастаткова пашыраныя скарочаныя формы слова (*дзесь — дзесьці, до — досыць, ё — ёсць, мо — можа, нат — нават*), некаторыя словаўтваральныя формы (*абрадзініцца, абрадзіцца — нарадзіць, абразнік — абражальнік, гнілата, гнілізна — гніль, двойня — двайняты, дзяржак, дзяржальна — дзяржанне, жабрачыць — жабраваць, жвака — жвачка, жураў — журавель, мянташыць — мянціць, нямко — нямы, нямашака — няма, няўтомны — нястомны*). Прыведзеныя і падобныя сінонімы, будучы семантычна тоеснымі, з'яўляюцца стылістычнымі. Да стылістычных сінонімаў адносяцца пары слоў тыпу *забыцца — забыць, муляцца — муляць*.

Размоўная лексіка вызначаецца развітой словаўтваральнай сінанімікай, асабліва сярод эмацыянальна-ацэначнай лексікі: *дурань, дурыла, дуралей, дурында, дурны; доўбня, даўбешка, даўбень, надаўбень*. Размоўная лексіка мае і спецыфічныя словаўтваральныя мадэлі. Да суфіксаў гутарковай мадыфікацыі адносяцца, напрыклад, суфіксы назваў асобы па рысах характару *-ун, -ух-а, -аг-а, -іц-а, -ак-а, -іл-а(-ыл-а), -ал-а: весялун, пяюн, рагатуха, паскакуха, трудзяга, туляга, дурніца, гуляка, задавака, дурыла, боўдзіла, здаравіла, абдзіра-*

ла. Размоўнымі лічацца суфіксы назваў бытавых прадметаў, з'яў: *-ах-а, -тв-о, -эч-а: абліваха, апінаха, апранаха, пітво, шытво; прастэча, макрэча;* суфіксы найменняў якасці, занятку, стану *-ацін-а, -ства-а: кісляціна, трухляціна, здыхляціна, жаніхоўства, кавалерства* і інш.

Гутарковую адметнасць маюць словаўтваральныя мадэлі з элементам *-к-а.* Часцей за ўсё размоўнасць дэрыватаў з *-к-а* спалучаецца з суб'ектыўнай ацэнкай або значэннем памяншальнасці, рэдка — зневажальнасці (*бабулька, зязюлька, мамка, зямелька; галоўка, кніжка; газетка*). Словы з памяншальна-ласкальным суфіксам *-к-а* характэрныя для мовы мастацкай літаратуры: *Сонейка заходзіць, І кладуцца цені, І плывуць хмурынкі У ціхім задуменні* (Я. Колас. Вячэрнія хмаркі).

Другой пашыранай функцыяй суфікса *-к-а,* дзе праяўляецца яго «абстрагуючая сіла», з'яўляецца ўтварэнне сцягненых найменняў на базе дэрывацыйных словазлучэнняў: *ліпаўка* (ліпавая бочка), *маторка* (маторная лодка), *дыетка* (дыетычная сталовая), *двойка* (аўтобус, тралейбус пад № 2), *сотка* (лямпачка ў 100 ват), *агітка* (чыста агітацыйны твор), *дывізіёнка* (дывізіённая газета), *нулёўка* (нулявы клас), *гарохаўка* (гарохавы суп), *грымёрка* (грымёрны пакой). Сюды ж прымыкаюць суфіксальна-складаныя ўтварэнні: *двухрадка, дзесяцівёрстка, дзесяцігодка, паўлітэрка, пяцітонка, трыццацьчацвёрка.* Падобныя дэрываты, утвораныя шляхам семантычнай кандэнсацыі («сцяжэння»), вельмі пашыраны ў мастацкіх, публіцыстычных, асабліва газетных, творах, у мове радыё, тэлебачання.

Суфікс *-к-а* ўтварае размоўныя назвы жанчын па прафесіі і занятку (*агітатарка, дакторка, дэкламатарка, мадэльерка, фельчарка*), якія ў афіцыяльна-дзелавых тэкстах не ўжываюцца і перадаюцца назоўнікамі мужчынскага роду.

Для гутарковага стылю характэрны спосаб утварэння новых слоў шляхам усячэння, чыстага і суфіксальнага: *дэкрэт, дэмісезон, маг* 'магнітафон', *прымітыў, велік, тэлік, фоцік.*

Сярод дзеясловаў размоўнага пласта таксама можна выдзеліць пэўныя спецыфічныя для гутарковага стылю словаўтваральныя мадэлі. Размоўнымі з'яўляюцца дзеясловы, утвораныя ад выклічнікаў: *айкаць, войкаць, вохкаць, нокаць, нукаць.* Сродкамі стылістычнай дыферэнцыяцыі з'яўляюцца таксама прыстаўкі. Пры дапамозе

прыстаўкі *па-* ад прыставачных дзеясловаў незакончанага трывання ўтвараюцца дзеясловы закончанага трывання, ужывальныя ў размоўным і мастацкім стылях: *паабганяць, павыдумляць, павысаджваць, павыказваць, пазаганяць.* Прыстаўка *папа-* таксама ўтварае размоўныя дзеясловы: *папагуляць, папарабіць, папахаджваць.* Прыстаўка *ад-* са значэннем немагчымасці болей выконваць пэўнае дзеянне, *да-* са значэннем непажаданага выніку пэўнага працяглага дзеяння, *на-* са значэннем доўгачасовасці, працягласці дзеяння надаюць дзеясловам таксама значэнне размоўнасці: *адбамбіцца, адваяваць, адскакаць; дабегацца, даплавацца, даскакацца, датанцавацца, дачытацца; надрыжацца, накасіцца, накрычацца, налазіцца, намерзнуцца, намілавацца, намітынгавацца, намітусіцца, нахадзіцца.*

Размоўнымі з'яўляюцца прыметнікі з суфіксам *-еньк-, -енечк-, -ютк-, -юсеньк-, -озн-, -энн-: роўненькі, маленечкі, нізюткі, драбнюсенькі, шырозны, высачэнны.* Прыметнікі недастатковай або збыткоўнай якасці з суфіксамі *-ават-(-яват-),* прыстаўкай *за-* таксама адносяцца да размоўных: *драбнаваты, гультаяваты, малайцаваты; завялікі, задоўгі, зацесны.*

Размоўны пласт лексікі папаўняецца за кошт слоў тэрытарыяльна абмежаваных. Пры страце абмежаванасці абласныя па паходжанню словы могуць уваходзіць у нейтральны пласт літаратурнай мовы, а часам становяцца прыналежнасцю размоўнай лексікі.

У размоўны пласт літаратурнай мовы пераходзяць найменні, якія маюць літаратурны эквівалент і якія атрымалі зніжаную кваліфікацыю (*галас—крык, скабка—стрэмка, цыбалка—сцябло, уладкавацца—уладзіцца, хлепа—слота*), эмацыянальна афарбаваныя (*лыкаць, фацэт, фацэтны, чапурыцца* і інш.), словы, якія абазначаюць прадметы побыту (*падворак, рынка, шыдэлак*). Некаторыя абласныя словы ўвайшлі адразу ў нейтральны пласт літаратурнай мовы (*рала, сасняк, ставок*). Шляхі і прычыны нейтралізацыі абласных слоў складаныя і разнастайныя, і толькі даследуючы лёс канкрэтных слоў, можна выявіць агульныя заканамернасці.

Нягледзячы на наяўнасць пэўных фармальных паказчыкаў стылёвай аднесенасці таго ці іншага слова, крытэрыем кадыфікацыі часта застаецца моўнае чуццё даследчыка. Таму вельмі часта стылёвая характарыстыка слова ў нарматыўных слоўніках аспрэчваецца тымі

лінгвістамі, якія даводзяць, што ўжыванне пэўнага слова класікамі літаратуры ўжо з'яўляецца ахоўнай граматай ад занясення яго ў лік размоўных. Але «правільным, адпаведным норме звычайна прызнаецца тое, што не рэжа слых нармалізатара, а тое, што яго моўнае чуццё адхіляе, лічыцца ненарматыўным, якім бы аўтарытэтным і шаноўным ні быў пісьменнік-класік, які б вялікі ні быў «стаж» з'явы і да т. п.»[34]

Размоўная лексіка не мае абмежавання ў выкарыстанні яе мастакамі слова. І класікі беларускай літаратуры не маглі абыходзіцца без размоўных і прастамоўных слоў у стварэнні жывых сцэн народнага жыцця, для характарыстыкі мовы персанажаў, іх паводзін і ўчынкаў. *Да гэтага часу людзі паабмалочваліся, толькі ў кагосьці аднаго гупаў на таку старасвецкі цапок. Работа ў гаспадароў была гэтакая, што калі не калупацца з ёю, дык сумленне вельмі мучыць не будзе. Некаторыя, значыцца, гэтага сумлення і не баяліся: папоўдні, на санцапёку, ля кузні, людзей-такі ніштавата назбіралася* (К. Чорны. Рамонтная брыгада).

Трапляючы ў мастацкія творы, у публіцыстыку, гутарковыя словы «выклікаюць уражанне прастаты, жывасці, некаторай вольнасці маўлення і ўносяць разнастайныя адценні экспрэсіі»[35]. *Ля будак па-ранейшаму капыцілі асфальт даўгагрывыя рагатуны. — Пайдзі папытай у іх, калі такі смелы.— Ну, поскудзь! — У бяссільнай злосці вылаяўся Жэўжык і зноў палез у машыну шукаць прапажу* (М. Клебановіч. Палюбоўніца). Тут без размоўнай, эмацыянальнай лексікі пісьменніку цяжка перадаць унутраны стан героя, у якога ўкралі «дворнікі» з машыны, як толькі ён адышоўся. Ён ва ўсіх гатовы бачыць злодзеяў, таму і гаворыць, што ля будак тэлефонных стаяць не маладыя людзі, не юнакі, а «капыцяць асфальт даўгагрывыя рагатуны».

Цяпер, калі рэзка ўзрасла роля публіцыстыкі ў фарміраванні грамадскай думкі, у развіцці дэмакратызму грамадства, павышаецца эмацыянальнасць нарысаў і газетных артыкулаў, рэпартажаў і расследаванняў. Дэмакратызацыя грамадства не можа не адбіцца на мове таксама ў выглядзе дэмакратызацыі, у набліжэнні яе да

---

[34] Петрищева Е. Ф. Стилистически окрашенная лексика русского языка. С. 37.

[35] Гвоздев А. Н. Очерки по стилистике русского языка. С. 77.

гутарковай, таму ўжыванне размоўных, эмацыянальна-экспрэсіўных слоў не толькі дапушчальнае ў мове газет, радыё і тэлебачання, але і стылёва неабходнае: *Іначай рызыкуем атрымаць яшчэ адно пакаленне* *г а р л а с т ы х* *а н т о ш а к*, *у якіх на ўсе выпадкі жыцця* *п р ы з а п а ш а н а* *а б е д з е н н а я* *л ы ж к а* *і лозунг: «А мне што, больш за ўсіх трэба?!»* (Чырвоная змена. 19.V 1988. С. 1); *Высвеціўшы сваю* *с л а б і н к у* *да рознага роду спакус, некаторыя ўладарныя асобы заслужылі «любоў» і «павагу» прэсы. Магчыма, яна ім зусім і не патрэбна... і* *з а с е л а* *к а м я к о м* *у* *г о р л е... Шчыра скажу: ніякага намеру лішні раз* *«у к у с і ц ь»* *кіраўнічае спадарства ў мяне няма* (Звязда. 27.XI 1993. С. 1). *У лесе стала* *в о б м а л ь* *грыбоў і ягад, птаства і дзічыны, шмат дзе перасохлі крыніцы* (ЛіМ. 5.II 1988). І ў мове навукі ўсё часцей можна сустрэць уласцівыя гутарковай мове вобразныя, метафарычныя выразы: *«Без сапраўднага гаспадара зямля — сірата»,— гаворыць вядомы савецкі земляроб Ц. С. Мальцаў, і нельга не пагадзіцца з такім меркаваннем. Дададзім, што і без гаспадыні, асабліва без маладой, зямля — сірата ўдвая»* (Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 1).

Такім чынам, выкарыстанне размоўнай лексікі з'яўляецца эфектыўным сродкам павышэння выразнасці мовы і ў кніжных стылях, апрача афіцыяльна-дзелавога.

## § 4. СТЫЛІСТЫЧНЫЯ СРОДКІ ЛЕКСІКІ: ЭКСПРЭСІЎНАЯ ЛЕКСІКА

Калі міжстылёвы, кніжны і размоўны лексічныя фонды характарызуюцца стылістычнай маркіраванасцю, звязанай са сферай ужывання гэтых моўных сродкаў, то стылістычная афарбоўка экспрэсіўнасці звязваецца са здольнасцю слова выражаць суб'ектыўныя ўяўленні гаворачага аб з'явах рэчаіснасці, эмацыянальныя і ацэначныя адносіны суб'екта да прадмета гаворкі і ўласных адчуванняў.

У моўных актах камунікацыі першае і галоўнае месца адводзіцца намінатыўнай лексіцы, а экспрэсіўныя лексічныя адзінкі адыгрываюць дапаможную ролю як у камунікатыўным працэсе, так і ў пазнавальнай дзейнасці наогул. Мова валодае дастатковай нязменнасцю, каб забяспечыць зносіны і ўзаемаразуменне, але і дастатковай гнуткасцю, каб праз яе выражаць разнастайнасць думак,

ацэнак, адносін і пачуццяў гаворачых. Важнасць экспрэсіўнай функцыі мовы прызнаецца многімі лінгвістамі, асабліва ярка і шырока гэта функцыя праяўляецца ў гутарковым маўленні, у мове мастацкай літаратуры і публіцыстыкі.

Пад экспрэсіўнай функцыяй мовы можа разумецца здольнасць выражаць думкі і пачуцці гаворачых (Л. У. Шчэрба) або толькі эмацыянальна-псіхічную дзейнасць чалавека (В. С. Ахманава, Р. А. Будагаў, А. А. Уфімцава), здольнасць узмацняць уздзеянне моўнага тэксту на слухача, чытача (Ш. Баллі, Е. М. Галкіна-Федарук, І. В. Арнольд). У цэлым экспрэсіўная лексіка, г. зн. словы з экспрэсіўнай функцыяй, выражаючы эмоцыі і пачуцці чалавека, суб'ектыўную і аб'ектыўную ацэнку, характарызуючы прадмет гаворкі, узмацняюць выразнасць маўлення.

Знешняя рэчаіснасць, у якой ёсць месца самым розным з'явам — добрым і дрэнным, гераічным і подлым, моцным і слабым, праходзячы праз суб'ектыўнае ўспрыняцце, нараджае ў мове даволі пярэсты набор экспрэсіўных сродкаў, большасць з якіх адносіцца да лексічнага фонду. Экспрэсіўнае слова не столькі называе прадмет, з'яву, колькі дае ім ацэнку і перадае эмоцыі, якія яны выклікаюць. Для выказвання высокіх, узнёслых пачуццяў гаворыцца *айчына, доблесны, правадыр*. Слова *халупа* азначае не проста хату, а 'несамавітую, непрыглядную, прыстасаваную для жылля хату'. Экспрэсіўнае слова можа выражаць вельмі высокую або вельмі нізкую ступень пэўнай прыметы. Параўн.: *лупіць* гаворыцца пра моцны, вялікі дождж, а *плесціся* — пра павольную, марудную хаду, *шалёная* — пра скорасць, якая не проста высокая, але можа прывесці да непажаданых вынікаў, *гармідар* 'незвычайны непарадак ва ўсім і ўсюды'.

Экспрэсіўнае слова можа характарызаваць з'яву праз уяўленне, выкліканае асацыятыўнымі сувязямі з іншай з'явай, прадметам: *арол* 'пра чалавека мужнай прыгажосці, адважнага, смелага', *мядзведзь* 'пра чалавека няўклюднага, непаваротлівага, дужага'; *свістаць* 'гультайнічаць, не працаваць'. Такім чынам, экспрэсіўнасць— гэта ўласцівасць адзінкі, якая праяўляецца ў яе «здольнасці актуалізаваць якасна-колькасную характарыстыку рэальнага прадмета, вылучыць асаблівасці дадзенага прадмета на фоне аднайменных з ім прадметаў і выразіць эмацыянальную ацэнку прадмета маўлення, дадзе-

ную яму ад імя гаворачага»[36], выказваць эмацыянальныя адносіны гаворачага. Супастаўленне чыста намінатыўных слоў і экспрэсіўных дазваляе выявіць экспрэсіўна-ацэначныя, эмацыянальныя элементы толькі ў другіх: *дагавор — змова; фурманка — калымага; памерці — адысці, акачурыцца, здохнуць, аддаць канцы; прыгожы — маляўнічы; дзівосны, непаўторны; нелюдзімы — ваўкаваты; каханне, любоў — міліванне, мілосці, любошчы.* У апошніх працах па лексікалогіі вылучаюцца тры кампаненты экспрэсіўнасці — «эмацыянальная ацэнка», «інтэнсіўнасць», «вобразнасць». Нам здаецца, варта адасобіць і кампанент «эмацыянальныя адносіны», паколькі выражэнне пачуцця ласкавасці, жалю, незадаволенасці не заўсёды суправаджаецца ацэнкай. Параўн.: *галоўка баліць, кволенькія ножкі, такі мізэрны хлопчык.* Экспрэсіўна афарбаваная лексіка мае больш складаную сэнсавую структуру, чым нейтральная лексіка. Лексічнае значэнне экспрэсіўнай адзінкі складаецца з двух кампанентаў: прадметна-сігніфікатыўнага і канатацыйнага. Канататамі экспрэсіўнай адзінкі могуць быць «эмацыянальныя адносіны да прадмета гаворкі», «эмацыянальная або эмацыянальна-інтэлектуальная ацэнка», «інтэнсіўнасць», «вобразнасць». Семантыка экспрэсіўнага слова абумоўлена наяўнасцю аднаго або сукупнасцю двух ці ўсіх чатырох канататыўных кампанентаў экспрэсіі. Часта ў адно спалучаюцца эмацыянальнасць і ацэнка, інтэнсіўнасць і ацэнка, вобразнасць і ацэнка.

Эмацыянальнасць уласціва той лексіцы, якая перадае эмоцыі суб'екта, выкліканыя з'явамі, прадметамі рэчаіснасці, названымі словам. Эмоцыі можа выклікаць прадмет або з'ява неардынарныя, з яскравымі прыметамі, якія іх вылучаюць сярод падобных. Эмацыянальныя адносіны выступаюць ужо як суб'ектыўныя, як перажыванні пэўнага індывіда. Чыста эмацыянальных слоў нямнога: да іх, напрыклад, адносяцца выклічнікі, якія не маюць намінатыўнага значэння, а служаць для выражэння пачуццяў (*ай! гэй! фу! чорт!*), звароты ветлівасці (*галубок, браток, братка, дзеткі*). Гэтыя словы надзелены таксама і экспрэсіўнасцю.

Складанасць узнікае пры стылістычнай класіфікацыі слоў, якія абазначаюць пачуцці, а таксама выклікаюць

[36] Лукьянова Н. А. Экспрессивная лексика разговорного употребления. Новосибирск, 1986. С. 43.

у чытача, слухача пэўныя эмоцыі, дзякуючы сваім асацыятыўным сувязям. Мы лічым, што да стылістычна маркіраванай (эмацыянальна афарбаванай) лексікі не адносяцца словы, якія абазначаюць эмоцыі, перажыванні, пачуцці (*радасць, любоў, нянавісць, смутак, злосць*), словы, якія называюць станоўчыя або адмоўныя прадметы, з'явы, прыметы, дзеянні і г. д., выклікаючы ў слухача, чытача пэўныя эмацыянальныя адносіны да прадмета, аб'екта намінацыі, разам з тым нічога не кажучы аб тым, як да гэтага аб'екта ставіцца гаворачы (*злодзей, магіла, пажар, патоп, труна*). Існуе процілеглы пункт погляду, згодна з якім да стылістычна нейтральных слоў нельга аднесці словы тыпу *труна, смерць, паэзія, бруд, беднасць, забойства, магіла*[37]. Відавочна, што такія словы, не маючы яскравай экспрэсіі, эмацыянальна-ацэначных сем, выклікаюць пэўныя асацыяцыі і эмоцыі ў чытача, што і выкарыстоўваецца для надання стылістычнага эфекту ў тэксце, гаворцы. Сувязь мовы і рэчаіснасці праяўляецца ў тым, што не толькі ў мове адлюстроўваецца жыццё, але і жыццё дае ключ для разумення многіх моўных з'яў. Рознага роду асацыяцыі, звязаныя з дэнататыўна-прадметным зместам пэўнай катэгорыі намінацыі, здольны выклікаць моцныя пачуцці. На гэту ўласцівасць разлічана ўжыванне іх у тэкстах яскравай публіцыстычнай накіраванасці, хоць самі па сабе гэтыя намінацыі не лічацца стылістычна афарбаванымі. Экспрэсія тэксту ў цэлым уваходзіць састаўной часткай у яго інфармацыйна-зместавае адзінства. Аналіз цыкла публіцыстычных артыкулаў ваеннага часу аб барацьбе беларускага народа з нямецкімі акупантамі паказаў, што ўсе асноўныя сэнсавыя блокі — '*дзеянні ворага* на акупіраванай зямлі', '*барацьба* з ворагам', 'народная *помста*', '*даваеннае* жыццё', '*упэўненасць* у перамозе' — стылістычна абумоўлены. Ключавую інфармацыю аб дзеяннях ворага перадаюць намінацыі, якія рэалізуюць сваё прамое значэнне і адносяцца да тэматычнага поля знішчэння (*забойства, шыбеніца, амярцвіць, гарэць*), здзеку (*гвалтаўнік, апаганіць, згвалтаваць*), захопніцтва (*захопнік, захапіць, калючы дрот*). Падобныя нейтральныя са стылістычнага боку намінацыі можна аднесці да

---

[37] Скребнев Ю. М. Очерки по теории стилистики. Горький. 1975. С. 162; Петрищева Е. Ф. Стилистически окрашенная лексика русского языка. С. 103—124.

слоў эмацыянальна-экспрэсіўных па функцыі, паколькі яны надаюць пэўную эмацыянальнасць тэксту і выклікаюць пачуцці ў тых, да каго накіраваны тэкст. Некаторыя беларускія даследчыкі адносяць да эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі словы *ласка, любоў, гнеў, нянавісць, вясёлы, ласкавы, грубы, любіць, ненавідзець, радасна, сумна,* лічачы, што ў самім значэнні гэтых слоў выражаецца дадатная ці адмоўная эмацыянальна-экспрэсіўная ацэнка [38]. Як відаць, пры адзіным тэарэтычным падыходзе практычная дыферэнцыяцыя лексікі можа ажыццяўляцца па-рознаму.

Спектр эмацыянальных рэакцый чалавека досыць шырокі: ласка, жаль, спачуванне, захапленне, узнёсласць, раздражненне, пагарда, абурэнне, іронія, жартаўлівасць і інш. Не ўсе яны замацаваны ў экспрэсіўных словах як канататыўныя кампаненты. У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» адзначаюцца такія эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні слоў, як высокае, жартаўлівае, зневажальнае, зніжанае, іранічнае, ласкальнае, лаянкавае, неадабральнае, пагардлівае, фамільярнае. Уся разнастайнасць адценняў экспрэсіўна-эмацыянальнай афарбоўкі можа быць зведзена да падзелу на ўзвышаныя і зніжаныя эмоцыі. Да ўзвышанай лексікі адносяцца словы, якія абазначаюць прадметы, з'явы, што ўзвышаюцца над будзённасцю (*бацькаўшчына, геройства, доблесны, карыфей, катаклізм, падзвіжнік, прамаці* і інш.), а таксама словы, уласцівыя тэкстам урачыстым, паэтычным, у якіх выражаюцца высокія і высакародныя пачуцці. Такія словы быццам пераймаюць эмацыянальнасць тэкстаў, і яна праяўляецца ў іх ужо па-за тэкстам, на моўным узроўні ў слоўнікавым значэнні (*ветразь, вешчаваць, воін, воінства, выгнаннік, вынаходнік, вяршыцель, вячысты, гадзіна, змаганне, кагорта, мінуўшчына, нязгасны, палымяны, плеяда, раць, чара*).

І Беларусь тады не знала,
Хто быў выгнаннік той,— яна,
Многапакутная, ляжала,
Уся ў прыгонных кайданах.

(*А. Александровіч. Шлях выгнання*)

*Што ўяўляе сабой сучасная беларуская літаратура?.. Гэта літаратура, якая апявае святую помсту і заклікае*

[38] Красней В. П. Грані слова. Мн., 1986. С. 124.

*да помсты, нязгаснай, як сонца, моцнай, як жыццё. Суровай і бязлітаснай помсты ворагу* (М. Лынькоў. Мы пераможам).

Словы з узвышанай эмацыянальнай афарбоўкай часта абазначаюць грамадска важныя з'явы:

Ёсць вялікі рахунак адзіны,
Ён і твой асабісты, лічы:
Веліч, гонар і слава Радзімы,
Што прыдбаў — да яго далучы.

*(Н. Гілевіч. Успамін пра першае спатканне з Балгарыяй)*

Узвышаную эмацыянальную ацэнку могуць мець і словы з нейтральным з пункту гледжання важнасці зместам. Слова *кагорта* абазначае групу людзей, згуртаваных агульнымі ідэямі, мэтамі. Узвышанасць эмацыянальнай афарбоўкі вызначаецца кантэкстамі, з якіх відаць, што *кагорта* — аб'яднанне перадавых людзей, з перадавымі поглядамі. *Цудоўную кагорту перадавых жывёлаводаў аб'яднаў клуб даярак шасцітысячніц у племзаводзе «Рось» Ваўкавыскага раёна* (Звязда. 25.III 1988). Параўн. словы з аднолькавым прадметным значэннем, але з канататыўнай семай неадабральнасці, пагардлівасці, абурэння: *зграя* (ужываецца ў публіцыстычных прамовах), *банда, шайка. Пачынальнікам* называюць чалавека, які пачынае істотную для грамадства, вялікую карысную справу. Эмацыянальная ўзвышанасць абумоўлена семантычным зместам. Экспрэсіўную ацэнку адмоўнасці мае слова *зачыншчык* з аналагічным зместам у адносінах да непрыстойнага, ганебнага. *Чалавек энцыклапедычнага складу, беларускі асветнік* [Ф. Скарына] *не толькі пачынальнік кнігадрукавання на ўсходнеславянскіх землях, але і доктар лекарскіх і свабодных навук — мовазнаўца, батанік і мэдык* (С. Александровіч. Францішак, Скарынін сын з Полацка); *Галоўных зачыншчыкаў вырашылі арыштаваць, і пасадзіць у пецярбургскую цытадэль і аддаць пад суд сената* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Лексема *падзвіжнік* 'нястомны, бескарысны працаўнік у якой-небудзь галіне дзейнасці' мае ўзвышанае гучанне, выклікае павагу і пашану да названай асобы. Стылістычнае адценне ўзвышанасці могуць мець і словы, якія абазначаюць адмоўныя з'явы: *баталія, балесны,*

*злавесны, нізкапаклонства, сатрап, чалавеканенавісніцтва, чужына* і інш.

Акрамя слоў, у якіх адценне ўзвышанасці ўваходзіць у семантычны змест як першаснае або ў сувязі з традыцыяй ужывання, ёсць словы, якія ў прамым значэнні з'яўляюцца стылістычна нейтральнымі, а ў пераносным набываюць яскравую стылістычную афарбоўку. Яна можа быць узвышанай: *часіна, грамадзянін* (веку), *дачка* (народа), *жар-птушка* 'шчасце', *сокал* 'пра лётчыка, касманаўта, адважнага чалавека' і г. д. *Добрым словам памінае Вялікага* *с ы н а* *Украіна маладая, Вольная Украіна* (Я. Купала. Тарасова доля);

Так легенда зрабілася быллю.
Нашы *сокалы* горда ўзлятаюць.
Зор высокіх кранаецца крылле —
Зоры ў небе спяваюць.

*(П. Прыходзька. Зоры спяваюць)*

Эмацыянальна ўзвышаная лексіка характарызуецца ўжываннем у публіцыстычнай і паэтычнай мове, якой уласцівы ўрачысты тон, паэтыка. Ужыванне ўзвышаных слоў у звычайных жыццёвых сітуацыях — у размоўна-бытавым стылі разлічана на камічны эфект або іранічныя адносіны да прадмета гаворкі: *Дай мне прачытаць гэту крыніцу ведаў! Дзе ж наш карыфей?*

Лексіцы ўзвышанай па характару стылістычнага ўжывання процістаіць лексіка зніжаная. Словы гэтага разраду прыніжаюць прадмет гаворкі, ствараюць аб ім уражанне як аб нязначным, будзённым, нават непатрэбным, шкодным. Ужыванне стылістычна зніжанага слова паказвае таксама на адмоўнае стаўленне як да суб'екта дзеяння, так і да самога дзеяння. Зніжаную эмацыянальнасць мае дзеяслоў *балбатаць* у параўнанні з *гаварыць* пры іх намінатыўнай тоеснасці: — *Балбочуць у вёсцы, што партызаны заходзяць да Масола. Праўда гэта?— Сам кажаш, што балбочуць. Значыць балбатня і ёсць,— адказала Пелагея* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). З прыклада відаць, што прадмет размовы можа быць важны і значны, але адносіны да гаворкі — зневажальныя, адмоўныя.

Такія дзеясловы, як *аблапіць* 'абхапіць', *драцца* 'падымацца на што-небудзь высокае', *мямліць* 'гаварыць незразумелае', *разваліцца* 'сесці вольна', *расцягнуцца*

'паслізнуўшыся, упасці нічком', падаюць прадмет дзеяння неэстэтычна, у прыніжаным, прызямленым святле. Пра чалавека, які з прычыны хваробы гаворыць незразумела, няможна сказаць *Ён нешта мямліць.* Са сказа *«Іголкі-вочы інспектара прашывалі Ганса Коха, які нешта мямліў у адказ на яго пытанні»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні) відаць, што да Ганса Коха інспектар адносіцца як да някемлівай, нерашучай, ды і знешне непрыгляднай асобы.

Дзеясловы *абшнарыць, адчыбучыць, гарбець, раскірэчыцца, зіркаць* маюць такі намінатыўны сэнс, які сам па сабе не дае падстаў для непаважлівых адносін да суб'екта дзеяння, але дадатковая эмацыянальная канатацыя сведчыць пра непачцівыя адносіны гаворачага да суб'екта дзеяння або прадмета гаворкі. Такія адносіны лічацца звычайнымі да асоб і прадметаў ардынарных або грубых і немагчымымі да шаноўных, паважаных. Хоць *гарбець* і азначае 'старанна, настойліва працаваць, займацца чым-небудзь', фраза *Паэт гарбее над вершамі* прынізіла б паэта, яна сведчыла б пра адсутнасць паэтычнага таленту, лёгкасці ў вершаскладанні, між тым праца над словам патрабуе вялікай сілы і разумовага напружання. Прыніжаныя адносіны да суб'екта дзеяння выражаюцца ў слове *гергетаць* 'гаварыць на незнаёмай мове'. Пагардлівыя адносіны да прадмета гаворкі (маёмасці) выражае лексема *мэтлахі: У часе вайны згарэў быў гэты дом з усімі мэтлахамі, засталіся толькі цагляныя сцены* (А. Чарнышэвіч. Суседзі).

Адценне неадабральнасці назіраецца ў размоўных і прастамоўных словах (*мазацца* 'фарбаваць вусны, вейкі', *гарлапаніць* 'крычаць', *лежань* 'пра гультая', *валасацік* 'пра хлопца з доўгімі валасамі'), а таксама ў словах нейтральных і кніжных (*групаўшчына, заарганізаванасць, прымітывізм*). Эмацыянальна зніжаная лексіка часта ўключае ў свой сэнсавы змест і адмоўную ацэнку: *адшкуматаць* 'ададраць абы-як, не разбіраючыся, наспех', *адшматаць* 'неакуратна адарваць, адрэзаць'; *адгыркнуцца* 'груба, рэзка, злосна адказаць на якую-небудзь заўвагу'.

Да фамільярнай лексікі адносяцца словы гутарковага маўлення тыпу *грошыкі, адбрыквацца* (перан.), *перхаць, прыкархнуць* і інш. Адценнем прастаты і развязнасці вызначаюцца па зместу дзеясловы *адбарабаніць, адкукаваць, адстукаць* у значэнні 'адпрацаваць', 'адслужыць', 'адбыць тэрмін зняволення' ў параўнанні з нейтральным

*адпакутаваць*. Пачуццё спачування выяўляецца ў семантыцы дзеяслова *собіць: І собіла ж табе ўвязацца ў гэтую гісторыю.*

Эмацыянальна зніжаная лексіка можа выражаць развязныя, залішне вольныя адносіны да прадмета гаворкі, часам з адценнем іроніі, жартаўлівасці: *куча* 'многа', *папера* 'дакумент', *клёк* 'розум, развага', *змікіціць* 'зразумець', *умалоць* 'з'есці'. Асаблівасцю слоў, якія выражаюць іранічныя, жартаўлівыя адносіны, з'яўляецца тое, што яны адносяцца да аб'ектаў, надзеленых часцей станоўчымі якасцямі. Жартаўлівыя словы, як правіла, характарызуюць сітуацыю гутаркі. Прывядзём прыклад дабрадушна-жартаўлівых адносін, выказаных экспрэсіўна-эмацыянальнымі лексічнымі сродкамі ў лісце К. Чорнага да П. Глебкі, якія шчыра сябравалі між сабой: *«Каб цябе, Нонічак, агонь спаліў, дзе цябе чэрці душаць!... Свінячая ты спіна, конская грыва, сабачае сумленне, каровячае вымя, з-пад разніцы цюцька, аспіда ўнук і нашага крытыка крук. От як я табе выказаў, надобіна ты нядошлая. Чысла не знаю, бо календара не маю. Месяц на небе, а год у календары. Чысло такое ў нас, як і ў вас, каб ты не даждаў больш ашукваць нас! Пісар — Чыкірында — Янцута — Тхарловіч — Банкрут».*

У штодзённых бытавых зносінах часта ўжываюцца словы, у якіх выяўляюцца ласкавасць, пяшчотныя або паблажлівыя адносіны да прадмета гаворкі: *матулька, дачушка, дзеткі, галубок, сонейка, золатка, яблычак, хлябок*. Для выражэння адносін любві, пяшчоты замілавання часцей за ўсё выкарыстоўваюцца словы з дэмінутыўнымі суфіксамі: *браток, братка, сястрыца, рэчачка, зямліца, зямелька, разумнічак*. Некаторыя словы, якія маюць адмоўны намінатыўны сэнс, могуць ужывацца для выражэння любві, ласкі, пяшчоты: *дурніца, вісус, распуснік, шкоднік, горачка,* даючы прыклад энантыясеміі, не замацаванай на ўзроўні мовы. У зваротах да дзяцей і блізкіх людзей афарбоўка ласкальнасці і фамільярнасці часта змешваецца: *казяўка, клоп, мордачка, вачаняты*.

Да эмацыянальнай лексікі адносяцца і словы, якія выражаюць спачуванне да аб'екта гаворкі: *калечка* (ад *калека*), *худзенькі, сляпенькі, бядачка, гаротнік*. Эмацыянальныя адносіны могуць выказвацца як з боку гаворачага, так і ў аўтарскай пазіцыі ў цэлым. — *Б е д а л а г і нясуць сюды скаргі на тых, хто ім гора робіць. А тыя зараз спакойна спяць у цёплых пуховых ложках* (М. Ма-

шара. Сонца за кратамі); *Ты мне песню спей, дзяўчына, Як у пана ты служыла, Чаму смутна, б е д а ч ы н а, Накрыж ручанькі злажыла* (Я. Купала. Ты мне песню спей, дзяўчына).

Усю гаму пачуццяў ахопліваюць лексемы сінанімічнага раду *блукалец — туляч — бадзяга, туляга — валацуга.* Зневажальныя, пагардлівыя ў *валацуга,* неадабральныя ў *бадзяга, туляга,* спачувальныя ў *туляч* і нават узвышаныя ў *блукалец.— Гэта не чалавек, а пасвісцёл нейкі, бізун, бадзяга... Валацуга...* (К. Чорны. Зямля); *Ты, гаротнік, туляч беззямельны, доляй закінуты ў горад...* (Я. Купала. Лірнік вясковы); *А ў душы бяздомнага блукальца ўсё жыве ўсхвалёванае мора...* (А. Звонак. Пагаслі дня жывыя гукі).

Эмацыянальныя адносіны да прадмета гаворкі звычайна звязаны з ацэнкай гэтага прадмета. Пачуццё пагарды, абурэння, неадабральнасці выклікаюць прадметы, з'явы, ацэненыя як адмоўныя, і, наадварот, адабрэнне, пяшчота адносяцца да станоўчых, прыемных або важных і значных з'яў. І на ўзроўні семантычнага аналізу канатацыя ацэначнасці цесна звязана з канатацыяй эмацыянальнасці. Калі ў слове ацэначнасць з'яўляецца першаснай, напрыклад чалавек называецца па якіх-небудзь уласцівых яму прыметах, на аснове ацэначнасці ўзнікае эмацыянальнасць: *гвалтаўнік, зайздроснік, звадыяш, манюка, нядбайла, няўклюда, паклёпнік, пляткар, п'янюга, скнара, хапуга, хвалько.*

Ацэначнасць з'яўляецца адной з важных стылістычных катэгорый, якія спрыяюць здзяйсненню працэсу камунікацыі. Экспрэсіўны кампанент ацэначных слоў адлюстроўвае вынік кваліфікатыўнай дзейнасці чалавека, якая праяўляецца ў выглядзе а) эмацыянальна-пачуццёвага ўспрымання і кваліфікацыі аб'ектаў рэчаіснасці на аснове непасрэднага перажывання, б) рацыянальна-ацэначнай кваліфікацыі на аснове разумовай ацэнкі [39]. У ацэначнасці выяўляюцца такія параметры, як аб'ектыўнасць і суб'ектыўнасць, разумовасць і эмацыянальнасць, абсалютыўнасць і параўнальнасць, пазітыўнасць і негатыўнасць. Аб'ектыўная ацэнка адлюстроўвае ацэнку з'явы грамадствам, якое з'яўляецца носьбітам і выразнікам агульнапрынятых крытэрыяў дабра і зла. Аб'ектыўная ацэнка, уласцівая слову, не залежыць ад індывідуальнага,

[39] Уфимцева А. А. Лексическое значение. М., 1986. С. 95.

кантэкстуальнага ўжывання. Так, з пункту погляду замацаванай у грамадстве традыцыі *скнара* 'скупы чалавек' — дрэнны чалавек, а *зух* 'лоўкі, вёрткі, кемлівы' — добры. Разумовая ацэнка ў лексіцы ў параўнанні з эмацыянальнай ідзе не ад сэрца, а ад розуму. На практыцы разумова-ацэначная лексіка суправаджаецца эмоцыямі— адабрэннем або неадабрэннем: *саўдзельнік, змова* выклікаюць і паказваюць неадабральныя адносіны да названага імі, *свяціла, карыфей, місія* — адабральныя, нават узвышаныя. Эмацыянальна-ацэначныя словы могуць выконваць функцыі разумовай ацэнкі, напрыклад *пэцкаль* 'дрэнны мастак', *канавал* 'дрэнны ўрач', *пісака* 'дрэнны пісьменнік, журналіст'. Эмацыянальная ацэначнасць можа не грунтавацца на суб'ектыўным меркаванні гаворачага аб перавагах ці недахопах, пакладзеных ў аснову ацэначнага слова. У прыкладзе *Абрыдзеў мне гэты малакасос* гаворка ідзе пра маладога чалавека, які выклікае незадаволенасць сваімі паводзінамі, учынкамі, але гэта не значыць, што маладосць наогул расцэньваецца як загана. Ацэначнасць можа ўваходзіць у семантычны змест экспрэсіўна-ацэначнага слова як дадатковая семантычная прымета: *водар* 'прыемны пах', *вершаплёт* 'дрэнны паэт', *патугі* 'дарэмныя спробы, прычым непажаданыя', *змова* 'дамоўленасць людзей аб чым-небудзь незаконным, недазволеным'. Ацэначнасць як экспрэсіўная афарбоўка слова праяўляецца тады, калі пры тоесным прадметным змесце некаторыя ацэньваюць прадмет, з'яву ніжэй або вышэй, чым яны ацэньваюцца грамадскім вопытам. Аб'ект ацэнкі застаецца, ацэнка робіцца тым, хто гаворыць, пры дапамозе моўных сродкаў. Кожная эмацыянальна-ацэначная лексема павінна мець нейтральны ў стылістычных адносінах адпаведнік.

У лексічным фондзе мовы станоўчаацэначных слоў налічваецца значна менш, чым слоў з адмоўнай ацэнкай. Гэта адлюстроўвае агульную тэндэнцыю, што назвы негатыўных дзеянняў, прымет маюць больш сінонімаў у лексіцы, чым пазітыўныя. Магчыма, такая тэндэнцыя абумоўлена тым, што «грамадства ўвесь час стварае новыя лінгвістычныя знакі, якія называюць розныя прыметы прадметаў, з'яў, працэсаў, дзеянняў, якія асуджаюцца гэтым грамадствам» [40].

---

[40] Кремих И. И. Отрицательный оценочный компонент в семантической структуре слова // Прагматика слова: Межвуз. сб. науч. трудов. М., 1985. С. 29.

У эмацыянальна-ацэначнай лексіцы вылучаецца група дзеясловаў, у якіх падкрэсліваецца няўмеласць выканання, што выклікае раздражненне, неадабрэнне або пагардлівыя адносіны ў таго, хто ўспрымае гэтае дзеянне: *дрынкаць* 'няўмела іграць на якім-небудзь музычным інструменце', *барабаніць* 'гучна, але няўмела, невыразна гаварыць, чытаць, іграць на якім-небудзь музычным інструменце', *зляпаць* 'зрабіць што-небудзь наспех, абы-як', *крэмзаць* 'пісаць што-небудзь нядбайна або дрэнна', *намазаць* 'дрэнна, няўмела напісаць, намаляваць і пад.', *налаташыць* 'нарваць без разбору, псуючы і спусташаючы'.

Некаторыя эмацыянальна-ацэначныя словы перадаюць такія характарыстыкі з'явы, якія могуць выклікаць і станоўчую і адмоўную ацэнкі, і адабрэнне і неадабрэнне. *Адгрохаць* 'пабудаваць што-небудзь вялікае, значнае' можа мець станоўчую ацэнку: — *Але пачакайце, прагонім акупантаў і такія вам школы адгрохаем, што аж ахнеце. Палацы, а не школы* (Р. Няхай. Як расцвітае кветка); — *Вяселле мы табе на заводзе адгрохаем, у клубе!* (М. Ваданосаў. Пераломнае лета). У іншых кантэкстах можа мець адценне неадабральнасці: *Яны там, у лясніцтве дачу сабе адгрохалі з Ярашам. Харошна* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). Толькі з кантэксту выяўляецца характар-ацэнка дзеяслова *вычвараць*: станоўчая, з адценнем захаплення — *Людзі пацяшаліся, а Янка, згарнуўшы кулакі, біў імі па паветры, мясіў нагамі пясок, як бы там ляжаў ураднік, а ён яго таптаў нагамі.— Вось падла, Янка! Глядзі, што ён вычварае!* (Я. Колас, Соцкі падвёў); адмоўная, з асуджэннем — *А што вунь вычварае ў Мінску сын упраўляючага! Уся справа дастаўкі войску сала і круп знаходзіцца ў яго руках* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Ацэначнай лексіцы ўласціва абмежаванне ў лексічнай спалучальнасці, якая вызначаецца аднароднасцю ацэначнай характарыстыкі кантэксту. Параўн.: *кагорта рэвалюцыянераў* і *шайка злодзеяў, банда рабаўнікоў, зборышча гультаёў.* Прыклад стылістычна неадэкватнага ў беларускай мове спалучэння *«зграі дзяцей»* прыводзіць К. Чорны: *«зграі дзяцей моцна чапляліся за спадніцы матак...»* Гэта апісваюцца няшчасныя дзеці тады, калі горад спасцігла вялікае гора і бяда. Няўжо пралетарскі пісьменнік назваў натоўп дзяцей зграяй ды яшчэ ў часе вялікіх сацыяльных бядот? Зграя можа быць груганоў,

шкоднікаў, драпежнікаў, а не дзяцей. І каб перакладчык адчуваў мову, ён бы не напісаў гэтак» [41].

З эмацыянальнай ацэнкай як адным з кампанентаў экспрэсіўнасці цесна звязана вобразнасць. Вобразнае слова ўжываецца з мэтай выражэння эмацыянальных адносін да прадмета гаворкі і ацэнкі яго гаворачым. Акрамя таго, прадмет гаворкі адначасова можа характарызавацца з якасна-колькаснага боку. Гэта характарыстыка даецца вобразным словам праз нагляднае ўяўленне. У вобразных словах утрымліваюцца схаваныя параўнанні, якія ажыўляюць нашы ўяўленні пра тыя або іншыя з'явы [42]. Вобразнае слова тады мае патрэбны эфект, калі будзе правільна разумецца ўсім калектывам. На такое разуменне можа быць разлічаны гукавы склад слова — *абракадабра, мымра, нэндза*. Прамой сувязі паміж спалучэннем гукаў у слове і. яго эмацыянальным зместам можа і не быць або яно можа не адчувацца носьбітамі мовы. Гэта пытанне патрабуе спецыяльнага разгляду ў галіне стылістычнай фанетыкі, але апрыёры можна меркаваць, напрыклад, што нематываваныя народныя назвы вельмі высокага чалавека маюць у сваёй фанетычнай структуры спалучэнні гукаў «д» і «р», «д» і «л», «д», «р» і «б»: *дырба, дырда, дылда, дылдзіна, дырдзіна* і г. д. [43] Найбольш лёгка інтэрпрэтуюцца заамарфізмы — вобразныя. словы на аснове вобраза жывёл, іх звычак, дзеянняў. Эмацыянальная ацэначнасць у спалучэнні з семантычным кампанентам вобразнасці яскрава праяўляецца ў назоўніках, звязаных з характарыстыкай асобы па яе ўнутраных і знешніх прыметах. У групе гэтых назоўнікаў значна пераважаюць назоўнікі з негатыўнай ацэнкай, якія характарызуюць чалавека з розных бакоў. У групе ацэначнай лексікі асобы шырока прадстаўлены пераносныя ўжыванні назваў жывёл (*арол, воўк, звер, карова, мядзведзь, пава, певень, сабака, свіння*), раслін (*красачка, дуб, ружа, фрукт*), прадметаў хатняга ўжытку (*бочка, калода, чапяла*) і інш. Вобразна-метафарычныя найменні, называючы асобу, у першую

---

[41] Чорны К. Зб. тв. Мн., 1975. Т. 8. С. 78—79.

[42] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. М., 1982. С. 186.

[43] Кривко Н. Н. Оценочные наименования лиц в говорах Миорского района Витебской области. Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1985. С. 12.

чаргу ацэньваюць яе з боку пэўных характэрных рыс. Перанос назвы *варанне* звязаны, напрыклад, з прыватнымі прыметамі аб'екта прамой намінацыі — птушак з чорным пер'ем і назойлівым карканнем, адпавядае асацыяцыям, выкліканым вобразам чужаземнага ворага з незразумелай мовай і ў чорных мундзірах. Такія ацэнкі не могуць быць пазбаўлены эмоцый. Таму ў семантычнай структуры падобных экспрэсіўных лексем адзначаюцца ўсе тры канататыўныя кампаненты: эмацыянальнасць, ацэнка і вобразнасць. У падобным кантэкставым акружэнні часта сустракаюцца словы таксама ў метафарычным ужыванні з ацэначным значэннем: Праменны. *Бачыў, які фрукт?* (пра Жлукту.— *Г. В.*) Язва. *Цудоўны. І прытым зусім ужо спелы. Страсянуць, ён і адваліцца. І я яго страсяну. (Вымае блакнот і запісвае.) «Папраўка да сістэмы размеркавання. Блатбюро Жлукта і кампанія»* (К. Крапіва. Мілы чалавек).

Характэрныя метафары на базе слоў, у значэнні якіх уваходзяць прыметы 'знішчаць', 'рэзаць', 'прымушаць': *гіцаль, мучыцель, мяснік* 'пра жорсткага чалавека, часам хірурга'; *павук* 'пра таго, хто эксплуатуе каго-небудзь'. Ацэначную характарыстыку шматлікія намінатыўныя адзінкі набываюць у працэсе другаснай семантызацыі: *агонь* 'пра быстрага і бойкага чалавека', *баба* 'пра залішне цікаўнага чалавека, балбатлівага і нерашучага мужчыну', *вандал* 'пра некультурнага, грубага чалавека', *смала* 'пра назойлівага, надакучлівага чалавека'.

Базай ацэначных назваў асобы з'яўляюцца таксама ўласныя найменні гістарычных асоб і дзеячаў (*квіслінг* 'здраднік', *гітлер* 'жорсткі чалавек', *мальер* 'пра таго, хто піша камедыі'), найменні літаратурных герояў *(сцяпаны крыніцкія, гарлахвацкі, донкіхот)*, персанажы рэлігійных і міфалагічных паданняў *(каін, іуда)*, пашыраныя імёны пэўных нацыянальнасцей *(фрыц, сара, марты, іваны)*. Лексічныя адзінкі могуць атрымліваць экспрэсіўную маркіраванасць у кантэксце ў выніку другаснай намінацыі. Часам слова, якое пры літаратурным ужыванні валодае параўнаўча нязначным экспрэсіўным зарадам, набывае значна большы эфект пры метафарычным. Высокай эмацыянальнай насычанасцю вызначаюцца намінатыўныя адзінкі, якія рэалізуюць перыферыйнае значэнне як вынік другаснай намінацыі *(вылюдак, зграя, саранча)*. Другасныя значэнні актывізуюцца ў назоўніках *зарава (грознае зарава), цень (цень шыбеніц), ноч (ноч*

*Беларусі), саранча (бранiраваная саранча)* у тэксце, дзе апісваецца акупацыя Беларусі.

Трэба спецыяльна спыніцца на яшчэ адным кампаненце экспрэсіўнасці, звязаным з якаснай характарыстыкай таго, што названа словам,— інтэнсіўнасці. Інтэнсіўнасць з'яўляецца канататыўным кампанентам экспрэсіўнасці слова, здольным выразіць тую якасна-колькасную характарыстыку рэферэнта, што вылучае яго з класа аднайменных рэферэнтаў[44]. Трэба сказаць, што інтэнсіўнасць прысутнічае і ў семантычнай структуры некаторых намінатыўных лексічных адзінак, але там яна паказвае на меру якасці, якая не выходзіць за рамкі нормы (*бегчы* 'хутка рухацца'). Інтэнсіўнасць як экспрэсіўны канатат звязана іменна з той мерай і ступенню якасці, якая ўспрымаецца як адхіленне ад нормы, як незвычайная з'ява. Так, інтэнсіўнасць дзеяння падкрэсліваецца ў дзеясловах *бухаць* 'моцна, глыбока, кашляць', *гібець* 'жыць, пакутуючы ад нястачы, голаду', *грымець* 'утвараць рэзкія, шумныя гукі', *трашчаць* 'пра моцны мароз', *сігануць* 'шпарка, шырокімі крокамі рушыць', *папабегаць* 'многа пабегаць', *воз* 'пра мноства чаго-н.', *засыпаць* (пісьмамі). Пры наяўнасці канатацыі інтэнсіўнасці эмацыянальная ацэначнасць можа адсутнічаць у семантыцы экспрэсіўнага слова або быць станоўчай ці адмоўнай, у залежнасці ад эмацыянальнай афарбаванасці кантэксту: *У калгасным клубе грымела радыёла, моладзь танцавала* (М. Ваданосаў. Надзеі і здзяйсненні); *Шалее джаз. Раве на ўсю эстраду (Мядзведзю хоць бы раз вось так раўнуць), Грыміць, бубніць да ладу і без ладу, І ўжо табе за поўнач не заснуць* (Хв. Чэрня. Настрой); *— Ты паслухай, як Таня бухае. Ці ж начаваць на дварэ?— пераконвала Вольга* (І. Новікаў. Тварам да небяспекі).

Такім чынам, экспрэсіўным лексічным адзінкам могуць быць уласцівы чатыры канататыўныя семы ў розных спалучэннях або ўсе разам пры дамінуючым становішчы адной з іх. Большасць экспрэсіўных слоў процiпастаўляецца нейтральным: *слабы* (нейтральнае)— *кволы, немачны* (інтэнсіўнасць+эмоцыі жалю, спагады)— *нядошлы* (інтэнсіўнасць+неадабральнасць+зніжанасць)— *здохлы* (інтэнсіўнасць+адмоўная ацэнка+зняважлівыя адносіны); *ісці* (нейтральнае)— *цягнуцца* (інтэнсіў-

---

[44] Лукьянова Н. А. Экспрессивная лексика разговорного употребления. С. 56.

насць + неадабральнасць + адмоўная ацэнка) — *перці* (інтэнсіўнасць + неадабральнасць + адмоўная ацэнка) — *ляцець* (інтэнсіўнасць + адабральнасць + станоўчая ацэнка + узвышанасць).

Экспрэсіўная лексіка, паводле асноўных тыпаў суадносін з намінатыўнай, складаецца з header нематываваных сінхронна слоў *(вэрхал, гармідар, ёлуп, мэтлахі; акачурыцца, балбатаць, шнарыць)*, семантычных дэрыватаў намінатыўных адзінак *(арол, мядзведзь* (пра чалавека), *адбарабаніць* 'адслужыць, адпрацаваць доўгі час на малацікавай рабоце'), словаўтваральных дэрыватаў *(дзяўчынанька, ваўчуга, танюсенькі)*, складаных слоў *(галаштаннік, губашлёп, дармаед, прайдзісвет)*. Паказчыкам экспрэсіўнасці семантычных дэрыватаў з'яўляецца наяўнасць кантрастнага метафарычнага пераносу. Фармальныя паказчыкі экспрэсіўнасці — словаўтваральныя суфіксы — маюць толькі словаўтваральныя экспрэсіўныя дэрываты. Астатнія экспрэсіўныя словы лёгка распазнаюцца гаворачымі, паколькі ў большасці «эфект экспрэсіўнасці падрыхтоўваецца або унутранай формай, або экзатычным гучаннем слова» [45].

Вялікі разрад эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі суб'ектыўнай ацэнкі фарміруецца на базе так званых дэмінутыўных фармантаў. Экспрэсіўныя значэнні, якія надаюць гэтыя фарманты лексемам і выказванню ў цэлым, могуць быць вельмі рознымі, нават дыяметральна процілеглымі — ад захаплення да незадаволенасці, ад ухвалення да абурэння.

Дэмінутыўныя ўтварэнні могуць выражаць уласна ласкальнасць. Калі гутарка ідзе пра асобу, то ласкальныя словы паказваюць адносіны любві, замілаванасці, сімпатыі, прывязанасці: *галубка, галубок, дачушка, дзяўчынка, матуленька, саколік, сястрыца.* Выражэнню ласкальнасці садзейнічае памяншальна-ласкальная суфіксацыя назваў прадметаў і якасцей, звязаных з асобай, якая выклікае пачуццё ласкі ў суб'екта: *вочкі, галованька, спаднічка, хустачка; разумненькі.* Такія слоўныя ўтварэнні найбольш ужывальныя ў сітуацыях, звязаных з дзецьмі. *Чый гэта голас Кволенькі Без мужнасці і без веры, То нудненькі, то вясёленькі Чуецца з-за шыфаньераў* (К. Кірэенка. Цёплая радуга).

[45] Телия В. Н. Коннотативный аспект семантики номинативных единиц. М., 1986. С. 12.

Формы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі ствараюць пачуццё спагады, спачування, жалю: *«У хаце гарэла газовачка. Яна ледзьве асвятляла гэтую старую, трухлявую, чорную, як склеп, хацінку* (К. Чорны. Вялікая і малая тэма).

Дэмінутыўныя ўтварэнні могуць выражаць фамільярнасць, вольнасць адносін з субяседнікамі: *Айцец Мікалай па-сяброўску стукае настаўніка па плячах, а сам смяецца дробным смяшком* (Я. Колас. На ростанях); *— Грузец як мае быць. Тышчонак сотню, а можа і больш* (А. Савіцкі. Кедры глядзяць на мора). Такія словаформы выкарыстоўваюцца для выражэння пагардлівых адносін: *— Работнічак, танцор няшчасны, а машыну я за цябе ачышчаць буду, га-а?* (М. Вышынскі. Тарантэла). Часта экспрэсія дэмінутыўнага ўтварэння адносіцца не толькі да названага прадмета, афарбоўвае ўсё выказванне, адлюстроўваючы адносіны гаворачага да сітуацыі ў цэлым. Памяншальна-ласкальныя ўтварэнні могуць ствараць пэўную экспрэсіўную афарбоўку, напрыклад, перадаючы пачуццё радасці, задаволенасці: *Дзянёк быў: сонейка грэе, зямля дыміцца пад яго пяшчотай, усюды муражок загусцеў пад платамі* (М. Ракітны. Валодзя).

Эмацыянальны тон выказвання ўказвае на выбар моўных сродкаў для выражэння аўтарскага замыслу і можа змяніць эмацыянальную афарбоўку экспрэсіўнай словаформы. Таму адно і тое ж слова можа ўжывацца з рознымі відамі эмацыянальнай ацэнкі, высветліць якую можа толькі пашыраны кантэкст. Экспрэсіўная адзінка *дзянёк* у вышэйпрыведзеным прыкладзе вызначалася ацэнкай адабрэння, а можа выражаць і незадаволенасць: *Ай ды Сёмка! Цалюсенькі дзянёк гэткі доўгі і не паказацца ў хату* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). У спалучэнні з прыметнікам *цалюсенькі* назоўнік *дзянёк* узмацняе пачуцці незадаволенасці да асуджэння і абурэння. Ён можа ўжывацца і са значэннем 'самы малы адрэзак часу': *Не даюць нам, Іванка, спакойна жыць. Хоць бы дзянёк таго спакою* (Я. Колас. Дачакаўся). Гэта ж лексема выражае пачуцці жалю, спачування: *Цяжкія і нудныя прыйшлі для Цімоха дзянькі* (Я. Колас. Чорны); *Так дні цягнуліся, Паўзлі дзянькі, Як па іржышчы пуга-спавіванка* (З. Астапенка. Эдэм). *Дзянёк* можа абазначаць напружанне, цяжкі дзень: *«Ну, будзе дзянёк!» — заклапочана падумала яна, міжволі прыслухоўваючыся да голасу бойкага юнака* (М. Даніленка. Па дарозе ў Вільнюс).

Дэмінутыўныя ўтварэнні ўжываюцца для выражэння іранічных, з'едлівых адносін да апісанай з'явы: *Сымонка ўгару палез, заняў салідную пасаду, Сымонам Карпічам ённазывацца стаў! І пуза ладнае і карачак нагадваў* (Э. Валасевіч. Туды і рак з кляшнёй).

Пра стылёвыя функцыі памяншальна-ласкальных слоў многа пісаў К. Чорны, прыводзячы прыклады іх стылёва апраўданага ўжывання і засцерагаючы ад празмернага захаплення імі, што вядзе да сентыментальнасці, «шэрасці, аднастайнасці, дробнасці». Такія формы на месцы ў мове паміраючай жанчыны-пакутніцы, якая развітваецца з дзецьмі: *«Сынок, мой Максімка, Юрачка яшчэ маленькі, яшчэ дурненькі. Ты ж большанькі, глядзі за ім. Ды помні, што бацька твой, маці твая век свой пражылі ў чужой хатачцы і на той свет пайшлі на чужой лавачцы. Нічога не мелі і вам не пакідаюць. Дык самі майце розум. Падрасцеце — рупцеся, дбайце, каб хоць пад старасць мець свой куток, свой прытулачак»*. «Нечалавечыя пакуты душы», надрыў, вялікая любоў у яе гучала праз словы *Максімка, Юрачка, маленькі, дурненькі, хатачка, лавачка, прытулачак»*. Замілаванне ў час пакуты стварылі інтымнасць, але своеасаблівую, уласцівую толькі гэтаму моманту і гэтай абстаноўцы» [46].

Найбольш яскрава прадстаўлена экспрэсіўнае словаўтварэнне ў назвах асобы. Адзначым тут такія суфіксы, як *-ак-а (-як-а), -ень, (-ань-), -уг-а (-юг-а), -юк-а, -л-а, -с-а*, са значэннем неадабральнасці, няўхвальнасці: *гуляка, задавака, крыўляка; злыдзень, лежань; спрытнюга, хітруга; манюка; бадзяга; абдзірала, дурыла, зубрыла, крыкса.*

У склад экспрэсіўнай лексікі ўваходзіць і лаянкавая. Адценне лаянкавасці, грубасці маюць некаторыя размоўныя і прастамоўныя словы. Адной з асноўных уласцівасцей лаянкавай лексікі з'яўляецца адарванасць яе, поўная або частковая, ад якасцей названай асобы, прадмета. Да лаянкавай лексікі, дзе не адчуваецца сувязі і ўзаемаабумоўленасці слова і рэферэнта, адносяцца такія, як *д'ябал, зараза, заразіна, ідал, ідыёт, ірад, псюк, псялыжнік, сатана, сволач, трасца, чорт* і інш. Лаянкавыя словы тыпу пералічаных не з'яўляюцца прамымі найменнямі асоб у адрозненне ад тых эмацыянальных лексіч-

---

[46] Чорны К. Заўвагі да стылёвых тэндэнцый у творчасці Сяргея Знаёмага // Зб. тв. Мн., 1975. Т. 8. С. 213—214.

ных адзінак тыпу *гультай, лапатуха, мазіла*, якія выконваюць і намінатыўную, і экспрэсіўную функцыі. — *Но-о. Заразіна...— Джвучка мацюкнуўся, але не злазіў з воза. Лупіў каня прутом, як мог* (І. Пташнікаў. Чакай у далёкіх Грынях); — *Ты што, Іван, тут робіш?— А хіба не бачыш? Вот. Трэба гэтую трасцу раскарчаваць* (А. Жук. Паляванне на Апошняга Жураўля); — *А-а-а ты псялыжнік, зноў будзеш мне патраву рабіць? Вось як прыпільную, дык я на тваёй галаве патраву зраблю,— дражніць Цімох Кустрэя* (Я. Колас. Чоран).

Лаянкавы выраз у апошнім прыкладзе *стары псюк* можа адносіцца толькі да старога мужчыны, але ён таксама не выражае ні адмоўных характарыстык, ні суб'ектыўнай ацэнкі гаворачым уласцівасцей гэтай асобы. Лаянкавыя словы могуць выкарыстоўвацца і як ацэначныя: *Вось Арцюшок — о, гэта скула! Ну і шкадлівы ж быў, хамула. Хоць у панкі палез адразу: Цаніў Ракоўскі ў ім заразу* (Я. Колас. Новая зямля).

Да лаянкавай лексікі адносяцца і тыя лексічныя адзінкі, якія матывуюцца пэўнымі адмоўнымі якасцямі прадмета, асобы. Вялікую групу складаюць лаянкавыя словы, выкліканыя нізкімі, подлымі ўчынкамі асобы, на якую накіравана лаянка: *агіднік, гад, гадаўё, гніда, паганец, прахвост.— Агіднік! Дзе ж ты ўсю ноч прападаў?* (І. Гурскі. Вецер веку); — *Гад печаны, дык гэта ты ўкраў з возі торбачку з соллю? Ты!* (В. Хомчанка. Чырвоныя хвалі); — *Мы цябе на рэшата зробім! Папаўся ўсё ж, гадзюка!* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Ведзьма, змяя* ўказваюць на злоснасць, *душагуб, гіцаль* — на жорсткасць, *шчаня, шчанюк, малакасос* — на звязаную з маладосцю нявопытнасць, непаважлівыя адносіны, паводзіны: — *Ты ў забойцы падаешся, ты дзіцячай крыві захацеў, валацуга? Дык я ж цябе сама заб'ю, душагуба, і мне людзі дзякуй скажуць!* (М. Лынькоў. За акіянам); — *Каб ты не дажыў да заўтрашняга дня, каб табе бокам вылезлі гэтыя мае грошы, гіцаль няшчасны — ужо з долу крыкнула яна свой бяссільны праклён* (Я. Скрыган. Пусты кошык); — *Я табе пакажу, «конь»! Ідыёцкі жаргон! Разбэшчаныя шчанюкі!* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). Многімі лаянкавымі словамі падкрэсліваецца бесталковасць, адсутнасць розуму і развагі ў адрасата маўлення (*абух, абэлтух, даўбешка, дубіна, ёлап, крэцін*), брыдкая знешнасць (*абразіна, пачвара*), некалькі адмоўных рыс (*аболтус* 'дурны чалавек, грубіян, невук', *аблавух* 'пра някем-

лівага і няспрытнага чалавека', *аздобіна* 'пра няўдалага і дурнога').

Лаянкавыя словы гавораць таксама пра эмацыянальны стан гаворачага — злосць, раздражненне, але прызначэнне іх у тым, каб прынізіць, зняважыць таго, да каго яны звернуты. Лаянкавая лексіка вызначаецца і асаблівасцямі сінтаксічнага характару: найбольш часта лаянкавыя словы ўжываюцца ў клічных аднасастаўных сказах, звычайна адрасаваных таму, каго лаюць.

*   *
*

Лексічная сістэма мовы ўяўляе сабой складанае адзінства разнастайных па стылістычнай функцыі і афарбоўцы груп і разрадаў слоў. У гэтым складаным цэлым няма і не можа быць рэзкіх, дакладных размежаванняў. Функцыянальная і эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка — два бакі адной з'явы, якія ўзаемадзейнічаюць між сабой і па-рознаму спалучаюцца ў словах. Лексіка, якая мае функцыянальна-стылістычную афарбоўку, можа не мець экспрэсіўнай. Прыкладам з'яўляюцца навуковыя тэрміны, лексіка афіцыяльна-дзелавога стылю: *арытмія, гіпертанія, галаграфія, лагарыфм, тахікардыя; адказчык, кватэранаймальнік, прыняўшы хабар*. Некаторыя словы з афарбоўкай гутарковасці таксама могуць быць экспрэсіўна нейтральнымі. Гэта — размоўныя адпаведнікі медыцынскіх назваў хвароб, хворых, лекавых сродкаў: *ціск* 'гіпертанія', *гіпертонік, сэрца трасецца* 'тахікардыя', *зялёнка* 'брыльянтавая зелень', *валяр'янка*. Сустракаюцца і процілеглыя адносіны, калі словы, нейтральныя з функцыянальна-стылістычнага боку, маюць эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку, як ададатковую (*бязмежны, працаўнік, здаровы* (у прамым значэнні), *цудоўны, заваражыць*), так і адмоўную (*хабар, данос, закаранелы, кансерватар, падбухторшчык*). Кніжная лексіка часцей мае дадатную эмацыянальную афарбоўку (*айчына, перамаганосны, непераможны, форум, усявышні*), але можа перадаваць і адмоўную ацэнку (*дэмагог, казуістыка, фарысей, пратэжэ, антысаветчына, амаральнасць*). Размоўная, нават прастамоўная, лексіка можа быць нейтральнай у ацэначных адносінах (*пярлоўка, бульбіна, хадакі* (абутак), *прышчавы, папакошваць, паўтраця*), можа перадаваць адмоўную ацэнку (*абібок, валацуга, прыха-*

*дзень, хапуга, плёткі, адпеты, пляжыць, шамкаць пет-рацъ)*, часам мае і дадатную ацэнку (*цяміць, здравіла, файны, таварышаваць*).

Нейтральная ў функцыянальна-стылістычным плане лексіка можа быць нейтральнай і ў ацэнцы (*галава, бег-чы, час, расліна, высокі*). Таму вызначаючы стылістычную афарбоўку слова, трэба ўлічваць яе рознабаковы характар.

Разгляд лексікі беларускай літаратурнай мовы з пункту гледжання яе функцыянальнай і экспрэсіўнай дыферэнцыраванасці паказаў, што стылістычнае багацце лексічнага фонду сучаснай беларускай літаратурнай мовы можа задаволіць усе сацыяльныя патрэбы грамадства ў цэлым і кожнага, хто карыстаецца беларускай мовай, паасобку.

## Раздзел II

# ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ СФЕР ЯЕ ВЫКАРЫСТАННЯ

## § 1. ЛЕКСІКА АГУЛЬНАЎЖЫВАЛЬНАЯ І ЛЕКСІКА АБМЕЖАВАНАГА ВЫКАРЫСТАННЯ

Стратыфікацыя лексікі з пункту гледжання сфер яе выкарыстання асноўваецца на ўліку сацыяльнай структуры таго грамадства, якое абслугоўвае мова. Грамадства — гэта не простая сукупнасць асобных індывідаў, а складаная сістэма самых разнастайных сацыяльных груп насельніцтва: класаў, прафесіянальных калектываў, грамадскіх і вытворчых арганізацый, прадстаўнікоў розных ідэалагічных, мастацкіх, рэлігійных плыней, жыхароў адной мясцовасці і г. д.

Абмен думкамі з дапамогай мовы адбываецца перш за ўсё ў межах канкрэтных тэрытарыяльных і сацыяльных груп. Карыстаючыся адзіным лексічным запасам, кожная з гэтых груп усё ж такі характарызуецца пэўнай спецыфічнасцю як у частаце ўжывання тых ці іншых разрадаў слоў, так і ў іх саставе. У сувязі з гэтым слоўнікавы састаў мовы «можа быць сістэматызаваны з улікам такога параметра, як агульнаўжывальнасць — абме-

жаваная ўжывальнасць»[1]. На аснове гэтага параметра ўсе словы нацыянальнага лексікону ўмоўна прынята аб'ядноўваць у дзве вялікія групы: лексіку агульнаўжывальную і лексіку абмежаванага выкарыстання.

Да агульнаўжывальнай лексікі адносяцца словы, выкарыстанне якіх не залежыць ад месца жыхарства, прафесіі, сацыяльнага становішча людзей, не абмежавана моўнай сітуацыяй (стылем, жанрам, формай мовы), прыналежнасцю да той ці іншай часціны мовы. Агульнаўжывальнымі могуць быць словы ўсіх лексіка-граматычных класаў: назоўнікі (*абруч, баба, воз, горад, дом, жыта, завея, іголка, ключ, лес, мех, стол, холад, шчасце*), прыметнікі (*белы, вялікі, глыбокі, добры, зімні, каменны, лёгкі, малады, новы, просты, роўны, свежы, цяжкі, шчыры*), дзеясловы (*араць, браць, варыць, гнуць, даганяць, есці, крычаць, піць, радавацца, хваліць*), лічэбнікі (*адзін, пяць, дваццаць, сто, тысяча*), прыслоўі (*агулам, баязліва, важна, добра, моцна, паволі, смела, смачна, цёмна*), займеннікі (*я, ты, ён, мы, яны, нейкі, той, хто, што, які*), прыназоўнікі (*аб, ад, да, за, каля, пад, перад, у*), злучнікі (*а, але, да, і, то-то*), часціцы (*аж, не, ні, нават*), выклічнік (*ах, гэй, ох, эх, о*). Такія словы маюць устойлівую семантыку, з'яўляюцца агульназразумелымі і выкарыстоўваюцца ва ўсіх стылях мовы.

У межах агульнаўжывальнай лексікі могуць быць вылучаны розныя лексіка-семантычныя катэгорыі (амонімы, сінонімы, антонімы, паронімы), прадметна-тэматычныя і лексіка-семантычныя групы слоў, іншыя формы сістэмных адносін. А гэта значыць, што агульнаўжывальная лексіка з'яўляецца найбольш важнай часткай слоўніка нацыянальнай мовы, складае ядро лексічнай сістэмы, на базе якога адбываецца яе далейшае ўзбагачэнне і ўдасканаленне.

Да лексікі абмежаванага выкарыстання адносяцца словы, уласцівыя мове пэўнай тэрытарыяльнай або сацыяльна абмежаванай групы людзей, а таксама словы, выкарыстанне якіх абумоўлена спецыфікай іх лексічнага значэння. У залежнасці ад таго, якія словы выкарыстоўваюцца пэўнымі групамі насельніцтва, і ад таго, як яны выкарыстоўваюцца, у рамках лексікі абмежаванага выкарыстання можна вылучыць наступныя спецыфічныя пласты:

---

[1] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. М., 1989. С. 169.

1) дыялектная лексіка;
2) жаргонная і аргатыўная лексіка;
3) спецыяльная лексіка.

Падзел лексікі на агульнаўжывальную і абмежаваную ў выкарыстанні з'яўляецца ў пэўнай меры ўмоўным і патрабуе некаторых агаворак. Лічыцца, напрыклад, што прадметам лексікалогіі літаратурнай мовы з'яўляецца толькі агульнаўжывальная (агульнанародная) лексіка, паколькі дыялектныя, жаргонныя і вузкаспецыяльныя словы знаходзяцца па-за межамі ўнармаванай літаратурнай мовы. І ўсё ж азнаямленне з лексікай абмежаванага выкарыстання неабходна па той прычыне, што яна пастаянна ўступае ва ўзаемадзеянне з агульнаўжывальнай лексікай, становячыся адной з важнейшых крыніц узбагачэння апошняй новымі намінатыўнымі і выяўленчастылістычнымі сродкамі. Паколькі агульнаўжывальная лексіка ўсебакова аналізуецца ў іншых раздзелах манаграфіі, тут падрабязней разгледзім лексіку абмежаванага выкарыстання.

## § 2. ДЫЯЛЕКТНАЯ ЛЕКСІКА

Дыялектная лексіка (грэч. *dialektos* — гаворка, дыялект) — гэта лексіка, спецыфічная для беларускіх народных гаворак і дыялектаў. Аснову кожнай мясцовай гаворкі складаюць словы агульнаўжывальныя. А тая частка лексікі гаворкі або дыялекта, якая адрозніваецца ад лексікі агульнаўжывальнай, і складае дыялектную (абласную) лексіку. Асобнае дыялектнае слова, уведзенае ў літаратурны тэкст, але поўнасцю не асвоенае літаратурнай мовай, называецца дыялектызмам (англ. *dialectism*). «Паняцце «дыялектызм»,— гаворыць А. В. Калінін,— узнікае тады, калі мы, слухаючы чыю-небудзь у цэлым літаратурную мову або чытаючы мастацкі твор, заўважаем іншародныя словы, звароты і іншыя асаблівасці мовы, якія парушаюць літаратурную норму і якія мы тлумачым уплывам дыялекта. Гэтыя ж дыялектныя ўкрапванні ў літаратурную мову мы і называем дыялектызмамі»[2]. Для абазначэння такіх украпванняў побач з тэрмінам «дыялектызм» ужываюцца словы *правінцыялізм, лакалізм, абласное слова, мясцовае слова* і інш.

У залежнасці ад таго, якія моўныя асаблівасці гаворкі адлюстраваны ў слове, вылучаюцца дыялектызмы фа-

[2] Калинин А. В. Лексика русского языка. М., 1971. С. 122.

нетычныя, граматычныя, словаўтваральныя, лексічныя, этнаграфічныя, семантычныя.

Ф а н е т ы ч н ы я дыялектызмы адлюстроўваюць гукавыя асаблівасці народных гаворак або тэрытарыяльнага дыялекта. Так, для гаворак Гродзеншчыны характэрна з'яўленне прыстаўнога гука «г» там, дзе ў літаратурнай мове яго няма або вымаўляецца прыстаўное «в»: *гараць* (араць), *гаплік* (аплік), *гавёс* (авёс), *гостры* (востры), *гозеро* (возера) і інш.: *Трафімыч расшпіліў гаплікі шыняля і з кішэні на грудзях выняў трохкутнічак замусоленага пісьма* (Беларусь. 1945. № 4. С. 34). У гэтых жа гаворках пашырана вымаўленне канцавога «о» не пад націскам: *тато* (тата), *блізко* (блізка), *сало* (сала), *бачымо* (бачым): *Ратамцы гаварылі на «о»: мамо, тато і імёны ў іх былі на «о» — Ганно, Міхалко. Мне было смешна, што яны гэтак гавораць, нібы не ўмеюць добра гаварыць* (В. Адамчык. Два злоты).

Для гаворак Гомельшчыны і Піншчыны характэрна замена гука «ы» пасля губных гукам «у»: *муло* (мыла), *бук* (бык), *мабуць* (мабыць), *вукапаць* (выкапаць) і інш.: *— Ужо, мабуць, піп прыіхаў: штось забомкалі. — А мабуць, што так* (Я. Колас. На ростанях). Амаль для ўсяго паўднёва-заходняга дыялекту ўласціва фанетычная з'ява «сакання»— вымаўленне часціцы *-ся* ў зваротных дзеясловах як *-са: — Ты не бойса, не бойса, што мне рабіць не будзе дзе, што я не вучуся* (В. Казько. Сад альбо заблытаны след рамана). Асобныя фанетычныя з'явы слаба лакалізаваны і спарадычна сустракаюцца на ўсёй этнічнай тэрыторыі Беларусі. Гэта можна сказаць пра замену нехарактэрнага для народных гаворак гука «ф» гукамі «п», «х», «т» і спалучэннем «хв»: *пасоля, хвасоля* (фасоля), *кохта* (кофта), *хунт* (фунт), *Хвёдар, Тодар* (Фёдар), а таксама гука «к» гукам «х»: *дохтар* (доктар): *— Гарпіна... захварэла. Дык от Васіль паехаў з Маняю. Мо дохтара трэба* (І. Мележ. Подых навальніцы).

Г р а м а т ы ч н ы я дыялектызмы перадаюць асаблівасці граматыкі (марфалогіі і сінтаксісу) гаворак і адрозніваюцца ад слоў літаратурнай мовы некаторымі граматычнымі формамі і катэгорыямі: канчаткам *-э* на месцы канчатка *-ы* ў назоўніках множнага ліку назоўнага склону мужчынскага роду: *валасэ* (валасы), *садэ* (сады), *братэ* (браты) — у асобных гаворках паўднёва-заходняга дыялекту; канчаткамі *-ець, -аць, -эць* у дзеясловах 3-яй

асобы адзіночнага ліку першага спражэння: *нясець* (нясе), *кажаць* (кажа), *бярэць* (бярэ) — у паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках; сінтэтычнай формай дзеясловаў будучага часу тыпу *стаяцьму* (буду стаяць), *жыцьму* (буду жыць), *рабіцьмем* (будзем рабіць), *карміцьму* (буду карміць) — у палескіх гаворках:— *Паночкі, што вы робіце?— плаксіва загаварыў дзед Талаш,— нашто забіраеце сена?... Чым жа я худобу карміцьму?* (Я. Колас. Дрыгва).

Словаўтваральныя деялектызмы — словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных словаўтваральнымі дыялектнымі марфемамі: *дамаўё* (дамавіна), *вудар* (вудзільшчык), *гарушка* (горка), *цяперака* (цяпер), *пявун* (певень) і інш.: *Дзесятак кур, пявун вясёлы Каля платоў чарвей шукалі* (Я. Колас. Новая зямля); *І прыціхлі над вадою вудары* (А. Вялюгін. Вецер з Волгі); *У дамаўі Іванька ляжаў, склаўшы на грудзях высахшыя ручкі* (А. Ставер. Пад канвоем).

Лексічныя дыялектызмы — гэта мясцовыя словы, невядомыя літаратурнай мове. Яны з'яўляюцца абласнымі не ў якой-небудзь частцы (гуку, суфіксе і пад.), а ўсім сваім складам. Сярод іх адрозніваюць уласна лексічныя і этнаграфічныя дыялектызмы.

Уласна лексічныя дыялектызмы — гэта мясцовыя назвы агульнавядомых прадметаў, з'яў, паняццяў. Дыялектызмы гэтага тыпу маюць адпаведнікі ў літаратурнай мове, але поўнасцю адрозніваюцца ад іх сваім марфалагічным складам. Вось прыклады ўласна лексічных дыялектызмаў з указаннем літаратурных сінонімаў да іх у дужках: *дуйка* (завея), *драбы* (рэбры), *кагадзе* (нядаўна, толькі што), *агоўтацца* (прывыкнуць), *пакрыёма* (скрытна, тайна), *шума* (смецце), *шамнуць* (шуснуць, праваліцца), *галень* (дзяркач) і інш.: *Назаўтра мы ішлі дамоў, І дуйка пачалася. Крупу халодны вецер мёў, Цямнела не па часе* (С. Гаўрусёў. Профіль веку); — *Ты ўжо, як бачу, нарабілася, а наша Зося кагадзе з пасцелі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *Чалавек агоўтаецца, звыкнецца, яму здаецца, гэтак яму і патрэбна* (С. Баранавых. Дзве аповесці); *Толькі модлы раслі нёбу ў сэрцах людзей, І праклящце расло пакрыёма* (Я. Купала. Курган); *Маці, відаць, цэлы гай Сярдзітых гальнёў сшаравала, Пакуль падлога Зрабілася гладкая* (Р. Барадулін. Вяртанне ў першы снег).

Этнаграфічныя дыялектызмы — гэта мясцовыя

назвы прадметаў і паняццяў, якія характарызуюць асаблівасці жыцця, быту і дзейнасці людзей пэўнай тэрыторыі, мясцовасці. Калі нейкі прадмет, нейкая рэч сустракаецца на тэрыторыі распаўсюджання пэўнага дыялекту, то назва гэтай рэчы і будзе этнаграфічным дыялектызмам. Інакш кажучы, этнаграфічны дыялектызм — гэта мясцовая назва мясцовай рэчы (А. В. Калінін). Этнаграфічныя дыялектызмы не маюць адпаведнікаў у літаратурнай мове. Яны могуць быць растлумачаны толькі апісальна. Да этнаграфічных дыялектызмаў можна аднесці некаторыя назвы ежы: *таўчонікі* — аладкі, бліны з тоўчанай бульбы; *пражонка* — калядная страва з кусочкаў кілбасы, сала, рабрынак і свінога хваста ў мучной падліўцы з прыправамі; *верашчака* — рэдкая мучная страва з мясам, кілбасой і living рознымі прыправамі; *сырніца* — яда з сыру і таплёнага масла, спецыяльна прыгатаваная для працяглага захоўвання: *Я схапіла хусцінку, Соня загарнула ў насоўку пару таўчонікаў ды па агурку* (Е. Лось. Пацеркі); *Стаяў асобна ў місцы скорам Сяго таго для верашчакі. Хоць невялікія прысмакі — Цыбуля, перчык, ліст бабкоў Ды сальца некалькі брускоў, Мука і квас — і ўся прыправа. Але ўсё ж снеданне цікава* (Я. Колас. Новая зямля); *У місцы дыхала апетытным пахам румяная зверху, пакрытая празрыстымі плямкамі растопленага масла сырніца* (Т. Хадкевіч. Песня Дзвіны); прадметы быту: *кабат* — від безрукаўкі; *андарак* — даматканая паласатая або клятчастая спадніца; *судзіна* — вялікая бочка ў рост чалавека для ссыпання збожжа; *кажарка* — кароткае адзенне з аўчыны; *кучомка* — мужчынская шапка з аўчыны з вострым верхам; *капот (капота)* — доўгае без падкладкі адзенне з даматканага сукна: *А колькі разоў з заміраннем сэрца раскладвала перад сабой толькі што здабытыя якой-небудзь вясковай бабуляй з нетраў куфра расшытыя кофты, кашулі, гарсэткі, андаракі* (ЛіМ. 30.V 1969); [Бабка] *носіць спадніцу і зверху сарочкі нейкую камізэльку, якую заве кабатам* (А. Якімовіч. Базылёў курган); *А пад паветкаю прылады: Вазок, калёсы, панарады, Старыя сані, восі, колы І вулляў некалькі на пчолы, яшчэ няскончаных; судзіна, Стары цабэрак, паўасміна І розны хлам і лом валяўся* (Я. Колас. Новая зямля); *На галаве — авечая кучомка, на плячах кажух* (М. Лобан. На парозе будучыні); *Дома цётка Аўгіння хадзіла ў зашмальцаванай капоце, босая* (М. Стральцоў. Блакітны вецер).

Семантычныя дыялектызмы — гэта дыялектныя значэнні агульнанародных слоў, інакш кажучы, агульнанародныя словы, якія ўжываюцца ў пэўнай мясцовасці з іншым значэннем, чым у літаратурнай мове. Яны ў вымаўленні і напісанні супадаюць з агульнанароднымі словамі, але адрозніваюцца ад іх сваім значэннем. Напрыклад, у некаторых гаворках слова *стальніца* ў адрозненне ад літаратурнага значэння *'крышка, верх стала'* — гэта яшчэ і шуфляда стала; *тавар* — гэта не толькі прадукт вытворчасці, і буйная рагатая жывёла; *чалавек* — гэта не толькі грамадская істота, здольная мысліць, а і муж: *Вучыся гаспадарыць яшчэ тавар пасучы* (Ф. Янкоўскі. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі); *Свякроў бурчыць нудна, што вось цягаецца недзе поначы, будучы замужам маладзіца, маючы чалавека і дом* (Р. Мурашка. Салаўі Святога Палікара); — *Брусок, Міша, у стальніцы вазьмі. Я косы панясу* (В. Мыслівец. Гарачая сталь).

Як ужо адзначалася, беларускія народныя гаворкі і дыялекты цікавяць даследчыкаў літаратурнай лексікі не самі па сабе, а іх узаемадзеянне з літаратурнай мовай. Узбагачэнне літаратурнай лексікі за кошт народна-дыялектных слоў — гэта такі ж гістарычны працэс, як і папаўненне яе шляхам запазычвання іншамоўных слоў. Аналіз гэтага працэсу мае свае цяжкасці, асабліва для нацыянальных моў, літаратурная форма якіх складвалася на базе жывых народных гаворак. Да такіх моў адносіцца і беларуская.

Пытанне аб узаемадзеянні літаратурнай мовы і народных гаворак у беларускім мовазнаўстве мае сваю перадгісторыю. Тая акалічнасць, што новая беларуская літаратурная мова паступова «вырастала» з народных гаворак, засвойваючы іх структуру шырокім планам на ўсіх узроўнях, доўгі час ускладняла размежаванне паняццяў «дыялектнае слова»— «літаратурнае слова». На працягу XIX — пачатку XX ст., калі яшчэ не былі выпрацаваны адзіныя лексічныя і граматычныя нормы, свае мастацкія творы аўтары пісалі на роднай ім гаворцы, не размяжоўваючы мясцовыя і агульнаўжывальныя словы. Першыя адзнакі проціпастаўлення «дыялектнае слова»— «літаратурнае слова» пачынаюць праяўляцца толькі ў пачатку XX ст., калі паяўляюцца многія легальныя выдавецтвы, якія маглі аб'ядноўваць карэспандэнтаў з розных куткоў Беларусі, калі для абазначэння адной і той жа рэаліі пачалі адначасова прапаноўвацца розныя словы (узніклі

мнагачленныя сінанімічныя рады), калі ўсведамленне аб неабходнасці стварэння для выдавецтваў адзінай літаратурнай мовы магло спалучыцца з магчымасцю свядомага адбору для гэтай адзінай мовы ўсяго найбольш тыповага і пашыранага ў мове. Выразна акрэслілася проціпастаўленне дыялектнага літаратурнаму толькі к канцу 20-х гадоў у працэсе шырокай работы Інбелкульта па вывучэнню беларускай мовы і выпрацоўцы яе літаратурных норм.

Дыялектызмы, у цяперашнім разуменні гэтага тэрміна, шырока выкарыстоўвалі беларускія пісьменнікі старэйшага пакалення (Ц. Гартны, М. Гарэцкі, Я. Купала, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, І. Мележ, К. Чорны), не «грэбуюць» мясцовымі словамі пры апісанні вясковага жыцця пісьменнікі і сучаснага пакалення (В. Адамчык, Р. Барадулін, І. Пташнікаў, Б. Сачанка, І. Чыгрынаў і інш.).

Пранікаюць дыялектызмы ў літаратурныя тэксты рознымі шляхамі, але часцей за ўсё — праз мову мастацкіх твораў. Выкарыстанне дыялектных слоў пры стварэнні пісьменнікам разгорнутых малюнкаў вясковага жыцця — з'ява заканамерная і неабходная. Мясцовыя словы дапамагаюць аўтару больш рэльефна абмаляваць быт, культуру, псіхалогію насельнікаў пэўнай мясцовасці, перадаць індывідуальныя асаблівасці мовы герояў, стварыць мясцовы каларыт.

Як і ў якой меры выкарыстоўваць дыялектызмы ў творы, вырашае сам аўтар, і гэта характарызуе асаблівасці яго індывідуальнага мастацкага стылю. Адны пісьменнікі не абмяжоўваюць сябе ў карыстанні дыялектнымі словамі, другія ўжываюць іх менш, трэція стараюцца зусім іх пазбягаць. Празмернае насычэнне тэкстаў мясцовымі словамі было характэрна, напрыклад, для творчасці Ц. Гартнага, умерана і ўмела карыстаўся імі Я. Колас, зусім рэдка сустракаюцца правінцыялізмы ў творах І. Шамякіна.

У працэсе дыскусій па пытаннях мовы пісьменніка (з улікам і пажаданняў чытачоў) акрэсліліся тры асноўныя патрабаванні ў адносінах да дыялектызмаў: «умеранасць» у выкарыстанні дыялектызмаў, прыгоднасць іх у даным тэксце і зразумеласць для «недыялектнага» чытача»[3].

Патрабаванне ўмеранасці лагічна грунтуецца на тым, што празмернае насычэнне тэксту дыялектызмамі робіць

[3] Калинин А. В. Лексика русского языка. С. 130.

мову твора малазразумелай і цяжкай для чытання. Трэба весці спецыяльнае даследаванне, каб зразумець, напрыклад, што хацеў сказаць паэт, ужыўшы ў кароткім урыўку свайго твора аж тры дыялектызмы: *Рвай край на* *ш к у м а т ы Ліхіх віхур я р ч у к І сэрцы біцца кідай на* *ш ы н д з ё л ы...* (У. Хадыка. Суніцы).

У прамой сувязі з патрабаваннем аб умеранасці выкарыстання дыялектызмаў знаходзіцца і пытанне аб прыгоднасці іх у пэўным кантэксце. Калі ўмеранае ўвядзенне мясцовых слоў у маналогі і дыялогі жыхароў вёскі з'яўляецца натуральнай неабходнасцю, то выкарыстанне дыялектызмаў у аўтарскай мове не заўсёды можа быць апраўданым, у прыватнасці тады, калі для выражэння прадмета ці паняцця ў літаратурнай мове ёсць неабходныя агульнаўжывальныя лексічныя сродкі. Наўрад ці стылістычнымі мэтамі кіраваўся Ц. Гартны, часта ўжываючы ў рамане «Сокі цаліны» вузкі дыялектызм *нелапы (Дзве зялёныя пляшкі і нелапы пакуначак у ружовай анучцы занялі яго рукі)* пры наяўнасці такіх агульнаўжывальных сінонімаў, як *немалы, добры, ёмкі* і інш. Скарэй за ўсё — гэта паказчык непераборлівасці аўтара ў адборы мастацка-выяўленчых сродкаў, характэрны для ўсёй яго творчасці. І толькі ў тым выпадку, калі дыялектызм не мае ў літаратурнай мове дакладнага сіноніма, пісьменнік набывае нейкае маральнае права ўключыць яго ў свой тэкст. Што датычыцца этнаграфічных дыялектызмаў, то без іх аўтару абысціся цяжка. Мясцовая рэалія ў аўтарскай мове можа быць пазначана мясцовай назвай або раскрыта апісальна.

Трэцяе патрабаванне да дыялектызмаў — зразумеласць іх для чытача літаратурнага твора — дасягаецца рознымі прыёмамі ўвядзення дыялектызмаў у мову.

Адным з найбольш эфектыўных сярод гэтых прыёмаў з'яўляецца тлумачэнне дыялектызма сінанімічным яму словам або выразам літаратурнага ўжытку, напр.: *Напасля ішлі бабы — н е с а м н о г а, ж м е н ь к а, — і за імі ўжо адны немцы* (І. Пташнікаў. Мсціжы); *Парфен Вяршкоў сядзеў з апушчанай галавой, паціху варушыў наском пабялелага а б р э з н я — б о т б е з х а л я в ы — пасохлую кару, што ляжала пад бёрнамі* (І. Чыгрынаў. Плач Перапёлкі) [4].

[4] Гэтыя і наступныя прыклады ўзяты з артыкула Н. І. Гілевіч «Дыялектызмы ў прозе беларускіх пісьменнікаў сярэдняга пакалення» // Беларуская мова і мовазнаўства. Вып. 3. Мн., 1975. С. 17—20.

Часам, каб падкрэсліць прывязанасць слова да пэўнай тэрыторыі, яго бяруць у двукоссе, але, паколькі семантыка слова застаецца ўсё ж нераскрытай, звычайна побач даецца і яго тлумачэнне: *Яшчэ бялее, іскрыцца сям-там на лузе лапінкамі снег, а па рацэ плыве ўжо, крышыцца «с а л а»* (Б. Сачанка. Праз гады); *Наша «д з я л к а» — н а д з е л   п о л я   ў   п а ў т а р а   г е к т а р а — была праз с ц е н к у — в у з к у ю   д а р о г у, што зарасла дзяцелінай, бо па ёй ездзілі толькі тады, калі вазілі з поля збожжа ці картоплі* (В. Адамчык. Дзікі голуб). Можна выявіць і іншыя спосабы ўвядзення дыялектызмаў у тэкст.

Іншы раз дыялектызмы не патрабуюць спецыяльнага тлумачэння, паколькі іх семантыка дастаткова выразна раскрываецца кантэкстам або марфалагічным складам самога слова: *Сам чысты, тоўсты, і жонка — з а г л а д у х а такая, што ў дзверы не пройдзе* (А. Кудравец. Сяструха). *Тады яна адразу ўстала і села ў п о б а ч к і, звесіўшы, як і ён, ногі* (І. Пташнікаў. Мсціжы).

Не патрабуюць дадатковага кантэксту і асобнага тлумачэння і тыя дыялектызмы, што маюць значнае пашырэнне, ужо неаднаразова ўжываліся пісьменнікамі старэйшага пакалення, засведчаны слоўнікамі з паметай «абласное» і, значыць, стаяць на мяжы поўнага асваення іх літаратурнай мовай, напр.: *Неяк з лесу хлапчукі-пастушкі прынеслі блішчастую жалезную качалку, і Феня таўкла ёю бацьку к а м ы* (Б. Сачанка. Качалка); *— Тады бяры вядро. Вунь на ж л у к ц е   стаіць, ля сцяны* (І. Чыгрынаў. Вадалазы) і інш.

У адрозненне ад слоў іншамоўнага паходжання, семантыка якіх часта раскрываецца ў падрадковых зносках, тлумачэнне дыялектызмаў такім спосабам практыкуецца адносна рэдка. Так, у першым томе збору твораў К. Чорнага (Мн., 1954), які змяшчае 28 апавяданняў і раман «Зямля», на 561 старонцы тэксту адзначана толькі дзве зноскі з тлумачэннем слоў: *кагадзе* — толькі што; *заперына* — дошка, абрус.

Як відаць, зразумеласць дыялектызма дасягаецца рознымі прыёмамі ўвядзення яго ў тэкст. Пры гэтым ад пісьменніка патрабуецца вялікае мастацкае майстэрства, тонкае адчуванне мовы, пачуццё меры. «Пісьменнік, які адчувае патрэбу ў знешнім узбагачэнні сваёй мовы,— гаварыў адносна гэтага Б. А. Ларын,— павінен авалодаць майстэрствам увядзення і абрамлення дыялектызма...

Па-майстэрску выкарыстоўваць дыялектызмы цяжэй і важней для пісьменніка, чым іх знайсці»[5].

З усіх разнавіднасцей дыялектызмаў найбольшую верагоднасць замацавацца ў літаратурнай мове маюць цяпер уласна лексічныя, семантычныя і этнаграфічныя дыялектызмы, здольныя ўзбагаціць сінанімічныя і намінатыўныя сродкі літаратурнай лексікі.

Шлях пранікнення кожнага дыялектнага слова ў літаратурную мову і замацавання ў ёй — своеасаблівы і часцей за ўсё працяглы. Абумоўліваецца гэта спалучэннем многіх аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын, важнейшымі сярод якіх можна назваць наступныя: наяўнасць ці адсутнасць у намінатыўнай сістэме літаратурнай мовы лакун для рэальна існуючых прадметаў і паняццяў, ступень тэрытарыяльнага пашырэння дыялектнага слова, актуальнасць абазначанага ім прадмета, з'явы ці паняцця, звужанае ці шырокае разуменне дыялектнай асновы літаратурнай мовы, аўтарытэт пісьменнікаў, якія ўводзяць дыялектызмы і г. д. Прасочым шлях «алітаратурвання» асобных дыялектызмаў.

Слова *арэлі* ў значэнні 'гушкалка' (руск. *качели*) пашырана на ўсходнебеларускай, паўднёвარускай і паўночна-ўсходняй украінскай тэрыторыях. Беларускі арэал гэтага слова выразна акрэсліваецца лексікаграфічнымі і іншымі пісьмовымі крыніцамі. Яно засведчана ў слоўніках Насовіча, Мядзведскага, Ярушэвіча, Гарэцкага, Байкова і Некрашэвіча, у РБС-53, а таксама ў этнаграфічных працах М. Косіч і Е. Раманава. У арыгінальных мастацкіх творах словам *арэлі* карысталіся і карыстаюцца цяпер многія пісьменнікі, пераважна ўраджэнцы ўсходніх раёнаў Беларусі — М. Лынькоў, А. Куляшоў, У. Караткевіч, Р. Барадулін і інш.: *Уночы я сасніў Мальвіну. Мы гушкаліся з ёю на арэалях* (Б. Сачанка. Барвы ранняй восені).

Дзеячы культуры — ураджэнцы іншых беларускіх тэрыторый, нягледзячы на даўнія фіксацыі слова *арэлі*, кваліфікавалі яго як правінцыялізм і не прызнавалі за ім права ўжывацца ў літаратурнай мове[6]. Не трапіла слова ў БРС-62, відаць, па той прычыне, што яго геаграфія не супадала з уяўленнем рэдактара слоўніка аб дыялект-

---

[5] Ларин Б. А. Эстетика слова и языка писателя. Л., 1974. С. 248.

[6] Колас Я. Мова М. Лынькова па раману «На чырвоных лядах» // Пісьменнік і мова. Мн., 1934. С. 27; Юрэвіч У. Самабытнасць слова // Полымя. 1969. № 2 і інш.

най аснове беларускай літаратурнай мовы. Аднак паралельна выказваліся процілеглыя думкі, аўтары якіх лічылі, што слову *арэлі «варта даць месца ў* «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы», які рыхтуе Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР»[7].

Прыняўшы пад увагу мнагакратную і даўнюю адзначанасць слова *арэлі* ў літаратурных крыніцах, а таксама факт выкарыстання яго сучаснымі пісьменнікамі не толькі ўсходніх раёнаў Беларусі, але і іншых мясцовасцей, укладальнікі «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» ўключылі яго ў рэестр без абмежавальных памет, надаўшы гэтым самым яму статус літаратурнага слова — сіноніма слову *гушкалка*.

Звычайна прасцейшым бывае шлях у літаратурную мову этнаграфічных дыялектызмаў. Трапіўшы ў літаратурна-пісьмовыя тэксты і не маючы заменнікаў-сінонімаў, яны застаюцца адзінымі найменнямі мясцовых рэалій. Уключэнне такіх слоў у слоўнікі літаратурнай мовы вымагаецца неабходнасцю раскрыць іх семантыку, паколькі на пачатковым этапе для носьбітаў літаратурнай мовы яна застаецца незразумелай. Праз слоўнікі яны становяцца прыналежнасцю літаратурнай мовы. Прыкладам шырокага засваення этнаграфічных дыялектызмаў літаратурнай мовай могуць служыць назвы рыбалоўных прылад, спецыфічных для кожнай мясцовасці. Параўн.: *сак, верша, таптуха, кломля; буч, нерат, жак; заезнік, браднік, падвалока* і інш.[8]

## § 3. ЖАРГОННАЯ І АРГАТЫЧНАЯ ЛЕКСІКА

Жаргон (фран. *jargon*) — сацыяльная разнавіднасць мовы, якой карыстаюцца прафесіянальныя групы і сацыяльныя праслойкі людзей, аб'яднаных агульнасцю інтарэсаў, звычак, заняткаў, сацыяльнага становішча. Адрозніваецца ад літаратурнай мовы спецыфічнай лексікай і фразеалогіяй, створанай на аснове агульнаўжывальных слоў шляхам эмацыянальна-прафесіянальнага іх пера-

---

[7] Рапановіч Я. М. Да пытання пра словы *немаўля* і *арэлі* // Лексікалогія і граматыка. Мн., 1969. С. 28—29.

[8] Пра іншыя формы ўзаемадзеяння лексікі літаратурнай мовы са слоўнікавым складам народных гаворак гл.: Частка 1, раздзел IV, § 1 («Роля народных гаворак ва ўзбагачэнні лексікі літаратурнай мовы»).

асэнсавання. Існуе, напрыклад, жаргон гандляроў, спартсменаў, паляўнічых, маракоў, навучэнцаў і г. д. Жаргон з'яўляецца як бы дыялектам пэўнай узроставай групы людзей або «прафесіянальнай» карпарацыі (Л. І. Скварцоў). Таму жаргоны часта называюць сацыяльнымі дыялектамі.

У адрозненне ад тэрытарыяльных дыялектаў жаргон не мае сваёй фанетычнай і граматычнай сістэмы. Лексіка жаргона фарміруецца на базе слоў літаратурнай мовы шляхам іх пераасэнсавання, метафарызацыі. Словы і выразы жаргоннай мовы, якія выкарыстоўваюцца за межамі жаргону, называюцца ж а р г а н і з м а м і. Жарганізмы тэматычна звязаны з рознымі групамі прафесіянальнай лексікі. Аўтамабілісты, напрыклад, часта карыстаюцца словам *керагаз* (старая дрэнная аўтамашына-грузавік), *казёл* (від легкавога аўтамабіля), *баранка* (руль у аўтамашыне): — *Я, праўда, і ў арміі б а р а н к у маўвесь час круціў...* (А. Васілевіч. Падслухала сэрца); *Машыну трэба даць, Кузьма Радзівонавіч, «к а з л а» свайго* (Я. Ермаловіч. Родная зямля). У мове паліграфістаў слова «казёл» можна сустрэць у значэнні 'пропуск літарці слоў у наборы'.

У маладзёжных калектывах, у прыватнасці ў студэнцкім і вучнёўскім асяроддзі, можна сустрэць такія ўтварэнні, як *белка* (настаўніца беларускай мовы), *немка* (настаўніца нямецкай мовы), *англічанка* (настаўніца англійскай мовы), *арганіка* (арганічная хімія), *чыталка* (чытальная зала), *хвост* (не здадзены ў тэрмін экзамен, залік і пад.), *кол* (самая дрэнная адзнака): *А часу і так не хапала: З раніцы да вечара ў ч ы т а л ц ы. Затым глытаў паэзію, прозу, крытыку* (Б. Стральцоў. Сходзяцца бальшакі і прасёлкі); *А ў нашым інстытуце без чарчэння хоць вучыцца кідай. У мяне чуць х в о с т не быў* (Я. Ермаловіч. Душа чалавека).

Сярод моладзі можна пачуць і такія жаргонныя слоўцы, як *продкі* (бацькі), *ажур* (парадак), *пятак* (выдатна), *блат* (карыслівае знаёмства) і інш.

У час Вялікай Айчыннай вайны склаўся франтавы жаргон: *самавары* (мінамёты), *сабантуй* (артылерыйскі абстрэл), *гасцінцы* (снарады, міны), *кацёл* (акружэнне) і інш.— *Сёння гэтыя шыпучыя гады перакінулі з таго берага на гэты батальён галавярэзаў... Заўтра трэба чакаць г а с ц і н ц а ў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь); *Бабруйскі к а ц ё л не быў яшчэ ліквідаваны, і таму паехалі па*

*маршруту Гомель—Магілёў—Орша—Мінск* (У. Карпаў. За годам год).

Своеасаблівым жаргонам карыстаюцца людзі, звязаныя агульнасцю інтарэсаў негатыўнага характару: *халтура* (нядобрасумленна выкананая работа), *налізацца* (напіцца), *свіснуць, пазычыць* (украсці), *шырмач* (кішэнны злодзей), *дзірка* (турма), *вывеска* (твар), *раскалоцца* (прызнацца), *уліпнуць* (трапіць у непрыемнае становішча, папасціся), *завязаць* (перастаць піць, курыць і пад.). З лексікону карцёжнікаў прыйшлі жарганізмы *пас, пасаваць,* з лексікі курыльшчыкаў — *бычок* (недакурак, акурак), *сорак* (просьба даць акурак): *Бо пішаш,— заявіў Сівы,— х а л т у р у. Што толку з колькасці, браток, калі слабы любы радок* (У. Корбан. Гарачы прыпар); *— А табе, здаравяку, ды з такой, прабач, вывескай а ц і р а ц ц а ў нарыхтоўшчыках?* (І. Сіняўскі. Вернасць); П р ы ш ч э п а: *На судзе можа ты і не ўсё сказаў, і я разумею цябе. Табе, вядома страшна было, каб в ы ш к у не далі* (К. Губарэвіч. Першы ўрок).— *Ведаеш, Андрэй, ці не ў л і п л і мы з гэтым дзядзькам: нешта ён дужа прыязна пазіраў на нас,— заўважыў Янка* (Я. Колас. На ростанях); З ы л ь: *Грэх успомніў... Скажы проста: р а с к а л о ц ц а хочаш!* (К. Губарэвіч. Першы ўрок); *Я падумаў адзін дзень і другі і рашыў, што вам сапраўды пападзе за тыя ш м о т к і, якія я панёс на сабе.— Але ў другі раз ледзьве не скончылася мая палясоўшчына,— падхапіўся ляснік.— Гады два назад з а в я з а ў гэту справу* (У. Паўлаў. Пажарніца); *Ён дакурыў самакрутку, кінуў маленькі б ы ч о к у цяпельца* (А. Масарэнка. На бабровых тонях); *— Не ўсё ў цябе, Фенька, яшчэ і прайграна. Ты спрытны ш ы р м а ч і не будзеш без ф а р т у. Здабычу авансам прымаю на карту* (М. Арочка. Не ўсе лугі пакошаны).

Жарганізмы ў мастацкай літаратуры выкарыстоўваюцца для тыпізацыі персанажаў, характарыстыкі сацыяльных груп і катэгорый людзей.

Жаргонная лексіка няўстойлівая і часам значна змяняецца. Лексіка розных жаргонаў можа часткова супадаць, утвараючы т. зв. інтэржаргон. Асобныя жаргонныя словы могуць набываць больш шырокае ўжыванне, захоўваючы зарад экспрэсіўнасці, эмацыянальнай ацэнкі. Некаторыя жарганізмы часам пранікаюць у літаратурную мову і замацоўваюцца ў ёй у сваім пераносным, ацэначным значэнні: *Аркадзю пасля таго, як ён зрэ-*

*зайся пры паступленні ў педагагічны інстытут, нават боязна было і падумаць паступаць яшчэ куды-небудзь* (Р. Сабаленка. Бурштынавае вочка); *Цяпер зноў графік падціскае. Ф і л о н і ц ь тут не будзеш* (В. Мыслівец. Рабочыя людзі). *Мы што хочам ядзім. І спім дзе хочам... Дрэнна толькі, што пачалі лавіць ш п а н у ды ў прытулак забіраць* (М. Лобан. На парозе будучыні). Аднак ужыванне жарганізмаў у мастацкай літаратуры ў якасці характарыстычных сродкаў патрабуе вялікага майстэрства. Інакш ужыванне жаргоннай лексікі можа засмеціць мову, зрабіць яе грубай, малазразумелай і непрыгожай.

Адной з разнавіднасцей жаргонаў з'яўляецца а р г о (франц. *argot* — замкнуты, нядзейны). «У строга тэрміналагічным сэнсе арго — гэта мова нізоў грамадства, дэкласаваных груп і крымінальнага асяроддзя: жабракоў, зладзеяў, карцёжных шулераў і г. д.» [9] Мову гэтых сацыяльных груп, у тым ліку і мову даўнейшых гандляроў-карабейнікаў (афеняў), рамеснікаў-адыходнікаў (шапавалаў, бляхараў, краўцоў і інш.) называюць яшчэ ўмоўнымі, або тайнымі, мовамі.

«Спецыфічнай асаблівасцю арго ў параўнанні з іншымі відамі жаргону,— гаворыць В. М. Жырмунскі,—з'яўляецца яго прафесіянальная функцыя: «у той час, як ... карпарацыйныя жаргоны складаюць свайго роду грамадскую забаву, моўную гульню, падпарадкаваную прынцыпам эмацыянальнай экспрэсіўнасці, арго, якім карыстаюцца жабракі, зладзеі, вандроўныя гандляры і рамеснікі, служыць сродкам іх прафесіянальнай дзейнасці, самаабароны і барацьбы супраць астатняй часткі грамадства» [10]. Асноўная функцыя арго, такім чынам, быць сродкам адасаблення, аддзялення яго носьбітаў ад людзей іншых сфер дзейнасці.

Арго стваралася на базе натуральных моў і іх граматык. Аднак, каб ізалявацца ад грамадства, антысацыяльныя элементы выпрацоўвалі спецыяльны моўны код, незразумелы для іншых людзей. Таму аргатычная лексіка характарызуецца вузкапрафесіянальнай накіраванасцю (напрыклад, арго жабракоў, або лабараў), штучнасцю і засакрэчанасцю (арго злачынцаў, крымінальных дзялкоў і інш.). Дасягалася гэта мэта шляхам скажэння і

---

[9] Скворцов Л. И. Арго // Русский язык: Энциклопедия. М., 1979. С. 23—24.

[10] Жирмунский В. М. Национальный язык и социальные диалекты. Л., 1936. С. 119.

пераасэнсавання агульнанародных слоў (*вышка*—вышэйшая мера пакарання, *стукач* — даносчык, *сціркі* — ігральныя карты), выкарыстання вузкадыялектных і запазычаных слоў (параўн.: *бан* у мове зладзеяў азначае 'вакзал' — з ням. Bahnhof), а таксама шляхам перастаноўкі складоў у словах або дабаўлення да слоў новых элементаў (*чуха* з агульнаўжывальнага *хачу, шувакс* ад *вакса, шывар* — замест *тавар* і інш.).

Аргатычныя словы (аргатызмы), як і жарганізмы, не ўваходзяць у лексіка-семантычную сістэму літаратурнай мовы, але могуць выкарыстоўвацца ў літаратурна-мастацкіх і публіцыстычных творах для характарыстыкі персанажаў, сацыяльнага асяроддзя, гістарычнай эпохі і пад.

У Расіі арго пачало складвацца ў 2-й палавіне XIX ст. пераважна ў гандлёвых цэнтрах, партовых і сталічных гарадах, у месцах ссылак. Жаргонная і аргатычная лексіка вывучалася і ў Беларусі. Яшчэ да рэвалюцыі па гэтай тэматыцы былі надрукаваны наступныя працы: «Руска-жабрацкі слоўнік, складзены з гаворкі жабракоў Слуцкага павета, Мінскай губерні, мястэчка Семежава» (1881), слоўнік жаргону дрыбінскіх шапавалаў «Катрушніцкі лемезень» (1890, 1901), «Вопыт слоўніка ўмоўных моў Беларусі» (1912) Е. Р. Раманава і інш. У сучасным грамадстве сацыяльных умоў для развіцця арго няма, і яно паступова ператвараецца ў гістарычную катэгорыю сацыялінгвістыкі (Л. І. Скварцоў).

## § 4. СПЕЦЫЯЛЬНАЯ ЛЕКСІКА

Акрамя дыялектызмаў, жарганізмаў і аргатызмаў, да лексікі абмежаванага выкарыстання адносіцца і шырокі пласт т. зв. спецыяльнай лексікі, якой карыстаюцца галоўным чынам толькі прадстаўнікі пэўнай галіны навукі, прафесіі ці роду заняткаў. Асноўнымі разрадамі спецыяльнай лексікі з'яўляюцца тэрміны, наменклатурныя назвы і прафесіяналізмы. Кожны з гэтых разрадаў патрабуе асобнага разгляду.

### *Тэрміны*

Тэ́рмін (ад лац. *terminus* — граніца, мяжа, пагранічны знак) — гэта слова (або словазлучэнне), якое абазначае спецыяльнае паняцце са сферы навукі, культуры, вытворчасці і заключае ў сабе дакладнае лагічнае азна-

чэнне (дэфініцыю) гэтага паняцця. Сістэма тэрмінаў якой-небудзь вобласці навукі, тэхнікі, культуры называецца тэрміналогіяй. Існуе, напрыклад, лінгвістычная, матэматычная, фізічная, тэхнічная, сельскагаспадарчая, медыцынская тэрміналогія і інш. Тэрміналогіяй, або тэрміналагічнай лексікай, называюць таксама ўсю сукупнасць тэрмінаў якой-небудзь канкрэтнай мовы.

Да спецыфічных асаблівасцей тэрмінаў адносяцца: 1) сістэмнасць; 2) наяўнасць дэфініцыі (для большасці тэрмінаў); 3) тэндэнцыя да адназначнасці ў межах свайго тэрміналагічнага поля (г. зн. тэрміналогіі канкрэтнай навукі, дысцыпліны або навуковай школы); такія тэрміны, як «функцыя» ў матэматыцы, фізіялогіі і лінгвістыцы, прынята называць міжгаліновымі амонімамі; 4) адсутнасць экспрэсіі, 5) стылістычная нейтральнасць. Гэтыя асаблівасці рэалізуюцца толькі ўнутры тэрміналагічнага поля, за межамі якога тэрмін страчвае свае дэфінітыўныя і сістэмныя характарыстыкі, г. зн. дэтэрміналагізуецца (параўн. «ланцуговая рэакцыя» як вобразны выраз у агульналітаратурнай мове)[11].

Нягледзячы на адзначаныя спецыфічныя асаблівасці, тэрміны ўсё ж такі застаюцца элементамі лексічнай сістэмы і ў цэлым падпарадкоўваюцца яе законам. Спосабы ўтварэння новых тэрмінаў, напрыклад, тыя ж, што і звычайных слоў: а) спосаб афіксацыі: *зазямленне, зарыбленне, аблясенне, абсемяненне; акумуліраваць, кваліфікаваць, фтарыраваць;* б) лексіка-семантычны спосаб (пераасэнсаванне): *палец* (спец.) — 'валік або стрыжань у машынах, які служыць для захвату іншых частак механізма'; *канал* (спец.) — 'лінія сувязі, камунікацыі'; в) асноваскладанне: *кветаножка, семядоля, капіталаўкладанні, коксахімія, радыёапаратура;* г) утварэнне складана-састаўных назваў тыпу *дызель-электраход, радыус-вектар, прэс-канферэнцыя* і інш.

Разам з тым можна адзначыць і некаторыя спецыфічныя асаблівасці тэрмінаўтварэння: наяўнасць у складзе тэрмінаў літарных і лічбавых сімвалаў (*УФ-прамяні, БН-350* — быстрыя нейтроны); пашыранасць тэрмінаўсловазлучэнняў рознай структуры: двухслоўных (*элементарныя часцінкі, касмічны карабель, атамны рэактар,*

---

[11] Васильева Н. В. Термин // Лингвистический энциклопедический словарь. С. 508.

*квантавая механіка)*, трохслоўных *(лексічнае значэнне слова, адасобленыя члены сказа)*, мнагаслоўных *(складаназалежны сказ з даданым мэты)*; актыўнае выкарыстанне стандартных словаўтваральных элементаў грэка-лацінскага паходжання *(аўта-, авія-, аэра-, бія-, гідра-, кіна-, тэле-* і інш.; *-граф, -дром, -лог(ія), -тэка, -фон* і інш.).

Самым складаным пры аналізе тэрміналагічнай лексікі з'яўляецца пытанне аб узаемадзеянні яе з агульнаўжывальнай лексікай літаратурнай мовы. Пастаноўка гэтай праблемы патрабуе ад даследчыкаў дакладнага вызначэння месца тэрміна (і тэрміналогіі наогул) у сістэме моўных сродкаў. Пры гэтым павінны быць выяўлены: а) адносіны тэрмінаў да ўсіх іншых лексічных пластоў нацыянальнай мовы; б) адносіны тэрмінаў да розных кампанентаў навуковага стылю літаратурнай мовы; в) адносіны тэрмінаў да іншых разрадаў спецыяльнай лексікі (наменклатуры і прафесіяналізмаў).

Так, адносна супрацьпастаўлення тэрмінаў у складзе спецыяльнай лексікі ўсім іншым лексічным пластам нацыянальнай мовы П. М. Дзянісаў піша наступнае: «Адзіная лексічная сістэма мовы ў сучасных умовах фактычна існуе ў выглядзе дзвюх звязаных адна з адной сістэм: звычайнай («моўнай карціны свету») і навуковай («навуковай карціны свету»). Многія семасіёлагі і анамасіёлагі, якія займаюцца ідэаграфіяй і семантычнымі палямі, лічаць, што мовазнаўства павінна засяродзіць свае намаганні на вывучэнні канцэптуальных схем, на якіх засноўваецца спрадвечная, моўная «карціна свету», адпавядаючая ўзроўню звычайнай (наіўнай) свядомасці, жыццёваму здароваму сэнсу. Даследаванне і апісанне «навуковых карцін свету»— справа энцыклапедычнай, навукова-тэхнічнай і спецыяльнай лексікаграфіі» [12].

На ўзроўні асобнага слова адзначанае супрацьпастаўленне дзвюх «карцін свету» (навуковай, якая перадаецца перш за ўсё з дапамогай спецыяльнай лексікі, і звычайнай, якая фіксуецца пры дапамозе агульнаўжывальнай і іншай лексікі) мае сваім лагічным карэлятам супрацьпастаўленне паняційнага зместу тэрміна і агульнаўжывальнага слова. Агульнаўжывальныя словы звычайна абазначаюць лагічныя паняцці, а тэрміны — спе-

---

[12] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980. С. 121.

цыяльныя паняцці. Пры гэтым па самой сваёй моўнай прыродзе «лагічныя паняцці супрацьпастаўляюцца тэрміналагічным. Першыя — гэта паняцці, якія адпавядаюць паўсядзённаму ўзроўню адлюстравання рэчаіснасці, паняцці звычайныя, «моўныя», уласцівыя для ўсіх членаў пэўнай этнакультурнай і моўнай супольнасці. У тэрміналагічных паняццях аб'ектывуецца навуковы ўзровень адлюстравання рэчаіснасці; яны, як правіла, належаць абмежаванай і часам даволі вузкай сферы сістэматызаваных (тэарэтычных) ведаў і па гэтай прычыне далёка не заўсёды валодаюць уласцівасцю паўсямеснай распаўсюджанасці»[13].

Класічны прыклад таго, чым адрозніваецца лагічнае паняцце, абазначанае агульнаўжывальным словам *прамая,* ад тэрміналагічнага паняцця, абазначанага аднайменным геаметрычным тэрмінам, прывёў Л. У. Шчэрба: «Прамая (лінія) азначаецца ў геаметрыі як 'найкарацейшая адлегласць паміж двума пунктамі'. Але ў літаратурнай мове гэта, відаць, не так. Я думаю, што прамой мы называем у побыце 'лінію, якая не адхіляецца ні ўправа, ні ўлева (а таксама ні ўверх, ні ўніз')»[14]. Як можна бачыць, лагічнае паняцце, якое перадаецца агульнаўжывальным прыметнікам *прамая,* адрозніваецца ад паняційнага зместу аднайменнага тэрміна настолькі, наколькі нашы звычайныя ўяўленні аб прасторавай будове акаляючай рэчаіснасці адрозніваюцца ад матэматычна дакладнага ўяўлення прасторавых адносін у межах такой навукі, як геаметрыя. Іменна гэтыя адрозненні паміж нашымі звычайнымі жыццёвымі ведамі і значна больш спецыялізаванымі ведамі, назапашанымі ў сферы розных галін навукі і вытворчасці, якраз і даюць нам падставы для супрацьпастаўлення тэрміналагічнай лексікі ўсім іншым лексічным пластам нацыянальнай мовы.

У сваю чаргу, адносіны тэрмінаў да літаратурнай мовы вызначаюцца рознымі даследчыкамі па-рознаму. Так, асобныя з іх лічаць, што тэрміналогія цалкам уваходзіць у склад літаратурнай мовы[15], другія, наадварот, прапануюць разглядаць тэрміналогію ў якасці аўта-

---

[13] Верещагин Е. М., Костомаров В. Г. Лингвострановедческая теория слова. М., 1980. С. 12.

[14] Щерба Л. В. Языковая система и речевая деятельность. Л., 1974. С. 280.

[15] Гл., напрыклад: Даниленко В. П. Русская терминология: Опыт лингвистического описания. М., 1977. С. 4—11.

номнага раздзела слоўнікавага складу нацыянальнай мовы [16], трэція шукаюць кампраміснае рашэнне, сцвярджаючы, што «тэрміналогія ўяўляе сабой адносна самастойную частку ў сістэме літаратурнай мовы» [17]. Нам здаецца, што найбольш дыялектычную пазіцыю пры вызначэнні нарматыўнага статуса тэрмінаў займае Л. У. Шчэрба. У прыватнасці, ён піша: «Вельмі многія спецыяльныя тэрміны зусім не ўваходзяць у літаратурную мову і адносяцца да спецыяльных жаргонаў... Але многа ёсць і такіх тэрмінаў, якія ўваходзяць і ў літаратурную мову. Аднак вельмі часта яны будуць мець розныя значэнні ў агульналітаратурнай і ў спецыяльных мовах» [18]. Інакш кажучы, пытанне аб літаратурнасці/нелітаратурнасці трэба вырашаць у адносінах да кожнага канкрэтнага тэрміна, а не тэрміналогіі ў цэлым. Бо калі ўключыць у склад літаратурнай мовы ўсю тэрміналагічную лексіку, якая ў тры разы перавышае аб'ём агульнаўжывальнай [19], то можа ўзнікнуць парадаксальнае становішча. Паколькі кожны носьбіт літаратурнай мовы ведае толькі нязначную частку ўсёй тэрміналагічнай лексікі, а дакладней, толькі тую яе частку, якая датычыцца яго прафесіі, то выходзіць, што носьбіты літаратурнай мовы не ведаюць большую частку літаратурнай лексікі. У такім выпадку літаратурная мова губляе свае ўласцівасці цэнтральнай часткі нацыянальнай мовы, той часткі, пры дапамозе якой аб'ядноўваюцца ў адзінае цэлае ўсе іншыя часткі нацыянальнай мовы. Апошняга, зразумела, быць проста не можа.

Таму лепш пашукаць пункты судакранання тэрміналогіі і літаратурнай лексікі. Так, на думку В. П. Петушкова і У. М. Сяргеева «ў сучаснай мове любое, нават самае звычайнае слова змяшчае ў сабе якую-небудзь навуковую інфармацыю» [20]. У сваю чаргу, аўтары адной з апошніх манаграфій па тэрміналагічнай тэорыі лічаць, што «прынцыпова любы тэрмін можа стаць словам

---

[16] Гл., напрыклад: Суперанская А. В., Подольская Н. В., Васильева Н. В. Общая терминология: Вопросы теории. М., 1989. С. 18.

[17] Прохорова В. Н. Терминология // Русский язык: Энциклопедия. М., 1979. С. 350.

[18] Щерба Л. В. Языковая система и речевая деятельность. С. 280.

[19] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 171.

[20] Петушков В. П., Сергеев В. Н. О классификации словарей // Проблематика определений терминов в словарях разных типов. Л., 1976. С. 13.

агульнай лексікі»[21]. Хаця не падлягае сумненню і той факт, што «многія тэрміны, якія склаліся ў «мове» пэўнай навукі, за яе межы не выходзяць»[22]. Аднак «неабходна ўлічыць, што многія тэрміны ўтвораны на аснове агульнаўжывальнай лексікі»[23]. Прычым адбываецца гэта шляхам «спецыялізацыі лексічных сродкаў мовы: слова як бы адчужаецца ад свайго функцыяніравання ў натуральнай мове, і яму прыпісваецца сэнс, які адрозніваецца ад усеагульных ведаў. Спецыялізацыя слова — зусім не разрыў з зыходным значэннем, асабліва калі ўлічыць, што ў сувязі з няўхільным павышэннем узроўню адукаванасці насельніцтва ўсё больш скарачаецца разыходжанне паміж навуковымі і звычайнымі ведамі»[24].

Такім чынам, няўхільнае набліжэнне звычайнай моўнай «карціны свету» да навуковай «карціны свету», якое адбываецца пад уздзеяннем навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, мае сваім вынікам усё больш цеснае ўзаемадзеянне лексікі літаратурнай мовы і тэрміналагічнай лексікі. Такое ўзаемадзеянне часцей за ўсё адбываецца ў выглядзе двух рознанакіраваных працэсаў: а) працэсу спецыялізацыі або тэрміналагізацыі агульнаўжывальнай лексікі, калі звычайнае літаратурнае слова набывае дадатковае, тэрміналагічнае значэнне (напрыклад, агульнаўжывальнае слова *шум* набыло ў межах такой новай галіны навукі, як інфарматыка, дадатковае, тэрміналагічнае значэнне 'перашкоды ў канале сувязі') або ўключаецца ў склад састаўных тэрмінаў (напрыклад, агульнаўжывальны прыметнік *чырвоны* звычайна абазначае колер той або іншай рэчы: гальштука, сцяга, кнігі, хусткі і інш.), але ў межах такой навукі, як экалогія, ён спалучаецца з назоўнікам *кніга* і гэта спалучэнне (*чырвоная кніга*) мае ўжо больш спецыялізаванае, тэрміналагічнае значэнне 'кніга Міжнароднага саюза аховы прыроды і прыродных рэсурсаў, якая змяшчае ў сабе кароткія звесткі аб распаўсюджанні, колькасці, біялогіі і мерах аховы рэдкіх відаў жывёлы і раслін усяго свету'; б) працэсу

[21] Суперанская А. В., Подольская Н. В., Васильева Н. В. Общая терминология: Вопросы теории. С. 133.

[22] Верещагин Е. М., Костомаров В. Г. Лингвострановедческая теория слова. С. 166.

[23] Красней В. П. О специфике и анализе термина // Методы изучения лексики / Под ред. А. Е. Супруна. Мн., 1975. С. 194.

[24] Верещагин Е. М., Костомаров В. Г. Лингвострановедческая теория слова. С. 204.

дэтэрміналагізацыі, або дэспецыялізацыі, калі тэрмін пачынае ўжывацца па-за межамі вузкіх спецыяльных сфер і паступова набывае агульналітаратурны статус.

У межах апошняга працэсу (працэсу дэтэрміналагізацыі, або дэспецыялізацыі), на думку Э. В. Кузняцовай, выразна вылучаюцца тры этапы, асабліва калі разглядаць гэты працэс на матэрыяле перыядычнага друку: «Першым этапам з'яўляецца агульнае пашырэнне ўжывання тэрмінаў як у звычайных карэспандэнцыях, так і ў спецыяльных матэрыялах папулярызатарскай накіраванасці»[25]. Напрыклад, спартыўны тэрмін *рэйцінг* цяпер шырока ўжываецца не толькі ў спецыяльнай шахматнай літаратуры, але і ў тых публікацыях з перыядычнага друку, якія прысвечаны апісанню шахматных турніраў. У сваю чаргу, «другі этап засваення тэрміна звязаны ўжо з яго пераасэнсаваннем. Тэрмін ужываецца ў незвычайным кантэксце з незвычайным, пераносным значэннем»[26]. Напрыклад, той жа самы спартыўны тэрмін *рэйцінг* у апошні час выкарыстоўваецца не толькі для характарыстыкі шахматыста пры дапамозе словаспалучэнняў *высокі рэйцінг, нізкі рэйцінг* і інш., але і для ацэнкі папулярнасці сярод насельніцтва таго або іншага палітычнага дзеяча, народнага дэпутата і г. д., што, безумоўна, сведчыць аб пашырэнні семантыкі гэтага тэрміна. Падобным чынам у новых гістарычных умовах пашырылі свой семантычны аб'ём многія грамадска-палітычныя тэрміны: *камісар* (будаўнічага атрада), *сістэма* (партыйнай асветы), *семінар* (навуковы), *праблема* (пайсці ў кіно) і г. д. Нарэшце, «трэці этап — гэта поўная дэтэрміналагізацыя слова, калі тэрмін страчвае і сваё спецыяльнае значэнне, і сваю экспрэсіўнасць, становіцца адным з вытворных значэнняў, якія маюць пераважна нейтральны характар»[27]. Напрыклад, слова *пнеўманія* цяпер ужываецца не толькі медыкамі, але і самымі шырокімі коламі насельніцтва, у выніку чаго гэты медыцынскі тэрмін трапіў у склад пяцітомнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» са значэннем 'запаленне лёгкіх' і не мае пры сабе ніякіх абмежавальных стылістычных памет.

Прычым параўнальны аналіз гэтых двух працэсаў (працэсу тэрміналагізацыі і працэсу дэтэрміналагізацыі)

---

[25] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 176.
[26] Там жа. С. 177.
[27] Там жа.

паказвае, што «найбольш агульнай і моцнай тэндэнцыяй з'яўляецца пашырэнне межаў ужывання тэрміналагічнай лексікі, выхад тэрмінаў за рамкі вузкіх спецыяльных сфер з наступным магчымым пераасэнсаваннем і ўключэннем у агульнаўжывальную лексіку»[28]. Больш актыўнае развіццё працэсу дэтэрміналагізацыі ў параўнанні з працэсам тэрміналагізацыі тлумачыцца хутчэй за ўсё тым, што тэрміналагічная лексіка колькасна пераважае над агульнаўжывальнай, а значыць, і магчымасці пераасэнсавання тэрміналагічнай лексікі значна больш шырокія, чым адпаведныя магчымасці лексікі літаратурнай мовы. У канчатковым выніку агульнымі перадумовамі абодвух адзначаных працэсаў з'яўляюцца: «усеагульная адукаванасць, пашырэнне сфер масавай камунікацыі, павышэнне ролі навукі ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, характэрнае для эпохі НТР»[29]. Іменна гэтымі фактарамі абумоўлена развіццё адзначаных лексіка-семантычных працэсаў і паступовае збліжэнне навуковай і звычайнай «карцін свету» ў свядомасці людзей.

Калі глянуць на ўзаемадзеянне тэрміналагічнай і агульналітаратурнай лексікі з дыяхранічнага пункту погляду, то ў першую чаргу трэба будзе адзначыць, што яшчэ «з сярэдзіны XIX ст. актывізуецца працэс пераходу ў агульналітаратурную лексіку тэрмінаў прыродазнаўчых навук: матэматыкі, фізікі, медыцыны і інш. ... Адбываецца гэты працэс і ў мове XX ст., асабліва актыўна — у мове савецкай эпохі. У агульналітаратурную лексіку прыцягваюцца перш за ўсё тэрміны грамадска важных і актуальных навук: сацыяльна-эканамічных дысцыплін, фізікі, біялогіі, касмічнай тэхнікі, кібернетыкі і інш.»[30]

Вынікам працяглага ўзаемадзеяння тэрміналагічнай і агульналітаратурнай лексікі з'яўляецца такі стан сучаснай лексіка-семантычнай сістэмы мовы, калі «дакладна супрацьпаставіць тэрміналогію агульнаўжывальнай

---

[28] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 176.

[29] Там жа. С. 176.

[30] Прохорова В. Н. Терминология // Русский язык: Энциклопедия. М. 1979. С. 350. Больш падрабязна гісторыя ўзаемадзеяння тэрміналагічнай і агульнаўжывальнай лексікі асвятляецца ў наступных працах: Капанадзе Л. А. Взаимодействие терминологической и общеупотребительской лексики // Развитие лексики современного русского языка / Под ред. Е. А. Земской, Д. Н. Шмелева. М., 1965; Канделаки Т. Л. Взаимодействие терминологической и общеупотребительной лексики // Русский язык и советское общество: Лексика современного русского литературного языка. М., 1968 і інш.

нетэрміналагічнай лексіцы немагчыма. Паміж імі ляжыць шырокая паласа, у межах якой тэрміны існуюць як бы ў пастаянным хістанні паміж ідэальнымі патрабаваннямі (адназначнасць, нейтральнасць, адсутнасць сінонімаў) і рэальнымі законамі жывой і дынамічнай лексічнай сістэмы»[31]. Прычым і ў рамках гэтай прамежкавай паласы «з пункту погляду ўзаемаадносін паміж словам і тэрмінам вылучаюцца: лексіка, якая перайшла з агульнай мовы ў тэрміналогію (яна называецца тэрмініраванай), і лексіка, якая перайшла з тэрміналогіі ў агульную мову (гэта лексіка тэрміналагічнага паходжання)»[32]. Напрыклад, да тэрмініраванай лексікі ў беларускай мове трэба будзе аднесці названыя вышэй тэрміны інфарматыкі (*шум*) і экалогіі (*чырвоная кніга*), а да лексікі тэрміналагічнага паходжання — словы *рэйцінг, камісар, праблема, пнеўманія* і інш.

На думку Э. В. Кузняцовай, «іменна ў гэтай «пераходнай» паласе ажыццяўляецца найбольш актыўнае ўзаемадзеянне паміж тэрмінамі і не-тэрмінамі, паколькі рэальныя людзі ў сваёй канкрэтнай маўленчай дзейнасці ўжываюць іх у адным радзе. У выніку такіх узаемадзеянняў ажыццяўляюцца сістэмныя пераходы лексікі з адных сфер у іншыя: тэрмінаў у сферу агульнай лексікі (дэтэрміналагізацыя) і наадварот — папаўненне тэрмінаў за кошт рэсурсаў агульнай лексікі (тэрміналагізацыя)»[33]. Калі ж параўнаць лексіку пераходнай паласы з уласна тэрміналагічнай лексікай, то няцяжка будзе заўважыць, што тэрміны ў складзе гэтых лексічных пластоў адрозніваюцца сваім паняційным зместам. Уласна тэрміналагічная лексіка аб'ядноўвае так званыя «чыстыя» тэрміны, г. зн. такія, якія маюць толькі спецыяльнае значэнне. У сваю чаргу, да лексікі пераходнай паласы адносяцца так званыя «змешаныя» тэрміны, г. зн. такія, якія акрамя спецыяльнага маюць яшчэ і неспецыяльныя значэнні.

Пры вызначэнні паходжання мнагазначных «змешаных» тэрмінаў «магчымы па меншай меры тры варыянты: 1) неспецыяльнае значэнне стала базай для развіцця спецыяльнага значэння (тэрміналагізацыя), 2) супрацьлеглы працэс (дэтэрміналагізацыя), 3) пераходны вы-

---

[31] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 176.

[32] Верещагин Е. М., Костомаров В. Г. Лингвострановедческая теория слова. С. 191.

[33] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 176.

падак паміж тэрміналагізацыяй і дэтэрміналагізацыяй, калі цяжка вызначыць, што было першым (у дыяхраніі) і што з'яўляецца найбольш важным (у сінхраніі) — спецыяльнае ці неспецыяльнае значэнне сярод розных значэнняў мнагазначнага слова» [34]. Калі ж абстрагавацца ад пытанняў паходжання таго або іншага «змешанага» тэрміна, то больш важным для нас цяпер з'яўляецца вызначэнне таго, хто выконвае функцыі носьбіта семантыкі звычайнага, агульнаўжывальнага слова, а хто — функцыі носьбіта семантыкі аднайменнага тэрміна.

Справа ў тым, што семантыка звычайнага, агульнаўжывальнага слова «належыць грамадскай свядомасці, г. зн. яна (з варыяцыямі ў пэўных межах) уласціва ўсім членам пэўнай нацыянальнай культуры і ўсім носьбітам нацыянальнай мовы; семантыкай тэрміна валодаюць, канешне, толькі спецыялісты, пагэтаму яна мае не агульнанацыянальны, а групавы характар» [35]. Апошняе асабліва важна ўлічваць у тых выпадках, калі «змешаны» тэрмін уключаецца лексікографамі ў агульнафілалагічны слоўнік (тлумачальны, перакладны і г. д.) і вырашаецца пытанне адносна таго, даваць ці не даваць пры ім абмежавальную стылістычную памету, якая адносіць гэты тэрмін да больш вузкай сферы яго выкарыстання. На наш погляд, калі семантыкай «змешанага» тэрміна яшчэ не авалодалі ўсе носьбіты нацыянальнай мовы, то лепш за ўсё трымацца той пазіцыі, якую займаў па гэтаму пытанню Л. У. Шчэрба. Апошні, у прыватнасці, лічыў, што «няма ніякіх падстаў навязваць агульнай мове паняцці, якія ёй зусім не ўласцівыя і якія — галоўнае і вырашальнае — не з'яўляюцца якімі-небудзь фактарамі ў працэсе маўленчых зносін» [36]. Таму, пакуль «змешаны» тэрмін яшчэ не стаў трывалым фактам літаратурнай мовы, трэба суправаджаць уключэнне яго ў агульнафілалагічныя слоўнікі адпаведнай абмежавальнай паметай (*спец., тэхн.* і інш.).

Падагульняючы ўсё сказанае пра адносіны тэрмінаў да літаратурнай мовы, варта больш падрабязна спыніцца на тым, чым адрозніваюцца тэрміны ад агульнаўжываль-

---

[34] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. С. 167.

[35] Верещагин Е. М., Костомаров В. Г. Лингвострановедческая теория слова. С. 162.

[36] Щерба Л. В. Языковая система и речевая деятельность. С. 281.

ных слоў. Акрамя названых вышэй адрозненняў у характары паняційнага зместу (тэрмін абазначае тэрміналагічнае паняцце, агульнаўжывальнае слова — лагічнае паняцце) і ступені пашыранасці сярод носьбітаў нацыянальнай мовы (семантыкай тэрміна валодаюць галоўным чынам пэўныя групы спецыялістаў, а семантыкай агульнаўжывальнага слова — усе носьбіты нацыянальнай мовы) трэба таксама адзначыць наступнае: а) тэрмін, як правіла, належыць навуковаму або навукова-папулярнаму стылю, а агульнаўжывальнае слова мае міжстылявы характар; б) у адрозненне ад агульналітаратурнай лексікі, дзе шырока прадстаўлены словы розных часцін мовы, сярод тэрмінаў значна пераважаюць назоўнікі, якія больш за ўсё прыстасаваны для выражэння паняццяў; в) колькасць слоў іншамоўнага паходжання сярод тэрмінаў значна перавышае ў працэнтных адносінах адпаведную колькасць запазычанняў для агульнаўжывальнай лексікі; г) для тэрмінаў часцей, чым для розных агульнаўжывальных слоў, можна вызначыць аўтара адпаведнай лексічнай адзінкі; д) у адрозненне ад агульналітаратурнай лексікі для ўтварэння тэрмінаў больш актыўна выкарыстоўваюцца інтэрнацыянальныя (як правіла, грэка-лацінскія) элементы тыпу *авія-, гідра-, -метр, -тэка* і інш.; е) самы працэс узнікнення новага тэрміна «характарызуецца пэўнай штучнасцю і асаблівай рацыянальнасцю. У параўнанні з тэрміналогіяй натуральны працэс з'яўлення звычайных слоў уяўляецца стыхійным, не накіроўваемым актыўна свядомасцю, логікай» [37].

Такім чынам, адносіны тэрмінаў да агульналітаратурнай лексікі характарызуюцца наяўнасцю як асобных агульных момантаў, так і яшчэ большай колькасцю адрознівальных рыс у змесце і форме тэрмінаў і агульнаўжывальных слоў. Значна больш трывалыя адносіны тэрміны маюць з такой функцыянальнай разнавіднасцю сучаснай беларускай літаратурнай мовы, як мова навукі, а дакладней, з лексічнымі сродкамі навуковага стылю мовы. Больш таго, тэрміналогія нярэдка кваліфікуецца даследчыкамі навуковага стылю як «прыналежнасць мовы навукі, як асноўная, найбольш значымая і інфарматыўная частка лексічнай сістэмы мовы навукі» [38].

---

[37] Мечковская Н. Б. Принципы исторического изучения терминологии // Методы изучения лексики. Мн., 1975. С. 201.
[38] Даниленко В. П. Русская терминология. С. 15.

Наяўнасць жа ў межах слоўнікавага складу нацыянальнай мовы падобнай спецыялізаванай лексічнай падсістэмы не падлягае сумненню, паколькі «ў сферы кожнай асобнай прафесіі, спецыяльнасці, звязанай пэўнай галіной грамадскай вытворчасці ці навукі, заўсёды існуе большы ці меншы запас лексікі, звязанай з прадметамі і паняццямі, істотна важнымі для гэтай галіны»[39].

Аднак, перш чым прыступіць да разгляду лексічнага складу мовы навукі і месца ў ім тэрмінаў, варта некалькі слоў сказаць пра мову навукі ў цэлым. Так, на думку П. М. Дзянісава, «мова навукі пакуль што даследавана ў ступені, якая ніяк не адпавядае яе рэальнай значымасці ў сучаснай рускай літаратурнай мове»[40]. І ў значнай ступені гэта абумоўлена, на наш погляд, надзвычай разгалінаваным падзелам навуковай працы, калі нават у межах адной галіны ведаў (напрыклад, медыцыны) вылучаюцца літаральна дзесяткі спецыяльнасцей і прафесій, кожная з якіх мае сваю спецыялізаваную лексіку — тэрміны, наменклатурныя назвы і прафесіяналізмы. Прычым вельмі дрэнна забяспечаная хуткадзейнымі ЭВМ сучасная лінгвістычная навука пакуль што не мае рэальнай магчымасці ахапіць той бязмежны акіян спецыяльнай лексікі, які становіцца вынікам няспыннай і ўсё больш дэталізаванай дыферэнцыяцыі навуковай і ўсякай іншай працы.

Адзначаная дыферэнцыяцыя навуковых ведаў пэўным чынам адбіваецца і на змесце мовы навукі: «Мова навукі — функцыянальная разнавіднасць сучаснай рускай літаратурнай мовы, якая аналагічна мове мастацкай літаратуры выходзіць за межы агульналітаратурнай мовы. Перш за ўсё яна ўзнікае перад намі не ў выглядзе адзінага функцыянальнага стылю маўлення, а ў выглядзе шэрага жанравых стыляў, падобных жанравым стылям мастацкай літаратуры: стыль падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, навукова-папулярны стыль; стыль патэнтаў і тэхнічнай дакументацыі, дзяржаўных тэхнічных стандартаў (ДАСТаў) і г. д. ... У тэматычным аспекце мова навукі валодае разгалінаванымі тэрміналогіямі, якія ў сваёй сукупнасці пакрываюць увесь універсум...»[41]

---

[39] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 171.

[40] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. С. 138.

[41] Там жа. С. 165—166.

Акрамя самага агульнага тэматычнага падзелу лексічнага складу мовы навукі, абумоўленага дэталізаванай дыферэнцыяцыяй розных галін навукі і тэхнікі, існуюць класіфікацыі навуковай лексікі паводле тыпу лексічнага значэння асобных спецыяльных слоў і ступені іх ужывальнасці ў розных сферах штодзённага ўжытку. Напрыклад, А. В. Дуднікаў лічыць, што «навуковая лексіка дыферэнцыруецца ў адпаведнасці са зместавай сутнасцю канкрэтнай навукі і служыць лексічнай асновай навуковых стыляў, якія забяспечваюць вусны ці пісьмовы абмен навуковай інфармацыяй, а таксама дабыванне і вербальнае выражэнне новых ведаў у рамках данай навукі» [42]. І далей ён дадае: «Вылучаючы ўзоры тэрміналагічнай лексікі, звязанай з той або іншай навукай, неабходна мець на ўвазе, што існуе агульнанавуковая лексіка, здольная ўступаць у семантыка-граматычныя адносіны з тэрмінамі гэтай навукі і ўдзельнічаць у фарміраванні адпаведнага навуковага стылю. Агульнанавуковая лексіка не мае цвёрдага замацавання за функцыянальным стылем якой-небудзь адной навукі і здольна ўзаемадзейнічаць з тэрміналагічнымі сістэмамі розных навук» [43].

У якасці ўзораў такой агульнанавуковай лексікі ў межах сучаснай беларускай мовы можна прывесці наступныя словы: *абстрактны, акцэнтаваць, аналіз, аптымальны, вывучаць, даследаванне, канкрэтны, мадэль, максімальны, перспектыўны, рэгулярны, супастаўляць, франтальны* і інш. Трэба, аднак, заўважыць, што падобны падзел навуковай лексікі на тэрміналагічную і агульнанавуковую мала чым адрозніваецца ад даволі традыцыйнага падзелу тэрмінаў на вузкаспецыяльныя і агульназразумелыя [44]. Іменна пагэтаму больш аптымальным

---

[42] Дудников А. В. Современный русский язык. М., 1990. С. 91—92.

[43] Там жа. С. 92.

[44] Параўн., напрыклад: «Адрозніваюць тэрміны вузкаспецыяльныя, якія ўжываюцца толькі спецыялістамі ў данай галіне (урачамі, фізікамі і інш.), і агульназразумелыя, якія ўвайшлі ў літаратурную мову (комплекс, кібернетыка і г. д.)» (Прохорова В. Н. Термин // Русский язык: Энциклопедия. М., 1979. С. 349). Параўн. таксама: «З пункту погляду замацаванасці / незамацаванасці ў літаратурнай мове тэрміны дзеляцца на узуальныя (моўныя) і вузкаспецыяльныя. Значэнне узуальнага тэрміна замацавана ў літаратурнай мове і вядома ўсім носьбітам мовы *(вадарод, ангіна, рэцыдыў, дзейнік)*. Вузкаспецыяльныя тэрміны ўжываюцца і разумеюцца толькі спецыяліс-

нам уяўляецца прапанаваны В. П. Даніленка падзел навуковай лексікі на: 1) нетэрміналагічную лексіку, якая аб'ядноўвае словы з адцягненымі і абагульняючымі значэннямі; 2) агульнанавуковую лексіку, склад якой увесь час пашыраецца ў выніку цеснага ўзаемадзеяння розных навук; 3) уласна тэрміналагічную лексіку як «сукупнасць спецыяльных назваў розных галін навукі і тэхнікі, якія функцыяніруюць у сферы прафесіянальных зносін»[45].

Прапанаваны трыхатамічны падзел навуковай лексікі дае больш дэталізаваную характарыстыку лексічнага складу мовы навукі, паколькі поруч з тэрміналагічнай і агульнанавуковай лексікай вылучае яшчэ разрад так званай нетэрміналагічнай лексікі. Да апошняй звычайна адносяцца агульнаўжывальныя словы, якія выконваюць у навуковых тэкстах самыя разнастайныя функцыі (напрыклад, функцыі граматычнай звязкі, абагульнення, пабочнага слова і інш.). Разам з тым пры неабходнасці такі трыхатамічны падзел навуковай лексікі лёгка пераўтвараецца ў дыхатамічны шляхам аб'яднання нетэрміналагічнай лексікі навуковых тэкстаў з агульнанавуковай і супрацьпастаўлення гэтых аб'яднаных разрадаў лексікі ўласна тэрміналагічнай лексіцы. Пра патэнцыяльную магчымасць такога аб'яднання нетэрміналагічнай лексікі навуковых тэкстаў з агульнанавуковымі тэрмінамі сведчыць той факт, што «шматлікія так званыя агульнанавуковыя тэрміны пачынаюць ужывацца практычна ўсімі носьбітамі мовы ўпоравень са словамі»[46].

У той жа самы час уласна тэрміналагічная лексіка захоўвае свой незалежны статус у складзе навуковай лексікі пры любых падзелах і класіфікацыях апошняй, паколькі ўжыванне ўласна тэрміналагічнай лексікі ў навуковых тэкстах з'яўляецца камунікацыйна непазбежным у адрозненне ад слоў іншых разрадаў навуковай лексікі, верагоднасць з'яўлення якіх у спецыяльных тэкстах у значнай ступені залежыць ад асобы аўтара таго або іншага тэксту і асаблівасцей яго аўтарскага ідыястылю.

---

тамі» (Современный русский язык: Лексикология. Фразеология. Лексикография. Фонетика. Орфоэпия. Графика. Орфография. Мн., 1990. С. 71).

[45] Даниленко В. П. Русская терминология. С. 3.

[46] Верещагин Е. М., Костомаров В. Г. Лингвострановедческая теория слова. С. 12.

У такім выпадку ўласна тэрміналагічная лексіка разумеецца намі даволі шырока, як спецыяльная лексіка наогул, якая а) супрацьстаіць агульнанавуковай і нетэрміналагічнай лексіцы навуковых тэкстаў па свайму паняційнаму зместу і ступені пашыранасці сярод носьбітаў мовы; б) аб'ядноўваецца з адзначанымі разрадамі навуковай лексікі на аснове сумеснага ўжывання ў спецыяльных пісьмовых і вусных тэкстах.

### *Наменклатурныя назвы*

Існуе і больш вузкае разуменне ўласна тэрміналагічнай лексікі, якое асабліва відавочна акрэсліваецца пры спробах выяўлення месца тэрмінаў у складзе спецыяльнай лексікі і высвятлення адносін тэрмінаў да іншых разрадаў спецыяльнай лексікі (у прыватнасці, да наменклатурных назваў і прафесіяналізмаў). Так, калі параўнаць колькасныя паказчыкі пералічаных разрадаў спецыяльнай лексікі, то высвятляецца, што «большую частку спецыяльнай лексікі складаюць рознага роду найменні, ці наменклатура. У адрозненне ад тэрмінаў і прафесіяналізмаў наменклатура — гэта толькі сукупнасць назваў, якія ўжываюцца ў навуцы, тэхніцы, вытворчасці»[47]. Колькасная перавага наменклатурных назваў у складзе спецыяльнай лексікі тлумачыцца незлічонай колькасцю канкрэтных аб'ектаў акаляючай рэчаіснасці, якія звычайна вывучаюцца ў межах самых розных навук і абазначаюцца пры дапамозе наменклатурных назваў. Інакш кажучы, у адрозненне ад тэрмінаў, якія перадаюць сутнасць адпаведных навуковых паняццяў, наменклатурныя назвы толькі абазначаюць канкрэтныя аб'екты вывучэння розных навук, а неабсяжнае мноства такіх аб'ектаў амаль не паддаецца ўліку.

У адпаведнасці з існуючай класіфікацыяй розных навук вылучаецца «лінгвістычная, геаграфічная, хімічная, заалагічная, медычная і да т. п. наменклатура. Па складу наменклатура велізарная. У дзесятай пяцігодцы, напрыклад, наменклатура толькі медычнай тэхнікі: інструментаў, апаратаў і інш. налічвала каля 3000 найменняў. Наменклатура прафесій уключае дзесяткі тысяч

---

[47] Сергеев В. Н. Сколько слов в русском языке? // Рассказы о русском языке: Кн. для учителя / Сост. А. Е. Михневич. Мн., 1985. С. 42.

найменняў...»[48] Трэба, аднак, адзначыць, што далёка не ўсе наменклатурныя назвы адносяцца да спецыяльнай лексікі, паколькі «назвы прадметаў... бываюць агульнапрынятымі і абмежаванымі па́ сферы ўжывання. Прычым, як было вызначана, спецыяльная намінацыя значна больш шырокая, чым агульнамоўная»[49].

У сваю чаргу, той факт, што спецыяльная наменклатура, таксама як і тэрміналогія, мае абмежаваную сферу свайго выкарыстання, дае падставы асобным даследчыкам не размяжоўваць наменклатуру і тэрміналогію ў складзе спецыяльнай лексікі. Прычым, як паказвае гісторыя спецыяльнай лексікі, «гэты пункт погляду з'яўляецца традыцыйным, які ідзе яшчэ ад прац XVIII—XIX стст. Адсюль і такія традыцыйныя назвы, як «наменклатура зорак» (нябесных аб'ектаў), хаця зоркі — гэта адзінкавыя аб'екты, «батанічная наменклатура», хаця батанічныя назвы — гэта назвы відаў раслін, г. зн. тэрміны, якія выражаюць агульныя паняцці і да т. п.»[50] Як можна бачыць, у першым выпадку да наменклатуры адносяць уласныя назвы зорак, у другім жа — батанічныя тэрміны. Бываюць і больш складаныя выпадкі, калі падзел спецыяльнай лексікі на тэрміналогію і наменклатуру памылкова ажыццяўляецца ў межах уласна тэрміналагічнай лексікі[51].

Між тым сучасны ўзровень тэрміналагічнай тэорыі дае магчымасць даволі дакладна вызначыць межы паміж наменклатурнымі назвамі, з аднаго боку, тэрмінамі і ўласнымі імёнамі, з другога[52]. Нас жа на гэты раз цікавяць тыя фармальныя рысы і зместавыя прыметы, якімі адрозніваюцца тэрміналогія і наменклатура. Тут перш за ўсё трэба адзначыць, што «тэрміналогія — гэта сістэма паняццяў данай навукі, замацаваных у адпаведным слоўным выяўленні. Наменклатура ж — гэта сістэма наз-

---

[48] Сергеев В. Н. Сколько слов в русском языке? // Рассказы о русском языке. Кн. для учителя / Сост. А. Е. Михневич. С. 42—43.

[49] Лейчик В. М. Люди и слова. М., 1982. С. 13.

[50] Там жа. С. 162.

[51] Параўн.: «... такія словы ў батаніцы, як *расліна, тычынка, пясцік, дрэва* і іншыя, адлюстроўваюць сутнасць пэўных паняццяў, а, напрыклад, словы *падбел, браткі, вікторыя-рэгія* можна аднесці да слоў наменклатуры» (Пакулова В. М. Работа с терминами на уроках биологии: Кн. для учителя. М. 1990. С. 7).

[52] Гл., напрыклад: Лейчик В. М. Номенклатура — промежуточное звено между терминами и собственными именами // Вопросы терминологии и лингвистической статистики. Воронеж, 1974. С. 13—24.

ваў для пэўнай сукупнасці больш ці менш канкрэтных аб'ектаў, якія складаюць змест розных частак данай навуковай галіны ў цэлым»[53]. Адпаведна калі тэрмін — гэта адзін з цесна інтэграваных элементаў пэўнай тэрміналагічнай сістэмы, якая амаль дакладна суадносіцца з адпаведнай сістэмай навуковых паняццяў пэўнай галіны ведаў, то наменклатурная назва — гэта адзін з рознатыповых элементаў неаднароднай сукупнасці абазначэнняў для самых розных аб'ектаў вывучэння канкрэтнай галіны ведаў.

У якасці другога істотнага адрознення паміж тэрміналогіяй і наменклатурай трэба разглядаць тое, што тэрмін з неабходнасцю вымагае лагічнага азначэння абазначанага ім паняцця, у той час як наменклатурная назва можа абысціся без такога азначэння, паколькі наменклатура толькі дае «этыкеткі» для аб'ектаў навукі[54]. Інакш кажучы, наменклатурная назва — гэта непаўнацэнны тэрмін, паколькі ў адрозненне ад сапраўднага тэрміна, які заўсёды выконвае ў спецыяльным тэксце дзве функцыі (функцыю намінацыі і функцыю эксплікацыі навуковага паняцця), функцыянальная роля наменклатурнай назвы зводзіцца толькі да абазначэння канкрэтнага аб'екта навукі.

Апісанне функцыянальнага адрознення паміж тэрміналогіяй і наменклатурай Б. І. Касоўскі дапаўняе наступнымі звесткамі: «Поруч з тэрмінамі, лагічна асэнсаванымі, якія можна назваць тэрмінамі-азначэннямі, паколькі яны імкнуцца раскрыць сутнасць абазначаемага паняцця, у кожнай галіне ведаў ёсць таксама тэрміны-назвы, г. зн. тэрміны, якія ўяўляюць сабой толькі назвы пэўных з'яў. Сукупнасць спецыяльных тэрмінаў-назваў, ужываемых у данай навуковай галіне, называецца наменклатурай. Асноўнае адрозненне паміж тэрмінамі-азначэннямі і тэрмінамі наменклатуры заключаецца ў тым, што першыя абазначаюць адцягненыя паняцці і катэгорыі, тады як другім гэта не ўласціва. Акрамя таго, тэрміны-назвы валодаюць, відаць, больш вузкім значэннем»[55].

---

[53] Ахманова О. С. Словарь лингвистических терминов. М., 1966. С. 6.

[54] Реформатский А. А. Что такое термин и терминология. М., 1959. С. 3—6.

[55] Косовский Б. И. Общее языкознание: Учение о слове и словарном составе языка. Мн., 1974. С. 129.

Напрыклад, у межах сучаснага беларускага мовазнаўства да ўласна тэрмінаў можна аднесці назвы часцін мовы (*назоўнік, прыметнік, дзеяслоў, займеннік* і інш.), рознаўзроўневых моўных адзінак (*фанема, марфема, лексема, грамема* і інш.), раздзелаў мовазнаўства (*фанетыка, лексікалогія, граматыка, словаўтварэнне* і інш.), а таксама многія іншыя слоўныя абазначэнні адцягненых лінгвістычных паняццяў. У сваю чаргу у разрад мовазнаўчай наменклатуры трэба залічыць назвы канкрэтных словаўтваральных афіксаў (напрыклад, прыставкі *най-, па-, пры-, са-* і інш.), злучальных злучнікаў (*або, але, і, ці* і інш.), канкрэтных форм назоўнікаў у клічным склоне (*браце, дружа, панове, сынку* і інш.) і яшчэ безліч рознатыповых слоўных абазначэнняў канкрэтных моўных з'яў. Як можна бачыць з прыведзеных прыкладаў, лінгвістычныя тэрміны маюць больш абстрактныя, адцягненыя значэнні, чым словы мовазнаўчай наменклатуры і іх часткі, якія абазначаюць даволі канкрэтныя моўныя з'явы.

Наступным адрозненнем паміж тэрміналогіяй і наменклатурай з'яўляецца спосаб іх унутранай сістэматызацыі. На думку В. М. Лейчыка, «пры сістэматызацыі наменклатурных адзінак адбываецца не вылучэнне відавых назваў з родавых, як гэта мае месца, напрыклад, у тэрмінах, а аб'яднанне некалькіх наменклатурных адзінак у адзіны рад, які потым можа быць працягнуты: *ЗІС-5, ...,* затым *ЗІЛ-130* і інш.»[56] Інакш кажучы, калі кожная галіновая тэрміналогія арганізуецца ў пэўную лексічную сістэму пры дапамозе іерархічных (віда-родавых) адносін паміж тэрмінамі, то наменклатурныя назвы аб'ядноўваюцца ў межах адпаведных наменклатурных класаў шляхам сумеснага адлюстравання імі агульных паняццяў, якія ляжаць у аснове гэтых класаў. Іменна існаваннем у нашай мове розных спосабаў сістэматызацыі спецыяльнай лексікі, якімі, напрыклад, адрознівaюцца тэрміналогія і наменклатура, тлумачыцца немагчымасць у цяперашні момант пабудовы строга іерархічнай семантычнай класіфікацыі ўсёй лексікі мовы ў выглядзе ідэаграфічнага тэзаўруса. Наменклатурныя класы слоў пры стварэнні такога тэзаўруса непазбежна будуць падавацца спісамі ў адрозненне ад лексіка-семантычных палёў (у тым ліку і тэрміналагічнага характару),

[56] Лейчик В. М. Люди и слова. С. 23.

кожнае з якіх будзе мець у адпаведнай рубрыцы ідэаграфічнага тэзаўруса ўласную іерархічную будову ў выглядзе своеасаблівага мікратэзаўруса.

Акрамя таго, тэрміналогія і наменклатура адрозніваюцца таксама і характарам сваёй словаўтваральнай матывацыі. Паколькі розныя галіновыя тэрміналогіі «складваюцца паступова, на працягу дзесяцігоддзяў ці нават стагоддзяў, таму матывуючыя прыметы ў іх бываюць вельмі розныя: гэта і падабенства прадметаў, і блізкасць прадметаў, і агульнасць іх функцый, і вылучэнне відавога прадмета з роду, а нярэдка і зусім выпадковая асацыяцыя» [57]. У выніку гэтага далёка не ўсе тэрміны на сённяшні дзень маюць дакладна акрэсленую матывацыю. У адрозненне ад тэрміналогіі «практычна ўся наменклатура матываваная» [58]. У многім гэта абумоўлена адносна непрацяглым часам стварэння наменклатуры і даволі простымі прынцыпамі яе фарміравання. Як правіла, за аснову пры стварэнні розных наменклатурных адзінак бярэцца: а) месца вытворчасці якога-н. прадмета (напрыклад, трактар «Беларусь» — у Беларусі, халадзільнік «Мінск-16» — у Мінску і г. д.); б) знешняя прымета прадмета (напрыклад, пыласос «Віхар» сапраўды ўтварае паветраны віхар); в) прызначэнне прадмета (напрыклад, іголкатрымальнік трымае іголку); г) імя стваральніка таго або іншага прадмета (напрыклад, назва прыбора амперметра ўтворана па імені французскага вучонага Андрэ Мары Ампера, які адкрыў закон механічнага ўзаемадзеяння двух токаў, пакладзены ў аснову стварэння гэтага прыбора) і іншыя намінатыўныя прыметы.

Розны характар словаўтваральнай матывацыі ў тэрмінаў і наменклатурных назваў у пэўнай ступені тлумачыцца рознымі наборамі словаўтваральных сродкаў, пры дапамозе якіх яны створаны. Напрыклад, «спосабы ўтварэння наменклатурных адзінак дазваляюць уключаць у гэтыя адзінкі некалькі самых разнародных прымет прадмета» [59]. У выніку гэтага наменклатурная адзінка спачатку нярэдка з'яўляецца неаднаслоўнай намінацыяй. Аднак чыста фармальная, «этыкетачная» функцыя наменклатурнай назвы патрабуе сцісласці і лаканічнасці пры яе ўжыванні ў навуковым тэксце, таму з цягам часу

[57] Лейчик В. М. Люди и слова. С. 35—36.
[58] Там жа. С. 36.
[59] Там жа. С. 37.

неаднаслоўная наменклатурная намінацыя паступова пераўтвараецца ў абрэвіятуру, агульная колькасць якіх сярод наменклатурных назваў пастаянна павялічваецца. У той жа час, напрыклад, «сярод тэрмінаў даволі мала абрэвіятур»[60].

Адрозніваюцца тэрміны і наменклатурныя назвы і сваімі адносінамі да штучных моў. Так, у адносінах да розных тэрміналагічных метамоў і падмоў навукі і тэхнікі звычайна выказваецца думка, што «гэта не штучныя мовы, якія зараз у вялікай колькасці ствараюцца для патрэб вучоных і інжынераў, а раздзелы натуральных моў»[61]. У сваю чаргу, калі ідзе размова пра адносіны наменклатуры да штучных моў, то ўжо амаль бясспрэчным лічыцца тое, што «ёсць цэлыя галіны лексічных адзінак, якія знаходзяцца на мяжы натуральных і штучных моў. Да такіх галін адносіцца наменклатура, многія адзінкі якой уяўляюць сабой мудрагелістую мазаіку выкарыстання знакаў-абазначэнняў, сімвалаў, мадэлей»[62].

Нарэшце, варта яшчэ раз успомніць пра колькасныя адрозненні паміж тэрміналогіяй і наменклатурай. Напрыклад, В. М. Пакулава лічыць, што словы наменклатуры незлічоныя, у той час як «тэрміны для кожнай навукі можна пералічыць»[63]. Пра колькасную перавагу наменклатурных назваў над тэрмінамі ў складзе спецыяльнай лексікі ўскосна сведчыць і той факт, што калі лік разнастайных зборнікаў рэкамендуемых тэрмінаў у нашай краіне ідзе пакуль што на дзесяткі адзінак, то агульная колькасць шматлікіх наменклатурных зборнікаў, стандартаў і да т. п. складае на сённяшні дзень ужо некалькі тысяч адзінак[64].

Такім чынам, тэрміны і наменклатурныя назвы адрозніваюцца паміж сабой па цэламу шэрагу прымет і фармальных рыс: а) сваім паняційным зместам (тэрмін абазначае навуковае паняцце, наменклатурная адзінка — канкрэтны аб'ект навукі); б) сваімі функцыямі ў навуковым тэксце (тэрмін выконвае функцыі намінацыі і эксплікацыі навуковага паняцця, наменклатурная адзінка — толькі функцыю намінацыі канкрэтнага аб'екта навукі);

---

[60] Лейчик В. М. Люди и слова. С. 148.
[61] Там жа. С. 159.
[62] Там жа. С. 141.
[63] Пакулова В. М. Работа с терминами на уроках биологии: Кн. для учителя. М., 1990. С. 7.
[64] Лейчик В. М. Люди и слова. С. 175.

в) спосабам іх сістэматызацыі (тэрміны ўпарадкаваны пры дапамозе віда-родавых адносін, а наменклатурныя адзінкі — шляхам сумеснага адлюстравання агульнага для ўсяго наменклатурнага класа паняцця); г) характарам сваёй словаўтваральнай намінацыі (наменклатурныя назвы ў параўнанні з тэрмінамі валодаюць значна большай ступенню матывavanасці); д) наборамі словаўтваральных сродкаў (напрыклад, у адрозненне ад тэрмінаў, сярод якіх вельмі мала абрэвіятур, для ўтварэння наменклатурных адзінак даволі актыўна выкарыстоўваецца абрэвіяцыя); е) адносінамі да штучных моў (тэрміны дачынення да штучных моў не маюць наогул, а наменклатурныя назвы часткова ўваходзяць у склад гэтых моў); ж) колькаснымі паказчыкамі (у складзе спецыяльнай лексікі наменклатура ў колькасных адносінах пераважае над тэрміналогіяй).

Як можна бачыць, межы паміж тэрміналогіяй і наменклатурай з'яўляюцца даволі акрэсленымі. Аналагічным чынам можна высветліць адрозненні і паміж тэрмінамі, з аднаго боку, і прафесіяналізмамі, з другога.

### *Прафесіяналізмы*

Словы і выразы, уласцівыя мове прадстаўнікоў якой-небудзь прафесіі або сферы дзейнасці, называюцца прафесіяналізмамі. Напр.: *«дворнік»* (шклоачышчальнік), *«халасцяк»* (парожні рэйс) — у мове шафёраў; *«камбуз»* (кухня на судне), *«кок»* (повар), *«задраіць»* (шчыльна закрыць) — у мове матросаў; «паласа» (набраная або надрукаваная старонка тэксту), *«падвал»* (ніжняя частка газетнага ліста, а таксама артыкул змешчаны ў гэтым месцы), *«шапка»* (агульны загаловак для некалькіх газетных заметак) — у мове друкароў, газетчыкаў і інш. Дзякуючы сваёй эмацыянальнай выразнасці прафесіяналізмы праз гутарковую мову пранікаюць у літаратурны ўжытак, дзе выступаюць звычайна як размоўныя, экспрэсіўныя эквіваленты тэрмінаў.

Параўнальны аналіз зместавых і фармальных характарыстык тэрмінаў і прафесіяналізмаў паказвае, што словы гэтых двух разрадаў спецыяльнай лексікі маюць як шэраг агульных прымет, так і яшчэ больш адрознівальных рыс. Напрыклад, на думку асобных даследчыкаў, «да ліку прымет, якія аб'ядноўваюць тэрміналагічныя і прафесіянальныя словы, адносяцца наступныя:

1) і тэрміны, і прафесіяналізмы абмежаваны ва ўжытку (належаць да неагульнанароднай сферы ўжытку); 2) тэрміны і прафесіяналізмы здольны называць адны і тыя ж прадметы і працэсы працы; 3) спецыяльная лексіка (тэрміны і прафесіяналізмы) у адрозненне ад міжстылёвай лексікі з'яўляецца прыметай стылю; 4) шляхі ўтварэння прафесіяналізмаў і тэрмінаў аналагічныя»[65].

На наш погляд, адносна апошняй агульнай прыметы варта выказаць асобныя заўвагі. Шляхі ўтварэння прафесіяналізмаў і тэрмінаў ніяк не могуць быць цалкам аналагічнымі па шэрагу прычын. Па-першае, большасць прафесіяналізмаў утворана значна раней многіх тэрмінаў. Як сведчыць В. М. Жырмунскі, асноўныя пласты прафесіянальнай лексікі сфарміраваліся ў еўрапейскіх краінах у эпоху феадалізму, прычым адбывалася гэта ва ўмовах дробнай таварнай вытворчасці і карпаратыўнай замкнёнасці прафесій, калі прадстаўнікі таго або іншага «цэха», «промыслу» ці «рамяства» ў зносінах паміж сабой карысталіся ўласным прафесіянальным жаргонам. У эпоху ж капіталізму старая прафесіянальная лексіка «рамёстваў» і «промыслаў» паступова (разам з індустрыялізацыяй і ўзбуйненнем вытворчасці) выцясняецца новымі абазначэннямі — лагічна ўпарадкаванымі, пераважна інтэрнацыянальнымі тэрмінамі[66]. Напрыклад, калі на рэках Беларусі параходы цалкам замянілі парусна-вяслярныя караблі, прафесіяналізм *аснач*, які абазначаў «рабочага па аснастцы і такелажу суднаў (да пашырэння самаходнага воднага транспарту)»[67], перайшоў у разрад уласна лексічных архаізмаў і саступіў месца больш шматлікім і спецыялізаваным тэрмінам — сучасным назвам рабочых спецыяльнасцей з галіны суднабудаўнічай вытворчасці. Па-другое, як будзе паказана ніжэй, прафесіянальная лексіка фарміруецца стыхійна, у той час як тэрміны заўсёды ўтвараюцца свядома і пад кантролем спецыялістаў.

Наяўнасць у тэрмінаў і прафесіяналізмаў такіх агульных прымет, як абмежаванасць ва ўжытку, здольнасць абазначаць адны і тыя ж прадметы працы і прыналеж-

---

[65] Современный русский язык: Лексикология. Фразеология. Лексикография. Фонетика. Орфоэпия. Графика. Орфография: Учебн. пособие. С. 73.

[66] Гл.: Жирмунский В. М. Национальный язык и социальные диалекты. С. 106—109.

[67] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 1. С. 519.

насць да адзінага (навуковага) стылю, дае падставы асобным сучасным даследчыкам не размяжоўваць гэтыя групы слоў у складзе спецыяльнай лексікі. Напрыклад, М. М. Шанскі і В. С. Ахманава лічаць тэрміналогію і прафесіянальную лексіку супадаючымі класамі слоў, паколькі прызначэнне ўсіх слоў з гэтых класаў застаецца агульным — абазначэнне спецыяльных прадметаў і паняццяў.

Разам з тым значная колькасць даволі істотных адрозненняў, выяўленых сучаснай лексікалагічнай навукай паміж тэрмінамі і прафесіяналізмамі, дае яшчэ больш падстаў для размежавання гэтых класаў слоў у складзе спецыяльнай лексікі. Каб канчаткова пераканацца ў гэтым, разгледзім адрозненні, існуючыя паміж тэрмінамі і прафесіяналізмамі, больш падрабязна.

Рознымі даследчыкамі лексічнай семантыкі ў якасці важнейшых вылучаюцца даволі розныя адрозненні, якія сапраўды існуюць паміж тэрміналагічнай і прафесіянальнай лексікай. Так, Б. І. Касоўскі сцвярджае наступнае: «Межы паміж уласна тэрміналогіяй і прафесіянальнай лексікай вельмі невыразныя, а часта і наогул адсутнічаюць. Найважнейшае адрозненне тут заключаецца ў тым, што навуковая тэрміналогія ствараецца штучна, тады як прафесіянальная лексіка ўзнікае стыхійна»[68]. Такім чынам, штучнасць тэрмінаўтварэння ў параўнанні са стыхійнасцю фарміравання прафесіянальнай лексікі разглядаецца Б. І. Касоўскім у якасці галоўнага адрознення паміж гэтымі разрадамі спецыяльнай лексікі.

Сапраўды, на карысць такой думкі можна прывесці даволі важкія аргументы. З аднаго боку, стыхійны характар фарміравання прафесіянальнай лексікі ўскосна праяўляецца праз выкарыстанне самага паўсядзённага, «бытавога» слоўнага матэрыялу пры ўтварэнні канкрэтных прафесіянальных назваў. «Па паходжанню прафесіяналізмы, як правіла,— вынік метафарычнага пераносу значэнняў слоў бытавой лексікі на тэрміналагічныя паняцці: па падабенству, напрыклад, формы дэталі і бытавой рэаліі, характару вытворчага працэсу і агульнавядомага дзеяння ці, нарэшце, па эмацыянальнай асацыяцыі»[69]. Напрыклад, вадзіцельскі прафесіяналізм са

[68] Косовский Б. И. Общее языкознание: Учение о слове и словарном составе языка. С. 130.

[69] Прохорова В. Н. Профессионализм // Русский язык: Энциклопедия. М., 1979. С. 240.

значэннем 'рулявое кола ў аўтамабілі, трактары і іншых транспартных сродках' узнік на базе агульнаўжывальнага бытавога слова *абаранак* ('булачны выраб з заварнога цеста, закручанага кольцам').

З другога боку, у даследчыкаў лексічнай семантыкі не выклікае сумнення штучны характар пераважнай большасці тэрмінаў. Напрыклад, Н. Б. Мячкоўская тлумачыць спецыфіку тэрмінатворчага працэсу наступным чынам: «Існуюць асаблівасці ў самым узнікненні тэрмінаў, якія вызначаюць спецыфіку іх далейшага гістарычнага развіцця... Пры стварэнні тэрмінаў назіраецца імкненне зрабіць іх унутраную форму празрыстай, а затым падкрэсліць матываванасць у азначэннях... Кантроль логікі і ўмяшальніцтва чалавека суправаджаюць усю гісторыю тэрміналогіі»[70].

Аднак нельга не заўважыць, што штучнасць тэрмінаўтварэння і стыхійнасць фарміравання прафесіянальнай лексікі можна выявіць толькі з пункту гледжання дыяхраніі. Што ж датычыцца сінхраніі, то тут на першы план выходзяць зусім іншыя адрозненні паміж тэрмінамі і прафесіяналізмамі. Напрыклад, А. В. Калінін акцэнтуе ўвагу на тым, што ў плане сінхраніі «тэрмін» — гэта цалкам афіцыяльнае... абазначэнне, назва пэўнага паняцця, а прафесіяналізм — паўафіцыяльнае слова, распаўсюджанае... сярод людзей якой-небудзь прафесіі, спецыяльнасці, але якое не з'яўляецца... строгім, навуковым абазначэннем паняцця»[71]. Аналагічную думку выказвае і У. М. Сяргееў: «Калі тэрмін з'яўляецца афіцыяльна прынятай і ўзаконенай назвай паняцця, з'явы ў навуцы, тэхніцы, мастацтве, спорце і да т. п., то прафесіяналізм — часта слова ці выраз, уласцівы мове той ці іншай групы асоб, аб'яднаных агульнай прафесіяй»[72].

Прычым сама наяўнасць у тэрмінаў афіцыяльнага статуса і адсутнасць такога статуса ў прафесіяналізмаў, на думку асобных даследчыкаў, абумоўлены тым, што «тэрміны ўваходзяць у пэўныя тэрмінасістэмы і падпарадкоўваюцца нормам, якія ўлічваюць, з аднаго боку, тое агульнае, што ёсць у мове навукі як разнавіднасці літаратурнай мовы, а з другога боку, тое асаблівае, што ёсць у мове навукі, але адсутнічае ў структуры літара-

---

[70] Мечковская Н. Б. Принципы исторического изучения терминологии. С. 201.
[71] Калинин А. В. Лексика современного русского языка. С. 141.
[72] Сергеев В. Н. Сколько слов в русском языке? С. 42.

турнай мовы; для прафесіяналізмаў не характэрна унармаванасць — найважнейшая ўласцівасць літаратурнай мовы» [73].

Нарматыўная, кадыфікацыйная накіраванасць тэрмінаў у параўнанні з размоўным характарам прафесіяналізмаў знаходзіць сваё адлюстраванне і ў шэрагу іншых стылістычных адрозненняў, існуючых паміж гэтымі разрадамі спецыяльнай лексікі. Па-першае, розная стылістычная класіфікацыя тэрмінаў і прафесіяналізмаў у значнай меры абумоўлена адсутнасцю ў значэннях першых і наяўнасцю ў змесце другіх эмацыянальных адценняў. Так, Б. І. Касоўскі піша аб гэтым наступнае: «Прафесіянальнай лексіцы ў значна большай ступені ў параўнанні з навуковай тэрміналогіяй уласцівая экспрэсіўнасць» [74]. Яшчэ больш катэгарычна выказваецца наконт гэтага В. Н. Прохарава: «Прафесіяналізмы заўсёды экспрэсіўныя і супрацьпастаўляюцца дакладнасці і стылістычнай нейтральнасці тэрмінаў... З прычыны ўласцівай прафесіяналізмам экспрэсіўнасці яны адносна лёгка пераходзяць у прастамоўе, а таксама ў размоўны стыль літаратурнай мовы» [75].

Па-другое, на стылістычную характарыстыку тэрмінаў і прафесіяналізмаў пэўны ўплыў аказвае тое, што даволі істотна адрозніваюцца самыя агульныя сферы іх выкарыстання. Так, «калі сфера ўласна тэрміналогіі — пісьмовая мова, то прафесіяналізмы належаць сферы вуснай мовы, з'яўляюцца ў гэтым плане стылістычна маркіраванымі» [76]. Другія лічаць, што адрозненні паміж сферамі выкарыстання гэтых разрадаў спецыяльнай лексікі носяць хутчэй колькасны, верагодны характар, чым якасны: «тэрміны ўжываюцца і ў пісьмовай, і ў вуснай мове спецыялістаў, прафесіяналізмы пераважна ў вуснай мове ў прафесіянальных або іншых зносінах людзей, пад якімі разумеюцца, напрыклад, любоў да калекцыяніравання, рыбалоўства, палявання і г. д.» [77]

Той факт, што «прафесіяналізмам уласцівы «гутарко-

---

[73] Современный русский язык: Лексикология. Фразеология. Лексикография. Фонетика. Орфоэпия. Графика. Орфография. С. 72—73.

[74] Косовский Б. И. Общее языкознание: Учение о слове и словарном составе языка. С. 132.

[75] Прохорова В. Н. Профессионализм. С. 240.

[76] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 178.

[77] Современный русский язык: Лексикология. Фразеология. Лексикография. Фонетика. Орфоэпия. Графика. Орфография. С. 73.

вы характар», дынамічны аспект, тады як тэрміны звычайна адносяцца да кніжнай лексікі» [78], дапамагае нам зразумець сутнасць і такога стылістычнага адрознення паміж гэтымі разрадамі спецыяльнай лексікі, у адпаведнасці з якім «можна, відаць, гаварыць пра большую дакладнасць, нацыянальны ці інтэрнацыянальны характар тэрмінаў і «фальклорнасць», рэгіянальнасць прафесіяналізмаў» [79]. Так, з аднаго боку, не выклікае сумнення больш упарадкаваны, нарміраваны і нават часткова інтэрнацыянальны характар так званай кніжнай лексікі пісьмовых (у тым ліку і навуковых) тэкстаў у параўнанні з менш спецыялізаванай лексікай гутарковага (у тым ліку і прафесіянальнага) маўлення. Невыпадкова, што паступовая кадыфікацыя кніжнай лексікі пісьмовых тэкстаў была ў свой час магутным фактарам фарміравання нацыянальнай літаратурнай мовы.

З другога боку, як сведчыць В. М. Жырмунскі, фарміраванне нацыянальнай літаратурнай мовы садзейнічала наданню пэўнай частцы прафесіянальнай лексікі статусу навуковых тэрмінаў, але ў асноўным яна захавала свой мясцовы характар, своеасаблівы «фальклорны каларыт». Натуральна, што капіталістычная (а пазней і сацыялістычная.— *В. Шч.*) прамысловая вытворчасць не карыстаецца гэтай «фальклорнай тэрміналогіяй»: дэталі машын ці тэхнічнага працэсу ў прафесіянальнай лексіцы эпохі капіталізму атрымалі агульныя абазначэнні нацыянальнага ці інтэрнацыянальнага характару, якія ўжо маюць уласна тэрміналагічны статус. Той, факт, што кожны тэрмін у адрозненне ад большасці прафесіяналізмаў, якія захоўваюць свой мясцовы характар, непазбежна набывае агульнанацыянальны ці нават інтэрнацыянальны статус, тлумачыцца даследчыкамі па-рознаму. Напрыклад, А. І. Кісялеўскі аналізуе гэты факт на матэрыяле беларускай батанічнай тэрміналогіі наступным чынам: «Народная батанічная лексіка, як правіла, размеркавана лакальна. Кожны геаграфічны арэал мае свае назыўныя варыянты на адпаведнае паняцце, і часта асобная батанічная адзінка ў залежнасці ад якасцей можа мець некалькі назваў. Літаратурная мова не можа выкарыстоўваць усе існуючыя сінанімічныя дублеты. Часцей за ўсё

[78] Дудников А. В. Современный русский язык. С. 87.

[79] Косовский Б. И. Общее языкознание: Учение о слове и словарном составе языка. С. 130.

выбіраецца адна назва, якая і замацоўваецца для ўжывання ў спецыяльных сферах (зрэдку дзве назвы)»[80].

У поўнай адпаведнасці з толькі што прыведзеным тлумачэннем складальнікі «Руска-беларускага слоўніка» (М., 1953) на стар. 31 у якасці агульнанацыянальнага нарматыўнага тэрміна, які мае пры сабе абмежавальную памету *бот.*, падаюць слова *капытнік* (рус. *белокрыльник*). Між тым у розных кутках рэспублікі для абазначэння аналагічнага батанічнага паняцця яшчэ выкарыстоўваюцца і такія мясцовыя спецыялізаваныя назвы, як *пятушкі, пеўнікі, заячы бабоўнік, мядзведжы лапкі, вахка, шалей, бобак, капялюшнік, белакапытнік, какошнік*[81]. Таму зусім невыпадковым з'яўляецца выкарыстанне В. У. Вінаградавым для абазначэння прафесіянальнай лексікі такіх тэрмінаў, як *прафесіянальна-тэхнічныя дыялекты* і *прафесіянальныя гаворкі*[82]. Што ж датычыцца сучасных тэрмінолагаў, то яны выносяць прафесіяналізмы дыялектнага характару за межы ўласна тэрміналагічнай лексікі[83].

Разам з тым трэба адзначыць, што адрозненні, абумоўленыя агульнанацыянальным характарам тэрмінаў і пераважна мясцовым характарам прафесіяналізмаў, захоўваюцца толькі ў тых выпадках, калі гэтыя разрады спецыяльнай лексікі застаюцца прыналежнасцю сферы навукі. Калі ж словы гэтых разрадаў трапляюць у агульнаўжывальную літаратурную мову, то асобныя прафесіяналізмы нярэдка набываюць большую частату выкарыстання, чым нават агульнанацыянальныя тэрміны. На думку У. М. Сяргеева, гэта тлумачыцца тым, што «розныя галіны прафесіянальнай дзейнасці чалавека маюць неаднолькавую ступень замкнёнасці. Існуюць спецыяльнасці і прафесіі «вузкага профілю» (дакладныя навукі, асобныя галіны мовазнаўства, эканомікі, права і да т. п.) і галіны «шырокага профілю», у якіх, апрача саміх спецыялістаў, заняты дзейнасцю прадстаўнікі самых розных прафесій. Да такіх галін, напрыклад, могуць быць

---

[80] Кісялеўскі А. І. Аб тэрытарыяльным фактары ў некаторых галінах спецыяльнай мовы // Аб некаторых асаблівасцях беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1965. С. 21.

[81] Там жа. С. 23—24.

[82] Виноградов В. В. Русский язык: (Грамматическое учение о слове). 2-е изд. М., 1972. С. 55.

[83] Гл., напрыклад: Суперанская А. В., Подольская Н. В., Васильева Н. В. Общая терминология: Вопросы теории. С. 26—27.

аднесены спорт, музыка, выяўленчае мастацтва, садоўніцтва, агародніцтва, кветкаводства, шыццё, аўтамабільная справа, медыцына, палітыка і да т. п. Па гэтых галінах маецца не толькі грунтоўная спецыяльная, але і вялікая навукова-папулярная літаратура. У перыядычным друку пастаянна змяшчаюцца нарысы, артыкулы і заметкі па актуальных пытаннях, звязаных з гэтымі галінамі прафесіянальнай дзейнасці членаў грамадства... Нямала створана мастацкіх твораў, у якіх апавядаецца аб дзейнасці вучоных, урачоў, ваенных, спартсменаў, музыкантаў, работнікаў аўтамабільнага транспарту і інш.» [84] У выніку ўсяго сказанага, прафесіянальная лексіка акцёраў, паляўнічых, рыбакоў, маракоў, спартсменаў, ваенных і г. д., якая поруч з вузкаспецыяльнымі тэрмінамі характарызуецца спачатку абмежаваным выкарыстаннем, паступова набывае пашырэнне. «Іменна тут мяжа паміж прафесіянальнай лексікай і лексікай жаргоннай пачынае размывацца. Пры гэтым у прафесіяналізмаў пачынаюць паяўляцца экспрэсіўна-эмацыянальныя адценні» [85].

Акрамя пералічаных вышэй адрозненняў нарматыўна-стылістычнага характару, якія існуюць паміж тэрмінамі і прафесіяналізмамі, асобнымі даследчыкамі вылучаюцца часам і іншыя. Напрыклад, нярэдка падкрэсліваецца функцыянальная другаснасць прафесіяналізмаў у параўнанні з тэрмінамі, калі словы гэтых двух разрадаў спецыяльнай лексікі чаргуюцца ў адным і тым жа тэксце. Так, Э. В. Кузняцова лічыць, што прафесіяналізмы «ўяўляюць сабой другасныя найменні тых ці іншых з'яў, спецыфічных для пэўнай галіны, выступаюць звычайна ў якасці сінонімаў спецыяльнай тэрміналогіі» [86]. Аналагічнай думкі прытрымліваецца і В. Н. Прохарава: «Прафесіяналізмы выступаюць звычайна як прастамоўныя эквіваленты адпаведных па значэнню тэрмінаў» [87]. Аднак бываюць выпадкі, калі сам прафесіяналізм не мае адпаведнага тэрміналагічнага эквівалента і з'яўляецца

---

[84] Сергеев В. Н. Специальная лексика современного русского языка в новом академическом словаре // Актуальные проблемы разработки нового академического словаря русского языка. Л., 1990. С. 89.

[85] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. С. 154.

[86] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. С. 178.

[87] Прохорова В. Н. Профессионализм. С. 240.

адзінай спецыялізаванай назвай навуковага паняцця. У такіх выпадках гаварыць аб функцыянальнай другаснасці прафесіяналізма няма падстаў, паколькі ён сам «прэтэндуе на тое, каб стаць тэрмінам» [88]. Сама наяўнасць падобных выпадкаў дае магчымасць асобным даследчыкам сцвярджаць, што «тэрміналогія і прафесіянальная лексіка маюць значную частку агульных адзінак — слоў і словазлучэнняў — і што разам з тым рэальна існуюць у коле тэрмінаў і прафесіяналізмаў несупадаючыя часткі, якія чакаюць спецыяльных даследаванняў» [89]. Зразумела, што пры такім перакрыжаванні тэрміналагічнай і прафесіянальнай лексікі гаварыць аб функцыянальнай другаснасці прафесіяналізмаў можна толькі з пэўнымі агаворкамі.

Нарэшце, асобныя даследчыкі пры апісанні існуючых паміж тэрмінамі і прафесіяналізмамі адрозненняў часам сцвярджаюць, што «тэрміны ўваходзяць у склад літаратурнай мовы, а прафесіяналізмы знаходзяцца за яе межамі» [90]. Аднак, як ужо паказвалася вышэй, уключыць цалкам усю тэрміналогію ў склад літаратурнай мовы немагчыма, паколькі яна колькасна значна пераўзыходзіць агульнаўжывальную літаратурную лексіку і вывучыць усю тэрміналогію не пад сілу радавому носьбіту мовы. Акрамя таго, многія прафесіяналізмы, якія ўжываюцца прадстаўнікамі так званых прафесій «шырокага профілю», даўно ўжо набылі статус агульнаўжывальных слоў і трывала замацаваліся ў літаратурнай мове. Таму лепш гаварыць не аб літаратурнасці тэрмінаў і нелітаратурнасці прафесіяналізмаў, а пра ўпарадкаванасць, унармаванасць першых і гутарковым характары другіх.

Такім чынам, тэрміны і прафесіяналізмы адрозніваюцца паміж сабой па цэламу шэрагу прымет: а) часам і шляхамі свайго фарміравання (прафесіяналізмы ўтвараюцца значна раней і стыхійна, а ўтварэнне тэрмінаў адбываецца пазней і носіць мэтанакіраваны характар); б) нарматыўным статусам (тэрмін з'яўляецца афіцыяльна ўзаконенай назвай навуковага паняцця, і прафесіяналізм — гэта слова, уласцівае гаворцы якой-небудзь

[88] Шелов С. Д. Терминология, профессиональная лексика и профессионализмы: (К проблеме классификации специальной лексики) // ВЯ. 1984. № 5. С. 84.

[89] Дудников А. В. Современный русский язык. С. 88.

[90] Современный русский язык: Лексикология. Фразеология. Лексикография. Фонетика. Орфоэпия. Графика. Орфография. С. 72.

групы асоб, аб'яднаных агульнай прафесіяй); в) адносінамі да экспрэсіўнасці (прафесіяналізм амаль заўсёды экспрэсіўны, а тэрмін звычайна стылістычна нейтральны); г) выкарыстаннем у розных тыпах тэкстаў (тэрміны пераважаюць у пісьмовых тэкстах, а прафесіяналізмы — у вусных); д) пашыранасцю ў межах агульнанацыянальнай мовы (тэрміны маюць агульнанацыянальны і часам нават інтэрнацыянальны характар, а прафесіяналізмы нярэдка носяць мясцовы характар); е) функцыянальнай нагрузкай (у шэрагу выпадкаў прафесіяналізмы з'яўляюцца функцыянальна другаснымі сінонімамі размоўна-экспрэсіўнага характару ў адносінах да эквівалентных ім па значэнню тэрмінаў).

Раздзел III

# ЛЕКСІКА АКТЫЎНАГА І ПАСІЎНАГА ЗАПАСУ

## § 1. ПАНЯЦЦЕ АБ АКТЫЎНЫМ І ПАСІЎНЫМ ЗАПАСЕ ЛЕКСІКІ

Адметнай асаблівасцю лексікі (у параўнанні з іншымі ўзроўнямі мовы) з'яўляецца яе непасрэдная накіраванасць на з'явы рэчаіснасці. Змены, якія адбываюцца ў грамадска-палітычнай, эканамічнай, навукова-тэхнічнай і культурнай сферах жыцця народа, адлюстроўваюцца ў лексіцы, мяняюць слоўнікавы склад мовы. Адны прадметы, з'явы, паняцці існуюць спрадвечна, і словы, якія іх называюць, актыўна выкарыстоўваюцца носьбітамі мовы; другія — адміраюць, а з імі знікаюць і іх назвы; трэція — узнікаюць і разам паяўляюцца новыя словы для іх абазначэння. З улікам гэтага ў лексічным складзе мовы вылучаюцца дзве катэгорыі слоў: словы актыўнага ўжытку і словы, якія рэдка ўжываюцца і застаюцца ў пасіўным запасе.

**Актыўную лексіку** складаюць самыя ўжывальныя словы, значэнне якіх зразумела ўсім носьбітам мовы. Сюды адносяцца агульнанародныя лексічныя адзінкі найбольш актуальнага значэння, якія абслугоўваюць паўсядзённую моўную дзейнасць ва ўсіх сферах зносін. Пераважна гэта стылістычна нейтральныя словы з раз-

вітой сістэмай значэнняў, шырокай спалучальнасцю і высокай словаўтваральнай актыўнасцю. Уяўленне аб частаце ўжывання слоў, актыўным ці пасіўным іх выкарыстанні ў мове даюць спецыяльныя даведнікі, важнейшымі з якіх з'яўляюцца частотныя слоўнікі.

Так, аўтары «Частотнага слоўніка беларускай мовы» (Мн., 1976) Н. С. Мажэйка і А. Я. Супрун на матэрыялах мастацкай прозы дакладна выдзяляюць першую тысячу найбольш часта ўжывальных слоў беларускай мовы. Гэта словы, якія сустрэліся ў тэкстах 31 раз і часцей і складаюць ядро слоўніка. У семантычных адносінах гэта ядро, гавораць аўтары, складаецца з дастаткова разнастайнай лексікі. Сярод назоўнікаў, напрыклад, прадстаўлена вялікая група назваў асоб як агульных (*чалавек, мужчына, жанчына, дзіця, дзяўчына, людзі*), так і больш спецыялізаваных: назвы роднасці і сваяцтва (*бацька, маці, мама, тата, сын, дачка, брат, жонка, дзядзька, цётка, дзед*), назвы асоб па прафесіі (*рабочы, настаўнік, доктар, старшыня, начальнік*), назвы груп асоб (*сям'я, брыгада, народ*). У тысячы найбольш частых слоў прадстаўлена і група слоў, што абазначаюць часткі цела чалавека (*рука, вока, галава, твар, нага, сэрца, плячо, палец, нос, вуха, грудзі, спіна*), а таксама словы, што абазначаюць тыповыя дзеянні і ўчынкі чалавека (*голас, крок, сляза*). У ядро слоўніка ўвайшлі амаль поўнасцю асноўныя назвы адрэзкаў часу (*час, дзень, год, ноч, вечар, раніца, вясна, тыдзень*), важнейшыя словы, звязаныя з надвор'ем (*вецер, дождж, снег*), геаграфічныя тэрміны (*лес, поле, бераг, зямля, рака, балота, вёска, раён, вуліца*). Жыллё чалавека прадстаўлена словамі *хата, дом, двор, сцяна, дзверы, акно, печ*. Ёсць тут назвы раслін (*дрэва, куст, трава, дуб*) і жывёл (*конь, карова, сабака, птушка*), частак навакольнага свету (*неба, сонца, вада, паветра*), а таксама значная група лексікі, якая абазначае дзейнасць чалавека, працу і вучобу (*работа, калгас, школа, сход, план, газета*), побыт, адзенне, ежу (*бот, кішэнь, грошы, хлеб*), моўную дзейнасць (*слова, адказ, пытанне, размова*) і іншыя формы волевыяўлення, пачуцці і г. д.

Ужо гэты пералік найбольш частых беларускіх назоўнікаў дае магчымасць пераканацца, што ў ядры лексікі беларускай мовы ў першую чаргу прадстаўлены словы найбольш шырокага ўжывання, звязаныя з жыццём чалавека наогул. Аналагічную карціну даюць і най-

больш частыя дзеясловы, а таксама прыметнікі і прыслоўі. «Зразумела,— удакладняюць аўтары слоўніка,— што сярод найбольш частых слоў найбольш поўна прадстаўлены займеннікі і лічэбнікі, а таксама службовыя словы. Гэтыя нешматлікія словы выконваюць важную ролю ў тэкстах, часта паўтараюцца і сустракаюцца сярод найбольш частых слоў кожнай мовы. Беларуская мова тут не выключэнне» [1].

Да пасіўнай лексікі адносяцца словы, выкарыстанне якіх абмежавана асаблівасцямі абазначаных імі з'яў (назвы рэдкіх рэалій, вузкаспецыяльныя тэрміны, уласныя імёны), а таксама словы, якія выходзяць з мовы (устарэлыя словы) або толькі з'явіліся ў мове і не ўвайшлі ў агульнае карыстанне (неалагізмы). Паколькі першыя з названых катэгорый слоў ужо характарызаваліся ў адпаведных раздзелах, асобна разгледзім устарэлыя словы і неалагізмы.

## § 2. УСТАРЭЛЫЯ СЛОВЫ І ІХ ТЫПЫ

У залежнасці ад прычыны архаізацыі ўстарэлыя словы падзяляюцца на дзве катэгорыі: гістарызмы і архаізмы.

Гістарызмы — гэта словы, якія выйшлі з актыўнага ўжытку і перайшлі ў пасіўны запас у сувязі са зніканнем тых рэалій, якія яны абазначалі. У залежнасці ад семантыкі гістарызмы могуць быць аб'яднаны ў розныя прадметна-тэматычныя групы: назвы адзення і абутку, прадметаў быту і інш. (*армяк, батфорты, бурнос, жупан, камзол, кафтан, конка*); назвы даўнейшых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, органаў кіравання, сацыяльных з'яў (*абшчына, апрычніна, веча, губерня, земства*); назвы асоб па іх прафесіі, роду дзейнасці, сацыяльнаму становішчу (*баярын, бурлак, гарадавы, гетман, гувернант, дзесяцкі,канюшы, парабак, прыстаў, рэкрут, стралец, феадал*); назвы старых мер вагі, даўжыні, грашовых адзінак (*аршын, асьміна, грош, грыўня, вярста, локаць, беркавец, пуд, фунт*); назвы ваеннай амуніцыі, зброі (*алебарда, кальчуга, калчан, латы, меч, мушкет, піка, пішчаль, шлем, шчыт*) і інш. У перыяды карэнных сацыяльна-палітычных змен асобныя словы пера-

---

[1] Мажэйка Н. С., Супрун А. Я. Частотны слоўнік беларускай мовы: Мастацкая проза. Мн., 1976. С. 8—10.

ходзяць у гістарызмы за адносна кароткі час. Гэта можна сказаць пра многія саветызмы, якія выйшлі з актыўнага ўжытку і цяпер успрымаюцца як гістарызмы (*будзёнаўка, губком, камбед, лікбез, нэпман, тачанка, чонавец, эсэр* і інш.).

Архаізмы (ад грэч. *archaios* — даўнейшы, стары, устарэлы) — гэта словы, якія ў працэсе развіцця мовы выйшлі з актыўнага ўжытку і заменены новымі сінанімічнымі адзінкамі. У адрозненне ад гістарызмаў — назваў знікшых прадметаў, з'яў, паняццяў, архаізмы — устарэлыя назвы сучасных прадметаў, з'яў, паняццяў.

Старэнне слоў і выпадзенне іх з моўнага ўжытку адбываецца, як правіла, паступова, на працягу значнага прамежку часу. Таму паміж словамі, якія канчаткова выйшлі з ужытку і вядомы толькі па слоўніках (напрыклад, *вуй* 'дзядзька па матчынай лініі', *дзясніца* 'правая рука', *дзякло* 'падатак збожжам', *ядваб* 'шоўк'), і актыўна ўжывальнымі словамі знаходзіцца пераходная паласа так званага пасіўнага запасу, куды ўваходзяць словы малаўжывальныя, але яшчэ зразумелыя для носьбітаў сучаснай мовы, такія, як *ратай* (араты), *палясоўшчык* (ляснік), *каморнік* (землямер), *грабар* (землякоп) і інш. Асобныя словы могуць пераходзіць у пасіўны запас і станавіцца архаізмамі за адносна кароткі час. Прыкладам могуць быць такія словы, як *аэраплан* (самалёт), *бамбавоз* (бамбардзіроўшчык), *чырвонаармеец* (салдат) і інш.

У залежнасці ад таго, якія кампаненты структуры ў слове ўстарэлі, сярод архаізмаў вылучаюць некалькі тыпаў: уласна лексічныя, лексіка-словаўтваральныя, лексіка-фанетычныя і лексіка-семантычныя архаізмы.

Уласна лексічныя архаізмы — гэта словы, якія ўстарэлі поўнасцю, усім сваім фанетыка-марфалагічным саставам: *балонка* (аконная шыба; старонка кнігі), *лемантар* (буквар), *вакацыі* (канікулы), *прастакутнік* (прамавугольнік), *лупняк* (сланец).

Лексіка-словаўтваральныя архаізмы — словы, якія адрозніваюцца ад сінанімічных ім сучасных слоў толькі словаўтваральнымі элементамі, часцей за ўсё суфіксамі: *кісліна* — кіслата, *камуншчык* — камунар, *сталавальня* — сталоўка, *тэза* — тэзіс.

Лексіка-фанетычныя архаізмы — словы, што адрозніваюцца ад сваіх сучасных адпаведнікаў вымаўленнем аднаго ці некалькіх гукаў: *кроніка* — хроніка,

*міталёгія* — міфалогія, *сымболь* — сімвал, *філёзофія* — філасофія і інш.

Лексіка-семантычныя архаізмы — гэта не ўстарэлыя словы, а ўстарэлыя значэнні слоў. Так, у семантыцы мнагазначнага слова *двор* устарэлым будзе значэнне 'памесце, панскі маёнтак', а астатнія значэнні: 'участак зямлі пры хаце, прадпрыемстве, чым-н. агароджаны'; 'асобная сялянская гаспадарка' і інш. з'яўляюцца сучаснымі, агульнаўжывальнымі.

Устарэласць слоў адзначаецца ў слоўніках пры дапамозе спецыяльных памет *уст.* і *гіст.* або шляхам указання на час і месца выкарыстання слова ў тлумачэнні яго значэння (напр.: «даўней на Беларусі», «у дарэвалюцыйнай Расіі» і інш.). Гістарызмы і архаізмы выкарыстоўваюцца пераважна ў гістарычных раманах для стылізацыі мовы, стварэння каларыту эпохі і пад.

Як паказваюць спецыяльныя даследаванні і лексікаграфічныя крыніцы, архаізацыя лексічных адзінак адбываецца часцей за ўсё паступова, і таму устарэлых слоў у мове значна менш, чым слоў новых, або неалагізмаў, якія патрабуюць асобнага разгляду.

## § 3. НЕАЛАГІЗМЫ

Словы, значэнні слоў і намінатыўныя словазлучэнні, што з'явіліся ў якой-небудзь мове ў пэўны канкрэтны перыяд яе функцыяніравання, называюцца неалагізмамі (ад грэч. *neos* — новы і *logos* — слова). Узнікненне новых слоў абумоўліваецца некалькімі прычынамі: сацыяльнай неабходнасцю ў абазначэнні новых прадметаў, з'яў, паняццяў (*скараварка, ільнокамбінат, водалячэнне*), пераасэнсаваннем ранейшых значэнняў слоў і словазлучэнняў (*штучны спадарожнік Зямлі*), тэндэнцыямі да уніфікацыі і эканоміі моўных сродкаў (*электрычка* — са словазлучэння *электрыфікаваная чыгунка*), задачамі экспрэсіўна-эмацыянальнай і стылістычнай выразнасці (*Людскуюцца ў вітрынах партрэты дэлегатаў* (М. Лужанін).

Ствараюцца неалагізмы на аснове наяўнага лексічнага матэрыялу шляхам афіксацыі (*рас-стыкоўка, быт-оўк-а*), асноваскладання (*кафямолка, сокавыціскалка*), абрэвіяцыі (*БАМ* — Байкала-Амурская магістраль), набыцця словам новых значэнняў (параўн.: *галаўны мозг* — *галаўны інстытут*), а таксама шляхам канверсіі (*бульбя-*

*ная, прыёмная),* калькавання і запазычвання іншамоўных слоў (*вылучэнец* — калька з руск. *выдвиженец, матэль* — англ. *motel*). Да неалагізмаў адносяць таксама словы, якія праніклі ў літаратурную мову з абмежаваных сфер выкарыстання (дыялектаў, жаргонаў, прафесіянальных гаворак) і ўспрымаюцца носьбітамі мовы як новыя.

Цікавымі з'яўляюцца колькасныя суадносіны гэтых словаўтваральных разрадаў неалагізмаў. Па даных слоўніка «Новые слова и значения: Словарь-справочник по материалам прессы и литературы 60-х годов»/Под ред. Н. З. Котеловой и Ю. С. Сорокина (М., 1971), на першым месцы стаяць складаныя словы, якія сумесна з т. зв. «біномамі» (складанасастаўнымі назвамі тыпу *горад-герой)* складаюць 40,5% усіх новых лексічных матэрыялаў. Да іх могуць быць далучаны і ініцыяльныя абрэвіятуры (КВН, ЭВМ), якія складаюць 1,4%. Другое па колькасці месца займаюць суфіксальныя, прэфіксальныя і суфіксальна-прэфіксальныя ўтварэнні, якія, будучы разам узятыя, складаюць 38,7%. Запазычанні з іншых моў (*кемпінг, карт, круіз, бройлер)* складаюць 7,5%. Адносна нязначная колькасць слоў утворана шляхам канверсіі (*буравая, карычневыя, правафланговыя)* — 0,5%[2].

Прыведзеныя колькасныя паказчыкі пераканаўча сведчаць аб дзейнасці тэндэнцыі да аналітызму, характэрнай для многіх сучасных моў: «У складаных словах, і асабліва ў састаўных найменнях, наглядаецца пэўнае зніжэнне ўзроўню ідыяматычнасці, параўн.: *ледабур* — 'бур для свідравання лёду' ... Але гэта зніжэнне ідыяматычнасці ўраўнаважваецца з'явамі запазычвання (*мафія, лобі, бітл, бітнік, хобі),* а таксама абрэвіятурнымі найменнямі тыпу *лаўсан* (скарачэнне: лабараторыя высокамалекулярных злучэнняў Акадэміі навук) ... Сюды ж можна аднесці скарачэнні тыпу «ўсячэнняў», напрыклад: *кібер, баскет, пласты*»[3].

Вылучаюцца дзве катэгорыі неалагізмаў: лексічныя і семантычныя. Л е к с і ч н ы я неалагізмы — гэта новыя словы, якія з'явіліся ў мове толькі што ці зусім нядаўна

---

[2] Котелова Н. З. Первый опыт лексикографического описания русских неологизмов // Новые слова и словари новых слов. Л., 1978. С. 19.

[3] Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. М., 1989. С. 163—164.

для абазначэння новых прадметаў, з'яў, паняццяў і навізна якіх адчуваецца носьбітамі мовы як у форме, так і ў значэнні гэтых слоў. Лексічнымі неалагізмамі другой палавіны 80—пачатку 90-х гадоў з'яўляюцца, напрыклад, такія словы, як *брокер* 'пасрэднік пры якіх-небудзь здзелках', *дэпалітызацыя, дэпартызацыя, кансэнсус* 'згода, супадзенне поглядаў', *менеджэр* 'вопытны спецыяліст па арганізацыі кіравання вытворчасцю ці іншымі сферамі дзейнасці', *нонсэнс* 'бяссэнсіца', *раздзяржаўленне, СКВ* (свабодна канверсуемая валюта), *спонсар* 'асноўны крэдытор якога-небудзь мерапрыемства, арганізацыі і пад.', *экстрасенс* 'звыш адчувальны чалавек, надзелены талентам прадказальніка' і інш.

С е м а н т ы ч н ы я неалагізмы — гэта новыя значэнні, якія развіваюцца ў семантыцы даўніх, узуальных слоў, напрыклад: значэнне 'перадавік вытворчасці, працоўнай дзейнасці' ў слова «маяк»; значэнне 'спартсмен, які займаецца скачкамі ў вышыню' ў слова «вышыннік»; значэнне 'спыняць спадарожную машыну падняццем рукі' ў слова «галасаваць» і інш.

У колькасных адносінах гэтыя катэгорыі неалагізмаў размяркоўваюцца такім чынам: неалагізмы-словы складаюць 90,7%, значэнні слоў — 8%, неалагізмы — спалучэнні слоў, якія ўтвараюцца ў выніку пераасэнсавання, тэрміналагізацыі, ідыяматызацыі або пераўтварэння структуры словазлучэння,— 1,2% [4].

Вельмі разнастайнымі з'яўляюцца неалагізмы ў тэматычных адносінах. Калі прааналізаваць у гэтым плане новыя словы, скажам, перыяду 60—80-х гадоў XX ст., то сярод іх трапяцца: назвы многіх новых галін навукі (*астрабіялогія, астранавігацыя, біёніка, вірусалогія, галаграфія, геранталогія, кардыяхірургія, касмафізіка, кібернетыка, мікраэлектроніка, наркалогія, нейрапсіхалогія, псіхалінгвістыка, радыёхімія, семіётыка, сацыялінгвістыка, футуралогія* і інш.); тэрміны, што абазначаюць навукова-тэхнічныя паняцці, вытворчыя працэсы, матэрыялы, вырабы (*акваланг, алгарытм, аэробус, батыскаф, бойлер, вінтакрыл, гідрабур, дэдэрон, камп'ютэр, керамзіт, лазер, мазер, матаролер, нейлон, поліэтылен, ратапрынт, тэлекс, хіматрон, эластык, электрамабіль*); тэрміны касмічнай тэматыкі (*аэраномія, баракамера, гермашлем,*

---

[4] Котелова Н. З. Первый опыт лексикографического описания русских неологизмов. С. 19.

*касмадром, квазар, селенгалогія* і інш.); грамадска-палітычныя тэрміны (*апартэід, бітл, гегеманізм, генацыд, канфрантацыя, мафія, неанацызм, сіянізм, хунта, эскалацыя*); словы, што абазначаюць прадметы, з'явы, паняцці культурна-бытавога характару (*асарці, балонння, джынсы, калготы, крэкер, максі, матэль, таршэр, універсам, шорты*); спартыўныя тэрміны (*аўтаралі, батут, біятлон, дзю-до, каратэ, самба, фінт, юніёр*); медыцынскія тэрміны (*алахол, алергія, антыбіётык, валакардзін, дыбазол, канцэраген, карвалол, рэзерпін, стрэс, тэтрацыклін, халестэрын, эленіум*) і інш.

Паколькі неалагізмы абазначаюць, як правіла, жыццёва важныя для грамадства прадмет, з'яву або паняцце, яны скора ўваходзяць у шырокі абыходак, страчваюць ураханне сваёй навізны, свежасці і становяцца спачатку словамі ў пэўнай меры прафесіянальнымі, а потым і узуальнымі, агульнаўжывальнымі. Інакш кажучы, прабыванне слова ў «неалагізмах» (у пасіўным запасе) бывае непрацяглым. Скораму пашырэнню неалагізмаў у мове садзейнічаюць у значнай меры сучасныя сродкі масавай інфармацыі: газеты, радыё, кіно, тэлеперадачы.

Ад неалагізмаў, якія створаны па прадуктыўных словаўтваральных мадэлях для задавальнення патрэб у новых сродках намінацыі і таму лёгка засвойваюцца носьбітамі мовы, трэба адрозніваць лексічныя наватворы, прыдуманыя пісьменнікамі і паэтамі, публіцыстамі і літаратурнымі крытыкамі з мэтай павышэння мастацкай выразнасці і вобразнасці выказвання. Такія выпадковыя наватворы называюць *аказіянальнымі словамі*, або аказіяналізмамі (ад лац. *occasio* — выпадак). Аказіянальныя словы ў лінгвістычнай літаратуры атрымалі і многія іншыя назвы: «індывідуальна-аўтарскія неалагізмы», «індывідуальныя словы», «індывідуальна-стылістычныя неалагізмы», «аднаразовыя неалагізмы», «словы-метэоры», «паэтычныя неалагізмы» і інш. [5], кожная з якіх па-свойму раскрывае сутнасць гэтай з'явы.

Вялікімі майстрамі індывідуальна-аўтарскіх неалагізмаў (аказіяналізмаў) былі класікі беларускай літаратуры Я. Купала і Я. Колас. Так, Я. Купала для асобных моўных кантэкстаў стварыў і выкарыстаў такія наватворы, як *небазор, вечнабыт, мазольнік, прасветач, праяс-*

---

[5] Лопатин В. В. Рождение слова: Неологизмы и окказиональные образования. М., 1973. С. 64.

*насць, нязгледны, прагледзіста; крыліцца, скурганіць* і інш. У Я. Коласа знаходзім таксама многія аўтарскія паэтычныя неалагізмы, утвораныя пераважна шляхам асноваскладання: *жаўтацвецень, светазор; вольнаплынны, іскраззяны, мнагалучны, срэбразвонны, шаўкарунны; цемнакрыліць* і інш. Сярод наватвораў М. Танка можна назваць словы *вершаруб, адумыславаты, небасяжны, блакітнець* і інш. Карыстаюцца аднаразовымі неалагізмамі пісьменнікі сярэдняга і маладзейшага пакалення: Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, Н. Гілевіч і інш.: *Грамадскую думку як ні к а г а л ь, Прытулак трэба ня́йцерпу-тулягу* (Р. Барадулін. Турыстычны верш); *Валасы в у г л е ю ц ь дыбарам На спякотнай галаве* (Р. Барадулін. Цыганы Амерыкі); ... *нехта з іх помніў шагалаўскі м е с т а ч к а в а т ы Віцебск* (Р. Барадулін. Сустрэча); *У рэплiках — Парады, Звады. Ушчэнт карчуюцца л і т л я д ы!* (Р. Барадулін. Журавінка); *Л е с а в і к у й да пенсіі, стары, Ідзе парадкам к у л ь т в я с н а к а м п а н і я* (В. Зуёнак. Нібы за стол бяседны); *Ой ты, дзедб а р а д з е д, Не каліся барадой* (Н. Тулупава. Дожджык Мікіта); *Ды як жа суніцы? Вы гляньце на колер: Яны ж ч ы р в а н і ц ы* (К. Камейша. Гаёўка).

Прааналізаваўшы марфалагічны састаў аказіяналізмаў, можна заўважыць, што яны ўтвараюцца па малапрадуктыўных ці зусім непрадуктыўных мадэлях, а часта і з парушэннем гэтых мадэлей. Вось адзін прыклад. Барадулінскі аказіяналізм *местачкаваты* створан па прадуктыўнай словаўтваральнай мадэлі, але з парушэннем семантычнай спалучальнасці карэннай і суфіксальнай марфем: суфікс *-ават-*, які выражае непаўнату якасці, можа спалучацца толькі з якаснымі прыметнікамі (*сіняваты, велікаваты*); у выразе ж «местачкаваты Віцебск» гэты суфікс далучан да асновы адноснага прыметніка, чым і дасягаецца павышэнне мастацкай выразнасці індывідуальна-аўтарскага неалагізма.

Ужытыя ў канкрэтным кантэксце з пэўнай стылістычнай мэтай адзначаныя аказіяналізмы не ўзнаўляліся больш ні самімі аўтарамі, ні другімі пісьменнікамі, ні радавымі носьбітамі мовы. Па гэтай прычыне аўтарскія неалагізмы не ўключаюцца ў слоўнікі агульнага карыстання. Аднак «не варта думаць, што аказіяналізмы — гэта нейкія непаўнацэнныя або сапсаваныя словы. Не, гэта словы сапраўдныя, і нават больш патрэбныя ў пэўным кантэксце, больш насычаныя па сэнсу і эмацыяна907

най нагрузцы, чым звычайныя агульнаўжывальныя словы. Але спецыфіка іх заключаецца ў тым, што, абслугоўваючы пэўны кантэкст, даны прыватны выпадак, дануюмоўную сітуацыю, яны не прэтэндуюць на тое, каб замацавацца ў мове, увайсці ў агульнае ўжыванне»[6]. І толькі ў асобных выпадках, набыўшы сацыяльную значнасць, праз стадыю цытавання асобныя аказіяналізмы становяцца агульнаўжывальнымі.

Можна бачыць, што на сучасным этапе лексічная сістэма беларускай, як і ўсякай іншай, мовы «складаецца з асноўнага ядра, найбольш важнага для патрэб моўных зносін (актуальнай лексікі) і некаторай перыферыйнай зоны, у якую адцясняюцца ад цэнтра старэючыя і ўстарэлыя словы і праз якую імкнуцца прайсці бліжэй да цэнтра новыя словы, або неалагізмы. Гэтым падкрэсліваецца пэўная ўмоўнасць, цякучасць граніц паміж рознымі зонамі лексічнай сістэмы. Калі гавораць аб актыўнай (актуальнай) і пасіўнай (неактуальнай) лексіцы мовы, то дакладна адмяжоўваюць калектыўнае, тыповае ад індывідуальнага, своеасаблівага. Калі слова ўстарэла для ўсіх, а не толькі для аднаго ці двух чалавек, тады яно — архаізм у мове. Калі слова новае для ўсіх і ўсе адчуваюць яго навізну, тады неалагізм — факт мовы. Калі ж пісьменнік вынаходзіць слова або надае не ўласцівае слову значэнне, г. зн. калі ў наяўнасці фактар індывідуальнай словатворчасці, яшчэ не атрымаўшай адабрэння народа, то гавораць аб патэнцыяльных або аказіянальных словах (*hapax legomena*)[7].

---

[6] Лопатин В. В. Рождение слова. С. 65.

[7] Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980. С. 106.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Лексічная сістэма сучаснай беларускай літаратурнай мовы складвалася на працягу многіх стагоддзяў, бесперапынна змяняючыся і ўдасканальваючыся. Стымуламі, пабуджальнымі сіламі ўсіх змяненняў у мове, і асабліва ў лексіцы, з'яўляюцца знешнія (сацыяльныя) і ўнутрымоўныя фактары, якія ў сваім праяўленні ўзаемаабумоўлены і дзейнічаюць адначасова.

Галоўным фактарам заўсёды была і застаецца непасрэдная сувязь мовы з грамадствам. Уплыў грамадства на мову глыбокі і разнастайны. Можна сказаць: мова змяняецца і развіваецца таму, што змяняецца само грамадства — развіваецца свядомасць і мысленне чалавека, змяняецца склад і структура грамадства, стан культуры, навукі, вытворчых адносін, можа змяняцца прававое становішча народа ў многанацыянальнай дзяржаве (наяўнасць ці адсутнасць сваёй дзяржаўнасці), характар моўных кантактаў з суседнімі народамі і інш. Усе гэтыя сацыяльныя фактары могуць быць спрыяльнымі або неспрыяльнымі для развіцця мовы. У спрыяльных умовах актывізуецца жыццё мовы, пашыраецца аб'ём яе грамадскіх функцый, развіваюцца новыя стылі і іншыя формы моўных зносін.

У сваю чаргу, паскоранае функцыянальнае развіццё мовы выклікае колькасны рост розных лінгвістычных фактаў: новых слоў, марфем, варыянтаў, новых спосабаў і форм моўнага выражэння, тыпаў спалучэнняў і г. д.; узмацняюцца працэсы міжмоўнага і ўнутрымоўнага ўзаемадзеяння. Усё гэта выклікае якасныя зрухі і пераўтварэнні ў розных сферах структуры мовы.

Гісторыя фарміравання лексічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы пацвярджае думку, што ўзаемадзеянне знешніх і ўнутраных фактараў можа аказваць як стымулюючае, так стрымліваючае ўздзеянне на развіццё мовы. Так, на працягу XIV—XVII стст. старабеларуская пісьмовая мова як дзяржаўная мова Вялікага

княства Літоўскага выкарыстоўвалася ў розных жанрах дзелавой, канфесіянальнай, навуковай і свецкай літаратуры, актыўна кантактавала з суседнімі мовамі і значна папоўніла свой слоўнікавы склад лексічнымі і семантычнымі неалагізмамі, новымі прадметна-тэматычнымі групамі слоў, узбагаціла свае сінанімічныя і стылістычныя сродкі, актывізавала патэнцыяльныя магчымасці свайго самаразвіцця.

І наадварот, па меры выцяснення са сфер грамадскага выкарыстання ў межах Рэчы Паспалітай, з канца XVII ст. развіццё беларускай літаратурнай мовы запавольваецца, а потым і зусім спыняецца на працяглы час. Адраджэнне яе і паскоранае развіццё прыпадае на XX стагоддзе, якое ўвайшло ў гісторыю як перыяд сацыяльных рэвалюцый, набыцця народамі былой царскай Расіі сваёй дзяржаўнасці, як эпоха развіцця асветы, навукі, культуры і асваення космасу.

Развіццё і прагрэс беларускай літаратурнай мовы ў галіне лексікі ў гэты перыяд выражаецца перш за ўсё ў пашырэнні грамадскіх функцый і развіцці новых функцыянальных стыляў, а разам з тым у небывала паскораным узбагачэнні слоўнікавага складу, у павелічэнні колькасці новых значэнняў слоў. У сувязі з развіццём літаратуры розных стылістычных жанраў адбываецца стылістычная дыферэнцыяцыя лексікі: словы набываюць здольнасць перадаваць самыя тонкія адценні значэнняў. Фарміруюцца тэрміналогіі розных галін навукі і тэхнікі.

У перыядзе актыўнага функцыяніравання мовы найбольш выразна праяўляецца ўзаемадзеянне знешніх і ўнутраных фактараў моўнага развіцця. Пры гэтым суадносіны гэтых фактараў інтэрпрэтуюцца як адносіны неабходнасці і магчымасці. Знешнія фактары вызначаюць неабходнасць змяненняў, а ўнутраныя рэалізуюць тыя патэнцыяльныя магчымасці, якія закладзены ў мове для іх ажыццяўлення. Скажам, развіццё ядзернай энергетыкі паслужыла знешнім фактарам, запатрабаваўшым стварэння спецыяльнай тэрміналогіі, а ў спосабах яе стварэння праявіліся патэнцыяльныя магчымасці мовы: утварэнне новых слоў, запазычванне, пераасэнсаванне семантыкі спрадвечных слоў, утварэнне словазлучэнняў і інш. Інакш кажучы, сацыяльныя фактары патрабуюць ад слоўнікавага складу мовы бесперапыннага ўзбагачэння, а ўнутрысістэмныя фактары вызначаюць канкрэтныя формы гэтага ўзбагачэння.

Са сказанага відаць, што «эвалюцыйныя фактары не дзейнічаюць «па аднаму» або «па чарзе». Таму было б безнадзейнай задумай высвятляць, што ў большай меры мяняе мову — унутраныя або знешнія сілы. У гісторыі мовы не бывае лабараторна «чыстых» зрухаў, абумоўленых нейкай адзінай прычынай, то знешняй, то ўнутранай. Было б паспешліва таксама звязваць унутраныя фактары са змяненнем моўнай структуры, а знешнія — з падзеямі знешняй гісторыі мовы (г. зн. са зменамі ва ўзаемаадносінах мовы і грамадства),— іменна таму, што ў рэальнай гісторыі мовы розныя рухаючыя сілы ўзаемаабумоўлены і дзейнічаюць адначасова»[1].

[1] Мечковская Н. Б. Язык как исторически изменяющееся явление // Общее языкознание. Мн., 1983. С. 359.

# ДАДАТКОВАЯ ЛІТАРАТУРА

## Да першай часткі


Акуленко В. В. Типы лексических интернационализмов в современном белорусском языке // Беларуская лексікалогія і этымалогія. Мн., 1968.

Акуленко В. В. Вопросы интернационализации словарного состава языка. Харьков, 1972.

Анічэнка У. В. Гістарычная лексікалогія ўсходнеславянскіх моў. Гомель, 1978.

Анічэнка У. В. Мовы ўсходніх славян. Мн., 1989.

Баханькоў А. Я. Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі час. Мн., 1982.

Беларуская лексікалогія і этымалогія: (Праграма і тэзісы дакл. міжрэсп. канф. па беларус. лексікалогіі і этымалогіі). Мн., 1968.

Булахаў М. Г. Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў XIX—XX стст. ва ўзаемаадносінах з іншымі славянскімі мовамі. Мн., 1958.

Булахаў М. Г. Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы. 3. Лексікалагічны нарыс (агульнаславянская лексіка). Мн., 1973.

Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мн., 1980.

Вступ до порівняльно-історичного вивчення слов'янських мов. Київ, 1966.

Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970.

Журавлев В. К. Внешние и внутренние факторы языковой эволюции / Отв. ред. Ю. Д. Дешериев. М., 1982.

Жураўскі А. І., Крамко І. І. Характар знешніх узаемаадносін беларускай літаратурнай мовы з іншымі славянскімі мовамі ў пачатковы перыяд яе фарміравання: Дакл. на VII Міжнар. з'ездзе славістаў. Мн., 1973.

Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967.

Земская Е. А. Современный русский язык: Словообразование. М., 1973.

Карский Е. Ф. Белорусы. Введение к изучению языка и народной словесности. Вильна, 1904.

Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962.

Коломієць В. Т. Розвиток лексики слов'янських мов в післявоєнний період. Київ, 1973.

Козырев И. С. Очерки по сравнительно-исторической лексикологии русского и белорусского языков. Орел, 1970.
Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968.
Красней В. П. Лексіка і фразеалогія беларускай мовы. Мн., 1982.
Крукоўскі Н. І. Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову. Мн., 1958.
Крывіцкі А. А. Наша родная мова: Навукова-папулярны нарыс. 3-е выд. Мн., 1973.
Крысин Л. П. Иноязычные слова в современном русском языке. М., 1968.
Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія. Мн., 1961.
Лексика русского литературного языка XIX — начала XX века / Отв. ред. Ф. П. Филин. М., 1981.
Лексика современного русского литературного языка: Социолого-лингвистическое исследование. М., 1968.
Лексічныя балтызмы ў беларускай мове. Мн., 1969.
Ленин В. И. О праве наций на самоопределение // Полн. собр. соч. Т. 25.
Маркс К., Энгельс Ф. Немецкая идеология // К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч. Т. 3.
Мартынов В. В. Славяно-германское лексическое взаимодействие древнейшей поры: К проблеме прародины славян. Мн., 1963.
Мейе А. Общеславянский язык. М., 1951.
Общее языкознание: Формы существования, функции, история языка / Отв. ред. Б. А. Серебренников. М., 1970.
Пальцаў Г. В. Агульныя запазычанні ў беларускай і польскай мовах // Праблемы беларускай філалогіі. Мн., 1968.
Пауль Г. Принципы истории языка. М., 1960.
Протченко И. Ф. Лексика и словообразование русского языка советской эпохи. М., 1975.
Сорокин Ю. С. Развитие словарного состава русского литературного языка (30—90-е годы XIX века). М.; Л., 1965.
Супрун А. Е. Введение в славянскую филологию. Мн., 1989.
Сучасна українська літературна мова: Лексіка і фразеалогія. Київ, 1973.
Толстой Н. И. История и структура славянских литературных языков. М., 1988.
Трубачев О. Н. Ремесленная терминология в славянских языках. М., 1966.
Филин Ф. П. Лексика русского литературного языка древнекиевской эпохи: На материале летописей // Учен. зап. Ленинградского гос. пед. ин-та. 1949. Т. 80.
Филин Ф. П. Образование языка восточных славян. Л., 1962.
Филин Ф. П. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. Л., 1972.
Черных П. Я. Очерк русской исторической лексикологии: Древнерусский период. М., 1965.
Шакун Л. М. Словаўтварэнне. Мн., 1978.
Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1984.

Энгельс Ф. Происхождение семьи, частной собственности и государства // К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч. Т. 21.

Энгельс Ф. Роль труда в процессе превращения обезьяны в человека // К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч. Т. 20.

Юргелевіч П. Я. Курс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі. Мн., 1974.

Якубинский Л. П. История древнерусского языка. М., 1953.

Янкоўскі Ф. Гістарычная граматыка беларускай мовы. Ч. 1—2. Мн., 1974—1977.

## Да другой часткі

Апресян Ю. Д. Лексическая семантика: Синонимические средства языка. М., 1974.

Ахманова О. С. Очерки по общей и русской лексикологии. М., 1957.

Блумфильд Л. Язык. М., 1968.

Бодуэн де Куртене И. А. Избранные труды по общему языкознанию. Т. 1—2. М., 1963.

Будагов Р. А. Введение в науку о языке. М., 1958.

Васильев Л. М. Синонимические группы и семантические поля // Вопросы общего и романо-германского языкознания. Уфа, 1965. Вып. 1.

Гак В. Г. Сопоставительная лексикология. М., 1977.

Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980.

Долгих Н. Г. Теория семантического поля на современном этапе развития семасиологии // НДВШ. Филологические науки. 1973. № 1.

Звегинцев В. А. Семасиология. М., 1957.

Караулов Ю. Н. Общая и русская идеография. М., 1976.

Караулов Ю. Н. Лингвистическое конструирование и тезаурус литературного языка. М., 1981.

Клименко А. П. Вопросы психолингвистического изучения семантики. Мн., 1970.

Кодухов В. И. Лексико-семантические группы слов. Л., 1955.

Кодухов В. И. Общее языкознание. М., 1974.

Комлев Н. Г. Слово, денотация и картина мира // Вопросы философии. 1981. № 11.

Комлев Н. Г. Компоненты содержательной структуры слова. М., 1962.

Кузнецова Э. В. Части речи и лексико-семантические группы слов // ВЯ. 1975. № 5.

Левицкий Ю. А. О предметных и понятийных полях в языке // Актуальные проблемы лексикологии и лексикографии. Пермь, 1982.

Леонтьев А. А. Психолингвистический аспект языкового значения // Принципы и методы семантических исследований. М., 1976.

Мартынаў В. У. Да семантычнай класіфікацыі дзеясловаў // Актуальные проблемы ликсикологии. Мн., 1970.

Міхневіч А. Я. Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы. Мн., 1976.
Морковкин В. В. Опыт идеографического описания лексики: (Анализ слов со значением времени в русском языке). М., 1977.
Новиков Л. А. Семантика русского языка. М., 1982.
Общее языкознание / Под общ. ред. А. Е. Супруна. Мн., 1983.
Общее языкознание: Внутренняя структура языка / Отв. ред. Б. А. Серебренников. М., 1972.
Панов М. В. О слове как единице языка // Учен. зап. МГПИ им. Потемкина. Т. 1. 1956.
Плотников Б. А. Дистрибутивно-статистический анализ лексических значений. Мн., 1979.
Плотников Б. А. Основы семасиологии / Под ред. А. Е. Супруна. Мн., 1984.
Реформацкий А. А. Общее языкознание. М., 1975.
Скурат К. У. Даўнія беларускія меры: (Лексічны аналіз). Мн., 1974.
Солнцев В. М. Язык как системно-структурное образование. М., 1977.
Соссюр Ф. де. Курс общей лингвистики. М., 1933.
Степанов Ю. С. Основы общего языкознания. М., 1975.
Супрун А. Е. Лекции по языковедению. Мн., 1978.
Уфимцева А. А. Лексическое значение / Отв. ред. Ю. С. Степанов. М., 1986.
Шадурскі І. В., Камко Л. А. Спецыфіка развіцця лексіка-тэматычных груп у беларускай мове // Веснік БДУ. Сер. 4. 1972.
Шмелев Д. Н. Проблемы семантического анализа лексики. М., 1973.
Щерба Л. В. Языковая система и речевая деятельность. Л., 1974.
Языковая номинация: (Общие вопросы) / Отв. ред-ры Б. А. Серебренников, А. А. Уфимцева. М., 1977.

## Да трэцяй часткі

Абабурка М. В. Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры. Мн., 1987.
Антанюк Л. А. Беларуская навуковая тэрміналогія: Фарміраванне, структура, упарадкаванне, канструяванне, функцыяніраванне. Мн., 1987.
Антонюк Л. А., Бирилло Н. В. Белорусская терминология // Развитие терминологии на языках союзных республик СССР: Общая проблематика. М., 1986.
Антонюк Л. А., Михневич А. Е. История, современное состояние и задачи терминологической работы в БССР // Проблемы разработки и упорядочения терминологии в академиях наук союзных республик. М., 1983.
Ахманова О. С. Очерки по общей и русской лексикологии. М., 1957.
Байкоў М. Я. Аб нашай мовазнаўчай тэрміналогіі // Полымя. 1928. № 3.
Балли Ш. Французская стилистика. М., 1977.
Бельчиков Ю. А. Лексическая стилистика. М., 1977.

Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія. Ч. 1—3. Мн., 1966—1982.
Виноградов В. В. Стилистика. Теория поэтической речи. Поэтика. М., 1963.
Винокур Т. Г. О содержании некоторых стилистических понятий // Стилистические исследования. М., 1972.
Вольская И. С. Дифференциальные признаки официально-делового стиля речи на синтаксическом уровне: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. М., 1966.
Гвоздев А. Н. Очерки по стилистике русского языка. М., 1965.
Германовіч І. К. Развіццё беларускай тэрміналогіі чыгуначнага транспарту // Лінгвістычныя даследаванні. Мн., 1971.
Гиро П. Разделы и направления стилистики и их проблематика // Новое в зарубежной лингвистике. М., 1980. Вып. IX.
Головин Б. Н. Вопросы социальной дифференциации языка // Вопросы социальной лингвистики. Л., 1960.
Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980.
Денисов П. Н., Костомаров В. Г. Стилистическая дифференциация лексики и проблема разговорной речи // Вопросы учебной лексикографии. М., 1969.
Едлічка А. Паняцце і сістэматыка функцыянальных стыляў // Беларуская лінгвістыка. 1984. Вып. 26.
Жирмунский В. Н. Национальный язык и социальные диалекты. Л., 1936.
Журавский А. И. О некоторых различиях между письменной и разговорной формами белорусского литературного языка // ВЯ. 1973. № 3.
Калинин А. В. Лексика русского языка. М., 1971.
Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1987.
Ковтун Л. С. Лексические нормы русского языка и разговорная речь // Современная русская лексикология. Л., 1966.
Кожина М. Н. О речевой системности научного стиля сравнительно с некоторыми другими. Пермь, 1972.
Кожина М. Н. Стилистика русского языка. М., 1983.
Костомаров В. Г. Русский язык на газетной полосе. М., 1972.
Красней В. П. Грані слова. Мн., 1986.
Красней В. П., Лазоўскі У. М., Шчарбакова І. М. Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фразеалогія. Мн., 1984.
Красней В. П. Из истории создания и упорядочения белорусской национальной терминологии // Научно-техническая терминология. М., 1973. № 1.
Кремих И. И. Отрицательный оценочный компонент в семантической структуре слова // Прагматика слова: Межвуз. сб. науч. трудов. М., 1985.
Кузнецова Э. В. Лексикология русского языка. М., 1989.
Лаптева О. А. Изучение русской разговорной речи в отечественном языкознании последних лет // ВЯ. 1967. № 1.
Лемтюгова В. П. Восточнославянская ойконимия с семантической эволюцией нарицательных названий типов поселений. Киев, 1987.
Лопатин В. В. Рождение слова: Неологизмы и окказиональные образования. М., 1973.

Лотте Д. С. Основы построения научно-технической терминологии: Вопросы теории методики. М., 1961.

Лукьянова Н. А. Экспрессивная лексика разговорного употребления. Новосибирск, 1986.

Лыков Л. Г. Современная русская лексикология: Русское окказиональное слово. М., 1973.

Мурат В. П. Стилистическая система современного русского языка по данным «Словаря русского языка» С. И. Ожегова (изд-е 14-е, 1982) // Словарные категории. М., 1988.

Панина Л. С. Экспрессивная и эмоциональная лексика как оценочная категория // Проблемы современной русской лексикологии. Калинин, 1983.

Панов М. В. О стилях произношения: (В связи с общими проблемами стилистики) // Развитие современного русского языка. М., 1964.

Панфилов А. К. Разговорная речь и проблема нейтрализации книжных средств языка // Учен. зап. МГПИИЯ им. Ленина. № 341. Вопр. филологии. М., 1960.

Петрищева Е. Ф. Стилистически окрашенная лексика русского языка. М., 1984.

Подлужный А. И. Состояние ■ перспективы терминологической работы ■ Белоруссии // Вопросы разработки научно-технической терминологии. Рига, 1973.

Пумпянский А. Л. Функциональный стиль научной и технической литературы // ВЯ. 1977. № 2.

Разговорная речь ■ системе функциональных стилей русского литературного языка: Лексика / Под ред. О. Б. Сиротининой. Саратов, 1983.

Русская разговорная речь. М., 1973.

Русская разговорная речь: Фонетика. Морфология. Жест. М., 1983.

Сиротинина О. Б. Современная разговорная речь и ее особенности. М., 1974.

Скворцов Л. И. Литературный язык, просторечие и жаргоны ■ их взаимодействии // Литературная норма и просторечие. М., 1977.

Скребнев Ю. М. Очерки теории стилистики. Горький. 1975.

Смирницкий А. И. Лексикология английского языка. М., 1956.

Сорокин Ю. С. К вопросу об основных понятиях стилистики // ВЯ. 1954. № 2.

Солганик Г. Я. Лексика газеты. М., 1981.

Телия В. Н. Коннотативный аспект семантики номинативных единиц. М., 1986.

Уфимцева А. А. Лексическое значение / Отв. ред. Ю. С. Степанов. М., 1986.

Ушаков А. А. Очерки советской законодательной стилистики. Пермь, 1967.

Фельдман Н. И. Окказиональные слова и лексикография // ВЯ. 1957. № 4.

Функциональный стиль общенаучного языка и методы его исследования / Под ред. О. С. Ахмановой и М. М. Глушко. М., 1974.

Цікоцкі М. Я. Стылістыка публіцыстычных жанраў. Мн., 1971.

Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976.

Чижик-Полейко А. И. Стилистика русского языка. Ч. 1. Воронеж, 1962.

Шакун Л. М. Да характарыстыкі функцыянальных стыляў бе-

ларускай літаратурнай мовы // Культура мовы журналіста. Мн., 1982. Вып. 1.

Швец А. В. Публицистический стиль современного русского литературного языка. Киев, 1979.

Шмелев Д. Н. Русский язык в его функциональных разновидностях. М., 1977.

Шмелева И. Н. Стилистические сдвиги в лексике современного литературного языка: (На материале письменных источников и толковых словарей) // Нормы современного русского литературного словоупотребления. М., 1966.

Щерба Л. В. Литературный язык и пути его развития // Избранные работы по русскому языку. М., 1957.

Юрэвіч А. К. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1987.

# ВЫКАРЫСТАНЫЯ СЛОЎНІКІ

## Тлумачальныя

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 1—5. Мн., 1977—1984.

Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 1—12. Мн., 1969—1975.

Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983.

Даль В. И. Толковый словарь живого великорусского языка. Т. 1—4. СПб., 1863—1866; 7-е изд. Т. 1—4. М., 1978—1980.

Словарь современного русского литературного языка. Т. 1—17. М.; Л., 1950—1965.

Словарь русского языка. Т. 1—4. 2-е изд., испр. и доп. М., 1981—1984.

Новые слова и значения: Словарь-справочник по материалам прессы и литературы 60-х годов. М., 1971.

Новые слова и значения: Словарь-справочник по материалам прессы и литературы 70-х годов. М., 1984.

Словник української мови. Т. 1—11. Київ, 1971—1980.

Słownik języka polskiego / Redaktor naczelny W. Doroszewski. T. 1—11. Warszawa, 1958—1969.

## Этымалагічныя

Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / Рэд. В. У. Мартынаў. Т. 1—7. Мн., 1978—1991 (выданне працягваецца).

Фасмер М. Этимологический словарь русского языка, перевод с немецкого. Т. 1—4. М., 1964—1973; 2-е изд. 1986—1987.

Шанский Н. М., Иванов В. В., Шанская Т. В. Краткий этимологический словарь русского языка. М., 1961; 3-е изд. 1975.

Етимологічний словник української мови: У 7 т. Т. 1—3. Київ, 1983—1989 (выданне працягваецца).

Brückner A. Slownik etymologiczny jęnzyka polskiego. Kraków, 1927; 2-e wyd. Warszawa, 1974.

Slawski F. Słownik etymologiczny języka polskiego. Kraków, 1952.

## Гістарычныя

Гістарычны слоўнік беларускай мовы / Гал. рэд. А. І. Жураўскі. Вып. 1—11. Мн., 1982—1991 (выданне працягваецца).

Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка по письменным памятникам. Т. 1—3. СПб., 1890—1912; 3-е изд. Т. 1—3. М., 1958.

Словарь русского языка XI—XVII вв. Вып. 1—17. М., 1975—1991 (выданне працягваецца).

Словарь русского языка XVIII века. Вып. 1—5. Л., 1984—1989 (выданне працягваецца).
Словник староукраїнської мови. Т. 1—2. Київ, 1977—1978.

## Сінонімаў, амонімаў, антонімаў, паронімаў

Клышка М. К. Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў. Мн., 1976.
Юрчанка Г. Ф. Народная сінаніміка. Мн., 1969.
Александрова З. Е. Словарь синонимов русского языка. М., 1968.
Словарь синонимов русского языка / Гл. ред. А. П. Евгеньева. Т. 1—2. Л., 1970—1971.
Словарь синонимов: Справ. пособие / Ред. А. П. Евгеньева. Л., 1975.
Ахманова О. С. Словарь омонимов русского языка. М., 1974; 3-е изд. М., 1986.
Львов М. Р. Словарь антонимов русского языка. 4-е изд., стереотипное. М., 1988.
Грабчыкаў С. М. Цяжкія выпадкі ўжывання блізкіх па гучанню слоў. Мн., 1977.
Вишнякова О. В. Словарь паронимов русского языка. М., 1984.

## Тэрміналагічныя

Лингвистический энциклопедический словарь / Гл. ред. В. Н. Ярцева. М., 1990.
Русский язык: Энциклопедия / Гл. ред. Ф. П. Филин. М., 1979.
Ахманова О. С. Словарь лингвистических терминов. М., 1966.
Розенталь Д. Э., Теленкова М. А. Справочник лингвистических терминов: Пособие для учителей. М., 1972.
Юрэвіч А. Л. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў. Мн., 1962.
Рагойша В. П. Паэтычны слоўнік. Мн., 1979.
Словарь сокращений русского языка / Под ред. Д. И. Алексеева. М., 1977.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

## Мовы і дыялекты

авесц.— авесційскае
агульнаслав.— агульнаславянскае
алб.— албанскае
англ.— англійскае
араб.— арабскае
балг.— балгарскае
бел.— беларускае
венг.— венгерскае
герм.— германскае
гоцк.— гоцкае
гуц.— гуцульскае
і.-е.— індаеўрапейскае
ірл.— ірландскае
італ.— італьянскае
латыш.— латышскае
лац.— лацінскае
літ.— літоўскае
ням.— нямецкае
паўдн.-зах.— паўднёва-заходняе
паўдн.-ўсх.— паўднёва-ўсходняе
паўн.-зах.— паўночна-заходняе
паўн.-усх.— паўночна-ўсходняе
перс.— персідскае
польск.— польскае
прасл.— праславянскае
прус.— прускае
рум.— румынскае
руск.— рускае
с.-в.-ням.— сярэдневерхненямецкае
серб.— сербскае
слав.— славянскае
с.-н.-ням.— сярэдненіжненямецкае
стар.-бел.— старабеларускае
ст.-в.-ням.— старажытнаверхненямецкае
ст.-інд.— старажытнаіндыйскае
ст.-ірл.— старажытнаірландскае
ст.-прус.— старажытнапрускае
ст.-руск.— старажытнарускае
стар.-слав.— старaславянскае
фін.— фінскае
франц.— французскае
ц.-слав.— царкоўнаславянскае
цюрк.— цюркскае

чэш.— чэшскае
швед.— шведскае
эст.— эстонскае

## Крыніцы

АВАК — Акты, издаваемые Виленскою археологическою комиссиею. Т. XVII. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1890.

АВК — Акты, издаваемые Виленскою комиссией для разбора древних актов. Т. XX. Акты, касающиеся города Вильна. Вильна, 1893.

Алекс.— Александрыя. Рукапіс палавіны XVII ст. Дзяржаўнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. F XVII.

БелСЭ — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 1—12. Мн., 1969—1975.

БНТ — Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 1—24. Мн., 1922—1930 (лічба пасля скарачэння абазначае нумар выпуска).

БРС — Беларуска-рускі слоўнік (лічба пасля скарачэння абазначае год выдання).

Бяр.— П. Берында. Леξіконъ славенорωсскійименъ толъкованіе. Куцеін, 1653.

Дыяр.— Діаріѡшь Я. Філіповіча, 1638—1648. Рукапіс Дзяржаўнага гістарычнага музея, № 856.

РБС — Руска-беларускі слоўнік (лічба пасля скарачэння абазначае год выдання).

ХП — Короткое ωписание кроники Полскои. Рукапіс палавіны XVII ст. Дзяржаўнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына.

## ЗМЕСТ

**Раздзел III**

**Лексіка перыяду беларускай нацыі: дакастрычніцкі перыяд**



**Раздзел IV**

**Лексіка перыяду беларускай нацыі: савецкі перыяд**



# Частка 2

## Сістэмна-семасіялагічная характарыстыка беларускай лексікі



**Раздзел I**

**Парадыгматычныя адносіны ў лексіцы**

## Раздзел II

### Характарыстыка асобных слоўных апазіцый у межах лексіка-семантычных катэгорый



## Раздзел III

### Класы слоў як з'ява лексічнай парадыгматыкі



# Частка 3

## Сацыялінгвістычная сістэматызацыя сучаснай беларускай лексікі

## Раздзел I

### Стылістычная дыферэнцыяцыя лексікі беларускай літаратурнай мовы

## Раздзел II

### Лексіка беларускай мовы з пункту гледжання сфер яе выкарыстання



## Раздзел III

### Лексіка актыўнага і пасіўнага запасу

Навуковае выданне

# ЛЕКСІКАЛОГІЯ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Загадчык *Л. І. Пятрова*
Рэдактар *А. М. Садоўская*
Мастак *Н. А. Пятрова*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічны рэдактар *Л. А. Карнеева*
Карэктар *З. Я. Губашына*

Здадзена ў набор 21.01.94. Падпісана ў друк 30.05.94. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 20,30. Ум. фарб.-адб. 20,30. Ул.-выд. арк. 26,04. Тыраж 1360 экз. Зак. № 50. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. 220141. Мінск, Жодзінская, 18. ЛВ № 437. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220141. Мінск, Жодзінская, 18.